

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя І. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*



## ВЕРНАСЦЬ ПРЫЗВАННЮ

Лідзія Львоўна Арабей (нар. 27 чэрвеня 1925) належыць да пакалення пісьменнікаў, юнацтва якіх было абпалена вайной. Яе творчае жыццё, аднак, мела шчаслівы пачатак і плённы працяг. У пасляваенныя гады яна ў разбураным, галодным Мінску неспадзявана трапіла ў літаратурнае асяроддзе — ды якое! Спачатку працавала сакратаром Міхася Лынькова, тагачаснага старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, потым у Якуба Коласа, які папрасіў яе навесці парадак у яго архіве. Можа, і не разумела яна па сваёй маладосці, да якога скарбу была дапушчана, але добра ўсведамляла неацэнную значнасць творчасці вялікага пісьменніка, адчувала яго цесную сувязь з народам, радзімай. Якуб Колас жыў не толькі літаратурай, але і праблемамі дзяржавы, клопатамі пра людзей, якім тады, адразу пасля вайны, жылося вельмі цяжка.

Пазней, з дапамогай свайго славутага земляка Кандрата Крапівы, які на той час быў галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», яна становіцца супрацоўніцай рэдакцыі «Вожыка».

На той час у «Вожыку» працавалі Максім Танк, Пімен Панчанка, Максім Лужанін, Янка Брыль. І гэтыя гады, на думку Лідзіі Арабей, былі зорным часам для «Вожыка», хоць і неспрыяльным для сатыры. Зорным часам яны сталі і для пісьменніцы, вызначылі пачатак творчага шляху. Працуючы побач з такімі выдатнымі людзьмі, яна жыла літаратурнымі справамі, добра разумела, што азначае быць беларускім пісьменнікам. З самага дзяцінства ёй былі знаёмыя імёны Янкі Маўра, Змітрака Бядулі, Міхася Лынькова, Якуба Коласа, яна зачытвалася іхнімі творамі і цяпер адчула, што роднае беларускае слова, літаратура сталі яе стыхіяй і нязменнай любоўю. Ім і прысвяціла Лідзія Львоўна ўсё жыццё, свой талент. На гэтым уздыме яна сама спрабуе сваё пяро. На працягу 1946–1952 гадоў на старонках «Вожыка» з’яўляюцца першыя апавяданні, гумарэскі Лідзіі Арабей. І пазней, калі яна заявіла пра сябе як таленавітая пісьменніца, яе творы рэгулярна з’яўляюцца не толькі ў «Вожыку», але і ва ўсім рэспубліканскім друку — часопісах, газетах, выходзяць асобнымі кнігамі, перакладаюцца на рускую, балгарскую, літоўскую, украінскую, чэшскую і іншыя мовы.

Жаданне паглыбіць свае веды прыводзіць Лідзію Арабей спачатку ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, а пасля ў аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук. Уваходжанне ў літаратуразнаўчы даследчыцкі працэс пачынаецца з крытыка-біяграфічнага нарыса «Цётка (Алаіза Пашкевіч, 1956)», які выклікаў шмат станоўчых водгукаў вядомых літаратуразнаўцаў і крытыкаў.

Пасля абароны кандыдацкай дысертацыі «Жыццё і творчасць Цёткі» (1958) Лідзія Арабей адчула, што не ўсё ёю сабрана, даследавана з багатай спадчыны выдатнай паэтэсы, грамадскай дзяячкі-асветніцы. Вобраз Цёткі, яе творчасць, эпоха так захапілі маладую пісьменніцу, што сталі справай яе жыцця. Працягвала, безумоўна, пісаць апавяданні, аповесці, раманы, але не спынялася і даследчыцкая праца над пошукамі новых звестак, матэрыялаў, фактаў пра самаадданую дачку беларускага народа, мужную, таленавітую жанчыну, якая стаяла ля вытокаў беларускага нацыянальнага адраджэння. Няма, відаць, у беларускім літаратуразнаўстве даследчыка больш апантанага творчасцю Цёткі, чым Лідзія Арабей. Ніхто так глыбока, усебакова не паказаў, што азначае дзейнасць, творчасць Цёткі для гісторыі беларускай культуры, літаратуры, нацыянальнага адраджэння, як Лідзія Арабей — наша сучасніца. Яна змагла сцвердзіць, што погляды Цёткі на беларускую справу, становішча з мовай, наогул уся яе дзейнасць і творчасць як найлепш адпавядаюць дню сённяшняму. Слушна гаварыў Алесь Адамовіч, што «жыццё можа падарыць пісьменніку сапраўды яркую і значную знаходку толькі ў тым выпадку, калі ён сам ідзе насустрач фактам, калі ён падыходзіць да жыцця з вялікай думкай». Цікавыя і значныя факты адкрыла Лідзія Арабей у сваіх нарысах, артыкулах, кнігах пра Цётку: «На струнах буры» (1967), «Стану песняй» (1977), «На полымі любві» (2006). І кожнае новае выданне дапаўнялася невядомымі раней звесткамі, матэрыяламі пра Цётку, якія нястомна шукала і знаходзіла пісьменніца, разумеючы, што яна павінна прайсці шляхамі Цёткі ад пачатку да канца. Гэта думка вяла яе ад радзімы Цёткі, якую ўпершыню яна наведала пры садзейнічанні Уладзіславы Францаўны, жонкі Я. Купалы, да зямнога паклону магіле паэтэсы ў Старым Двары і яе помніку ў Шчучыне, адкрытаму да 100-гадовага юбілею. А паміж гэтымі паездкамі прайшлі доўгія гады пошукаў у архівах, сустрэч Лідзіі Арабей з людзьмі — роднымі, блізкімі паэтэсы, з усімі, хто хоць што-небудзь мог успомніць, расказаць пра Алаізу Пашкевіч, славутую Цётку. Пісьменніца не адзін раз абыходзіла яе родныя мясціны і пераконвалася, што «гэтым полем, гэтымі ўзгоркамі некалі хадзіла Цётка, яна бачыла і гэты бор, і гэта неба, любавалася не раз такім барвовым захадам і нават чорнаю цемнатою не зблытала б сцежак у родным краі, які так любіла і па якім так сумавала ў выгнанні…»

А колькі Лідзіі Арабей спатрэбілася часу, намаганняў, сіл, каб аб'ехаць гарады і краіны, ідучы па слядах Цёткі. У яе яркіх жывых апісаннях паўстаюць Вільня, Санкт-Пецярбург, Львоў, Кракаў, Вена, Закапанэ, мы даведваемся пра гісторыю гэтых гарадоў, пра помнікі, музеі, бібліятэкі, якія наведвала Цётка, калі вучылася ў Віленскім вучылішчы, на Пецярбургскіх курсах Лесгафта, у Львоўскім універсітэце, Ягелонскім Кракаўскім універсітэце. Такія апісанні цікавыя не толькі як крыніца самай разнастайнай інфармацыі, але яны даюць магчымасць даведацца, у якіх умовах, асяроддзі фарміраваўся характар паэтэсы, як уплывалі на яе тагачасныя падзеі, прыгажосць гэтых гарадоў, помнікі архітэктуры, карціны мастакоў у музеях, прырода, песні, музыка, тэатр. Шмат новага мы даведваемся з аповедаў Лідзіі Арабей пра людзей, сярод якіх адбывалася станаўленне асобы Цёткі. Прафесар Лесгафт, Эпімах-Шыпіла, Эліза Ажэшка, славіст Іларыён Свянціцкі, які з дапамогай Цёткі напісаў кнігу «Адраджэнне беларускага пісьменства», Купала і Колас, К. Буйло, Ігнат Буйніцкі і шмат іншых славутых сучаснікаў, з якімі была знаёмая, сябравала, працавала Алаіза Пашкевіч.

Раскрываючы падзеі канца XIX — пачатку XX стагоддзя, нарастанне рэвалюцыйных настрояў у грамадстве, Лідзія Арабей паказвае, які агромністы ўплыў яны мелі на паэтычную творчасць Цёткі, абумовіўшы з'яўленне яе зборнікаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская». Яе сваяцкія, цёплыя адносіны з бацькамі, сёстрамі, братамі, мужам Стэпонасам Кайрысам адлюстраваны Лідзіяй Арабей з той мерай тактоўнасці, душэўнай далікатнасці, што ўласціва лепшым творам беларускай прозы пра жыццё славутых беларусаў.

Кнігі Лідзіі Арабей пра Цётку напісаны на полымі аўтарскай любові да сваёй гераіні. Вобраз Цёткі напоўнены глыбокай духоўнай сілай. Яна паўстае не толькі як таленавітая паэтэса, але і як разумная, прыгожая жанчына з высокімі парывамі духу, які мацаваўся самаахвярнай любоўю да радзімы, беларускага слова, да простых людзей, за вольнае справядлівае жыццё якіх яна змагалася да канца. Такой трактоўкай вобраза Алаізы Лідзія Арабей развенчвае хрэстаматыйны стэрэатып, вядомы нам са школьных праграм, дзе Цётка, яе дзейнасць паказваліся адпаведна савецкай ідэалогіі ў аднабакова звужаным арэоле паэтэсы-рэвалюцыянеркі.

Апавяданні, аповесці, раманы Лідзіі Арабей напісаны ў рэчышчы традыцыйнай беларускай літаратуры, якая вылучаецца сваімі высокімі эстэтычнымі адзнакамі.

Жыццё самой пісьменніцы непарыўна звязана з жыццём Бацькаўшчыны, народа. Яна перажыла вайну, асабістую трагедыю, калі ад рук фашыстаў загінуў яе муж Аляксей Аляксеевіч Арабей за сувязь з партызанамі. Дастаткова перачытаць аповесць «Сярод ночы» (1968), каб адчуць, з якой дакладнасцю, веданнем пакут, жахаў акупацыі апісвае

пісьменніца той час, з якім душэўным болем гаворыць пра подзвіг і гібель партызанскага сувязнога, бо на ўласным лёсе зведала ўсё, пра што расказвае чытачу. Нельга не адчуваць тую пражытасць матэрыялу, пакладзенага ў аснову многіх апавяданняў, успамінаў, аповесцяў, якая асабліва прываблівае сваёй шчырай праўдзівасцю, адпаведнасцю ваеннай, сучаснай рэчаіснасці. І дзяцінства яе было нялёгкім. Пазней у эсэ «Урокі маленства» пісьменніца напіша: «Шмат хто з людзей, успамінаючы маленства, называе яго залатым векам свайго жыцця, шчасліваю парою. На вялікі жаль, я пра сваё маленства не магу так сказаць. Мне было два гады, як памёр мой бацька, гадавалася я пры айчыме, які не меў вялікай адказнасці перад сям'ёю, нават перад роднымі сваімі дзецьмі. Маці даводзілася ўсё цягнуць на сваіх плячах — і на жыццё зарабляць, і з дзецьмі ўпраўляцца, а я, як старэйшая з дзяцей, скора зрабілася яе памочніцаю — і гаспадыняю ў хаце, і нянькаю, змалку зазнала ўсю жаночую работу…»

Але ўсе гэтыя нягоды загартавалі волю будучай пісьменніцы, якая пасля балючых страт, перажыванняў не згубіла надзею на лепшую будучыню, сцвердзіла сваё мастакоўскае прызванне, вернасць беларускаму слову, і найперш традыцыйным каштоўнасцям беларускай прозы, яе тэматычнай накіраванасці. Яна піша пра вайну, пра жыццё народа пад нямецкай акупацыяй, пра нашу сучаснасць з яе разнастайнасцю самых вострых маральна-этычных і побытавых праблем. Калі чытаеш яе творы, заўважаеш, як лёгка яны ўспрымаюцца, бо напісаны простай (у лепшым сэнсе) прыгожай беларускай мовай, не абцяжаранай шматступеннымі, груваcткімі асацыяцыямі і рознымі эксперыментамі. Гэта даўняя асаблівасць лепшых мастацкіх твораў беларускіх пісьменнікаў старэйшага пакалення, якія заўсёды сачылі, каб творы захаплялі чытача не толькі сваёй тэматыкай, але і мілагучнасцю роднага слова.

Многія раманы, аповесці Лідзіі Арабей («Сярод ночы», «На другой зіме вайны», «Іскры ў папялішчы» (1970), «Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы» (1980)) раскрылі шмат новага ў жыцці народа падчас акупацыі. На акупаванай тэрыторыі ваявалі не адны толькі партызаны, але і мірнае насельніцтва, дзеці, якім трэба было ратавацца ад рук фашыстаў, расстрэлаў, голаду, разрухі. Асабліва цяжка было ў горадзе, дзе немагчыма было прахарчавацца.У аповесці «На другой зіме вайны» пісьменніца паказвае на прыкладзе лёсу малой дзяўчынкі, падлетка, чаго каштавала здабыць тады хоць што-небудзь, каб не загінуць ад голаду. Яе пакутлівы шлях у вёску — абмяняць такія-сякія рэчы на хлеб — і назад у горад ператвараецца ў цяжкае выпрабаванне, нечалавечыя намаганні. На зваротным шляху з вёскі дзяўчынка, губляючы апошнія сілы, усё ж дабіраецца да Мінска, дзе яе спыняе нямецкі патруль і адбірае торбачку з харчамі — яе апошнюю надзею выжыць. Для хворай, знямоганай дзяўчынкі гэта быў канец жыцця сям'і, дзе было чацвёра меншых бра-

тоў і сясцёр, маці і айчым, канец яе самой. «Яна ўпала тварам у снег і загаласіла. Ёй здавалася, што яна галосіць моцна, крычыць на ўвесь горад, на ўвесь свет. Але гэта быў стогн зняможанай, даведзенай да адчаю істоты. Такога болю, такой крыўды Ніна яшчэ ніколі ў жыцці не адчувала. Не ведала, што яны, такія, ёсць на свеце…»

Рэцэнзію на гэту аповесць Лідзіі Арабей напісаў Іван Навуменка, які юнаком таксама перажыў вайну, пазней выдаў таленавітыя творы ваеннай тэматыкі. Ён падкрэсліў мастацкую вартасць і навізну аповесці і адзначыў, што яго ўвагу на гэту аповесць звярнуў Іван Мележ. «Прачытай, — параіў мне, — Лідзія Арабей, як жанчына, якая сама перажыла тое, аб чым піша, на многае глядзіць па-свойму, інакш, чым мы, мужчыны…» І далей І. Навуменка пісаў: «Дзякуючы дасканаламу веданню акупацыйнага побыту не толькі Мінска, а і невялікіх, размешчаных у заходняй частцы Беларусі мястэчак, гарадкоў, такіх як Ліда, Маладзечна, як вымышленыя Бярозавічы (аповесць “Сярод ночы”), Ярэмнічы (раман “Сузор’е Вялікай Мядзведзіцы”), пройдзеным у вайну цяжкім, трагічным сцяжынам, душэўнаму вопыту, які нарадзіўся на гэтых крывавых сцяжынах, займела Лідзія Арабей у беларускай прозе сваю ўласную, адметную дзялянку. Ёй ёсць што расказаць пра людзей, якія рызыкавалі ўсім, нават уласным жыццём блізкіх і родных, каб здзейсніць не вельмі гучную, на першы погляд, справу: слухаць савецкае радыё, звязацца з партызанамі… З непадробным мастацкім майстэрствам заканчвае пісьменніца сваю выпакутаваную аповесць, бясспрэчна заснаваную на асабістым вопыце, на ўсім тым, што проста немагчыма выдумаць. У расказанай сумнай, драматычнай, нават трагічнай гісторыі ёсць свая мужнасць, героіка…» Пісьменніца вынасіла ў душы, перажыла ўласную праўду аб вайне і, безумоўна, не магла не напісаць пра гэта.

Высокую ацэнку творам Лідзіі Арабей даў Іван Мележ: «Свае слова пра вайну сказала сваімі аповесцямі, раманам “Іскры ў папялішчы” Лідзія Арабей. Адметнай якасцю аповесцяў і рамана з’яўляецца ўменне аўтара паказаць вайну як паўсядзённы быт людзей ва ўмовах акупацыі з яе “звычайнымі” страшнымі ў сваёй “звычайнасці” праблемамі. У творах Лідзіі Арабей многа жывых падрабязнасцяў, якія гавораць пра ўражлівасць і назіральнасць пісьменніцы і якія надаюць яе творам якасць хвалюючага, вельмі праўдзівага чалавечага сведчання пра жыццё людзей у вайну. Яе творы папоўнілі мастацкі летапіс Айчыннай вайны, які ствараюць беларускія пісьменнікі…» (Іван Мележ. Збор твораў: у 10 т. Т. 8, с. 433. Мінск, 1983).

Важна адзначыць, што Лідзія Арабей адна з першых пачала пісаць пра жыццё беларусаў пад акупацыяй, на ўласным вопыце выяўляць непрадузятую праўду пра тыя цяжкія часы, калі людзі вымушаны былі выжываць «сярод ночы», якая працягвалася чатыры гады. І не

толькі выжываць, але і весці непрымірымую барацьбу з акупантамі ў партызанах і ў падполлі. Яе творы ваеннай тэматыкі не страцілі свайго значэння і цікавасці для сучаснага чытача. Галоўнае, яны пазбаўлены ідэалагічных установак савецкага часу, якія вызначалі, што можна пісаць пра вайну, а што нельга. Ёй пісалася так, як жылося ў тыя гады, без аглядкі на «руководящую роль партии» і патрабаванні метаду сацрэалізму ў савецкай літаратуры.

Водгулле перажытага ў вайну адчуваецца ў многіх творах Лідзіі Арабей, прысвечаных сучаснасці, у аснове якіх маральна-этычная, духоўная праблематыка, жыццё, побыт людзей у няпростых умовах нашага зменлівага часу.

Пачынаючы з 1960-х гг. і да гэтага часу выходзяць кнігі Лідзіі Арабей самай рознай тэматыкі: «Мера часу» (1962), «Экзамен» (1964), «Мне трэба ехаць» (1974), «Паласа дажджу» (1984), «Пошукі кахання» (1987), двухтомнік выбраных твораў (1998), «Белае поле» (2008), «Горкія ягады» (2011). Гэта доказы творчага плёну, яе цікавасці да жыцця сваіх сучаснікаў. Вядома, кожны сапраўдны пісьменнік пачынае сваю дарогу ў літаратуру, спадзеючыся не толькі на Богам дадзены талент, але і на нястомную працу над кожнай кнігай, яе бясконцым удасканаленнем. А ў Лідзіі Арабей яшчэ былі паўсядзённыя рэдактарскія абавязкі, калі яна працавала ў выдавецтве «Беларусь», часопісе «Полымя» (з 1974 г. на творчай працы). Лёс склаўся так, што яна на працягу многіх гадоў знаходзілася ў самым цэнтры літаратурнага жыцця, штодня сустракалася, сябравала з многімі вядомымі, таленавітымі пісьменнікамі, рэдагавала іх кнігі. Калі пачытаеш яе «Запіскі рэдактара», то, як гаворыцца, з першых рук даведваешся, як праходзілі праз ідэалагічна-цэнзурнае сіта кнігі Я. Брыля, І. Мележа, В. Быкава і іншых аўтараў, колькі было рэцэнзентаў-перастрахоўшчыкаў, чыноўнікаў ад літаратуры, якія, баючыся за сваю пасаду, не прапускалі ў друк выдатныя творы, што сталі потым класікай, вядомай усяму свету. Лідзія Арабей заўсёды адстойвала сваю пазіцыю, якая грунтавалася на глыбокім разуменні значнасці і вартасці мастацкага твора, былі то раманы Я. Брыля, І. Мележа ці аповесці В. Быкава. Іх пісьменніцкім майстэрствам яна захаплялася, як магла садзейнічала выданню іхніх твораў, на абмеркаванні якіх часта выступалі А. Асіпенка, П. Панчанка, І. Навуменка, М. Танк, сваім аўтарытэтным словам выказваючы ім падтрымку. І да сваіх кніг пісьменніца ставілася з нязменнай патрабавальнасцю, не раз перапрацоўвала, перавыдавала.

Творам Лідзіі Арабей уласцівыя рэалістычная манера пісьма, нязмушанасць у выкладанні матэрыялу. Яна так умела раскрыць вобраз героя, падкрэсліць яго духоўную аснову, выявіць залежнасць ад абставін, узаемаадносін з людзьмі, што міжвольна прымушала чы-

тача аналізаваць, прымерваць на сябе, задумвацца, а што б ён рабіў у падобных сітуацыях? Гэта асабліва прыкметна ў аповесцях «Халодны май», «Горкія ягады», многіх апавяданнях.

Галоўная гераіня аповесці «Халодны май» Ніна Давыдоўская стала сіратою пры жывых бацьках, якія былі рэпрэсіраваны. Ніну прытуліла цётка, адзіны блізкі ёй чалавек, у якой падрастала свая дачка. Ніне ўдалося, перажыўшы цяжкае дзяцінства, паступіць ва ўніверсітэт, адначасова ўладкавацца на працу, бо дапамогі чакаць не даводзілася. І тут, у студэнцкім асяроддзі, адтала яе душа, сцішыўся боль, напаткала першае дзявочае каханне. Аднак на трэцім курсе спакойнае жыццё перапынілася. Яе выклікалі ў камітэт бяспекі і прапанавалі «супрацоўнічаць», ці інакш — даносіць на знаёмых, блізкіх людзей, выкладчыкаў, студэнтаў. Гэта выклікала ў яе агіду, рашучы пратэст, але яна была бяссільнай перад бяздушнай, антычалавечай сістэмай, заснаванай на рэпрэсіях, застрашванні людзей. Так і Ніне «органы» не пакінулі выбару — «не будзеш з намі супрацоўнічаць — вылеціш з універсітэта». Ёй нагадалі, што яна дачка «ворагаў народу» і таксама ненадзейная. У жаху Ніна вымушана была падпісаць нейкія паперкі. Ёй далі першае заданне — сачыць за хлопцам, якога яна кахае, даведацца пра ягоных бацькоў, іх настроі, прыслухоўвацца да размоў студэнтаў і «калі што» дакладваць. Ніна пагадзілася, але нічога гэтага не рабіла, не магла здрадзіць свайму сумленню, сваім бацькам і сябрам.

Падчас летніх канікул Ніна працавала ў піянерскім лагеры, куды да яе прыехаў Іван, якога яна кахала. Ён прапанаваў выйсці за яго замуж. Ніна з радасцю згадзілася і па сваёй даверлівасці ў той жа вечар расказала Івану, што ім і яго сям'ёй цікавяцца органы, а ёй далі заданне за ім сачыць, але яна нічога не дакладвала гэтым органам.

Іван паехаў і больш да Ніны не вярнуўся. Дзяўчына страшэнна перажывала, думала пра самагубства. І калі яе зноў выклікалі ў камітэт бяспекі, яна смела адмовілася ад іх пагрозлівых прапаноў: ёй не было чаго губляць. Яе зацягнулі ў нейкі арыштанцкі пакой, замкнулі, і Ніна, гатовая да расправы, горка плакала над сваім загубленым жыццём. Але яе ўсё ж адпусцілі, і ёй нічога не заставалася, як пакінуць гэты нялюбы горад, універсітэт і ехаць у свет шукаць маці ў невядомым ёй Томску.

Такія гісторыі былі не адзінкавымі ў тыя часы. Часцей органы не пакідалі сваіх ахвяр, не адпускалі так лёгка, як здарылася з гераіняй «Халоднага мая», даводзілі іх сваімі настойлівымі пагрозамі да самагубства. Лідзія Арабей не пабаялася звярнуцца да тэмы, на якую ў той час было накладзена «табу». Лічылася, што пасля расстрэльных сталінскіх рэпрэсій у нас няма і не можа быць ніякага насілля над людзьмі, што няўхільна ахоўваюцца правы чалавека, яго гонар і годнасць. Калі ў 30-я гады адзін з беларускіх пісьменнікаў сцвярджаў:

Ходзім мы пад месяцам высокім
І яшчэ пад ГПУ,

то ў сённяшні час «недремлющее око» органаў, сутнасць якіх не памянялася з часоў сталіншчыны, не пакідае справу пошукаў «врагов народа», вярбуе даносчыкаў, рознымі спосабамі нейтралізуе апазіцыянераў, «инакомыслящих». Вось так бесцырымонна яны ўрываюцца ў лёсы людзей, кідаюць у засценкі, прымушаюць да здрадніцтва, калечаць душы, застрашваюць, пагражаюць звальненнем, і чалавек ва ўласнай дзяржаве застаецца без сродкаў для існавання. Здавалася, звычайная гісторыя адбылася ў жыцці гераіні аповесці «Халодны май». Але за гэтай звычайнасцю, праз лёс аднаго чалавека паўстаюць, прасочваюцца агульназначныя праблемы — чалавек і ўлада, чалавек і абставіны, залежныя або незалежныя ад яго паводзін, узаемаадносін паміж людзьмі.

У аповесці «Горкія ягады» раскрываюцца больш лакальныя праблемы побытавага характару. Ці можа родная маці адрачыся ад сына дзеля мужа, захавання сям'і, дзе хлопчык аказаўся непатрэбным айчыму, які жорстка патрабаваў ад жонкі «ці я, ці ён»? І маці зрабіла свой выбар — адвезла сына да старых бацькоў у вёску, але ці будзе спакой у сям'і? Чытаеш такія, здавалася б, на першы погляд, простыя гісторыі і адчуваеш, што за імі жыццё людзей, залежнае ад іх унутранай, духоўнай напоўненасці. Амаль у кожнай сям'і, у кожнага чалавека ёсць свае праблемы, і надзвычай важна, што пісьменніца іх заўважае, па-майстэрску абагульняе і тым самым дае інфармацыю для роздуму, прымушае чытача самому зрабіць высновы, успрыняць або асудзіць паводзіны таго ці іншага героя.

Ёсць у Лідзіі Арабей цыкл кароткіх апавяданняў «Бацькі і дзеці» з падзагалоўкам «Маленькія трагедыі», якія заснаваны на сапраўдных гісторыях. У іх ідзе размова пра рэпрэсіі, пра разбурэнне адвечных маральных устояў, пра варожасць паміж бацькамі і дзецьмі. Не ўсе дзеці маглі зразумець, вынесці цяжар, калі бацькі аб'яўляліся «ворагамі народа», а пануючая сістэма прымушала іх адракацца ад бацькі, не прызнаваць роднага чалавека нават пасля рэабілітацыі («Страх»). А бывала яшчэ горш — бацькоў арыштоўвалі, а дзяцей забіралі ў казённыя прытулкі, давалі ім новыя прозвішчы, а бацька ці маці, хто перажыў дзесяцігоддзі ГУЛАГу і не быў расстраляны, назаўсёды гублялі дзяцей, яны гінулі як у бездані («Бездань»). Апавяданні «У Ялце», «Валя-Рахіля», «Матка», «Свякруха», «Дачка», «Памінкі» і многія іншыя даюць магчымасць уявіць, дзе і як знаходзіла пісьменніца сваіх герояў. Яна не карысталася аўтарскім вымыслам, не мадэлявала сюжэтаў, а проста брала з жыцця, занатоўвала, абагульняла пачутае і ўбачанае, бо вядома, што жыццё людзей нашмат багацейшае, чым любы аўтарскі вымысел. Такія жыццёвыя гісторыі выклікаюць сапраўдную зацікаўленасць

чытачоў, бо гэта пра іх праблемы, узаемаадносіны гаворыць пісьменніца. Нездарма на адной сустрэчы з ёю чытачы ўганаравалі Лідзію Арабей на сучасны манер тытулам «Каралева беларускай прозы», бо яе апавяданні-былі, аповесці блізкія і зразумелыя ім, узбагачаюць думкі, пачуцці чытача, а стыль мяккі, пазбаўлены нуднай апісальнасці і ўсялякага маралізатарства.

Нязменнай цікавасцю, папулярнасцю карыстаецца цыкл абразкоў Лідзіі Арабей «Пошукі ісціны» — філасофскі роздум, назіранні пісьменніцы за з'явамі, вострымі праблемамі сённяшняга жыцця. Напісаныя па гарачых слядах падзей, яны ўспрымаюцца як афарызмы, якія хочацца запомніць. У беларускай літаратуры яшчэ Я. Брыль пісаў у гэтым жанры. Яго шматлікія мініяцюры, як і абразкі Лідзіі Арабей, асветленыя добрай усмешкай, часам іроніяй, сапраўды зіхацяць як жменя сонечных промняў (кніга Я. Брыля «Жменя сонечных промняў»).

Няўрымслівая натура Лідзіі Арабей, відаць, з часоў паездак па мясцінах Цёткі патрабавала новых уражанняў, абумовіла яе цягу да вандровак па свеце. Дзе толькі яна не пабывала! Кітай, Японія, Егіпет, Турцыя, Грэцыя, ЗША, Канада, амаль усе краіны Заходняй Еўропы: Францыя, Італія, Германія, Балгарыя, Бельгія, Польшча — і як вынік «малюнкі з падарожжаў» рассыпаны па многіх апавяданнях, з'явіліся цэлыя нарысы — «У краіне пірамід», «У краіне транзістараў і кімано», «Вакол Еўропы», «Сустрэчы за акіянам», «Стужкаю Ніла», з апісаннямі незвычайнай прыгажосці розных экзатычных мясцін нашай вялікай і такой малой планеты. «Якая ж ты маленькая, наша планета! Здаецца, дзе тая Афрыка, дзе той Егіпет, а аказваецца, менш чым чатыры гадзіны лёту з Масквы — і мы ўжо, па небе пераплыўшы Міжземнае мора, апускаемся на зямлю іншага кантынента… Я пабачыла нямала краін, і што кожны раз уражвае — пры вялікай розніцы краін і кантынентаў, умоў жыцця народнага, разам з тым і вялікае падабенства. Бо ўсюды — людзі. З аднолькавымі турботамі, клопатамі, вялікімі і малымі, з жаданнем лепей уладкавацца, знайсці сваё месца пад сонцам. Мяне часам здзіўляе: гавораць людзі між сабою на незнаёмай мне мове, але інтанацыі, эмоцыі ў іх такія ж, як і ў нас, — радасць, гора, смех, адчай… Калі мова быццам раз'ядноўвае, то ўсе чалавечыя пачуцці аб'ядноўваюць…» Людзі — вось што найбольш цікавіла пісьменніцу і дома і ў розных краінах, бо ў іх яна бачыла патэнцыяльных герояў сваіх твораў. А творы яе ў сюжэтным, тэматычным дыяпазоне самыя разнастайныя: літаратуразнаўчыя даследаванні, апавяданні, аповесці, раманы, нарысы, эсэ, падарожныя нататкі, кнігі для дзяцей «Калібры» (1960), «Сіні бор» (1972), «Ісці ў разведку. Апавяданні. Казкі» (1989), успаміны. Ва ўспамінах Лідзіяй Арабей створаны сапраўдныя літаратурныя партрэты Кандрата Крапівы, Янкі Брыля, Івана Мележа, Івана

Навуменкі, асобнымі штрыхамі акрэслены характэрныя рысы многіх іншых пісьменнікаў, з якімі ёй даводзілася часта сустракацца.

Творы Лідзіі Арабей вытрымалі выпрабаванне часам, нягледзячы на тое, што большасць з іх была напісана ў мінулым стагоддзі. Многія яе апавяданні і сёння гучаць па беларускім радыё ў перадачы «Лепшыя творы сусветнай літаратуры», перавыдаюцца на рускай мове ў Маскве. І самае галоўнае — яны набылі ўстойлівую папулярнасць сярод нашых чытачоў, і гэта пры тым, што пачала страчвацца цікавасць да кнігі, роднай мовы, да чытання наогул.

Лідзія Львоўна Арабей адносіцца да старэйшага пакалення беларускіх пісьменнікаў і з вышыні перажытага можа з поўным правам сказаць: «Нашаму пакаленню давялося перажыць нямала. Мы балюча перажываем і тое, што засталося ў нас за плячыма, і тое, што адбываецца сёння, — незразумелае, пакутнае, балючае. Наша пакаленне адыходзіць, пакідаючы нашчадкам не вельмі прывабную спадчыну. Ці вінаватыя мы ў гэтым? Мусібыць, вінаватыя, бо мала думалі самі і верылі таму, у чым нас пераконвалі. Спадзяванне ўжо на будучыню, на тых, што будуць жыць пасля нас…»

*Лідзія САВІК*



# НА ДРУГОЙ ЗІМЕ ВАЙНЫ

## 1

Горад канчаўся нізкімі драўлянымі дамамі, адгароджанымі ад вуліцы доўгім дашчаным плотам. У адным двары вісела бялізна — зледзянелыя на марозе прасціралы, наўлечкі, сіняя мужчынская сарочка.

Ля самай апошняй хаты, пад плотам, сядзеў кудлаты чорны сабака, ён, здаецца, не зважаў ні на што і ні на кога, але Ніна, праходзячы каля яго, усё ж насцярожылася. Яна баялася сабак. Часам каторы з іх выглядае і зусім рахманым, ды раптам як сарвецца, як пачне брахаць, пад ногі кідацца — страх. Але чорны кудлаты сабака не крануў Ніны, і яна пайшла далей, ужо не вуліцаю, а сцежкаю, што была пратаптана з самага краю шашы.

І адразу засталася адна. Раней і тая бялізна, і той сабака паказвалі, што блізка людзі, а цяпер вакол пакрытае снегам поле, голыя прысады ўсцяж шашы.

Ніна была ў кароткім жакеце з чорным, пад коцік, каўняром, у хустцы, на нагах туфлі з раменьчыкамі на пад'ёме — зусім не для зімы. За плячыма — мяшок. У рагі мяшка маці паклала дзве бульбіны, завязала іх вяроўкаю і тою ж вяроўкаю зашмаргнула верх торбы. У лямкі з вяровак Ніна прасунула рукі, і цяпер мяшок вісеў за плячыма, як рукзак.

Ноша яе была не цяжкая — у мяшку ляжаў з дзясятак карабкоў запалак, некалькі пакецікаў з сахарынам, з фарбаю, маміна шаўковая блузка, вышытая крыжыкамі, капа. Ніна ўспомніла, як шкода было маці класці ў мяшок блузку. Гэта была яе апошняя прыгожая рэч з таго, што шылася да вайны. Шкадавала маці і капу. Капа ляжала нібыта на пасаг Ніне, калі замуж будзе выходзіць. Смешна. Калі ён будзе, той замуж. Ды ці і будзе. Яна наогул можа не выходзіць замуж. Трэба ёй вельмі. Хоць шкада,

канечне, капы. І мамінай блузкі шкада. Ды нічога не зробіш. Ніна ведае, што такое голад. Што такое, калі ў хаце зусім пуста. Ні скарынкі хлеба, ні бульбіны, ні жмені мукі. Калі ні пра што не думаеш, а толькі каб з'есці што-небудзь. А сям'я — сем чалавек. Маці з бацькам і пяцёра дзяцей, калі лічыць і Ніну дзіцем. Яна-то сябе ўжо не лічыць за дзіця. Ёй скора сямнаццаць. А тыя чацвёра — дзеці. Старэйшаму трынаццаць, а малодшаму няма трох. І есці ўсім толькі давай. Што ні прынясе мама — як у прорву. З хаты памянялі на яду ўсё, што можна было памяняць. Цяпер трэба рабіць нейкі абарот. Палову з таго, што выменяе Ніна, трэба будзе пусціць на гэты абарот. На выручанае зноў купіць запалак, сахарыну, фарбы і зноў ісці ў вёску.

Ніна прыкідвае, колькі яна можа намяняць за тое, што ў торбе. Канечне, лепш за ўсё было б узяць за гэта бульбы, мукі, ды колькі ты прынясеш той мукі ці бульбы. Так што лепш за ўсё тлушч. Каб сала. А за сала ў горадзе купіш усё. І мукі, і бульбы.

Проста дзіўна, што ёсць людзі, якія могуць купляць цяпер сала. Не ўсе галадаюць. Тыя ж Касцевічы. Нацягалі ў першыя дні вайны так, што ім на дзесяць гадоў хопіць. Усёй сям'ёй валаклі з магазінаў — скрынкамі цукеркі, мяхамі муку.

У Касцевічаў цяпер кватэра — як склад пры краме. А яны і кавалка мыла не прынеслі. Лаялі Касцевічаў. Мама ўсё гаварыла: «Што яны робяць, што робяць! Гэта ж дні праз тры вернуцца нашы — яны ім пакажуць! Ды і як можна!..»

Прайшло тры дні, чатыры, а нашы не вярталіся. Касцевічы прыцягнулі цэлы мех каракулевых каўняроў. Пасля вёдрамі насілі патаку з завода. Касцевічава Люська, па гадах такая ж, як Ніна, толькі большая, дужэйшая, расказвала, што патака на заводзе была ў вялізным чане. Што людзі чэрпалі патаку з чана і нехта сарваўся, упаў у гэты чан, утапіўся…

Ці праўду казала, ці выдумляла…

— Вось прыйдуць нашы, яны пакажуць патаку… і каўнерыкі каракулевыя прыпомняць, — не вытрывала Ніна.

Люська зарагатала.

— Гы-гы-гы. Дурная. Нашы дзякуй скажуць. А што, немцам пакідаць?

І Ніна змоўкла. Як гэта яна сама так не падумала? Канечне, лепш, каб свае людзі спажылі, чым немцы… А яны, дурныя…

Ніна пабегла да маці.

— Вось ты сама сядзіш і нас не пускаеш, а людзі правільна робяць. Лепш няхай свае парасцягаюць, чым немцам застанецца!

Маці таксама пра гэта, відаць, не падумала.

— А хто табе гэтак сказаў? — няпэўна спыталася яна.

— Люська Касцевічавых. Вунь, вядро патакі прынесла!

— Касцевічавы! — узлавалася маці. — Яны табе што хочаш прыдумаюць, каб апраўдацца!..

Праз тры дні… Праз месяц… Праз два… Усё чакалі, калі вернуцца нашы. А вось ужо другая зіма. Другая зіма вайны. І калі ж, калі яны вернуцца!

Шаша то ўздымалася ўгору, то збягала ўніз. Доўгая, бясконцая. Як кінуць вокам, цягнулася яе блішчастая, укатаная машынамі бель. З двух бакоў шашы былі намецены гурбы снегу. А за гурбамі — бясконцае белае поле, перарэзанае дарогамі і сцежкамі, якія вядуць невядома куды. Цёмны лес на гарызонце.

Ніне здавалася, што яна прайшла ўжо кіламетраў з дзесяць, і як жа здзівілася яна, калі на слупе, што стаяў пры дарозе, убачыла лічбу чатыры.

«Няўжо ўсяго чатыры? — не паверыла сваім вачам Ніна. — Я ж ужо доўга іду… Можа, на слупе не так напісана?»

Па шашы ў адзін і ў другі бок праязджалі машыны. Ніна ведала, што раней ці пазней ёй прыйдзецца галасаваць, прасіцца, каб падвезлі. Ды яна ўсё адцягвала. У машынах ездзяць немцы. Значыцца, іх трэба прасіць. Яна-то не задарма хоча ехаць. У сподняй кішэні яе жакета ляжаць маркі — на дарогу. Ды і немцы, калі падвозяць каго на шашы, то не таму, што добранькія, шкадуюць баб. Хочуць зарабіць якую марку.

Але ўсё роўна — так не хочацца прасіць іх ласкі! Яна, Ніна, тут гаспадыня. Яна ідзе ў вёску, дзе нарадзілася. І мама нарадзілася ў той вёсцы. А немцы? Хто іх сюды зваў? Наляцелі, як звяры, усё паламалі, пакрышылі, разбілі горад. Вешаюць людзей. Каб хто сказаў Ніне — не паверыла б. А то сама бачыла. На Суражскім базары павесілі пяцёх мужчын. І дошчачкі на грудзі начапілі: «Так будзе з кожным, хто адважыцца выступіць супроць нямецкага парадку». А колькі пастралялі палонных! Гналі ад Выстаўкі да Таварнай станцыі вялікую калону. І праз кожныя дзесяць крокаў — забіты. Не, яна не можа глядзець на немцаў як на людзей, хоць у кожнага з іх і вочы, і рот, і рукі, і ногі. Яна ў кожнага немца бачыць не твар, не вочы, а кабуру з пісталетам ці аўтамат. Здаецца, ён і глядзіць, і гаворыць сваім аўтаматам ці пісталетам. А вочы — так сабе, шкляныя лупаткі на твары. А рот — каб крычаць гэта сваё: «Раўз! Шнэль! Вэк!»

Яна прайшла яшчэ кіламетр. Цяпер на слупе была лічба пяць. Значыцца, на слупках напісана правільна. Нікуды не дзенешся. Трэба галасаваць.

Праехала крытая брызентам машына, уся размаляваная плямамі — для маскіроўкі. Але Ніна не прагаласавала. Яшчэ

ўсё мацавалася. Ішла наперад, заклаўшы рукі ў рукавы жакета, наставіўшы каўнер.

Дзень быў ясны. З-за белых, як клубы пары, аблокаў часта паказвалася сонца, і тады снег блішчаў, рэзаў вочы. І шаша блішчала, як слюдзяная. Здавалася, што машыны не едуць па ёй, а коцяцца, як санкі з гары.

Калі Ніна мінула слуп, на якім было напісана «шэсць», то пачала ўжо азірацца, выглядаючы, ці не даганяе машына. «Зрэшты, — апраўдвалася яна невядома перад кім, — пехатою я ўсё роўна не дайду. Ды калі скора не сяду, то сёння ў Балацянку і не пападу. Прыйдзецца недзе начаваць. Так што трэба ехаць».

Цяпер, калі яна ўжо сабралася галасаваць, усе машыны нібы пазнікалі. Колькі ні азіралася яна, машыны не было. Яна зноў ішла, адчуваючы, як стынуць на марозе шчокі, як мерзнуць калені.

Нарэшце пачула за сабою рокат матора. Азірнулася ўжо з надзеяй. Яе даганяла старая палутарка. Яшчэ здалёк было чуваць, як бразгала яна. Усё ў ёй, мусіць, было не давінчана, не падагнана. Ды Ніна і не чакала сабе «эмкі». Ёй добра была абы-якая машына.

Яна падняла руку. Палутарка збочыла, затармазіла. Ніна пабегла да яе.

Дзверцы машыны адчыніліся, і адтуль высунулася галава немца ў пілотцы, павязанай зверху шэрым шалікам.

— А-а, паненка, — усміхнуўся Ніне немец. Ён нешта загаварыў да яе, усміхаючыся і паказваючы то на дарогу, то на яе ногі ў лёгкіх туфлях. Ніна здагадалася, што немец ёй спачувае, што, маўляў, кепскі ў яе абутак для такой дарогі.

— Можа, падвезяце? — не адказваючы на яго ўсмешку, спыталася Ніна.

Немец яшчэ нешта балбатаў, усміхаўся, але ўбачыў, што Ніна не разумее, і спытаў ламана, не то па-польску, не то па-руску:

— Доконд? Далеко?

— Да Валяр’янаў, — адказала Ніна.

— Сёндай… Бістро, — паказаў немец пальцам з брудным пазногцем на кузаў.

— Бістро, бістро, — падганяў ён, хоць Ніна і так жыва ўхапілася за борт кузава і нагою ўжо стаяла на коле машыны.

І як толькі пераступіла яна борт кузава, машына зрушыла з месца. Ніна аж упала на дно кузава. А палутарка, валюхаючыся, ужо выязджала на сярэдзіну шашы, пасля памчала па ёй, зноў моцна бразгаючы.

Ніна падпаўзла да кабіны, затулілася за яе ад ветру, які цяпер тут, у кузаве, проста рваў над ёю.

Палутарка страшэнна бразгацела. Ніна бачыла, што ў ёй стукаюць паадрываныя, пашчапаныя дошкі кузава. Што крукі, якімі зашчэплены барты, расхістаныя, іржавыя, і барты ляскаюць адзін аб другі. Нешта грукала і пад кузавам, стукала жалезам аб жалеза.

І ўсё ж гэта машына была як добры стары друг, з якім Ніна спаткалася ў дарозе.

«Наша… Савецкая», — радавалася яна.

І раптам балюча зрабілася Ніне, і ахапіла моцная злосць на некага. На каго — сама не ведала, але моцная злосць і крыўда.

«Чаму ж так было? — злавалася Ніна. — Адны вось такія палутаркі ў нас былі. Ды і тых колькі. А немцы прыйшлі — якія ў іх машыны! Вялізныя, як дамы. Ды ўсе акуратныя, накрытыя брызентам».

І ўсё ж Ніна была рада, што едзе не ў шыкоўнай нямецкай машыне, а ў гэтай, у сваёй. Калі на хвілінку заплюшчыць вочы і забыцца на ўсё на свеце, то можна падумаць, быццам усё навокал так, як было да вайны, што машынай кіруе не немец у пілотцы, перавязанай шалікам, а шафёр дзядзька Коля, які жыве ў іхнім доме.

Да вайны дзядзька Коля ездзіў на палутарцы. Часта прыязджаў на сваёй машыне пад іх дом. І тады дзеці абступалі яго, прасілі, каб пакатаў. І дзядзька Коля катаў іх. Панасадзіць поўны кузаў дзятвы і едзе. Тыя пішчаць, радуюцца.

Машына з немцам у кабіне неслася па шашы, аж курэў снег. Ніна толькі паспявала лічыць слупы з напісанымі на іх кіламетрамі. Вось і пятнаццаць, і дваццаць, і дваццаць пяць.

Адно было кепска — яна пачала мерзнуць. З кожнай хвілінай адчувала, як вецер усё больш і больш высвістваў з-пад яе жакета цяпло. Яна курчылася, хавала пад сябе ногі, затулялася цяплей у хустку, але холад рабіўся ўсё больш пякучы. Ды тут ужо нічога не зробіш. Трэба цярпець. І Ніна цярпела.

Яна сядзела ў кузаве, адчуваючы толькі адно — холад, калі пачула гул. Спачатку Ніна падумала, што гэта насустрач ідзе калона машын, пасля разабралася, што гул ідзе зверху. Яна зірнула ўгору.

Па ясным зімовым небе з захаду на ўсход ляцела вялізная армада самалётаў. Сонца адбівалася на іх блішчастых крылах, на баках, ясна асвятляючы чорныя крыжы.

Ніна сцялася. Апошні час яна міжволі, як толькі чула рокат самалёта, як толькі бачыла распяты на яго чэраве крыж, кала-

цілася ад страху. Вось і цяпер. Хоць яна і разумела, што тут самалёты наўрад ці будуць скідаць бомбы, што яны вязуць свой груз некуды далей, усё роўна аж зайшлася ад страху. Пакуль самалёты пераляталі шашу, пакуль гулі проста над яе галавою, яна сядзела, моцна заплюшчыўшы вочы, чакаючы ўжо знаёмага свісту і выбуху.

Гул самалётаў пачаў меншаць. Яны аддаляліся. І Ніна расплюшчыла вочы.

Самалёты ляцелі на ўсход. Можа, на Маскву… Колькі іх… Не злічыць. Вельмі многа… Столькі сама наляцела іх тады на Мінск, раніцою дваццаць чацвёртага…

Што яна тады рабіла?.. Ага, збіралася на работу. Каб зарабіць на зімовае паліто, на туфлі, яна вырашыла ў час летніх канікулаў папрацаваць. Уладзілася падчытчыцаю ў друкарню.

Дваццаць трэцяга яна яшчэ хадзіла на работу. Ішла амаль праз увесь горад пешкі, бо трамваі больш стаялі, чым хадзілі. Праз кожныя дзесяць хвілін аб'яўлялася паветраная трывога. Увесь транспарт спыняўся, людзей заганялі ў пад'езды дамоў. Людзі злаваліся, не хацелі ісці, бо ніякіх самалётаў не было, а кожны некуды спяшаўся. Больш нецярплівыя ўцякалі, ды дзяжурныя ў процівагазах зноў заганялі іх у пад'езды.

Ніна неяк дайшла на работу. І нават не спазнілася. Хоць што там ужо была за работа. Адна карэктарка, Фаіна Абрамаўна, усё млела. Баялася за сына, які з дзіцячым садзікам быў на дачы. Ніна злавалася на Фаіну Абрамаўну. Чаго млець? Што з яе Марыкам зробіцца? Ну вайна, ну дык што… Трэба ўсім быць на сваіх месцах.

Таму і дваццаць чацвёртага яна сабралася ісці на работу. Маці не пускала. Ніна спрачалася з мамай, гаварыла, што яна не мае права рабіць прагул.

У гэты час і з'явіліся самалёты. Яны вялізнаю хмараю паўзлі з захаду — цяжкія, непаваротлівыя. Вельмі многа. А людзі не ведалі, чаго, куды яны ляцяць. Павысыпалі ўсе на вуліцы, пазадзіралі галовы.

Самалёты мінулі іх пасёлак, паляцелі на горад.

І раптам засвістала паветра, лопнула, разарвалася зямля пад нагамі. Раз. Яшчэ раз. Пасля зноў і зноў.

Людзі з крыкам кінуліся бегчы. І Ніна пабегла, за дамы, да кар'ера, які быў тут, недалёка.

Ніна ўскочыла ў кар'ер, прыпала да зямлі. А зямля дрыжала, разрывалася. У небе нешта свістала, выла. І сыпаўся, сыпаўся пясок з краю кар'ера.

Колькі гэта цягнулася — невядома. Ніне здавалася, што вельмі доўга. Яна ўжо не верыла, што жывая, што здолее ўстаць.

Пазней яна навучылася разбірацца, калі трэба хавацца ад самалётаў, а калі не. Цяпер яна разумела, што ў той дзень яе не магло забіць ці параніць. Бамбілі цэнтр горада, а яны жылі на ўскраіне. Але тады было вельмі страшна.

Калі пасля бамбёжкі яна, белая, амаль непрытомная, прыйшла дахаты, маці, абхапіўшы галаву, стаяла каля акна, з якога быў відаць горад. Над горадам, каля Заходняга моста, над Маскоўскай вуліцай клубіў чорны дым і жоўты пыл. Пасля з дыму вырвалася, шуганула полымя. Яно то хавалася ў чорных клубах дыму, то вырывалася з яго чырвоным языком. Дым усё гусцеў, прасціраўся ўсё далей.

— Мамачка-а! — кінулася Ніна да маці.

Маці абхапіла Ніну, прытуліла да сябе. Прыкрываючы рот рукою, загаласіла.

Яны абедзве плакалі, абняўшыся, а за акном дымеў, гарэў горад і полымя ўсё большала і большала.

Праз якую гадзіну самалёты прыляцелі зноў. Пасля яшчэ. І зноў. Так было некалькі дзён. Як толькі ўсходзіла сонца, на захадзе з'яўляліся самалёты. Яны ляцелі на горад і кідалі, кідалі бомбы. І некалькі дзён над Мінскам стаяў чорны дым і гарэлі, гарэлі дамы.

І як горача, душна было ў тыя дні. Стаяла страшэнная спёка. Проста не верыцца, што некалі Ніне было горача. Так жа холадна цяпер. Да болю. Да мукі. А вецер рве і рве над машынаю. Хутчэй бы прыехаць.

Ніна ведала, што скрыжаванне ўжо блізка. Яна бачыла гэта па кіламетровых слупах і ўважліва сачыла, каб не прамінуць паваротка. Як помніць Ніна, дарога гэта ідзе праз лес, абапал яе стаяць дзве цёмныя сцяны з елак.

Хутчэй бы даехаць. Цяпер Ніна была б ужо рада зноў ісці. Вельмі ж холадна ў кузаве.

Нарэшце і яно, скрыжаванне. Ніна з усяе сілы застукала рукою, не далоняю, а ўсёй рукою, да локця, па кабіне. Машына спынілася.

Ніна пабегла да борта, каб хутчэй злезці. Яе ногі былі як драўляныя, на іх балюча было ступаць. Здаецца — вось-вось хруснуць, зломяцца. І рукі не слухаюцца, імі цяжка ўхапіцца за борт. Ніна неяк перавалілася цераз яго, доўга шукала здубянелаю нагой кола, каб абаперціся, перш чым саскочыць на зямлю.

Немец зноў высунуў з кабіны галаву ў сваёй пілотцы, перавязанай шалікам. Смяяўся, гледзячы, як няўклюдна злазіла Ніна з машыны.

Яна падышла да немца, каб разлічыцца.

— Віфіль? — спыталася ў яго, ледзь варушачы губамі. У запасе ў Ніны былі і нямецкія словы. Так, некалькі, на патрэбны часам абыходак.

Немец усё пазіраў на Ніну і смяяўся.

— Кальт? — спытаўся ён і ўзяўся за свой нос, за шчокі, а пасля паказаў на Ніціны. Мусіць, Ніна вельмі ссінела, стаяла скурчыўшыся, і немцу гэта было смешна.

— Віфіль? — зноў спыталася Ніна, крыху нават узвышаючы голас. Ёй зусім не смешна, ёй няма чаго рагатаць з гэтым немцам.

— Драй маркес, — сказаў нарэшце немец і, каб Ніна лепш зразумела яго, паказаў на пальцах — тры.

Ніна палезла ў споднюю кішэню жакета, дзе ляжалі яе грошы. Дастала хустачку, у якую яны былі закручаны, адлічыла тры маркі. Немец увесь гэты час не пераставаў усміхацца. Нечым яна была яму вельмі смешная, Ніна.

Яна падала немцу грошы. Той узяў іх, запіхнуў у кішэню шыняля і раптам, адным рыўком, аж да пояса высунуўся з кабіны, схапіў Ніну за грудзі, на якіх яна яшчэ зашпільвала свой жакет.

Ніна адхіснулася, ад нечаканасці не змагла нават крыкнуць, а немец ужо сядзеў у кабіне, рагатаў на ўсё горла, закідваючы назад галаву, і ўжо заводзіў матор.

І толькі калі машына паехала, Ніна змагла загаварыць.

— Ах ты гадзіна! Ах ты паскуда! — шаптала яна ўслед машыне. — Каб ты не даехаў куды едзеш! Каб табе ў роў зваліцца!

Яна доўга не магла супакоіцца. Ішла ўжо дарогаю, якая вяла ад шашы, і ўсё пасылала праклёны немцу.

Злосць падганяла яе, і яна ішла скора. Разагрэлася і ад хады, і ад злосці. І толькі кіламетры праз два крыху супакоілася.

І падумаць толькі, што Касцевічава Люська, з якою Ніна да вайны вучылася ў адным класе, што Манька, Люсьчына старэйшая сястра, могуць гуляць з немцамі… Хадзіць з імі пад ручку, цалавацца. Праўду мама пра іх казала, што хлуслівыя яны людзі. Калі цягалі ўсё са складаў, дык крычалі, што гэта яны цягаюць, каб не пакінуць немцам. А цяпер немцы ў іх — самыя лепшыя госці. Да Люські і да Манькі ходзяць два ў чорных шынялях. Чыгуначнікі, ці што. Курт і Фіпс. І трэба ж, Люська з Манькаю парабілі чахлы на крэслы і вышылі. На адным крэсле — «Курт». На другім — «Фіпс». Кожны немец, калі прыходзіць да іх, садзіцца ў сваё крэсла.

Люсьчына сястра Манька да вайны кінула школу, бо па некалькі гадоў сядзела ў адным класе, і пакуль дайшла да шостага, ужо была пераросткам, паненкаю. Люська таксама была двоечніца, тупіца. А цяпер як яны па-нямецку чэшуць! Адкуль і здольнасць узялася, так скора панавучваліся. Яна, Ніна, у школе была выдатніца, а па-нямецку ведае якіх дзесяць слоў. З тых, што самі лезуць у вушы.

Дарога, па якой цяпер ішла Ніна, была глухая. Тут не прыходзілася спадзявацца на спадарожную машыну, трэба было ісці пешкі. Кіламетраў, мусіць, з дваццаць пяць. Васямнаццаць да мястэчка і вёрст сем ад мястэчка да вёскі. Палову гэтай дарогі Ніна прайшла даволі бадзёра. І злосць на немца падганяла, і разагравалася пасля язды ў машыне. А на другой палавіне пачала стамляцца. Хацелася есці. Але з яды ў яе нічога з сабою не было. Не было чаго пакласці ў торбу. Не нальеш жа ў мяшок заціркі, якою Ніна снедала. Мама казала, каб Ніна зайшла па дарозе ў якую хату і папрасіла, мо прададуць за маркі кавалак хлеба і шклянку малака. Ды Ніне сорамна было заходзіць у чужую хату, прасіцца, як жабрачцы. Да таго ж, гэта заняло б час, а ёй трэба ўправіцца сёння зайсці ў Балацянку.

Цікава, колькі цяпер гадзін? На сонца наплылі хмары. Не відаць, дзе яно. Ды Ніна па сонцы і не вельмі ўмее пазнаваць час. Так, убачыла б толькі, ці яно высока.

Неба цяпер закрыта шэрым туманам. І вакол не відаць ні душы. Толькі лес стаіць абапал дарогі, прыкрыты шапкамі снегу. Але ж, мусіць, не заўсёды гэты тракт такі пусты. Відаць жа на ім сляды палазоў, сляды колаў ад машыны. Можа, па гэтай дарозе ездзяць партызаны?

Ад гэтай думкі Ніне робіцца весялей, аж зноў лягчэй ідзецца і ўжо есці не так хочацца.

От каб ёй сустрэцца з партызанамі!.. Што б яна ім сказала? Яна б сказала, што хоча да іх, у лес. Яна б рабіла там усё, што загадалі б. Ну, яна не ведае, што б ёй загадалі рабіць, але няўжо ў партызан не знайшлося б для яе работы? Яна б і страляць навучылася. Яна б і на заданні хадзіла… Але не… Цяпер, каб і сустрэлася з партызанамі, яна б не магла адразу пайсці да іх. Трэба прынесці дахаты яды. Ды і наогул, што мама рабіла б дома без яе… Не, да партызанаў, у лес, яна, мусіць, не магла б пайсці… І Ніне робіцца крыўдна ад гэтай думкі. Крыўдна, нібы яна ўжо сустрэла партызан, ужо тыя клікалі яе з сабою, ды яна адмовілася.

Але яна магла б інакш ім памагаць. Расказаць ім, дзе ў горадзе немцы, якія ў іх машыны. А яны маглі б даваць ёй лістоўкі, зводкі

Саўінфармбюро. Яна б наклейвала іх у Мінску на слупах. І гэта ж работа. Раздавала б лістоўкі сваім. Давала б чытаць таму, каму верыць. Валодзю Былінку, дзядзьку Колю. Паказваў жа ёй Валодзя Былінка зводку Саўінфармбюро.

Валодзя Былінка да вайны быў артыстам. Спяваў у хоры ў Оперным тэатры. Ён быў высокі, прыгожы, заўсёды хораша апрануты. Для Ніны ён быў чалавекам з іншага, невядомага ёй свету, недасягальнага для яе. Яна ведала, што і іншыя жыхары іхняга дома глядзелі на Валодзю з павагаю. Пры ім нават стары Касцевіч, Люсьчын і Маньчын бацька, не вельмі распускаў язык. А калі Валодзя Былінка трапляўся яму на дарозе, ліслíва з ім вітаўся і саступаў дарогу.

А цяпер стары Касцевіч ходзіць панам, а Валодзі Былінкі зусім не відаць.

Наогул, усё перамянілася ў іхнім доме. Тых, каго да вайны ўсе паважалі, — як дзядзька Коля, як Валодзя Былінка, — цяпер зусім не відаць. А такія, як Касцевічы, пазадзіралі насы.

Толькі ў адзін вечар зноў усё перамянілася. Калі над горадам з'явіўся наш самалёт.

У небе пачуўся гул, і Ніна адразу па гулу пазнала, што гэта не нямецкі самалёт. Нямецкія зусім інакш гулі. Ды і не лёталі яны вечарамі.

Па самалёце пачалі біць нямецкія зеніткі. Ніна выбегла на двор.

Неба паласавалі пражэктары, шукалі самалёт. Зеніткі білі, мусіць, наўздагад, па гуку. А Ніна сашчэплівала рукі і шаптала: «Міленькі… родненькі… уцякай…»

І тут убачыла, што на двары яна не адна. З дома выбеглі Валодзя Былінка і дзядзька Коля.

Пражэктары паласавалі неба, промні кідаліся то ў адзін бок, то ў другі, збіраліся ў пук, зноў разляталіся. Раптам адзін з іх злавіў самалёт. Той бліснуў у святле пражэктара — маленькі, адзінокі. Усе яны, што стаялі і пазіралі на неба, аж ахнулі. Але самалёт неяк уцёк ад пражэктара, знік.

— Пайшоў у піке. Зараз будзе бамбіць, — сказаў Валодзя Былінка.

— Родненькі, любенькі, лупяні, — аж крычала Ніна. Ёй зусім не было страшна. Хіба свой самалёт можа скінуць бомбу на сваіх! Ён ведае, куды трэба цэліць!

А пражэктары зноў бегалі па небе, і стралялі, стралялі зеніткі.

Ды вось пачуўся выбух. Адзін. Другі. Наш самалёт скідаў бомбы.

— За горадам скідае, — з жалем сказаў дзядзька Коля.

— Нічога, хоць напалохаў. Яму цяпер каб самому выбрацца, — гаварыў Валодзя Былінка.

— Родненькі, лупі, лупі, — радавалася Ніна. Яна не верыла, што самалёт скідае бомбы абы-куды. Яна была ўпэўнена, што ён уцэліў туды, куды трэба.

Бомбы сыпаліся з самалёта. Ад выбухаў дрыжала зямля, звінелі шыбы ў іхнім доме. Касцевічы сядзелі як мышы. Ніхто з іх не выбег на вуліцу. Мусіць, калаціліся ад страху, можа, маліліся, каб не пацэліла ў іх бомба. Яны ж цяпер зрабіліся праваслаўнымі, панавешвалі абразоў у хаце.

Калі перасталі ўзрывацца бомбы, у небе зноў пачуўся гул самалёта. Значыцца, жывы, не збілі. Гул глушэў, аддаляўся. І шкада было Ніне, што так мала пакружыў ён над горадам, але і радасна, што вось столькі пражэктараў, столькі зенітак у немцаў, а не злавілі, не збілі.

Зноў зрабілася ціха. Патухлі пражэктары. Не стралялі зеніткі. Зноў над горадам стаяла пустое чорнае неба, а ім не хацелася ісці дахаты. Тады Валодзя Былінка і пазваў іх з дзядзькам Колем у сваю кватэру. І паказаў ім зводку Саўінфармбюро.

Божа мой! Толькі падумаць! Нашы словы: «От Советского информбюро…» Назвы нашых гарадоў. Масква! Не верылася, што ўсё гэта па-ранейшаму недзе ёсць на свеце. Жыве! Аж хацелася плакаць. Хацелася пакратаць паперу рукою — пацёртую, пакамечаную, з сінімі літарамі, надрукаванымі на нейкай незнаёмай машынцы.

Але Валодзя Былінка не даў лістоўкі ў рукі. Толькі так паказаў. Нават прачытаць Ніна ўсё не паспела. Можа, паказаў, а пасля сам спалохаўся, што даверыўся дзяўчыне, амаль дзіцяці.

І крыўдна Ніне, што не паверыў ёй да канца, і радасна, што ўсё ж паверыў, пазваў і яе. І яна ўбачыла.

Пасля ён бесцырымонна сказаў Ніне, каб ішла дахаты, спаць. А яны засталіся ўдвух з дзядзькам Колем. Канечне, дзядзьку Колю ён недзе даў пачытаць усю лістоўку. І расказаў, можа, хто даў яму. Значыцца, Валодзя Былінка звязаны з партызанамі. От дзе малайчына!

І Ніне зноў так хочацца сустрэць на гэтай дарозе партызан. Яна глядзіць у лес — мо адтуль пакажуцца людзі са зброяй? Але ў лесе пуста. Тоўстым пластом ляжыць некрануты снег. Ён, мусіць, вельмі глыбокі. І нідзе ні сцяжынкі, ні чалавечых слядоў.

«І як яны там жывуць, — думае Ніна пра партызан. — У такі холад у снезе і дзень і ноч».

Лес кончыўся. Цяпер паабапал было белае поле. Далёка злева цямнелі стрэхі нейкай вёскі. Пачалі сустракацца людзі. Кабета з кошыкам, у цёплай хустцы. Дагнаў яе і абмінуў конік з санкамі. У санках, захутаўшыся ў кажух, сядзеў барадаты дзядзька. З моцным трэскам праляцеў на матацыкле немец.

А хутка паказалася і мястэчка. Нізкія хаткі, прысыпаныя снегам. Над імі ўзвышалася вежа царквы.

Ніна адчувала ўжо, што добра стамілася. Балелі ногі, спіна. Усярэдзіне смактала ад голаду. Але да гэтага адчування Ніна прывыкла. Дома яны елі які раз у дзень. Ёй цяпер увесь час хацелася есці.

«Вось прыйду да цёткі, дык навалюся на яду, — думае Ніна. — У іх там усё ж не так, як у горадзе. Свае бульба, капуста. У цёткі і карова ёсць».

Ніна ўявіла, як будзе есці бульбу з кіслым малаком. Божа, хіба ёсць яда смачнейшая, чым гэта? Яна і ў добры час, да вайны, так любіла малако. І салодкае, і кіслае. І бульбу любіла.

«Вось у цёткі наемся, — думае яна. — На месяц наперад. Толькі б хутчэй дайсці. Колькі ж цяпер часу? Пакуль яшчэ зусім светла. Не падобна, каб пачынала вечарэць. Паспею зайсці ў Балацянку».

І ўсё ж, калі яна ступіла на местачковую вуліцу, калі зусім блізка ўбачыла хаты, дымкі, якія віліся з каміноў, пачула пах жылля, ёй вельмі захацелася апынуцца ў цёплай хаце, адпачыць. Яна тут жа адагнала спакусу. Смешна было б прасіцца нанач, калі да роднай вёскі засталося якіх вёрст сем. Ды спыняцца цяпер у мястэчку — гэта як кідаць работу недаробленай. Ужо неяк дойдзе.

Толькі дзе ж тут дарога на Балацянку? Некалі, да вайны, яны з мамаю ішлі пехатою з Плуговіч у Балацянку. Але Ніна забылася, як выйсці на тую дарогу з мястэчка.

Насустрач ёй ішла пажылая жанчына з поўнымі вёдрамі. Ніна спыталася ў яе. Жанчына паставіла вёдры.

— А вось, дзеткі, як дойдзеш да канца гэтай вуліцы, налева будзе дарога. Там пяройдзеш масток. І проста, проста… Дарога ў Балацянку і завядзе, — ахвотна растлумачыла жанчына.

Яна падняла вёдры, сабралася ісці, але азірнулася, кінула Ніне наўздагон:

— Але куды ж, дзеткі, на ноч гледзячы?..

Ніна азірнулася. Жанчына пазірала на яе са шкадаваннем.

— Нічога! — махнула рукою Ніна. — Якая ж ноч! Яшчэ зусім светла!

І праўда, зусім не было падобна на скоры вечар. Неба, хоць і зацягнутае туманам, было светлае. Ярка бялеў навокал снег. Не, да ночы яшчэ далёка. Яна зойдзе яшчэ да вечара.

У канцы вуліцы сапраўды была дарога, а на ёй масток. Цяпер Ніна ўспомніла, што іменна сюдою яны некалі ішлі з мамаю. Гэты масток здаўся вельмі знаёмым. Гэтыя парэнчы з цёмных дошак. Тады, як яны ішлі з мамаю, было лета. Пад гэтым мастком цурчаў ручай. Цяпер ён замерз. А там, далей за мастком, лес. Усё правільна. Яны і тады ішлі лесам. Амаль усю дарогу. Ніна тады ўсё забягала ў лес і рвала мухаморы. Іх расло так многа, і ўсе з такімі прыгожымі шапкамі. Чырвонымі ў белыя пупышкі. Мама крычала ёй: «Кінь, гэта ж атрута!» А яна не хацела кідаць. Не верылася, што такія прыгожыя грыбы могуць быць атрутныя.

Ну, вось і зноў лес. Цяпер ён проста абхапіў Ніну з двух бакоў. Тут і цямней адразу зрабілася. Спачатку Ніна падумала, што пацямнела ад лесу, але скора зразумела, што не толькі лес тут вінаваты. Пашарэла і неба, і снег пасінеў. Значыцца, цётка казала праўду. Ужо цямнець пачынае. Гэта, канечне, нядобра. Ды нічога. Што з ёй зробіцца. Цётка казала, што дарога завядзе ў самую Балацянку. І яна помніць, як некалі ішлі з мамаю, таксама ўсё па гэтай дарозе, нікуды не зварочваючы. Так што хоць і поцемкі, але яна дойдзе.

А цямнела вельмі скора. Здаецца ж, толькі што было зусім светла, зусім не падобна, што скора вечар. А вунь ужо неба над лесам зусім чорнае, і вакол цемень, чарната. Толькі белаю палоскай свеціцца ў гэтай чарнаце дарога.

Цяпер Ніна адчувае, што вельмі стамілася. Плечы і спіна ныюць. Падгінаюцца ногі. А каленяў не чуваць ад холаду. Мусіць, лепш было б пераначаваць у мястэчку. Ды не вяртацца ж цяпер назад. Цяпер трэба адно — ісці і ісці.

І яна ідзе. Ідзе, ні аб чым не думаючы, механічна пераастаўляючы ногі. Усё роўна як робіць нейкую работу. Цяжкую, але такую, якую трэба зрабіць, у якой адзіны яе ратунак.

Яна ідзе і ідзе. Колькі часу ўжо ідзе гэтым лесам? Гадзіну? Дзве? А мо толькі паўгадзіны? Ёй здаецца, што ідзе тут ужо цэлую вечнасць. Што ў яе жыцці не было нічога, акрамя гэтай дарогі і гэтага лесу, і век нічога не будзе. Цяпер увесь час будзе толькі лес, ноч і гэта дарога. і ніколі не скончацца.

Ці ж па той дарозе яна ідзе? Можа, у цемені збілася, перайшла на іншую? Заблудзілася?

Яна стараецца ўспомніць, ці тая гэта дарога, па якой яны летам ішлі з мамаю. Прыглядаецца да дрэў, да сухіх кустоў,

якія вытыркаюцца з-пад снегу. Нібы хоча спытаць у іх — ці яны гэта, ці тыя, паўз якія ішла тады яна з мамаю, летам, яшчэ да вайны. Колькі гадоў таму назад? Чатыры ці пяць? Ага, чатыры. Бо ў іх не было яшчэ Мішкі. А Мішка нарадзіўся ў саракавым. Значыцца, яны хадзілі ў трыццаць дзявятым. Ёй тады было трынаццаць гадоў.

Не, яна цяпер не помніць, ці тая гэта дарога. Нічога нельга пазнаць. Можа, яна і заблудзілася.

Ёй што, страшна? Страшна адной ноччу ў лесе? Ніна прыслухоўваецца. Не. Ёй не страшна. Так, нейкая туга. Не трэба прыслухоўвацца. Трэба ісці і ісці. Усё ж такі гэта дарога павінна скончыцца. Павінна некуды прывесці. Калі не ў Балацянку, то ў іншую вёску.

І яна ідзе, ідзе. Зноў вельмі доўга, бясконца.

Не, канечне, яна заблудзілася. Тады яны не ішлі так доўга. Лес жа цягнецца якіх пяць вёрст. З вярсту ад мястэчка яна ішла полем і, як помніць, ад лесу да вёскі таксама яшчэ з вярсту. А яна ідзе па лесе ўжо, мусіць, столькі, колькі ішла ад шашы да Плуговіч.

Яна да болю ў вачах узіраецца перад сабою, чакаючы наперадзе нейкай прасветліны, канца гэтага лесу, але яе не відаць. Яе няма. Лес наперадзе, лес ззаду, лес з двух бакоў.

Яна чакала прасветліны. Чакала, што перад ёю будзе канец лесу, але што гэта… На дарозе нейкая чарната. Што, яна ідзе да тупіка? Што, там і дарогі ўжо не будзе? Чаму дарогу засланяюць дрэвы? Што там?

Ніна бачыць, што наперадзе, на дарозе, устае сцяна лесу. Але яна ідзе на яе. Ідзе наперад, бо назад цяпер вяртацца яшчэ страшней. Яна падыходзіць зусім блізка да гэтай сцяны і бачыць, што гэта не сцяна. Гэта купка дрэў, а дарога аббягае іх бокам, заходзячы ледзь не ў самы лес.

Ніна ціха засмяялася.

Гэтае месца, гэта купка дрэў з дарогаю, якая іх аббягае, здалася Ніне вельмі знаёмай. Як і той масток з чорнымі парэнчамі, што быў адразу за мястэчкам.

Яна не заблудзілася. Адкуль бы яна тады ведала гэта месца, адкуль бы помніла яго? Тут летам нават стаяла невялікае балотца. Яго і аббягае дарога. Балотца і некалькі хвой.

Яна ідзе правільна. Усё будзе добра.

Ніна хоча ўспомніць, ці далёка цяпер ад гэтай купкі да вёскі. Яна натужвае памяць, але ўспомніць не можа. І ўсё ж ёй палягчэла. Яна не заблудзілася. Дойдзе.

2

— А бо-о! Дзіця, адкуль ты ўзялося!

Цётка Ева стаяла пасярод хаты — у валёнках, у доўгай спадніцы, у кофце з закасанымі рукавамі, якія адкрывалі яе жылістыя, як мужчынскія, рукі, у хустцы, завязанай пад бараду.

— Ды вось… прыйшла… — усміхалася Ніна і адчувала, што ўсміхацца ёй цяжка, што здубянелы, змерзлы твар не хоча ўсміхацца.

— Ты што, пехатою? Адкуль?

— З Плуговіч… І ад Валяр'янаў да Плуговіч ішла.

— А бо-о, — зноў сказала цётка Ева. — То распранайся ж… Скідай скарэй сваю торбу. І ваўкі цябе не з'елі? — пыталася яна.

— Ваўкі? А хіба ў вас ёсць ваўкі?

Там, у лесе, Ніна нават не падумала пра ваўкоў. І добра, што не падумала, бо да яе страхаў дадаўся б яшчэ адзін — ваўкі.

— Дзіва што ёсць… Гайнямі ходзяць…

На Ніну з печы пазіралі яе стрыечныя сёстры і брат. Відаць былі толькі белыя плямкі іх твараў і вочкі як гузікі. На стале ў хаце гарэла газоўка, і па кутах было цёмна.

Ніна распраналася. Калі пачала скідаць панчохі — ледзьвеададрала іх ад ног. На каленях яны проста прымерзлі. У цяпле ногі адразу зрабіліся чырвоныя, нібы іх ашпарылі варам.

Цётка Ева бразгала чыгунамі на прыпечку.

— Чаго ж гэта матка цябе паслала? Сама не магла пайсці? — спыталася яна.

— Мішка захварэў… Не магла пакінуць, — адказала Ніна.

— А бацька?

— Бацька? Ну, мужчынам па дарогах цяпер хадзіць… Ды і стары ён.

— Стары… Як дзяцей кожны год пладзіць, дык не стары…

Ніна сядзела на лаве, слухала, як бразгала чыгункамі на прыпечку цётка, як валтузіліся на печы дзеці, і не верыла, што яна ўсё ж такі прыйшла, што яна ў хаце.

Яна чуць дапаўзла да вёскі. Здавалася, каб да хаты трэба было зрабіць яшчэ хоць крок — не дайшла б. Не хапіла б сілы. А хата, як толькі ўвайшла, агарнула яе знаёмым, сваім. Хоць колькі там яна і была тут. Некалі, зусім малою, прыязджала, калі яшчэ была жывая бабка, ды той раз, перад вайною. І ўсё ж такі хата здалася роднай — і вялікая белая печ, і не засланы абрусам стол, і лавы пры сценах, і земляная падлога. І цётка Ева. Гаворыць моцна, на ўсю хату, нібы тут нехта ёсць глухі. Расцягвае словы, напіраючы на «о» і «э». Яны ў яе цягнуцца, як вяроўка, коцяцца, як абруч.

— Ідзі паеш… Гало-одная ж, мусіць, — панесла цётка Ева на стол поўную міску капусты.

На печы заварушыліся дзеці. Пачалі злазіць.

— Во, і яны… Як толькі стукну міскаю ці чыгуном — дык і тут… Як па сігналу, — праз усмешку гаварыла цётка.

Дзве сястры — пяцігадовая Воля і старэйшая, гадоў трынаццаці, Вера, прымошчваліся ўжо каля стала. Лез на лаву і брат Косця, хлопчык гадоў адзінаццаці.

Хлопчык у цёткі Евы, адзіны сын, быў няўдалы. У адзінаццаць гадоў розум у яго быў як у двухгадовага. Ён не ўмеў гаварыць, толькі некалькі слоў мог прагугнявіць: «мама», «дай» і «бобі», што на яго мове азначала баліць.

Старэйшая дачка цёткі Евы, на год старэйшая за Ніну, цяпер была невядома дзе. Да вайны паступіла ў гандлёвы тэхнікум у Мінску. Калі нашы адступалі, яна разам з тэхнікумам падалася на ўсход.

І бацька іх, муж цёткі Евы, мамін родны брат, таксама быў невядома дзе. Перад самай вайною яго паслалі ў нейкі далёкі рускі калгас па кароў. Хацелі вывесці ў Балацянцы новую, добрую пароду. Недзе адрэзаў яго фронт. Цяпер, можа, ваюе.

На стале ў вялікай місцы дымілася капуста. Цётчына сямейка ўжо хадзіла каля яе. І Косця завіхаўся, цягаў лыжкаю з міскі, сёрбаў на ўсю хату. А Ніна з’ела лыжкі дзве і раптам адчула, што ёй не хочацца есці. Ёй нават зрабілася крыўдна. Гэта ж падумаць, усё так смачна. Кіслая капуста, заскваранaя здорам. Хлеб на стале, а ёй не хочацца есці. Каб ёй такое далі ў Мінску! Ці нават сёння на дарозе. І чаму гэта ёй не хочацца есці? Нешта нудзіць.

— Што ж гэта ты паклала лыжку? Ці нясмачна? — спыталася цётка.

— Што вы, цётка Ева… Смачна… Але нешта нядобра мне, — прызналася Ніна.

— Гэта ты здарожылася… Дзіва, столькі за дзень прайсці. Ну, я табе малака налью. Выпі ды на печ лезь.

Але малако здалося Ніне гаркаватым. Яна адпіла крышку і ўстала з-за стала. Яе павяло ўбок. Ледзь утрымалася на нагах.

Пайшла да печы. Лягла на рызман, якім быў засланы чарэнь. Яна не магла разабрацца — як ёй цяпер: добра ці кепска. Добра, бо яна ў хаце, на печы, а не ў лесе, на холадзе. І ўсё ж нядобра. Нешта калоціцца ўсярэдзіне. Нудзіць і кружыцца галава. І холадна — ніяк не сагрэцца. Яна зняла з жэрдкі каптан, мусіць, цётчын. Нацягнула на сябе. Але і на гарачай печы, пад каптаном яе калаціла. Яна доўга курчылася, хуталася ў каптан, круцілася з боку на бок, пакуль нарэшце заснула.

Прачнулася яна — за вокнамі было зусім цёмна. У хаце гарэла газоўка, а цётка Ева нечым грукала каля мыцельніка. Ніна спачатку падумала, што гэта ўсё яшчэ вечар, але па глыбокай цішыні, якая была вакол, здагадалася, што часу многа. Яна ўзняла галаву, паглядзела з-за коміна на хату.

Дзеці спалі ўсе ўтраіх на адным ложку. Газоўка стаяла на лаве, а цётка Ева перамывала бульбу. Ходзікі, што віселі на сцяне, паказвалі пяць гадзін.

«Гэта яна так рана ўстае?» — падумала Ніна. У яе варухнулася нешта падобнае на няёмкасць. Ёй заўсёды было сорамна спаць, калі нехта ўжо ўстаў і працуе. Але ўставаць вельмі не хацелася. Яна ўся была як пабітая. Нібы па ёй праехаў воз. Балелі і рукі, і ногі, і спіна.

Яна заварушылася на печы, каб паказаць цётцы, што не спіць, што, калі трэба, яна гатова ўстаць і памагчы што-небудзь.

Цётка і праўда ўбачыла, што Ніна прачнулася.

— Чаго гэта ты ўскруцілася? — спыталася яна. — Рана яшчэ. Спі.

— Я думала, што гэта яшчэ вечар…

— Спі, спі, — зноў сказала цётка. Яна ўзяла абедзвюма рукамі вялікі чыгун, панесла яго да прыпечка.

Ніна ўбачыла, што цётка цяпер без валёнак, у нейкіх галёшах на босую нагу і адна нага завязана. Ніна ўспомніла, што ў цёткі хворая нага, што яшчэ да вайны яна лячыла яе, нават ездзіла ў горад у бальніцу. Гадоў з дзесяць мучыцца цётка з сваёю нагой.

Ніне стала шкода цётку. Падумала, што трэба будзе абавязкова даць ёй нешта з таго, што прынесла мяняць. Сахарыну… Запалак… Як гасцінец.

Яна адчувала, што сон зноў зморвае яе, і скора сапраўды заснула.

А прачнулася другі раз — у хаце было зусім светла. Праз замерзлыя шыбіны прабівалася сонца, і ясна вырысоўваліся ўзоры — елкі, кусцікі, пальмавыя лісты, намаляваныя на шкле марозам.

Цёткі Евы ў хаце не было. Пяцігадовая Волечка сядзела на падлозе, нешта складвала з лучынак і спявала. Неразумны Косця сядзеў на ложку, скроб рукою нястрыжаную галаву. Веры таксама не было ў хаце.

Ніна злезла з печы. Зноў адчула, як баліць усё цела. Аж ступаць цяжка. Не паварушыць ні рукою, ні нагою. Ды не разлежвацца ж. Яна ж не ў госці прыехала. Трэба хутчэй брацца мяняць ды збірацца дахаты. Там чакаюць.

— А дзе ж мама? — спыталася яна ў Волечкі.

— Мама ў хляве сечку рэжа, — адказала Воля і зноў заспявала. Цененька, правільна ведучы мелодыю:

Маё сэрцайка ные-е,
Па міленькім балі-іць…

Ніна ўмылася, прычасалася зламаным грабянцом, які ляжаў на падаконніку, паглядзелася ў мутнае люстэрка, што вісела на сцяне. Ці гэта люстэрка было такое, ці і праўда Ніна збляжэла. Нейкая чорная ўся, сінцы пад вачыма.

Знайшла сваю торбу. Развязала яе. Выняла пачак сахарыну, два карабкі запалак. Падумала і выцягнула яшчэ пачак фарбы. Гэта каб даць цётцы Еве.

Забразгала клямка ў сенцах, і цётка ўвайшла ў хату, несучы перад сабою бярэмя дроў. Кінула іх каля печы.

— Устала? Ну і добра. Снедаць будзем, — сказала яна, выціраючы рукі аб спадніцу.

— Вось, цёця, гэта вам, — сказала Ніна, падаючы гасцінец.

Цётка яшчэ раз выцерла рукі аб спадніцу, узяла тое, што падавала Ніна.

— От дзякуй, — сказала яна. — Запалкі — гэта добра… А гэта што? Фарба? І фарба добра… Дзякуй. А гэта? — цётка круціла ў парэпаных руках пачак з сахарынам. — А-а, сахарын, — здагадалася яна. — І сахарын цяпер добра… Толькі, ведаеш, — цётка крыху памялася, — мне яго, мусіць, не трэба… У мяне малако ё. Гэта ў каго малое дзіця, таму добра. Вадзічку саладзіць. Сахарын у цябе купяць. На, — аддала яна Ніне назад пачак.

— А можа, возьмеце? — не вельмі рашуча настойвала Ніна. — У мяне яшчэ ёсць.

— Не, не, ты такую далеч ішла… Лепш што выменяеш.

Яна панесла запалкі і фарбу, паклала іх на паліцу зверху, каб дзеці не дасталі. Памкнулася была да печы, але ў гэты час загугнявіў, замармытаў Косця.

— Чаго ж табе, чаго? — лагодна адазвалася цётка Ева.

Хлопец гугнявіў, і яна падышла да ложка. Нахілілася да Косці і раптам узарвалася страшэннаю лаянкай, крыкам на ўсю хату:

— А каб цябе разарвала, каб цябе, а каб ты нечага не ўстаў, а гора ж ты маё, а дурань жа ты няшчасны! Гэта ж трэба, зноў набурыў пад сябе!

І цётка Ева пачала біць хлопца. Яна грукала яго кулаком па спіне, скубла за валасы, круціла за вуха.

Косця заенчыў на ўсю хату. А цётка Ева ўсё біла яго і сама галасіла:

— А каб ты лепш у зямлі гніў, як ты мне згнаіў усё ў хаце! Удалыя дзеці паміраюць, а гэты бязмозгі жыве! Як ты мае сілы рвеш! Як ты мяне ў магілу гоніш!

Косця енчыў на ўсю хату, і толькі можна было разабраць, як ён гугнявіў:

— Бобі! Бобі!

— Яму бобі! А мне не бобі? — крычала цётка. — Злазь, каб цябе халера задушыла! Злазь! — цягнула яна хлопчыка з ложка.

Косця стаяў у адной кашулі, босы на земляной падлозе і ўвесь калаціўся, а цётка сцягвала посцілку, здымала сяннік. Кленучы на ўвесь голас хлопца, пацягнула ўсё гэта на печ, каб сохла.

Усё стукаючы і скубучы хлопчыка, цётка Ева надзела яму штонікі, нацягнула залатаныя на каленях і на пятках панчохі. Пацягнула за руку да цэбра, спаласнула Косцю твар. Моцна выцерла ручніком, аж твар пайшоў на чырвоныя плямы.

— Ідзі да стала, каб ты не дайшоў да яго, — піхнула Косцю ў спіну.

Той яшчэ ўсё не то ўсхліпваў, не то скавытаў, з апаскаю азіраючыся на матку.

Бразгаючы посудам, цётка Ева пачала ставіць на стол міскі, класці хлеб.

— Такое мне з ім гора, Ніначка, — нібы апраўдваючыся перад Нінаю, гаварыла яна. — Гэта ж ні ў хаце яго аднаго пакінуць, ні на вуліцу выпусціць. На вуліцы дзеці яго б’юць, дражняць. Толькі адхініся ад яго — так бяды і наробіць. То ўлезе ў што, то зломіць, то напаскудзіць. За якія гэта грахі такая кара? А Верка ж дзе? — спыталася ў Волі.

— На сяло пайшла, — адказала Волечка, якая ўжо сядзела каля стала і чакала, пакуль маці падасць сняданне.

— На сяло… Толькі і лётае. Гора мне з вамі, — сказала цётка ўжо спакайней, нават праз усмешку.

На сняданне цётка падала сопкую бульбу, наліла ў міску кіслага малака, падсмажыла некалькі скварак. Пра такую яду Ніна толькі марыла, але нешта і сёння ёй не елася. Яна праз сілу жавала бульбу, ела малако. А калі цётка падала ёй на відэльцы скварку і Ніна ўкусіла кавалак, яе занудзіла. Закрыўшы рот далонямі, яна пабегла на двор.

Цётка кінулася за ёю.

— Чаго гэта ты? Што з табою? — трэсла яна Ніну за плячо. Пабегла ў хату, прынесла кубак вады. Ніна выпіла. Яна ўся была мокрая ад поту. І лоб, і далоні.

— А бо-о… Вось дзе няўдалая дзеўка, — са скрухай гаварыла цётка.

Ніна выцірала далонямі твар. Ногі ў яе калаціліся. Агарнула страшэнная слабасць.

— Згаладалася недзе… Ці змаглася ўчора, — як праз вату ў вушах даляталі да яе словы цёткі. — Ну, ідзі, ідзі ў хату, бо яшчэ прастудзішся…

— Ліха яго ведае, што са мной такое, — вінавата гаварыла Ніна.

— Ну, нічога, нічога, пройдзе, — суцяшала яе цётка.

Яны вярнуліся ў хату.

— Хай бы вы, цётка Ева, — сказала Ніна, калі трошкі адышла, — наказалі жанкам на сяле, што я прынесла мяняць. Мо прыйшлі б людзі. Бо не хочацца самой хадзіць па хатах.

— Ага, добра, я накажу, — ківала галавою цётка. — Прыйдуць. Усім што-небудзь трэба. Крам жа цяпер нямашака. Вось пайду скора на сяло і скажу. Ды і Верка недзе ўжо раззваніла, што ты прыйшла мяняць. А ты ляж, паляжы. Вунь, уся зялёная. Ох, дзеці, дзеці, — уздыхнула яна.

Цётка Ева папратала ў хаце, падмяла мокрым венікам падлогу, апранулася і пайшла на сяло.

Ніна ляжала на печы. Волечка гуляла, седзячы на падлозе, і ўсё спявала. Ніна ажно дзівілася, колькі песень ведае гэта пяцігадовае дзеўчанё. Мусіць, ходзіць з Вераю на вячоркі — там спяваюць, а ў дзяўчынкі добры слых і добрая памяць. І любіць спяваць.

Пасею-у гурочкі-і
Нізка на-ад рако-ою,
Сама бу-у-ду-у паліва-а-ці
Дробнаю-у-у слязо-ою…

Канчае адну — пачынае другую:

Ра-а-сла-а, расла
Дзяўчы-ы-начка,
Расці-і пераста-а-ла-а,
Жда-а-ла-а, ждала
Міле-е-нькага
Тай пла-а-каці ста-а-ла-а…

І так цэлы дзень. І песні — адна за адною. Скора і Ніна ўсе гэтыя песні ведала на памяць.

І харошая ж дзяўчынка Волечка. Зграбная, рухавая, жывыя карыя вочкі аж гараць. Зубкі дробненькія, як у мышкі. Аж не верыцца, што Косця — яе родны брат. Светлыя, аж белыя, вочы без жыцця, белы, як з цеста, твар, белыя вейкі. І праўда — няшчасце мець такое дзіця.

Ніна адчувала, што ёй робіцца лепш. Цётка пакінула на стале яды, і Ніна злезла з печы, крыху паела.

Ёй захацелася зайсці ў «комнатку» — так называлі невялікі пакойчык, дзверы ў які вялі з сенцаў і які быў зусім адасоблены ад вялікай хаты. Некалі, яшчэ да вайны, у тым пакойчыку стаялі ложак, стол. У ім начавалі, калі хто прыязджаў у госці. А часам і свае любілі адасобіцца. Дзядзька Ігнат, муж цёткі Евы, часта зачыняўся там з кніжкаю. Цётка Ева не любіла бачыць, як ён чытае. Лічыла, што гэта ён проста глуміць час. Там вучыла ўрокі іх старэйшая дачка. Калі Ніна прыязджала з мамаю, той раз, да вайны, то яны таксама спалі ў «комнатцы».

Сцены ў ёй былі абклееены газетамі, лістамі з часопісаў. І газеты, і часопісы былі старыя, некаторыя яшчэ з літарай «яць». Але траплялiся і больш свежыя. Ніна вельмі любіла чытаць, і пакуль яны жылі там, яна прачытала ўсе гэтыя газеты, усе лісты з часопісаў. Нават тыя, якія былі прыклееены дагары нагамі. Запомніўся нават адзін верш. Тады яна яшчэ не ведала, што гэта маналог Чацкага, у школе яны тады яшчэ не праходзілі «Гора ад розуму».

Не образумлюсь, виноват,
И слушаю — не понимаю,
Как будто я попал из рая прямо в ад,
Растерян мыслями, чего-то ожидаю…

Слепец, я в чем искал забвенья от трудов,
Спешил, дрожал — вот передача близко,
Но, кроме воя, скрежета и писка,
Не слышу ничего уж больше двух часов…

Ніна вырашыла схадзіць у «комнатку», паглядзець, як там.

У сенцах было холадна, пахла кіслым. На сценах — рэшата, кашы, нейкія клуначкі, мяшочкі. Дзверы ў «комнатку» цяпер, мусіць, адчыняліся рэдка, бо клямка аж заржавела, Ніна ледзь адчыніла яе.

Адчыніла дзверы — і не пазнала «комнаткі». Акно — пыльнае, бруднае, ледзь прапускала святло. Няма там ні ложка, ні

стала. Усё завалена ламаччам. Стаяць пустая бочка, цабэрак з рассохлымі клёпкамі; рыззё, анучы валяюцца на падлозе. Сцены абадраныя. Закураныя шматкі газет целяпаюцца, як абадраныя шкуркі.

Ніне зрабілася сумна. Нават сюды, у гэтую «комнатку», запаўзла вайна. Нічога іншага зрабіць не змагла, дык хоць сцены паабдзірала, хоць закідала ламаччам.

Ніна пачала аглядаць сцены, шукаючы таго верша, што запаў ёй у памяць. Глядзела, глядзела, ніяк не магла знайсці. Нарэшце ўбачыла. Але ён цяпер быў не ўвесь. Вялікі кавалак быў ададраны, і Ніна прачытала толькі два радкі:

Как будто я попал из рая прямо в ад,
Растерян мыслями…

Нарэшце вярнулася з сяла цётка. Яна заходзіла да сваёй сястры, якая жыла з старою маткаю, нешта там ім памагала рабіць, таму і забавілася. Сказала Ніне, што скора папрыходзяць з сяла бабы. Паўходжваюцца з гаспадаркамі і папрыходзяць. Купцы знойдуцца.

Яна зноў узялася за работу. Пачала рыхтаваць корм свінням, пойла карове. А Ніна думала, колькі ёй за што прасіць, ды так і не прыдумала. Хто яго ведае, колькі можна ўзяць за карабок запалак, за пачак сахарыну. Маміна блузка, капа — тут лягчэй. Танней як па два кілаграмы сала не аддасць.

І вось прыйшла першая «купчыха» — цётка ў кажусе, у валёнках, у тоўстай хустцы на галаве. Павіталася, села на лаве, з цікавасцю ўставілася на Ніну.

— Дык гэта Ганніна дачка? — спыталася не то ў цёткі Евы, не то ў Ніны.

— Ага, Ганніна, — адказала цётка Ева.

— Ну, як жа там матка маецца? — спыталася цётка ўжо ў Ніны.

— Мама? Нічога. Так сабе, — не ведала, як гаварыць з гэтай цёткаю Ніна.

А тая раптам пачала ўспамінаць, як яны былі маладыя, як гулялі разам з Ніцінаю мамай, як ім было весела.

— Ну і гадасць гэта старасць, — уздыхнула яна. — Не прадасі, не купіш гэту маладосць.

Бразнула клямка ў сенцах, пачуўся тупат, і ў хату ўвайшлі яшчэ тры кабеты. І іх Ніна не ведала, хоць у адной у твары і было нешта знаёмае.

Жанчыны павіталіся і таксама не распранаючыся паселі на лавах. Але зноў павялі гаворку пра нешта далёкае ад інтарэсу, якім цяпер жыла Ніна.

Нарэшце цётка Ева падала каманду:

— Дык развяжы сваю торбу, Ніна. Пакажы бабам, што ў цябе ё.

Па тым, як завастрыліся цікавасцю твары ў жанчын, Ніна здагадалася, што яны даўно ўжо гэтага чакаюць.

Яна развязала мяшок. Пачала выкладаць на стол усё, што было.

Жанчыны жывенька ўсталі з лавак, падышлі да стала.

У гэты час зноў адчыніліся дзверы, і ў хату ўвайшлі адразу пяцёра. Чатыры жанчыны і дзядзька ў кароткім пацёртым кажушку, у шапцы-вушанцы.

— Ого! Тут ужо гандаль ідзе, усё, мусібыць, пахапалі, мы, мусібыць, спазніліся, — з парога загаварыла кабета ў суконнай світцы, у ботах.

— Каб ты ды спазнілася, — азвалася жанчына, якая прыйшла першая. — Хіба без цябе які торг абыдзецца?

— А і без цябе, бачу, не абышоўся, — нязлосна адказала жанчына.

— Ідзіце, ідзіце, усім хопіць, — супакойвала іх цётка Ева, хоць па тым, як гаварылі жанчыны, было відаць, што яны не спрачаюцца, а хутчэй жартуюць.

Жанкі згрудзіліся каля стала. Аглядалі пачкі сахарыну, пачкі з фарбаю, трэслі карабкі запалак. Кожная каля сябе складала ўжо тое, што намерылася ўзяць.

— Во, Тэкля, сахарын бяры. У цябе малое, яму згодзіцца, — гаварыла цётка Ева жанчыне ў суконнай світцы.

— Калі не дарага будзе, то можна ўзяць, — адказала Тэкля.

Дзядзька глядзеў на стол паўзверх жаночых галоў, але нічога не браў. Толькі круціў галавою, цмокаў.

— Во што значыцца горад, — сказаў ён нарэшце. — Ці вайна, ці не вайна, там усё ё. І запалкі, і фарба. А тут як не было нічога, так і няма.

— От ужо дзядзька, пазайздросціў гораду, — засмяялася Тэкля. — Ці былі вы хоць там, ці бачылі, які ён разбіты?

— Разбіты ці не разбіты, а там вунь усё ё, — упіраўся дзядзька.

— У горадзе цяпер голад, — не вытрывала Ніна. Ёй адразу не спадабаўся гэты дзядзька. Падумаць толькі — кажа, што ў горадзе ўсё ёсць. Гэта каб выставіць Ніну багатай, а самому прыкінуцца бедненькім.

Дзве жанчыны разгарнулі капу. Трэцяя прыкладала да сябе маміну шаўковую блузку.

— От пакрывала добрае… Але ж і папросіш ты за яго, мусібыць, многа, — сказала жанчына, якая прыйшла першая.

— Два кіло сала, — адказала Ніна.

— Ого, — пакруціла галавою жанчына і пачала складаць капу.

— Капу Стэфка Бураковых забярэ. Пасаг на вяселле будзе, — сказала Тэкля.

— У яе ад пасагу і так скрыні ломяцца…

— Куды ўжо больш… — загаварылі жанчыны.

— А хіба не ведаеце, што дабро да дабра горнецца? Хто шмат мае, таму яшчэ больш хочацца мець, — сказала цётка Ева.

— От чужое дабро вочы коле, — заступіўся за невядомую Ніне Стэфку Бураковых дзядзька.

— А за блузку колькі ж ты хочаш? — няпэўна спытала маладая жанчына з сінімі вачыма, якая дасюль маўчала і наогул не вельмі лезла да стала.

— Таксама два кіло, — цвёрда сказала Ніна.

Жанчына ўсё яшчэ трымала блузку. Відаць, блузка ёй спадабалася.

— Харошая блузка, — сказала яна. — І два кілы варта… Але вясна прыйдзе — без сала плуга не пацягнеш… Самім трэба.

— І блузку Стэфка забярэ… Вось убачыце, — зноў засмяялася Тэкля.

— А што гэта за Стэфка такая? — спыталася Ніна. Ёй цікава было ведаць, што гэта за багачка, якая ўсё можа купіць.

— Стэфка? Дачка…

Не паспела цётка Тэкля сказаць Ніне, хто такая Стэфка Бураковых, як дзверы ў хату адчыніліся і ўвайшла маладая дзяўчына. У плюшаўцы, у квяцістай хустцы. Па тым, як прыкусіла цётка Тэкля язык, як адразу змоўклі бабы, Ніна здагадалася, што гэта і ёсць тая самая Стэфка.

— Вечар добры, — сказала, як праспявала, яна.

— Добры вечар, — не вельмі ахвотна адказалі жанчыны.

У дзяўчыны быў чырвоны з холаду твар, вялікі і тоўсты нос, як добрая бульбіна, тоўстыя губы.

«Калі гэта Стэфка купляе сабе пасаг, значыцца, збіраецца замуж, значыцца, яна нявеста», — падумала Ніна. Ніне заўсёды здавалася, што нявеста павінна быць абавязкова прыгожая. Ну а як жа, каб нявеста ды раптам брыдкая… А гэта… Не, не падобна яна на нявесту. Адзін нос чаго варты…

— Хадзі, Стэфка, хадзі, тут табе нештачка ёсць, — лісліва загаварыў да яе дзядзька.

Стэфка падышла да стала. Яе вочкі забегалі, абмацваючы ўсё, што там ляжала. Спыніліся на блузцы. Вялікімі чырвонымі рукамі Стэфка ўзяла блузку, разгарнула яе, прыклала да плюшаўкі. Паглядзела на жанчын, спыталася, перабягаючы вачыма з адной на другую:

— Ну як, акурат мне будзе?

— Табе, Стэфка, усё акурат, Што ні возьмеш — усё табе падыходзіць, — весела сказала Тэкля.

— Калі ё за што купляць, дык дзіва што будзе акурат, — уставіла жанчына з сінімі вачыма, якая першая глядзела блузку.

— Бяры, Стэфка, бяры, — падбадзёрваў яе дзядзька. — Не слухай, што яны гавораць. Гэта ад зайздрасці.

— Колькі ж ты хочаш за блузку? — спыталася Стэфка ў Ніны.

Тая сказала.

— Ого, — пакруціла галавою Стэфка. — А гэта што? — пацягнулася яна рукою да капы.

Адною рукою, з другой не выпускаючы блузкі, Стэфка пачала разгортваць капу.

— Што ж, акурат на шлюбны ложак, — зноў сказала Тэкля.

Стэфка стрэліла вачыма ў Тэклю. Мусіць, хацела перакананца, ці тая шчыра гаворыць, ці падсмейваецца.

Тэкліны вочы яўна здзекаваліся, і Стэфчын твар зрабіўся калючы, злосны.

— У цябе-то не спытаюся, купляць ці не, — сказала яна. — Колькі ж за капу? — павярнулася яна да Ніны.

— Як і за блузку, — адказала тая.

Стэфка моцна трымала адной рукою блузку, другой — капу. На лобе яе збегліся зморшчынкі, пад носам заблішчалі кропелькі поту. Мусіць, думала.

— Тры кіло, — нарэшце сказала яна. — Забяру і капу і блузку.

Усе ў хаце заціхлі. Чакалі, што скажа Ніна. Тая таксама маўчала. Ліхаманкава думала — аддаць ці не. Яна цяпер разумела, што калі гэта Стэфка не купіць, то іншыя жанчыны наўрад ці возьмуць. Баялася згубіць купца. Але за тры кілаграмы сала шкада было аддаваць такія рэчы. Вырашыла ўсё ж патаргавацца.

— Не аддам, — сказала яна. — Давайце чатыры.

Стэфчыны пальцы расслаблі, яна ўздыхнула.

— Ну, калі Стэфка не забярэ, то мы возьмем, — сказала раптам Тэкля. — Манька блузку, — паказала яна на жанчыну з сінімі вачыма, — а я — капу. Было не было! — махнула яна рукою.

Стэфчыны пальцы зноў упіліся ў блузку і капу.

— Надта ж ты скорая, — вызверылася на Тэклю Стэфка. — Мы ж яшчэ торгу не скончылі… Абы перабіць… Дык давай за тры кіло, — зноў павярнулася яна да Ніны.

— Што ж я вам буду аддаваць за тры, калі мне, вунь, чатыры дадуць, — адказала Ніна.

Яна пачынала разумець Тэкліну гульню. Тэкля ж і не збіралася купляць капы. І Манька блузкі не купіць, хоць тая ёй і падабаецца. Мусіць, проста хочуць памагчы Ніне лепш прадаць.

Стэфка маўчала. Сапла, але блузкі і капы з рук не выпускала.

— Ой, харошая блузка, — падліла масла ў агонь Манька.

— А капа… Новенькая зусім… Гэта не посцілка свае работы, — уздыхнула Тэкля.

— Добра, забяру, — нечакана сіплым голасам сказала Стэфка.

Яна пачала згортваць капу і блузку. Скруціла іх разам, запхнула за плюшаўку.

— Сала заўтра прынясу. Але ж чатыры кіло… Ай-яй-яй, — прастагнала яна.

Нібы баючыся, што Ніна перадумае ці бабы возьмуць ды адбяруць, яна памялася крыху каля стала, яшчэ раз глянула на запалкі, на сахарын, павярнулася і пайшла. Выходзячы, моцна бразнула дзвярыма, паказваючы гэтым сваю пагарду да тых, хто застаўся ў хаце.

Як толькі яна пайшла, жанчыны засмяяліся, загаварылі.

— Але ж і ўчапілася ручкамі ў блузку, — злосна гаварыла Манька.

— А сапла ж, сапла… — казала баба ў кажуху.

— А што я казала, што казала? — штурхала жанчын Тэкля. — Казала, што Стэфка забярэ!

— Дык вы ж самі памаглі ёй, — сказала Ніна.

— Памагла, бо бачыла, што ты за тры кіло ўжо гатова была аддаць. А скулу ёй у бок. Хай дасць усе чатыры!

— А хто ж гэта Стэфка? — зноў спыталася Ніна. Яна цяпер бачыла, што гэту Стэфку не любяць. Але за што? Што яна кепскае зрабіла людзям? Ці не любяць толькі за тое, што Стэфка багатая?

— Дачка аднаго гада. Паліцыянта. І замуж за такога ж гада ідзе. Толькі маладзейшага, — сказала Тэкля.

Ніна раптам збялела. Што ж гэта робіцца… Што яна зрабіла… Гэта маміну блузку цяпер будзе насіць паліцыянтава жонка. Капа… Яе пасаг перайшоў у пасаг паліцыянткі…

— Чаму вы раней не сказалі… — ледзь выгаварыла Ніна. — Ды я б… Дзе яна жыве?.. Я пабягу… адбяру… Я не хачу…

Ніна кінулася шукаць свой жакет. Ткнулася ў адзін кут, у другі. Знайшла, накінула на плечы.

— Куды ты, дурніца! — схапіла яе за руку цётка Ева.

Ніна вырывалася, хацела бегчы на вуліцу, але жанчыны, якія дасюль толькі здзіўлена глядзелі на Ніну, усе разам кінуліся да яе.

— Пачакай, што ты робіш!

— От дурная…

— Адумайся, — загаварылі яны.

Цётка Тэкля, як матка, абняла яе за плечы, павяла да лаўкі.

— Дурная, — гаварыла Тэкля. — А хто ж купіць тваю блузку, калі не якая гадаўка? Чэсны чалавек у вайну не забагацее. А беднаму не да раскошы.

— Але я не хачу… Не хачу, — праз слёзы гаварыла Ніна.

— Хочаш ці не хочаш, а прыйдзецца аддаць, — сказала цётка Ева. — Ды не бядуй вельмі. Ім усё роўна чужое дабро бокам вылезе. А ты радуйся, што прадала.

— Ды і як гэта ты будзеш адбіраць? — зноў гаварыла Тэкля. — Скажаш Стэфцы, што не хочаш аддаваць паліцыянтам? Дык і з вёскі не выйдзеш. Заб'юць дзе-небудзь на дарозе.

Ніна разумела, што жанчыны гавораць праўду. Яна сядзела на лаве з накінутым жакецікам на плячах, уся спустошаная.

— Няўжо вы тут паліцыянтам рады даць не можаце? — сказала нарэшце. — Ці ў вас партызанаў няма?

— Цс-с, дурніца, — сыкнула на яе Тэкля. Скоранька азірнулася, паглядзела на дзядзьку, які увесь гэты час стаяў моўчкі, толькі з цікавасцю сочачы за тым, што рабілася ў хаце.

— Калі ты, несвянцоная костка, каму-небудзь скажаш, што тут было, то ведай… На адным суку з тымі гадамі целяпацца будзеш.

— Цьфу, згары ты, яшчэ страшыць, — плюнуў дзядзька пад ногі. — Па мне што… Брашыце сабе, што хочаце…

І ён завярнуўся, пайшоў, як і Стэфка, бразнуўшы дзвярыма.

— Яшчэ адзін сабака.

— Прыхвасцень, — загаварылі жанчыны.

— Што, можа, і гэта паліцыянт? — спытала Ніна.

— Які ён чорта паліцыянт… Так, да ўласці лізацца любіць.

Нельга сказаць, каб жанчыны зусім супакоілі Ніну. Ёй усё роўна было нядобра. Не пакідала адчуванне, што яна зрабіла нешта кепскае. Але жанчыны пераканалі, што цяпер сапраўды нельга адбіраць рэчы. І што сапраўды купляць дарагое цяпер

могуць толькі гады. Яна сядзела на лаве моўчкі, склаўшы рукі, апусціўшы галаву.

— Давай, дзеўка, канчай свой гандаль, — сказала цётка Ева. — Гавары бабам, колькі хочаш за запалкі, за фарбу, за сахарын.

— Ага, Ніначка.

— Давай, гавары.

— Ды кінь ты маркоціцца — сядзіць, як астатняе ў печ укінуўшы, — раскатурхвалі яе бабы.

— Ну во, я ўзяла два карабкі запалак, пачак фарбы і сахарыну, — паказвала ёй Тэкля, што трымала ў руках. — Колькі за гэта хочаш?

Ніне раптам сорамна стала нешта прасіць, назначаць цану. Нібы яна і сапраўды гандлярка, якая прыехала з горада. Гэтыя жанчыны былі добрыя з ёю. Пасля таго, што тут адбылося, проста нельга было таргавацца з імі.

— Колькі дасцё, — не гледзячы ні на свой тавар, ні на Тэклю, адказала Ніна.

— Ну, а за гэта колькі?

— А за гэта? — пыталіся жанчыны, паказваючы, што яны ўзялі.

— Колькі дасцё…

Цётка Ева, бачачы такую абыякавасць Ніны, гаварыла бабам:

— Вы ёй тлушчам… Патроху, колькі зможаце… Што іншае ёй несці цяжка будзе. Тлушч найлепей…

— Ага, добра…

— Не пакрыўдзім…

— Дзякуй, — гаварылі бабы.

Неўзабаве яны пайшлі, і ў хаце без іх стала ціха і пуста. Ніна сумная сядзела на лаве. Жакет споўз з плячэй і ляжаў тут жа, за ёю.

Цётка Ева ёй нешта гаварыла, але Ніна не слухала. Павячэрала тым, што паставіла на стол цётка, і палезла на печ.

Старалася адагнаць ад сябе думкі, сумненні, старалася заснуць. І хутка сон сапраўды змарыў яе. Яна нібы правалілася ў цёмную прорву.

Прачнулася, калі было ўжо светла. Паварушыла рукою, нагою. Яны ўжо не так балелі. І на сэрцы здалося спакайней. Можа, і праўда нічога такога кепскага яна не зрабіла…

Воля зноў галёкала свае песні. Вера сядзела каля стала, чытала нейкую кніжку. Косця соваўся па хаце. Ад ложка да печы. Нешта калупаўся каля прыпечка і зноў ішоў да ложка.

З двара ўвайшла цётка Ева. Пад пахаю ў яе быў клунак, загорнуты ў белую анучу.

— Во, хадзіла да Стэфкі па тваё сала, — сказала яна Ніне. — Баялася, каб ты не выкінула якога фокусу. Маеш… Чатыры кіло, — паклала яна на лаву клунак.

Смеючыся, цётка пачала расказваць, як давала ёй Стэфка гэтае сала.

— Яна сказала бацьку, што купіла блузку і капу за два кіло, — голасна расказвала цётка. — А яшчэ два кіло — украла… Лазіла ў кубелец, як злодзей…

Гэта навіна развесяліла Ніну.

А днём пачалі прыходзіць бабы, прыносіць плату за астатняе.

Ніна складала сваю выручку ў торбу. Яна ўсё цяжэла і цяжэла.

«Нічога, данясу», — думала Ніна, ёй ужо хацелася скарэй ісці дахаты. Парашыла, што заўтра з самай раніцы і пойдзе. Сказала пра гэта цётцы.

— А мо яшчэ троху адпачыла б, пагуляла б… Ад'елася б крыху, — сказала цётка.

— Няма часу вылежвацца. Дома ж у нас, ведаеце, зусім пуста. Ды мо хутка і яшчэ раз прыйду. Жыць жа неяк трэба… Мо прыйдзем з мамаю, калі Мішка ачуняе.

— Ну, як ведаеш, — адказала цётка.

Рэшту дня і вечар Ніна ляжала на печы, глядзела на ўсё, што рабілася ў хаце.

Волечка гуляла, закручвала ў анучу палена — рабіла ляльку — і ўсё спявала. Косця соваўся па хаце, і калі лез куды не трэба, Воля голасна крычала на яго:

— Куды палез, дурань! Не чапай! Адыдзі!

Вера зноў недзе бегала па сяле, а цётка рабіла і рабіла работу.

Вечарам яна пачала перавязваць сваю нагу. І Ніна ўбачыла, якая яна чырвоная і тоўстая, уся ў больках.

— І што гэта, яе нельга вылечыць? — спыталася Ніна.

— Ах, Ніначка, што я толькі з ёю не рабіла. Перад вайною, праўда, ужо трохі лепш было. Доктар у Плуговічах быў харошы, нейкай добрай мазі даў. Але таго доктара немцы забілі. Ён яўрэй быў. А цяпер дзе ты яе лячыць будзеш. Хіба ў шаптух. Але я шаптухам не веру.

Цётка памачыла анучку ў нейкі навар, абкруціла ёю нагу.

— Вось, зелле прыкладваю. Ды слаба памагае. — Перавязаўшы нагу, яна пачала ўкладваць дзяцей.

Косцю падвяла да цэбра, цёплаю вадою памыла яму твар, замурзаны ў нейкую сажу. Косця паслухмяна падстаўляў твар пад мокрую матчыну руку.

— Во, і чысценькі будзеш, прыгожанькі, — прыгаворвала цётка. А памыўшы, прычасала белыя хлопчыкавы валасы тым самым зламаным грабянцом, якім прычэсвалася Ніна. Пацалавала хлопчыка.

Ніне было дзіўна глядзець, як ласкава абыходзіцца з хлопчыкам цётка. Значыцца, яна яго ўсё ж такі любіць, шкадуе.

Пасля дзеці паснулі, а Ніна ляжала на печы, глядзела, як цётка прала кудзелю. Слініла пальцы, накручвала нітку на верацяно.

— Да вайны ўжо ва ўсім крамным хадзілі, — сказала цётка. — А цяпер зноў — і кросны, і палотны. І да лучыны мо яшчэ вернемся… Газу ж вельмі цяжка даставаць.

— І ў нас, у горадзе, таксама ўсё па-дапатопнаму пайшло, — сказала Ніна. — Ні трамваяў, ні электрыкі. Кіно толькі для немцаў. Школ няма. Гэта ж нашаму Віцю летась у першы клас трэба было ісці…

Цётка перастала прасці. Задумалася аб нечым. Пасля сказала:

— І Верка ж вунь па сяле бегае… А ёй жа таксама вучыцца трэба…

## 3

Яшчэ не развіднела, калі Ніна пакідала вёску. Знарок выйшла так рана, каб болей было светлага дня на дарогу. Мяшок за плячыма даволі ёмкі. Кілаграмаў з сем, а мо і паўпуда. Яшчэ цётка Ева дала кавалак здору. Ніна не хацела браць, бо тады выходзіла, што цётцы яна дала не гасцінца, а таксама прадала запалкі і фарбу. І Ніна адмаўлялася, але цётка сілаю ўпхнула здор у торбу.

Калі пакідала вёску, у хатах яшчэ гарэлі агні, з каміноў віліся дымкі — светлыя на цёмным небе. Рыкалі ў хлявах каровы, рыпелі жураўлі калодзежаў.

Пачало світаць, калі падыходзіла ўжо да лесу. Ён стаяў, прыпушаны інеем, глыбока ў снезе. І снег быў белы, як крухмал, крыху падсінены світаннем.

Дарогу ў лесе абступалі елкі. Галіны іх аж гнуліся долу — так многа было снегу на іх. Снег часам ападаў, сыпаўся з галін, церусіўся дробным пылам. І вакол была цішыня. Цішыня і застыласць.

Ніна настроілася на доўгую дарогу, ведала, што ёй будзе нялёгка, але пакуль ішлося нішто, нават любавалася тым, што бачыла.

Аднак скора яна пачала адчуваць, што лямкі торбы ўразаюцца ў плечы. «Цяжкая, халера», — падумала яна. Але ў тым, што

торба цяжкая, была і радасць. Яна добра намяняла. Колькі Ніна помніць, мама ніколі гэтулькі не прыносіла. Ды аднаго толькі сала. Колькі можна будзе купіць за яго бульбы! Шкада толькі, што частку прыйдзецца прадаць на абарот.

Стамляцца было рана. Уся дарога наперадзе, і Ніна ямчэй ускінула торбу, падклала пад лямкі рукі ў рукавіцах. Так прайшла яшчэ кіламетры з два. І раптам нібы выцялі яе, нібы нешта звалілася ёй на плечы — торба ўраз пацяжэла, ногі аслаблі. Зрабілася вельмі цяжка ісці.

«І што ж такое? — думала Ніна. — Чаму ж я так скора стамілася? Тут жа і паўпуда няма… Не такі ж гэта вялікі цяжар…»

Яна пайшла павальней, стараючыся раўней дыхаць, але ўсё роўна адчувала, што з кожным крокам слабне.

«Ці гэта ад таго, што перахварэла ў цёткі? — думала яна. — Нудзіла ж тады, і не хацелася есці. Гэта ж была, мусіць, хвароба. Ці не адпачыла ад першай дарогі?»

Яна спынілася, стала. Пастаяла з хвілінку, адпачываючы, але гэта прынесла мала палёгкі.

Ніна зноў пайшла. Ішла, ужо не бачачы перад сабою ніякага зімовага хараства, бачыла толькі дарогу, доўгую белую дарогу, якую яна павінна адужаць, прайсці, перабраць сваімі ўласнымі нагамі. Гэта дарога была цяпер яе ворагам. Яна адбірала сілы, прыносіла пакуты. Торба цяпер здавалася нашмат цяжэйшай, чым у пачатку. Цяжкае было ўсё — і ўласныя плечы, і рукі, і нават вопратка. Усё цягнула ўніз, адбірала сілы.

Яна зусім змаглася. Ужо не стала, а лягла. Лягла на снег пры дарозе. Усім целам адчувала яго — мулкі і цвёрды і, праз жакет чутно, халодны. Непрывычна было бачыць яго тут — зусім белы, перад самымі вачыма. І лес перакуліўся над ёю. Высока ўзнімаліся на доўгіх ствалах заснежаныя вяршаліны дрэў.

Яна адпачывала. «Вось так паляжаць з гадзіну, мо і адышла б», — падумала Ніна.

Але доўга ляжаць было нельга. Яна магла прастудзіцца. Ды і час ішоў. Не дабрацца ёй сёння дахаты, калі будзе падоўгу адпачываць.

Ніна прымусіла сябе падняцца. Пасля адпачынку некаторы час ішлося лягчэй, але хутка зноў заняло дыханне. Зноў зрабілася балюча грудзям. Кроў, як малатком, стукала ў скроні. Перад вачыма паплылі сінія, жоўтыя кругі.

Яна зноў лягла. Зноў каля яе шчакі быў снег, а над ёю — неба з вяршалінамі хвой. Вакол стаяла глыбокая цішыня. Ні гуку, ні шораху. Ніна ведала, што далёка вакол не было ні жывой ча-

лавечай душы. І каб канала Ніна, каб заходзілася — ніхто б не прыйшоў ёй на дапамогу.

Яна цяпер ішла, адпачываючы праз кожныя метраў дзвесце. Паляжыць, аддыхаецца — і зноў ідзе. Зноў паляжыць, зноў узнімаецца.

Так выйшла яна з лесу. Так перайшла поле, дапаўзла да Плуговіч.

У Плуговічах села на лавачку каля нечай хаты, скінула торбу, паклала яе побач, прыхінулася спіною да сцяны.

Што ж рабіць далей? Калі ледзьве дайшла да Плуговіч, то як дабрацца да шашы? Ёй абы толькі да шашы, да паваროткі, якая вядзе на Мінск. Там ходзяць машыны, там бы яна зноў пад'ехала. Але як да шашы дабрацца? Яна ведала, што не дойдзе. Сілы ў яе не было. Паплесціся так, як плялася да Плуговіч? Ноч заспее ў лесе, а там ні хаты, ні вёскі блізка. Начаваць у Плуговічах? Адпачыць? А заўтра, з новымі сіламі?.. Не, яна не можа так забавіцца ў дарозе. Дома ж чакаюць… Ды і прасіцца ў чужых людзей… Прасіцца начаваць, адышоўшы толькі сем вёрст ад вёскі…

І яна парашыла ісці. Дайсці хоць да тракту. А можа, ёй пашанцуе? А можа, хто будзе ехаць і падвязе? Хоць і ведала, што тракт гэты глухі, што па ім мала ездзяць, але можа… можа…

Яна зноў ускінула мяшок на спіну. Пайшла, зноў часта адпачываючы, намячаючы сабе, колькі прайсці да адпачынку.

«Вунь да той хаты дайду, а там пастаю», — гаварыла сама сабе. «Вунь да таго слупка трэба дайсці», — намячала сабе пасля адпачынку.

Каля апошняй хаты, за якой пачынаўся тракт, спынілася. Стала каля дарогі, трымаючы за лямку мяшок. Як дзіцяза руку.

Паўз яе прайшла цётка ў кажусе, у валёнках, з нейкім слоікам у руках. Прабег кудлаты сабака. Над полем кружылася варона, каркала. Села чорнаю плямаю на белы снег.

Ніна пазайздросціла і гэтай цётцы, і гэтаму сабаку, і вароне. Ім добра… Ім лёгка… Яны дома…

Змерзла стоячы. Стукала нагою аб нагу. Хукала на рукі. Ужо не чакала ніякага цуду. Стаяла — так сабе. Бо што было рабіць?

І тут убачыла каня, запрэжанага у санкі, які рухава бег з мястэчка. У санках сядзеў мужчына, паганяў каня ляйчынаю.

Ніна падалася да фурманкі.

— Дзядзечка, мо падвезяце? — умольна паглядзела на чалавека ў суконнай світцы з чорным аўчынным каўняром.

Дзядзька спыніў каня.

— Садзіцеся, — сказаў дабрадушна.

Ніна разам з мяшком плюхнулася на салому, і конік адразу зноў пабег, раскідаючы капытамі снег.

— Далёка йдзяце? — спытаўся дзядзька.

— Мне да Валяр’янаў, — адказала Ніна. — Там я на машыне пад’еду. А цяпер каб да Валяр’янаў.

— Да саміх Валяр’янаў то я не еду. Вярсты тры прыйдзецца вам прайсці, — сказаў дзядзька.

— О, тры вярсты — гэта нічога. Тры вярсты я дайду. А так — стамілася. Торба цяжкая, — апраўдвалася Ніна.

Дзядзька паганяў каня. Нокаў на яго, цмокаў, хоць конік і так бег даволі шпарка. Ніна не верыла свайму шчасцю. Ёй успомніліся прыказкі, якія любіла гаварыць мама: «Бедны — ох, ох, а за бедным Бог». Альбо: «Даў Бог дзень, дасць Бог і ежу». Мама, канечне, не верыла ў Бога. Не хрысціла нікога з дзяцей, нават старэйшую, яе, Ніну. А тады, як нарадзілася Ніна, бацькі яшчэ часта хрысцілі дзяцей. Мама так гаварыла, бо верыла, што пакуль чалавек жывы, дык заўсёды нешта прыдумае, каб выбавіцца з бяды. Верыла і ў выпадак, які ў цяжкую хвіліну часта прыходзіць на выручку. У іхнім жыцці было шмат такіх выпадкаў. Бывае — ну, ні скарынкі хлеба, ні жмені мукі, хоць лажыся ды памірай, а тут возьме ды нешта падвернецца, і зноў пад’елі. Адным словам, маміны прыказкі гаварылі аб тым, што чалавека ў цяжкі момант часта выручае выпадак. Вось і цяпер, ці не зжаліўся той выпадак над Нінаю? Ці не паслаў ёй рудога коніка? Ох, конік, конік!

Дзядзька распытаў Ніну, адкуль яна, чаго сюды прыходзіла, а спатоліўшы цікаўнасць, адвярнуўся, наставіў каўнер, прыхіліўся да біла.

І Ніна шчыльней захінула свой жакет. Прыкрыла ногі саломаю, узлакацілася на сваю торбу.

Адпачыўшы ў санках, тры вярсты да шашы Ніна адолела лягчэй, чым тую дарогу да Плуговіч. Хоць усё-такі разы два спынялася. Ела снег, выграбаючы чысцейшы каля дарогі. Мучыла смага.

Калі выйшла на шашу, здалося, што яна ўжо дома. Самае цяжкое — ззаду. Цяпер трэба толькі пастаяць каля дарогі, пагаласаваць. Калі пашанцуе, гадзіны праз дзве-тры можа быць у горадзе.

Яна перайшла на другі бок шашы. Прыхінулася спінаю з торбаю да слупка, які стаяў каля дарогі, пачала ўглядацца ў далячынь, чакаючы машыны.

Як на злосць, шаша была пустая. Нібы вымерла.

Не шанцавала Ніне. І ўсё ж яна не вельмі турбавалася. Не магла і падумаць, што спадарожнай машыны ёй не трапіцца. Шаша звычайна гула з ранку і да вечара. Ніна і цяпер верыла, што раней ці пазней машына прыедзе. Што нейкая возьме яе. Верыла ў гэта, бо ведала, што інакш ёй да горада не дабрацца.

Нарэшце далёка, аж на гарызонце, з'явілася жывая кропка. Ніна з надзеяй пачала чакаць. Нават адышла ад слупка, і мяшок зноў абвіс на спіне цяжкім грузам.

Машына ехала доўга, То знікала за ўзгоркамі, то выпаўзала на іх. Вось ужо добра відаць крыты брызентам верх. Ніна падняла руку. Але машына, не збаўляючы ходу, пранеслася міма. Толькі гар бензіну з хвіліну вісеў над шашою, пакуль і яго не разагнаў вецер.

Праз некалькі хвілін праехала легкавушка. Тут Ніна нават і не галасавала. У легкавых машынах ездзяць афіцэры. Не будуць жа яны падбіраць людзей на дарогах. Ды і сама Ніна не вельмі хацела ў іх кампанію.

Машыны пачалі праязджаць часцей. То з грузам у кузаве, то з брызентавымі будкамі праносіліся яны па шашы. І ні адна з тых, якім галасавала Ніна, не спынілася. Ніна з крыўдай і зайздрасцю пазірала ім услед. Уяўляла, як гэтыя машыны будуць уязджаць у горад, ад якога яшчэ так далёка яна і да якога без іх, без машын, ёй не дабрацца.

Неба пачало шарэць. Дзень канчаўся. Значыцца, зноў у дарозе яе заспее ноч. Падступала трывога: што ж яна будзе рабіць?

З-за ўзгорка паказалася яшчэ адна машына. Ніна ўжо не верыла, што яна спыніцца. Механічна падняла руку. І раптам машына стала.

Ніна бягом кінулася да яе, баючыся паверыць удачы.

У кабіне машыны сядзела двое немцаў у зялёных шынялях, у цёплых шапках. Адзін за рулём, другі каля яго з цыгарэтаю ў зубах. Яны абодва з вясёлымі ўсмешкамі ўставіліся на Ніну.

— Маслё, яйкі? — спытаўся той, што быў за рулём.

— Маслё, яйкі нікс, — падрабляючыся пад іх гаворку, адказала Ніна. — Маркі… Маркі, во, — пастукала яна па жакеце, дзе ў яе была кішэня.

— Э-э, маркі… Маркі шайзэ, — сказаў другі немец. — Маслё, яйкі, ко-ко-ко.

Ён нахіліўся блізка да Ніны, і тая пачула, што ад яго моцна пахне гарэлкаю. «П'яныя», — падумала Ніна.

— Але ў мяне няма яйкаў, — з роспаччу сказала яна. — Каб былі — аддала б, абы давезлі…

Немцы нешта загергеталі паміж сабою, пасля той, што быў за рулём, кіўнуў Ніне, паказаў на кузаў.

Другі раз Ніну не трэба было прасіць. Яна скоранька аббегла машыну, спрытна шмыганула пад брызент. Паехала.

Цяпер гадзіны дзве, не больш, — і яна ў горадзе. А там і дома. Маці недзе зачакалася. Недзе непакоіцца. А ў яе ўсё добра. Прыедзе і прывязе з паўпуда сала. Во будзе радасці ў хаце!

Пад брызентам было цёмна, і спачатку Ніна не магла разгледзець, што тут, у кузаве. Пасля вочы крыху прывыклі, і яна ўбачыла скрынкі. На іх было нешта напісана па-нямецку. Ля самай кабіны ляжаў нейкі груд. Адзенне, ці што! Ніна падпаўзла да гэтага груда. Салдацкія шынялі! Во раскоша! Яна зараз захутаецца ў іх і будзе сядзець як пані.

Яна зняла з плячэй торбу, паклала каля сябе. Шынялі былі не новыя, ад іх пахла цвіллю, але Ніна ўсцягнула адзін на плечы, другім укрыла ногі. Прылягла, узлакаціўшыся на мех.

Шэрыя праменьчыкі святла, якія прабіваліся пад брызент, гаслі. На вуліцы цямнела. Але цяпер Ніне нічога не было страшна. Яна едзе! Яе падкідае на кучы шынялёў! Ёй цёпла! Яна скора будзе дома! Што гэта? Зноў той выпадак, які ў цяжкую хвіліну прыходзіць на выручку? Зноў тое: «Бедны — ох, ох, а за бедным Бог»? Ну а як жа інакш растлумачыць гэтую машыну з шынялямі!

Яе пачало хіліць на сон, і яна скора задрамала, а пасля, мусіць, і заснула, бо пачалі нават сніцца сны. Нібы яна ў школе. Настаўнік выклікаў яе да дошкі, а яна не вывучыла ўрока. І ёй сорамна. Яна хоча апраўдацца, растлумачыць, чаму не вывучыла. І не можа ўспомніць, чаму не вывучыла.

Пасля нібы яна ідзе па горадзе. А горад мёртвы. Вакол пустыя абгарэлыя дамы. На вуліцах — адзенне ў клунках. Стаіць швейная машына. Ходзіць белая свіння з конскаю галавой. І нідзе ні душы, ні чалавека. Ніне робіцца страшна, яна хоча некага паклікаць, адкрывае рот, хоча закрычаць — і не можа, не мае голасу. Хоча пабегчы адсюль, уцячы, але ногі падгінаюцца, не ідуць. Яна зробіць крок — і падае. Устае, хоча яшчэ зрабіць крок — і зноў падае.

Калі машыну падкідала асабліва моцна, яна прачыналася. Абмацвала рукамі мяшок — ці тут ён. Мяшок быў тут, і гэта супакойвала. Дотык да мяшка быў прыемны. Яна церла рукамі вочы, адганяла сон. Але вурчанне машыны, пагойдванне зноў закалыхвалі, яна зноў засынала.

Прачнулася зусім ад таго, што машына не ехала. Стаяла. Каля яе тупалі, голасна гаварылі па-нямецку. Адзін голас, няйнакш начальніцкі, на некага сварыўся.

Ніна выбралася з шынялёў, узяла ў рукі свой мяшок. Сядзела на шынялях, пазірала на дзверцы ў брызенце і не ведала, што ёй лепш рабіць — ці вылазіць, ці пакуль сядзець ціха.

«Дзе яны? Што там такое? — думала яна. — Спыніліся на дарозе ці прыехалі ўжо?»

Цяжкія крокі затупалі зусім блізка. Нехта адхінуў брызент. Ніліны вочы разанула святло ліхтарыка. Яна міжвольна падняла руку, захінула рукавом твар.

Той, хто трымаў ліхтарык, убачыўшы Ніну, пачаў лаяцца яшчэ мацней. Гэта быў той самы начальніцкі голас, які Ніна пачула адразу, як прачнулася.

— Р-раўз! Вэк! Доннар вэтар! — крычаў немец на Ніну. — Партызан?!

Цягнучы за сабою торбу, Ніна падалася да дзверцаў у брызенце. Пачала злазіць. Пакуль яна злазіла, немец усё лаяўся.

Сшорхлымі ад нязручнага ляжання нагамі Ніна ступіла на дарогу. Машына стаяла ля самага ўезду ў горад. Ён цёмнаю масаю ўзвышаўся перад імі. Без адзінага агеньчыка.

Каля машыны хадзіла двое немцаў з аўтаматамі на грудзях. Шафёр і той, другі, што ехаў з ім у кабіне, стаялі каля машыны навыцяжку.

Немец з ліхтарыкам штурхануў Ніну ў спіну, загадваючы ісці наперад. Падштурхнуў да шафёра і да таго, другога немца. Тыкаў пальцам на Ніну, трос кулаком перад тварамі немцаў і ўсё лаяўся, крычаў на іх. І часта чуваць былі словы «шнапс» і «партызан».

Ніна здагадалася, што гэта, мусіць, пост пры ўездзе ў горад затрымаў іх машыну. Што афіцэр сварыцца на немцаў за тое, што яны п’яныя і што везлі Ніну. Так баяцца партызан, што кожны наш чалавек ім здаецца партызанам.

Ужо даўно сцямнела, але вакол быў белы снег і ў небе халодным сярпом застыў месяц. І ў гэтым месячным святле, у святле ад снегу Ніна бачыла і спалоханыя твары немцаў, якія везлі яе, і злосны твар афіцэра, і застылыя твары двух другіх немцаў, з аўтаматамі, гатовых выканаць любы загад.

Афіцэр усё лаяўся, усё трос кулаком. Пасля нібы крыху адышоў. Скамандаваў нешта немцам, якія везлі яе. Тыя скоранька палезлі ў кабіну. Завуркатаў матор, машына паехала і хутка знікла ў цёмнай гарадской вуліцы.

Ніна таксама хацела пайсці, але немец схапіў яе за руку.

— Гальт! Партызан? Дынаміт? — тузануў ён за торбу.

Яна спачатку не зразумела, а пасля засмяялася.

— Нікс дынаміт… Тут эсэн… Дома кіндар малыя, — паказала яна рукою на горад.

Немец рвануў у яе з рук торбу, кінуў тым дваім, з аўтаматамі. Адзін з іх пачаў развязваць.

— Нікс дынаміт, — гаварыла Ніна, падбягаючы да салдат. — Тут эсэн, эсэн, — паўтарала яна.

Немец доўга калупаўся, развязваючы вяроўку. Ніна з трывогаю сачыла за яго вялікімі рукамі. Нарэшце развязаў, засунуў руку ў мяшок. Выцягнуў адтуль кавалак здору, які зверху паклала цётка Ева.

— О, шпэк! — весела сказаў ён.

Афіцэр, які дагэтуль стаяў крыху ўбаку, падышоў да іх, пасвяціў ліхтарыкам у торбу.

— Шпэк, — пацвердзіў і ён, пасля ўсміхнуўся, нешта сказаў таму, які развязваў. І той, які развязваў, засмяяўся, нешта весела загаварыў да афіцэра.

У Ніны крышку адлягло ад сэрца. Смяюцца… Можа, не зробяць ёй нічога благога…

Салдат, які трымаў торбу, павярнуўся да яе.

— Раўз! Вэк! Бістро! — махнуў ён рукою перад яе тварам.

Ніна хацела ўзяць свой мяшок, каб разам з ім рабіць гэтае «раўз» і «вэк», значэнне якіх яна добра разумела, але немец адсунуў мяшок сабе за спіну, а Ніну штурхнуў у грудзі.

Цяпер яна зразумела ўсё. Немцы хочуць забраць яе торбу. А яе адпускаюць. Гоняць. У яе пацямнела ў вачах. Зрабілася млосна. Але толькі на міг. Яна тут жа, як кошка, кінулася на сваю торбу, упілася ў яе абедзвюма рукамі.

— Там дзеці, кіндар, — захлынаючыся словамі, загаварыла яна. — Аддайце — там дзеці, кіндар…

Але немец адной рукою цягнуў торбу да сябе, а другою піхаў Ніну ў грудзі.

— Вэк! Раўз! — злосна гаварыў ён.

— Што вы, пан… Я не магу аддаць… Не магу… пусціце, — у адчаі гаварыла Ніна.

Яна называла немца панам, прасіла яго. Ёй самой было гідка, праціўна, што яна так просіць, што гаворыць на немца «пан». Але як жа інакш выбавіць торбу з іхніх рук?

Яна з усяе сілы трымала мяшок. Баялася і на хвіліну яго выпусціць. Думала, што калі выпусціць хоць на міг, то ўсё прапала.

— Доннар вэтар! — лаяўся немец. Ён стараўся адарваць Нініны рукі ад торбы, але яна трымала яе з усяе сілы.

Немец тузануў мяшок, хочучы вырваць яго ў Ніны, але яна матлянулася разам з мяшком, не выпускаючы яго.

— Сакрамэнта! — вылаяўся немец і схапіўся за аўтамат. Ён нешта злосна гаварыў. Ніна зразумела толькі адно слова — «шыссэн», гэта значыць страляць. Немец палохаў яе, што застрэліць.

— Ну і страляй, сволач, але не аддам, — раптам у твар яму крыкнула Ніна.

І сапраўды, ні аўтамат, ні пагроза немца застрэліць яе не спалохалі Ніну. Самае страшнае для яе цяпер — гэта калі адбяруць торбу. Яна і ўявіць сабе не магла, што вось так, без нічога, з'явіцца дахаты.

Афіцэр, гледзячы, як тузаюцца і сварацца немец з Нінаю, раптам зарагатаў, сказаў нешта другому немцу. Той не вельмі ахвотна падышоў да іх, таксама ўзяўся за торбу. Немцы ўдвух пацягнулі мяшок і Ніну, якая не выпускала яго. Яны цягнулі яе некуды ўбок ад дарогі. Цягнулі, грузнучы ў снезе, і Ніна цягнулася за імі. Яна ўпала, але торбы не выпусціла. Снег набіваўся ў рукавы, раставаў на твары. Яна захлыналася і снегам, і слязьмі і крычала:

— Памажыце, людзі! Памажыце! Гады, сволачы… Не аддам… Не аддам…

Яна адчувала, што пальцы яе слабнуць. Яшчэ трохі — і яна не ўтрымае, выпусціць. І гэта ёй было страшней за ўсё. Яна збірала ўсе сілы. Усе сілы аддавала рукам. Але яны ўсё роўна слабелі.

А немцы цягнулі, цягнулі яе разам з торбаю. Яшчэ міг. Яшчэ адзін. Ніна адчувае, што торба плыве ў яе з рук. Выцякае. Апошняе намаганне — сціснуць пальцы мацней. Але сілы ўсе. Рукі апусцелі.

Яна ўпала тварам у снег і загаласіла. Ёй здавалася, што яна галосіць моцна, крычыць на ўвесь горад, на ўвесь свет. Але гэта быў слабы стогн зняможанай, даведзенай да адчаю істоты. Такога болю, такой крыўды Ніна яшчэ ніколі ў жыцці не адчувала. Не ведала, што яны, такія, ёсць на свеце.

## ХАЛОДНЫ МАЙ

### 1

У чытальнай зале бібліятэкі імя Леніна, за шырокімі сталамі, схіліўшыся над кнігамі і канспектамі, сядзелі студэнты. Кожны з іх грыз свой кавалак граніту (маецца на ўвазе граніт навукі) і не перашкаджаў грызці іншаму. У вялікай зале стаяла цішыня, якую парушалі хіба шоргат старонкі, стрыманы кашаль, асцярожныя крокі тых, што заходзілі альбо выходзілі. Размаўляць, нават ціхенька, не дазвалялася, на тых, хто пачынаў шаптацца, з прыкрасцю азіраліся, і яны сціхалі, ішлі вырашаць свае праблемы ў калідор. Здавалася, у душнай вялізнай зале ў паветры луналі, штурхаліся, падміргвалі адно аднаму альбо бязгучна сварыліся тэорыі, формулы, гіпотэзы, варыянты, паэтычныя вобразы, прыносячы асалоду ад працэсу пазнання і разам з тым дурманячы галовы.

Ніна Давыдоўская, студэнтка трэцяга курса філфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, адвяла стомленыя вочы ад кніжнай старонкі, глянула перад сабою і спаткала сінявокі позірк.

Ніна мела тут, у чытальні, сваё месца — за доўгім сталом пры сцяне ў куточку, каля зялёнага парасончыка настольнай лямпы. Яна старалася раней прыйсці ў бібліятэку, каб заняць гэтае месца, пакуль яно вольнае, бо ў гэтым куточку ёй чыталася, вучылася неяк спарней, не адцягвалася ўвага на пабочнае.

Сінія вочы пад стрэшкаю саламяных валасоў, расчэсаных на касы прабор, пакінулі Ніну абыякавай. Ну паглядзеў хлопец — і паглядзеў, стаміўся ад чытання, захацеў даць адпачынак зроку, вось і ўставіўся на першае, што трапіла на вочы. Яна зноў нахілілася над старонкаю — рыхтавалася здаваць замежную літаратуру дзевятнаццатага стагоддзя, выкладчык патрабаваў ведання тэкстаў, мог спытацца на экзамене: а як звалі мужа мадам Бавары? Альбо: а як звалі кузэна Яўгеніі Грандэ? І калі студэнт не ведаў, не памятаў, мог знізіць ацэнку. Затое атрымліваў асалоду, калі хто адказваў на такія пытанні, і мог паставіць пяцёрку, калі той не ведаў нават чаго іншага, больш сур’ёзнага. Студэнты лічылі гэта самавольствам, аднак калі хто хацеў атрымаць высокі бал, то мусіў чытаць і запамінаць. За высокімі адзнакамі Ніна не гналася, але выходзіла само сабою, што ў заліковай яе кніжцы стаяла шмат пяцёрак, ды вучыцца, чытаць ёй было проста цікава, а маладая памяць утрымлівала і імёны, і прозвішчы.

Яна зачыталася, доўга не ўзнімала галавы, а калі падняла вочы — зноў спаткалася з тым самым позіркам.

Гэты раз позірк у ёй нешта зачапіў. Яна сама не магла разабрацца, што выклікаў: ці няёмкасць, ці незразумелую трывогу, ці нават раздражненне. Апусціла галаву і зноў пачала чытаць. Але нешта ўжо быццам перашкаджала, замінала, муляла. Ды зноў учыталася, і тое, што муляла, замінала, адышло. З болем, з жахам сачыла яна, як мяккая, светлая, чыстая Яўгенія Грандэ ператваралася ў халодную, жорсткую, каменную жанчыну, як зло спараджала зло. Можа, некалі і стары Грандэ, яе бацька, быў таксама ашуканы, абражаны людзьмі, можа, і яго пераканалі ў вялікай сіле золата, якая над усім, і зрабілі з добрага хлопца сквапнага павука. Бальзак пра гэта, праўда, нічога не піша, але чытач можа падумаць і так, бо і той самы кузэн Яўгеніі, Шарль, змоладу быў чысты, добры, хаця і распешчаны, а што зрабіла з яго жыццё?

Выдатна разумела Ніна, што царства грошай, золата існуе па той бок мяжы, а ў нас існавала да рэвалюцыі, сама яна жыла сярод людзей, у руках якіх капейка моцна не затрымлівалася, як трапляла ў рукі, так і сплывала з рук, на тыя рублі і капейкі людзі жылі, мянялі іх на хлеб, на крупы і бульбу, на чаравікі, каб не хадзіць босаму, на спадніцу і блузку, каб прыкрыць цела. Улады над Нінаю грошы не мелі, мела нешта іншае, што — і сказаць не магла б. Вось нейкая сіла прымусіла яе пакінуць вёску, цётчыну сям'ю і паехаць у горад, паступіць ва ўніверсітэт. Нейкая сіла прымушае яе нават у нядзелю ўставаць раненька, раней за ўсіх у пакоі, бегчы ў чытальню, абкладацца кнігамі. Мусіць, каб у яе адабралі магчымасць вучыцца, чытаць, то яна і жыць не змагла б.

Калі зноў падняла галаву, то ўбачыла, што шмат якія сталы пустыя ўжо, настольныя лямпы патушаныя, толькі дзе-нідзе горбяцца плечы. І тое месца, дзе сядзеў сінявокі, пуставала. Ніна глянула на гадзіннік. Дзевяць гадзін. Мусібыць, і ёй пара.

Яна здала кнігі старой стомленай бібліятэкарцы, у гардэробе апранула паліто, берэцік, выйшла на вуліцу. Лёгка дыхнулася свежым марозным паветрам, цемната вечара падсвечвалася белым снегам, ліхтарамі, што зрэдку гарэлі на вуліцы, электрычнасцю ў вокнах будынкаў. Горад амаль ніколі не агортвае поўная цемната, нават глыбокай ноччу калышацца над ім светлаваты німб.

Пасля доўгага сядзення ў бібліятэцы ішлося лёгка, спорна, прахожых мала, абапал вуліцы — каробкі абгарэлых дамоў з

пустымі вачніцамі вокнаў, дзе-нідзе дашчаныя агароджы — там пачынаюць аднаўляць будынкі. Гэтаю дарогаю Ніна ходзіць з бібліятэкі амаль кожны дзень, па вуліцы Карла Маркса ўніз, да ўніверсітэцкага гарадка, дзе ў нядаўна адбудаваным корпусе хімфака размяшчаецца іхні інтэрнат.

Ужо блізка каля інтэрната, ля драўлянай агароджы, якая пахла свежасцю, смалою, убачыла дошку. Даволі вялікая новая дошка валялася проста так, ляжала, і ўсё сабе. Гэта было падобна на тое, каб пад нагамі валяліся грошы — трыццатка альбо пяцьдзясят рублёў, і ўсе б ішлі і ніхто не бачыў, а Ніна падышла і ўбачыла.

Дровы — дошкі, слупкі, трэскі патрэбны былі іхняму пакою не менш, чым грошы. Ідучы з заняткаў, дзяўчаты часта вечарамі залазілі за тыя агароджы і валаклі з будаўніцтва ўсё, што магло гарэць. Дзяўчаты разумелі, што гэта называецца красці, але што рабіць? Вялізная, абмазаная глінаю пліта, што займала ледзь не палову пакоя, патрабавала дроў. На гэтай пліце варылі бульбу, кашу, гатавалі чай, і часта вечарамі ў пакоі шоргала піла, стукала сякера — вялася нарыхтоўка паліва.

Ніна стаяла, глядзела на дошку, не верачы, што яна тут не патрэбная нікому і што яе можна ўзяць. Мусібыць, нехта валок, ды яго спудзілі, кінуў. Не забяры такое дабро — іншы падніме. Агледзелася — вуліца амаль пустая, толькі недзе ў раёне Ленінскай к іваюцца дзве постаці. Падчапіла дошку за канец. Свежая, з пахам хвоі, хоць і не вельмі доўгая, дошка аказалася цяжкою, валачы яе было нялёгка, але натхняла прадчуванне радасці, якую прынясе ў пакой.

Аднак подзвігу яе не ацанілі, ніхто не крыкнуў «ура!», кожная поркалася ў сваім кутку. І потым — такі-то подзвіг, штодня нехта валочыць дровы, сёння ты, заўтра я. Распілуем, пасячэм, будзе на чым кашу варыць.

Жыло ў пакоі іх пятнаццаць. Агульнай тэрыторыяй лічылася месца, дзе стаяў круглы стол, пакрыты цыратаю, і пліта, на якой смажылі, варылі. Але кожная дзяўчына мела і свой куток, дзе месціліся яе ложак і тумбачка на дзвюх, з суседкаю. У гэтую плошчу ўваходзіў і кавалак сцяны над ложкам, дзе на цвіку, укрыты прасціною, вісеў гардэроб. Амаль кожнай дзяўчыне на яе гардэроб хапала адной вешалкі, каторая мела дзве — лічылася багатаю. Багатымі лічыліся Окця Саковіч з біяфака і Валя Біцяй з журфака. Імя Окця поўнасцю пісалася Акцябрына, такое імя далі ёй у гонар Кастрычніцкай (Октябрьской) рэвалюцыі. Бацька яе быў першы сакратар райкома недзе на Гродзеншчыне, часта

прыязджаў у Мінск на машыне і прывозіў дачцэ прадукты, пакідаў грошы.

Валя Біцяй пра сваіх бацькоў не расказвае, але мае і залаты пярсцёнак, і залатыя завушніцы, не кажучы ўжо пра сукенкі ды паліто. Абедзве яны не жылі ў акупацыі, у Беларусь вярнуліся з эвакуацыі, пасля яе вызвалення, і крыху пагардліва ставяцца да ўсёй большасці дзяўчат, што жылі «пад немцамі», часам гэтая тэма выклікае ў пакоі бурныя спрэчкі.

У Валінай і Окцінай тумбачках нават у самы цяжкі, сорак шосты год не выводзіліся сала, кілбасы і хлеб. Хлеб цяпер не выводзіцца і ў Ніны, выручыла рэформа мінулага, сорак сёмага года. Пра рэформу гаварылі, яе чакалі, а Ніна ніяк не магла паверыць, што надыдзе дзень, і можна будзе зайсці ў магазін і без усялякіх картак купіць цэлы бохан хлеба. А захочаш, то і два. Не верылася, што хопіць па бохану ўсім, усе былі галодныя, усе хацелі хлеба.

Але пасля рэформы магазіны адчынілі свае дзверы і пачалі прадаваць хлеб. І ўсім хапіла. І Ніна першы раз спатоліла голад. Першы раз за шмат гадоў уволю пад’ела хлеба.

Яна баялася, што гэта на дзень, на два, што хутка апусцеюць паліцы, з’ядуць людзі хлеб. Але паліцы не пусцелі, наадварот, з’явіліся батоны, з’явілася сітніца. Надышоў сорак восьмы год, а паліцы не пусцелі, так што цяпер можна жыць.

Ніна пакіравалася на сваю тэрыторыю, на хаду выціраючы з рук смалу, якой набралася ад дошкі. Паклала на ложак, засцелены казённаю, зялёнаю ў клеткі, коўдраю, сваю сумачку, выняла з-пад падушкі ручнік, з падаконніка ўзяла жоўтую бляшаную мыльніцу з ружовым кавалачкам сунічнага мыла, пайшла ўмывацца.

Вярнулася са свежым, ружовым ад умывання тварам. Адчула, што вельмі хочацца есці. У тумбачцы ляжала паўбохана хлеба, загорнуты ў паперку цукар-рафінад, ляжаў пакецік маргарыну. Так што ёсць сёння чым павячэраць.

На пліце стаяў вялікі закураны чайнік, Ніна пакратала яго рукою — гарачы, і падаграваць не трэба. Наліла ў шклянку чаю, прынесла на вялікі круглы стол свае прыпасы. Толькі сабралася адсёрбнуць пахучага кіпеню, як заявілася Лена Аляшкевіч, таксама з філфака, з аднаго з Нінаю курса.

Сярод чатырнаццаці дзяўчат, што жылі разам з Нінаю ў пакоі (сама пятнаццатая), бліжэй за іншых лічыла Лену. Можа, таму, што іх ложкі стаялі ўпрытык, начамі нават коўдры блыта-

ліся. Можа, таму, што і Лена не мела бацькоў — памерлі рана. У Ленінай біяграфіі быў да таго ж адзін вельмі складаны факт. Пад час вайны немцы вывезлі яе, і яна гады два жыла недзе ў Францыі ў канцэнтрацыйным лагеры. Ніна не распытвала пра гэта Лену па тым прынцыпе, па якім у доме павешанага не гавораць пра вяроўку.

Лена была вышэй сярэдняга росту, светлавалосая, з вялікімі шэрымі вачыма, роўнымі белымі, можа, крышку буйнаватымі, але ўсё роўна прыгожымі зубамі і нават знешнасцю вылучалася сярод простых вясковых дзяўчат інтэрната. Да таго ж — спакойная, інтэлігентная, з усімі роўна далікатная, ніколі ні з кім не спрачалася, апошняе і падабалася Ніне, але часам і раздражняла. Лену ўсе любілі, усе патрошку падкормлівалі, што яна хоць і далікатна, але прымала. І гэта таксама не вельмі падабалася Ніне, больш любіла незалежныя характары, сама з усімі трымалася незалежна, але тут ужо нічога не зробіш, у каго які характар. І яшчэ — хто хоча мець сябра без недахопаў, той застанецца без сябра… Хто гэта так мудра сказаў? Ды хіба і сама Ніна без недахопаў?

— Хадзі чай піць, — паклікала яна Лену.

— Дзякуй, — адказала Лена.

Было не зусім ясна, што азначае гэта «дзякуй»: ці дзякуй — не хачу, ці дзякуй — буду піць.

— Дзякуй потым будзеш казаць, ідзі пі, пакуль гарачы, тут во і шклянка нейчая стаіць, чыстая, — яшчэ раз паклікала Ніна.

Лена падышла, села за стол, Ніна падсунула ёй хлеб, цукар, маргарын, бо свайго ў Лены сёння нічога няма, у іх тумбачка адна на дзвюх, так што ведаюць, хто і што мае ў запасе.

Мусібыць, Лена была галодная, бо адрэзала і адзін кавалачак хлеба, і другі, наліла адну шклянку чаю, другую. Ніна таксама пасля абеду ў сталоўцы нічога не ела, так што яны і не агледзеліся, як умялі амаль увесь хлеб, цукру застаўся адзін кавалачак і крышку маргарыну на паперцы.

Пад столлю гарэла не вельмі яркая лямпачка без абажура, гучна спявала радыё. Усё гучней размаўлялі дзяўчаты. Пад ноч заўсёды чамусьці разыходзіліся, успаміналі смешныя гісторыі, спрачаліся, рагаталі. Ніне раптам вельмі захацелася спаць. Пайшла слаць ложак. І Лена прысела на свой.

— Дзе хадзіла, дзе гуляла? — спытала ў яе Ніна.

— Спачатку ў Каці была… Потым зайшла яшчэ да адной знаёмай, ты яе не ведаеш…

Можа, Ніна крыху і раўнавала Лену, і зайздросціла, што ў яе шмат сябровак. Сама Ніна не вельмі сыходзілася з людзьмі. Зноў-такі — у каго які характар.

2

Назаўтра пасля лекцый, паабедаўшы ў сталоўцы — вінегрэт, рэдзенькі боршч, пюрэ з катлетаю, у якой не чулася мяса, — Ніна зноў пабегла ў Ленінку. На радасць, месца яе аказалася вольнае. Хадзілі ў чытальню амаль адны і тыя ж чытачы, і шмат хто меў тут, як і Ніна, сваё месца.

З кніжкамі, узятымі ў бібліятэкаркі, асцярожна, каб не рабіць груку, пайшла Ніна да свайго стала. І само сабою атрымалася — перш чым апусціць да кнігі вочы, глянула туды, дзе ўчора сядзеў сінявокі хлопец. Ён зноў аказаўся там і зноў таропіўся ў яе. Мусіць, бачыў, як яна ішла, садзілася, раскладала кнігі.

Ніна адчула, што да твару падступае цяпло. Сінія вочы пад стрэшкаю саламяных валасоў пачыналі бянтэжыць.

Зіма, што бялелася цяпер за акном, была ў Ніны дваццаць другая, але нішто пакуль не звязвала яе з мужчынскай палавінаю роду чалавечага, акрамя рамантычных мар. Яна дасюль нават ні з кім не цалавалася. Хаця, трэба прызнацца, не лічыла сябе непрыгожаю. Па-першае, існавалі на свеце люстэркі, і калі Ніна пазірала на сябе ў тое шкло, то адбітак не выклікаў у яе незадавальнення. Па-другое, бескампрамісныя сяброўкі, часам ацэньваючы адна адну, не раз казалі Ніне, што ў яе прыгожыя вочы, прытым не так сабе прыгожыя, а і разумныя, што ў яе добрая фігура і прыгожыя ногі, а густыя каштанавыя валасы не патрабуюць завіўкі. Так што брыдкаю Ніна сябе не лічыла, замінала яе адносінам з хлопцамі нешта іншае. Існавала быццам нейкае поле, цераз якое пакуль што ніхто не мог прабіцца. Хаця калі гаварыць шчыра, то асабліва моцна пакуль ніхто і не прабіваўся. Поле адштурхоўвала несур’ёзныя заляцанні, балбатню, адштурхоўвала, як нецікавае і непатрэбнае. Як чыстая вада адштурхоўвае тлушч. Ён можа плаваць на паверхні, але не трапіць усярэдзіну. Усярэдзіне вада застанецца чыстая.

Што больш за ўсё здзівіла Ніну — сіні позірк нібыта прабіваўся цераз тое поле, знаходзіў у ім шчылінку. Поле, якому Ніна так прывыкла давяраць, не адштурхоўвала хлапечы позірк. Што яно, сапсавалася?

Незадаволеная сабою, рухам больш рэзкім, чым звычайна, разгарнула яна кнігу, апусціла галаву. Але позірк турбаваў,

не даваў засяродзіцца. Рабілася ўжо цікава — ці глядзіць той хлопец на яе, ці не. Яна прымушала сябе чытаць, але душа ўжо непакоілася, разбірала цікаўнасць.

За гэты вечар Ніна яшчэ некалькі разоў лавіла на сабе позіркі хлопца. Заўважыла, што ён усё-такі працуе, чытае тоўстую кнігу і запісвае ў агульны сшытак, але перадавалася яму, быццам токам: толькі Ніна збіралася ўзняць галаву — і ён тут жа адрываўся ад сваёй работы. Аднойчы яны разам, у адзін міг, узнялі галовы, позіркі сустрэліся, і хлопец усміхнуўся. І ёй захацелася ўсміхнуцца, але яна стрымалася.

Гульня ў гэтыя позіркі цягнулася, можа, з тыдзень. Аднойчы вечарам, усё тою ж дарогаю ідучы з бібліятэкі да інтэрната, Ніна пачула за сабою крокі. Быццам нехта яе даганяў. І адразу здагадалася — ён.

Гэта і праўда быў ён. Дасюль не бачыла яго на ўвесь рост, усё за сталом, над кнігамі. Аказалася, хлопец, можа, на цэлую пядзю вышэй за яе, хоць і Ніне росту Бог не пашкадаваў. На ім была куртка з грубага сукна, шапка-вушанка з завязанымі на макаўцы вушамі, рукою без рукавіцы трымаў два тоўстыя агульныя сшыткі.

— Добры дзень, — сказаў ён, параўняўшыся з Нінаю.

На вуліцы, як заўсёды ў гэтую пару, было цёмна, святло падала хіба ад ліхтароў, ад электрычнасці ў вокнах, нядаўна прайшла адліга і змыла, з’ела снег, які звычайна дадаваў святла. Хілілася недзе на дзясятую гадзіну.

— Па-мойму, ужо вечар, а не дзень, — адказала Ніна, тоячы ў голасе ўсмешку.

— Ага, вечар, — пагадзіўся хлопец. — То добры вечар…

— Добры вечар…

Прайшлі крыху моўчкі.

— Дзе вы вучыцеся? — зрабіў ён крок да знаёмства.

— Ва ўніверсітэце, — адказала Ніна, дзівячыся, што падтрымлівае размову, замест таго каб паскорыць крок, паказваючы тым, што не збіраецца знаёміцца, як рабіла раней, калі нехта спрабаваў заляцацца да яе на вуліцы.

— Дык і я вучуся ва ўніверсітэце, як гэта мы з вамі раней не бачыліся?

— Затое ў бібліятэцы за гэты тыдзень наглядзеліся адно на аднаго, — быццам з асуджэннем сказала Ніна.

— Ага, наглядзеліся, — зноў пагадзіўся хлопец. — Вы, напэўна, на філфаку вучыцеся, гару кніг за гэты тыдзень прачыталі.

А я на фізмаце… І жывяце, напэўна, у хімкорпусе, туды і ідзяце. А я жыву на Віцебскай, ходзім рознымі дарогамі.

— А сёння вам што, у мой бок аказалася? І вас перасялілі ў хімкорпус? — у Нініным тоне хавалася крышку іроніі, крышку здзеку, але зноў, як і тыя позіркі, гэта нагадвала гульню. За здзекам і іроніяй не адчувалася варожасці. Ды пакуль што як іначай магла гаварыць з ім Ніна? Яна ж яго зусім не ведала, можа, ён валочыцца за кожнаю спадніцаю, сёння адну даганяе, заўтра другую… Можа, ён які прыдурак? Больш за ўсё баялася і не любіла Ніна дурных мужчын.

— Гэта ўжо, разумееце, як непазбежнасць… Іначай не магло быць… Мы павінны былі з вамі пазнаёміцца…

Ніна, не спыняючы хады, глянула на хлопца. Здаецца, ён сказаў гэта сур’ёзна.

— Так ужо і непазбежнасць, — не змяніла свайго іранічнага тону.

— Мяне зваць Іван… А як вас завуць? — зрабіў ён наступны крок да знаёмства.

— Іван… Ваня… Хоць імя і рэдкае, пастараюся запомніць. У мяне таксама рэдкае імя, Ніна…

— Ды ну! — весела азваўся яе спадарожнік. — Я вельмі рады, што вас завуць не Каламбіна… Ведаеце, я вельмі баяўся, што ваша імя — якая-небудзь Анжаліка ці Сняжана…

— Хіба я падобна на Анжаліку?

Размаўляць з Іванам ёй рабілася весела.

— Не, вы не падобная, але жыццё поўнае такіх нечаканасцяў.

— Няйначай, вас моцна ашукала якая-небудзь Анжаліка, — падкалола яго Ніна.

Яны ішлі шпарка, Ніна не агледзелася, як прамінулі палавіну дарогі, скора іхні інтэрнат, міжволі збавіла крок.

— Ведаеце, — разважліва сказаў Іван, — пакуль мяне яшчэ не ашуквалі… І, мне здаецца, не так важна, калі цябе ашукаюць, важна не ашукацца самому…

— Гэта ўжо нешта вельмі мудрае… Як вышэйшая матэматыка, а я да матэматыкі заўсёды была няздольная…

Яны ішлі, вось так перагаворваючыся, быццам ні аб чым, але Ніне здавалася, што як сапёр сваім мінашукальнікам прыслухоўваецца да зямлі, так ён і яна прыслухоўваліся адно да аднаго, за словамі, усмешкамі, позіркамі стараючыся разгледзець, што хаваецца за тою абалонкаю. Далёка пакуль не было відаць, але

Ніне здавалася, што Іван — хлопец не дурны, ды і гумар адчувае. А галоўнае — не розум, які клікала сабе на дапамогу Ніна, нешта іншае прымала гэтага хлопца. Ёй здавалася, што знаёмыя яны даўно, проста недзе размінуліся, а цяпер спаткаліся. З ім было проста і лёгка, яго прысутнасць не замінала, не раздражняла.

— Матэматыка — самая цікавая навука… Без матэматыкі нельга спасцігнуць ні таго, што робіцца на зямлі, ні таго, што ў небе.

— А вы хіба і небам цікавіцеся?

— А як жа… Хто можа не цікавіцца месяцам, зоркамі, — паказаў Іван рукою на неба. Ніна за яго рукою падняла вочы. Але не ўбачыла нічога, акрамя суцэльнай посцілкі аблокаў. Падсвечаная знізу гарадскімі агнямі, яна плыла, варушылася, збіралася гурбамі і зноў распасціралася. За ёю хаваліся недзе і месяц з зоркамі.

— Дасюль мне здавалася, што месяц і зоры належаць паэтам, — сказала Ніна.

— Гэта як вобразы, як паэзія, каб іх апяваць… А ў простым сэнсе — нам, матэматыкам.

— І не астраномам?

— А хіба астраномія можа існаваць без матэматыкі? Як бы астраномы лічылі кіламетры — да сонца, да зор?

Інтэрнат быў ужо зусім блізка, Ніна і сама не заўважыла, як і яе крокі, і Іванавы зусім запаволіліся, яны ішлі цяпер зусім няспешна, нібы гуляючы.

— На якім вы курсе? — спытаў Іван.

— На трэцім.

— І я на трэцім… Бачыце, як шмат у нас з вамі агульнага, і ўніверсітэт, і трэці курс.

— Толькі інтэрнаты розныя, і я да свайго прыйшла ўжо.

Яны спыніліся на Ленінградскай вуліцы ў тым месцы, дзе пачынаўся ўніверсітэцкі гарадок. Углыбіні, злева, свяціўся агнямі ў вокнах той самы хімкорпус, дзе размяшчаўся інтэрнат, справа скверык, цяпер пусты і голы, далей цёмнымі абрысамі вылучаліся карпусы біяфака і фізмата. Развітвацца не хацелася, але Ніна палічыла, што доўга стаяць таксама няёмка, толькі ж пазнаёмілася з хлопцам, каб не падумаў, што ўхапілася за яго, што ўзрадавалася яго заляцанню.

— То бывайце здаровенькі, — сказала яму.

— А чаго ж вы так спяшаецеся?

— Дадому пара, позна ўжо…

Развіталіся, не дамаўляючыся пра новую сустрэчу, і Ніна панесла на твары ўсмешку. Спахапілася, што ідзе па калідоры інтэрната і ўсміхаецца сама сабе, як дурная. І раптам адчула трывогу, страх. Яны падпаўзлі невядома адкуль і чаму — гэтыя страх і трывога. Выплылі, нібы з падсвядомасці, без усялякай прычыны. Абвілі вужакаю сэрца, і яно завухкала, быдта хочучы аслабаніцца ад той пятлі.

Так з ёю бывала. Часам, як прыступ хваробы, пакутлівы страх працінаў усё цела і трымаў яго спавітым хвілін, можа, тры. Потым адступаўся. Ніколі не магла ўгадаць, калі ён падступіць, ніколі не прадбачыла яго. Памятае толькі першы раз, калі пачалося.

3

…Яна прачнулася ад груку чужых ботаў, ад чужых галасоў, што запоўнілі іх невялічкі пакойчык пры школе. Бацька быў дырэктарам гэтай школы і выкладаў геаграфію, гісторыю, нямецкую мову, маці — рускую і беларускую мову і літаратуру. Бацькоў прыслалі ў гэтае мястэчка, якое называлася Русь, пасля рабфака, што скончылі ў Мінску, і далі гэты пакойчык пры школе. Тут стаялі два ложкі, на адным спалі тата з мамаю, на другім — Ніна. Паміж ложкамі месціўся вялікі стол, пакрыты цыратаю. На святы мама клала на яго абрус, звязаны з простых белых нітак. За гэтым сталом яны ўсе ўтраіх працавалі. Ніна, седзячы на сваім ложку і паклаўшы на стол сшыткі, падручнікі, рабіла ўрокі. Тата, насупраць яе, чытаў свае кніжкі і складаў планы заняткаў. Самае зручнае месца, упоперак стала, займала мама, яна правярала вучнёўскія сшыткі, якіх звычайна збіралася многа.

Нінін ложак стаяў упрытык да высокай кафлянай грубкі. Зімою, калі яе палілі, Ніна любіла падсунуцца да грубкі і грэць аб цёплую кафлю ногі, якія ў яе заўсёды чамусьці мерзлі. Яшчэ ў пакоі стаялі этажэрка з кнігамі, шафка для посуду і яды. На этажэрцы і на шафцы ляжалі звязаныя мамаю, такія самыя, як і абрус, сурвэткі з простых белых нітак, што надавала іх пакойчыку ўтульнасць. На дроце са столі звісала газавая лямпа з белым матавым абажурам.

Хоць тата і мама галасы мелі звонкія — у класе трэба было гаварыць гучна, дома размаўлялі паціху, спакойна. І хадзілі спакойна, без тупату і груку. Таму Ніну і разбудзілі непрывычна

грубыя галасы і цяжкія крокі. Мусібыць, перад тым як увайсці ў пакой, гэтыя людзі стукалі ў дзверы, але стуку Ніна не чула, прачнулася, калі гарэла ўжо лямпа і хадзілі, грукалі вакол чужыя людзі. Мама з татам сядзелі на Ніністым ложку, быццам спінамі сваімі засланяючы яе ад таго, чужога. Але засланіць не маглі, галовы чужых людзей плавалі недзе пад столлю — так спрасоння здалося Ніне. На іхнія твары падала жаўтаватае святло газавай лямпы, і людзі здаваліся падобнымі на прывіды. Прывіды соваліся туды-сюды, адчынялі шуфлядкі стала, выкідалі на падлогу тое, што там ляжала, перабіралі, гарталі кнігі, што стаялі на этажэрцы, і некаторыя таксама кідалі на падлогу.

І вось тады першы раз спавіў Ніну страх, прадчуванне бяды. Яна падсунулася бліжэй да таты з мамаю, быдта за іх спінамі шукаючы ратунку. Мама адчула, што Ніна прачнулася, павярнулася да яе, пачала ўкрываць, гладзіць па галаве, гаварыць:

— Спі, спі…

У мамы дрыжалі рукі і дрыжаў голас, а яна ўсё казала:

— Спі… Спі…

Ніне хацелася спытаць у мамы — хто гэта, чаго яны да іх прыйшлі, але нешта быдта стрымлівала, не давала спытаць. І баялася паварушыцца, і ўсё мацней спавіваў сэрца страх.

Больш не заснула і бачыла, як апранаўся тата, як павялі яго тыя. Каб жа ведала Ніна, што бачыць тату апошні раз, то вачэй бы з яго не спускала, а так больш глядзела на тых прывідаў. Адзін высокі, у пляскатай кепачцы, у даўгаполым паліто, другі нізкі, шырокі ў плячах, з доўгімі рукамі. А калі павярнуўся спінаю, Ніне здалося, што ён гарбаты — шырока разыходзілася складка шыняля на спіне. І хоць тварамі, постацямі яны моцна розніліся, здалося Ніне, што нечым і падобныя. Можа, хмурасцю, суровасцю абліччаў, аднолькавым выразам нейкай непахіснасці, ці што…

Быў з імі і трэці, але трэці пры дзвярах, Ніна бачыла толькі белую пляму ягонага твару, ды бліскала спражка на рамяні, адсвечваючы агонь вісячай лямпы.

Надыходзіла раніца, з акон у пакой паплыло белаватае мроіва, высвечваючы раскіданы ложак, выцягнутыя шуфляды стала, кнігі і паперы на падлозе, высвятляючы пустату, якая запанавала ў хаце. Мама ўсё яшчэ сядзела на Ніністым ложку, склаўшы на каленях рукі.

— А калі тата вернецца? — спытала Ніна.

— Вернецца, скора вернецца, — адказала мама, усё яшчэ не кратаючыся з месца.

Ніне было тады адзінаццаць гадоў, яна не разумела, што адбываецца навакол, але па нейкіх словах, на якія раней не звяртала ўвагі, па нейкіх размовах пра іншых людзей здагадалася: тату арыштавалі. І гэта сорамна, пра гэта нельга гаварыць, пра гэта трэба маўчаць.

За сцяною, дзе былі класы, пачуўся дзіцячы голас. За ім — другі. Пачыналі збірацца ў школе дзеці. Загудзеў і басок настаўніка матэматыкі.

Мама павалі паднялася з ложка, пачала збіраць раскіданыя на падлозе паперы, кніжкі. І Ніна ўстала, босая, у адной кашулі, пачала ёй памагаць.

— Апраніся, дачушка, прастудзішся, — сказала мама.

З таго дня засталіся Ніна з мамаю ўдзвюх. Ніна, як і раней, вучылася ў школе, мама выкладала рускую і беларускую мову і літаратуру.

Пракацілася адна зіма, другая. Мінула трэцяя. Мама пісала некуды пісьмы, часам атрымлівала на іх адказы на казённых бланках, але з тых адказаў не магла нічога зразумець. Пісала новыя пісьмы, зусім не атрымлівала на іх адказаў. Зноў пісала. Усё хацела натрапіць на татаў след і не магла. Яны жылі спадзяваннем, чаканнем. Сядзяць дома вечарам, Ніна ўрокі вучыць, мама сшыткі правярае, і раптам у калідоры крокі, стук. Яны застываюць, ім здаецца, зараз адчыняцца дзверы і ўвойдзе тата. Але ў дзверы шкробся дзядзька Нічыпар, сказаць настаўніцы, што заўтра паедзе па дровы для школы. (Дырэктара ім даўно прыслалі новага, але мама была завучам і вяла ўсю гаспадарчую работу.) Альбо цётка Мальвіна несла ім збаночак свежага малака.

Яны чакалі і раніцою, і ўдзень. Раптам на вуліцы постаць — нечым нагадвае тату, — і яны прыліпалі да шкла. Кожны дзень выбягалі насустрач лістаносіцы — а раптам пісьмо?

І раптам — не, не тата і не пісьмо. Чалавек. Ён пастукаўся ноччу ў шыбу, і мама ўсхапілася, і Ніна прачнулася. З распушчанымі валасамі, у адной кашулі кінулася мама да дзвярэй, не пытаючыся — хто — адчыніла, была ўпэўнена — тата. І, сарамліва захінаючы на грудзях споднюю кашулю, увяла ў пакой незнаёмага чалавека. Ён быў у ватніку, у шапцы-аблавушцы, пашытай з сукна, калашыны штаноў засунуты ў боты. Твар худы, з грубымі складкамі, што сцякалі ад самых вачэй да падбародка. Скінуў шапку, і пад ёй аказалася стрыжаная галава з валаскамі, якія толькі пачыналі адрастаць.

З той самай шапкі, з-пад падкладкі, выняў чалавек скамечаны лісток — запіску ад таты. І расказаў, што тата ў лагеры пад

Томскам, што спадзявацца на скорае вяртанне наўрад ці можна. Гэта вось яму пашанцавала, далі невялікі тэрмін, усяго пяць гадоў, сваё адбухаў.

— А за што, за што вас? — пыталася мама. Чалавек паківаў галавою.

— Мусібыць, за тое, за што і вашага…

— Але мой ні ў чым не вінаваты…

Мама паіла госця гарбатаю, паклала на стол усё, што было ў хаце, — кавалачак масла, клінковы сырок, калач. І ўсё распытвала — якое ў таты здароўе, куды іх водзяць на работу, як туды заехаць і ці можна пабачыцца.

Назаўтра яны ўдзвюх з мамаю чыталі і перачытвалі кароценькую татаву запіску са словамі пра тое, што жывы і спадзяецца на сустрэчу, на татавым школьным атласе шукалі — дзе той горад Томск, і дзівіліся, як ён далёка, аж за сібірскаю ракою Об.

Мама цяпер часта задумвалася, часта гаварыла пра Сібір, зноў і зноў разгортвала школьны атлас і шукала на ім горад Томск, вывучала дарогі, што вялі да яго.

А калі на школьны двор ва ўсёй красе ступіла лета саракавога года і пачаліся школьныя канікулы, мама сказала Ніне:

— Пажыві, дачушка, у дзядзькі Антося, можа, з месяц які. А я да таты з’езджу… Можа, удасца пабачыцца… Яды яму завязу ды адзення якога, бялізны, мусібыць, абнасіўся там, ды Томск жа, Сібір, там жа такія халады. Цераз месяц вярнуся…

І яшчэ тады, памятае Ніна, спавіў яе грудзі страх. Калі мама ад’язджала, пакідаючы яе ў дзядзькі. Ад’язджала на месяц, а знікла назаўсёды.

## 4

Дзядзька Антось, старэйшы мамін брат, жыў у вёсцы Татараўка, кіламетраў за сорак ад Русі. Працаваў у калгасе, рабіў усё — куды пашлюць. Калі казаць шчыра, то да зямлі, да калгаснай работы дзядзька не вельмі гарнуўся, яго больш вабіла кніга, выпісваў газеты, купіў гармонік, прадаўшы кормнага парсюка, за што хапіла яму ад цёткі. Скончыў дзядзька Антось усяго тры класы царкоўнапрыходскай школы, надта хацеў вучыцца далей, але тады не было яшчэ моды выпраўляць вясковых дзяцей у навуку, лічылася, што найлепшая і найважнейшая работа — гэта работа на зямлі, навуку земляробства перадавалі з пакалення ў пакаленне, без інстытутаў і акадэмій, навучаць пачыналі з малых гадоў. Гэта калі падрасла ўжо малодшая, Нініна маці, то

загаварылі пра рабфакі. Ды тая і слухаць не хацела нікога, уперлася — вучыцца, і ўсё. І паехала, вывучылася вось на настаўніцу.

Дзядзька Антось, жывучы ў вёсцы, на зямлі, мусіў працаваць — і ў калгасе, і дома, на сотках. Трымалі карову, парсюка, курэй — як у кожнай сялянскай сям'і. А дзядзька не надта сябе натруджваў.

Любіў пасядзець пачытаць, не мінаў са сваім гармонікам ніводнай вечарынкі. І яго жонка, цётка Зося, запрагалася за дваіх. І давала волю языку, далікатных слоў не выбіраючы. Дзядзька агрызаўся, крычаў на жонку, што яна грубая, некультурная, таму і сварыцца на яго за кніжкі і газеты. Але цётку такія папрокі яшчэ больш раздражнялі.

— Культу-урны! Газет навыпісваў! Газеткамі дзяцей не накорміш! І карову не накорміш!

А дзетак нажылі траіх. Гадаваліся адно пад адным дзве дзяўчынкі і хлопчык.

Ні дзядзька, ні цётка не адмовіліся даць пляменніцы прытулак.

— Няхай пажыве, што нашым дзецям, тое і ёй. Хаця яна ў цябе, можа, да смачнейшага прывыкла, — быццам папярэджвала цётка, што смачнага Ніна тут не ўбачыць.

— Што ты, сястрыца, — лагодна супакойвала яе маці. — Усе мы з аднаго гнязда, вясковага, а я вам і грошай крыху пакіну, каб не дарма.

Дзядзька Антось ускінуўся:

— Не трэба ніякія грошы, самой спатрэбяцца ў дарозе.

І цётка дзядзьку падтрымала:

— Не трэба грошы…

Але калі маці паклала пяцьдзясят рублёў — адчыніла шуфлядку і спіхнула іх туды.

Маці паехала, а Ніна засталася жыць у дзядзькі і лічыць дні — калі мама вернецца.

Не сказаць, каб Ніну крыўдзілі ў дзядзькавай хаце, не. Але ў чужым гняздзе яна апынулася. Калі хацела есці, не магла сказаць цётцы — есці хачу альбо самой узяць кавалак хлеба, як рабілі цётчыны дзеці, чакала, пакуль за стол не паклічуць. Білі па сэрцы і сваркі цёткі з дзядзькам, рэзалі слых брыдкія цётчыны словы, у іхняй сям'і ніхто ніколі не лаяўся. Не магла Ніна сядзець і без работы, калі бачыла, як цётка выжыльваецца. Буяла лета, і буяла трава на градах, трэба было палоць, акучваць бульбу, ірваць траву парсюку. Цётчыны дзеці былі меншыя за Ніну, дзядзька позна ажаніўся, усё шукаў граматную ды прыгожую,

пакуль цётка не прынесла ў прыполе старэйшую, Рэнечку. Тут ужо мусіў жаніцца, маці, Ніціна бабка, перад смерцю загадала. А пасля Рэнечкі вельмі скора знайшоўся Пецька, за ім — Волечка. І наогул, калі цётчыны дзеці маглі і палайдачыць, Ніна саромелася і гадзінку пасядзець без работы.

Але і полючы грады, і акучваючы бульбу — сотак дваццаць, і рвучы парсюку зелле, не-не ды пaглядала ў бок дарогі, што вілася за іх хаткаю і вяла ў далёкі свет. Селавая жоўтая дарога бегла цераз луг, узыходзіла на масток, за мастком кіравалася да лесу, што стаяў цёмнаю сцяною ялін, падпіраючы калючымі вяршынямі неба. За гэты лес кожны вечар хавалася сонца, і надыходзіла хвіліна, калі яно нібы сядала на цёмныя пікі, нейкі міг быццам трымалася на іх, потым памалу, патрошку апускалася, пырскаючы на ўсе бакі залатымі іскрамі. Калі сонца зусім хавалася, неба над лесам загаралася чырванню, чырвань укрывала і дарогу, па ёй вярталіся з пашы каровы, несучы ў вёску пах сырадою, скакалі на начлег спутаныя коні, і на іх спіны клаўся чырвоны водбліск вечаровага золаку.

Кіравала і кіравала на тую дарогу Ніна свой позірк, калі бачыла чалавека, што выходзіў з лесу, уставала, прыкладала да лба руку стрэшкаю і ўзіралася. Спачатку пазнавала — мужчына гэта ці жанчына, калі рабілася выразна відаць, што па дарозе ідзе мужчына, вярталася да работы, калі з лесу жанчына выходзіла — сэрца пачынала таіць спадзяванне — а можа, мама?

Мінуў месяц. Мінула два. Мінула паўгода…

— Дзе гэта твая матка дзелася? — пыталіся ў Ніны то дзядзька, то цётка.

Даўно пара было Ніне ў школу, у восьмы клас, але ў вёсцы восьмага класа не было, трэба вяртацца ў мястэчка, а там — дзе будзеш жыць, што есці? Іх пакой, напэўна, даўно заняты, настаўнік з настаўніцаю не вяртаюцца, трэба набіраць іншых. І жыллём забяспечыць. А калі б нават іхняе жыллё і засталося, што есці, як жыць? Не будуць жа карміць, вучыць дзядзька з цёткаю.

Надыходзіла зіма. Маці не вярталася і ліста не прысылала. Ніна не мела зімовай апраткі, усё пакінулі ў Русі. Дзядзька папрасіў у калгасе каня, з’ездзіў у мястэчка, прывёз усё, што засталося ад іх набытку: і бацькаву апратку — мама берагла, — і маміну, і Ніціну. Посуд, мэблю — ложкі, стол, этажэрку. Дзякуй богу, не пакралі ўсяго гэтага, не расцягалі. Не дала новая настаўніца, што пасялілася ў іхнім пакоі. І засталася Ніна ў дзядзькі, ужо невядома чаго чакаючы.

І дачакалася — вайны.

Не быў дзядзька Антось ні камуністам, ні актывістам, але выпісваў газеты, чытаў кнігі, на гармоніку іграў і спяваў савецкія песні. І нехта, выслужваючыся перад немцамі, данёс на дзядзьку як на бальшавіка.

Прыехала машына ў зялёных плямах, выскачыла з яе трое немцаў.

— Лёс, лёс, шнель, шнель, — выгналі дзядзьку з хаты на вуліцу. І тут жа, на вуліцы, каля хаты, расстралялі.

Галасіла цётка, ірвала на сабе валасы, прасіла ў нябожчыка прабачэння за кожнае грубае слоўца. Кляла таго, хто аказаўся такім злыднем, — а недзе ж сусед, недзе і ў хату заходзіў, недзе, можа, і за сталом сядзеў. Але дзядзька ляжаў ужо на вясковых могілках, прысыпаны грудамі зямлі, і не чуў цётчыных прабачэнняў, а той, каго праклінала, можа, хадзіў ды пасміхаўся, не верачы ў сілу бабскага языка.

І Ніна тады ўпершыню так блізка ўбачыла смерць, ды смерць роднага чалавека, смерць гвалтоўную. Страшна… І яшчэ страшна рабілася — якія ж на свеце людзі… Адны так лёгка нагаворваюць, а другія так лёгка забіваюць…

Ды заставаліся неба над галавою, зямля пад нагамі, рыкала ў хляве карова, вішчаў парсюк, цвіла бульба, буяла трава на градах. Трэба было жыць, і цётка, не спыняючы галашэння і праклёнаў, зноў угорбілася ў работу. І Ніна з ёю.

У цётчынай сям’і зрабілася ёй яшчэ больш няўтульна. Усё ж такі дзядзька быў родны дзядзька, а цётка ўжо зусім чужы чалавек. Але на ўсёй зямлі не мела Ніна іншага месца, дзе магла б прытуліць галаву. Ды куды ты сунешся вайною — у пятнаццаць гадоў. Адным магла апраўдаць у цёткі сваё існаванне — работаю.

Немцы калгас раскідалі, зямлю падзялілі на двары. Таму, каго савецкая ўлада нечым пакрыўдзіла, зямлі адрэзалі болей і лепшай. А цётцы, як сям’і «бальшавіцкай», адмералі мала, ды самай кепскай. Аднак з гэтай зямлі цяпер трэба было жыць, помачы табе ніхто не дасць, нават мізэрнага авансу не выпіша. І цётка з Нінаю ўгнойвалі, засявалі той лапік, саджалі бульбу, буракі, капусту, жыта. Цётка насіла траву карове, Ніна рвала зелле парсюку. Першы год не галадалі.

А на другі год вайны пачалося: удзень прыязджаюць немцы — плаці падатак фюрэру. Ноччу партызаны — памагай сваім, людзі ў лесе жывуць, з немцамі ваююць. Ну, ад сваіх часам адмолішся:

— Хлопчыкі, што ж даваць, гаспадара немцы забілі, дзяцей куча, і тыя паганцы ўдзень прыязджалі…

Убачаць хлопцы, што ў гэтай хаце і праўда не пажывішся, пойдуць шукаць багацейшых. А ад немцаў не адмолішся, слова нашага не разумеюць, што на вочы трапіць, тое і заграбуць.

Калі начамі стукалі ў шыбу людзі з лесу — замірала Нініна душа, глядзела на тых хлопцаў, як на прышэльцаў з мінулага шчаслівага свету — пакойчык пры школе, стол, за якім яна вучыць урокі, а тата з мамаю складаюць свае класныя планы, званкі з урока і на ўрок. Забывалася нават, што ў тым шчаслівым свеце зніклі яе тата з мамаю. Адно з адным не звязвалася ў Ніны.

Як жа хацелася ёй пайсці з партызанамі ў лес, ды хіба яна там патрэбная, падлетак, дзіця яшчэ горкае. Ды і цётку як пакінуць адну ў такім пекле работы. От каб заданне якое далі… Але і задання саромелася папрасіць. Абсмяюць яшчэ.

Ведала Ніна пра цётчын спрат — і ад немцаў, і ад партызан. Ямка ў хляве, закладзеная дошкамі, закіданая сенам. Ляжыць там некалькі кавалкаў сала — на закрасу якога крупніку. Так хацелася Ніне паказаць партызанам той спрат, няхай бы забіралі, яны і нішчымніцаю перабіліся б. Але і на гэта не адважылася.

Ды скора і так на нішчымніцу перайшлі. У сорак трэцім адною бульбаю харчаваліся, а як перажылі сорак чацвёрты, як канца вайны дачакаліся — Ніна і ўспомніць не можа. Колькі разоў замахвалася цётка на Нінін скарб — на бацькавы паліто, касцюм, чаравікі, каб на хлеб памяняць. Не давала Ніна, крыкам крычала, а не давала. А раптам бацька вернецца?

Чакалі канца вайны як збавення ад смерці, збавення ад голаду. Але адкуль было і пасля вайны ўзяцца хлебу, калі вакол — адны пажарышчы ды ад мужчын адны калекі засталіся. Галадала вёска, галадаў горад. І бацька з маткаю не вярталіся.

Здалася Ніна. Прадалі той касцюм, паліто, чаравікі. А сама яна ў горад падавацца надумала, каб паступіць куды вучыцца.

Ніхто на тую вучобу яе не падбіваў, ніхто не пасылаў, не ўгаворваў. І прыкладу такога вялікага яшчэ не было — каб ехаць з вёскі ў горад вучыцца. Не магла Ніна іначай, не ўяўляла сабе — як гэта жыць і не вучыцца, не скончыць школы, не паступіць куды далей. Цётка махнула рукою — як сабе хочаш. Тваіх матку ды бацьку навука да дабра не давяла, каб жывыя былі — вярнуліся б, усе людзі вунь, хто жывыя, — вяртаюцца.

— А можа, яшчэ вернуцца? — спадзявалася Ніна.

— Дай Бог.

Але бацькава паліто прадалі, і касцюм прадалі, і чаравікі. Падзялілі з цёткаю грошы папалам. Цётка за сваю палавіну намерылася купіць парася — вайна панішчыла ўсю скаціну. Ніна, завязаўшы свае ў вузельчык, пакіравалася з імі на станцыю, каб ехаць у Мінск. Матчыну адзежу не прадала, усё было амаль упару Ніне, хіба падвузіць ды падкараціць.

І па селавой дарозе, на якой пяць гадоў выглядала маці, пайшла сама — цераз луг, цераз масток, лесам, лесам — да Русі, дзе была станцыя, дзе хадзілі цягнікі, перапоўненыя людзьмі, і кожны спадзяваўся, што даедзе да шчаслівага прыстанку.

5

Наступным днём, скончыўшы чытанне ў бібліятэцы і збіраючы кнігі, краем вока ўбачыла, што і Іван заспяшаўся складаць свае. Зрабіла выгляд, што не заўважае. Здавала кнігі, апраналася ў гардэробе і адчувала за сабою, нібы цень, Іванаву постаць. А цераз колькі крокаў па дарозе ён зноў дагнаў яе.

— Добры вечар…

— Добры вечар. Вам і сёння ў маю дарогу?

Зноў узяла іранічны тон, але ўжо быццам баялася, каб нечага і не спалохаць гэтым тонам.

— Ага… Мусібыць, мой компас сапсаваўся, пачаў паказваць не ў той бок.

— То вы да майстра схадзіце, — у голасе непадробныя турбота, клопат. — А то сапсаваны компас Бог ведае куды завядзе.

— Ат, — махнуў Іван рукою. — Няхай ужо вядзе… Можа, гэта ён тады быў сапсаваны, а цяпер паказвае правільна?

Стаяў марозны ціхі дзень, зноў выпаў сняжок і пабяліў зямлю. Рэдкія дрэвы, што засталіся пасля вайны ўздоўж тратуараў, апушыў іней, ён не забыў прыбраць ніводнай галінкі, ніводнага сучка, і дрэвы стаялі, быццам намаляваныя, можа, яшчэ прыгажэйшыя, чым у зеляніне. Хараство прыбранай снегам вуліцы супакойвала, улагоджвала душу. І прысутнасць Івана не парушала, а можа, нават і спрыяла душэўнаму спакою. Ніне падабалася, што, калі на тратуары траплялі грудок, альбо ямка, альбо наслізганае месца, Іван далікатна браў яе пад локаць, дапамагаючы пераадолець перашкоду. Тады зноў апускаў сваю руку, быццам гаворачы такім жэстам: я толькі дапамог вам абысці небяспечнае месца, а весці вас усю дарогу пад руку не адважваюся.

— Што вы жывяце ў хімкорпусе, я ўжо ведаю, — сказаў Іван. — А ў якім пакоі?

— А вы што, у госці збіраецеся?

— А чаму б і не? Хіба прагоніце?

Значыцца, Іван намячаў перспектыву іх адносінам? Што ж, і Ніна не супраць перспектывы. Уявіла, як прыходзіць Іван да іх у пакой і пытае Ніну. І як дзяўчаты з цікавасцю яго разглядаюць. Глянула на Івана вачыма хаця б той жа Лены… Не, нічога, такога кавалера можна не саромецца. Да іх у пакой хлопцы нярэдка завітваюць, і не дзіва, столькі дзяўчат, ды ў самай пары кахання. Люда Сарока нават ужо замужам, муж жыве ў Валожыне, адкуль і сама Люда, часам прыязджае да яе і застаецца начаваць у іх у інтэрнаце, кладзецца з Людаю на вузенькую студэнцкую койку. І дзяўчаты не пярэчаць — што ж рабіць, дзе начаваць чалавеку, не заставацца ж на вуліцы.

— Я жыву ў дваццаць другім пакоі, — адказала Ніна. — Нас там пятнаццаць.

— І ўсе з філфака?

— Не, з розных факультэтаў.

— І ў нас з розных, але гэта нават цікава, кожны пра сваё як пачне расказваць. Дыскусіі… А самі вы адкуль?

Ага, адкуль яна? Нарадзілася ў Мінску, жыла ў Русі, прыехала з Татараўкі. То як жа адказаць? Можна сказаць абы-як, але не хацелася хлусіць, ды і самой сабе цікава — адкуль яна?

— Сюды я прыехала з Татараўкі, вёсачка такая ў Мінскай вобласці, але гэта не мая радзіма… Там толькі цётка… Я ў цёткі жыла.

— А бацькі дзе?

Вось яно, пытанне, якога так не любіла і нават баялася Ніна. Пра бацькоў. Зусім не таму, што яна саромелася іх лёсу ці перастала іх любіць. Яны жылі ў яе душы і поўнілі шкадаваннем, любасцю. Да сённяшняга дня не гасла надзея, што яны яшчэ аб’явяцца… Але, але…

Яна прыехала ў разбураны пасляваенны Мінск, маючы пры сабе рэшту грошай, што засталіся ад прададзеных бацькавага паліто, касцюма, чаравікаў. Перш-наперш трэба было ўладкавацца на работу. І яна знайшла работу — у Доме друку, у друкарні патрэбны былі карэктары, якія ведалі беларускую мову.

У аддзеле кадраў ёй загадалі запоўніць анкету, напісаць заяву і аўтабіяграфію. Адна пляма на той біяграфіі ўжо ляжала — акупацыя. Але тут нічога не зробіш, не яна адна, мільёны жылі ў акупацыі. Але другое… Напішы пра бацьку, што арыштавалі ў трыццаць сёмым годзе, пра маці, што паехала яго шукаць і не

вярнулася… Не возьмуць на работу. Ні тут, ні ў іншым месцы. І асабліва тут: друкарня ж, ідэалагічны аб'ект.

І Ніна, якая ненавідзела хлусню, якая ніколі не гаварыла няпраўды, у той аўтабіяграфіі напісала: «Бацькі загінулі ў час вайны». Ці мала гінула ў час вайны — і бацькоў, і дзяцей, і дакументаў пра гэта не выдавалі… Хто праверыць?

Паступаючы ва ўніверсітэт, таксама не напісала ўсёй праўды, таксама напісала — «Загінулі ў час вайны».

Цяпер зноў пытанне, ужо не ў аддзеле кадраў… Як на яго адказаць? Так не хацелася хлусіць… Расказаць усю сумную гісторыю? Сумную для яе і абыякавую, а мо і падазроную для іншых? Хто ёй гэты хлопец? Другі раз праводзіць да інтэрната… Ды ці мала хто спытае пра бацькоў?.. Скажы праўду, дойдзе да дэканата, раскрыецца хлусня, і бывай, універсітэт.

Адчувала, што на твар набягае чырвань, але цемнатою не відаць.

— Бацькі загінулі ў час вайны…

Сказаў голасам, поўным спачування:

— Даруйце…

Не пачаў распытваць — як загінулі і дзе.

Некалькі крокаў прайшлі моўчкі. Ніна, перамагаючы прыкрасць, якая сапсавала нядаўна лагодны настрой, Іван, можа, з павагі, з далікатнасці да яе бяды. Доўга маўчаць было няёмка, і Ніна, якая лічыла вінаватаю сябе ў гэтай няёмкасці, спытала, каб прадоўжыць размову:

— А вы адкуль?

— Я з-пад Івацэвічаў… Ёсць такая вёсачка — Аброва… Глухамань… Як я адтуль і выбраўся, — інтанацыяй, голасам Іван вяртаў у бесклапотнасць, якая існавала некалькі хвілін назад. І Ніна хацела вярнуцца ў той настрой, хацела паказаць, што тое, горкае, даўно мінула і ў гэты міг не павінна ім замінаць.

— І хто ж у вас там застаўся?

— О, засталіся бацька, маці, старэйшы брат і дзве малодшыя сястры.

— Во шчаслівы, во багаты, — не магла за жартаўлівым тонам схаваць Ніна і зайздрасці.

— Мае бацькі — вашы бацькі, мае сёстры — вашы сёстры, — зрабіў Іван рукою каралеўскі жэст.

Ніне і словы, і жэст не спадабаліся, здаліся несур'ёзнымі, адказала халаднавата:

— Вельмі дарагія падарункі… Не магу прыняць…

Іван, здаецца, адчуў халадок, пачаў тлумачыць:

— Я ў тым сэнсе, як сябры маіх сяброў… Ну і мае бацькі маім сябрам… Мае бацькі…

І сам засмяяўся з бязглуздзіцы, якая атрымалася. І Ніна засмяялася і зноў адчула лёгкасць, нязмушанасць. Аднак вырашыла гэтую размову давесці да канца.

— Усё было б выдатна і зразумела, каб мы з вамі і праўда былі даўнія сябры… А так — толькі знаёмыя, і то нядаўна.

— То божа мой, у нас наперадзе столькі часу, цэлая эпоха, яшчэ можна так пасябраваць!

Не, сапраўды ад яго праменілі ўпэўненасць, спакой, дабрыня, здаецца, за яго шырокія плечы можна затуліцца. А Ніне так не хапала іменна такіх плячэй, каб затуліцца ад скразняку, што часам вырываўся з якой шчыліны ці падваротні.

— Што ж, паглядзім, — сказала ціха.

— Правільна, паглядзім, — падхапіў Іван апошнія яе словы. — Паглядзім кіно… Я заўтра куплю білеты, і мы з вамі пойдзем у кіно…

Ён зноў праводзіў яе да інтэрната, і Ніна зноў панесла па лесвіцы, па калідоры ўсмешку.

А ў пакоі грымела спрэчка. Грымела, відаць, даўно, бо твары ў дзяўчат былі чырвоныя, вочы блішчэлі. Мусібыць, зноў ішлі, сценка на сценку, дзве сілы. І трэба ж, звычайна жывуць у згодзе, на танцы разам бегаюць, а варта зачапіць гэтую тэму, як ускідаюцца, быццам ворагі. Тыя, што ў час вайны былі ў эвакуацыі, і тыя, што заставаліся «пад немцам». Цяжка бывала ўспомніць, з чаго пачыналася спрэчка-баталія, часцей за ўсё, мусібыць, з крыўднага слова, сказанага ў адрас тых, хто сядзеў «пад немцам».

— Мільёны, разумееш, мільёны засталіся ў акупацыі, не па сваёй волі засталіся! — крычала Маня Сіліцкая з хімфака, худая, высокая, у караткаватай выцвілай сукенцы, якая адкрывала яе вострыя калені.

— Хто хацеў, мог эвакуіравацца, мог выехаць, уцячы! — кідала папрок Валя Біцяй, тая, што лічылася багатаю.

— Мелі машыны, каб уцячы, вялікія начальнікі, а ўвесь народ не мог уцячы! — падтрымлівала Маню Зіна Навумава з біяфака.

Гаварыць так пра начальнікаў было небяспечна, і Зіна, вядома, разумела гэта, але ў азарце, відаць, не шкадавала галавы.

— Пехатою можна было, пехатою, вунь мы ехалі на машыне і бачылі, колькі народу ішло пехатою! — далучалася да Валі Біцяй Окця Саковіч, таксама багатая.

— Ага, значыцца, вы ўсё-такі на машыне ехалі! Канечне, твой бацька вялікі начальнік, нездарма і цяпер па тысячы ў месяц табе дае! — абрушвалася на Окцю Маня Сіліцкая.

— Ты майго бацьку не чапай, не пра майго бацьку гаворка!

— Не, пра твайго бацьку! Бо вы з бацькам на машыне ўцяклі, а тых, што пехатою ішлі, немцы дагналі і вярнулі! І тыя не ўцяклі, і на шыбеніцах віселі!

— Не ўсе віселі, некаторыя немцам служылі!

— А вы б хацелі, каб усіх перавешалі?

Добры настрой, з якім Ніна прыйшла дадому, ураз знік. Сэрца працяла вялікая крыўда. Ніна страшэнна абуралася, калі вінавацілі людзей за тое, што яны жылі ў акупацыі. А гэта была афіцыйная ўстаноўка. Да тых, што жылі ў акупацыі, існаваў недавер, іх не прымалі на факультэт журналістыкі, не бралі на работу ў газеты.

— Хто не быў у партызанах — усе немцам служылі! — крычала расчырванелая Окця Саковіч.

Ніна, кінуўшы на ложак паліто, берэцік, пайшла ў наступ на Окцю.

— Ты, Окця, ты! — яна задыхалася ад крыўды, ад абурэння. — Думай, што гаворыш! Усе немцам служылі! Табе за такое!.. Табе за такое!..

— Што мне за такое, што?! Хіба няпраўду кажу? Немцы ў сялян забіралі свіней, хлеб і жэрлі! Каб усе ў партызаны пайшлі, то немцаў бы не кармілі!

— Тыя самыя сяляне і партызан кармілі! Каб усе пайшлі ў партызаны, што б тыя самыя партызаны елі? Селянін спрадвеку на зямлі, увесь свет корміць, ён хоча не ваяваць, а зямлю ўрабляць! — крычала Ніна.

— Мы ўсе ў інтэрнат прыйшлі голыя і босыя, галодныя, а Валька з эвакуацыі з залатым пярсцёнкам вярнулася, з залатымі завушніцамі! Значыцца, ёй там было лепей, чым нам тут! Невядома, як бы ты сябе паводзіла, каб пры немцах апынулася! Мы то ўсе ўжо правераныя! — крычала са свайго кутка Маня Сіліцкая.

— Не ўсе голыя з вайны выйшлі і сярод вас! — агрызалася Валя Біцяй. — Вунь Галка Васількова — у чарнабурках ходзіць! Раз дадому мяне запрасіла, дык там крышталь ды фарфор старадаўні, гамбургскі!

Галя Васількова з Ніністага курса жыла ў горадзе, у сям'і, тая і праўда з вайны выйшла багатая.

— Усялякія былі… Але нельга ўсіх… Марадзёраў былі адзінкі, — крыху спакайней сказала Ніна.

Лена, як заўсёды, у спрэчку не ўмешвалася, сядзела, піла чай. Здаецца, сёння яе падкормлівала тая ж Окця. Скончыцца спрэчка, і тыя ж Ніна, Маня, Зіна будуць доўга касавурыцца на Валю з Окцяю, а Лена застанецца добрая і з тымі, і з тымі. Не любіла гэтага ў ёй Ніна, але, невядома чаму, цягнулася да яе. Можа, за тыя ж спакой і ўменне з усімі ладзіць? Бо і з ёю Лена заўсёды добрая, не спрачаецца і часам у тужлівую мінуту ўмее сказаць слова спагады.

6

За час акупацыі прапала ў Ніны тры гады вучобы. Ды перад вайною год прапусціла. Мела за плячыма сем класаў. У сорак пятым прыехала ў разбіты, спалены Мінск. Відовішча было жахлівае. Куды ні глянь, куды ні кінь вокам — груды абпаленай цэглы, жалезнага ламачча, пустыя каробкі будынкаў. Засталіся цудам ацалелыя, размаляваныя зялёнымі плямамі Дом урада і оперны тэатр, што ўзвышаўся на гары, быццам на якім Алімпе. Але горад жыў. Нібы з-пад зямлі выпаўзалі людзі і снавалі ў клопаце — як пракарміцца, за што зачапіцца, каб жыць далей.

Друкарня, у якую Ніна ўладкавалася карэктарам, знаходзілася ў канцы Сталінскага праспекта, насупраць парку Чалюскінцаў. За тонкаю фанернаю перагародкаю, якая аддзяляла невялічкі закутак для карэктараў ад друкарскага цэха, грукаталі машыны. Грукаталі ўдзень і ўночы. За такой самай перагародкай, якая аддзяляла закутак карэктараў, толькі ў другім канцы цэха, жыла сям'я начальніка цэха Маркевіча Івана Данілавіча — жонка і двое дзяцей, сын і дачка. З дачкою, Нінінай равесніцай, потым вучыліся на адным курсе ўніверсітэта. Як жылі яны і дзень і ноч у такім грукаце? Як спалі? У Ніны за восем гадзін работы галава нібы распухала, свінцом налівалася. А чытаць трэба было вельмі ўважліва, не дай Бог прапусціць памылку, ды яшчэ з палітычным намёкам, магла не толькі што з работы паляцець, а і яшчэ горш…

Уваход у друкарню знаходзіўся на трэцім паверсе, перад уваходам сядзеў вартаўнік у картузе з бліскучым чорным брылём, уважліва правяраў пропускі.

Паверхам вышэй займалі пакоі рэдакцыі часопісаў «Полымя», «Беларусь», «Вожык», Белдзяржвыдавецтва. Туды часта хадзілі пісьменнікі, і Ніна некаторых пазнавала па фотаздымках у газетах, у падручніках. Аднойчы на лесвіцы амаль твар у твар спаткалася з Якубам Коласам. Ён правёў позіркам доб-

рых, уважлівых вачэй па твары незнаёмай маладой дзяўчыны і пайшоў далей, нялёгка ўздымаючыся па крутой лесвіцы на той чацвёрты паверх, а ў Ніны аж абарвалася сэрца. Яна ўбачыла чалавека, вершы якога ведала на памяць. Здавалася, што той чалавек — вобраз, міф, хоць і бачыла яго партрэты на старонках кніг, газет. І раптам — жывы, у звычайным шэрым касцюмчыку, у саламяным капелюшы, велікаватаю сялянскаю рукою трымаецца за парэнчы. Было ў ім нешта бацькоўскае, хоць ён зусім не быў падобны на яе бацьку. Аж заныла сэрца ад болю, успомніліся тата, мама. Што з імі, дзе яны, хто і навошта адабраў іх у яе?

Адным днём летам таго ж сорак пятага года загадчыца карэктарскай Любоў Іванаўна прыбегла ў іхні закутак усхваляваная. Пажылая жанчына з вечна заклапочаным тварам, з вечнаю трывогаю ў вачах — каб не праскочыла якой памылкі, — гэтым разам была затурбавана іншым.

— Дзяўчаткі, жанчынкі, усе ўніз, там машына чакае, паедзем, — пачала яна збіраць, хаваць у стол свае ліссткі.

Карэктары, падчытчыцы паўзнімалі галовы ад сваёй работы.

— Куды ехаць? — спытала Вера Міканорава, маладая жанчына, што сядзела побач з Нінаю.

— Ой, і не кажыце… Немцаў будуць вешаць, гестапаўцаў, што тут людзей губілі, — адказала Любоў Іванаўна.

— Бо-ожачка, лю-юбенькі, — загаласіла Вера. — Няхай іх пярун паб’е, так ім, гадам, і трэба, але мне страшна, я не паеду.

— Хто не хоча, можа не ехаць, але туды ўвесь Мінск збіраецца, — Любоў Іванаўна паклала карэктуру, якую сама чытала, у шуфлядку стала, замкнула шуфлядку ключыкам.

Карэктары, падчытчыцы заварушыліся, загаманілі. Зусім свежыя былі ўсе пакуты вайны — смерці блізкіх, голад, прыніжэнні; стаялі яшчэ ў вачах вісельні з партызанамі, з дошчачкамі на іхніх грудзях — «Так будзе з кожным, хто выступіць супроць новага парадку». Яшчэ помніліся вуліцы горада, усланыя нашымі палоннымі: немцы стралялі кожнага, хто, змучаны, не мог ісці далей.

Немцаў не шкадавалі, але ісці глядзець, як іх будуць вешаць?..

І ўсё ж такі ўсе паехалі, нават Вера Міканорава.

Сапраўды з усяго горада на пустку з’язджаўся, збіраўся народ. Хутка на пустцы людзей сабралася, як на агромністым кірмашы. Усе ўзбуджаныя, усхваляваныя, не знайшлося б сярод іх, напэўна, ніводнага чалавека, якому вайна не пераехала б сэрца, душы, а вінаватыя ж ва ўсім яны, немцы, чаго прыперліся сюды, хто іх клікаў?

Пасярод пусткі, далекавата адна ад адной, стаяла сем вісельняў — свежыя, белыя, нядаўна счасаныя. На кожнай з іх целяпалася вяроўка. Значыцца, сем чалавек.

— Усяго сем!.. За нашы мільёны! — гудзеў нехта ў натоўпе.

— Гэта мы, славяне, такія добранькія… Чаго яны нам нарабілі, а мы прыйшлі ў Германію, і нам загадваюць — не руш!..

— У нас вёску з людзьмі спалілі… Загналі людзей у кароўнік і спалілі, — чула Ніна вакол галасы.

Яны з Вераю трымаліся разам, Ніна ўчапілася за Верыну руку і баялася выпусціць, каб не згубіцца ў гэтым людскім тлуме, бо тут лёгка магло закруціць, як у віры, і вынесці невядома куды. Іх такі вынесла — амаль пад самую вісельню.

Узбуджаныя людзі чакалі, азіраліся, гаманілі, над усёю пусткаю стаяў несціханы гул, і як кінуць вокам — галовы, галовы.

І раптам аднекуль — Ніна не разгледзела адкуль — на пустыры з'явіліся машыны. Грузавікі, палутаркі, свежапафарбаваныя ў зялёны колер. Сем машын. У кожнай машыне на драўлянай лаўцы ўпоперак кузава сядзеў немец, з двух бакоў каля кожнага — міліцыянеры.

Адна машына пад'ехала да вісельні, каля якой апынуліся Ніна з Вераю, і Ніна магла добра разгледзець немца ў той палутарцы. У зялёным кіцелі, у зялёнай шапцы з высокай тулляй, з круглаю кукардаю, — такія шапкі насіла высокае нямецкае начальства. Уразіла нейкая пахавальная чысціня ў той машыне, і сама яна, і міліцыянеры, і немец выглядалі надта акуратнымі. Немец быў чыста паголены і бледны як смерць. І твар быдта ўжо нежывы. Адкрытыя вочы, здаецца, нікога, нічога не бачылі. Асуджаныківаўся ў кузаве, пакуль машына ехала па няроўнай зямлі, і сеў, быдта застыў, калі машына спынілася.

Пракурор перад мікрафонам чытаў прыгавор… Усе немцы ў сямі машынах сядзелі роўненька, спакойна. Ці слухалі? Ці чулі?

Машыны з немцамі пад'ехалі пад вісельні. Міліцыянеры ўсім семярым, як па камандзе, накінулі на шыі вяроўкі. Зараўлі маторы, кранаючы машыны з месца. Ніна адвяла вочы. Вера затуліла твар рукамі. На нейкі міг вакол запанавала цішыня. Шматтысячны натоўп заціх, застыў. Пасля нібы ўздыхнуў адным уздыхам. Усё было скончана.

Калі Ніна расплюшчыла вочы, немец, які некалькі хвілін назад сядзеў жывы ў машыне, гайдаўся на вяроўцы. Адвярнулася. Пачалі з Вераю прабірацца да выхаду.

— Праціўна, — гаварыла Вера. — Аж нудзіць…

— Дзіва што праціўна, — згаджалася Ніна. Яна была ўпэўнена: суд, які адбыўся толькі што, — справядлівы, і ўсё-такі нешта перашкаджала помсліва радавацца. — Як можна, як можна, — гаварыла яна, — людзі, разумныя істоты, і забіваюць адзін аднаго. Няўжо нельга жыць, каб без войнаў? Гэта ж такое шчасце было б, каб без вайны, каб усе сродкі, што трацяцца на вайну, — ды на гаспадарку, а людзі, што ваююць, — працавалі б… Гэта ж на зямлі рай быў бы!

Ніне здавалася, што яна адкрывае ісціну, і дзівілася, як дасюль не адкрылі яе мудрыя, вялікія людзі, што кіруюць светам.

Народ расцякаўся ва ўсе бакі, і людзі гаварылі ўжо пра свае клопаты, спяшаліся дадому. Хто ад'язджаў на машыне, хто кіраваўся да трамваяў, але трамваі ішлі такія перапоўненыя, што ўціснуцца ў іх аказалася немагчыма, а сваю машыну яны не знайшлі, мусіць, раней паехала.

— Кажаш, каб вайны не было, — гаварыла Вера. — Гэта скончылася, а можа новая загарэцца, амерыканцы вунь атамную бомбу прыдумалі.

— Усё можа быць, — пагаджалася Ніна.

Ужо з тых першых пасляваенных гадоў людзі жылі пад страхам вайны новай, яшчэ больш жахлівай.

Але жылі, і кожны вырашаў свае праблемы.

Ніна тым годам пачала хадзіць у дзясяты клас вячэрняй школы рабочай моладзі, каб потым паступіць ва ўніверсітэт. Школа размяшчалася на плошчы Волі, побач з колішняй ратушай, што ўзнімала ўгору сваю стромкую вежу з гадзіннікам. Радасна трывожыў даўно забыты свет — школьныя парты, чорная дошка, пах крэйды, званкі з урока і на ўрок. Але скора адчула, што доўгае расстанне са школаю не мінула дарма. За гады вайны забылася і тое, што ведала, ды прапусціўшы восьмы, дзявяты клас. Тое, што тлумачылі настаўнікі, галава не прымала. Асабліва цёмным лесам выглядалі трыганаметрыя, алгебра, хімія. Каб такая ў класе аказалася яна адна, то яе б, канечне, даўно выгналі. Але, за невялікім выключэннем, усе вучні таго дзясятага выглядалі не лепей, усе пасля акупацыі, пераскочыўшы цераз два, а то і цераз тры класы, удзень на рабоце, а вечарам — за партамі.

Былі сярод вучняў і франтавікі — Толя Вільчык без рукі, Міша Каган з абпаленым тварам. Але франтавікі не патрабавалі да сябе асаблівай увагі, не выхваляліся сваім геройствам. Можа, на фронце яны ваявалі адважна, а тут баяліся, каб не выклікаў настаўнік, і, як і ўсе, часта маўчалі, чырванелі каля дошкі, прыводзячы настаўнікаў у адчай.

Ніна гатова была згарэць ад сораму. Гэта яна, некалі выдатніца ў школе, дачка настаўнікаў, цяпер тупая, нямая каля тых формул, задач па фізіцы, хіміі, трыганаметрыі. Старалася нешта адолець, зразумець, вывучыць, і аднойчы, як узнагарода, настаўнік фізікі выслухаў яе адказ і сказаў:

— А можа, з вас што-небудзь і выйдзе?..

Надыходзілі дзяржаўныя экзамены. Надзея была толькі на шпаргалкі. Нарыхтавалі іх — і доўгенькіх, і кароценькіх, і кругленькіх, панапіхалі ў кішэні, сумачкі, панапісвалі формул на далонях і ледзь не на лбах. Карысталіся шпаргалкамі спачатку вельмі асцярожна, спадцішка, непрыкметна совалі адзін аднаму паперкі з задачкамі. А потым убачылі, што фізік — худы, высокі, лысаваты — выйшаў за дзверы. І пяць хвілін яго няма, і дзесяць. Здагадаліся — даў ім волю!

І замільгалі шпаргалкі з задачкамі, паплылі па партах — ад аднаго да другога, зашапталіся, пачалі нервова перагаворвацца:

— Які адказ на першую задачку, на першую?

— Перадай мне формулу, формулу!

Далі ім волю і на алгебры, і на хіміі. Відаць, свая, не менш складаная, задача стаяла і перад школаю — выпусціць пасляваенны дзясяты клас. І выпусцілі. І ўсе паступілі — хто ў інстытут, а Ніна — на філфак універсітэта.

— Гнев, о Богиня, воспой Ахиллеса, Пелеева сына…

Першыя словы першай лекцыі — па антычнай літаратуры. Заваражвала паэзія Гамера… Заваражваў стройны малады чарнабровы дацэнт. Поўніла радасцю ўсведамленне — яна студэнтка!

Універсітэцкі гарадок ляжаў разбіты, спалены, заняткі свае філфак праводзіў вечарамі, у будынку Сталінскай школы, якая ўзвышалася на горцы Юбілейнай плошчы, бліскаючы жывымі зашклёнымі вокнамі сярод грудаў абваленых, мёртвых дамоў.

Тое, што заняткі праходзілі вечарамі, Ніне аказалася вельмі спадручным, грошы за бацькаву адзежу даўно разышліся, за адзін толькі ложак у гаспадыні ў драўляным дамку на ацалелым невялічкім завулку плаціла штомесяц па трыста рублёў. Так што работу пакінуць не магла. І ўдзень чытала ўсё той жа дробны шрыфт пад грукат друкарскіх машын, а вечарам — на заняткі. Пасля заняткаў, гадзін у дванаццаць, брыла цераз пусты разбіты горад на жалезны ложак з саламяным сеннікам у той ацалелы завулак. Назаўтра раненька — зноў на работу. Як жа марыла выспацца! Не ведае, чаго болей хацелася ў той год — ці выспацца, ці есці. Хлеб давалі па картках, і ён знікаў у адзін міг, а часам з'ядаўся і наперад. Немагчыма было нечым займацца ў

пакоі, калі ведала — у тумбачцы ляжыць акраец хлеба. З'ядала яго, і хоць есці ўсё роўна хацелася, але душа супакойвалася — тумбачка пустая. Чакала заўтрашняга дня, баланды ў друкарскай сталовай. І адчувала сябе шчасліваю. Яна вучыцца ва ўніверсітэце! «Гнев, о Богиня, воспой Ахиллеса, Пелеева сына!»

Неяк паслала яе Любоў Іванаўна ў цэх — зняць з машыны праўленыя лісты. Ніна бегала сярод таго ляскату і грукату, шукала машыну з патрэбнымі лістамі, ніяк не магла знайсці. Каля адной з тых жалезных пачвараў стаяў мужчына, праглядаў разгорнутыя палосы газет. Убачыў, што Ніна бегае, нечага шукае, спытаў — чаго. Ніна растлумачыла, і ён паказаў ёй тую машыну. Падзякавала і праўда ўбачыла там лісты, а калі вярталася, мужчына запытаў:

— Ну як, знайшлі?

— Ага, дзякуй…

Мужчына затрымаў яе, пачаў пытаць — адкуль яна і хто. Быў ён у тым узросце, калі цяжка вызначыць — ці гэта яшчэ юнак, ці сталы ўжо чалавек. Высокі, з мяккім добрым тварам, над верхняю губою, злева, цямнела плямка-радзімка. Разгаварыліся. Звалі яго Мікола Максімавіч, працаваў ён у газеце «Чырвоная змена», яе палосы і праглядаў.

Потым яны часам сустракаліся, то ў друкарні, то на лесвіцы Дома друку, і ён затрымліваў, весела распытваў пра жыццё. Ніне здавалася, што яна падабаецца чалавеку, але не мог Мікола Максімавіч адолець таго поля, якое так лёгка перасяг пасля Іван.

Тым часам аднавілі былы корпус біяфака, і заняткі філфака пачаліся ў тым корпусе ўдзень. Каму радасць, а Ніне — бяда, змушана пакінуць работу.

Дачытаўшы брашурку «Палітычную вучобу ў масы», паклала яе на стол загадчыцы і разам з брашураю заяву аб звальненні.

— Чаму? — падняла на яе здзіўлены позірк Любоў Іванаўна.

— Разумееце, — пачала тлумачыць Ніна, — заняткі ў нас цяпер удзень, так што…

Любоў Іванаўна пагартала карэктуру.

— Шкода… Ты беларускую мову добра ведаеш… Нам такіх карэктараў не хапае…

— І мне шкода… На адну стыпендыю не пражывеш…

Загадчыца падняла вочы ад карэктуры, паглядзела некуды ўбок, быдта думаючы.

За фанернаю перагародкаю грукаталі машыны. У карэктарскім закутку таксама стаяў гул, каля кожнай карэктаршы

сядзела падчытчыца і бубніла, чытала тэкст з арыгінала. У вялікае, заслоненае пылам акно свяціла восеньскае сонца. Ніна раптам адчула тугу ў сэрцы. Аказваецца, шкода пакідаць гэты бязрадасны закутак.

— Ведаеш што, схаджу я да начальства, можа, нешта прыдумаем… Каб браць работу табе на дом… І нам прыносіць… Толькі каб у тэрмін, мінута ў мінуту!

Такой удачы Ніна і не чакала, ламала галаву — дзе знайсці работу, каб можна было і працаваць і вучыцца. І вось, калі ласка, лепшага і не прыдумаеш.

— Любоў Іванаўна, ды я!.. Дзіва што — мінута ў мінуту! Хіба я не разумею?

Цяпер Ніна брала брашуркі з сабою ў бібліятэку і між заняткамі вычытвала карэктуру. Навар з гэтай работы быў небагаты, але ў дадатак да стыпендыі… А самае важнае, не пабіралася, як тая Лена, сама сябе карміла.

## 7

Пад час лекцый, перапынкаў, размоў з дзяўчатамі і ў калідорах універсітэта, і ў інтэрнаце, як кароценькім пульсам, пастуквала ў Ніна сэрца — Іван… І ўсплывала адчуванне дужага, уважлівага, будзіла ў душы трывожныя і радасныя спадзяванні. За гэтае кароценькае знаёмства ён, аказваецца, пасяліўся ўжо недзе на ўскрайку яе душы. Далей пакуль не пускала, яшчэ пасміхалася з гэтага трывожнага спадзявання, але… Спіхнуць з таго краёчку, дзе ён заняў месца, ужо не магла. Можа, таму, што гэта быў першы хлопец, які нешта абудзіў, які прабіўся праз тое забароненае поле. Ва ўсякім разе, пасля таго, як пазнаёмілася з Іванам, не бегала на танцы, што вечарамі пачыналіся на лесвічнай пляцоўцы інтэрната.

Заводзіў музыку Рыгор Буліцкі, студэнт трэцяга курса журфака, нядаўні франтавік, які дасюль хадзіў у палінялай гімнасцёрцы, у галіфэ і ботах. Прынёс з сабою ў інтэрнат трафейны акардэон. Іграў самавукам, але ўмення яго хапала выводзіць сучасныя факстроты, танга.

Утомленное солнце
Нежно с морем прощалось,
В этот час ты призналась,
Что нет любви…

І пад яго музыку на цемнаватай лесвічнай пляцоўцы з выбітаю кафлянаю падлогаю танцавалі пары. Рука краналася рукі, гаварыліся асаблівыя словы. Часам выходзіла на тую пляцоўку і Ніна, але рукі, што абдымалі ў танцы, здаваліся чужыя.

Сёння пасля лекцый пабегла ў студэнцкую сталоўку, што размяшчалася тут жа, у двары ўніверсітэцкага гарадка, у аднапавярховым мураваным дамку. Прабіраючыся праз гурбу вясёлых галодных студэнтаў, прынесла да століка талерку з мутным варывам, зверху якога плавалі, як кроплі стэарыну, два вочкі невядомага тлушчу, затым гуляш — тры плеўкі мяса на лыжцы тоўчанай бульбы, сіняваты кісель з парашку. Але ўсё гэта здалося як і трэба, усё здалося смачным, каб такога ды яшчэ больш.

Са сталоўкі зноў забегла ў інтэрнат. Дзяўчаты займаліся хто чым: хто цыраваў панчохі, хто, лежачы на ложку, чытаў, Люда Сарока мыла ў тазіку адзенне, сваё і мужава. Окця гатавала на пліце абед — сталоўскай яды не прызнавала. Лены, як заўсёды, дома не было, недзе зноў гойсала па знаёмых.

Пачала збірацца ў бібліятэку. Паглядзела на сябе ў люстэрка, што вісела пры дзвярах, — купілі ў складчыну, бо як жа — у жаночым пакоі ды люстэрка не мець. І засмуцілася. Сукенка, некалі маміна, і вузкаватая, і караткаватая, не кажучы пра паношаны, не вельмі свежы, выгляд. На вешалцы, прыкрытая прасцінаю, вісела яшчэ адна, але Ніна не была ўпэўнена, што тая лепш за гэту. І ўсё-такі зняла, памерала. Сукенка была пакамечаная, і Ніна скоранька ўключыла прас — таксама куплены ў складчыну.

Вядома, можна было папрасіць у той жа Окці альбо Валі — дай апрануць сваю блузачку, дзяўчаты часам так рабілі, давалі панасіць адна адной свае строі. Але Ніна так не магла, ёй было сорамна прасіць, сорамна насіць чужое, быццам кожны, хто б яе спаткаў, ведаў бы, што апранула не сваё. Ды, апранаючы чужое, трэба нешта даць са свайго гардэробу, а ў Ніны не было нічога прывабнага, на што якая дзяўчына магла б паквапіцца. Ды і наогул Ніна на адзежу звяртала мала ўвагі, мама заўсёды казала: адзежа — глупства, галоўнае — сумленне, розум. Але, аказваецца, і адзежа не глупства, не глупства зрабілася сёння, бо там Іван. Праўда, і сам ён не вельмі шыкоўна апрануты, увесь час у сінім світары, звязаным з тоўстых шарсцяных нітак, зверху — куртка з самаробнага сукна. І ўсё-такі Ніне хацелася выглядаць сёння харашэй. З асаблівым стараннем прычэсвалася і нават крышку падмалявала губы. І вырашыла, што трэба падцягнуць жывот, каб наскрэбці грошай на новую сукенку.

Іван, аказваецца, не кідаў словы на вецер. У бібліятэцы падышоў да яе століка — упершыню — і зашаптаў, аглядаючыся на суседзяў, каб не перашкодзіць:

— То ў мяне білеты… у кіно…

— Праўда? — шэптам перапытала Ніна. — На які фільм?

— «Аповесць аб сапраўдным чалавеку»…

— Ды ну?

На іх пачалі азірацца з папрокам, і Ніна склала кнігі, сшыткі, пачала прабірацца да выхаду. Іван — за ёю.

Кожны паход у кіно для Ніны — свята. Не існавала кепскіх фільмаў, усе здаваліся выдатнымі, усе хвалявалі, верылася, што на экране сама праўда, а калі кіношнае жыццё не супадала з тым, што навокал, таксама не лічылася заганаю. Па-першае, мастацтва павінна вучыць, як жыць на свеце, паказваць перадавых людзей, станоўчага героя нашай эпохі — так пісалася ў газетах, у падручніках па літаратуры. Па-другое, можа, яно, тое іншае жыццё, недзе і ёсць, толькі Ніна яго не бачыць. Не той жа толькі свет, што ў аконцы…

Звычайна бегала ў кіно з дзяўчатамі, а сёння — з хлопцам, ён патраціў на яе грошы, купіў білет. Такога яшчэ не было ў Ніны, і таму свята сёння яшчэ большае. Ды прыйшлі на выдатны фільм, тут ужо чыстая праўда, правобраз героя — жывы чалавек і таксама герой.

Прапусціўшы Ніну крышку наперад і прытрымліваючы за локаць, Іван ішоў з ёю, абараняючы ад штурханіны нецярплівых гледачоў, якія шукалі свае месцы. Хутка Іван знайшоў іхні рад, прайшоў да вольных крэслаў, задраных сядзеннямі ўгору. Спачатку прывёў да ладу Нініна крэсла, потым умасціўся сам.

У перапоўненай зале стаяла духата, яна не праветрылася яшчэ пасля мінулых сеансаў. Ніна расшпіліла паліто, а потым наважылася яго скінуць, і Іван узяўся ёй памагаць. Скідаючы паліто, упусціла сумачку, і Іван тут жа падняў яе.

Ніне падабалася гэтая Іванава ўважлівасць. Адкуль у яго, у вясковага хлопца, такая выхаванасць? Таму, што з Заходняй? Там так вучылі абыходзіцца з жанчынаю?

Сярод так званых усходніх хлопцаў няма такой далікатнасці. Раўнапраўе жанчыны з мужчынам, на якім яны выхоўваліся змалку, дыктавала ім і адносіны да жанчыны раўнапраўныя з мужчынамі. Можаш сама і апрануць і скінуць паліто… Сама падняць, калі што ўпусціла… І няма чаго перад ёю дзверы адчыняць ды прапускаць наперад. І праводзіць няма чаго, сама дойдзе. Можа, яшчэ загадаеце ім ручкі цалаваць, як паням?

І што галоўнае — такія адносіны хлопцаў не выклікалі ў дзяўчат пярэчання, бо і яны выхоўваліся на такім раўнапраўі. Нават паціху пасмейваліся са свайго аднакурсніка — заходніка, які бег падаваць выкладчыцы крэсла, калі тое раптам аказвалася не на месцы. Расцэньвалася такое не як звычайная выхаванасць, далікатнасць, а як падхалімства. Непрывычная да такой увагі з боку знаёмых хлопцаў, Ніна крыху бянтэжылася ад такой Іванавай абыходлівасці.

Нарэшце ў зале ўсе ўгаманіліся, надышло радаснае чаканне сустрэчы з мастацтвам. Патухла святло, паплылі на экране цітры. «Аповесць аб сапраўдным чалавеку»… Па аповесці Барыса Палявога… Рэжысёр Аляксандр Столпер… У галоўнай ролі Павел Кадачнікаў…

Павел Кадачнікаў у тыя гады свяціўся на кінанебасхіле яркаю зоркаю. Зусім нядаўна прайшоў фільм «Подзвіг разведчыка», дзе ў галоўнай ролі здымаўся таксама ён. Малады, прывабны, незвычайна адважны, разумны па ролі, ён прыводзіў у захапленне гледачоў, асабліва жаночую іх палавіну, якая часта аб'ядноўвае героя фільма з яго выканаўцам. І Ніна не засталася раўнадушная да гэтага артыста. І вось яшчэ адна сустрэча з ім.

Аднак гэтым разам сустрэча не радасная, цяжкая. Малады, прыгожы, вясёлы лётчык з перабітымі нагамі ляжыць у снезе… І яго прага жыць… І ён паўзе, паўзе… І душа заходзіцца ад шкадавання, уся зала заціхла, знямела…

Вайна адышлася яшчэ недалёка, яшчэ чуваць яе дыханне за плячыма, яшчэ ўсе, хто ў гэтай зале, яе перажылі, і мукамі сваімі не абышла яна нікога. Усе ведаюць, што на экране праўда, толькі ледзь зменена прозвішча героя, у жыцці — Марэсьеў, на экране — Мярэсьеў. Вялікія пакуты чалавечыя. Як іх трывае зямля, як не расколецца ад таго болю, што крычыць на ёй…

Ніна адчувае, як пачынаюць цячы слёзы, як падступаюць яны пад горла, да вачэй. Яна саромеецца сваіх слёз, дурныя вочы, выраслі на мокрым месцы, плачуць і ад радасці, і ад смутку, і цяпер стрымаць не можа.

Але вось Мярэсьеў адолеў свой цяжкі шлях, уратаваўся ад смерці. Праўда, ён доўга яшчэ будзе вяртацца да жыцця, але тут ужо вялікая, звышчалавечая мужнасць… Ён не застанецца бездапаможны калека, як тыя, што, нязголеныя, брудныя, прапахлыя гарэлкаю, сядзяць на дошчачках з калёсікамі, адпіхаюцца рукамі ад тратуараў, ездзяць па вуліцах горада і часта просяць міласціну. Няхай усе яны ідуць у кіно, няхай усе паглядзяць гэты фільм і зразумеюць, што трэба заставацца чалавекам і без ног, і

без рук, і без вачэй. Не ў кожнага хапае мужнасці? Не ў кожнага хапае сілы волі? Мярэсьеў адзін, а іх мільёны?..

Ніна ўжо не плача, фільм абуджае нейкія думкі, але яна не можа іх дадумаць да канца…

І вось апошнія кадры. Бязногі чалавек танцуе на пратэзах, лётчык вяртаецца ў строй… Уздых палёгкі. Загарэлася святло. Іван дапамог Ніне апрануць паліто. Гулкі тупат ног па дашчанай падлозе — усе кіруюцца да шырока расчыненых дзвярэй з шыльдачкаю, што гарыць чырвоным агнём: «Выхад». Твары ў людзей прасветленыя, шмат хто выцірае вочы, не адна Ніна такая слязлівая.

Іван праводзіў да інтэрната. Ішлі павольна, пасля душнага кінатэатра ўсмак дыхаючы свежым паветрам.

— Як вам фільм? — спытаўся Іван.

— Харошы фільм… І я думала — божа мой, колькі калек… У трамваях ездзяць, сядзяць на вуліцах, папрашайнічаюць. Мне іх так шкода… Быццам нейкая мая віна перад імі. Хаця чым я вінаватая…

— Гэта вы праўду сказалі… І я быццам вінаваты, што жывы, здаровы… Мяне ў армію мабілізавалі пасля вызвалення, адразу на фронт не паслалі, так што на вайну я трапіў, можна сказаць, пад канец, добра пораху і не панюхаў… А пра калек… Што ў трамваях, на вуліцах. Не ўсе могуць, як Мярэсьеў… Трэба ім неяк памагаць… Тры гады пасля вайны… Для бязрукіх, бязногіх інтэрнаты будаваць, ці што…

— Ведаеце, і я так думала, ну акурат так думала, што не ўсе могуць, як Мярэсьеў, — узрадавалася Ніна, што яе і Іванавы думкі так блізка ляглі. — І гэта вы праўду сказалі, пра інтэрнаты, трэба… Бо ад некаторых калек жонкі адракаюцца, і яны пачынаюць піць…

І ўявіла раптам сабе — а каб яе муж, каб яна яго мела, вярнуўся з вайны калекам? Без рук ці без ног? Ці адраклася б яна ад яго? І паставіла на месца таго ўяўнага мужа Івана. Але ўявіць Івана, які ішоў побач з ёю, — дужага, высокага, ды раптам, не дай Бог, без рукі ці без ног, аказалася так страшна, што адагнала бязглуздае насланнё.

Хоць ішлі яны павольна, дарога аказалася кароткай. Вось і гарадок універсітэцкі, свецяцца агні ў пакоях інтэрната, цёмным стажком выступае будынак сталоўкі, за ім — сквярык. Тырчаць дубцамі, цягнуцца ў неба голыя галіны дрэў, прыселі да зямлі цёмныя купкі кустоўніку. Хутка новы год, а зноў няма снегу, растаў. Без снегу няўтульна і халадна.

— Можа, пагуляем у скверыку? — прапануе Іван.

Ніне хораша з Іванам, хочацца пабыць яшчэ, і, хоць адчувае, што пад паліто залазіць ужо холад, пачынаюць мерзнуць ногі, яна згаджаецца.

— Давайце пагуляем…

— Толькі не давайце, а давай… Пара нам на «ты» пераходзіць.

— Можна і на «ты»…

Пад нагамі хрумстае лядок, там, дзе была лужынка ці насачылася вады ў нейчы след. Зямля, скаваная марозам, быдта камень. Вакол пустынна, ні душы. Стаяць нікім не занятыя лавачкі. Пасярод скверыка скульптурная група — кучаравыя, падобныя на анёлаў, хлапчукі падкідаюць угору мяч. Толькі і хлапчукі гэтыя калекі, у аднаго адбіта рука, у другога — нага, тырчаць замест адбітых рук і ног жалезныя пруты арматуры.

Ніна з Іванам гавораць пра сесію, якая не за гарамі, пра экзамены, якія трэба здаваць гэтай сесіяй. Ніна блытаецца, ніяк не можа перайсці на «ты», і Іван цярпліва яе папраўляе. Хоць і не хочацца Ніне ісці дадому, яна разумее, што рана ці позна развітацца давядзецца, ды, можа, і няёмка, што яна так ахвотна і так доўга з ім гуляе. І набіраецца мужнасці:

— Я думаю, нам пара на выхад…

— Не на выхад, а на тыхад, — папраўляе Іван.

Яны смяюцца, ім добра, ім весела і зусім не хочацца ісці на той выхад ці тыхад, і яны зноў гуляюць, зноў кружаць па пустым халодным скверыку.

8

Каля самага інтэрната спаткалася з Ленаю, узрадавалася, што не адна так позна зойдзе ў пакой, дзе, напэўна, запанавала ўжо царства Марфея. Паціху адчынілі дзверы. Лямпачка пад столлю не гарэла, але праз вокны цякло мутнаватае святло ад ліхтароў і відаць былі ў прыцемках гурбачкі дзявочых цел пад коўдрамі, усе на месцы, толькі ложкі позніх гулён пустуюць. На пальчыках да ложкаў падыходзілі, паціху распраналіся, але дзяўчаты спалі ўжо моцна, іх цяпер, як той казаў, і гарматамі не разбудзіш.

Ложкі Ніны і Лены стаялі ўпрытык, і яны разам шуганулі пад коўдры. Акалелая дазвання, некалькі хвілін Ніна проста аддавалася асалодзе цеплыні, якая паступова агортвала цела, хоць ногі і рукі заставаліся яшчэ нібы ледзяшы. Мусіць, і Лена змерзла, бо і яна хуталася ў коўдру, нацягвала да самай галавы.

Ніна паціху адагравалася, але спаць не хацелася: калі развіталіся, Іван яе пацалаваў, і потым яны яшчэ цалаваліся, тыя пацалункі, здаецца, смылелі на вуснах, і вельмі хацелася расказаць пра тое, што поўніла сэрца, пераліваласяцераз край. Побач ляжала Лена, здаецца, і яна не спала, і Ніна зашаптала, нацягнуўшы коўдру вышэй, каб шэптам не разбудзіць дзяўчат.

— Ты ведаеш, я з хлопцам пазнаёмілася… У Ленінцы… Ён з фізмата, жыве на Віцебскай… Іван завуць…

Лена аслабаніла ад коўдры вуха, слухала.

— І ведаеш, ён такі абыходлівы, і паліто падасць, і падніме, калі што ўпусціла…

— Мусіць, з Заходняй, — сказала Лена.

— Ага… З-пад Івацэвічаў… І ведаеш…

Хацелася расказваць, гаварыць, але і вельмі раскрываць душу саромелася. Саромелася расказаць, што цалаваліся.

— Мы гулялі ў скверыку… На «ты» пераходзілі… Я кажу яму — пара на выхад, а ён мне: не на выхад, а на тыхад… І наогул, ён, па-мойму, разумны…

— Па-мойму, ты закахалася, — прашаптала Лена.

Леніны словы нібыта заспелі Ніну знянацку, быццам паказалі ёй на тое, чаго яна сама не бачыла, быццам дыягназ паставілі яе хваробе. Яна змоўкла, прыслухоўваючыся да самой сябе. Потым сказала ціха:

— Можа быць… Не ведаю…

Сон не прыходзіў, і Лена не спала, чмыхала носам, пакашлівала, можа, прастудзілася? Спыняць размову не хацелася, але няёмка пра сябе ўсё гаварыць. І Ніна спытала:

— А ў цябе?.. А ты?.. Ніколі не кахала?

Лена чмыхнула мацней, зноў нацягнула коўдру на галаву. Некалькі хвілін ляжала ціха, нібыта застыла, замерла. Потым прашаптала:

— Не ведаю… Быў адзін… Здавалася, кахаю…

— А хто? Зноў памаўчала.

— Ну, ведаеш… Калі нас вывезлі ў Францыю… Там… Мастак адзін…

— Француз? Немец? — з жахам спыталася Ніна.

— Не, наш…

Ніна саромелася распытваць Лену пра Францыю, пра канцэнтрацыйны лагер, ёй здавалася, што гэта падобна было б на тое, як распытваць пра цяжкую хваробу. Калі да тых людзей, што жылі ў акупацыі, і то ставіліся з падазрэннем, то тыя, хто

трапіў у палон, у канцэнтрацыйны лагер, лічыліся наогул ледзь не здраднікамі. І вось Лена пачала расказваць сама.

— Наш лагер быў у Шэрбургу… Такі партовы горад на паўвостраве… А ў моры там астравы… Насыпаныя яшчэ Напалеонам. На тыя астравы немцы вывезлі нашых палонных. Тры тысячы. Не кармілі, і скора іх засталося трыста… Тых трыста прывезлі ў Шэрбург…

Лена памаўчала, быдта ўспамінаючы, як яно тады было. Потым зноў пачала расказваць.

— А наш лагер, жаночы, быў у казармах… Таксама пабудаваных яшчэ Напалеонам… Мы працавалі грузчыцамі… Французы хадзілі на нас глядзець — як гэта, дзяўчаты ды грузчыцы. Часам стараліся перадаць кавалак хлеба, але немцы адганялі…

Ніна слухала з вялікай цікавасцю. Францыя, гэта ж Парыжская камуна, Віктор Гюго, Бальзак, Флабэр… І як жа французы маглі дапусціць, каб па іх зямлі хадзілі немцы! А яны па ёй хадзілі, як і тут, па Беларусі. Хаця… У нас была Кастрычніцкая рэвалюцыя, і то хадзілі. Але Францыя… Астравы, насыпаныя Напалеонам, казармы, пабудаваныя Напалеонам… Лена дакранулася да такой даўняй гісторыі…

— Аднойчы нас пагналі на плошчу… Немцы нешта будавалі там сабе… А мы цягалі — бярвенне, рэйкі… І нашых палонных туды прыгналі… Цягнем мы з Альбінаю — з Польшчы яна была — бервяно, і раптам я чую — мне лягчэй зрабілася. Азірнулася — хлопец… Стрыжаны, куртка вісіць на плячах, як на пудзіле… Фартух з мешкавіны… Але вочы… Ні ў кога ніколі не бачыла такіх вачэй. Вялізныя, карычневыя і бліскучыя, як каштаны. І боль у іх, і ласка, і ўсмешка… Усміхаецца мне і кажа: «Ты толькі трымайся за бервяно, а я буду несці…» А сам — скура ды косці…

Некалькі дзён мы так працавалі, і ён мне ўсё памагаў… Прыносіў пайкі хлеба. Я не хацела браць, дык ён прымушаў… Казаў, што тут француз знаёмы перадае яму хлеб… Сам не еў, мне прыносіў… Са Смаленска сам… Сяргеем звалі. Мастак… Казаў, што запомніў мяне на ўсё жыццё, што намалюе такую — у фартуху з мешкавіны… Нам усім такія фартухі давалі, і мужчынам, і жанчынам…

Лена сціхла, зноў быдта ўспамінаючы альбо думаючы — расказваць ці не. Уздыхнула глыбока.

— Дык ты яго кахала?

— Не ведаю, што гэта было… Ён абяцаў знайсці, казаў, калі будзе жывы — то знойдзе…

— Які ж ты адрас яму дала?

— Адрас адзін — Мінск… Цераз адрасны стол мог знайсці…

Яны абедзве памаўчалі, потым Ніна сказала ціха:

— Калі не знайшоў, то, мусібыць, няма жывога. А можа, яшчэ знойдзе? — абнадзеіла сяброўку.

Зноў абедзве памаўчалі, потым Ніна падсунулася да Лены зусім блізка, зашаптала амаль у вуха:

— А ты, калі паступала вучыцца, напісала ў біяграфіі?.. Ну, што была ў Францыі, у канцлагеры?

— Канечне, напісала, — жыва азвалася Лена. — Па-першае, такое не схаваеш, нехта заўсёды знойдзецца, хто ведае, і выдасць, тады яшчэ горш… А па-другое, мне няма чаго саромецца, мяне немцы арыштавалі за сувязь з партызанамі, я ў нямецкай турме сядзела, з турмы вывезлі ў лагер… Я ні ў чым не вінаватая…

Ціхі Ленін шэпт з кожным словам рабіўся грамчэйшы, яна нібы апраўдвалася перад некім, нібы апраўдвалася перад тою ж Нінаю, быццам не раз ёй прыходзілася гэта гаварыць: я не вінаватая, я не вінаватая…

Ніна верыла Лене і цяпер моцна спачувала ёй. Вядома, ні ў чым Лена не вінаватая, але ад таго лёсу, які скіраваў яе ў чужы край, піхнуў у нямецкае пекла, нялёгка будзе ёй вызваліцца. Прыйдзецца насіць на сабе знак… Дзіўна яшчэ, што прынялі вучыцца…

Ніна параўноўвала цяпер свой лёс з лёсам Лены і лічыла, што Ленін лёс цяжэйшы. Абедзве яны без бацькоў, без родных, але на Ніне не ляжыць хоць гэта страшнае — канцэнтрацыйны лагер. І каханне ў яе звычайнае, не такое, як у Лены… Тое каханне вырасла з пакут… Аддаваў сваю пайку хлеба… Гэта ўжо каханне вернае. І яшчэ… Лена вось не пабаялася напісаць у біяграфіі пра Францыю, пра лагер, а яна не напісала пра бацькоў. Можа, трэба было напісаць, бо, калі дазнаюцца, што не напісала праўды, будзе горш. Вунь як Лена гаворыць: нехта знойдзецца, хто ведае, і выдасць… І потым, быццам яна саромеецца лёсу сваіх бацькоў. Яны ні ў чым не вінаватыя, ні бацька, ні маці… Мусіць, Лена лепшая за яе, смялейшая. І Ніне хочацца дапамагчы Лене, словам, парадаю. Пасля доўгага маўчання сказала:

— Табе трэба неяк дакумент займець… Што была звязана з партызанамі.

Леніны вочы пазіралі ў Ніны, зусім блізенька, у мутным святле ліхтароў, што падала праз вокны, быў відаць іх хваравіты бляск. Можа, Лена прастудзілася — пакашлівала паціху ў па-

душку, а можа, блішчалі ад тых успамінаў, ад хвалявання, што выклікаў той успамін.

— Хто тады думаў пра дакументы, хіба рабілася ўсё для дакументаў… А цяпер… Дзе я тых людзей знайду? Нікога няма ў Мінску.

— Трэба пашукаць у другіх гарадах, можа, не ўсе загінулі…

— Ат, — з прыкрасцю сказала Лена. — Нагаварыліся… Спі вось, — і сама закруцілася ў коўдру, пакінула толькі нос. Кашлянула яшчэ разы два і сціхла. Можа, заснула?

А Ніна яшчэ ўсё ляжала без сну. Падумаць толькі — Францыя. «Сабор Парыжскай Божай мацеры»… «Адвержаныя»… «Граф Монтэ-Крыста». Кнігі маленства… Францыя, агорнутая туманам рамантыкі… А Лена хадзіла па той зямлі і ўспамінае яе з жахам. І Ніна шкадавала Лену і сёння даравала ёй — што корміцца па людзях, што ні з кім не спрачаецца. Прыйшла раптам думка — людзям патрэбны той чалавек, каму патрэбны людзі… Вось Лена не можа без людзей, без іх дапамогі, дык і яна людзям прыемная. Нездарма кажуць, што людзей любяць за тое добрае, што ім робяць… Гэта, здаецца, Леў Талстой сказаў… А ты вельмі ўжо самастойная, ні ад кога не хочаш дапамогі браць, дык і ты не вельмі каму патрэбная… Жыві сабе сама, такая незалежная. Але тут ужо — як чый характар… Сукенку можна памяняць, характар не пераменіш, з сябе не выскачыш.

Калыхала ўжо дрымота на сваіх арэлях, і ў думку прыходзіў Іван. А можа, ён не пакідаў яе ні на міг? Пры ўсіх размовах, развažаннях быў побач? «Не на выхад, а на тыхад», — каторы раз успомніла Ніна. І ўсміхнулася. І заснула.

## 9

Надыходзіла пара зімовай сесіі, і нядаўна бесклапотнае, вясёлае жыццё інтэрната пацішэла. Да позняга вечара сядзелі хлопцы і дзяўчаты ў бібліятэках альбо зубрылі, седзячы ў ложках, наспех пісаныя на лекцыях канспекты — шмат па якіх прадметах падручнікаў наогул не мелі, іншыя навукі трактаваліся па-новаму, і старых падручнікаў па тых прадметах у бібліятэках не выдавалі, ды і навошта ж выдаваць, забіваць студэнтам галовы ілжэнавукамі, адказваць на экзаменах па тых падручніках усё роўна нельга, так што няхай зубраць па канспектах.

І зубрылі, і верылі кожнаму слову выкладчыка.

Дзяўчаты з біяфака гаварылі, што біялогію прымае ў іх прыгожы малады дацэнт і стаяць перад ім дурніцаю, не ведаць

прадмета, надта сорамна. Кожная з дзяўчат, ідучы да яго на экзамен, і зубрыла больш старанна і прыкладала ўсе намаганні, каб выглядаць харашэй.

Навумава Зіна, з трэцяга курса біяфака, стоячы перад люстэркам, вышчыпвала пінцэтам бровы. Кожны раз, вырываючы валасок, яна моршчылася ад болю, дужкі над брывамі паружавелі і крыху прыпухлі, але цярпліва трывала экзекуцыю, прыгаворваючы:

— Нам нельга чакаць літасці ад прыроды, узяць іх у яе — наша задача.

Такі лозунг быў папулярны. Ён датычыў прыроды — рэк, лясоў, азёр, садоў, жывёлы, ад якіх не трэба было чакаць літасці, а перарабляць на новы лад. Дасціпныя дзяўчаты прыстасавалі лозунг вось да гэтага, да паляпшэння, «ператварэння» сваёй знешнасці.

Пакінуўшы ад бровак толькі вузкія рудаватыя дужкі — потым яны будуць фарбавацца ў чорны колер, — Зіна крытычна сябе агледзела, уздыхнула.

— І ты скажы, вырвеш усе лішнія валаскі, а яны зноў вырастаюць, ды яшчэ большыя, гусцейшыя… Не здаецца прырода. Гэта ў мяне ад бацькі, той лысы, а бровы рудыя, густыя і аж кусцяцца, угору загінаюцца. І ў мяне ў адным месцы закручваюцца, — яна пакратала пальчыкам брыво ў тым месцы, дзе закручваліся валаскі. — А бацька казаў, што і ў дзеда былі такія бровы.

Окця Саковіч, таксама з біяфака, паглядзела Зіне ў спіну, сустрэла ў люстэрку яе позірк. Сербанула чаю са шклянкі.

— Толькі ты на экзамене такога не скажы, — параіла дабрадушна, — «у мяне ад бацькі, у бацькі ад дзеда…» Гэта ж спадчыннасць, гены, а генетыка — навука буржуазная, не марксісцкая навука.

— Ды я ведаю, — уздыхнула Зіна. — Але паспрабуй ты з мяне зрабіць цябе, а з цябе — мяне…

Окця піла чай і чытала канспект. Сёрбала чай, не адрываючы вачэй ад сшытка. Цяпер зноў падняла на Зіну позірк.

— Ты не ўтрыруй. Задача не ў тым, каб з цябе мяне зрабіць… А ў тым, каб ствараць новае ў прыродзе… Выхаваннем… Гэта вейсманісты-марганісты ўсё са спадчыны выводзілі, з генаў.

— Ды ведаю я і гэта, але спадчына, як ні круці, ёсць…

— Дык жа справа ў тым, каб гэту спадчыну змяніць, перадолець, стварыць новае, — даказвала Окця.

— Але скажыце, — умяшалася ў спрэчку Ліля Ваяводава, з факультэта журналістыкі, — чаму ёсць людзі таленавітыя,

разумныя, і ёсць дурні… І паспрабуй ты з дурня зрабіць таленавітага ды разумнага. — Яна сядзела на ложку з нагамі, падклаўшы пад спіну падушку, вакол яе ляжалі канспекты, кнігі. Адзін сшытак трымала ў руках, успіраючы локці на сагнутыя ў каленях ногі.

— Усё залежыць не ад спадчыны, а ад умоў, у якіх рос чалавек. Аднаго змалку вучылі, адукоўвалі, а другі чытаць навучыўся ў дваццаць гадоў. Дзіва што той будзе разумны, а гэты — дурны… Як некалі там у розных дваран… Іх вучылі — і па-французску, і па-нямецку, і навукам розным, дык яны былі і разумныя, а мужык быў дурны…

— Ну, дапусцім… А чаму вось Горкі… Стаў славутым пісьменнікам… А якія ў яго ўніверсітэты? А колькі царавала дурных цароў, хоць іх і змалку вучылі?

— Гэта ўсё было да рэвалюцыі і нас не датычыць, цяпер новыя ўмовы на зямлі, усе людзі роўныя, і з кожнага можна зрабіць прафесара.

Окця Саковіч знаходзіла адказы на ўсе пытанні, здаецца, для яе не існавала праблем, яна ўсё ведала. І Валя Біцяй падала свой голас:

— Няхай бы гэта з мяне хто зрабіў разумную ды таленавітую, каб я ўсё ведала і не трэба было зубрыць гэтую палітэканомію, а то галава пустая, як жбан!

— Ты проста гультайка, — азвалася Зіна Навумава. — Талент — гэта праца, а ты пра сваю будучыню не думаеш, бо ў цябе бацькі багатыя, золатам цябе абвешалі.

— Дзяўчаткі, спрэчка павінна ісці без абразы, культурна і не пераходзіць на асобы, — умяшалася нарэшце і Ніна.

Спачатку яна не чула, пра што ішла гаворка, была занятая сваім, першы экзамен — руская літаратура дзевятнаццатага стагоддзя, столькі пісьменнікаў, столькі твораў. Акрамя таго, — з думак і з сэрца не сыходзіў Іван. Яны дамовіліся — пакуль не здадуць сесію — не сустракацца, абаім трэба вучыць, і кожны раз не стрымлівалі слова, кожны вечар сустракаліся ці ў бібліятэцы, а потым Іван яе праводзіў, ці сам прыходзіў да яе ў інтэрнат. Вось і цяпер Ніна думала — прыйдзе ці не прыйдзе? Нарэшце спрэчка, якая ўсё больш разгаралася, зачапіла і яе, хоць і лічыла, што вельмі мала ёй вядома ў гэтай навуцы, вучоныя ведаюць лепей. Хіба можна ёй спрачацца з тым жа Лысенкам, з нейкімі там невядомымі ёй вейсманістамі-марганістамі.

— А што ж яны, — адбівалася ад усіх ужо Окця. — Спадчына, спадчына… Мы адкідаем разуменне буржуазнай спадчыны, мы

пабудавалі новы сацыялістычны лад і навукі перабудуем так, як трэба нам, сацыялізму. Гэта і ў Сталіна можна прачытаць! І наогул — Сталін на баку Лысенкі і супраць вейсманістаў-марганістаў, буржуазных генетыкаў, якія ніяк не могуць адарваць біялагічную навуку ад спадчыннасці.

Спасылка на Сталіна вырашала ўсё, слова Сталіна спыняла любую спрэчку, большага аўтарытэту для студэнтаў не існавала на зямлі. Ніхто не адважыўся б аспрэчваць напісанае Сталіным.

Дзяўчаты прыціхлі. І Зіна больш нічога не сказала, дакранулася яшчэ раз пальчыкам да таго месца, дзе закручваліся на брыве валаскі. Люстэрка казала адно, а Сталін — другое.

Не, Зіна не магла сабе дазволіць паверыць люстэрку. Гэта было б чорт ведае што, за такое і з універсітэта паляцець можна.

Хоць Ніна цяпер больш, чым пра экзамены, думала пра Івана, перажывала кожную сустрэчу з ім, успамінала кожнае і сваё, і яго слова, сесію між тым здавала добра, можна нават сказаць — выдатна, бо за ўсю сесію атрымала толькі адну чацвёрку, па мовазнаўстве. Наогул, як любіла яна літаратуру, так не магла адолець мовазнаўства, навука гэтая з яе суфіксамі, прэфіксамі здавалася ёй схаластычнаю, сухою. Можа, вінавата была і выкладчыца, якая вельмі нецікава вяла прадмет. Ад выкладчыка шмат залежыць. Як сумна чытала ім рускую літаратуру дзевятнаццатага стагоддзя Вера Пятроўна Цвік, высокая, худая, як жэрдка, з посным тварам, апранутая ў адзін і той жа шэры касцюм. Яна прыходзіла, клала на стол сшыткі, садзілася сама і пачынала гаварыць нудным, бясстрасным голасам. Не адрываючыся ад свайго канспекта, чытала лекцыі пра Льва Талстога, з якіх вынікала, што гэтага пісьменніка мы ніяк не можам браць сабе ў настаўнікі жыцця, што ў яго творчасці вельмі шмат адсталых, рэакцыйных поглядаў, шмат крыклівых супярэчнасцяў, не ведаючы шляхоў перабудовы жыцця, ён не ішоў далей патрабавання асабістага самаўдасканалення, і г. д.

Гаварыла яна павольна, каб паспявалі за ёю запісваць, і ўсе запісвалі, а пасля лекцый і ў галаве і ў душы заставалася пустата.

І вось прыслалі ім з Масквы прафесара Саўсуна. Сярод студэнтаў хадзілі чуткі (ды гэта былі не чуткі, а сама праўда), што Саўсун гэты быў у трыццаць сёмым годзе арыштаваны, жыў у ссылцы, цяпер вярнуўся, адседзеўшы сваё, але ў Маскве выкладаць яму забаранілі, дазволілі прачытаць спецкурс па творчасці Льва Талстога ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Прыйшоў Саўсун у аўдыторыю. У выцертым да бляску цёмна-сінім касцюме, пінжак якога не сыходзіўся на тоўстым

жываце. Сівыя валасы абы-як раскіданыя на галаве. У паўнаце яго адчувалася хваравітасць, і твар выдаваў хваравітасць — прыпухлыя вочы, глыбокія маршчыны, і ўвесь выраз стомлены, нездаровы. У руках нёс вялікі напакаваны партфель, які замыкаўся на адзін замок, другі замок быў сапсаваны. Паклаў той партфель на стол і, нічога не вымаючы з таго партфеля, загаварыў. І ўсе заціхлі, заслухаліся, забыліся весці канспекты. Адчыняўся велізарны, нібы космас, свет Талстога з яго думкамі, пакутамі за ўвесь род чалавечы, з магічным уменнем чытаць у людскіх душах, у людскіх сэрцах, бачыць тое, што не відаць вачам звычайным, і маляваць словам так, што кожны радок, кожны сказ рабіўся адбіткам жывога жыцця, набываў чароўную сілу. Было відаць, як ведаў, як любіў Саўсун Талстога і гэтыя веды, любоў перадаваў ім. І яны іначай пачыналі разумець літаратуру, іначай разумець Андрэя Балконскага, П'ера Бязухава, Ганну Карэніну і самога Карэніна: з цемрашала, якім выстаўляла яго Вера Пятроўна, ён рабіўся чалавекам, якога можна і пашкадаваць. Яны пачыналі разумець, што грэх ім гаварыць пра нейкія памылкі геніяльнага мастака, пра слабасць яго філасофіі, а трэба думаць, думаць самім, самім шукаць выйсце з жыццёвых лабірынтаў, і наўрад ці прыдумаюць яны што-небудзь лепшае, чым прыдумаў ён, — самаўдасканаленне, самаачышчэнне…

Вера Пятроўна забівала пісьменніка, Саўсун яго ўваскрашаў.

Але канчалася гадзіна, Саўсун забіраў свой партфель, выходзіў з аўдыторыі, а яны ўсе зноў акуналіся ў ранейшы свет, у свет пасляваеннага студэнцтва, дзе думаць можна было толькі пра тое, як пракарміць сябе, як апрануць, каб абараніць цела ад холаду, які гэтым годам рана пачаў прыціскаць, ды ўся зіма ляжала яшчэ наперадзе. Трэба было зубрыць — есці тое, што табе даюць, а думаць… Пра ўсё думаў за іх геній, ім трэба было толькі засвойваць ісціны, сабраныя ў тамах з чырвонымі вокладкамі, што роўненькімі радочкамі стаялі на паліцах бібліятэк.

Заставаўся ў Ніны толькі адзін залік — лацінская мова. Вёў у іх гэты прадмет Саламон Барысавіч Вільман — невысокі, павольны ў рухах, з абсалютна лысаю, падобнаю на паліраваны шар, галавою, у якой змяшчалася вельмі шмат лацінскіх пагаворак, крылатых слоў. Гэтую старажытную мудрасць ён задаваў вывучваць на памяць, і ў Ніінай галаве такіх выслоўяў сабралася таксама шмат. «Пленус вентэр нон студэнт лібентэр» — сытае бруха да вучэння глуха… «Омніа мэа мэкум порта» — усё маё нашу з сабою… «Амікус Плато, сэд магіс вэрытас» — Платон

мне сябра, алеісціна даражэй… «Кум тацэт — клямант» — тым, што яны маўчаць, яны крычаць (пратэстуюць). І яшчэ шмат іншых. Было цікава знаходзіць у лацінскай мове знаёмыя словы, карані. Як бацькі, паміраючы, пакідаюць на свеце дзяцей, забяспечваючы сабе тым бяссмерце, так і лацінская мова, паміраючы, пакідала ў іншых мовах свае словы, карані, формы, каб жыць вечна. «Студэт» — вучыць… Вось адкуль студэнт, чалавек, які вучыцца… Адсюль, мабыць, і «штудзіраваць», толькі «с» перайшло ў «ш». А «вентэр» — страўнік, даў слова «вантроба»… «Порта» — насіць. Вось адкуль партфель… У слове «клямант» — крычаць — хто не пачуе нашага беларускага ляманту…

Задумалася, зачыталася, абудзіў знаёмы стук у дзверы. Увайшоў Іван, трымаючы ў руках шапку. Ён заўсёды, яшчэ на парозе, на першым паверсе інтэрната здымаў шапку, быдта ўваходзіў не ў інтэрнат, а ў царкву ці ў які музей. Павітаўся. Яму дружна адказалі. Стаяў пры дзвярах, паружавелы ад няёмкасці. Куртка расшпіленая, і з-пад яе сінее світар, звязаны з тоўстых шарсцяных нітак, Ніна ўжо ведае — звязала малодшая сястра, якую завуць Данута. Не першы раз заходзіць да іх у пакой, але кожны раз бянтэжыцца. Дзіва, столькі дзяўчат і ўсе на яго кіруюць позіркі, ацэньваюць, вывучаюць. Потым недзе абгаворваюць, даюць свае ацэнкі — як стаяў, што сказаў.

Ніяк не разгадае Ніна Іванавага характару: бывае смелы, як пад час знаёмства з ёю, як у некаторых сваіх разважаннях, бывае і сарамлівы і быццам насцярожаны. Ніне падабаецца і адно і другое, і мужчынская смеласць і гэтая сарамлівасць, у якой яна бачыць павагу да людзей. А можа, глядзіць на яго сваімі закаханымі вачыма, у іншых вачах і Іван іншы? Прыйшла ўжо да вываду ў сваіх назіраннях — калі чалавек падабаецца, то даруеш яму і недахопы, і недахопы яго здаюцца мілымі. А калі не падабаецца чалавек, то і станоўчыя якасці ягоныя толькі раздражняюць.

Пакуль Ніна паспела падысці і прамовіць слова, Зіна Навумава ўжо запрашала Івана:

— Праходзьце, праходзьце, калі ласка, можа, распранецеся?

А сама вачыма з-пад сваіх вышчыпаных бровак мірг, мірг. Хоць мае добрага хлопца, ціхага, паслухмянага Міцю са свайго курса, вочкі строіць кожнаму, хто заходзіць у пакой. Быццам дзіўна ёй, што могуць яшчэ да некага прыходзіць кавалеры, лічыць, што ўсе павінны захапляцца толькі ёю.

— Не, дзякуй, — адказаў Іван, перамінаючыся з нагі на нагу каля дзвярэй. Даўно знайшоў позіркам Ніну і тым самым позіркам клікаў яе.

— Можа, праўда зойдзеш, распранешся? — паклала свой сшытак з лацінскаю моваю Ніна. Хоць ведала, што Іван не пагодзіцца, ды і ёй нецікава было б сядзець з Іванам у пакоі, пад абстрэлам дзявочых вачэй, не могучы сказаць патрэбнае і ёй, і Івану слова.

— Не, дзякуй…

Ён пачакаў, пакуль Ніна апранулася, прапусціў яе наперад у дзвярах, пакланіўся ўсім, развітваючыся.

На вуліцы было марозна і ветрана, сыпаў дробненькі сняжок, але не ўкрываў зямлю, ветрам надувала яго толькі ў ямкі, пад агароджы, і ён бялеў бугаркамі, палоскамі на цёмнай, скаванай марозам зямлі. Недалёка ад інтэрната на слупе гарэў ліхтар, і дробныя сняжынкі круціліся ў яго святле, часам здавалася, што ляцяць яны не ўніз, а ўгору.

У Ніны на галаве быў берэцік, старое, яшчэ маміна, паліто прадуваў вецер, у лёгкіх чаравічках стылі ногі, але Ніна лічыла, што так і трэба, на тое ж зіма з яе холадам. Праўда, аднойчы вечарам, калі дзяўчаты ў пакоі раптам выявілі, што ні ў воднай няма ні кавалка хлеба і Ніна падахвоцілася збегаць у магазін, Ліля Ваяводава з журфака, глянуўшы на яе берэцік, сказала:

— Вазьмі хоць маю хустку закруці, на вуліцы халадзіна.

І Ніна закруціла Ліліну хустку. Выйшла на вуліцу і раптам адчула, што і зімою можа быць не холадна, калі цёплую хустку закруціць… А калі б яшчэ цёплае паліто, цёплыя боцікі…

Цяпер на ёй апранута сваё, што мела, але не паказваць жа Івану, што ёй холадна, ды, уласна, вялікага холаду пакуль і не адчувала, толькі што з цёплага пакоя, ды побач Іван.

— Ну, як твае дзялы? — спытаўся Іван, маючы на ўвазе, вядома, сесію.

— Сёння зноў пяцёрка… Экзамены ўсе, адзін залік застаўся, лацінскі…

— Ну, малайчына, — пахваліў яе Іван. — І ў мяне ўсё… Тры пяцёркі, дзве чацвёркі. Заўтра дадому, на канікулы… Мог і сёння паехаць, ды вось… З табою прыйшоў развітацца.

Яны кіраваліся ў бок сталоўкі, што цямнела стажком недалёка ад скверыка. Апошнім часам там быў іхні прытулак. Дзіўна, што ніхто іншы яго не аблюбаваў. Дзверы, што вялі ў будынак з вуліцы, не замыкаліся, уніз вяла кароценькая лесвіца, канчалася

маленькаю квадратнаю пляцоўкаю перад уваходам у кухню, на дзвярах якой у такую пару заўсёды вісеў замок. У гэтым закутку, затуленым ад ветру і людскіх вачэй, яны прастойвалі гадзінамі. Цалаваліся, адгароджаныя ад усяго свету, адны ў цэлым свеце, як у космасе.

І сёння тут было вольна. Трымаючыся адно за аднаго, спусціліся па прыступках уніз, абняліся.

— Значыцца, едзеш? — спыталася Ніна.

— Ага… Трэба ж дадому, там чакаюць…

У Ніны ў грудзях варухнулася шкадаванне… Што нідзе і ніхто яе не чакае… І што вось паедзе Іван і цэлыя два тыдні, цэлыя два тыдні яны не пабачацца.

— А ты паедзеш на канікулы? — спытаў ён.

Ніна ўспомніла, як мінулым летам, у час канікулаў ды адпачынку, што далі ў друкарні на два тыдні, паехала яна да цёткі.

Цётка неяк пачарнела, пастарэла, і хата пачарнела, здалася Ніне зусім маленькаю. У хляве, расхрыстаныя, на адной пятлі, рыпелі дзверы. Плот пахіліўся, дошкі пагнілі. Няма мужчынскай рукі, гаспадарчага вока. Цётчын сын Пецька, хоць і вырас ужо ў добрага мужыка, мог бы мацеры памагаць, але п’е, гаспадаркі не глядзіць. Рэня, старэйшая дачка, рана выскачыла замуж, нарадзіла дзіця, ды муж кінуў, збег у горад. Рэня з хлопчыкам жыла цяпер пры мацеры. Малодшая дачка паступіла ў тэхнікум у Русі, той трэба памагаць, каб хоць адно дзіця вырасла чалавекам. Пажыла Ніна ў цёткі тыдзень, убачыла, што сочыць цётка за кожнаю лыжкаю, што нясе Ніна ў рот. Паехала ў свой інтэрнат.

Цяпер з цёткаю толькі часам перапісваюцца.

— Нікуды я не паеду, — сказала Івану.

— Дык што, у інтэрнаце застанешся?

— Ага… Мяне папрасілі напісаць артыкул у «Чырвоную змену»… Пра студэнцкае жыццё… Вось, буду пісаць…

Неяк днямі на лесвіцы ў Доме друку, калі насіла здаваць прачытаную карэктуру, сустрэла Мікалая Максімавіча. Пачаў пытацца — дзе яна дзелася, чаму не відаць у друкарні. І яна расказала, што болей там у штаце не працуе. Пагаварылі яшчэ — пра надвор’е, пра тое, ці будзе атамная вайна, а потым Мікалай Максімавіч, якога Ніна называла ўжо проста Мікола, сказаў:

— Напішыце нам артыкул у газету. Пра студэнцкае жыццё… Мы ж газета маладзёжная, такі матэрыял нам патрэбны.

Ніколі Ніна не пісала ніякіх артыкулаў і пачала адмаўляцца.

— Што вы, Мікола, я не здолею.

Але той пачаў угаворваць, сарамаціць.

— Каб студэнтка філфака ды не ўмела для газеты напісаць!

Ён так настойваў, што Ніна згадзілася, паабяцала, і цяпер гэтае абяцанне вісела на ёй, як камень.

— Што гэта за Мікола такі аб'явіўся? — раўніва спытаў Іван, калі Ніна расказала яму пра тую просьбу.

— Ого! — засмяялася Ніна. — Ці не раўнуеш ты?

— А што ж ты думаеш? Я паеду на канікулы, а ты тут з нейкім Міколам!..

— Ой, дурны, — засмяялася Ніна, прытулілася да Івана.

Ждзі меня, і я вернусь,
Толька очэнь ждзі,
Ждзі, кагда наводзят грусць
Жоўтыя даждзі, —

прадэкламаваў раптам Іван, і Ніна схапілася за вушы, засмяялася.

— Ну і вымаўленне, ну і руская мова! Каб паслухала цябе наша Ірына Валяр'янаўна!

— А хто такая Ірына Валяр'янаўна і чаму яна павінна мяне слухаць? — мацней тулячы да сябе Ніну, спытаў Іван.

— А гэта наша выкладчыца сучаснай рускай мовы…

Праводзіліся ў іх і такія заняткі — па сучаснай рускай мове. Ірына Валяр'янаўна, якая іх вяла, асноўнаю задачаю ставіла — навучыць студэнтаў правільна гаварыць па-руску, там, дзе трэба, ставіць націскі, пазбавіць юнакоў і дзяўчат беларускага акцэнту.

Сама яна была кабета ў гадах, але надта маладзілася, ужывала шмат касметыкі, насіла сукенкі з фальбонкамі ды банцікамі. Яна вельмі клапацілася пра тое, як выглядае перад аўдыторыяй, як ходзіць, якія робіць рухі.

Для практыкі на занятках узяла яна верш Пушкіна «Анчар». Стоячы перад аўдыторыяй і старанна вымаўляючы кожнае слова, яна чытала:

В пустыне чахлой и скупой,
На почве, зноем раскаленной,
Анчар, как грозный часовой,
Стоит один во всей вселенной.

Природа жаждущих степей
Его в день гнева породила…

І гэтак далей.

Даўшы заданне вывучыць верш на памяць, на наступных занятках яна выклікала студэнтаў чытаць яго. Да стала выходзіў Змітрок Капуста і пачынаў дэкламаваць:

У пустыне чахлай і скупой,
На почве, зноям раскалённай,
Анчар, як грозны часавой…

— Стойце, стойце, — спыняла яго Ірына Валяр'янаўна. — Не «ў пустыне», а «в пустыне»… Не «раскалённай», а «раскаленной», не «зноям», а «зноем»… У слове «почва» літару «ч» трэба вымаўляць мякка, а ў слове «грозный» літару «г» цвёрда, павінна быць «г» узрыўное, а не фрыкатыўнае… Разумееце?

Змітрок пачынаў чытаць спачатку:

У пустыне чахлай і скупой,
На почве, зноям раскалённай…

Ірына Валяр'янаўна чырванела, банцікі і фальбоначкі на яе сукенцы пачыналі хвалявацца. Яна зноў паўтарала, як трэба вымаўляць кожнае слова, Змітрок стараўся, але прагрэсу назіралася вельмі мала.

Да стала выклікаўся іншы студэнт альбо студэнтка, і пачыналася тое самае. Цяжка, немагчыма было пазбавіць беларусаў акцэнту сваёй роднай мовы.

Ніна, якая мела, можна сказаць, музыкальны слых і хутка асвойвала вымаўленне іншай мовы, са смехам пачала папраўляць Івана:

— Не «ждзі», а «жди», разумееш? Не «очэнь», а «очень»… Не «жоўтыя», а «желтые». Ну, давай спачатку.

Іван паслухмяна пачаў спачатку, і зноў у яго атрымалася:

Ждзі меня, і я вернусь,
Толька очэнь ждзі…

— Непапраўны! — засмяялася Ніна.

— Але ты зразумела, што я хацеў сказаць, зразумела? — нахіляўся да яе твару Іван.

— Ды ўжо ж… Зразумела, што мне трэба чакаць…

Ён пачаў цалаваць яе, і знікла ўсё на свеце, апрача іх дваіх, не верылася ў расстанне, пакуль яны побач, разам.

Па змерзлай зямлі хадзіў вецер, ганяў пазёмку, круціў дробныя сняжынкі каля ліхтара, пазвоньваў змерзлымі галінамі кустоў на цёмным пустынным скверыку. Скалечаныя, без рук, без ног, ускідалі ўгору мячык кучаравыя, падобныя на анёлаў, скульптурныя хлапчукі. Скалечаны, разбіты ляжаў прыціхлы горад, укрыты цемнатою позняга вечара, мала дзе асветлены, пустынны, як цяжка хворы чалавек, якому яшчэ доўга ачуньваць. Ціш парушалі толькі паравозныя гудкі — недалёка быў пасажырскі вакзал. Даносіўся часам і перастук колаў, што каціліся ў далёкі свет, таксама скалечаны вайною. Не спыняючыся ні на міг, бег, спяшаўся наперад час, пакідаючы за сабою хвіліны, гадзіны, з'ядаючы, мелючы іх у сваіх жорнах, робячы мінулым тое, што зусім нядаўна было будучыняй.

«Два тыдні скора прабягуць, — суцяшала сябе Ніна. — А там будзе сустрэча… А наперадзе — эпоха, як сказаў некалі Іван. Ах, хутчэй бы…»

Што прыспешвала Ніна, чаго хацела — хутчэй яна і сама не ведала. Проста жыла ўвесь час у чаканні незвычайнага, таго, дзеля чаго і прыйшла на гэты свет, а незвычайнае, галоўнае, недзе наперадзе, і хутчэй бы яно надышло.

## 10

Апусцелі калідоры інтэрната, няма больш смеху, бегатні — з чайнікам да тытана, з ручнікамі на плячах — у агульны ўмывальнік, дружным маршам — на лекцыі і з лекцый, не выводзіць факстротаў і танга Рыгор Буліцкі на лесвічнай пляцоўцы. Толькі дзе-нідзе аб'явіцца самотная постаць хлопца ці дзяўчыны, якім, як і Ніне, няма куды, няма да каго ехаць на канікулы.

У Доме друку, у карэктарскай, яе спаткала нечаканасць. На месцы Любові Іванаўны сядзела незнаёмая, даволі пажылая жанчына з хмурым тварам. Карэктары, падчытчыцы, нізка схіліўшыся над гранкамі, чыталі, бубнілі, не ўзнімаючы галоў. Ніна спынілася на парозе. Хмурая жанчына ўзняла на яе строгі запытальны позірк.

— А… А дзе Любоў Іванаўна? — спытала Ніна, пачынаючы разумець, што, мусіць, Любові Іванаўны тут ужо няма і гэтая жанчына на яе месцы.

— Любоў Іванаўна тут больш не працуе, — пацвердзіла Німіну здагадку жанчына. — А вам што трэба?

— Ды ў мяне… Ды я… Вось карэктура, — пачала Ніна разгортваць газету, у якой ляжалі гранкі.

— А-а, дык гэта вы Ніна Давыдоўская, — сказала кабета такім тонам, быццам злавіла нарэшце злодзея, — працягнула руку, нібы хочучы адабраць тое, што Ніна сапраўды ўкрала.

Тая падала адціснутую на кепскай жоўтай паперы карэктуру. Новая загадчыца пачала гартаць яе, нібы хочучы пераканацца, што ўсе літары ў тэксце на месцы.

— Былая загадчыца парушала закон, калі давала вам карэктуру на дом… Гэтага рабіць няможна. Больш такой работы вы не атрымаеце…

Ніна адчувала, як прыслухоўваліся да голасу новай загадчыцы ўсе ў карэктарскай, падчытчыцы нават чытаць пачалі цішэй, але ніхто не ўзняў галавы, ніхто не сказаў ні слова.

— А… А як мне атрымаць разлік? — нясмела спытала Ніна.

— Разлік? — загадчыца прашыла Ніну халодным позіркам. — І грошы вам плацілі незаконна… За штатную адзінку прыбіральшчыцы. Цяпер гэтую адзінку скасавалі.

Ніна спалохалася. Яна ж не ведала, што парушала закон, што ёй плацілі грошы незаконна, зараз гэтая жанчына выкліча міліцыю — і яе забяруць, будуць спаганяць плату. Не могучы скрануцца з месца, яна чакала свайго лёсу, верачы ўжо, што зрабіла вялікае злачынства і заслугоўвае пакарання.

— Чаго вы стаіцё? — строга спытала ў яе новая загадчыца. — Можаце ісці… Вашы паслугі нам болей не патрэбныя. І пропуск, пропуск у друкарню аддайце.

Ніна адчыніла сумачку, пакорпалася ў ёй, знайшла пропуск, паклала на стол. Выйшла з друкарні, спынілася на лесвічнай пляцоўцы, недалёка ад вартаўніка. Разумела, што дзверы ў друкарню цяпер перад ёю зачыніліся назаўсёды.

Ужо ў самым нізе дагнала яе Вера Міканорава, з якою некалі ездзілі глядзець, як вешалі немцаў.

— Ой, не кажы, у нас такое было, такое…

— Што, з-за мяне звольнілі Любоў Іванаўну?

— Наогул-то не за цябе, памылку надта грубую прапусціла… Палітычную… — Вера азірнулася, ці няма каго блізка, нахілілася да Ніны́нага вуха і сказала, якую памылку прапусціла Любоў Іванаўна. Ніна жахнулася. — Ну а калі пачалі звальняць, разбіраць яе работу, то тут і ты выплыла… Што незаконна…

— Бедная Любоў Іванаўна, — шчыра пашкадавала яе Ніна. — І як яна цяпер, знайшла работу?

— Ну, гэта ж нядаўна было, новая загадчыца толькі трэці дзень сядзіць… Але ўжо сябе паказала… Такая ведзьма… Чуць

што, так і крычыць: «Выганю з работы, звольню! Я вам не Любоў Іванаўна, распусціла вас!»

— А Любоў Іванаўна такі чалавек была!

— Што ты, мы яе яшчэ не раз успомнім… Але мне трэба бегчы, бо тая ведзьма пачне крычаць, я ёй сказала, што ў туалет мне трэба.

— А вы што, і ў туалет у яе пытаецеся?

— І не кажы… Як вучні ў класе… Словам перакінуцца не дае. Сядзім цэлыя дні кручкамі. І ты думаеш, ад гэтага рабоце лепей? Стамляемся і пачынаем прапускаць памылкі… Потым перачытваем… Ну, бывай, — і Вера пабегла наверх, па лесвіцы, куды дарога Ніне ўжо адрэзана.

Паціху пайшла да прыпынку трамвая. На душы было пагана. І таму, што праз яе ў Любові Іванаўны былі непрыемнасці, і таму, што страціла заработак. Прыйдзецца жыць на адну стыпендыю, а на адну стыпендыю жыць немагчыма, як ні круці.

На прыпынку трамвая стаяла чорная гурба людзей. Тупалі нагамі, хлопалі рукамі, саграваліся. І Ніна вельмі скора адчула холад. Людзей прыбывала, а трамвай усё не падыходзіў. Нарэшце паказаўся, ледзьве поўз па рэйках, высякаючы дугою іскры з правадоў. Спыніўся на прыпынку, і людзі кінуліся ў дзверы густым натоўпам. Спачатку Ніна не хацела лезці ў тую калатэчу, а потым падумала, што наступнага трамвая прыйдзецца, можа, зноў доўга чакаць, людзей зноў шмат набяжыць, а на вуліцы холад, — і пачала плішчыцца ў гурт. Хутка трапіла ў такую гушчу, што каб і хацела выбрацца назад, то не здолела б, яе ціснулі з усіх бакоў, неслі ў адным шчыльным камяку да падножкі вагона.

Трамвай даў папярэдні званок, і людзі пачалі плішчыцца яшчэ мацней, з большым імпэтам. На нейчай спіне, падпіхнутая ззаду моцнымі рукамі, яна ўбілася ў вагон. Стаялі ўсе тут шчыльненька адзін да аднаго, не паварушыць рукою, каб дастаць грошы на білет. А кандуктарка суровым голасам заклікала:

— Бярыце білеты… Бярыце білеты…

Нехта цераз галовы перадаваў капейкі, назад плылі паперкі адарваных ад рулона білецікаў.

Спераду людзі выходзілі, ззаду націскалі новыя пасажыры, і Ніну прапхнулі наперад. Кандуктарка засталася ззаду. Ніна сілілася падняць руку з сумачкаю, каб адчыніць, дастаць маленькі кашалёк, з яго — грошы на білет, але ў вагоне па-ранейшаму нельга было паварушыць рукою. І Ніна раптам раззлавалася. «Паеду зайцам!.. А што ж яны!.. Такая цесната!.. На адну стыпендыю жыць прыйдзецца, і капейка будзе дарагою…» — невядома

перад кім апраўдвалася, невядома каму нешта даказвала. Наогул сэрца тачылі крыўда, абраза, у вачах стаяла новая загадчыца карэктарскай, яе варожы твар, быццам Ніна і праўда які злачынец. Шкода было Любові Іванаўны, шкода пропуска, што адчыняў ён дзверы ў друкарню.

Яна ехала, забыўшыся ўжо пра білет, занятая сваімі перажываннямі. Не адразу дайшло — чаму спераду нервова заварушыліся пасажыры, гусцей паплылі цераз галовы капейкі да кандуктара.

Кантралёр… Першы раз у жыцці ехала Ніна зайцам — і маеш, кантралёр. А ён, расштурхаўшы людзей, ужо стаяў перад ёю — здаравенны мужчына з чырвонаю павязкаю на рукаве пацёртага шыняля, няголены і нейкі ўвесь, амаль да вачэй, зарослы шчэццю.

— Ваш білецік! — працягнуў руку да Ніны.

— У… Я яшчэ не паспела, — не ведала, як апраўдацца, Ніна.

— Плаціце штраф, — нібыта ўзрадаваўся кантралёр.

Спрачацца, нешта даказваць — бескарысна, ды Ніна і адчувала сваю віну. З цяжкасцю выцягнуўшы руку з сумачкаю, адчыніла яе, выняла кашалёк, высыпала на далонь дробязь. Акурат хапіла на штраф. Не так шкода было тых грошай, як агортваў сорам. Божа мой, каб гэта бачыў Іван!.. Як добра, што яго няма ў горадзе!.. Такая ганьба! Выскачыла з таго трамвая, шпарка пайшла па вуліцы. Сама сябе бэсціла. Так табе і трэба!.. Нездарма людзі кажуць, што гультай два разы робіць, а скупы два разы плоціць. Хоць разумела, што без білета ехала не ад скупасці, выказвала гэтым невядома каму нейкі пратэст… Але будзе навука.

Траляліся ў Ніны шчаслівыя дні, калі ва ўсім шанцавала, а траляліся і нешчаслівыя, калі ўсё ішло наперакасяк. Сёння акурат быў такі дзень — няўдалы.

## 11

Цяпер такі надышла пара скінуць камень, што ўскаціла на плечы, паабяцаўшы Міколу напісаць артыкул у газету. Па-першае, каб выканаць абяцанне, а па-другое — на нешта трэба жыць. Як ні эканомнічай, як ні беражы капейку, а стыпендыі не хопіць і на самую нішчымную яду, не кажучы пра іншыя расходы, якія выпаўзаюць з усіх шчылін, — падбіць набойкі на боціках, купіць сшытак для канспекта, мыла, зубны парашок, панчохі. Хоць і не надта разжывалася на чытанні тых карэктур,

але затыкала такія-сякія дзіркі, а цяпер з іх падзьме такі вецер, што раскалашмаціць увесь Нінін побыт.

У чытальнай зале, напалову апусцелай пад час канікул, а для Ніны і зусім пустой без Івана, яна паклала перад сабою сшытак, адгарнула на чыстай старонцы і пачала думаць. Яна прадумала над тою старонкаю больш чым гадзіну, але не напісала ніводнага слова. Не ведала, пра што пісаць і як пісаць. У галаве круцілася пра іх студэнцкае жыццё. Ну, лекцыі… Ну, экзамены… Самадзейнасць, у якой сама Ніна ўдзелу не прымае… Камсамол… Успомніла, як прымалі іх у камсамол, яшчэ на першым курсе.

Яна і хацела ў камсамол, і баялася ўступаць, бо сумленная камсамолка не можа хлусіць, не мае права… Так што трэба напісаць пра бацьку, што арыштаваны ў трыццаць сёмым. А напішы праўду, то і не прымуць, яшчэ ўчыняць дапрос — чаму пры паступленні на вучобу змяніла ў аўтабіяграфіі. Адмовіцца, не ўступаць? Як паглядзяць на такое аднакурснікі? Ты што, супроць камсамола, супроць усіх нас? Ды і вельмі хацелася быць камсамолкай. І Ніна згадзілася. І ў біяграфіі зноў напісала — бацькі загінулі ў час вайны. Змяніўшы раз, мусіла цягнуць ужо гэтую ману за сабою, як хвост. Ужо каб і хацела адкінуць яе, то не магла.

Іх набралася чалавек дваццаць, тых, што жылі ў акупацыі і па гадах да вайны не маглі яшчэ быць камсамольцамі. Рэкамендацыі давалі камсамольцы з іх жа курса, тыя, што жылі ў эвакуацыі і ў камсамол уступалі ў час вайны. Потым усіх павялі ў райком камсамола.

За сталом, пакрытым чырвонаю тканінаю, сядзелі хлопцы і адна дзяўчына, з камсамольскімі значкамі на грудзях, усе са строгімі тварамі, поўныя ўсведамлення таго, што яны нашмат вышэй за гэты гурт неарганізаваных студэнтаў, яны вырашаюць іх лёс — прыняць альбо не прыняць. Задавалі пытанні. Пра міжнароднае становішча, па кароткім курсе гісторыі партыі, па працах Сталіна, па яго біяграфіі. Ніне чамусьці перапала пытанняў болей, чым каму, яна не на ўсе адказала, бо не ўсё ведала і яшчэ — баялася, каб не было пытання пра бацькоў, каб не прыйшлося ўголас гаварыць няпраўду. Але пра бацькоў не спыталіся і ў камсамол яе прынялі. І цяпер яна ў сумачцы носіць усюды з сабою шэрую кніжачку з адбіткам ленінскага сілуэта. Дакрананне да кніжачкі выклікае і пашану, і сорам… Не сказала праўды… Яна супакойвала сябе, апраўдвала тым, што, зрэшты, нічога яна не нахлусіла, бацькі сапраўды загінулі і, можа, акурат у час вайны, бо каб не загінулі, то аб'явіліся б, колькі гадоў пасля вайны мінула. І потым, дзеці за бацькоў не

адказваюць, гэта словы самога Сталіна. Так што яна чыстая і перад камсамолам. І ўсё ж сумленне тачыла, не давала супакою і часам падступала да яе страхам, на душы рабілася пагана.

Але пасля таго прыняцця ў камсамол камсамольскага жыцця на курсе не адчуваецца, толькі збіраюць узносы ды зрэдку — камсамольскі сход па пытаннях міжнароднага жыцця і паспяховасці. Ніна не мае ніводнага камсамольскага даручэння, хіба што была агітатарам на выбарах.

Дык пра што пісаць у тым артыкуле? А з другога боку, гэта ж сарамата, студэнтка трэцяга курса філфака не ўмее напісаць артыкул у газету.

Яна вырашыла ўзяць падшыўку той самай «Чырвонай змены», падшыўку «Звязды», каб паглядзець, як людзі пішуць, павучыцца ў людзей. Прынесла на свой стол, паклала перад сабою тоўстыя пляскатыя сшыткі — сашчэпленыя разам газеты, ціха, каб не рабіць шуму, пачала гартаць, затрымліваючыся вачмі на тым альбо іншым артыкуле.

Амаль на кожнай першай паласе калгаснікі, рабочыя рапартавалі Сталіну аб працоўных перамогах. «Вялікаму правадыру, другу і настаўніку, арганізатару і натхніцелю перамог савецкага народа таварышу Сталіну!..

Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч!

Пад Вашым мудрым кіраўніцтвам наша вялікая сацыялістычная радзіма дабілася сусветна-гістарычных перамог…»

«Дарагі наш бацька і настаўнік! Клянёмся Вам, наш родны і любімы!»

Сталіна праслаўлялі газеты, часопісы, радыё, плакаты, у любві да яго кляліся, яго імем бажыліся. Нават дзеці, калі ў чым прысягалі, казалі: «Чэснае сталінскае!»

І дзіўныя былі да ўсяго гэтага адносіны ў Ніны. Недзе глыбока-глыбока, на самым дне душы, жыла смутная нязгода з усім гэтым. Але нязгода такая смутная і невыразная, што не магла сфармуляваць ў думку, у слова. А на паверхні збіралася тое, што абвальвалася на яе з тых самых газет, часопісаў, плакатаў, радыё. Значыцца, так трэба… Не могуць памыляцца мільёны людзей, не могуць памыляцца тыя, хто на самым версе, хто кіруе лёсам народа, яго жыццём. Дапусці на адну хвіліначку, што ўсе памыляюцца і што «там!» памыляюцца, дык ці варта і на свеце жыць… Усё так і трэба… Так і трэба…

А вось артыкул нейкага В. Барысенкі «Супроць нізкапаклонства перад буржуазнай культурай». Канечне, навошта ж нізкапаклоннічаць перад замежнаю культураю, што ў нас, сваёй

не хапае? — згаджаецца з В. Барысенкам Ніна. Якая ж там, на Захадзе, культура, там адны забойствы, парнаграфія, там неграў лінчуюць. Крытык выкрывае беларускіх нізкапаклоннікаў. «Нацыяналіст М. Гарэцкі, падтасоўваючы гісторыка-літаратурныя факты, сцвярджаў, што ідэйныя вытокі старажытнай беларускай літаратуры ляжаць у культурных соках Захаду, што наша літаратура расла і развівалася на глебе еўрапейскасці…»

Гісторыю беларускай літаратуры Ніна ведае толькі з таго, што чуе на лекцыях. Пра М. Гарэцкага на лекцыях наогул не гаварылі, і ў яе няма абсалютна ніякіх падстаў не верыць гэтаму Барысенку.

А во далей. Гэта ўжо супроць выкладчыкаў, што вядуць у іх беларускую літаратуру. «Развіваючы думкі Ларчанкі, Пшыркоў сцвярджае, што “Нашай Ніве” не быў характэрны нацыяналістычны ўхіл… Адрываюць беларускую літаратуру ад рускай… Не выяўляюць дробнабуржуазных тэндэнцый у творчасці Багушэвіча…»

Ніна і падумаць не магла, што ў лекцыях Пшыркова, Ларчанкі такія памылкі. Пшыркова проста сумна слухаць, заікаецца, пакуль слова вымавіць, здаецца, памог бы яму… А Ларчанка? Усмешлівы, добры, твар увесь у барадаўках, але сімпатычны. Таксама не вельмі цікава вядзе лекцыі, не Саўсун, але…

Гартае падшыўку Ніна, часам забывае, навошта гартае… Проста цікава… Калі прызнацца шчыра, то ўвогуле газеты яна чытае рэдка, у інтэрнаце не выпісваюць, а ў бібліятэцы вечна сядзіш над лекцыямі. Філфак, столькі чытаць даводзіцца і рускай, і замежнай літаратуры. Цяпер замежнай, мусібыць, меней будуць патрабаваць, каб не абвінавацілі ў нізкапаклонстве перад Захадам…

Ніну цікавіць беларуская літаратура. Не толькі таму, што яна на беларускім аддзяленні філфака. Любоў да беларускай літаратуры ідзе яшчэ ад мамы, якая выкладала яе ў школе. З маленства памятае вершы Якуба Коласа, Янкі Купалы, потым сама чытала — Бядулю, Маўра… Цяпер з цікавасцю спынілася на радках: «Пастанова ЦК ВКП(б) і даклад т. Жданава аб часопісах “Звезда” і “Ленинград” зрабілі жыватворны ўплыў на развіццё беларускай літаратуры. У творах беларускіх пісьменнікаў віднае месца пачалі займаць творы аб гераічных дзеяннях савецкіх людзей, іх жыцці, працы і подзвігах. З’явіліся творы “Цёплае дыханне” М. Паслядовіча, “Пад мірным небам” А. Стаховіча, “Вяснянка” Т. Хадкевіча…»

«Не чытала гэтых твораў, — думае Ніна. — Трэба будзе прачытаць».

А!.. Вось ужо тое, дзеля чаго, можна сказаць, гартаецца падшыўка… Артыкул рэктара БДУ Тамашэвіча «Беларускі ўніверсітэт у новым навучальным годзе». Ніна ўпіваецца ў радкі. «Вучыцца 1400 студэнтаў… 6 факультэтаў… Прафесарска-выкладчыцкі калектыў — 163 чалавекі… Павысілася паспяховасць па асновах марксізму-ленінізму… Слаба вядзецца барацьба з рэакцыйнымі буржуазнымі тэорыямі, з нізкапаклонствам перад буржуазнай навукай…»

Ніна прачытвае артыкул ад радка да радка… Можа, і ёй напісаць нешта такое, толькі пра свой курс… Колькі студэнтаў, якія навукі праходзяць, як бавяць вольны час…

Яшчэ адгортвае старонку. Чорная рамка… А ў чорнай рамцы — партрэт Жданава… Ну так, гэта ж было зусім нядаўна, жалоба плыла з рэпрадуктараў, душу разрывалі мелодыі тугі і смутку. І газета ўся ў жалобе. «У асобе таварыша Жданава савецкія пісьменнікі страцілі свайго лепшага друга і ідэйнага кіраўніка… Яго мудрыя ўказанні былі ўказаннямі нашай партыі, яны дапамагалі нам пазбавіцца памылак і недахопаў у творчай працы, натхнялі нас на напісанне высокаідэйных твораў. Глыбокія думкі, выказаныя А. А. Жданавым, назаўсёды застануцца для нас дарагімі і незабыўнымі. Яны і далей будуць асвятляць шляхі развіцця савецкай літаратуры і мастацтва».

Але сум, жалоба ў газеце саступаюць месца пафасу, радасці жыцця, услаўленню перамог. У дзень трыццацігоддзя Ленінскага камсамола камсамольцы пішуць Сталіну пісьмо, у якім звяртаюцца да вялікага правадыра народаў, мудрага настаўніка і друга савецкай моладзі са словамі гарачай любові, беззапаветнай адданасці і глыбокай удзячнасці, пісьмо напісана вершамі і канчаецца словамі:

Як гімн беззаветнай сыноўняй любві
Прысягу мы гэтую склалі,
На радасць, на доўгія годы жыві,
Наш бацька, настаўнік наш, Сталін!

Усюды ішло абмеркаванне і прыняцце гэтага пісьма, і кожная паласа газеты — поўная пафасу, радасці жыцця, з радка ў радок пераліваецца гордасць, любоў да Айчыны, да правадыра, гатоўнасць адолець усе цяжкасці і аддаць за правадыра сваё жыццё.

І Ніна паддаецца гэтаму настрою, чарам гэтых слоў. Яна таксама хоча служыць людзям, свайму народу, сваёй Айчыне. Яна будзе выконваць усё, што патрабуе ад яе народ… Яна шчаслівая, што жыве ў краіне, якая перамагла фашызм, якая будуе першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву, якая смела змагаецца са сваімі ворагамі.

Вось пра што яна напіша… Пра тое, як усе яны, студэнты, вучацца, як мараць быць карыснымі Радзіме, служыць ёй беззапаветна, шчыра…

Загараецца ў грудзях агеньчык, ён радасна ласкоча сэрца, скора, скора прыйдуць словы, што лягуць на белую старонку, яны будуць такія ж чыстыя, як Німіны думкі, парывы, жаданні.

Але адразу за пяро не ўхапілася. Яна і назаўтра гартала падшыўкі газет, чытала пра становішча і задачы ў біялагічнай навуцы і пачынала разумець, што Окця Саковіч правільна гаварыла пра вейсманістаў-марганістаў, што гэта буржуазныя вучоныя. Чытала пра Жэбрака, самага агрэсіўнага прадстаўніка рэакцыйнага напрамку ў біялогіі, чытала пра касмапалітаў, якія раптам аб'явіліся нават у іх ва ўніверсітэце. Хто б мог падумаць, што выкладчык Бараг — касмапаліт? Высокі, чорны, немалады, ён чытаў лекцыі па старажытнай рускай літаратуры васямнаццатага стагоддзя. Пад час лекцый загараўся, гаварыў голасна, размахваў рукамі. Пісалі за ім канспекты, здавалі яму экзамены, калаціліся, а ён, аказваецца, «бяспачпартны брадзяга», «бязродны касмапаліт», праводзіў думку аб непаўнацэннасці рускай літаратуры. Сапраўдны твар Барага паказаў той самы В. Барысенка, што выкрываў некалі і Гарэцкага, і Ларчанку з Пшырковым.

Але гэтыя артыкулы расхалоджвалі Ніну, тушылі агеньчык, які раней загараўся ў грудзях, яна зноў спынялася на іншым, дзе лунаалі пафас, радасць перамог, тым больш што гэта існавала побач, ды, можа, падумаўшы, існавала нават у гэтых суровых артыкулах, трэба было толькі ўмець аддзяліць адно ад другога. Бо барацьба з ворагамі была састаўною часткаю барацьбы за справядлівасць, за перамогу праўды, дабра. І хоць Ніна вінавата, моцна вінавата перад чалавецтвам, што ўтаіла праўду пра бацькоў, яна ўсё роўна чыстая, яна хоча служыць Радзіме, гатова аддаць сябе даастатку дзеля яе дабра.

Яна цяпер з натхненнем пісала артыкул. Пра тое, як вялікі савецкі народ пад мудрым кіраўніцтвам Сталіна перамог у вайне з фашызмам, даўшы магчымасць тым самым ім, маладым людзям, набываць веды ў вышэйшых навучальных установах, што вучацца яны дзеля таго, каб быць патрэбнымі, карыснымі

свайму народу, сваёй Радзіме, яна пісала пра свой факультэт, пра лекцыі, якія ім чытаюць, пра тое, з якім захапленнем вывучаюць яны кнігу вялікага Сталіна «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», за дзесяць гадоў свайго існавання выдадзеную на шасцідзесяці дзвюх мовах свету тыражом трыццаць тры з паловаю мільёны экзэмпляраў (звесткі вычытала ў «Звяздзе»). Пісала і пра лекцыі Саўсуна, як глыбока і цікава вядзе ён семінар па творчасці Льва Талстога, пра самадзейнасць, у якой сама ўдзелу не прымае. Але ўспомніла, як іх універсітэцкі хор, у якім было некалькі студэнтаў і з іхняга курса, выязджаў у Вільнюс, у Вільнюскі ўніверсітэт, а хор літоўскіх студэнтаў прыязджаў да іх, у Мінск. Яна добра памятае той канцэрт літоўскай песні, як грымела ад воплескаў зала, і ад тых воплескаў, як ад ветру, зноў і зноў рассоўвалася заслона і зноў пяяў зладжаны хор, вёў нацыянальны свой матыў, у якім часам гучалі і ноткі беларускай мелодыі.

Ніне асабліва спадабалася, як напісала яна пра самадзейнасць, пра літоўскі хор, але вырашыла, што ў гэтым замала ідэйнасці, і зноў вярнулася да таго, з чаго пачынала, — да ўдзячных слоў правадыру, без якога не было б ні лекцый, ні хору, ні самога ўніверсітэта.

Яна пісала так, як пісалі ўсе. Гэта было падобна на бег вялікай масы людзей у адным кірунку. У густаце гэтага руху было немагчыма збочыць альбо вярнуцца назад ці пайсці іншаю дарогаю. Масы, стыхія неслі цябе ў сваім рэчышчы, і самае маленечкае адхіленне пагражала гібеллю, цябе б растапталі, раздушылі, расцерлі б, як расціралі і душылі тых, хто спрабаваў гэта рабіць, але Ніна пра тое не ведала. А ўся маса людзей бегла ў той шчыльнай густаце, бачачы перад сабою толькі спіны тысяч, мільёнаў, што беглі, самі не ведаючы куды.

Разы тры перабелены, перапісаны артыкул Ніна панесла ў газету. Рэдакцыя «Чырвонай змены» знаходзілася таксама ў Доме друку. Са шкадаваннем прамінула дзверы, каля якіх сядзеў вартаўнік. Цяпер уваход у друкарню для яе зачынены, пропуск застаўся на стале ў новай загадчыцы, мусіць, недзе выкінула яго, падрала і выкінула. А ў рэдакцыю ўваход не забаронены, і Ніна пайшла па цемнаватым доўгім калідоры, прыглядаючыся да шыльдачак на дзвярах, шукаючы аддзел вучнёўскай моладзі.

За аднымі дзвярамі чуўся перастук машынак. З другіх выйшаў, трымаючы ў руках спісаныя лісткі, высокі мужчына, прыпадаючы на адну нагу, пайшоў па калідоры. Дробнымі крокамі, скоранька пратупала маладая жанчына са светлаю касою, каронаю ўкладзенаю на галаве. Крокі яе былі ўпэўненыя, і ўся

імклівая постаць паказвала, што яна тут адчувае сябе вельмі патрэбнаю. Ніна пазайздросціла жанчыне, гэтай яе ўпэўненасці, сама яна не адчувала пад сабою цвёрдай глебы, увесь час нечага нібы баялася, саромелася. І цяпер саромелася ісці па калідоры, адчыняць дзверы, быццам нехта мог спытаць: а ты чаго сюды?..

Знайшла патрэбную шыльдачку, адважылася, увайшла ў пакой.

Мікола сядзеў за невялічкім столікам, закладзеным паперамі, пісаў. У гэтым жа пакоі стаяла яшчэ два сталы, за адным нікога не было, за другім сядзеў малады хлопец з вельмі густою кучараваю чупрынаю. Пасярод пакоя стаяў чалавек з сівою бародкаю, у капелюшы, у акулярах, з партфелем у руцэ і вельмі далікатна, па-інтэлігентнаму гаварыў кучараваму:

— Разумееце, першая палова вашага артыкула быццам падзяляе вучоны погляд Жэбрака, але ў другой палове вы выказваеце зусім іншыя думкі…

Далейшых слоў Ніна не чула, бо Мікола падышоў да яе.

— Добры дзень, добры дзень… Я гляджу, на вуліцы такі вецер, няйначай, ён занёс вас сюды… Але добры вецер, добры вецер, — падаў ён руку Ніне.

— Не вецер, а абяцанне… Вы ж прасілі…

Мікола быццам толькі цяпер успомніў, што ён прасіў, і Ніна падумала, што, мусіць, і забыўся пра сваю просьбу, магла і не пісаць гэтага артыкула.

— Прасіў, прасіў, і вы што, выканалі маю просьбу?

— Ага, — Ніна таропка адчыніла сумачку, выняла складзеныя лісткі са сшытка ў клетачку, чырванеючы, падала іх Міколу. Той узяў, разгарнуў, глянуў на загаловак, пабег вачыма па першых сказах. Ніна гатова была скрозь зямлю праваліцца, няхай жа ж бы ён чытаў не пры ёй, няхай бы — калі яна пойдзе, можа, зараз зарагоча з яе пісаніны, кіне тыя лісткі ў кошык для брудных папер.

Тым часам далятаў да яе голас інтэлігентнага наведніка:

— Там, дзе, мне здаецца, вы падтрымліваеце Жэбрака, я гатовы павіншаваць вас за адвагу, але далей вы пішаце зусім іншае, я б хацеў ведаць вашу асабістую думку…

Кучаравы адказваў дзядку нешта такое, чаго Ніна зусім не разумела.

Мікола быццам адчуў Ніціну няёмкасць, паклаў лісткі на стол, зверху на паперы, якія на тым стале горбіліся купамі.

— Дзякуй за работу, потым пачытаю, — сказаў Мікола, і Ніна з палёгкаю ўздыхнула, павярнулася да дзвярэй, каб ісці.

Развіталася з тымі, што засталіся ў пакоі, але яны нібы не заўважылі ні яе прыходу, ні адыходу. Дзядок у капелюшы ўсё дапытваўся ў кучаравага пра яго думку.

Мікола выйшаў за Нінаю.

— Бедны прафесар, ён пытаецца, якой пазіцыі прытрымліваецца аўтар артыкула… Аўтар разумее ў біялогіі акурат столькі, як я ў атамнай энергіі.

— Праўда? — здзівілася Ніна. Краем вуха яна пачула прозвішча Жэбрака і падумала, ці не пра таго гэта Жэбрака гавораць, пра якога яна нядаўна чытала ў «Чырвонай змене».

— А як жа ён пісаў, калі не разумее? — спыталася Ніна.

— Заказалі, і ўсё… Дзіва, ды толькі…

Мікола праводзіў яе да самага выхаду. Спыніліся каля адчыненых на вуліцу дзвярэй.

— Бывайце здаровы, — падала Ніна руку.

Мікола ўзяў яе і затрымаў у сваёй. І вось дзіўна, калі браў яе руку Іван, Ніна адчувала сябе так, быццам яе рука дома, як птушка ў родным гняздзе, Іванава рука была свая, родная. А Міколава здалася чужою. Німіна далонь адчувала сябе ў ёй няёмка… Быдта чужы ток пульсаваў у Міколавых пальцах, хоць сам Мікола прыязна, цёпла на яе пазіраў.

— Што вы робіце сёння вечарам? — спытаў ён, усё яшчэ не выпускаючы са сваёй рукі Німіных пальцаў. — Наколькі мне вядома, у вас цяпер канікулы і вы вольная птушка. Можа, сходзім у кіно?

Сто пачуццяў абрынуліся на Ніну. На Міколавым стале ляжаў яе артыкул. Так што ад гэтага чалавека залежыць цяпер — даць яму ход альбо не… Не згодзіцца пайсці з ім у кіно, то, можа… Хаця, няўжо ён такі злыдзень… А пайсці ў кіно — значыцца, прыняць залёты… Адказаць на іх згодаю?.. А Іван? Ну, Іван, дапусцім, не будзе ведаць… Але ж яна, сама яна… Ёй жа нікога, акрамя Івана, не трэба.

— Дзякуй вам… Ведаеце… Але я не магу, — пацягнула Ніна руку, выслабаніла з Міколавай. — Не магу, разумееце?..

— Ра-зу-мею, — працяжна адказаў той. — Што ж, шкода… Ну, бывайце здаровенькі. — І ён павярнуўся, пайшоў, цераз прыступку узнімаючыся па лесвіцы.

Ніна выйшла на вуліцу. На прыпынку, як заўсёды, стаяў густы натоўп. І доўга не было трамвая. З дзвярэй Дома друку выйшаў той самы сівенькі прафесар. Ніне здалося, што ён нешта мармыча сабе пад нос, а на твары недаўменне. Паглядзела на яго са шкадаваннем.

Нарэшце падышоў трамвай. Ніна з цяжкасцю ўбілася ў вагон. Купіла білет. На ўсё жыццё была навука ехаць зайцам, такога сораму набралася той раз. Трымалася за верхні поручань, ківалася разам з натоўпам у цеснаце вагона, думала: «Не надрукуе, ну і няхай… А што ж я, прадажная… Прыедзе Іван — як у вочы глянула б — хадзіла ў кіно з чужым хлопцам. Ды і не таму, што сорамна перад Іванам… Сама не хачу… Нікога не хачу, апроч Івана. Як доўга цягнуцца канікулы… Хутчэй бы…»

І яшчэ чамусьці, колькі ехала ў трамваі, не сыходзіў з памяці прафесар, яго недаўменны твар.

Артыкул надрукавалі. Праўда, Ніна з цяжкасцю яго пазнала: змянілі загаловак, скарацілі ледзь не напалову, выкінулі пра Саўсуна, пра літоўскі хор. А Ніне гэта больш за ўсё падабалася. Але прозвішча стаяла Нініна — Давыдоўская… Набранае вялікім тлустым шрыфтам. І гэта было прыемна. Прыемна і чамусьці сорамна.

## 12

Канчаўся другі месяц зімы, дні нашмат падаўжэлі, у паветры пачала з'яўляцца нейкая празрыстасць, ясната, ад якой аж слеплі вочы і балюча было глядзець на белы снег. А мароз не падаў, трымаўся моцна, часам абсыпаючы дрэвы, кусты пушыстым інеем. У ціхае, бязветранае надвор'е дрэвы стаялі ў скверыку нібы шкляныя, а сам скверык быў падобны на застылае чароўнае царства. Але пачынаўся вецер і здзімаў з дрэў крыштальны ўбор, раскідаў па зямлі, укрытай снегам. Часам неба ўсцілала аднатонная шэрая посцілка хмар, у якой не відаць было і кропелькі прасвету, і з гэтай посцілкі пачынаў церушыцца, а потым і падаць густы снег. Ён укрываў усю зямлю, асядаў на лавачках, на галінах дрэў, і ўсё навокал набывала толькі два колеры — чорны і белы, як на гравюры. Потым снег сунімаўся, неба яснела, выблісквала сонца, зноў рабілася празрыстым паветра, і аднекуль далятаў голас невядомай Ніне птушкі — ціў-ціў-ціў, ціў-ціў-ціў, — птушка не то клікала, не то прадракала вясну.

Але да вясны было яшчэ далёка, яшчэ стаяў люты, хоць і пераваліў за сваю палавіну. У вялікім, апусцелым пад час канікулаў інтэрнацкім пакоі гулялі скразнякі. Накінуўшы на плечы паліто, Ніна сядзела пры стале, цыравала панчохі. Пачуўся стук у дзверы, стук здаўся знаёмым, трапянулася прадчуванне, але ў той жа міг адагнала яго — рана, канікулы не скончыліся.

— Уваходзьце…

У пакой увайшоў Іван.

Лінула ў сэрца, у вочы, у твар гарачая радасць. Скоранька сабрала шпулькі, ніткі, падбегла да ложка, сунула ўсё пад падушку, скінула паліто з плячэй. Падышла да Івана, які ўсё яшчэ стаяў на парозе, узяла пад руку, павяла ў пакой.

— Калі ты прыехаў, яшчэ ж канікулы не скончыліся, нашых нікога яшчэ няма, распранайся…

У першы міг, як толькі глянула на Івана, здалося — нешта змянілася ў яго абліччы, не то пахудзеў, не то спахмурнеў яго твар. Нешта сумнае на дне вачэй…

Іван паклаў на табурэтку, што стаяла пры стале, сваю шапку, падаў Ніне загорнуты ў газету пакунак.

— Што гэта?

— Гасцінец… Наша… Ад нашага парсючка… На каляды забілі…

— Ой, што ты, — засаромелася Ніна. — Навошта…

Здаецца, і Іван адчуў няёмкасць за гасцінец, пачаў апраўдвацца.

— Ну што ты хочаш ад вясковага хлопца, лапаць, ён і ёсць лапаць, замест таго, каб парфуму дзяўчыне падарыць, дык ён кавалак сала…

Ніна ўспомніла раптам тыя пайкі хлеба, пра якія расказвала Лена, як той хлопец адрываў іх ад сябе… Падумала, што не заўсёды найлепшы падарунак — парфума. Але пра гэта не сказала Івану.

— Вялікі дзякуй… Проста нечакана… І мне ніхто нічога не дарыў, ні парфумы, ні сала…

— Дасць Бог, дажывём і да парфумы, — скідаў сваю куртку Іван.

Не, здалося Ніне, што спахмурнеў, такі, як і быў, вясёлы, са сваімі смешачкамі.

Пад курткаю ў Івана той самы світар, звязаны з тоўстых нітак, сінь світара дабаўляе сіні да яго вачэй. Здаецца, ён нядаўна пабываў у цырульні, пастрыжаны, свежапаголены, і пахне ад яго цырульняю — трайным адэкалонам.

Яны селі побач за сталом, Іван абняў Ніну за плечы, яна прытуліла галаву да яго грудзей. Некалькі хвілін сядзелі так моўчкі.

— Засумаваў, — ціха сказаў Іван. — На два дні раней прыехаў…

— А я? — не адымаючы шчакі ад тоўстага сіняга світара, сказала Ніна. — Ведаеш, як чакала…

Яны зноў сядзелі моўчкі, не варушачыся.

— Так бы век праседзець… Да скону, — ціха прашаптала Ніна.

— Калі праседзім так некалькі дзён, без яды і без пітва, то і сканаем, — у тон ёй адазваўся Іван.

— Прыязджаюць дзяўчаты з канікул, а мы абое мёртвыя…

— Як Рамэа і Джульета…

Яны абое засмяяліся, узяліся за рукі, глянулі адно аднаму ў вочы і зноў засмяяліся, шчаслівыя ад сустрэчы, ад таго, што поўніла іх душы.

— Ведаеш, а ты падаў ідэю… Каб не сканалі мы ад голаду… у нас ёсць сала і ёсць бульба… Я акурат купіла… Насмажым бульбы!

— Твая галава — кладзень геніяльных думак! Давай!

Яны ўдваіх узяліся за работу. Іван шчапаў невялічкаю сякеркаю, што была ў іх у пакоі, лучынкі на распал. Ніна абірала бульбу. Скора разгарэлася пліта — Іван рабіў усё лоўка, умела, — і сквірчэла на патэльні бульба. Потым яны елі ўдваіх з адной патэльні, і гэта неяк па-асабліваму іх хвалявала, сумесная яда збліжала больш, чым пацалункі.

— Ніколі ў жыцці не еў такой смачнай бульбы, — сказаў Іван, калі патэльня апусцела.

— Смачна, праўда, але — як мая цётка гаворыць — і свіння гаспадыня, калі поўная скрыня… Каб не тваё сала…

— Каб не твая бульба…

Яны зноў смяяліся.

— А цяпер раскажы, як ты тут жыла, што рабіла, з кім гуляла, — зноў абняў яе Іван.

Ніне даўно хацелася пахваліцца Івану сваім артыкулам. Якніяк, а яе прозвішча набрана буйным шрыфтам у газеце.

— Што я рабіла? Расказвала ж табе, што мяне папрасілі напісаць артыкул у газету… Я і напісала… І надрукавалі ўжо…

Яна падышла да сваёй тумбачкі, выцягнула верхнюю шуфлядку. Туды паклала пяць экзэмпляраў газеты са сваім артыкулам, якія купіла ў кіёску.

Яна прынесла, разгарнула газету, ткнула пальцам у сваё прозвішча.

— Глядзі ты… Як скора і напісала, і надрукавалі… І велікаваты артыкул.

Ніна пацягнула з яго рук газету, але Іван не даў.

— Пачакай, дай хоць пачытаць, — і пабег вачыма па радках.

Ніна зноў засаромелася, пачала апраўдвацца.

— Ты ведаеш, папрасілі, а я ніколі не пісала, гэта першы раз, і скарацілі, у мяне тут было яшчэ…

Іван чытаў, а Ніне не цярпелася, каб ён скарэй скончыў.

— Складна, складна, — сказаў ён, дачытаўшы. — Можа, табе трэба было ісці на факультэт журналістыкі?

Ніна згортвала газету і гаварыла:

— Калі сказаць праўду, то я і хацела на факультэт журналістыкі, але мяне не ўзялі… Таму што жыла ў акупацыі…

Іван нахмурыўся, і Ніне здалося, што на твары ў яго зноў праступілі тыя самыя знакі, што Ніна ўбачыла, як толькі ён адчыніў дзверы, — хмурасць, суровасць.

— Акупацыя, акупацыя… Быдта ты вінаватая, што была акупацыя. Быдта мы вінаватыя, — у яго голасе чуліся крыўда, боль, і зноў выступілі на твары, ужо яўна, хмурнасць і нават злосць. Такім Ніна яго яшчэ не ведала, не бачыла. — Бацьку майго вінавацяць, брата вінавацяць — чаму ў партызаны не пайшлі… А каб усе з зямлі сышлі ў партызаны, хто тых партызан карміў бы… Забываюць, што нехта павінен карміць народ… Што без таго, хто на зямлі, жыцця не будзе…

Ён гаварыў усё гэта быдта не Ніне, а некаму іншаму, ад каго залежыць справядлівасць на свеце, і гаварыў гэта так, быдта не раз передумаў тыя словы, быдта яны набалелі ў яго, быдта насіў ён іх у душы і раптам выказаў — перад Нінаю.

— Папракаюць нас, заходнікаў, што мы багацей жылі… Калгасаў не было, дык і багацей жылі. Кармілі ў вайну ўсіх усходнікаў. Цемната была, канечне, за кавалак зямлі маглі чалавека забіць, але калгасаў не было, дык і багацей жылі.

— Кажаш, кармілі ў вайну ўсходнікаў… Карміць-то кармілі, але і абіралі некаторыя… Швейную машынку за тры пуды бульбы…

— Усялякія былі… Каму война, а каму карова дойна, як кажуць палякі… Але не ўсе абіралі… А калгасы…

Тое, што Іван гаварыў пра акупацыю, лажылася на Ніліну душу, і яна так думала, амаль тое самае казала, калі ў пакоі загараліся спрэчкі. Але з тым, што ён гаварыў пра калгасы, не магла пагадзіцца.

— Пра калгасы-то ўжо прабач… Хіба можна гаварыць такое? Хіба можна нават думаць так? Калгасы патрэбны, як без калгасаў? Трактары, машыны, хіба маглі б яны на вузкай палосцы зямлі, у аднаасобнікаў?..

— Трактары, машыны… А чалавек? Без чалавека і машыны…

— Сам жа кажаш, за кавалак зямлі ў вас маглі забіць… Цемната была… Гэта ўсё ад прыватнай уласнасці…

— Не ведаю, што і як трэба было рабіць, але не так, як у вас…

Яны ўпершыню гаварылі пра такое, упершыню гаварылі так — нібы спрачаліся. Каб гэта не Іван, каб гэта нехта іншы сказаў такое пра калгасы, Ніна абазвала б яго падкулачнікам, насварылася б, палічыла б такога чалавека цёмным, першабытным. Але гэта гаварыў Іван, і гаварыў з такім болем, з такою гаркатою.

Пра калгасы як пра бяду для сялян Ніна чула, вядома, не раз. Асабліва ў час вайны, калі жыла ў цёткі. Між сялян хадзілі нават чуткі, што вось пасля вайны калгасы адменяць. Чакалі пасля вайны поўнай на зямлі справядлівасці. Дзед Мікіта, цётчын сусед, седзячы на прызбе ў сваім выцертым палатаным кажусе, з кульбаю, якую стаўляў паміж ног і ўспіраўся на яе дзвюма вялікімі, у жылістых вузлах, рукамі, таксама часта гаварыў з Нінаю пра калгасы. І ён не верыў, што ў калгасе можна добра ўрабляць зямлю, што ўсе змогуць добра і роўна працаваць. Ён казаў, што спакон веку ёсць на свеце працавітыя і гультаі, разумныя і дурні і ў адну вупраж іх не ўпражэш. Што, гледзячы на гультая, і працавіты не захоча ўлягаць у работу, бо каму цікава карміць лайдака.

Ніна, яшчэ нядаўна актыўная піянерка, спрачалася з дзедам Мікітам, лічыла, што разважае ён так ад цемнаты, ад непісьменнасці, ад старасці. І яму яна даказвала, што камбайны, трактары не могуць працаваць на вузкіх палосках зямлі, што час аднаасобнікаў мінуўся, што акурат, гледзячы на працавітых, і гультаі перавыхаваюцца, пачнуць добра працаваць. І наогул трэба выхоўваць народ, адвучаць яго ад уласнасці.

Дзед Мікіта ўздыхаў, круціў галавою. А цяпер вось Ніне давялося спрачацца з Іванам.

— У нас, у вас, — з горыччу сказала яна. — Быццам ты з якой Амерыкі, а я з Аўстраліі. І я не ведаю, можа, мне здалося… Нешта ў цябе… Быццам пахудзеў ты… І вочы сумныя… Дома ў цябе ўсё ў парадку? Усе жывы, здаровы?

Галава ў Івана была апушчана, ён пазіраў на стол, на цырату з малюнкам, аблезлым ад частага выцірання, з кружочкамі ад гарачага чайніка, з плямамі ад чарніла. Не падняў галавы, не глянуў на Ніну, адвёў позірк убок. Пазіраў цяпер на дзверы, быдта чакаючы, што зараз іх нехта адчыніць. І хмурыліся бровы, апускаліся павекі, хаваючы вочы.

— Дома ўсё нармальна… Усе жывыя, здаровыя…

— То, можа, я цябе чым пакрыўдзіла? — не могучы схаваць у голасе горыч, спытала Ніна.

— Што ты, — усміхнуўся Іван, глянуў на Ніну, абдаючы цяплом, абняў яе, і Ніна зноў прыхінулася да яго, быццам хочучы схавацца на яго грудзях ад усіх клопатаў, ад усіх праблем, ад усіх пытанняў, на якія немагчыма знайсці адказы.

Не ведала Ніна, што не сказаў Іван ёй праўды. Дома сапраўды была бяда. Бацьку і брата арыштавалі. Абвінавацілі ў пасобніцтве бандытам, якія першыя гады пасля вайны сядзелі ў лясах каля іхняй вёскі. А пасобніцтва заключалася ў тым, што бандыты, прыйшоўшы ноччу і наставіўшы зброю, патрабавалі, каб бацька даў яды. І бацька змушаны быў даць хлеба, сала, салёных агуркоў.

Нехта з суседзяў падказаў. Не ўлічылі і таго, што бацька ў вайну быў партызанскі сувязны, не раз вазіў на сваёй падводзе партызан з вёскі ў вёску, падвозіў іх зброю, снарады. Забралі і брата, абвінавацілі, што меў сувязь з бандытамі, хадзіў да іх у лес, хоць гэта быў ужо чысты паклёп.

Дома Івана сустрэла жалоба, як на хаўтурах. Галасіла матка, плакалі сёстры.

— Сыночак, скажы ты, за што, — аблівалася слязьмі матка, расказваючы ўсё Івану. — Так жа не маглі дачакацца, калі свае вернуцца, дык во, вярнуліся… Немцы не забілі, дык свае…

— Ціха, мама, ціха, — супакойваў яе Іван. — Разбяруцца, выпусцяць… Яны ж не вінаватыя. Ці ёсць у бацькі дакумент, што памагаў партызанам?

— Няма ў яго ніякага дакумента, ці хто думаў пра той дакумент…

— Трэба людзей знайсці, якія ведалі, партызан…

— А дзе ты іх цяпер знойдзеш, усе разбегліся, я нікога не ведаю, бацька ні пра кога не казаў…

Увесь час, што дома быў Іван, не высыхалі ў мацеры слёзы. І яму не лез кавалак у горла. І падбіралася пад сэрца трывога — даведаюцца ва ўніверсітэце пра бацьку, пра брата… Чаго добрага, выключаць. Вырашыў нікому пра гэта не гаварыць. І нават дзяўчыне, якую любіў, якую ў думках недзе ўжо наважыўся ўзяць за жонку, не сказаў. Ды і яна ж яму пра сваіх бацькоў нічога не сказала. Загінулі ў час вайны — і ўсё…

— Дык ты што, адна жывеш у пакоі? — пасля доўгага маўчання спытаў Іван.

— Можна сказаць, што адна. Лена яшчэ нікуды не паехала, і ў яе няма куды ехаць, ды Лена цэлыя дні недзе прападае — у

сяброўак, у знаёмых. Толькі начаваць прыходзіць, і то не кожны дзень.

Іван пачаў цалаваць яе, і Ніна забылася пра ўсё. Нічога ёй не трэба на свеце, толькі адчуваць яго ласку, толькі быць з ім і не разлучацца.

13

Неяк раптам зноў запоўніліся калідоры і пакоі інтэрната, забегалі студэнты з чайнікамі, з ручнікамі на плячах, з тоўстымі сшыткамі канспектаў пад пахамі. Недзе іграў патэфон, выводзячы голасам Шульжэнкі песню пра сінюю хустачку, трэнькала балалайка і чуўся смачны рогат хлапечай кампаніі. Дзяўчаты з Ніністага пакоя вярнуліся пасля канікулаў з сумкамі, напакаванымі прадуктамі. Багацейшыя вымалі з тых сумак сала, кілбасы, масла, клалі гэты скарб у авоські і вывешвалі праз форткі на мароз. У бяднейшых было меней тлушчу, а болей круп, мукі. Але ўсе хоць што-небудзь ды папрывозілі з дому, бацькі астатняе аддавалі дзецям, якіх павыпраўлялі ў навуку.

Першыя дні раскашавала і Ніна — ласавалася салам, што прынёс Іван. Але сала вельмі скора скончылася, бо яна не толькі сама душу адводзіла, а кожны дзень частавала і Лену. За артыкул атрымала дзвесце рублёў ганарару, і тыя грошы хутка выплылі з рук, а да стыпендыі далёка, так што цяпер берагла кожную капейку і жыла галаднавата. Але голаду, здаецца, не заўважала, бегала на лекцыі, пасля лекцый — у Ленінку, часам выходзілі з Іванам з чытальнай залы на лесвічную пляцоўку і падоўгу там стаялі, успіраючыся рукамі на цёплыя батарэі, гаварылі, а то і проста маўчалі. Пасля бібліятэкі Іван праводзіў дадому, часам бегалі ў кіно, хадзілі ў тэатр. Слухалі оперу «Яўгеній Анегін», глядзелі балет «Лебядзінае возера», у якім танцавала новая маскоўская зорка Мая Плісецкая. Захапленне выклікалі яе рукі, плаўныя, гнуткія, сапраўды як крылы лебядзіныя. Далучэнне да высокага мастацтва поўніла душу радасцю. Дык калі было адчуваць той голад і якім смачным здаваўся вечарам кавалак хлеба, пасыпаны цукрам або і соллю, з пустым кіпенем альбо і з халоднаю вадою.

Званок абвясціў канец лекцыі. Чытаў яе дацэнт Валадарскі, чытаў сумна, нецікава, і той званок выклікаў ва ўсіх задавальненне. Шумнаю гурбою падаліся да дзвярэй. Чакаючы наступнай лекцыі, гулялі па калідоры, стаялі каля вокнаў, бегалі ў туалет.

Да Ніны раптам падышла незнаёмая маладая жанчына. Адразу было відаць, што яна і не са студэнцкай грамады, і не з выкладчыцкай. І не толькі таму, што тыя пахаджвалі тут без паліто, а гэтая — апранутая. Не кідка, але прыстойна. Шапка з недарагой футры, такі самы каўнер на шэрым паліто. Твар праставаты, але нешта ў ім і не зусім простае, таямнічасць, ці што. Нельга назваць той твар ні брыдкім, ні сімпатычным. Спытала Нініна імя і прозвішча, каб пераканацца, мусіць, што перад ёю тая, хто трэба. І калі пераканалася, узяла за локаць, завяла ў ціхі закутак.

— Вам сёння трэба быць у сем гадзін вечара на рагу вуліц Карла Маркса і Свярдлова… Вас будзе чакаць чалавек… Мужчына ў сінім паліто… Пад пахаю будзе трымаць газету. Так што запомніце: сёння ў сем… На рагу Карла Маркса і Свярдлова. Бывайце здаровы, — і жанчына пайшла, пакінуўшы Ніну моцна здзіўленую.

Гэта было — як у кіно. Цікава, таямніча і трывожна. Што такое?.. Хто будзе чакаць?.. Чаго?.. Што яна за асоба, Ніна, каб прызначаць ёй такія таямнічыя спатканні? І што там за мужчына з газетаю?

Празвінеў званок, клічучы на лекцыю, і ўся шумная гурба студэнтаў пачала расцякацца па аўдыторыях. І Ніна пайшла, села на сваё месца побач з Ленаю.

Увайшоў выкладчык палітэканоміі, выняў з партфеля свае канспекты, кнігі з закладкамі, якія паказвалі, адкуль браць цытаты, пачаў лекцыю. Ніна слухала, запісвала, часам забывалася пра жанчыну і пра прызначанае ёю спатканне, потым зноў успаміналa, і ў душу разам з цікаўнасцю прыходзіла трывога. Але цікаўнасці, здаецца, было болей. Прыходзіла ў галаву і такое — мажа, хто разыгрывае? Але не ведала, хто мог бы строіць з яе такія жарты.

Было яшчэ светла — дзень нашмат падаўжэў, калі Ніна, роўна ў сем гадзін, падыходзіла да рога вуліц Карла Маркса і Свярдлова. Снаваў народ. Зрэдку праязджалі машыны. І ў плыні, якая рухалася, вылучалася статычная постаць у сінім даўгаполым паліто і шэрай каракулевай шапцы-вушанцы, завязанай вушамі на макаўцы. Пад пахаю мужчына трымаў складзеную газету. Ён стаяў каля плота, які абкружаў будоўлю — аднаўлялі згарэлы ў час вайны будынак, — і глядзеў на Ніну, як яна падыходзіла. Нечым нагадаў ён Ніне тых, што даўняй ноччу забіралі з іх пакойчыка бацьку. І апала душа. І падступіў страх, якога даўно ўжо не адчувала Ніна.

Яна падышла да мужчыны, прыпынілася на міг, падняўшы вочы да яго твару, не да канца яшчэ ўпэўненая, што іменна яе чакае гэты чалавек, гатовая, калі не так, прамінуць яго і пайсці сваёй дарогаю. Але мужчына, змераўшы яе хуткім позіркам, пераклаў газету з адной падпахі пад другую і пакрочыў за ёю следам.

— Мы зараз зойдзем з вамі ў адну ўстанову… Тут, недалёка, — сказаў халодным голасам і зрабіў крок наперад Ніны, быццам паказваючы ёй гэтым, каб ішла за ім следам. Ён не сказаў, у якую ўстанову, не спытаў, ці згодная яна ісці. Халодны голас меў тон загаду, ён не дапускаў і думкі непаслушэнства. І Ніна сапраўды, нібы жалезная стружка за магнітам, які прыцягвае і на адлегласці, паплялася за чалавекам.

Ён павёў яе ўверх па вуліцы Свярдлова. Перасеклі Сталінскі праспект. І чалавек пакіраваўся да дома, якога ўсе баяліся, былі б рады яго абмінуць, але абмінуць яго было немагчыма, бо стаяў ён у самым цэнтры. Гэта быў адзін з самых лепшых будынкаў у горадзе, займаў ледзь не квартал. У час вайны згарэў, але аднавілі, адбудавалі яго самым першым. На адным з яго вуглоў, пад самым дахам, размяшчалася скульптура — жанчына, якая абдымае двух дзяцей. Нешта гэтая фігура сімвалізавала, Ніна не ведала што, але жартаўнікі шапталі, што гэта кабета з дзецьмі чакае свайго мужа, які сядзіць недзе там, у скляпеннях будынка. Не раз чула Ніна гэты жарт, сказаны шэптам, але ўспрымаўся ён анекдотам, выклікаючы не столькі жах, як усмешку. І раптам цяпер да Ніны дайшоў сапраўдны сэнс гэтага жарту. Уявіліся скляпенні, сутарэнні, людзі ў тых сутарэннях. Можа, праз іх прайшоў і бацька?..

Да цяжкіх драўляных дзвярэй вяла высокая і шырокая лесвіца. Мужчына з газетаю пад пахай павёў Ніну па ёй. У яе падгіналіся ногі, не хапала дыхання. У галаве звінела чорная пустата. Чаго яе вядуць туды? Бацька, маці?.. Можа, што-небудзь скажуць пра іх?.. Можа, яны жывыя, а Ніна — такі грэх — піша ўсюды, што загінулі… А можа, даведаліся, што яна зманіла пра бацькоў, і цяпер яе самую за гэта арыштуюць? Няхай бы што хацелі з ёй рабілі, абы тата з мамаю аказаліся… Няхай бы што хацелі… Яна ўсё вытрывае…

У вялікім цемнаватым вестыбюлі пры дзвярах, за столікам з тэлефонам, сядзеў міліцыянер. Мужчына з газетаю паказаў яму свой дакумент, нешта сказаў пра Ніну, міліцыянер кіўнуў галавою, і чалавек павёў яе далей. Зноў па лесвіцы. Другі паверх,

трэці, чацвёрты… Цяпер Ніна была ўжо ўпэўнена, што прывялі яе сюды ў сувязі з бацькам, з мамаю. І страх нешта даведацца пра іх, і спадзяванне сціскалі сэрца, і стукала ў скроні кроў, і зноў не хапала дыхання.

На чацвёртым паверсе мужчына павярнуў направа, і яны апынуліся ў доўгім цемнаватым калідоры. З аднаго боку былі дзверы, дзверы, з другога — глухая сцяна. На столі гарэлі электрычныя лямпачкі, і Ніне здалося, што на вуліцы цяпер ноч, хоць, калі ўваходзілі ў будынак, было яшчэ светла. Здалося ёй, што ўсюды, навокал цяпер ноч, і ці ўбачыць яна святло дня, ці выйдзе адгэтуль.

Каля адных дзвярэй, рудавата-карычневых, чалавек спыніўся, адчыніў іх, прапусціў Ніну наперад сябе. Першае, што ўбачыла, — вялікі стол пры сцяне насупраць дзвярэй. На стале настольная лямпа з жалезнаю талеркаю абажура. Увесь стол быў чысты, зусім без папер. За сталом сядзеў мужчына. Святло настольнай лямпы падала так, што твар гаспадара кабінета заставаўся ў ценю, прамень святла падаў наперад, на таго, хто ўваходзіў, і Ніна спынілася, асветленая, быццам пражэктарам. Ад хвалявання ў яе, напэўна, заклала вушы, бо яна не чула, што сказаў чалавек, які прывёў яе, гаспадару кабінета. Можа, на якую хвіліну пакінулі і іншыя адчуванні, бо апамяталася, калі сядзела ў крэсле за сталом.

Той, што прывёў яе, некуды знік, як прайшоў скрозь сцены.

Гаспадар кабінета выцягнуў шуфлядку стала, выняў адтуль папку, паклаў на стол, развязаў матузкі і пачаў перабіраць паперкі. Рабіў усё гэта не спяшаючыся.

Ніна глядзела на папку, на вялікія рукі з доўгімі пальцамі, на костачках якіх кучаравіліся чорныя валаскі. Што там, у той папцы? Ніціна сэрца білася, нібы молат, яна старалася суняць біццё, старалася ўзяць сябе ў рукі, схаваць свой страх. Здаецца, гэта ёй пачало ўдавацца. Дыхнула глыбей.

Гаспадар кабінета нарэшце затрымаўся на адной паперцы, прабег па ёй вачыма, спытаў у Ніны тонам, як экзаменатар на экзамене:

— Дзе вашы бацькі?

Быццам у вылічальнай машыне замільгалі ў галаве думкі — што адказаць? Як будзе правільна, як лепш у гэтым кабінеце? За секунду — сто варыянтаў.

— Памерлі…

Ці машына так загадала адказаць, ці інтуіцыя?..

— Памерлі? — перапытаў чалавек. — Што ж, магчыма… Там, бывае, і паміраюць.

«Ведае пра бацьку, усё ведае», — падумала Ніна, але падумала ўжо раўнадушна, абыякава. Няхай будзе, што будзе, яна ўсё роўна нічога не можа перамяніць.

— А паступаючы ва ўніверсітэт, вы напісалі — дзе памерлі вашы бацькі? — зноў тон экзаменатара.

Тут ужо не варта было падключаць вылічальную машыну, яе заява аб паступленні ва ўніверсітэт ляжыць у аддзеле кадраў. Недзе прачыталі ўжо, усё вывучылі, можа, копія той заявы ў папачцы…

— Не…

Чакала выбуху гневу, кулака па стале, увабрала нават крышку галаву ў плечы. Але выбуху не адбылося.

— Вы ж, мусіць, разумееце, што гэта кепска, — зноў быццам экзаменатар студэнту, які не ведае прадмета. — Але няхай, — гаспадар кабінета паклаў лісток, які дасюль трымаў у руках, у папачку, успёрся на тую папачку локцямі, абцягнутымі ахоўным сукном. — У газеце «Чырвоная змена» надрукаваны ваш артыкул. Там вы пішаце, што студэнты вашага курса з вялікаю ўвагаю вывучаюць «Кароткі курс гісторыі партыі»… Мусіць, з вялікаю ўвагаю вывучаеце яго і вы? Так?

— Так…

— Павінны ведаць, што чым больш перамагае ў нашай краіне сацыялізм, тым больш актывізуюцца нашы ворагі. Так?

— Так…

Святло падала на Ніну, а той чалавек заставаўся ў цені, і Ніна не магла яго добра разгледзець. Бачыла толькі прадаўгаваты абрыс твару, густыя чорныя бровы, чорныя валасы, зачэсаныя назад, зашпілены пад самае горла каўнер, мусіць, ахоўнага, як і рукавы, фрэнча.

— Вы павінны нам памагаць… Калі ўбачыце што ці пачуеце… Ну, якія-небудзь варожыя размовы…

Ніна пачынала разумець… Яе вярбуюць… Шпіёнам, ці што?..

А гаспадар кабінета зноў выцягнуў шуфлядку стала, дастаў чыстыя лісткі паперы, паклаў перад Нінаю.

— Прыдумайце сабе псеўданім… І напішыце распіску…

Зноў шалёна закруцілася ў галаве, запрацавала вылічальная машына — што сказаць, як адмовіцца?..

— Але… Але… Там, дзе я жыву, дзе бываю, няма варожых размоў… У нас усе сумленныя савецкія дзяўчаты…

Голас чалавека пастражэў.

— Гэта вам толькі здаецца… І пасля — хіба вы не патрыётка, не савецкая студэнтка? Вам давяраецца такая адказная задача, а вы яшчэ спрачаецеся…

— Паслухайце, — пацягнулася да яго цераз стол Ніна, і з таго ценю на хвілінку выплылі строгія складкі на аблічча чалавека, што сядзеў насупраць яе, цяжкі позірк цёмных вачэй. — Каб я ўбачыла, што нехта падкладае дынаміт пад Дом урада, ці каб да мяне нехта прыйшоў і пачаў вербаваць у амерыканскую ці ў нямецкую разведку, я б сама да вас прыйшла і сама ўсё расказала б… Без падпіскі і псеўданіма… А так…

— Вы хочаце заставацца студэнткаю? — у голасе прагучала пагроза.

«Ага, значыцца, так, — пульсавала ў Ніннай галаве. — Ім усё вядома пра бацьку… Калі я адмоўлюся, яны далажаць… І мяне выганяць з універсітэта, з камсамола… Іван… Ці захоча ён з такою?..»

— Што я павінна рабіць? — голасам кволым, як пасля хваробы, спытала Ніна.

Чалавек падсунуў ёй лісткі бліжэй.

— Прыдумайце псеўданім…

— Але я не ведаю які.

— Добра, я вам памагу, — гаспадар кабінета ўзяў лісткі, адсунуў папачку, паклаў лісткі перад сабою. — Псеўданім? Ну, напрыклад, «Бура»… Ці «Маланка», — ён падняў на яе вочы, чакаючы адказу.

— Няхай будзе так…

— Дык «Бура» ці «Маланка»?

— Усё роўна…

— Напішам — «Маланка».

Чалавек яшчэ нешта напісаў на лістку, падаў Ніне.

— Распішыцеся.

Ніна, не чытаючы, распісалася.

— Думаю, вас не трэба папярэджваць, што пра ваш візіт сюды не павінен ведаць ніводзін чалавек… Гэта само сабою… Ніводзін… Нават самы блізкі.

— Разумею…

— А цяпер слухайце ўважліва, — крыху іншым тонам, больш даверліва, а можа, ужо як сваёй, загаварыў гаспадар кабінета. — Нас цікавіць, па-першае, Алена Аляшкевіч… Яна з вамі на адным курсе, у адным пакоі інтэрната. Прыслухоўвайцеся да яе размоў, можа, яна вам, як сяброўцы, які-небудзь сакрэт адкрые… Прыглядайцеся, з кім яна сустракаецца… І яшчэ…

Іван Сташкевіч… Вы з ім часта спатыкаецеся… Каханне ў вас, ці што… Але абавязак грамадзянкі… Вы разумееце мяне?.. Можа, ён вам будзе што-небудзь расказваць пра дом, пра сям’ю… Мы будзем назначаць вам спатканні…

Зноў невядома адкуль, як са сцяны, выйшаў чалавек, што прывёў сюды Ніну. Па доўгім калідоры, па лесвіцы — уніз, уніз, паўз міліцыянера — той самы сядзеў ці ўжо іншы? — вывеў на вуліцу, пакінуў адну.

## 14

Было ўжо цёмна. Ніна спусцілася ўніз, да праспекта, паволі пайшла ў бок інтэрната. Адчувала сябе — быццам аблыталі яе нейкай павуцінаю і ад гэтай павуціны ёй агідна. Альбо піхнулі ў бруд, і яна вывалялася ў тым брудзе. Супакойвала сябе: гэта ж дзяржаўны абавязак, гэта ж служба сваёй Радзіме. Але такое разважанне не прыносіла палёгкі. Успаміналіся кнігі, фільмы з брыдкімі тварамі, касабокімі фігурамі, фальшывымі ўсмешачкамі стукачоў, якія ў яе самой выклікалі агіду. І хоць тыя належалі іншаму часу, іншаму свету, усё роўна нешта з іх перадавалася на сённяшніх. Хто яна цяпер? «Бура»? «Маланка»? Сама не памятае… Навошта згадзілася? Трэба было цвёрда сказаць — не!.. І паляцела б з універсітэта, з камсамола… А то і ў сутарэнні апынулася б, як несавецкі чалавек, як вораг народа. А Іван? І раптам сапраўды маланкаю працяло, ударыла ў сэрца: Божа мой, іх цікавіць Іван… Яго дом, яго сям’я… А што яна ведае пра Івана, пра яго сям’ю?.. Вунь як гаварыў пра калгасы… Але няхай яны там хоць захлынуцца, пра Івана яна ім нічога не наговорыць… Расказаць Івану, што пра яго пыталіся ў КДБ? Што ён падумае пра яе? Стукачка? Не, Івану гаварыць няможна… Каб як папярэдзіць? Але як?..

Нездарма людзі кажуць, што час — добры лекар. Страта бацькі, потым маці, што кроіла сэрца, паступова прытуплялася. Апошнія гады Ніна прывыкла быць адна, сама паверыла, што бацькі яе памерлі, загінулі, як загінулі ў вайну мільёны людзей. Яна жыла лекцыямі, Іванам, і жыццё здавалася ёй поўным, цікавым. Калі мела які клопат, то каб пракарміць сябе, так-сяк апрануць. Цяпер яна ішла па вуліцы і адчувала сябе быццам у іншым свеце. Быццам нават вуліца, усё навокал змянілася. Цемната вечара, белы снег, што гурбамі ляжаў усцяж тратуараў, жоўтае падслепаватае святло ліхтароў — усё гэта было ўжо не такое, як учора. Учора магла, ідучы па вуліцы з Іванам, з рогатам

упасці ў снежную гурбу, скамячыць сняжок і кінуць у Івана, а ён — цягнуць яе за руку з той гурбы і сам упасці, паваліцца. Потым абтрасаць адно з аднаго снег і рагатаць да знямогі. Сёння ўжо такое, мусіць, не магла б зрабіць. І людзі… Учора звычайныя людзі, прахожыя, у якіх магла спытацца — колькі часу, бо ўласны гадзіннік-штампоўка часта спыняўся, — сёння здаваліся чужымі, варожымі.

Ад таго дома да інтэрната хвілін дзесяць хады, але Ніна ішла доўга. Было страшна ўвайсці ў пакой, пад святло электрычнай лямпачкі, каб не пазналі па вачах, па твары…

І за Ленаю сачыць… Слухаць яе размовы, Лена будзе давяраць ёй сакрэты, шаптаць іх, пра Францыю, пра канцлагер, а яна — даносіць… Не-е… Такога ніколі не будзе…

Яшчэ зусім блізка, яшчэ за спінаю, рукою можна дакрануцца — грукацелі па дарогах машыны з чорнымі крыжамі на бартах, з тых машын, як гарбузы, тырчалі круглыя нямецкія галовы ў касках. Яшчэ нядаўна ля іх вёскі, дзе яна жыла ў цёткі, пілікаў немец на губным гармоніку, чакаючы, пакуль паліцаі выведуць іх суседа дзядзьку Якуба на катаванне. Як жа ненавідзела яна — і тых паліцаяў, і той гармонік, і машыны з чорнымі крыжамі, як жа чакала нашых, якое шчасце было — убачыць нашага салдата з чырвонаю зорачкаю на шапцы.

Яна і сёння была ўпэўнена, што лепшай, чым яе краіна, няма ў свеце, была шчаслівая адчуваць сябе яе драбнюткім вінцікам, служыць яе дабру… Аднаўляць, будаваць, вучыць… Не ведае дакладна — як, але служыць яе дабру. Яна сказала праўду ў тым доме — каб раптам прыйшлі вербаваць яе ў варожую разведку, то каб ёй нават пагражала смерць за гэта — выкрыла б шпіёна. Але віжаваць… За Ленай… За Іванам…

І раптам зноў апякла думка: а можа, не яна адна?.. Можа, у пакоі кожная другая… А мо і ўсе… Пагасцілі ў тым доме?..

На прасторнай вуліцы, дзе пахла снегам, хуткай вясною, зрабілася душна, зрабілася цяжка дыхаць.

Ніне здавалася, што з сённяшняга дня жыццё яе рэзка зменіцца, зменяцца адносіны з дзяўчатамі, з Ленаю, з Іванам. Першыя дні быдта і праўда сядзеў у ёй нейкі іншы чалавек — насцярожаны, недаверлівы, чужы, якога сама Ніна вельмі незалюбіла. Ён асцерагаў яе ад лішняга слова ў спрэчках — засталося ж падазрэнне, што не адна яна ў тым доме пабывала. Стрымліваў ад шчырых размоў з Ленаю. Раней, бывала, заявіцца Лена апоўначы, Ніна і пытаецца ў яе:

— І дзе ты валочышся, дзе прападаеш, от валачобніца.

Цяпер такіх пытанняў не задавала. І калі аднойчы сама Лена захацела пашаптацца з ёю — усе ляглі, патушылі святло, і Лена, нацягнуўшы на галаву коўдру, падсунулася да яе, Ніна пазяхнула, адвярнулася:

— Хачу спаць…

Не хацела нічога чуць, не хацела нічога ведаць.

Было не ўсё роўна, было нават трывожна-цікава — чаму Іван на падазрэнні? Але не задавала ніякіх пытанняў, баялася, каб не заўважыў у ёй таго брыдкага, што адчувала кожны міг сама, каб не вылез з яе той нялюбы ёй самой чалавечак.

Але ішлі дні, жыццё кацілася, як і раней, кожны раз пасля ночы прыходзіла раніца, пасля раніцы — дзень, затым вечар. Заставаўся ранейшы і распарадак яе жыцця. З раніцы лекцыі, пасля абед, пасля бібліятэка. Вечарамі не міналі з Іванам падвальчыка ў сталоўцы, ён па-ранейшаму заставаўся іх прытулкам, хаваў ад чужых вачэй іх пацалункі, ад чужых вушэй словы, што належалі толькі ім. Бегалі ў кіно, схадзілі на канцэрт сімфанічнай музыкі Шастаковіча. Ніна, каб не вельмі ўводзіць у траты Івана, часам купляла білеты сама.

Калі казаць шчыра, то музыка Шастаковіча не ўразіла, мабыць, ад іх музыкальнай непісьменнасці, бо пра Шастаковіча слава ідзе як пра генія.

Усё мацней пастуквала ў вокны вясна — то кроплямі талага снегу па падаконніку, то сонечным промнем, буркатаннем голуба, ціўканнем вераб'ёў. Як чысты вясновы паток, змываў час з памяці той вечар, агіду да самой сябе, усё менш сілы і ўлады браў над Нінаю чужы ёй чалавечак, што без дазволу прапісаўся ў яе душы. Часам здавалася, што той вечар прысніўся, прысніўся мужчына ў даўгаполым сінім паліто, з газетаю пад пахаю, дом з высокаю і шырокаю лесвіцаю, прысніліся «Бура» ці «Маланка», не маюць да яе ніякага дачынення.

Тачыў іншы клопат — учора вытрасла з кашалька апошнія капейкі, а да стыпендыі дзён дзесяць, нават хлеба няма за што купіць. Пазычыць у каго з дзяўчат? Самая багатая — Окця Саковіч, ёй бацька кожны месяц не менш чым тысячу падкідае ды яшчэ прадукты прывозіць. Але Окця вельмі лёгка не развяжа сваю панчоху. Сама Ніна ў яе не прасіла, чула, як прасіла Маня Сіліцкая. Падняла Окця броўкі, вочкі вылупіла, роцік кружочкам зрабіла.

— О-ой, што ты!.. У мяне ў самой ні капейкі… Учора матар'ял купіла на сукенку, сама хоць пазычай…

Ведала Ніна, што хлусіць Окця, ёсць у яе грошы, але ніколі нікому не пазычыць, так што лепей да яе і не патыкацца. Праўда, Ніне вінавата пяць рублёў Соня Жукава з іх факультэта, даўно ўжо вінавата, але Ніне сорамна прасіць, каб аддала, ды, мусіць, у яе і няма грошай, калі дасюль не аддае, а можа, забылася? Хіба напомніць?

Соня Жукава акурат мыла падлогу, яе чарга. Цікава, як кожная дзяўчына падлогу мые. Кожная па-свойму. Лена, трэба прызнаць, мые старанна, добра шаруе дзеркачом дошкі, залазіць анучаю пад кожны ложак, у кожны куточак. Мые, праўда, павольна, доўга, але пасля яе работы падлога чыстая, белая. А Зіна Навумава — шах-мах, анучаю туды-сюды, і гатова. Пасля яе мыцця падлога высахне — і не відаць, што мылася.

Соня нібыта і старалася шараваць, збіраць анучаю бруд у вядро, але ўсё ў яе рабілася неяк нязграбна. Нязграбна шоргала венікам, нязграбна выкручвала анучу, шмат тапталася на адным месцы. Ніна адкрыла ўжо рот, каб напомніць Соні пра доўг, але пасаромелася. А для сябе зрабіла нібы законам — ні ў кога не пазычаць. Круціся як хочаш, але не пазычай. Па-першае, калі пазычаеш, адчуваеш страшэннае прыніжэнне. Па-другое, пазычанае трэба аддаваць, а нездарма нехта разумны сказаў, што пазычаеш — бярэш чужое, а аддаваць трэба сваё… Не, на пазычкі не пражывеш.

У гэты час прыйшла Люда Сарока і з ёю яе муж Вася. Зайшлі ў куток, дзе стаяў Людзін ложак, Люда скінула хустку, зняла паліто, і Вася распрануўся, кінулі адзежу на спінку ложка. Гаварылі між сабою паціху, схіліўшы галаву да галавы: Люда — светлую, з косамі, Вася — цёмную, даўно не стрыжаную, з пасмачкамі, што залазілі аж на шыю. Ніна ўспомніла, што неяк Люда прыйшла з грашыма і пахвалілася, што атрымала іх за кроў… Здала як донар. Тады Ніна яшчэ мела заработак у друкарні і пашкадавала Люду — гэта ж трэба, прадаваць сваю кроў. А цяпер… Ці не спытаць у Люды, як гэта яна зрабіла?.. Але пры Васю пытацца няёмка, можа, ён не ведае, на якія грошы жыве яго жонка ды яшчэ яго падкормлівае, будзе сварыцца на Люду. Трэба пачакаць, калі ён пойдзе, можа, сёння не застанецца начаваць.

Чакаць прыйшлося доўга, бо Люда абірала бульбу, потым смажыла яе на алеі, карміла Васю, потым яшчэ пілі чай. Потым сядзелі на Людзіным ложку і зноў паціху гаварылі, схіліўшы галаву да галавы. Нарэшце Вася развітаўся, і Ніна падышла да Люды.

Аказваецца, Люда пасля таго яшчэ два разы здавала кроў. Яна расказала Ніне, у якую паліклініку ісці, у які кабінет, да якога доктара.

— А не страшна, не баліць? — шэптам спытала Ніна. Уся размова вялася шэптам, Ніна не хацела, каб чулі дзяўчаты, куды яна настрапалілася.

— Не, не баліць… Не бойся, то і страшна не будзе…

Назаўтра Ніна пакіравалася ў тую паліклініку. Стаяў па-вясноваму цёплы ўжо дзень — сонца праз паліто прыгравала ў спіну, узбоч тратуараў з шумам каціліся раўчукі талага снегу, які ледзяною скарынкаю ляжаў яшчэ па краях, дзе-нідзе выступалі ўжо лапінкі сухога тратуара, вецер прыносіў пахучую цеплыню. Здавалася, за горадам, не пакрытая асфальтам, дыхала сама зямля. Ды, можа, яна і дыхала. Ніна чамусьці лічыла, што зямля, уся зямная куля — жывая істота. Ну і праўда, каб не была жывая, як магла карміць мільёны гадоў людзей, жывёлу, расліны, раджаць і раджаць?.. Праўда, усё, што нараджае, сабе забірае, тым і харчуецца… Ну што ж, жывая…

Часам Ніна забывалася — куды ідзе і чаго, і тады ёй рабілася хораша, лёгка, потым успамінала мэту свайго падарожжа, і пад сэрцам халадзела. У адзін момант падумалася нават — а можа, вярнуцца, ніхто ж не прымушае, можа, як абыдзецца? Але іншага выйсця не знаходзіла, у кішэні не ляжала ні капейкі, і чакаць дапамогі не было адкуль. Падбадзёрвала сама сябе — падумаеш, здаць кроў. Колькі за вайну крыві пралілося… Колькі людзей загінула… Без рук, без ног засталіся… А яна баіцца.

Паліклініка размяшчалася ў доўгім аднапавярховым, падобным на барак, атынкаваным і пабеленым будынку. У цемнаватым калідоры пахла эфірам, валяр'янкаю, гэты пах мяшаўся з моцным духам туалета і хлоркі. З двух бакоў калідора былі дзверы, і каля іх на лаўках сядзелі хворыя, чакаючы прыёму. Каля дзвярэй, нумар якіх назвала Люда, людзей не аказалася. Ніна нясмела пастукала ў іх. Адказу не пачула і крыху адчыніла дзверы. Убачыла дзвюх кабет у белых халатах, сядзелі з двух бакоў аднаго стала. Спыталася нясмела:

— Можна зайсці?

Пачуўшы дазвол — увайшла.

Яе агледзелі, паслухалі праз стэтаскоп, пыталіся — чым хварэла ў маленстве, запісалі ўсё на картачку. А потым сястра павяла яе па калідоры, адчыніла дзверы, на якіх было напісана: «Працэдурная».

Ёй загадалі распрануцца да пояса і легчы на доўгі стол, пакрыты белаю прасцінаю, выпрастаць і падаць левую руку.

Яна рабіла ўсё, што ёй загадвалі, акамянелая ад страху, бязвольная, чакаючы страшнага, балючага, і ўжо раўнадушная да таго страшнага і балючага. Падаўшы левую руку сястрычцы, праваю моцна ўхапілася за край стала, быццам гэта магло памагчы ёй трываць боль. Касілася вокам на падрыхтаванні, якія рабіла сястра, і сама чула, як бухае сэрца.

— А вы не глядзіце сюды, адвярніцеся, — параіла ёй сястрычка.

І Ніна адвярнулася, толькі яшчэ мацней заціснула рукою край стала.

Яна чула, як перавязвала сястра яе руку жгутом. Потым лёгкі, як мушыны ўкус, укол у вену. Усё чакала — калі ж забаліць? Але не балела, толькі нібы сілы выцякалі з яе патрошку. Колькі мінула часу? Хвіліна? Дзесяць хвілін, паўгадзіны? Пачула, што сястра прыклала ватку да рукі, на згібе, там, дзе вена.

— Вось і ўсё… Але вы не ўставайце, паляжыце яшчэ, паляжыце, а то галава закруціцца.

— Усё? — узрадавалася Ніна. І праўда, можна сказаць, што зусім не балела, дарэмна так калацілася ад страху.

Калі злазіла са стала, нейкая сіла быццам павяла яе ўбок, і яна ўхапілася за стол дзвюма рукамі. Сястра быццам і чакала гэтага, ткнула ёй пад нос мокрую ватку. Ад ваткі моцна тхнула нашатырам, аж слёзы з вачэй пасыпаліся.

— Вазьміце, вазьміце ў руку, — пхала ёй сястра змочаную нашатырам ватку. — Самі панюхайце.

І Ніна, не падносячы блізка да носа, яшчэ нюхнула разы два тую ватку. Пачула, што лягчэй зрабілася ў грудзях, у галаве, больш не вяло ў бакі.

Сястра між тым тлумачыла ёй, дзе атрымаць грошы і талон на абед. Абед па тым талоне можна было атрымаць у сталоўцы ЦК, якую Ніна добра ведала, бо знаходзілася тая сталоўка амаль побач з Ленінкай і Ніна туды часам забягала. І цяпер пакіравалася ў сталоўку, тым больш што сёння нават не снедала.

Сонца тым часам яшчэ больш увабралася ў сілу, яшчэ грамчэй звінелі раўчукі, скакалі па аголенай зямлі, радасна ціўкалі вераб'і. Ніна ішла быццам палягчэлая, супакоеная — страшнае мінула, у кішэні ляжала сто пяцьдзясят рублёў, і яна яшчэ сёння дарма паабедае, толькі чамусьці ўсё навакол набыло не то жаўтаваты, не то зеленаваты колер і часам слабелі ногі і трошкі, нібы ад хмелю, круцілася галава. Але пасля абеду — вінегрэт,

прасяны суп, біточкі і кампот — зноў пачула сябе дужай, а за дужасцю прыйшла і весялосць. Аказваецца, здаваць кроў зусім не страшна і не баліць, праз які месяц можна будзе яшчэ здаць. Калі на тое пайшло, то на гэтым крыху і пажыць можна.

15

Калі Ніна амаль забылася пра той вечар у будынку з кабетаю і дзецьмі пад дахам, з шырокаю лесвіцаю, што вяла ад Сталінскага праспекта, у гушчы студэнтаў, якія гурбою вывалілі з вучэбнага корпуса і пакіраваліся да выхаду з універсітэцкага гарадка, яна ўбачыла — мільганула недалёка ад яе — знаёмую постаць у даўгаполым сінім паліто. Зрабіла выгляд, што не ўбачыла, не пазнала, і бокам, бокам, затуляючыся за спіны хлопцаў і дзяўчат, пайшла, амаль пабегла па вуліцы.

Яшчэ на лекцыі яна намерылася адразу пасля заняткаў заскочыць у магазін. Бегчы адразу ў сталоўку — то прастоіш у чарзе не меней чым гадзіну і будзеш чакаць яшчэ з талеркаю ў руках, пакуль вызваліцца месца за столікам. Так што і падумала — спачатку ў магазін, купіць хлеба, цукру, а потым ужо, як у сталоўцы павальнее, зайсці паабедаць.

Яна шпарка, амаль бегма кацілася па вуліцы, не азіраючыся, спадзеючыся, што «той» не заўважыў яе ў натоўпе студэнтаў, а можа, і не па яе прыйшоў. Але вельмі скора пачула за сабою крокі. Крокі былі шпаркія і спяшаліся за ёю, Ніна адчувала ўжо, што за ёю. Быццам нічога не заўважаючы, не разумеючы, яна пакіравалася на другі бок вуліцы, ды ёй і трэба было на той бок. За шумам грузавіка, што тарахцеў і маторам, і бартамі і перад якім яна праскочыла, ледзь не трапіўшы пад яго тупое рыла, крокі згубіліся, Ніна падумала, што, можа, і ўцякла ад іх. Але, як толькі пакіравалася па тратуары, зноў пачула іх за сабою. Было ясна — ён разумеў ужо, што Ніна ад яго ўцякае, і ведаў, што не ўцячэ. І яна ўжо разумела — не ўцячэ, і ўсё ж паскорвала і паскорвала хаду. Крокі наганялі, вось пачулася ўжо чужое цяжкае дыханне за спінаю. Рука дакранулася да яе пляча. Ніна азірнулася.

Крыху разяўлены ад частага дыхання рот, тонкія пабялелыя вусны, скамянелы твар — і зноў ён нечым напомніў ёй тых, што забіралі бацьку, і зноў апала душа ад трывогі. Пастаралася зрабіць выгляд, што здзівілася, не чакала ўбачыць.

— Надта скора вы ходзіце… Іншым разам… Не ўцякайце, — у голасе ноткі пагрозы, на твары яўнае незадавальненне, мабыць,

ад таго, што вось ён, сталы, сур’ёзны работнік такой важнай установы, павінен бегаць за нейкім дзяўчом, а яно, замест таго каб застыць перад ім у пашане, яшчэ дае драпака.

— Заўтра ў сем гадзін… Падвозная вуліца, дом шэсць, — прамовіў, супакойваючы дыханне. — У сем гадзін, — паўтарыў ён. — Яўка абавязковая.

І пайшоў, не развітаўшыся. Быдта быў наогул не знаёмы з Нінаю, прыпыніўся на хвілінку каля дзяўчыны, і ўсё. Толькі зашоргалі па шырокіх штанінах полы яго доўгага сіняга паліто.

Дзе Падвозная вуліца — Ніна ведала, у сорак сёмым, пазалетась, хадзіла па ёй агітатарам, складала і па некалькі разоў правярала спісы выбаршчыкаў, потым агітавала за Сталіна, чытала выбаршчыкам яго біяграфію. На Падвознай вуліцы стаялі ў асноўным драўляныя дамы, дзе прыватныя, а дзе камунальныя. У прыватных, як правіла, быў адзін гаспадар, у камунальных жыло па некалькі сем’яў. Тут з парога шыбала ў нос кіслым духам, неправетраным памяшканнем, на цесных кухнях чадзілі керагазы, шумелі прымусы, у перанаселеных пакоях, упрытык застаўленых ложкамі, камодамі, шафамі, таўкліся бабулькі і дзядкі, плакалі дзеці, камандавалі, крычалі на старых і малых сярэдняга веку карміцьцы. У гэтых дамах сустракалі Ніну не вельмі ветліва, ды і не дзіва: прыходзіла яна па вечарах, калі людзі толькі што вярталіся з работы і ім трэба было гатаваць вячэру, карміць дзяцей, мыць, прыбіраць, а ты ім тут з агітацыяй. Але трывалі. Ніна бачыла, што яны трываюць, ёй рабілася сорамна гаварыць тое, што яна гаварыла, але і яна мусіла выконваць свой абавязак.

Прыватныя дамы былі пад шыферам ці з бляшанымі дахамі, з пафарбаванымі аканіцамі, абгароджаныя платамі. У тых дварах бегалі сабакі, і Ніна баялася заходзіць, толькі бралася за брамку, як тыя пачыналі злосна брахаць. Але выходзіў гаспадар, сунімаў сабаку, запрашаў Ніну ў пакоі. Тут выглядала ўжо вальней, чысцей, стаялі канапы, камоды з вышытымі сурвэткамі, са слонікамі на сурвэтках — спераду большы, потым меншы, меншы і зусім маленькі, абавязкова сем штук, на шчасце, лік сем лічыўся шчаслівы. Бліскалі нікелем ложкі з гарамі падушак, таксама знізу большая, а на гары зусім маленькая, на пафарбаваных падлогах ляжалі тканыя палавікі. Ва ўсіх такіх дамах было адно і тое ж убранства, хіба толькі мяняліся месцамі ложкі, шафы ды канапы.

У гэтых дамах сустракалі Ніну быццам больш прыязна, але не магла яна не адчуваць і за гэтай прыязнасцю раўнадушша і жадання хутчэй выправіць яе за дзверы.

Жыхары Падвознай вуліцы маглі падвесці — не ў час прыйсці на галасаванне, а існаваў няпісаны загад — каб да дванаццаці дня ўвесь народ аддаў свае галасы за правадыра, а працэнтаў восемдзесят павінны прыйсці з самай раніцы, інакш работа агітатара лічылася кепскаю.

Ніна добра памятае тую сакавіцкую раніцу — дзень выбараў у Вярхоўны Савет. Устала гадзін у пяць, на вуліцы цемната і валіць густы мокры снег. Ён каптуром асядаў на берэціку, клаўся на плечы, бяліў паліто, раставаў на твары, і на адзежы вельмі скора раставаў. Ніна адчувала, як цяжэе ад вільгаці на ёй апратка. Пад нагамі хлюпала разлезлая снегавая каша, а снег усё валіў і валіў камякамі, засцілаючы сабою цемнату раніцы. Пакуль дайшла да той Падвознай вуліцы — прамокла наскрозь.

А вуліца, зачыніўшы дзверы, аканіцы, ляжала яшчэ ціхая, нямая — спала. Ніна пачала стукаць у дзверы, у аканіцы, у брамкі, будзіць людзей. Ёй адказвалі незадаволенымі, хрыплымі ад сну галасамі. Ля прыватных дамкоў брахалі сабакі, але яна не адыходзіла, зноў і зноў стукала ў дзверы, у аканіцы.

А на выбарчым участку яе падганялі: «Чаму з дваццаць другога дома яшчэ не прыйшлі?» «Чаму з пятай кватэры яшчэ не з'явіліся?» Падганялі груба, каманднымі галасамі, і Ніна зноў бегла ўгаворваць сваіх выбаршчыкаў.

І вось цяпер зноў трэба ісці на Падвозную вуліцу, якая, акрамя прыкрасці, нічога не выклікае ў душы.

Назаўтра стрэмкаю ў грудзях сядзеў абавязак — трэба ісці. Здаецца, лепей бы зноў пайшла здаваць кроў, чым туды, лепей бы на самую цяжкую работу… Хацелася, каб даўжэй цягнуўся дзень, каб ніколі не надышлі тыя сем гадзін, але час, нібы назнарок, бег як ніколі шпарка. Вось ужо і шэсць гадзін, вось яшчэ пяць, дзесяць хвілін мінула.

Апранулася. Паволі зашпіляла паліто. І раптам — стук у дзверы… Такі знаёмы… Іван.

Ён увайшоў, як заўсёды, трымаючы шапку ў руках, пад курткаю сінеў яго нязменны світар, на твары крыху няёмкая ўсмешка. Ён заўсёды, пакуль асвойваецца, адчувае сябе няёмка ў дзявочым пакоі. Яны не бачыліся дні чатыры. Спачатку Іван не прыходзіў у бібліятэку, потым Ніна прапусціла дні тры. І вось…

Ніна адчувала, як твар яе пачынае сцягваць нібыта маска. Не радасць, як заўсёды, а няёмкасць затапіла душу. Быццам злавілі яе на нечым вельмі кепскім, злавілі нечакана, і вось яна цяпер — голая на вачах ва ўсіх.

Іван стаяў пры дзвярах, чакаў. Дзяўчаты займаліся кожная сваім. Не да іх прыйшоў хлопец, прыйшоў да Ніны, няхай і разбіраюцца між сабою, ім што. А Зіны Навумавай, якая заўсёды і ўсіх хлопцаў сустракала, быдта сваіх гасцей, не было дома.

Ніна падышла да дзвярэй, і яны разам з Іванам выйшлі з пакоя.

— Некуды сабралася? — спытаў Іван.

— Сабралася, — адказала, як рэха.

Яна разумела, што трэба нешта выдумаць Івану, прыдумаць — куды сабралася, сказаць праўду няможна, трэба нешта сфантазіраваць, але ў галаву не прыходзіла ніякай фантазіі.

— Я білеты ў кіно купіў, на сем трыццаць, на «Маё каханне», — мусібыць, хацеў абрадаваць яе Іван.

Але яна яшчэ больш засмуцілася. Сказала, каб адцягнуць тое, што неабходна будзе вымавіць:

— Мог жа не застаць мяне дома…

— Мог… Але заскочыў у бібліятэку — цябе няма, вырашыў, што дома, і ты дома…

Як жа захацелася ёй у кіно, з Іванам — у кіно, гэта ж… І трэба набрацца духу, каб сказаць, што не можа, і як растлумачыць — чаму не можа?

— Але я не магу… Не магу сёння ў кіно…

Іван паглядзеў на яе з недаверам. Мусіць, убачыў па твары, што нешта ў яе сур'ёзнае, што сапраўды не можа, і таксама змяніўся абліччам — нахмурыўся, пасуровеў.

Яны спускаліся па лесвіцы і напружана маўчалі. Нарэшце Іван спытаў:

— Чаму не можаш?

— Ну, разумееш… Мне трэба да сяброўкі, сяброўка захварэла, я ёй абяцала…

Адчувала, як залівае твар чырвань, і голас, тон непраўдзівыя, дурны нейкі тон, ніколі такім не гаварыла.

— Ты хлусіш, — жорстка сказаў Іван.

— Я не хлушу, Ванечка, але сёння не магу…

Яны ішлі ўжо дваром, Іван шпарка, крыху наперадзе, яна за ім, быццам даганяючы і хочучы апраўдацца.

— Сяброўка… Абяцала…

— А можа, не сяброўка, а сябар, які-небудзь газетчык з «Чырвонай змены»?

У душу лінулася шкадаванне, любасць, гарката… Раўнуе… Міколу ўспомніў…

— Дурань, — сказала шчыра, з усёй любасцю і пяшчотаю. — Які ж ты дурань!

Іван спыніўся, глянуў ёй у твар, проста ў вочы. Здаецца, гатовы быў усё ёй дараваць, і дурня.

— Пайшлі ў кіно!

І зноў на яе твар наплыла маска.

— Не магу…

Было падобна, што Іван стрымліваецца, каб не сказаць якой грубасці. Твар паказваў і крыўду, і злосць, і нешта яшчэ — незнаёмае Ніне. Ніколі не бачыла ў Івана такіх адчайных вачэй, такіх поўных гаркаты вуснаў.

— І праўда, дурань я…

Ён павярнуўся, пайшоў. Ніна бачыла, як залез ён у нутраную кішэню курткі, выцягнуў адтуль сінюю паперку, падраў на дробныя кавалачкі, кінуў, і яны разляцеліся, падхопленыя ветрам. Падраў білеты ў кіно… На «Маё каханне». Быццам душу Ніну разадраў і кінуў вось так — па ветры. Пачакала з хвіліну — можа, азірнецца? Не, не азірнуўся…

І Ніна пайшла. У другі бок. На тую Падвозную, каб яна праваліласся скрозь зямлю разам з тым даўгаполым, разам з брывастым, што сядзеў у кабінеце і зрабіў яе не то «Бураю», не то «Маланкаю».

Дом шэсць стаяў на ўскраіне вуліцы, ён не ўваходзіў у лік тых будынкаў, дзе Ніна хадзіла агітатарам, але быў вельмі падобны на іншыя прыватныя дамы — пад шыферам, з сінімі аканіцамі; за падвойнымі рамамі акон яшчэ ляжала ўжо нясвежая, запыленая вата, прысыпаная дробна парэзанаю каляроваю папераю. За домам стаялі гаспадарчыя будынкі, пры сцяне хлява жаўцелі пасечаныя, акуратна складзеныя дровы, вакол будынка цямнела вольная ўжо ад снегу зямля агарода. Усё выглядала мірным, звычайным, цяжка было ўявіць, што гэты дом — прытулак патаемнага.

Сабака ў двары тут не адазваўся ці яго не было, і Ніна пайшла па драўляным тратуарчыку да дзвярэй. Дзверы аказаліся не замкнёныя, з цемнаватых сенцаў увайшла ў кухню, дзе поўная немаладая жанчына ў стракатай сукенцы, нацягнутай на грудзях і жываце, абірала бульбу. З кухні дзверы вялі ў пакой, і тут на парозе стаяў ужо мужчына ў касцюме, пад гальштукам, яўна не жыхар гэтага дома, яўна з іншага свету, не з Падвознай вуліцы. Ён быў незнаёмы Ніне, гадоў трыццаці пяці, з халодным суровым тварам. Стаяў і чакаў яе, магчыма, бачыў праз акно, як яна падыходзіла да дома.

Жанчына абірала бульбу, яна нават не глянула ў Нінін бок, быдта Ніна і не зайшла да яе на кухню, быдта была і глухая і сляпая. Увесь выгляд яе гаварыў: гэта не мая справа, я нічога не ведаю, нічога не чую, не бачу.

Мужчына запрасіў Ніну ў пакой. Там, за сталом, пакрытым вязаным з нітак абрусам, сядзеў яшчэ адзін мужчына, зноў Ніне незнаёмы, таксама ў цёмным касцюме, у шэрай кашулі з сінім гальштукам. Дзіўна, але Ніне чамусьці здалося, што ўсе яны падобныя між сабою — і той, даўгаполы, што некалі сустракаў яе з газетаю пад пахаю, і той, што спаткаў, стоячы пры дзвярах, і гэты, што сядзеў за сталом, — аднолькавыя ростам, ці што, аднолькава сухашчавыя, аднолькавыя хмурнасць, суровасць, непахіснасць адбіваліся на іхніх абліччах і яшчэ — нібы пачуццё вышэйшасці, вышэйшасці хаця б перад Нінаю. Быдта ад іх залежаў Нінін лёс, быдта могуць яны зрабіць з ёю, што захочуць.

Ніна і праўда адчувала іх уладу над сабою. Ну хіба ж не ўлада, калі сёння замест таго, каб ісці ў кіно з Іванам, была змушана валачыся на гэтую вуліцу, змушана прайсці міма жанчыны, якая абірала бульбу і нават не глянула ў яе бок. Ніне здалося, што ад пагарды, інакш чаму адчула сорам перад постаццю жанчыны, іменна перад постаццю, не перад тварам, не перад вачмі, бо кабета на яе нават не глянула.

Мужчына, што сядзеў за сталом, жэстам рукі паказаў Ніне на крэсла, і яна апусцілася на гнутае, яго называлі венскае, крэсла, што стаяла з другога боку стала, пакрытага такім хатнім, кружочкамі вязаным абрусам з простых белых нітак. Так вязаць умела мама, і ў іх быў падобны на гэты, вязаны з простых белых нітак абрус, вязаныя з нітак накрухмаленыя сурвэткі.

Мужчына, што сядзеў насупраць, уставіўся на Ніну гіпнатычным позіркам.

— Ну, што вы можаце нам паведаміць, што вы бачылі, што чулі?

Яшчэ ідучы сюды, Ніна ведала, што нічога ім не скажа. І не толькі таму, што не хоча гаварыць, а таму, што і праўда нічога не чула, не заўважала такога, што магло б пагражаць савецкай дзяржаве. Ні ў размовах, ні ў дзеяннях людзей, сярод якіх жыла, з якімі сустракалася. І яна адказала:

— Я нічога не магу вам паведаміць…

Мужчына паклаў рукі ў кішэні, адхінуўся на спінку крэсла.

— Ну, як гэта… Вы ж сярод людзей жывяце… У інтэрнаце… Пра што студэнты там гавораць?

Божа мой, пра што студэнты гавораць… Пра што яны толькі не гавораць!

— Пра лекцыі гавораць… Пра экзамены… Пра кінафільмы… Пра ўсё гавораць…

— Ага, пра лекцыі гавораць… А пра касмапалітаў гавораць?

— Гавораць і пра касмапалітаў, у нас усе не любяць касмапалітаў.

Мужчына нахіліўся да стала, паклаў локці на абрус, буравіў Ніну вочкамі, нібы бураўчыкамі.

— І ніхто не шкадуе? Выкладчыка вашага, Барага? Хіба ніхто не шкадуе?

Калі казаць праўду, то Ніна першая шкадавала Барага. Ён цікава чытаў лекцыі, уваходзіў у азарт, рукамі размахваў. І не толькі Ніна шкадавала, шмат хто шкадаваў.

— Не, ніхто не шкадуе… Чаго ж касмапалітаў шкадаваць?..

Мужчына зноў адхінуўся на спінку крэсла, забарабаніў сухімі, як у шкілета, пальцамі па стале.

— Ну, а Іван Сташкевіч? Нічога не расказваў вам?.. Што яму з дому пішуць?

У сэрца кальнула. Убачыла сінія кавалачкі паперы — падраныя білеты ў кіно. Дзе ён цяпер, што робіць, што думае пра яе?

— Ведаеце, мы не ў такіх адносінах з Іванам Сташкевічам, каб ён мне пра сям'ю расказваў, пра дом… Пра тое, што з дому пішуць. Мы з ім проста сябры…

— То сябрам акурат і расказваюць… І потым… Трэба самой цікавіцца, задаваць пытанні…

— Ён мне не расказвае… А самой пытацца няёмка.

Мужчына, які сустрэў Ніну пры дзвярах, пахаджваў па пакоі. Хто з іх старэйшы па пасадзе? Гэты, што дапытвае, ці той, што ходзіць? Мусіць, гэты, што дапытвае, старэйшы… Таго, першага, Ніна і голасу не пачула, толькі ходзіць, у акно паглядае, часам спыніцца, пастаіць, зноў ходзіць.

— А што расказвае Лена Аляшкевіч?

Перад дапытчыкам не ляжала ні лістка паперы, значыцца, на памяць ведае прозвішчы і Лены, і Івана.

— Нічога такога не расказвае. І наогул яна, можна сказаць, толькі начаваць у інтэрнат прыходзіць… У яе шмат сяброў, знаёмых у горадзе.

Думала гэтым адвесці ад сябе Лену, паказаць, што не можа пра яе шмат ведаць, але той ухапіўся акурат за гэта.

— А да каго яна ходзіць, хто яе знаёмыя, сябры?

— Не ведаю, — паціснула плячыма Ніна.

— Ну, а да яе хто ходзіць?

— Да яе ніхто не ходзіць, чаго ж хадзіць, калі яе няма дома.

Дапытчык зноў адхінуўся на спінку крэсла, зноў забарабаніў сухімі пальцамі па стале. Глядзеў на Ніну ўсё тым жа гіпнатычным позіркам і быццам нешта думаў, успамінаў. А потым зноў тыя самыя пытанні — пра што гавораць у інтэрнаце, пра Івана, пра Лену. Мусіць, раззлаваўся, што так і не змог нічога выцягнуць. Сказаў строга:

— Трэба лепей слухаць… Трэба старацца… Заданне не знімаецца, яно тое ж… Наступная сустрэча роўна цераз месяц. Пакгаўзны завулак, трынаццаць. У сем гадзін… Можаце ісці…

На кухні гаспадыня распальвала пліту — падкладала ў адчыненыя дзверцы, дзе займаўся ўжо агонь, роўна пасечаныя жоўтыя паленцы. Зноў нават не глянула ў Нінін бок, быдта праз кухню ніхто і не праходзіў. І гэта зноў чамусьці абразіла Ніну, кальнула сорамам, быдта яна такі чалавек, на якога і глядзець не варта. «А сама? — агрызнулася ў думках Ніна. — Зрабіла са сваёй кватэры чорт ведае што… Мусіць, добра плоцяць?.. А можа, і яе прымусілі?..»

## 16

Назаўтра ў бібліятэцы месца побач з Нінаю пуставала. Ужо даўно не пераглядваліся яны з Іванам здаля, даўно садзіліся ў бібліятэцы за адзін стол, разам выходзілі на адпачынак у калідор, разам пакідалі чытальную залу. Сёння месца пуставала. Бывалі, вядома, дні, калі Іван у Ленінку не прыходзіў. Бывала, і Ніна прамінала дні. І спачатку яна не надала вялікага значэння таму, што крэсла побач з ёю не занятае. Чакала, можа, прыйдзе пазней?

Яна не так ужо і чытала, як раз-пораз кідала позіркі на дзверы, што вялі ў чытальню. Але ў дзвярах туды-сюды снавалі чужыя, абыякавыя Ніне людзі. Івана не было.

Не прыйшоў ён і назаўтра.

Парасткі трывогі, што яшчэ ўчора ўзышлі ў душы, пачалі разрастацца. Але Ніна супакойвала сябе. Можа, заняты нечым іншым… Можа, захварэў… Ды ці мала што…

А на трэці дзень у калідоры, каля батарэі, дзе так часта стаялі яны разам, даючы галовам адпачынак ад навуковай мудрасці, Ніна ўбачыла яго. Ён стаяў і пра нешта весела гаварыў з незнаёмаю Ніне дзяўчынаю. Кароткага позірку было дастаткова, каб убачыць, што дзяўчына сімпатычная і прыгожа апранутая, хіба толькі фарбы зашмат — на вуснах, на бровах.

Быццам нож усадзілі ў Ніціна сэрца. У вачах пазелянела. Але трэба было зрабіць выгляд, што яна іх не заўважыла… А калі і заўважыла, то ёй гэта ўсё роўна. Трэба было незалежна прайсці паўз іх, а потым вярнуцца ў чытальню.

І Ніна прайшла. І вярнулася. Яна гатова была пабажыцца, што і Іван яе бачыў, не мог не бачыць, яна ж так блізка прайшла каля іх. Але і вачэй не падняў… Не павітаўся…

Яна села на сваё месца. Скаваныя грудзі не прымалі паветра. Гарэла ўсярэдзіне. Упершыню адчула яна пякучы боль рэўнасці. Раней не ведала яго, не перажывала. Зноў супакойвала сябе — мала што, можа, выпадкова… Сустрэў знаёмую… Гавораць… Зараз прыйдзе сюды, сядзе побач…

А праз нейкі час Іван з тою дзяўчынаю ўвайшлі ў чытальню і селі побач за далёкі ад Ніны стол.

Абшчапіла галаву рукамі, апусціла вочы на старонку кнігі, сілілася чытаць… Не разумела, што чытала… Вярталася назад — на абзац, на два, перачытвала і зноў нічога не разумела. Чакала. Можа, падыдзе? Можа, растлумачыць, чаму так?

Не падыходзіў.

Сабрала кнігі, здала бібліятэкарцы, нізенькай сівой кабеціне, выбегла на вуліцу.

Вечаровая зара залівала неба чырванню, распаленым вугалем адбівалася ў вокнах высокага шэрага дома, што стаяў на рагу Энгельса і Карла Маркса. Па вуліцы праходжваліся пары, людзі гулялі і групкамі, і па адным — радаваліся цёпламу вясноваму вечару. А Ніна бегла, быццам уцякала ад некага. Ад самой сябе? Ад свайго болю? Уцячы ад яго было немагчыма, ён бег разам з ёю, той боль была яна сама.

Дзяўчаты пілі чай. І Лена сядзела з дзяўчатамі за сталом. Пахла хатняю кілбасою, парэзанаю і раскладзенаю на газеціне — нейкай з дзяўчат прыслалі, мусібыць, пасылку. Пах яды, кілбасы выклікаў у Ніны нудоту. Легла, не вячэраючы. А ўночы пачало мроіцца — бяда… Яшчэ не разумела, у чым бяда, але чула яе па балючай тузе. Калі зусім прачнулася, стала ясна, адкуль туга, адкуль бяда — Іван і тая дзяўчына… Краем душы разумела, што гэта помста ёй. Помста за тое, што не пайшла ў кіно і не растлумачыла — чаму, бо той блытанай хлусні не паверыў. Але хіба можна так помсціць таму, каго любіш? Значыцца, не любіў… Так хадзіў, цалаваліся… Гэта яна, дурніца… Ды і сама не ведала, што так моцна…

Разам з тугою, з болем рэўнасці лілася ў душу і злосць на тых, праз каго напаткала гора, на тых, што загналі на тую Пад-

возную вуліцу. Расказаць Івану? Але ведала, што не раскажа, не толькі таму, што распіску дала, распіска — глупства, дрэнь. Стрымліваў сорам, што згадзілася на такое, што не сказала цвёрдае — не буду!

Пасля лекцый вырашыла — у бібліятэку не пойдзе… Няхай убачыць, што яе няма… Хаця, можа, яму цяпер гэта ўсё роўна? І ўсё ж цягнула туды, цягнула як ніколі. Стрымлівала сябе, як каня лейцамі, але конь той не слухаўся, ірваўся.

Пабегла.

Ён зноў сядзеў побач з тою дзяўчынаю. Месца за Ніністым сталом пуставала. Студэнты праходзілі, пыталіся: тут не занята? Адказвала хрыплым голасам: занята. А праз нейкі час, калі пераканалася, што Іван не падыдзе, сказала незнаёмаму студэнту ў гімнасцёрцы: вольнае… І той сеў каля яе, расклаў свае кніжкі, сшыткі. Але ад суседа на яе павеяла такім непатрэбным, такім чужым, што скора паднялася, пайшла дадому.

Яна амаль не ела. Сілком прымушала сябе глынуць некалькі лыжак баршчу ў сталоўцы, зжаваць кавалачак катлеты, якая нават не пахла мясам. Але раней усё было ўсмак, зараз — нічога. На лекцыях сядзела абыякавая, кепска слухала, запісвала механічна. Неяк апраналася і ўбачыла — спадніца ледзь не падае, зрабілася шырокая ў паясніцы. Так пахудзела?

Перашыла аплік.

Праз некалькі дзён заўважыла, што месца і каля яе саперніцы пустуе. Непрыкметна, адрываючы на міг вочы ад кнігі, у якой усё роўна нічога не бачыла, пачала аглядаць агромністую залу, схіленыя над сталамі галовы, плечы.

Перад вачыма праплывалі цёмныя, светлыя, лысыя галовы, дзявочыя прычоскі, найбольш доўгія, падкручаныя ўнізе валікам, валасы. І Ніна апошні час так прыбірала валасы — накручвала на ноч валасы на анучкі, і яны пад раніцу загіналіся ўнізе валікам.

Схіленыя над кнігамі галовы ўгіналіся ў плечы, абцягненыя шэрымі, чорнымі пінжакамі, часам гімнасцёркамі, па іх можна было пазнаць былых франтавікоў — яшчэ не знасілі сваіх гімнасцёрак, яшчэ не набылі адзежы, каб іх замяніць. Але найбольш рассыпана па зале дзявочых сукенак, блузачак, шалікаў. Дзяўчат у зале нашмат болей, чым хлопцаў. Раней не задумвалася пра гэта, а цяпер і яно ўразіла. Іхні курс пераважна дзявочы, на сорак дзяўчат дванаццаць хлопцаў. Ну, але гэта філфак, на філфак заўсёды больш ідуць дзяўчаты. Затое політэхнічны інстытут — там ужо найбольш хлопцы. Так што ў бібліятэцы

павінна было б быць так на так. Але вайна… І вось сукенкі, блузачкі, хусцінкі… І колькі сімпатычных, прыгожых дзяўчат… Хораша апранутых… Не тое што яна… Так што хлопцам цяпер раздолле — выбірай! Але няўжо так можна? Выбіраць дзяўчыну, як цыган каня? Нешта ж іншае павінна клікаць душу да душы… Вось ёй, напрыклад, дай прынца заморскага, дай караля — нікога ёй не трэба, апроч Вані.

Нідзе за сталамі яго не ўбачыла.

Зноў ішла адна з бібліятэкі, несучы ў сабе сваю пакуту. Думала нават, ці не падысці да яго самой, спытаць, чаму ён так? Стрымліваў гонар. Ведала, што ні ў чым перад ім не вінаватая. І назбірвалася, распухала, як вялізны камяк, крыўда.

Пачула за сабою крокі. Душа адазвалася спадзяваннем, бо пазнала — чые, а можа, не так пазнала, як адчула невядома якім пачуццём. Зрабіла выгляд, што не заўважае. І калі пайшоў з ёю побач, не глянула ў яго бок. І ён маўчаў. Ішоў побач і маўчаў. Ніна прыбавіла ходу. Ён узяў яе за локаць, каб прытрымаць, каб не спяшалася. Адвяла локаць ад яго рукі.

— Ну, чаго ты? — у голасе не столькі вінаватасці, як незадавальнення.

— Я — нічога, — адказала незалежна.

Што гэта было? Ці крыўда, якую насіла ў сабе, цяпер вылівалася, ці жаночая помста — ага, падышоў… Ці не магла дараваць сваіх пакут? Хацела ж, так хацела, каб усё вярнулася на ранейшае.

— Дык не бяжы… Даўно ж не бачыліся…

— А табе хіба не ўсё роўна?..

Сэрца гахала ў грудзях, кожная жылка была напятая, не магла прыцішыць, спыніць хады.

— Каб было ўсё роўна, не даганяў бы…

— А куды ж дзеў тую, намазаную?

Значыцца, і рэўнасць, і рэўнасць прымушала вырываць локаць, бегчы, гаварыць такім тонам.

— Якую намазаную?

— Тую, з якой у бібліятэцы батарэі грэлі.

— А, тую? Памерла…

Глянула на яго спалохана, але тут жа зразумела, што сказаў жартам.

— То і я памерла…

— Не, ты жывая, вунь ідзеш і злуешся.

Ніна спынілася, уставілася ў яго, загаварыла задыхана:

— Затое ты… Затое табе… Усё смешачкі… Можаш за мною больш не хадзіць, ідзі да той. — Павярнулася, зноў затупала абцасамі.

Іван за два крокі дагнаў яе, схапіў за руку, трымаў моцна, цераз паліто адчувала яго цвёрдыя пальцы.

— Кінь… Не трэба… Я перажываў…

Глянула яму ў твар. Здаецца, на ім і праўда нічога не засталося ад жартаўлівага настрою, здаецца, і праўда на твары сум.

— Перажываў… Не відаць, каб перажываў…

— Калі ты папракаеш, то і я магу папракнуць… Прыйшоў з білетамі ў кіно, а яна некуды настрапалілася… І не прызналася, куды… Яшчэ хлусіць пачала…

Яны стаялі пасярод тратуара, як на бязлюдным востраве, не бачылі людзей, што праходзілі паўз іх, не заўважалі іх цікаўных і крыху насмешлівых позіркаў. Ім гэта было ўсё роўна. Вырашаўся іх лёс.

— Калі людзі… Калі людзі, — Ніна не хацела сказаць слова — любяць, яны не ўжывалі гэтага слова, саромеліся яго, але Ніна хацела, каб Іван пачуў яго — нясказанае… — То павінны верыць адно аднаму… А ты… А ты мне не паверыў… Што не магла я ў той дзень ісці ў кіно.

Іван раптам абняў яе, прытуліў — і, як абвал з гары, рухнулі, пакаціліся і рассыпаліся ў пыл — крыўда, пакута, туга, быдта свежым дажджом абмыла закарэлую, збалелую душу, званочкамі абазвалася радасць. Усё гэта адбылося ў адно імгненне. У наступны міг адхінулася ад Івана.

— Што ты… Людзі…

— Ну і няхай! — радасна азваўся Іван. — Ды дзе тыя людзі, вунь, няма нікога.

Ніна азірнулася. Вуліцу агортвалі ўжо прыцемкі, не заўважыла, як пачало цямнець. І сапраўды, побач, блізка — ні душы. Недзе далёка на тратуары ківаецца постаць, не разабраць — мужчына ці жанчына.

Іван зноў абняў яе. І зноў тое самае пачуццё палёгкі, усёдаравання абрынуліся на душу, выціскаючы расінкі слёз.

Іх месца ў падвальчыку аказалася вольнае, і яны прастаялі там да поўначы, і пацалункі былі асабліва гарачыя, асабліва салодкія. Паміж пацалункаў Іван прызнаўся, што і сам моцна перажываў, шкадаваў, што зацяўся, а тая, «намазаная» — з суседняй вёскі, разам дзясяты клас канчалі. Пра тое, куды Ніна хадзіла тым вечарам, больш не пытаўся, і яна яму не расказвала.

А праз месяц зноў давялося ісці — на Пакгаўзны завулак.

Стаяў ужо май, на дрэвах з пупышак вылузвалася маладое лісце, узбоч тратуараў густа шчацінілася трава, каля адбудаваных дамоў, на лапінках зямлі, упершыню ў Мінску пасадзілі кветкі — маргарыткі і браткі. Але май выдаўся халодны, дзьмуў сіберны вецер, сонца рэдка выбіралася з шэрай муці хмар, што з краю ў край засланялі неба. Часам жоўты яго круг прасвечваўся падслепаватым вокам з той пялёнкі, здавалася, вось-вось прарве яе, і тады весялела ўся зямля ў спадзяванні, у чаканні цяпла, але хмары зноў засцілалі сонца, ужо надоўга, зноў узнімаўся халодны вецер, і дзіўна рабілася, як трываюць такі холад маладыя лісткі, кветкі — маргарыткі ды браткі.

І Ніне было холадна, вельмі холадна ў лёгкім плашчыку, без шапкі — не апранаць жа ў маі зімовае паліто, якое і так абнасілася, маміна ж яшчэ, даваеннае, не завязваць жа хустку, як старая бабулька. Ішла насустрач ветру, трымаючы рукою каўнер плашчыка, сцяўшыся ў плячах, пакутуючы ад холаду, марачы пра цяпло. І падступала думка, што і вясна яе жыцця, яе май таксама халодны, няўтульны, ветраны. Без бацькоў, без іхняй ласкі і дапамогі, у вечным клопаце пра кавалак хлеба, ды яшчэ гэта, невыноснае. Адзіны ясны прамень — Іван, каб жа яго не засціла якая хмара.

А на Пакгаўзным завулку яе спаткала тое самае, што і на Падвознай вуліцы. Зноў прыватны дом, толькі ўжо не гаспадыня на кухні, а гаспадар у двары, корпаўся ў агародзе. Мелькам кінуўшы на яго позірк, убачыла толькі няголены твар з сівою шчэццю, ватоўку, граблі ў руках. На яе гаспадар зноў-такі не глянуў.

А ў пакоі, амаль такім самым, як і на той вуліцы, зноў двое. Не тыя самыя, але падобныя на тых. Зноў тыя ж пытанні — пра Івана, пра Лену, пра што студэнты гавораць. І тыя самыя адказы:

— Не ведаю… Не чула… Ні пра што такое не гавораць.

Круцілі, перастаўлялі пытанні так і гэтак. Не сказала ім нічога. Ды і праўда нічога не ведала, не магла сказаць, каб і хацела.

Выказалі незадавальненне. Загадалі больш старацца, больш прыглядацца і прыслухоўвацца.

Спадзявалася ў тым доме на Пакгаўзным завулку хоць адагрэцца, але ў пакоі таксама стаяў сыры цвілы холад, сядзела на крэсле перад дапытчыкам і чула, як дрыжала ўсё ўсярэдзіне, як ледзянелі ногі, стылі рукі. Хацелася хутчэй адсюль вырвацца, не палохаў ужо і сіберны вецер на вуліцы.

Ішла назад з адчуваннем бруду, кепскага, недазволенага, брыдкага ў душы. Быццам папоўзала па якой памыйцы. І не дай Бог, каб хто даведаўся пра гэтыя яе паходы.

17

Летнюю сесію здала на адны пяцёркі і атрымала павышаную стыпендыю. Іх, выдатнікаў, аказалася пяцёра. Сфатаграфавалі, павесілі фатаграфію на дошцы каля дэканата. Прабягаючы па калідоры, кідала непрыкметна позіркі на сваю фатаграфію. Было чамусьці і прыемна, і няёмка, быццам далі ўзнагароду выпадкова, незаслужана. Хаця яна заўсёды здавала сесіі вельмі добра, быць круглаю выдатніцаю перашкаджала якая-небудзь адна чацвёрка, а троек наогул ніколі не мела.

Яшчэ перад сесіяй спаткала на вуліцы неяк Міколу. Павіталіся, прыпыніліся.

— Ну, як жыццё?

— Ды так, нічога.

— Можа, яшчэ нам у газету напішаце?

— Ой, што вы, мне і так сорамна было — тую заметку ўсю за мяне перапісалі.

— Ну чаму, і вашага там засталося.

— Хіба што засталося…

Мікола прыязна глядзеў на яе з вышыні свайго росту, і бачылася Ніне ў яго позірку не звычайнае заляцанне, а нешта глыбейшае, падобнае на спачуванне, ці што. Ён быў старэйшы за яе знаёмых студэнтаў, выглядаў усё-такі не на юнака, а на мужчыну, і апрануты быў не па-студэнцку — прыстойны шэры гарнітур, светлая кашуля, гальштук. Рабіла сімпатычным твар радзімка над верхняю губою. І чаму не ён, а Іван запаланіў душу? Загадка, таямніца…

— Я таму вам прапаную, бо ведаю — на адну стыпендыю жыць цяжка, сам некалі так жыў… І потым. Вучыліся б пісаць… Што ўмееш, за спінаю насіць не трэба.

— Яно канечне, — згадзілася Ніна і падумала з удзячнасцю: другі на яго месцы ўжо недзе і не вітаўся б — не паддалася на залёты, а гэты не пакрыўдзіўся. Але адказаць згодаю не магла. — Сесія ж во… Зубрыць трэба… Няма часу.

Мікола не развітваўся, стаяў і быццам нешта думаў.

— Ведаеце што?.. Наша газетнае выдавецтва арганізуе піянерскі лагер… Набіраюць кадры… І трэба ім выхавацелькі, педагогі. Трэба дзве дзяўчыны. Дырэктар лагера мой добры знаёмы, можна нават сказаць — сябра, і папрасіў мяне пашукаць… Дык прыйшло мне ў галаву… Угаварыце якую сяброўку… Як вам такое?

Прапанова была нечаканая, але Ніна ўраз зразумела, што ёй Міколу, як гэта кажуць, сам Бог паслаў. Два месяцы ў лагеры… На казённым харчаванні… Ды нейкая ж і зарплата… Сапраўды, Мікола перад ёю часта з'яўляецца, як той анёл-збавіцель з неба…

— А дзе той лагер?

— Ды пад Мінскам, у Крыжоўцы, паўгадзіны прыгарадным цягніком.

Згода ў душы была амаль гатова, стрымлівала толькі — ці зможа яна — педагогам, выхавацелем.

— Ці ж здолею?

— А чаго там не здолець? Тым жа падшыванцам не лекцыі чытаць, так, прыглядаць… Каб дарослае вока над імі было.

— Ды для мяне-то яно вельмі прывабна, магу вам толькі вялікі дзякуй сказаць, а наконт сяброўкі, то трэба пагаварыць.

— Вось і пагаварыце.

Яны ўжо не стаялі на тратуары, а ішлі ў бок бібліятэкі, куды кіравалася Ніна. Ішла Ніна павольна, абдумваючы Міколаву прапанову, і ён павольна крочыў побач, паглядаючы на яе збоку.

Ніне прыемна было адчуваць увагу да сябе такога саліднага чалавека, і прыходзілі ў галаву думкі — чаму ён так? Можа, не страціў надзеі заваяваць яе сэрца, але такое немагчыма… А можа, і не квапіцца на гэта, можа, проста па-сяброўску…

Успомніла, як спрачаліся не так даўно дзяўчаты ў пакоі — ці можа існаваць паміж дзяўчынаю і хлопцам звычайная таварыскасць. Як сяброўка з сяброўкаю. Некаторыя казалі, што можа. Але большасць даказвала, што не. Хлопец і дзяўчына існуюць для кахання, для сяброўства ў хлопцаў ёсць хлопцы, а ў дзяўчат — дзяўчаты.

— П'ер Бязухаў, П'ер Бязухаў, — крычала Ліля Ваяводава з журфака. — Ён спачатку нібыта па-сяброўску да Наташы Растовай, а потым аказалася, што ўсё жыццё быў закаханы!

— Ды вы ва ўсёй класічнай літаратуры не знойдзеце прыкладу звычайнага сяброўства паміж маладымі мужчынам і жанчынаю!

— Ну няхай у літаратуры, а ў жыцці?

— А пакажы мне і ў жыцці!

Не ведала Ніна, які бок прыняць у спрэчцы, але больш гарнулася да думкі, што і праўда сяброўства такое наўрад ці можа існаваць. Дык што ж кіруе Міколам? А можа, нічога не кіруе, сустрэў выпадкова знаёмую дзяўчыну, успомніў просьбу сябра — дырэктара — пашукаць выхавацелек. Але нешта пад-

казвала Ніне, што не так усё проста… І хоць сама яна прымала ў спрэчцы бок тых, хто не прызнаваў бескарыслівага сяброўства паміж хлопцам і дзяўчынаю, была б рада мець Міколу іменна такім сябрам… Без усялякіх патаемных мар і спадзяванняў. Сама ж яна гатова на такое сяброўства, то няўжо і мужчына не здольны на такія адносіны?

Як бы там ні было, Ніна згадзілася ехаць у лагер выхавацелькаю. Угаварыла і Лену. Тая спачатку мулялася: ехаць — не ехаць. Летась яе запрасіла да сябе дадому, у вёску, Маня Сіліцкая, і яна ўсё лета гасцявала ў Мані. Можа, спадзявалася, што і сёлета хто запросіць. Але сёлета ніхто не запрашаў, і ёй таксама аказалася прывабнаю перспектыва зарабіць за лета крыху грошай і пажыць на казённых харчах.

Мікола пазнаёміў іх з дырэктарам лагера. Ім аказаўся мужчына сярэдняга веку, невысокага росту, шустранькі, з жывымі цёмнымі вочкамі. Ён увесь час некуды спяшаўся, нешта арганізоўваў, выбіваў для лагера. Звалі яго Павел Рыгоравіч.

Выязджаць у лагер трэба было ў канцы чэрвеня, і Ніна з Ленаю, здаўшы сесію, пайшлі да свайго начальніка.

— Дзяўчаткі, во вам, — падаў ён Лене вялікі жалезны ключ. — Гэта ад галоўнага корпуса. Паслязаўтра едзьце і чакайце мяне там. Я прыеду гадзін… Гадзін у адзінаццаць…

На развітанне з Іванам заставаўся толькі адзін дзень. Яна раней ужо сказала яму, што лета будзе працаваць у піянерскім лагеры ў Крыжоўцы. Не прызналася, што сасватаў яе туды Мікола, раўнівы Іван яшчэ Бог ведае што мог падумаць. Сам ён, як заўсёды, збіраўся дадому. Апошні вечар стаялі яны ў сваім падвальчыку.

— І як я перачакаю два месяцы? — гаварыў Іван, абдымаючы Ніну.

— Так, як і я, — уздыхала яна.

У падвальчыку было зусім цёмна, стаяў дух капусты і яшчэ нечага, чым пахне студэнцкі сталоўскі абед. Пах гэты вельмі моцны, едкі, чалавек выходзіў са сталоўкі і яшчэ доўга насіў яго на апратцы, у валасах, на скуры. Цяпер, у падвальчыку, ён быў слабейшы, але дух яго тут усё роўна прысутнічаў.

— Скажы, ці можа быць паміж хлопцам і дзяўчынаю звычайная таварыскасць?.. Ну, звычайнае сяброўства, без кахання, без сімпатыі?

Іван падумаў.

— Хіба тады, калі дзяўчына вельмі непрыгожая.

— А ты не смейся, я сур'ёзна пытаюся.

Іван яшчэ падумаў.

— Не, калі дзяўчына вельмі непрыгожая, то з ёю і проста сябраваць не захочацца.

Наверсе, каля ўвахода ў падвальчык, пачуўся шоргат, галасы. Адчынены дзвярны праём засланілі дзве постаці — хлапечая і дзявочая. Здаецца, яны намерыліся спусціцца па лесвіцы ўніз, у цемнаце не бачачы, што там нехта ёсць. Яны зрабілі нават некалькі крокаў па прыступках. Іван кашлянуў. І тыя двое спачатку на міг застылі, а потым як ветрам іх падхапіла, выскачылі з падвальчыка, зверху пачуўся іх вясёлы рогат.

І Ніна з Іванам засмяяліся, прыкрываючы далонямі раты.

— Гэта сябар з сяброўкаю… Хацелі да нас у кампанію.

— Ой, Іван, з табою нельга сур'ёзна гаварыць, — упікнула Ніна.

— Чаму, можна і сур'ёзна.

Ніна ў душы ўздыхнула. Як бы хацела яна сапраўды сур'ёзна з ім пагаварыць, прызнацца, дзе загінулі яе бацькі, прызнацца пра той дом, дзе зрабілі з яе не то «Маланку», не то «Буру», папярэдзіць, што ў тым доме цікавяцца ім і яго сям'ёю. Але не хапала адвагі. Баялася, што як прызнаецца, то страціць… Яго давер, яго каханне. І ўсё ж тачыла, тачыла душу таямніца. Загаварыла, нібы робячы крок у разведку.

— Ведаеш, мне здаецца… У нас у пакоі ёсць дзяўчына… Ну, адтуль, разумееш?.. Завербаваная, каб падслухоўваць і даносіць…

Іван маўчаў. У падвальчык данёсся грукат цягніка. Вакзал жа побач. Вагоны доўга і цяжка стукалі па рэйках. Прамінуў, зноў зрабілася ціха.

— А дзе іх няма… Стукачоў… І ў нас у пакоі ёсць, мы нават ведаем хто… Аднойчы цёмную зрабілі… Ты лішняга ў пакоі не гавары… Цяпер такі час…

«Божа мой, вось і прызнайся… Цёмную зрабілі», — думала Ніна. Такі час… Але яна ж не стукачка, яна не падслухоўвае і нічога ім не даносіць, нічога ім ні разу не сказала… Але дакажы, што гэта так…

Яны стаялі абняўшыся.

— А які час, Ванечка?

Ён пагладзіў яе па валасах, прыбіраючы іх кароткія пасмачкі з ілба.

— Ну, які час… Пад мудрым кіраўніцтвам вялікага Сталіна…

Ніна спалохалася.

— Ты так гаворыш, быццам кіраўніцтва і не мудрае…

Іван ухмыльнуўся.

— Мы тут зачыталіся, завучыліся. Трэба слухаць, што народ гаворыць. Ён без вялікай павагі…

— А што народ гаворыць?

— Ну, хаця б… Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у рызіну…

— Ну… Ну… Канечне, цяпер, пасля вайны, усе бедныя, голыя і разутыя, пры чым тут Сталін?

— А што ў калгасах робіцца? Палачкі замест працадзён, пашпартоў не даюць… Людзі кажуць — прыгоннае права…

Ніна ўспомніла — нешта падобнае чула і яна, ад цёткі, калі ездзіла да яе. І не толькі ад цёткі, шмат ад каго ў вёсцы. Толькі размовы такія неяк міналі яе сэрца, галаву. Сама галадала ў горадзе і не бачыла вялікага дзіва ў тым, што галадаюць і ў вёсцы. Вініла ва ўсім вайну. Ды так яно, мусіць, і было, вайна ва ўсім вінаватая. Але тачыла і яе, Ніну, нейкая нязгода з тым, што робіцца цяпер навокал.

— Ты так страшна гаворыш… Прыгоннае права, — прашаптала яна.

— Ну, каму іншаму не сказаў бы, а ты ж свая, — прытуліў яе Іван.

У праёме дзвярэй быў відаць кавалак цёмнага неба, усыпаны зоркамі. Адсюль, з падвальчыка, яны здаваліся асабліва буйнымі і яркімі.

Іван пачаў цалаваць яе, і Ніна заплюшчыла вочы. А калі расплюшчыла, то ўбачыла, што неба быццам пасвятлела і зоркі нібыта паменшалі, страцілі свой бляск. Падумала, што гэта ёй здалося. А калі праз нейкі час зноў глянула на вуліцу, то ўбачыла, што неба пасвятлела яшчэ больш і ў падвальчык пачала цадзіцца белаватая цішыня, асвятляючы падрапаныя сцены, абабітыя прыступкі лесвіцы, вызваляючы з цемнаты Іванаў твар, вяртаючы колеры — жоўтай кашулі, сініх вачэй, жытняй стрэшкі валасоў над высокім ілбом.

— Глядзі, Ванечка, развіднела…

— Што ж, апошні дзень перад расстаннем…

Разумела Ніна, што развітаюцца яны надоўга, на цэлых два месяцы, што будзе яна моцна тужыць па Івану, падганяць дні — каб скарэй мінула тое лета, але пакуль ён быў яшчэ тут, яшчэ побач яго рукі, яго вусны, і проста не верылася, што хутка яны ўжо будуць далёка адно ад аднаго.

18

Назаўтра яны з Ленаю ехалі ў прыгарадным цягніку да станцыі Крыжоўка. Як толькі мінулі гарадскія ўскраіны — ацалелыя ў вайну драўляныя дамкі з садкамі, агародамі, нейкія майстэрні з гарамі жалезнага лому каля іх, скіданае ў кучу бярвенне, для нечага прывезенае, а потым, мусіць, забытае, тоўстыя жалезныя трубы каля выкапанай траншэі, — за акном пакаціліся не кранутыя чалавекам чысціня і хараство прыроды. То бег насустрач яшчэ свежы, не абпечаны сонцам, не высушаны ветрам лес з маладымі бярозкамі на ўскраі, то рассцілаўся луг, уквечаны блакітнымі, жоўтымі, белымі краскамі, круглым люстэркам свяцілася азерца, і ў яго глядзелася неба з бялюткімі, як гурбы снегу, аблачынкамі.

Стук колаў спяваў падарожную песню, і Ніне здавалася, што яна выбралася ў далёкую дарогу, адкрываць невядомае для сябе і, канечне, цікавае. Хацелася ехаць і ехаць, сапраўды далёка, і каб з Іванам…

Лена сядзела насупраць — у лёгкай сукенцы, якая адкрывала загарэлыя ўжо рукі — часам ездзілі рыхтавацца да экзаменаў у парк Чалюскінцаў, там распраналіся, ляжалі ў купальніках і загаралі, і вучылі. І твар быў загарэлы. Яго хараша адцянялі пышныя светлыя валасы. Вялікія шэрыя вочы, румяныя без памады вусны, белазубая ўсмешка. Лена, вядома, прыгожая. Цікава, ці забылася яна пра свайго мастака з Францыі? І дзе ён, бедны, дзеўся? Мо абзываўся? Спытаць? Няёмка. І наогул пасля тых вуліц ды завулкаў не хоча дакучаць пытаннямі ні Лене, ні каму іншаму.

У вагоне шмат людзей, цягнік ідзе да Маладзечна, хто адразу адхінуўся на спінку лаўкі і заснуў, хто разгарнуў пакецікі з ядою і перакусвае, поўнячы вагон пахам хлеба і кілбасы. Жанчына, што сядзіць побач з Ленаю, корміць з бутэлечкі цераз соску дзіця. Дзіця смокча, заплюшчыўшы вочкі, а жанчына глядзіць на яго з любасцю і шкадаваннем.

Спераду, насупраць Ніны, адчыніліся дзверы вагона і ўвайшлі двое. Адзін — з гармонікам, што трымаўся на рамяні цераз плячо, другі — з шапкаю ў руцэ, выстаўленаю наперад. Той, што з гармонікам, як толькі ўвайшоў, адразу зайграў і заспяваў хрыплаватым голасам на матыў вядомай песні «Позабыт, позаброшен»:

Ах ты, Гітлер шалёны,
Ты чаго нарабіў,

Загубі-іў міліёны,
Цьму людзей перабіў…

Ён быў высокі, з доўгаю шыяй, на якой выпіраўся кадык. Па выразу твару, па тым, як ішоў, пазіраючы паўзверх людскіх галоў, Ніна пазнала, што ён сляпы. У другога, які трымаў шапку, рукаў левай рукі быў засунуты за рэмень старой, палінялай, падранай каля каўняра, гімнасцёркі. Мужчыны паволі пайшлі па праходзе, высокі іграў і спяваў, а той, што з шапкаю, прыгаворваў:

— Дарагія таварышы, не пашкадуйце для інвалідаў Ацечасцвеннай вайны, падайце на прапітанія…

Хто кідаў у шапку дробязь, хто і рубель клаў, а нехта адварочваўся, рабіў выгляд, што нічога не бачыць і не чуе. Мужчына, рабочы на выгляд, што сядзеў побач з Нінаю, буркнуў незадаволена:

— На гарэлку збіраюць, а не на «прапітанія».

Жанчына, якая карміла дзіця, уздыхнула спагадліва:

— А што ім, бедным, рабіць… Няхай вып'юць з гора.

Было дзіўна, што абараняе выпіўку жанчына, яны ж — першыя ахвяры ачмурэлых ад гарэлкі мужыкоў. Тут альбо вялікае жаночае ўсёдараванне, альбо няўменне іначай выказаць калекам спагаду, жаль.

Ніна адкрыла сваю сумачку, выняла з яе маленькі кашалёчак, выграбла адтуль некалькі манетак. І Лена кінула ў шапку драбязы.

— Благадарым, — пакланіўся бязрукі. — Жадаем вам добрых жаніхоў.

Ніна ўспомніла, як глядзелі яны з Іванам фільм «Аповесць аб сапраўдным чалавеку», як гаварылі, што такі Мярэсьеў — адзін, а калек мільёны і што трэба для іх інтэрнаты будаваць… Яшчэ, мусібыць, не набудавалі… І вось такіх — вінаваціць ці шкадаваць? А што на гарэлку збіраюць, то і гэта праўда, прайшлі, дык ад іх перагарам дыхнула — захлынуцца можна. Не, не магла прыняць Ніна такога жаночага ўсёдаравання.

Ужо ў канцы вагона сляпы спяваў:

Перабіў, пакалечыў,
Не пазнае нас маць…
За айчы-ыну Саветаў
Мы ішлі ваяваць…

А бязрукі паўтараў сваю, таксама завучаную, просьбу падаць на «прапітанія».

Прайшлі гэты вагон, пакіраваліся ў наступны.

Ніна зноў глядзела ў акно, як беглі насустрач вагону ляскі, пералескі, як спяшалася, кацілася за цягніком сонца — каб не адстаць ад яго скорасці, як раптам схавалася за густую тоўшчу хмар, што невядома адкуль наплыла на неба. Але дарога была кароткая, вось і іх станцыя. Выйшлі з вагона. І што за праява: выходзілі ж з дому — такая цёплая стаяла раніца, чакалі, што ўдзень пагода разгуляецца яшчэ лепей, апранулі лёгкія сукеначкі, а тут — аднекуль нарваўся сіберны вецер, адразу моцна пахаладнела, і зялёная прыгажосць, што адкрылася ім на станцыі, аказалася не ў радасць.

Павел Рыгоравіч растлумачыў, як адшукаць той лагер. Спачатку перайсці чыгунку на другі бок, там будзе шаша. Прайсці з паўкіламетра па шашы і збочыць на дарогу неасфальтаваную. Яшчэ прайсці з паўкіламетра, і там лагер.

Паварочваючыся спінаю да ветру, які шкуматаў валасы, кідаў пясок у твар, задзіраў сукенкі, яны пабеглі па дарозе да таго лагера. Пакуль знайшлі яго — зусім адубелі. Не маглі надзівіцца з фокусаў, якія ўмее выкінуць прырода. Каб у канцы чэрвеня такая халадэча, ды пасля цёплай, як свежы хлеб, раніцы.

Лагерныя карпусы, доўгія, аднапавярховыя, абгароджаныя пафарбаваным у зялёны колер плотам, з шырокаю брамаю, упрыгожанаю сцяжкамі, дзеразою і плакатам «Добро пожаловать», стаялі ціхія, пустыя. І навокал усё было пуста, ціха, ні душы. Адамкнулі ключом, які даў Павел Рыгоравіч, дашчаныя дзверы, увайшлі ў корпус, агледзеліся. Тут было чатыры пакоі, застаўленыя жалезнымі ложкамі, на якіх ляжалі пакуль адны матрацы. Паміж ложкаў — тумбачкі, некалькі табурэтак. Лена села на ложак, Ніна — на табурэтку. Прычасалі раскіданыя ветрам валасы, выцерлі хустачкамі твары ад пылу, пясок яшчэ і цяпер патрэскваў на зубах. Лена глянула на свой гадзіннік.

— Слухай, ужо адзінаццаць, скора дырэктар павінен з'явіцца.

— Ага, — пагадзілася Ніна.

— Як ты думаеш, чаго ён сказаў нам прыехаць сёння, што мы тут будзем рабіць?

— Сама не ведаю… Можа, каб паказаць, дзе лагер, каб бліжэй пазнаёміцца?

Яны пачалі чакаць. Хадзілі з пакоя ў пакой, пазіралі ў вокны. Адразу за дарогаю, па якой яны прыйшлі, пачынаўся лес. Шумелі верхавінамі сосны — ш-ш-ш-у… ш-ш-ш-у… З другога боку лагера вецер гнуў долу кусты, што віліся ўсцяж нешырокай рэчкі, вады адсюль не відаць было, хавалася ў высокіх берагах.

За рэчкаю сінім морам раскінулася поле лубіну і хвалявалася пад моцным ветрам, нібы мора. Мусібыць, у пагоду тут вельмі прыгожа, але зараз выходзіць з пакояў не было ніякага жадання.

Час ішоў. Дырэктар не паяўляўся.

Скора дзяўчаты адчулі, што пачынаюць мерзнуць. Холад дапяў і сюды, выстудзіў пустыя летнія спальні. Каб хоць коўдры на тых ложках ляжалі, прыкрыліся б коўдрамі, а так — адны матрацы.

— Слухай, што ён сабе думае, ужо дванаццаць, — пачынала злавацца Лена.

— Я страшэнна змерзла, — паскардзілася Ніна.

— І я змерзла…

Зноў хадзілі, зноў чакалі.

— Ужо гадзіна…

— Ужо палова другой…

— Можа, з ім што здарылася?

— Што ж нам рабіць, плюнуць ды назад паехаць?

— Так скора ты і паедзеш, адзін цягнік прамінулі, другі па раскладу цераз тры гадзіны.

— Каб жа не такі холад, я акалела, адубела, — абдымала сама сябе за плечы Лена.

— Давай ляжам і накрыемся матрацамі, — падала ідэю Ніна.

Яны і праўда леглі, панацягвалі на сябе матрацы з іншых ложкаў. Сцішыліся, пачалі саграваца.

Замест адзінаццаці гадзін дырэктар паявіўся ў тры. Прыбег — мітуслівы, запалошаны, кінуў на жалезную сетку пустога ложка тоўста напакаваны жоўты партфель.

— Ах, дзевачкі, ах, любыя, даруйце, закруціўся. Гэта ж толькі сёння кухарку знайшоў, а колькі ўсяго падаставаць трэба! Бялізна, прадукты, талеркі, міскі, божачка! Каб я яшчэ калі згадзіўся на піянерскі лагер! Памерзлі, кажаце? Зараз пагрэемся. І галодныя ж, мусіць? Матрацамі, кажаце, укрываліся! Бедныя! Гэта ж дасюль коўдры не завезлі, ну, нічога, нічога…

Ён адамкнуў свой пузаты партфель, пачаў вымаць з яго пакеты і пакецікі. Смачна запахла кілбасою, вяндлінаю. Выхапіў з кішэні нож, лоўка распакаваў бляшанку са шпротамі, другую — з чырвонай ікрой, тоўстымі лустамі накроіў хлеба. Расклаў усё гэта на газеце, на тым ложку, дзе нядаўна ляжала Лена. Пакорпаўся ў сваім партфелі і выняў тры гранёныя шклянкі, флягу.

— Сагрэцца, дзевачкі, сагрэцца, божачка!

Ні Лена, ні Ніна не пачалі адмаўляцца, бо і праўда ў іх пападводзіла жываты ад голаду, не пашкодзіла б і глынуць —

для сугрэву. І ім, і сабе Павел Рыгоравіч наліў па паўшклянкі. Чокнуліся.

— Ну, на здароўечка…

Ніна глынула раз, другі і раптам захлынулася, адкрыла рот, хапала паветра і не магла прадыхнуць, з вачэй пасыпаліся слёзы. Глянула на Лену — і тая хакала, адкрыўшы рот, і ў той па шчоках плылі слёзы.

— Спірт, дзевачкі, забыўся сказаць, і вады тут няма, каб запіць, не бегчы ж у рэчку, але нічога, нічога, ешце закусвайце, нічога.

Відэльцаў, лыжак не было, і кілбасу, вяндліну, тоўста парэзаныя, бралі рукамі, ікру і шпроты Ніна і дырэктар выкалупвалі з бляшанак скарынкамі хлеба, свой ножык Павел Рыгоравіч аддаў Лене.

Дырэктар падкладаў і падкладаў ім кавалкі, але, здаецца, найбольш завіхаўся каля Лены. А тая разружавелася — ад спірту, ад яды, яшчэ папрыгажэла. Ніна адчувала, што і ў яе гараць шчокі.

— Ну што, дзевачкі, можа, яшчэ па глыточку? — падняў сваю шклянку дырэктар.

І дзяўчаты адчайна глынулі яшчэ.

— От жа малайцы, Леначка, давайце вашу лустачку, — і ён узяў з яе рук ножык, шчодра паклаў на хлеб чырвонай ікры.

Так пачалася іх работа ў піянерскім лагеры імя Алега Кашавога.

Праз тыдзень ад цішыні, што не так даўно тут панавала, не засталося і звання. З раніцы да вечара цяпер стаялі тут гоман, крык, гушкаліся гушкалкі, круціліся каруселі, крычала радыё.

Ніне з Ленаю адвялі катушок у другім корпусе, у тым жа корпусе ў чатырох палатах пасялілі дзяўчатак пятых — шостых класаў. Іх і павінны былі апякаць Ніна з Ленаю.

Вадзілі дзяцей на прагулкі ў лес, на рэчку купацца, выпускалі насценную газету, Ніна чытала ім уголас аповесць Аляксандра Фадзеева «Маладая гвардыя», каб ведалі, хто такі Алег Кашавы, імем якога названы лагер. Адразу ж пачалі рыхтавацца да піянерскага кастра, патрэбна была самадзейнасць, і развучвалі са сваімі дзяўчаткамі танцы, якія памяталі са сваёй школьнай самадзейнасці, далі дзяўчаткам вывучыць некалькі вершаў.

Днём так-сяк спраўляліся са сваімі падапечнымі, найгорш аказалася ўкладваць іх спаць. Узбуджаныя гульнямі, яны і вечарамі ў палатах уздымалі вэрхал, бегалі па ложках, кідаліся падушкамі. Ніна не магла трываць такога беспарадку, уставала, ішла ў палаты да дзяўчатак, супакойвала, ушчувала. Яны ўсе

ўкладваліся на свае ложкі, але як толькі Ніна знікала ў сваім катушку, зноў усчыналі страшэнны вэрхал.

Ніна дзівілася спакою, з якім ставілася да гэтага Лена. Яна не ўставала, не бегала сунімаць таго гвалту і Ніну, здаецца, не хваліла за такое яе старанне.

— Няхай крычаць… Патомяцца і самі пазасынаюць.

— Іх не суняць, то паўночы крычаць будуць, другім спаць не дадуць, — не згаджалася з Ленаю Ніна і зноў ішла прыструньваць непаслухмяных. Лічыла, што роля выхавацелькі, якую тут выконвае, вымушае сачыць за парадкам і нельга ставіцца абыякава да сваіх абавязкаў.

А потым рабіла для сябе адкрыццё: абыякавую Лену дзяўчаткі больш любілі, чым яе, старанную. Вось і ведай, як жыць на свеце.

## 19

Цэлымі днямі, з ранку да вечара, Ніна круцілася з дзецьмі, не магла застацца сама з сабою. Часам толькі ў «мёртвую» гадзіну, калі ўвесь лагер укладваўся на адпачынак пасля абеду, заходзіла ў лес, што стаяў пры дарозе, каб хоць на некалькі хвілін адлучыць сябе ад таго жыцця, пабыць у сваім, патаемным. Тады ёй здавалася, што побач Іван, ходзіць з ёю па мяккім лясным доле і яна з ім гаворыць, паказвае яму ўсё, што сама бачыць.

— Ты толькі глянь, як зросліся бярозка з елкаю, зусім блізенька стаяць, і елка цёмнаю лапаю, як рукою, абняла дрэўца… Аберагае… А як птушкі спяваюць, чуеш? От скажы, не ведаю птушак, кепска дрэвы ведаю, не было каму навучыць. Ты, мусіць, усё знаеш, на прыродзе вырас. А во гэта — зязюля… Колькі гадоў нам быць з табою побач? Раз… Два… Усяго два гады? Мала… Хутчэй бы лета мінула, хутчэй бы пабачыцца.

Аднаго дня, вяртаючыся з лесу, яна выйшла на дарогу і спынілася ў недаўменні. Падумала — ці не трызніць ужо? Бывала, у горадзе сустракала хлапечыя постаці, нечым падобныя на Іванаву. І тут зноў — ну так жа на Івана падобны. Стаяла, прыглядалася. І не было ўжо сумнення — па дарозе крочыў Іван. Шпарка падалася яму насустрач. Спыніліся адно перад адным.

— Адкуль ты ўзяўся?

Іван абняў яе за плечы.

— Засумаваў… Не вытрываў…

— Які ж ты маладзец!

Да лагера дайшлі абняўшыся, забыўшыся пра ўсё на свеце, толькі перад варотамі, абвітымі дзеразой, Ніна схамянулася.

Убачаць дзеці, асабліва дзяўчаткі, сваю выхавацельку з хлопцам, ды яшчэ ў абдымачку, хопіць размоў да канца змены, зусім страціць у іх аўтарытэт, пакінуць слухацца. І яна папрасіла, каб Іван пачакаў, пабегла да Лены.

— Золатка, любая, пабудзь тут і за мяне!..

— А што здарылася, чаго такая запалоханая?

— Іван прыехаў!

— А-а-а… Бяжы, бяжы, я пабуду, калі хто спытаецца, скажу, што тут недзе.

Ніна памяняла сукенку, глянулася ў люстэрка, прычасалася, падмалёўвала вусны і адчувала, як дрыжаць рукі. Не, такога ад Івана яна не чакала. Значыцца, і праўда любіць?

Узяўшыся за рукі, крыху ўжо супакоеныя, хадзілі яны па лесе. Прыгрэтыя сонцам хвоі цадзілі свой смалісты пах, на ружовых іх камлях блукалі сонечныя зайчыкі, і ўвесь лес быў у сонечных плямах. Ціха, не варушачы ніводным лістком, стаялі бярозкі, ліпы — дзень выдаўся цёплы, бязветраны. На доле там і тут цвіў сунічнік, траплялiся і спелыя буйныя ягады, Іван тады нахіляўся, зрываў ягаду разам з галінкаю, з лістком і падаваў Ніне, як кветку. Яна спачатку сапраўды, як кветку, нюхала ягаду, якая, увабраўшы ў сябе самыя лепшыя пахі лесу, несла водар свежасці, духмянасці, потым адшчыпвала вуснамі ад галінкі, раздушвала языком.

Іван ужо расказаў ёй, што быў дома, ды так занудзіўся, работа валілася з рук, і не вытрываў во, прыпёрся. Можа, ёй гэта не падабаецца, можа, яна ўжо і забылася, што ёсць нейкі такі…

— Сам жа ведаеш, што глупства гаворыш, — смяялася Ніна. — Проста я не чакала, не думала, лічыла дні, калі лета скончыцца.

— Што ты, няхай яно век не канчаецца, паспеем у інтэрнаты, у душную бібліятэку.

Ніне ўсё здавалася, што Іван хоча ёй нешта сказаць і быццам не адважваецца. Гляне на яе збоку, прыпыніць крок — і на твары, у вачах быццам нерашучасць. І раз так, і другі раз.

— Мне ўсё здаецца, ты хочаш мне нешта сказаць і не адважваешся, — глянула на яго з падазронасцю Ніна.

Іван спыніўся. На твары ў яго адбіліся не то нерашучасць, не то адчай. Прызнаўся.

— Ты ўгадала… Хачу сказаць і не адважваюся… І вось што хачу сказаць… Кідай ты свой лагер, і паедзем да мяне…

І Ніна была прыпынілася разам з Іванам, цяпер паволі пайшла, сарвала лісток з бярозы, закруціла ў пальцах.

Яна, вядома, не раз думала, куды могуць завесці іх адносіны з Іванам. Існавала ў будучым два варыянты. Ці яны пажэняцца, ці каханне іх знікне, растане, як часам бывае ў жыцці, і яны разыдуцца ў розныя бакі — сябрамі там ці ворагамі. Другога варыянта Ніна баялася, баялася не за сябе, за Івана, у сабе была ўпэўненая: тое, што адчувае яна, так скора і проста знікнуць, растаць не можа. Ну а першы варыянт… У думках яна даўно дала на тое згоду, хацела гэтага, але тое здавалася пакуль немагчымым, ва ўсякім разе, пакуль не скончаць абое вучобу. І вось Іван, здаецца, прапануе іменна тое, але не тымі словамі, ці што… Тоячы ў душы радасць, усё разумеючы, Ніна прыкінулася, аднак, непанятлівай:

— Як гэта — я паеду да цябе… Каго гэта ты прывязеш дадому?

Пытанне было, так сказаць, навадное, кепскаму вучню настаўніца падказвала адказ.

— Ну, каго… Жонку…

Шчасце, радасць звінелі ў душы званочкамі. Цяжка было іх схаваць, стрымаць. І ўсё ж Ніна памаўчала, сарвала яшчэ адзін лісток, ужо з ліпкі, што трапілася на дарозе.

— То як я павінна цябе разумець?

Іван дзівіўся такой яе непанятлівасці.

— Як разумець? Ну, што я прапаную табе… Каб ты пайшла за мяне замуж… Распішамся ў нас у сельсавеце, а скончым універсітэт — паедзем разам працаваць.

Ну вось, словы сказаліся, цяпер можна выпусціць радасць з грудзей, як таго салоўку з клеткі, няхай радасць ляціць на ўвесь свет, але Іван нібы адумаўся, загаварыў скора, зноў спыніўшыся, стаўшы перад Нінаю — высокі, дужы хлопец і разам з тым нейкі разгублены, няўпэўнены.

— Але ты крышку пачакай… Пакуль не адказвай — ні так, ні не… Я павінен табе сказаць… Павінен прызнацца…

«Божа мой, — жахнулася Ніна, — зараз прызнаецца, што ў яго ўжо была… Можа, і дзіця недзе ёсць…» Спалохала не тое, што, можа, дзіця, а тое, што ўжо нехта пасвіўся ў яго сэрцы.

— Разумееш, паўгода назад… Калі я на зімовыя канікулы дадому ездзіў… Перад гэтым, — збіваючыся, загаварыў Іван. — Арыштавалі майго бацьку і майго брата… Калі цябе гэта не палохае…

Першае адчуванне — палёгка… Ніякай дзяўчыны, ніякага дзіцяці… Але тут жа і нешта падобнае на страх… Успомніўся брывасты ў доме з высокаю лесвіцаю, Падвозная вуліца, Пакгаўзны завулак… Вось чаму цікавіліся Іванам, яго сям'ёю… У цёплым, душным лесе адчула раптам, як прайшоў праз грудзі холад. А Іван гаварыў:

— Хочаш вер, хочаш не вер, але яны ні ў чым не вінаватыя, накляпаў нехта з суседзяў, што бацька з бандытамі звязаны… А ён партызанам памагаў, а што бандытам кавалак сала даў, то як не дасі, калі пісталет настаўляюць…

Вельмі мала ўвесь гэты час Ніна думала пра Іванавых бацькоў, брата і сёстраў. Ніколі іх не бачыла, і яны існавалі для яе нібыта ў іншым свеце, не вельмі далучаным да Іванавага. А цяпер раптам адчула, што Іван існуе не ў пустаце, звязаны моцнымі ніцямі з роднымі, блізкімі і гора блізкіх — яго гора, яму нельга тое гора абысці, як нельга цяпер абысці тое гора і ёй. Успомніла, як прыйшоў ён да яе пасля канікулаў, яшчэ кавалак сала прынёс, а пра тое, што дома, не прызнаўся.

— А ты не сказаў мне… Калі з канікулаў вярнуўся, — папракнула яго Ніна. — Я заўважыла нешта… Па твары… Хаця… Чым бы я памагла?.. Хіба спачуваннем… Можа, разбяруцца, выпусцяць… Але мяне гэта, як ты сказаў, не палохае… Тваё гора — маё гора… Я згодна быць тваёю жонкаю…

— Праўда? — Іван абняў яе, і некалькі хвілін яны стаялі, абняўшыся, злітыя ў адну душу, поўныя ўдзячнасці адно аднаму, поўныя таго новага пачуцця, што цяпер іх яднала.

— Ідзі бяры свае шмоткі, і адразу пойдзем на вакзал, — не выпускаючы Ніну са сваіх рук, гаварыў Іван.

— А мацеры ты сказаў, што прывязеш… — Ніна не магла вымавіць слова — жонку, не магла пакуль дапасаваць да сябе такое паняцце.

— Мацеры нічога не сказаў, я ж не ведаў, ці згодзішся ты, але яна добрая, прыме…

— Ну вось, — адхінулася ад яго Ніна. — Як жа так… Не сказаўшы мацеры… І наогул…

А наогул усё выглядала не так проста, як маляваў сабе Іван: узяць шмоткі — і на вакзал. Гэта на сённяшні дзень яна папрасіла Лену паглядзець дзяцей, а кінуць-рынуць усё, не папярэдзіўшы наперад… Яна ж дамаўлялася на ўсё лета. Што скажа дырэктар? Скажа — падвяла. І яшчэ… Калі ўжо такое, калі замуж, то не заявіцца ж ёй да свякрухі з пустымі рукамі і самой не маючы

нават прыстойнай бялізны. Зарплата, хоць за месяц, была б вельмі патрэбная.

— Любенькі, міленькі, — загаварыла яна да Івана. — Я згодная, згодная, але не цяпер, не сёння. Ну сам падумай: ты нічога не сказаў мацеры… Я таксама не магу ўсё кінуць-рынуць, я ж на рабоце. Мы так зробім: ты едзь дадому, падрыхтуй маці, сёстраў, а я тут папярэджу… Тры тыдні… Цераз тры тыдні прыедзеш па мяне… І тады… Добра?

— Тры тыдні!.. Я ж не вытрываю! — занудзіўся Іван.

— Нічога, вытрываеш, — тонам сталага чалавека супакоіла яго Ніна. — Сена будзеш касіць, яшчэ якую работу рабіць, хата ж пакуль без мужчын… Ды жыў жа неяк, мяне зусім не ведаючы.

— Дык тое не ведаючы…

— Не спрачайся, любенькі, я кажу разумна, і ты мяне слухайся.

Ніна гаварыла ўсё гэта нібы шчаслівa і весела, нібыта клопатам яе было сапраўды толькі гэта — прыстойна вызваліцца ад работы ды яшчэ каб Іван маці сваю папярэдзіў. Але найбольш тачыла яе цяпер іншае.

Іван расказаў ёй пра бацьку і брата. Яна сама пакуль не магла асэнсаваць, што гэта для яе азначае. Хутчэй за ўсё толькі бяду, якую цяпер мусіць падзяліць з Іванам. Але яна дала згоду стаць яго жонкаю. Ці можа яна цяпер не сказаць Івану пра сваіх бацькоў і пра тое… Хіба можна цяпер, даўшы згоду стаць жонкаю, не расказаць, не папярэдзіць, што ім асабіста цікавіцца КДБ? Утаіць пра такое — ці не будзе гэта здрадаю? Здрадзіць, яшчэ не стаўшы жонкаю? Хіба так можна?

Па вяршынях лесу прашумеў ветрык. Захісталіся, загайдаліся ў бакі высокія елкі ды хвоі, тужліва зарыпела высокае дрэва, быдта адчынялі і зачынялі дзверы з іржавымі завесамі, затрапятала лісткамі бяроза, пад якою яны прыпыніліся. Зніклі, быццам хто анучкаю пасціраў, сонечныя зайчыкі. Здаецца, і птушкі заціўкалі не так радасна, як нервова. Толькі што вясёлы лес нібы нахмурыўся, пасуровеў. Але яны не заўважалі гэтага, хадзілі ляснымі сцежкамі, дарожкамі, выбіраліся на прасекі, зноў збочвалі ў лес, збіралі ягады і клалі адно аднаму ў рот, часам прыпыняліся і падоўгу цалаваліся. Але з кожнаю хвілінаю Ніне рабілася ўсё больш трывожна. Яна пераканалася ўжо цвёрда, што мусіць расказаць Івану ўсё. Толькі адцягвала час. Не магла сабрацца з духам. У думках ужо гаварыла, расказвала, а ўголас прызнацца не адважвалася.

Здаецца, Іван заўважыў яе неспакой.

— Ты ў лагер спяшаешся, баішся, каб не насварыліся?

У глыбі лесу адчайна кукавала зязюля.

— Ведаеш, я тут днямі варажыла, загадвала на зязюлю — колькі гадоў нам разам?.. Дык яна накукавала толькі два, — быццам не пачуўшы Іванавага пытання, сказала Ніна. — Два гады…

— То ты ад таго зажурылася? Ты не зразумела зязюлі, яна накукавала нам два вякі, век табе і век мне! І тыя вякі нам разам!

Не, болей нельга адцягваць, сказаць усё роўна прыйдзецца, так што… Адламала пруцік ад арэхавага куста, ішла, махаючы ім, сцёбаючы сама сябе па нагах.

— Бачыш, ты мне сказаў пра бацьку, пра брата… Калі нашы адносіны зайшлі ўжо… Калі поўны давер… Жыць разам… То і я павінна прызнацца.

Здаецца, адчула, як наструніўся Іван. Краем вока ўбачыла — твар сур’ёзны зрабіўся. Можа, і ён чакаў споведзі пра першае каханне, пра нягодніка, які ашукаў…

— Я сказала табе няпраўду пра сваіх бацькоў… Яны не памерлі… Але не, не тое, можа, і памерлі, я не ведаю… Але бацьку забралі ў трыццаць сёмым, а маці шукаць яго паехала… У саракавым… І абое згінулі… Не бачыла з той пары.

Некаторы час ішлі абое моўчкі напрасткі, не выбіраючы дарогі, толькі хрупала пад нагамі сухое голле, што хавалася ў зялёнай траве, у ягадніку. Па сасновым камлі мільганула, распусціўшы пухнаты рыжы хвост, вавёрка. Іншы раз Ніна засмяялася б, спынілася б, Івану паказала б — глядзі, глядзі…

— А ты кажаш… А ты не верыш… Пад мудрым кіраўніцтвам Сталіна, — цвёрда прамовіў Іван.

Ніна зрывала з арэхавага дубчыка лісткі, кідала іх пад ногі, ішла, ішла.

— Што Сталін? Пры чым тут Сталін? — стомлена сказала яна. — Можа, ён і не ведае, што робіцца…

— Ага, цар-бацюшка не ведае, цар-бацюшка добры, слугі яго кепскія… Гэта ўсё, што ты павінна была мне сказаць?

— Не!

Зламала дубчык, адкінула яго, зламаны, убок. Сказала гэта «не» з адчаем, як з берага ў прорву кідаючыся, гатовая прыняць усё, заслужана ці не.

— Памятаеш, ты прыйшоў з білетамі ў кіно, а я сказала, што не магу ісці, што сяброўцы абяцала, адным словам, не пайшла, і ты яшчэ пакрыўдзіўся.

— Ну, памятаю, — неяк суха адказаў Іван.

— То я зноў сказала табе няпраўду.

Спынілася, прыхінулася плячыма да бярозы, адчуваючы праз тонкую сукенку яе халаднаватую шурпатасць і цвёрдасць. Нібы шукала ў бярозы апоры, калі не ўстоіць, калі сілы будуць пакідаць. Глядзела на Івана нібы з жорсткасцю, хаваючы за тою жорсткасцю сорам, разгубленасць, страх. А ён стаяў перад ёю — у белай кашулі з расшпіленым каўняром, які адкрываў яго маладую дужую ружовую шыю, крыху расставіўшы ногі, нібы для цвёрдасці на зямлі, на штанах — смяцінкі, парушынкі, што паначапляліся ад хады па лесе. Не падняла вачэй да яго твару, гаварыла, гледзячы на грудзі, на кашулю, на белы гузік, з якога звісала белая нітачка.

— Мне была прызначана сустрэча… З работнікамі КДБ… Я не магла не пайсці… З мяне ўзялі падпіску… Я не маю права гаварыць пра гэта і цяпер… Але табе…

І яна расказала Івану ўсё. Пра жанчыну, якая прыйшла ва ўніверсітэт, пра чалавека з газетаю пад пахай, пра брывастага ў будынку КДБ, пра Падвозную вуліцу і Пакгаўзны завулак, пра тое, што цікавяцца ў тым будынку Іванам Сташкевічам, пыталіся пра лісты з дому.

— І ты згадзілася!

Такога тону, такога голасу ад Івана не чула ніколі. Падняла вочы. Не Іванаў твар… Чужы… Твар чужога чалавека. Дзе чужое? У вачах, у вуснах? Што б аддала, каб убачыць таго Ваню, што быў тут усяго паўгадзіны назад!

— А як я магла не згадзіцца, як не згадзіцца, яны ведаюць усё пра бацькоў, а я, паступаючы вучыцца, пра бацькоў не напісала, напісала — загінулі ў час вайны… А яны і праўда загінулі, бо каб не загінулі, то пехатою вярнуліся б з той Сібіры, ці ж бы мама мяне пакінула?!

— Ну так, разумею, — нібы мякчэй сказаў Іван.

— Мяне ж бы выгналі з універсітэта, а я так хачу вучыцца, і што я вінавата, што я вінавата… Я ім нічога не гаварыла, ні пра цябе, ні пра Лену, нічога не гаварыла.

— А Лена? Пры чым тут Лена?

— Яны і пра Лену пытаюцца.

— Пра тую Лену, што з табою ў лагеры?

— Ага… Але я нічога, абсалютна нічога, ды я нічога і не ведаю, ну што я магла сказаць — і пра Лену, і пра цябе?

Іван мыляў губамі. Здаецца, на тых губах вісела лаянка, ці праклён, ці, можа, нават брыдкае слова, які мацюг, але ён стрымліваўся, каб не сказаць яго.

— Што робяць! Што робяць! — амаль сіпеў ён. — Нявесту на жаніха, сяброўку на сяброўку, брата на брата… Дык цікавіліся, кажаш, мною? І ты раней мне не сказала?

— Цікавіліся, Ванечка, а я баялася сказаць, не таму, што распіску дала, мне было сорамна…

— Сорамна… А што ж яны хацелі ад цябе пачуць?

— Ці я ведаю? Пыталіся, што табе пішуць з дому, што ты сам гаворыш… А што я магла сказаць?

— Чаму? Магла б… Я ж часам антысаветчыну, як гэта кажуць, гараджу… Пра Сталіна, пра калгасы…

— Ды кінь ты…

Што б яна цяпер аддала, каб ён абняў, пацалаваў, каб забылася ўся гэтая размова, каб ён адкінуў яе, як непатрэбную, але ён не абдымаў, і твар яго, здаецца, не дабрэў. Паклаў рукі ў кішэні штаноў, пайшоў. Яна — за ім — прыніжаная, быццам моцна ў нечым вінаватая.

— Не трэба было згаджацца, — неяк жорстка сказаў ён. — Хаця… Я разумею… Не так проста адмовіцца…

Яна ішла за ім — гатовая на ўсе папрокі, на лаянку, гатовая, каб набіў яе, яна ўсё стрывае, але каб дараваў, каб абняў, пацалаваў. Божа мой, ніколі ў жыцці не хацела так моцна, як цяпер, каб пацалаваў.

Іван раптам спыніўся, азірнуўся.

Вакол стаялі высокія хвоі, між іх зелянелі махнатыя елачкі, лісцвяных дрэў не было відаць, не відаць было і кустоўніку. Дол усцілаў чарнічнік з зялёнаю завяззю ягад, якая тут і там фарбавалася ў чарнільны колер. Аднолькавы хваёвы лес разлягаўся на ўсе бакі.

— Куды мы зайшлі, не ведаеш? — спытаў Іван. І Ніна азірнулася. Лес выглядаў зусім незнаёмым.

— Не ведаю…

— Адкуль мы ішлі? — азірнуўся Іван.

— Здаецца, адтуль, — паказала рукою Ніна.

Іван паглядзеў на неба, нібыта па ім, па сонцы хочучы вызначыць кірунак — у які бок ім трэба падавацца, але неба зацягнула адна вялікая, як шэрая посцілка, хмара. Хвоі гайдалі пад ёю свае парасоны з аднастайным, абыякавым да людскіх трывог, да людскіх клопатаў, шумам.

— Можа, і адтуль, — згадзіўся Іван і пакіраваўся ў той бок, куды паказала Ніна.

Але скора яны трапілі ў зусім непраходны гушчар. Між хвой тапырыліся сухія, пакрытыя шэра-зялёным мохам шкілеты елак, спляталіся між сабой, і працерабіцца праз іх было немагчыма.

Яны павярнулі назад. Іван зноў крочыў наперадзе, Ніна — за ім. Яна адчувала, як пад грудзі, пад горла падступае крыўда, пачынаюць душыць слёзы, ужо і набеглі на вочы, выцірала далоняй мокрыя шчокі, выцірала хусцінкаю, вымаючы з рукава, нос. Іван шырока крочыў наперадзе і не заўважаў яе плачу. Яны доўга ішлі між соснаў, высокіх і роўненькіх, адна ў адну, то ўзнімаліся на пагоркі, то апускаліся ўніз і раптам зноў прыйшлі да тых самых альбо не тых самых, падобных, мохам пакрытых шкілетаў елак, што спляталіся ў непралазны гушчар.

— Каб ты згарэла, — вылаяўся Іван і азірнуўся на Ніну, убачыў яе заплаканы твар. Нешта змянілася ў яго вачах, памякчэлі вусны, стаў крышку падобны на таго Ваню.

— Ну чаго ты? — падышоў, абняў за плечы.

— Заблудзіліся…

— Такой бяды, вылузаемся, не плач.

Мусіць, ён падумаў — плача яна ад страху, што заблудзіліся. Што ёй той лес, ці ж бяда, што заблудзіліся, яна рада была б наогул не выходзіць з гэтага гушчару, застацца ў ім назаўсёды, не выходзіць да людзей, у той свет, дзе так цяжка жыць, дзе ты сама сабе не гаспадыня, дзе адбіраюць бацькоў і прымушаюць сачыць за каханым, за сяброўкаю.

— Не плач, — супакойваў яе Іван, і ў голасе яго яна пачула дабрыню, спагаду, а ёй толькі гэта і трэба было. Яна цяпер была згодная на ўсё, не чакаючы ніякіх роспісаў у сельсавеце стаць яго жонкаю, няхай бы ён зразумеў гэта, яна згодная на ўсё, у гэтым лесе, пад гэтым небам, дзе ён хоча.

— У які ж бок нам ісці? — нібы сам з сабою разважаў Іван.

— Куды хочаш, Ванечка, я не ведаю.

Узяўшы яе за руку, ён пайшоў, мусібыць, наўгад, бо сам не ведаў гэтага лесу, хадзіў па ім упершыню.

Яны выходзілі на вузкія сцежкі, ішлі па іх, сцежкі абрываліся, канчаліся, і яны вярталіся да іх пачатку. Выходзілі на прасекі, і прасекі заводзілі ў чужыя, незнаёмыя Ніне мясціны. Яна стамілася, ужо не плакала, яе не вельмі клапаціла, ці знойдуць яны дарогу. Некалі ды знойдуць, некуды выберуцца, тут не тайга. Не баялася яна, калі і начаваць у лесе давядзецца, мо тады… Гэта зблізіла б іх да канца.

Нарэшце ўдалечыні пачулі гул машын. Пакіраваліся на той гул і выйшлі на шашу. За шашою горбіліся стрэхі хат невялічкай вёскі, за вёскаю разлягалася жытняе поле, за полем зноў сінела палоска лесу. На яго грэбень, напалову выбраўшыся з посцілкі аблокаў, апускалася сонца. Не ведалі, у які бок кіравацца па

шашы. Спынілі грузавую машыну. Шафёр — няголены дзядзька ў зашмальцаванай кепачцы, у чорнай кашулі з расшпіленым каўняром, за якім віднелася жылістая сіняватая грудзіна, высунуўся ў акно са спушчаным шклом.

— У якім баку станцыя? — спытаў Іван.

— Там, — махнуў шафёр у той бок, куды сам ехаў.

— Далёка?

— Кіламетраў, можа, сем.

— Падвязеш?

Шафёр глянуў на яго, на Ніну хітраватым вокам, усміхнуўся, падміргнуў Івану.

— Ну, калі так стаміліся, то лезьце ў кузаў.

Ніне стала брыдка ад той усмешкі, ад падміргвання Івану, але Іван ужо вёў яе за руку да кузава, ужо дапамагаў, падсаджваў у машыну. Сам спрытна стаў на кола, перакінуў сваё цела цераз борт кузава.

Машына тузанулася, паехала, уздымаючы за сабою пыл.

— Ты вылезеш каля лагера, а я паеду да станцыі, — тонам загаду сказаў Іван.

— Я праводжу цябе, паеду з табою да станцыі, можа, цягніка доўга прыйдзецца чакаць, — папрасіла Ніна.

— Не трэба… Потым адна вяртацца будзеш… Ужо сцямнее…

Ці і праўда клапаціўся пра яе, каб не ішла адна поцемкі са станцыі, ці не хацеў, каб праводзіла?..

— Я не баюся, я паеду з табою, — прасілася Ніна.

Яны сядзелі на нейкіх торбах, што ляжалі каля кабіны, машыну падкідала, гайдала на няроўнай дарозе, Іван абдымаў яе рукою за плечы, і яны разам ківаліся, трэсліся.

— Не трэба, — сказаў Іван. — Я прыеду па цябе… Цераз тры тыдні.

Спадзяваннем, радасцю абдалі тыя словы, самі сабою, як ні стрымлівалася, зноў паплылі з вачэй слёзы. Выхапіла з рукава насоўку, прыклала да твару.

— Ну чаго ты? Не плач! — ён прыгарнуў яе да сябе, пацалаваў у мокры ад слёз твар, і ад гэтай пяшчоты Ніне зрабілася яшчэ лягчэй, як тады, калі абняў, пацалаваў пасярод вуліцы пасля таго, як пасварыліся. Нібы цяжар адваліўся ад грудзей. Іван зноў быў той самы, свой, родны Ванечка.

Мільганула знаёмая брама піянерскага лагера імя Алега Кашавога. Іван забарабаніў па даху кабіны. Машына спынілася, Іван яшчэ раз пацалаваў, дапамог вылезці з кузава.

— Чакай мяне…

Машына чмыхнула маторам, абдала Ніну пылам, гарам бензіну, паехала. Пазірала ёй услед, як меншала, меншала і зусім знікла за паваროткаю.

## 20

Лесам, пагоркамі, рэчкаю, лугамі і палямі кацілася лета, дзень за днём робячы сваю работу — гонячы ў колас жыта, мяняючы краскі на лузе і ягады ў лесе — замест суніц выспелі чарніцы, ружавела на кустах маліна, у лесе дол укрылі мухаморы, трапляліся і добрыя грыбы, і цяпер лес часта апаноўвалі гараджане, вяртаючыся на станцыю з поўнымі кошыкамі, вёдрамі жытнікаў, маслякоў, лісічак. Адна змена дзяцей адбыла свой тэрмін, прыехала другая — такія самыя крыклівыя, неўтаймоўныя, непаслухмяныя. З імі павялі тую самую работу, што і з дзецьмі першай змены, набылі ўжо за той час нейкі вопыт.

Пра сваю размову з Іванам, пра тое, што прапанаваў ёй выйсці за яго замуж, што абяцаў прыехаць цераз тры тыдні, нікому не сказала. Сама не ведае — чаму. Можа, трэба было б і сказаць — Лене, дырэктару, каб не аказалася потым для іх нечаканасцю. Нічога не гаварыла. Невядома чаму, падсвядома, глыбока ў душы затаілася сумненне. А раптам не прыедзе? А раптам не забярэ? Калі прыедзе і зноў пакліча, то гэтым разам кіне ўсё. А што, як перадумае? Ці маці не дазволіць, адгаворыць. Скажа, у хаце гора, бацьку, брата забралі, а ты, сынок, жаніцца надумаў. Ды ці мала што… На Леніны роспыты — як з Іванам пагулялі, чаго прыязджаў, адказала стрымана: быў у Мінску і пад’ехаў сюды, гулялі ў лесе, заблудзіліся, таму і прыйшла так позна.

Наогул апошнім часам не было між імі ранейшай шчырасці. Можа, Ніна ў тым вінаватая, сама не хацела нічога слухаць, каб не ведаць лішняга. Вось Лена больш і не раскрывае душы. Ды і Ніна ж затаілася, а так хацелася паспавядацца перад некім. Ды перад кім і як? Хіба раскажаш усё да дна, усю праўдачку, як яна ёсць?

Апошні час вечарамі Лена стала позна прыходзіць у каморку, дзе стаялі іх ложкі. Часта прыносіла дарагія цукеркі — «Мішка касалапы», «Мішка на поўначы», пліткі шакаладу, шчодра дзялілася ласункамі з Нінай.

— Адкуль гэта ў цябе?

— Дырэктар частуе, — не магла не прызнацца Лена.

Цікава… Ніну ён не частаваў. Не магла ж дапусціць, што ў Лены з дырэктарам шуры-муры, стары ж чалавек, гадоў трыц-

цаць пяць, а мо і болей, жанаты ж недзе, ды і як мужчына не кідкі, а Лена маладая і прыгожая. Мусіць, і ў яго, як і шмат у каго, Лена выклікае жаданне апякаць, шкадаваць. Ніна часам задумваецца — ну вось гэта Леніна ўменне ладзіць з людзьмі, быць з усімі добраю, спагадліваю, ні з кім не сварыцца, усім дагаджаць — ці гэта ад мудрасці, ад розуму, што быць добраю — выгадна, ці ад прыроды, характар ужо такі? Мусібыць, ад прыроды, бо розумам характар не перамагчы, цяжка чалавеку выскачыць самому з сябе, калі хто ўспыльчывы, заводзіцца, як гэта кажуць, з паўабарота, то стрымацца амаль немагчыма. Вось і дырэктар падпаў пад Леніны чары. Але хутчэй за ўсё не такі ён і бескарыслівы, Лена яму падабаецца як дзяўчына, адразу было відаць, тады яшчэ, калі спіртам ледзь не захлынуліся, — глядзеў на Лену, як кот на сала. Тут ужо — як яна… Але прымаць такія пачастункі — ці не прымаць авансы, за якія потым прыйдзецца расплочвацца?

Што б ні трапіла Ніне на вочы, пра што б ні думала, усё гэта займала нібыта адзін, павярховы пласт яе свядомасці. А ў глыбіні, не пакідаючы ні на міг, жылі, тачылі думкі пра адно — пра Івана. Лічыла дні — калі праміну ць тыя тры тыдні. Сама ж назначыла такі тэрмін. Дурніца, трэба было адразу, тады ж усё кінуць і паехаць з ім, а тое — не сказала б, і век не даведаўся б. Ці ж яна яму вораг? Ён там, за тры тыдні, усё перадумае, убачыць, што яна ні ў чым не вінаватая, што чыстая і перад ім, і перад усімі людзьмі.

Яна ўяўляла яго маці — старую добрую жанчыну, уяўляла, як будзе любіць яе, будзе называць мамаю. Уяўляла яго сёстраў — у яе ж ніколі не было ні брата, ні сястры, цяпер паявіцца цэлая сям'я. Будзе любіць і сёстраў, і брата. Яна напіша доўгае і шчырае пісьмо, можа, самому Сталіну, каб даў загад разабрацца ў справе бацькі і брата Івана Сташкевіча, яны ні ў чым не вінаватыя, яны проста ахвяры паклёпу, ні з якімі бандытамі яны не звязаныя, Станіслаў Сташкевіч (Іван па бацьку Станіслававіч) у вайну памагаў партызанам, можна людзей знайсці, якія пацвердзяць, — складала Ніна ўжо ў думках і тэкст пісьма Сталіну, бо верыла Івану, што ўсё было іменна так, як ён расказваў. А можа, тут яна параіцца з Іванам, калі зноў паклічуць яе тыя, з таго дому, сказаць ім, што ведае ўсё пра сям'ю Сташкевічаў, што ні ў чым не вінаватыя яго бацька і брат, няхай разбяруцца, нельга ж так — не разабраўшыся.

Яна ўяўляла ўжо сябе выратавальніцай, збавіцелькай, уяўляла, як будзе дзякаваць ёй Іванава маці, будзе гаварыць: дачушка,

мілая, ты ж наш анёл-збавіцель, што ж бы мы без цябе рабілі. І Іван будзе ёю задаволены, будзе мацеры гаварыць: ну вось, а вы не хацелі, каб я жаніўся.

Яна строіла планы, як, атрымаўшы зарплату за работу ў лагеры, пойдзе ў магазін выбіраць падарункі яго мацеры, сёстрам. Мацеры лепей за ўсё хустку. Сёстрам — сама пакуль не ведае што. Можа, шаўковыя касынкі? Дзве аднолькавыя? Не, лепей розныя, будуць мяняцца, і будзе ў кожнай нібыта дзве… Дарагія падарункі не зможа купіць, але і скупіцца не будзе. Ну, і сабе трэба нешта… Кашулю начную прыгожую… Яшчэ што з бялізны. Увогуле-то ўсё адзенне яе нікуды не варта, ні сукенкі, ні паліто, ні туфлі, усё трэба абнаўляць, але на гэта і дзесяць зарплат не хопіць. Сукенкі памые, папрасуе, а паліто летам непатрэбнае.

Так думала, разважала Ніна, лежачы позна ў каморцы без сну, чакаючы, пакуль прыбяжыць Лена. Гэтыя хвіліны былі ў яе самыя салодкія. За шумам, гвалтам, беганінаю лагернага жыцця нельга было вось так спакойна і соладка пра ўсё разважыць. Чакала вечара, потым ночы, каб застацца ў адзіноце, у цішы, сама з сабою і тады ўжо думаць, думаць удосталь, усмак.

Часам, як іголкаю ў сэрца, калола сумненне — а раптам не прыедзе і нічога гэтага не будзе? Тады перад вачыма прасціралася пустата, чарната, прорва, і Ніна ўцякала ад гэтай прорвы, зноў спачатку пачынала перадумваць усё — як прыедзе Іван, забярэ адсюль, як будзе любіць яна ягоную маці, вызваляць з бяды яго бацьку і брата.

Даўно ўгаманіліся дзеці, вакол цішыня, выплываюць толькі часам незразумелыя шорахі, быццам цішыня гэта дыхае, ды часам парыпвае ў двары высокая мачта, на якой кожную раніцу ўздымаюць, а вечарам апускаюць на лінейцы піянерскі сцяг.

У акно сочыцца слабае святло — ночы цяпер светлыя, месячныя, зорныя і кароткія, хаця апошнім часам і пачалі даўжэць. У гэтым святле чорным колерам вылучаюцца ўзоры накату на сцяне, зялёныя ўдзень, завешаная прасціною адзежа на сцяне падобна на здань, па кутках туляцца чорныя цені.

Здалёк пачулася глухое тахканне — гул паступова нарастаў, набліжаўся, да станцыі пад'язджаў цягнік. Вось ужо колы грымяць моцна, ляскаюць на стыках рэек, грымяць, нібыта зусім блізка, побач, хоць да чыгункі не меней як вярста. Адгрымелі без прыпынку, пачалі заціхаць — далей, далей, зусім сціхлі.

У цішыні глыбокага вечара пачуліся на ганку, потым у калідоры лёгкія крокі. Асцярожна, як злодзей, адчыніла дзверы, увайшла Лена. Прынесла з сабою нейкі надта прыемны, забыты пах.

— Хадзі смялей, я не сплю, — сказала Ніна.

Лена кінула на свой ложак нешта цяжкае, як бульбу.

— Бяры, частуйся.

Ніна ўзнялася, на светлай пікейнай коўдры, што захінала Леніну пасцель, выразна ўбачыла некалькі цёмных мячыкаў.

— Што гэта?

— Апельсіны…

— Ды ну?

Лена скоранька распранулася, шуснула пад коўдру, скаціўшы апельсіны ў равок між ложкамі, што стаялі, як і ў інтэрнаце, упрытык адзін да аднаго. Узяла адзін сабе, другі кінула Ніне. Было прыемна адчуваць у руцэ халаднаватую пругкасць гэтага мячыка. Панюхала, пачала абіраць. Ва ўсім пакоі да дурману запахла заморскім цудам. Ніне гэты пах чамусьці нагадаў нейчы багаты пакой. Адкуль такая асацыяцыя — сама не ведала.

— Слухай, — спынілася на хвілінку абіраць апельсін. — Гэта ж дзецям…

— Дзецям, дзецям, заўтра ўсім дзецям на салодкае дадуць апельсіны, — супакоіла яе Лена.

— А нам, выходзіць, раней за ўсіх?

— Я сама не хацела браць, — неяк вінавата сказала Лена, — але проста сілаю прымусіў, каб узяла і цябе пачаставала.

Ніна разбірала апельсін на долькі, клала па адной у рот, успамінаючы, як елі з Іванам суніцы, як ён па ягадцы клаў ёй у губы. Калі яна апельсіны ела? І ўспомніць цяжка… Можа, некалі ў маленстве, да вайны? А можа, наогул першы раз іх каштуе, бачыла толькі, як елі іншыя? Не магла ўспомніць. Думала — спытаць ці не спытаць? Можа, няёмка… Не вытрывала.

— Слухай, а што ў цябе за адносіны з Паўлам Рыгоравічам? Ну, яго-то я магу зразумець, ён закахаўся ў цябе. А ты?

Лена збірала ў кучку шалупінне ад апельсіна.

— От, кінь… Выдумала… Якое каханне… У яго жонка, двое дзяцей… Мы проста сябры.

Ніна зноў успомніла тую спрэчку ў інтэрнаце — ці можа быць бескарыслівае сяброўства паміж маладымі мужчынам і жанчынаю? Уздыхнула.

— Нешта не верыцца… — І зноў не вытрывала, спытала: — А як той, мастак? Што ў Францыі спаткаліся? Не адазваўся?

Лена трымала ў руках, сабраўшы ў прыгаршчы, шалупінне ад апельсіна, мусіць, шукала, куды яго кінуць. Сціснула тое шалупінне, застыла на хвілінку, быццам заглыбілася ў сябе…

— Не адазваўся. Не мог адазвацца… Нядаўна даведалася — ён у Сібіры, у лагеры… І наогул… Нават не ведаю, як табе сказаць… Канечне, не дай бог зноў вайну, зноў палон, два разы такое не пражывеш… Але неяк там… Шчасця чакала… Перамогі, вызвалення… Усе чакалі… Было чаго чакаць…

Ніна нібы спалохалася. Што гаворыць тая Лена?.. У якім лагеры яе мастак? У такім, як бацька? І што ж гэта выходзіць? У вайну чакала шчасця, а цяпер не чакае? У вайну, у лагеры было яе душы лягчэй? Свят, свят, як той казаў… Лепш не кранацца душы чалавечай, лепш туды не заглядаць, бо такое адкрыцца можа…

— Магчыма, таму, што маладая зусім была, — гаварыла Лена. — А пакуль чалавек малады, то спадзяецца…

— Хіба ты цяпер не маладая? — дзівілася Ніна.

— Мне ўжо сто гадоў, — неяк сумна, загадкава сказала Лена. — Я табе зайздрошчу… У цябе Іван… Здаецца, ён харошы хлопец.

— А я табе зайздрошчу, — прызналася Ніна. — Цябе неяк усе любяць… Усе памагаюць, шкадуюць…

— Ат, кінь, — адмахнулася Лена. — Давай лепей яшчэ па адным апельсіне з'ядзім.

І яны з'елі яшчэ па адным апельсіне. Сцішыліся. І вярэдзіла Ніціну душу: чаму ж так, чаму — у нашым лагеры? За што? Але распытваць пабаялася, пабаялася і не захацела.

Мінула два тыдні намечанага Нінаю тэрміну, але яна ўжо чакала Івана. А раптам не вытрывае, занудзіцца, як той раз? Уклаўшы дзяцей на мёртвы сон пасля абеду, яна выходзіла на дарогу і прагульвалася ў бок станцыі.

Івана не было.

Вярталася ў лагер, у свае клопаты.

У чацвер, калі споўнілася роўна тры тыдні з таго дня, як прыязджаў, як прапанаваў ёй кінуць лагер і паехаць з ім, яна прычасалася асабліва старанна, апранула лепшую сукенку і ў час «мёртвай гадзіны» зноў павольна пайшла ў бок станцыі.

Стаяў гарачы ліпеньскі дзень. Лес выглядаў не такім ужо свежым, як у чэрвені, лістота пацямнела, пагрубела, а тут, пры дарозе, укрылася ўжо і пылам. Усцяж дарогі тапырыліся суквеццямі сівыя кусты палыну, цвілі рамонкі і жоўты львіны зеў, ускідала ўгору ружовыя цурубалкі конскае шчаўе, сляпіла, пякло гарачае сонца.

Пясчаная дарога ўпіралася ў шашу, пакрытую асфальтам, і Ніна ўзышла на шашу, пакіравалася па ёй. Мусібыць, акурат

аднекуль прыйшоў цягнік, бо ад станцыі купкамі, па адным маршыравалі людзі, і Ніна пабегла вачыма па постацях, шукаючы знаёмую. Івана сярод гэтых людзей не было. Дайшла да самой станцыі, зялёнага драўлянага навеса з будкай для касіра, з надпісам на тым навесе — «Крыжоўка». Пад навесам пуста, ніводнага чалавека, толькі чорны кудлаты сабачка сядзіць каля касіравай будкі. Уважліва паглядзеў на Ніну, быццам хацеў ёй нешта сказаць. Мільганула пад навес ластаўка, Ніна прасачыла за палётам. Аказваецца, там, у куточку, гняздо. Ты глядзі, і цягнікоў не баіцца птушка.

Убачыла лісток, кнопкамі прышпілены да будкі, — расклад цягнікоў. Падышла, пачытала. Той, што прыйшоў нядаўна, — з Маладзечна, на ім і мог прыехаць Іван. Значыцца, не прыехаў.

З цяжкаю душою, з кепскім прадчуваннем вярнулася ў лагер. Супакойвала сябе — ну, неабавязкова ж дзень у дзень прыехаць, можа, заўтра аб'явіцца, можа… Ці мала што… Дома які клопат… Абяцаў жа, сказаў на развітанне — прыеду па цябе… Чакай… Хапалася за тыя словы, хацела верыць ім, Івану.

Ён не прыехаў і назаўтра. І паслязаўтра. І праз тыдзень, і праз два. А яна ўсё хадзіла на станцыю, усё чакала, хаця ў душы разумела ўжо — усё…

Чорнаю зданню навалілася туга. Перамагаючы сябе, развучвала з дзецьмі танцы, вершыкі, чытала ўголас аповесць пра краснадонцаў і часам лавіла сябе на тым, што не разумее сэнсу, гучыць толькі яе голас, механічна гаворыць словы, сказы, а сэнс адлятае, думкі далёка, у пустаце, у бездані.

Не магла есці, нават ад паху яды нудзіла. І рабілася крыўдна — спадзявалася на казённае харчаванне, і вось яно — баршчы, катлеты, кісялі, а яна не можа есці. Пахудзела, пачарнела.

— Ты што, захварэла? — пыталася Лена.

— Ды не, здаровая.

— А чаго ж ты?

Нават Павел Рыгоравіч, сустрэўшы неяк на лагернай сцежцы, запыніў, спытаў спачувальна:

— Ніначка, нешта вы пахудзелі, кепска выглядаеце. Павінны былі тут у нас, наадварот, на свежым паветры, — ён паказаў рукамі каля сваіх шчок, як павінна была б Ніна пакруглець, паправіцца. Сам ён, здаецца, выглядаў яшчэ жвавейшым, вочкі гарэлі вясёлым бляскам, пры сваім невысокім росце здалёк са спіны здаваўся падобным на піянера.

— Нічога, Павел Рыгоравіч, — быццам бесклапотна адказала Ніна. — На жывой касці мяса нарасце.

Заставалася чакаць канца лета, пачатку заняткаў, каб высветліць прычыну — чаму здрадзіў свайму абяцанню. Хоць Ніна і здагадвалася, разумела — прычына адна, у тым, што згадзілася быць «Бураю» ці «Маланкаю» — сама не памятае чым. І яшчэ — што адразу яму не сказала. Мусіць, адвярнула ад такой. Ці, можа, пабаяўся яе, такой, не паверыў, што яна нічым ім не служыла, што самой усё гэта было — як костка ў горле. А калі так, то і восенню нічога не вернецца. Хоць хапалася яшчэ, як тапелец за саломінку: а можа… Ці мала што магло дома здарыцца? Можа, захварэў, што-небудзь кепскае даведаўся пра бацьку, брата. А ў глыбіні душы разумела: канец. Значыцца, наперадзе прорва, пустата…

## 21

Зноў вясёлымі галасамі азваліся калідоры інтэрната, студэнты з дому валаклі авоські, сумкі з прадуктамі, пасля летняга развітання сустракаліся сябры.

Іх пакой таксама скора засяліўся, усе жывыя, здаровыя, поўныя энергіі, гатовыя з новымі сіламі грызці той граніт, аб які чалавецтва спрадвеку крышыць зубы. Лену ўжо наперабой частавалі — хатняю кілбасою, яшчэ свежымі, спечанымі дома, мамаю, піражкамі.

За лета ва ўсім хімкорпусе зрабілі рамонт, пабялілі столі, пафарбавалі сцены, дзверы, вокны, а што самае галоўнае — павыкідалі пліты, што паліліся дрывамі, зрабілі на першым паверсе адну вялікую кухню. Адпаў клопат пра паліва, і ў пакоі павальнела, пасвятлела.

Першы месяц, верасень, як заўсёды, аддаваўся калгасу, студэнты ехалі выбіраць бульбу. І Нінін курс паслалі ў калгас. Сказалі, што ў наступным годзе, на пятым курсе, у калгас ужо не пашлюць, а сёлета яшчэ трэба ехаць і старшакурснікам.

Ну, бульбу выбіраць не так цяжка, не тое што на першым курсе, у сорак шостым, калі іх паслалі на лесапавал. Хлопцы валілі дрэвы, а дзяўчаты распільвалі. От тады ўбачыла Ніна, якая яна слабасільная. Два разы пацягне пілу, і ўсё, змаглася. Кармілі нейкаю баландою, варылі ў вялізных закураных катлах на вогнішчах. Хто меў прадукты з дому, той падсілкоўваўся. Ніна жыла на адной той баландзе. Спалі ў буданах і па начах мерзлі, адграваліся днём на цёплым яшчэ сонцы і за работаю.

А вакол стаяў залаты лес, з бяроз, як дажджынкі, капалі, ападалі лісты, бліскала на сонцы, лётала павуцінка, пахла распіленым дрэвам, гаркаватаю арабінаю, дымам вогнішча.

Выбіраць бульбу лягчэй, але кепска, што работа брудная. Добра, калі суха, а як дождж? Сыпле дробны, надакучлівы, а ты калупаешся ў ліпкай сырой зямлі, ногі вязнуць у баразне, стынуць рукі, адзежа пэцкаецца. Але тут прывабнасць — можна бульбы на вогнішчы напячы і наесціся ўволю. Спалі ў гаспадыні-калгасніцы ўпокат на падлозе. Цэлую ноч, амаль праз кожную гадзіну, пад прыпечкам кукарэкаў певень. Ад яго крыку Ніна кожны раз прачыналася. Толькі засне, ужо і сніцца нешта пачынае, а певень, як апантаны — ку-ка-рэ-ку! І яшчэ што мучыла — на руцэ, каля локця, мусіць, ад прастуды, успухла скула. Пад канец дня, ад натужнай работы, яна налівалася вялізным сінім гузам і балела. Але трывала. Тачыў боль іншы. Старалася і яго перамагчы. Прывучала сябе да думкі, што з Іванам — усё скончана. Прывучала сябе да гэтага летам, у лагеры. Прывучала цяпер. Ведала, што і яго паслалі недзе на бульбу, і ён не ў горадзе, але каб хацеў, то мог бы, пакуль не раз'ехаліся па калгасах, зайсці да яе. Не зайшоў.

Яшчэ ў пачатку верасня так запякло ў душы, так захацелася яго пабачыць, ды і мала што… Мала што магло здарыцца. Захварэў… Памёр, не дай Бог…

Пабегла да яго інтэрната, на Віцебскую. У будынак зайсці, распытаць не адважылася, гадзіны дзве хадзіла па вуліцы: можа, сустрэне… Убачыць, хоць здалёк… Не сустрэла, не ўбачыла.

І вось — скончылася ўборка бульбы. Калі правільна сказаць, то ўборка не скончылася, яшчэ шмат гектараў заставалася ў зямлі, але студэнтам час вяртацца ў горад, на заняткі, і так цэлы месяц адабралі ў бога навукі.

Пацякло звычайнае жыццё. Лекцыі, бібліятэка. Першы раз ішла ў Ленінку — ногі падгіналіся, тахкала, вырывалася з грудзей сэрца, чакала — вось-вось убачыць. Яе месца, аблюбаванае ў мінулым годзе, аказалася вольнае. Хуценька заняла яго, расклала кніжкі, сшыткі. І другое месца заняла, побач з сабою.

Іван не прыйшоў. І назаўтра не заявіўся. І цераз тыдзень.

Зноў пакіравалася на Віцебскую вуліцу. Разумела, што прыніжае сябе, што брыдка падпільноўваць хлопца. Не магла стрымацца. Хацелася яснасці да канца.

Яснасць наступіла. Калі аднойчы — не ў Ленінцы і не на Віцебскай, а на праспекце — убачыла яго: жывы, здаровы, ішоў з тою, намазанаю, пра якую казаў, што зямлячка. Убачыў Ніну, павітаўся. Ветліва, як са звычайнаю знаёмаю.

Адказала на прывітанне і пайшла, як у ноч, у цемнату, не бачачы — куды. Рыхтавала ж сябе, разумела ўжо, што канец.

Але жыло ў душы, як кропелька святла, спадзяванне. Патухла кропелька. Цяпер — поўная чарната.

Душа закіпала жаданнем помсты. Толькі як? Кінуцца пад цягнік? Падумаеш, Ганна Карэніна… Павесіцца? Брыдкая смерць, немцаў вешалі, здраднікаў вешалі. Божа мой, каб можна было загадаць сабе самой — легчы і тут жа памерці!..

Другі раз злосць і крыўда апаноўвалі з такою сілаю, жаданне помсты так душыла, што думала — вось пайсці б у той дом і сказаць: Іван Сташкевіч сумняваецца ў сталінскай мудрасці… Не верыць у калгасы як у прагрэсіўную форму сельскай гаспадаркі… Сама палохалася, што такое магло прыйсці ў галаву. Вось ужо праўда, што нават свая душа — пацёмкі.

Так заглыбілася ў свае перажыванні, што прайшла бокам падзея, якая нарабіла звону на ўвесь універсітэт. Яна не была на тым камсамольскім сходзе, расказвалі дзяўчаты, горача абмяркоўваючы падзею ў пакоі.

Хлопец з фізмата, дзяўчына з геафака разам выбіралі ў калгасе бульбу. Ці і раней гулялі яны, ці толькі ў калгасе пазнаёміліся, але, мабыць, пакахалі адно аднаго і недзе на гары, на сене, не толькі абдымаліся і цалаваліся, але аддаліся адно аднаму да канца. І не ведалі, што тут жа, за бэлькаю, ляжалі ціхенька дзве сяброўкі з гістарычнага факультэта і ўсё гэта чулі, усё гэта бачылі. Абураныя да глыбіні душы такою распустаю, такімі не савецкімі, не камсамольскімі паводзінамі, яны напісалі ў камітэт камсамола заяву з патрабаваннем разабраць паводзіны студэнтаў на камсамольскім сходзе.

І вось адбыўся камсамольскі сход, шматлюдны як ніколі, і адзін за адным выступалі студэнты, і кляймілі за распусту, за непрыстойнасць, за такія… Такія… І слоў не знайсці, якія паводзіны.

— Божа мой… Што ж тая дзяўчына? Яна там сядзела, яна ўсё чула? — з жахам пыталася Ніна.

— Яна нават выступала! — узбуджаная, расчырванелая, расказвала Окця. — Выйшла на сцэну і кажа: «Чаго вы ад мяне хочаце, я яго кахаю!»

— Так, перад усімі? — не магла паверыць Ніна.

— Перад усімі, перад усім сходам.

— А ён?

— Хвастом накрыўся! Хоць бы слова сказаў, хоць бы абараніў дзяўчыну!

Дзяўчаты наперабой абмяркоўвалі сход. Адны казалі, што, вядома, найбольш сораму тут дзяўчыне, другія дадавалі, што

хлопец, калі ён чэсны, павінен быў тут жа ажаніцца з гэтаю дзяўчынаю, трэція наогул абураліся сходам, казалі, што камітэт камсамола не павінен быў выносіць такія пытанні на людзі. Асуджалі тых дзяўчат, што напісалі заяву.

Хлопца выключылі з універсітэта. Дзяўчына засталася вучыцца, але на яе ўсе паказвалі пальцамі.

Цікаў Нінін маленькі гадзіннік-штампоўка, бегалі, даганялі адна другую стрэлкі, круціліся па цыферблаце. Міналі суткі, тыдні, мінуў месяц. Дні рабіліся ўсё карацейшыя, на горад часта асядаў туман, туман пераходзіў у морась, у дождж. Раніцою доўга не развідняла, уставалі і запальвалі адразу электрычнасць, і ўдзень за вокнамі часамі рабілася так хмурна, што ўключалі святло. Не паспеўшы як след разгуляцца, дзень пераходзіў у вечар, і ўспаміналася пушкінскае:

> Проглянет день, как будто поневоле,
> И скроется за край окружных гор…

Як жа дакладна…

У інтэрнаце не ладзілася з ацяпленнем, і ў пакоях гуляў холад, адагравалася ў бібліятэцы, дзе шчодра паліліся батарэі і было нават душна.

Кацілася жыццё па сваёй каляіне — з раніцы лекцыі, потым абед у сталоўцы, затым Ленінка. Іван больш сюды не заяўляўся, можа, хадзіў у бібліятэку Дома ўрада, там таксама добрая чытальная зала, і туды шмат студэнтаў ходзіць. А мо ў якую іншую бібліятэку. Месца побач з ёю займаў то адзін, то другі студэнт альбо студэнтка, не магла ж яго ўвесь час трымаць вольным, ды і не было ўжо для каго трымаць.

Час, гэты вопытны, таленавіты лекар, прафесар, акадэмік, патрошку залечваў рану, дзівілася, што вось — змагла перажыць, не кінулася пад цягнік, не павесілася.

Мінуў кастрычнік з дажджамі і халодным ветрам, пачыналі нясмела церушыць сняжынкі, і хоць пакуль раставалі, не далятаючы да зямлі, паветра ад іх сцюдзянела і пахла зімою. Ніна апранула зімовае паліто, тое самае, маміна, сіняе з чорным, пад коцік, каўняром, чырвоны берэцік, які сама звязала з тоўстых шарсцяных нітак, купленых на барахолцы. Павесіла на руку сумачку, у якую паклала два тоўстыя сшыткі канспектаў. Пакіравалася ў Ленінку.

Толькі выйшла на вуліцу Карла Маркса, як пачула за сабою крокі. Не звычайныя крокі прахожых, што шоргалі, ступалі, тупалі абцасікамі, абмінаючы яе, ідучы насустрач. Гэтыя тычыліся

яе асабіста. І вось ужо чуюцца побач. І дыханне мужчынскае побач. Чужое, незнаёмае. Павярнула галаву. Ну як жа — незнаёмае… Пазнала… Той, што некалі чакаў яе з газетаю пад пахай. У тым самым даўгаполым паліто, у каракулевай шэрай шапцы з вушамі, завязанымі на макаўцы.

Адчула, як ударыла ў шчокі, у твар чырвань. Ішла не абзываючыся. Чакала яго слоў. Нездарма ж даганяў.

— Заўтра ў сем вечара на Пакгаўзным завулку…

Адкуль узялося, адкуль вырвалася, не чакала ж сама ад сябе, не настройвалася ж на такі адказ, бо нават забылася крыху пра тыя вуліцы ды завулкі, спадзявалася ўжо недзе, што адмовіліся ад яе, як ад нyздатнай, няўмелай, непатрэбнай. Сказала рэзка:

— Я не пайду…

Той, здаецца, сумеўся. Прайшоў некалькі крокаў побач з ёй нібы разгублены.

— Як гэта — не пайду?

— А вось так… Не пайду… Няма чаго мне там рабіць.

Яна паскорыла крок. Пайшла, дробненька перабіраючы нагамі, стукаючы цвёрдымі, нядаўна падбітымі, набойкамі на абцасах. Ён — шырока, размашыста ўслед. Здаецца, ён не ведаў, што ёй сказаць, не чакаў такіх яе слоў, такія словы для яго неспадзяванка, ніхто, мабыць, не адважваўся.

— Я загадваю вам спыніцца! — грозна сказаў ён.

Ніна спынілася. Ён зайшоў ёй наперад. Стаялі адно перад адным, глядзелі адно аднаму ў вочы — са злосцю, з нянавісцю. Ніна сама не чакала ад сябе такой нянавісці і злосці. Зразумела раптам — гэта ён, вось ён вінаваты ў яе пакутах, у тым, што душа яе абвалілася ў чарнату, што думала пра смерць, што хацела смерці. Ён, ён, з гэтымі халоднымі вачыма, тонкімі вуснамі, падобны да тых, што забіралі бацьку.

І той уставіўся ў яе, як тыгр, якому дарогу адважыўся заступіць заяц — і ён зараз раздзярэ гэтага зайца на шматкі.

— Я вам загадваю… Заўтра ў сем на Пакгаўзным завулку, — прасіпеў ён.

— Я вам сказала ўжо… Не пайду… І скажыце там вашым — больш хадзіць не буду!

Яна разумела, на што адважылася, у думках ужо рушыўся, абвальваўся будынак універсітэта, маячыў наперадзе камсамольскі сход — яе будуць выключаць з камсамола за тое, што не сказала праўды пра сваіх бацькоў. «Ну і няхай, няхай», — у адчаі думала яна.

— Вы ведаеце, на што вы йдзяце? — зноў прасіпеў ён.

Людзей на вуліцы было няшмат, але ўсё ж іх абміналі прахожыя, і ён стрымліваў сябе, каб не крычаць, каб не выдаць сябе — хто ён такі.

— Рабіце са мною што хочаце…

Адкуль у яго ўзяўся? Але раптам апынуўся ў руцэ свісток. Паднёс да сваіх тонкіх белых вуснаў. Свіснуў раз, другі. І зноў, як з-пад зямлі, каля іх апынуўся міліцыянер у сінім шынялі, падпяразаны шырокім рамянём з партупеяй, з пісталетам у кабуры. Казырнуў яе спадарожніку. Той нетаропка, па-дзелавому выняў з бакавой нутраной кішэні рудую кніжачку-пасведчанне, разгарнуў, паказаў міліцыянеру. Той казырнуў яшчэ раз.

— Завесці ў аддзяленне, — паказаў на Ніну. — І чакаць майго распараджэння.

Яшчэ быў час, імгненне, яшчэ магла сказаць, як тое дзіця — «я больш не буду», магла сказаць — прыйду, прыйду на той ваш Пакгаўзны завулак.

Апантанасць, злосць, нянавісць не дазволілі гэтага сказаць. Глянула толькі на даўгаполага з гідлівасцю.

Міліцыянер узяў яе за локаць, піхнуў паперадзе сябе, пагнаў перад сабою.

## 22

У аддзяленні міліцыі за сталом, адгароджаным драўляным бар'ерчыкам, сядзеў міліцыянер у сіняй міліцэйскай форме і нешта пісаў. Зазваніў тэлефон, і ён падняў трубку, сказаў казённым голасам:

— Сяржант Туміловіч слухае…

Міліцыянер, які прывёў Ніну, пачакаў, пакуль сяржант пагаворыць па тэлефоне, потым падышоў, сказаў яму нешта — Ніна не пачула што. Сяржант кінуў на Ніну позірк — агледзеў з ног да галавы. Сказаў тонам, упэўненым, што загад яго абсалютна справядлівы, што ён ведае, які аддаваць загад, ведае, як і што рабіць з чалавекам, хоць і дзяўчынаю, якая трапіла сюды:

— У прадварылаўку…

Міліцыянер павёў яе ў вузкі калідорчык, ключом, які тырчаў у шчыліне замка, адамкнуў невялічкія дзверы, рашуча піхнуў Ніну ў цёмны пакойчык, замкнуў яго з другога боку.

Насупраць дзвярэй, высока, ледзь не пад столлю, закратаванае акно. Збоку — драўляная лаўка, прыбітая да падлогі. Брудныя, з падцёкамі, з надпісамі брыдкіх слоў, сцены. На століі рудыя плямы ад вільгаці.

Ніна апусцілася на лаўку, паклала на калені сумачку, з якою ішла ў бібліятэку.

З таго часу, як узяў яе за локаць міліцыянер, як піхнуў перад сабою і павёў па вуліцы, яна знаходзілася нібы ў прастрацыі. Праўда, памятае, што страшэнна баялася, каб не сустрэць на вуліцы каго знаёмага ці, не дай Бог, Івана. Каб не бачыў хто, што яе вядзе міліцыянер, як якую зладзейку ці жанчыну лёгкіх паводзін. Па дарозе, дзякуй Богу, знаёмых не спаткала. А тут… Яна адчула, што падпарадкавана чужой волі, што з ёю могуць зрабіць, што захочуць. Яна можа біцца галавою аб сцяну, крычаць, даказваць сваё права — ніхто яе не пачуе. А ўласна, у чым яе права? Права не хадзіць на тыя вуліцы і завулкі, права не сачыць за сяброўкамі, не прыслухоўвацца да іх размоў і не даносіць? Яна хоча мець такое права, а ёй такога права не даюць. Сталін сказаў — усе мы вінцікі ў вялізнай дзяржаўнай машыне. Такімі словамі сказаў ці не, але думка такая. І яна, Ніна, вінцік і павінна сядзець там, дзе ёй належыць. Іначай машына можа сапсавацца, разваліцца. І яна не супраць таго, вось скончыла б універсітэт, яе накіравалі б на работу, яна паехала б туды, куды б яе накіравалі, няхай у самую глухую вёску. Яе паслалі б выкладаць беларускую мову і літаратуру, і яна задавала б дзецям вучыць на памяць вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа, байкі Кандрата Крапівы, расказвала б дзецям пра апавяданні і аповесці Змітрака Бядулі, Кузьмы Чорнага. Яна вучыла б дзяцей разумець хараство мастацкага слова, хараство чалавечай душы, хараство мужнага, гераічнага ўчынку. Вучыла б ненавідзець падхалімства, здраду, подласць, якія сама ненавідзіць. А як жа можна вучыць светламу, добраму, самой носячы чарнату ў душы? Не, яна правільна зрабіла, што адмовілася ад той брыдкай нагрузкі. Праўда, цяпер ёй не бачыць дыплома, не бачыць школы. І агортваў жаль, падступала крыўда, хацелася стукаць у тыя дзверы, патрабаваць, каб выпусцілі, яна нічога кепскага не зрабіла, але разумела: над ёю тут улада тых — у сініх гімнасцёрках, шынялях, яны зробяць з ёю тое, што ім загадаюць. Сказаў жа той, даўгаполы, — да майго распараджэння. Пайшоў, мусіць, пытаецца, як распарадзіцца.

Яе прывялі сюды гадзіны ў чатыры. Цяпер гадзіннік-штампоўка паказваў сем. За кратамі разлягалася ўжо цемната вечара, на іх жалезе паблісквала святло яркай электрычнай лямпачкі пад драцяным каўпаком. Падумалася, што тут і электрычнае святло нібы арыштаванае, сядзіць за кратамі.

Ніна стамілася масціцца на жорсткай драўлянай лаўцы, ды яшчэ высока прыбітай — ногі не даставалі да падлогі, мусіць,

лаўка разлічана на высокіх мужчын. Прайшлася па камеры ўзад-уперад. Недзе за сценамі, у глыбіні будынка, чуліся мужчынскія галасы, крокі, прыглушаныя тэлефонныя званкі, грукалі дзверы.

Часам крокі набліжаліся да гэтай «прадварылаўкі», і Ніна чакала — ідуць па яе, але крокі цішэлі, глухлі ў лабірынтах будынка.

Ёй спатрэбіўся туалет, але яна саромелася стукаць і прасіцца, каб ёй дазволілі пакарыстацца туалетам. Трывала. Часам галава, душа рабіліся зусім пустыя, нібы забывалася — дзе яна, што яе чакае. Падступалі ўспаміны — высокія, стромкія, асвечаныя сонцам хвоі, дол, усланы белым цветам сунічніку, буйныя спелыя ягады, Іван зрывае іх з галінкамі і падае ёй, як кветкі. Яна нюхае, сашчыпвае губамі ягады. Успамінае яго словы на развітанне: «Я прыеду па цябе… Цераз тры тыдні…»

Па камеры хадзіў вецер, цягнула з-пад дзвярэй, з закратаванага акна. Хуталася ў паліто, настаўляла каўнер, заціскала пад пахаю сумачку, быццам баялася, што яе адбяруць.

Прыйшла ў галаву прымаўка: «Ад сумы ды ад турмы не заракайся». Вось і яна, можна сказаць, у турме. І бацька некалі так сядзеў… Што яны з ім зрабілі? А мама? Мамачка!..

Гадзіннік паказваў дванаццаць. Што ж, ёй і начаваць тут давядзецца?

Каля гадзіны ночы заляскаў ключ у дзвярах. У камеру ўвайшоў высокі міліцыянер з шырокім тварам, маленькімі бязбровымі вочкамі, лысаваты. У вялікіх дужых руках ён трымаў, здаецца, кавалак гумовага шланга. Глянуў на Ніну, нібы на тавар, да якога трэба прыцаніцца. Жэстам рукі з тою гумаю загадаў ісці за сабою. І Ніна пайшла, радая пакінуць абрыдлую «прадварылаўку», радая ісці — хоць куды, абы далей ад гэтых кратаў, ад жорсткай драўлянай лаўкі, спадзеючыся, што яе нарэшце выпусцяць.

Міліцыянер павёў яе па калідоры, ярка асветленым электрычнымі лямпачкамі, таксама забранымі ў драцяныя сеткі. У канцы калідора па каменнай шчарбатай лесвіцы загадаў спусціцца ўніз. Сам ішоў за ёю, дыхаючы ў патыліцу моцным пахам табакі і, як здалося Ніне, гарэлкі.

Лесвіца прывяла ў падвал. І тут гарэлі яркія электрычныя лямпачкі, высвечваючы гліняную падлогу, тоўстыя трубы з вентылямі, мусіць, ад водаправода і каналізацыі.

«Куды мяне вядуць? — думала Ніна. — Не падобна, каб на волю, каб выпусціць…»

Як па добра знаёмай мясціне, міліцыянер павёў яе па тым падвале да цемнаватага далёкага закутка, дзе зноў аказаліся дзверы. Выняў з кішэні доўгі жалезны ключ. Дзверы таксама аказаліся жалезныя, ключ забразгаў у іх, рэха аддалося па ўсім падвале. Пхнуў Ніну ў цемнату халоднага закутка, уключыў святло. Кінуліся ў вочы цагляныя сцены без адзінага акна. І не паспела апамятацца, не паспела разабрацца, спужацца — куды прывялі, як моцны ўдар апёк спіну. Яна рэзка павярнулася — убачыла руку з тым кавалкам шланга, занесеную над сабою, і шырокі твар, скрыўлены не то злосцю, не то ўсмешкаю. Яшчэ адзін удар апёк плечы. Дужая рука садрала з яе паліто, кінула ўбок, упала на падлогу сумачка, і з яе вываліліся два тоўстыя агульныя сшыткі, расхінуліся на спісаных старонках, раскідаліся па падлозе — круглае люстэрка, губная памада, маленькі кашалёк, замкнуты на кнопку.

Адзін за другім пасыпаліся ўдары — па плячах, па спіне, зноў па плячах. Ніна захіналася рукамі, абаранялася, затуляла твар, галаву, але ўдары траплялі і па галаве, і па руках.

— За што?.. За што?.. — задыхалася Ніна.

Ён нічога не адказваў, толькі біў, біў, быццам з асалодаю, з задавальненнем. Шапачка-берэцік спачатку спаўзла на вочы, потым зусім упала з галавы, ляжала на падлозе, як буйная крывавая кропля.

Удары апякалі з моцнаю сілаю, але Ніна старалася не крычаць, трываць. Яна адчула, што абмачылася, хацела стрымацца, але не змагла, з яе цякло бясконца доўга і прыводзіла ў адчай ад абразы, ад прыніжэння.

— Фашыст! — прахрыпела ў твар міліцыянеру.

— Што-о? — зароў той і з яшчэ большаю сілаю замахнуўся, яшчэ мацней апусціў на яе спіну кавалак шланга.

Яна павалілася, прыціснулася да сцяны, зноў засланялася рукамі. Душылі гнеў, адчай, не баялася ўжо ні болю, ні смерці.

Ён біў яе, пакуль не змогся. Потым аддыхаўся, падняў за шкірку, як кацяня, прыхінуў да сцяны. Памахаў перад носам тою гумаю.

— Я т-табе пакажу — фашыст! Я камуніст, я на фронце быў, а ты — падсцілка нямецкая!

Не мела болей сілы хоць што-небудзь адказаць. Ён патрымаў яе так, прыціснутую да сцяны, быццам даючы адпачыць і ёй і сабе. Потым адпусціў.

— Забірай свае бэбахі!

Апусцілася на калені, падпаўзла да сумачкі, запхнула ў яе сшыткі, люстэрка, кашалёк, губную памаду не заўважыла, пакінула на каменнай падлозе. Падняла паліто, шапачку.

— В-о-он вымятайся!

З цяжкасцю паднялася, прыціскаючы да грудзей паліто з шапачкай і сумку, пайшла да выхаду.

Той па-гаспадарску патушыў за сабою святло, замкнуў дзверы. Піхнуў Ніну да выхаду з падвала, match вывеў на тую шчарбатую лесвіцу. Пагнаў па калідоры і нейкім чорным ходам, не выводзячы да дзяжурнага міліцыянера, выпхнуў на вуліцу.

Трымаючы перад сабою ў бярэмі паліто, шапку, сумку, прытулілася спінаю да настылай каменнай сцяны будынка, чакаючы, што будзе далей, хто тут яе схопіць, пацягне, што будуць з ёю рабіць. Але сюды больш ніхто не выходзіў, і навакол не відаць, не чуваць было ні душы. З чорнай цемнаты двара, у якую трапіла з ярка асветленага калідора, пачалі выплываць абрысы будынкаў, што стаялі побач, а бліжэй — скрынка для смецця. Яе выкінулі — як на сметнік.

Дрыготкімі рукамі пачала апранаць паліто, нацягнула на галаву шапачку. І толькі тут, цяпер з яе вачэй паплылі слёзы, грудзі пачалі душыць адчайныя рыданні. Ад крыўды, ад абразы, ад несправядлівасці, якую з ёй учынілі. Адляпілася ад сцяны, пайшла ў адзін бок, потым вярнулася, пакіравалася ў другі, не ведала, як выйсці з гэтага двара. Апынулася ў завулку, у незнаёмым завулку. Сюды вёў міліцыянер, і яна, аглушаная тым, што яе вядуць, нібы зладзейку, не прыглядалася да дарогі. Цяпер нібы трапіла ў чужы, незнаёмы горад, нібы трапіла на іншую планету, цёмную, варожую, дзе за кожнаю паваротkaю можа чакаць бяда.

Яна ішла і плакала, адчайна, гаротна, стрымліваючы плач і не могучы яго стрымаць, сунулася ў адзін канец завулка, у другі, выйшла зноў на чужую, цёмную, незнаёмую вуліцу з чорнымі зданямі будынкаў, у якіх дзе-нідзе, як драконавае вока, свяцілася акно.

Стаяла глыбокая ноч. Горад спаў, толькі яна валаклася па вуліцы — збітая, прыніжаная, апляваная, знішчаная, нікому не патрэбная. Нарэшце выбралася на праспект.

Ёй не было куды ісці, акрамя як у інтэрнат, дзе стаяў яе ложак з казённымі коўдраю і падушкаю, дзе ў канверце, пад матрацам, ляжалі зробленыя за лета грошы — пакуль не патраціла іх, не мела настрою купляць абновы. І яна валаклася ў інтэрнат, а слёзы ліліся, адкуль іх так многа ў чалавечых вачах, але ніхто

іх не бачыў, ноч затуляла сплаканы твар, увесь яе выгляд, не падобны на ўчарашні, пазаўчарашні.

У пакоі ўсе спалі. Дабралася ўпоцемку да свайго ложка, распранулася, кінула адзежу на табурэт, забралася пад коўдру. Яе калаціла — унутры, у грудзях трымцела, як ад холаду, ніяк не магла сагрэцца, спыніць слёзы, ды плакаць так, каб ніхто не пачуў, каб нікога не разбудзіць. Усё цела было як апечанае, моцна балела, але плакала не ад болю, а ад крыўды, ад прыніжэння, якое перажыла, ад несправядлівасці. Хіба так можна? У Савецкім Саюзе, самай лепшай, самай светлай краіне ў свеце, дзе столькі пішацца і гаворыцца аб высокіх прынцыпах? У каго шукаць абароны?

І Ніна думала. Пайсці ў райком камсамола? Але там спытаюць — а чаму цябе прывялі ў міліцыю? І трэба будзе растлумачыць — чаму. Пацягнуць клубочак за нітачку, дакруціцца да бацькі, то і ад камсамола літасці не чакай. Пажаліцца рэктару? Тое самае… Падаць на міліцыю ў суд? Зусім вар'яцтва… Хто ёй паверыць? Ды пасля гэтага калі ўжо і выкінуць з той міліцыі на сметнік, то нежывую.

Не магла прыдумаць Ніна, дзе шукаць абароны, справядлівасці. Як страшная здань, усю ноч уставаў перад вачыма міліцыянер з кавалкам гумавага шланга, крычаў на яе: «Падсцілка нямецкая!» За што такая абраза, якая ж яна падсцілка нямецкая? 1 зноў плылі слёзы. У слязах, без сну праляжала да раніцы. Чула, як пачалі ўставаць дзяўчаты, збірацца на заняткі. Апраналіся, стукалі чайнікам, шклянкамі, пілі чай. Чула, як сказала Окця:

— Нешта Ніна не ўстае, на лекцыі не збіраецца, ці што?

— Усю ноч гуляла, прыйшла ледзь не пад раніцу, якія ёй лекцыі, — бесклапотна азвалася Лена.

Дзяўчаты пайшлі на заняткі, пратупалі, прабеглі па калідоры студэнты з іншых пакояў. Вакол зрабілася ціха, толькі недзе далёка іграла радыё.

Ніна адкінула коўдру. Агледзела рукі, плечы. Моцных знакаў пабою не відаць было, але, калі прыгледзецца, з-пад скуры выплывалі сіняватыя палосы, плямы. І нельга было варухнуцца, павярнуць галаву, цела адзывалася вострым болем. Ляжала, пазіраючы ў вялікае акно, у якім відаць быў рог галоўнага корпуса ўніверсітэта і кавалак хмурнага неба. Пераводзіла позірк на сцяну над ложкам: можа, гэтым і абыдзецца? Адлупілі наравістую, і ўсё, жыві сабе далей, абсіканая…

Каб жа тым абышлося, то, можа, і перажыла б, праглынула б абразу. Але ў ёй пасяліўся ўжо страх. Куды большы за той,

падсвядомы, што падступаў пасля арышту бацькі. Страх жывы, балючы. Баялася пісьма з таго будынка ў рэктарат, баялася камсамольскага сходу, паднятых угору рук — аднагалоснага рашэння выключыць з камсамола дачку ворага народа, баялася міліцыі, гумовай дубінкі, адчувала сябе нікчэмнаю, не вартаю вучыцца, вучыць дзяцей. Вось сёння — не паднялася, не села разам з іншымі піць чай, не пайшла на лекцыі, не магла глядзець нікому ў вочы, быдта яна і праўда ў нечым моцна вінаватая перад людзьмі.

І прыходзіла рашэнне: з’ехаць… Але куды? Не да цёткі ж, у яе галодную сям’ю, у калгас, дзе плоцяць палачкамі за працадні і адкуль і так усе ўцякаюць у горад. Ды там і знайсці лёгка могуць, у рэктарацe запісаны цётчын адрас, яе асноўнае месца жыхарства. Мамачка! Дзе ты?

І выплывала слова — Томск… З-пад Томска атрымала мама вестку ад бацькі і сама паехала ў Томск. І не вярнулася. А можа, яна там? Хворая, скалечаная? Разумела, што выдумляе: хворая, скалечаная, каб была жывая — вярнулася б ці хоць бы пісьмо прыслала б. Праўду яна напісала пра сваіх бацькоў… Загінулі… Памерлі… І якая розніца — дзе? Але Томск, Томск… Можа, таму, што не існавала на зямлі раднейшага за гэты горад, звязаны з бацькам, з маці… Яна паедзе ў Томск. Хоць і не знойдзе там бацькоў, але паходзіць па іх слядах… Яе там ніхто не ведае, ніхто там не знойдзе, яна ўладкуецца на работу. А вучоба, розныя ўніверсітэты — не для яе… Не для яе Ленінка, Іван… Тая, намазаная, лепшая за яе. Тую не білі ў міліцыі, тая не абсікалася ад болю, ад жаху, ад крыўды.

Томск… Томск… Раптам зноў заплакала. Ляжала дагары, а слёзы цяклі — да вушэй, у вушы, на падушку. Шкода раптам зрабілася гэтага акна, гэтай сцяны, шкода Ленінага ложка, што стаяў побач, засцелены зялёнаю ў клетачкі казённаю коўдраю. Шкода сябе, што выкінулі яе, як на сметнік, і цяпер яна не такая, як усе. А якое гэта шчасце — быць такою, як усе…

Паднялася, пастаяла, як п’яная, трымаючыся за спінку ложка. Узяла ручнік, падышла да пліты, вадою з чайніка, яшчэ крыху цеплаватаю, намачыла беражок ручніка, выцерла ім, умыла твар. Не хацела карыстацца агульным умывальнікам, баялася сустрэць там каго-небудзь. Павольна апранулася, выцягнула з-пад ложка свой чамадан. Зняла са сцяны, з вешалкі, сваю адзежу. Прасціна, што яе захінала, не казённая, яе ўласная, яшчэ маміна. Склала, апусціла на дно чамадана. На прасціну — дзве сукенкі, спадніцу, блузку, плашчык. У газету загарнула басаножкі. З тумбачкі да-

стала бялізну — кашулькі, штонікі. Мела некалькі ўласных кніг. Некаторыя сама купляла, на апошнія грошы — вельмі харошыя выданні. Некаторыя падарылі дзяўчаты на дні нараджэння, з цёплымі аўтографамі. І іх упакавала ў чамадан. Выняла канверт з-пад матраца, пералічыла грошы, паклала ў сумачку. Вось на што спатрэбіліся, не на падарункі Іванавай маці, сёстрам, не на абновы сабе, а на білет… Божа мой, каб мы ведалі, што нас чакае за наступнаю павароткаю…

Ці не паснедаць на дарогу? Але думка пра яду выклікала нудоту. Кавалак хлеба, што ляжаў у тумбачцы, і паўколца кілбасы загарнула ў газету, паклала ў чамадан. Можа, потым з'есць.

Зачыніла чамадан, падняла за ручку. Вось і ўся яе маёмасць… Омніа мэа мэкум порта… Усё маё нашу з сабою…

Апранула паліто, шапачку. Прыпынілася з чамаданам у дзвярах, азірнулася. Стаялі ўздоўж сцен, галовамі да сцен засцеленыя аднолькавымі коўдрамі ложкі, на іх — невялікія, узбітыя ражкамі ўгору падушачкі. І яе ложак такі самы, толькі сёння вечарам на кожную пасцель ляжа яе гаспадыня, а яе ложак застанецца пусты. Дзяўчаты будуць думаць — дзе дзелася? Ні з кім не развіталася. Можа, запіску пакінуць? Не захацелася пісаць запіскі. Ні з кім тут вельмі не здружылася, хіба што з Ленаю… Але і з Ленаю яны хутчэй за ўсё чужыя. Так, ложкі стаялі побач… Сірочая доля падобная. Але характарам зусім розныя. І потым — у Лены і без яе сяброўак хапае.

Не пакінула запіскі.

Вакзал сустрэў чалавечым тлумам, мітуснёю. Паглядзела расклад цягнікоў. Прамога да Томска не аказалася, прыходзілася ехаць цераз Маскву. Што ж, цераз Маскву, дык цераз Маскву… Запраграмавала сабе ў галаве — Томск, і цяпер толькі на яго кіравалася, хоць бы прыйшлося аб'ехаць усю зямную кулю.

Пры касах стаялі доўгія чорныя чэргі, парадку ў іх не трымаліся, адны цярпліва стаялі ў хвасце, другія, у пачатку, пнуліся адзін аднаму на плечы, на галовы, крычалі.

Выстаяўшы гадзіны дзве, Ніна купіла білет на Маскву. Дасюль не бачыла Масквы, колькі марыла пабываць у ёй, паглядзець на Крэмль, на Красную плошчу, зайсці ў Маўзалей, пахадзіць па маскоўскіх вуліцах, марыла пра паездку ў Маскву як пра свята душы. Цяпер не хацелася любавацца ніякім яе хараством, Масква значылася на яе шляху як перавалачная база, як станцыя перасадкі.

Знайшла вольнае месца на лаўцы ў пачакальнай зале, паставіла каля ног чамадан. Побач з ёю сядзела цётка ў ватніку,

у хустках, завязаных адна па адной. Каля яе на падлозе ляжала шмат вандзэлкаў, і ўся падлога ўсцяж лавак была ўстаўлена багажом. З другога боку, закінуўшы галаву на спінку лаўкі, спаў няголены мужчына невядома якіх гадоў. Яго шыя, сіняватая, у пупырышках, была падобная на гусіную, абшчыпаную, мужчына часам пахропваў, скрыгатаў зубамі.

Па зале ўзад і ўперад снавалі ўзбуджаныя пасажыры, стаяў бясконцы манатонны гул, як у лазні, і пахла потам, брудным адзеннем, табакаю і гарэлкаю.

Ніна сядзела, шчыльна прыхінуўшыся да спінкі лаўкі, пагружаная ў сябе, у свае думкі, адчуванні. Часам ёй здавалася — усе людзі, што тут, на вакзале, ведаюць, куды едуць, кожнага з іх нехта недзе чакае, а куды, да каго сабралася яна? Едзе ў свет як у капейку, у тым жа Томску ніводнай знаёмай душы, дзе спыніцца, дзе на першым часе галаву прыкласці?

Але «запраграмаваны» Томск моцна сядзеў у мазгах, ужо нельга было яго адтуль выкалупаць. Нічога… Уладзіцца на завод, дадуць месца ў інтэрнаце, а першыя дні можна і на вакзале перабіцца, а мо куток які нойме… На першым часе…

Зноў накаціўся жаль, паплылі слёзы, яна затуліла твар рукою, каб людзі не бачылі, што яна плача. Зноў сілілася стрымацца і не магла. Выняла з сумачкі хусцінку, прамакала і прамакала вочы. Хутка ўся хусцінка зрабілася мокрая.

Нібыта з небыцця выплыў пакрыты сунічнікам дол, ягадысуніцы на галінках, іх духмяны і салодкі смак. А потым на сунічнік наступіў сухі, калючы, пакрыты мохам густы ельнік, праз які нельга працерабіцца. Пачула Іванавы словы: «Мы заблудзіліся…» І здалося Ніне, што заблудзіліся не толькі яны з Іванам, заблудзіліся ўсе людзі, цэлы свет і цяпер бегаюць, ездзяць, шукаюць дарогу з таго сухога, пакрытага мохам ельніку, як з тупіка. І яна вось едзе ў нейкі Томск, каб знайсці дарогу, выйсце невядома з чаго. Толькі ці знойдзе? Яна ж пакідае радзіму, пакідае Беларусь, едзе ў далёкую Сібір, за раку Об. Хіба зможа знайсці яна шчасце без радзімы? Яшчэ не позна, апамятайся!

Але няма назад дарогі, у добрую ці ў ліхую хвіліну сказана было сабе самой слова — Томск, і цяпер яно зрабілася яе лёсам, як лёсам яе бацькі, маці.

У праходзе, што падзяляў пачакальную залу на дзве палавіны, раптам з'явіўся міліцыянер. Ён павольна ішоў, пазіраючы на бакі, быццам некага выглядаючы, і Ніна ўціснулася ў лаўку. Спужалася — яе шукае… Апамяталіся там — навошта выпусцілі, і вось цяпер шукаюць. Адводзіла дрыгатлівы позірк ад

міліцыянера, каб не заўважыў спалоханых яе вачэй, але з-пад веек і сачыла. Божа мой… Няўжо яе шукае?.. Але міліцыянер прамінуў лаўку, дзе яна сядзела, здаецца, глянуў абыякава і на яе, пакрочыў далей, пакінуў залу. Доўга не магла суняць сэрца, і ўжо хацелася — хутчэй, хутчэй адсюль, ад міліцыі, ад даўгаполага.

Па радыё аб'яўлялі пасадкі на цягнікі, і тады некаторыя пасажыры падхопліваліся з лавак, хапалі свае вандзэлкі, беглі, баючыся спазніцца, на перон. Аб'явы чуліся кепска, радыё гундосіла, хрыпела, і Ніна напружвалася, прыслухоўвалася. Па часе блізілася і яе пасадка.

І вось сярод неразборлівых слоў пачулася: «Масква». Заварушыліся, забегалі, заспяшаліся пасажыры. І Ніна падхапілася, узяла свой чамаданчык. Праз шкляныя вакзальныя дзверы ўбачыла зялёны састаў, што стаяў на першым пуці, на блішчастых белых шыльдачках напісана: «Калінінград — Масква». У тлуме, таўкатні пасажыраў, што збіліся каля дзвярэй, выйшла на перон, дзе пасля душнай пачакальні здалося вельмі холадна і чадна пахла перагарэлым вугалем, мазутам.

Шпарка пайшла ўздоўж саставу — шукаць свой вагон.

# ГОРКІЯ ЯГАДЫ

## 1

Яна нікому не сказала, ад каго нарадзіла свайго хлопчыка, нават мацеры. Было і было, не яна першая, не яна апошняя. Калі атрымала дэкрэтны адпачынак, паехала ў вёску, да бацькоў. Маці адразу ўбачыла, што з дачкою, а бацька доўга не здагадваўся, ледзь не да таго часу, пакуль прыйшла пара радзіць.

— Ты што, асляпеў! — узняла голас маці, калі ўбачыла, што бацька нічога не разумее. — Дзедам скора будзеш!

Бацька анямеў, уставіўся на дачку.

— Я думаў, яна проста папаўнела…

— Папаўнела, — перакрывіла яго маці. — Скора пахудзее…

Для бацькоў гэта было вялікае гора, сорам. Маці нават аднойчы спыталася:

— А чаго ж ты, дачушка… Магла б, ну гэта… Аслабаніцца…

Дачка ўскінула спалоханыя вочы. Толькі і сказала:

— Ай, мама…

Але ці мала гора перажылі за свой век маці з бацькам. Сын Коля ўтапіўся ў рэчцы, адзінаццаць гадоў было хлопчыку. Бацьку агаварылі нягоднікі — самі кралі ў калгасе, выпівалі, выпісвалі фальшывыя квіткі, а звалілі на невінаватага. Дзесяць гадоў адбухаў нізавошта, вярнуўся пастарэлы, ссівелы, з вялікаю крыўдаю на ўсіх людзей. Маці тыя гады адна гадавала трох дачок. Дзве, Вера і Валя, дзякуй Богу, вывучыліся, павыходзілі замуж, жывуць у вялікіх гарадах, у іх усё як у людзей. А малодшай, Люсі, вось не пашанцавала. І не сказаць, каб дзеўка была якая няўдалая — і з твару прыгожая, і рослая, статная, — пацешыўся нейкі нягоднік і кінуў.

Калі бацька зразумеў, што адбылося з дачкою, кінуўся дапытвацца:

— Хто?! Пайду заб'ю! Дзесяць гадоў адседзеў нізавошта, цяпер за дзела пасяджу!

Калі не прызналася, хто, бацька паехаў да яе гаспадыні, хацеў ад той дабіцца, што за паганец так абняславіў яго дачку, але гаспадыня не магла сказаць нічога пэўнага.

— Хадзіў нейкі вайсковец, а хто ён, я ж не ведаю, хадзіўхадзіў, а потым знік.

— Каб ён з зямлі гэтай знік, — з горыччу сказаў бацька.

Нарадзіўся хлопчык, назвалі Коля, у памяць роднага сына. І хутка гора і сорам абярнуліся для бацькоў вялікай радасцю. Старэйшыя дочкі наязджалі часам улетку сырадою папіць, у

ягады схадзіць, у грыбы, але ад бацькоў усё больш аддаляліся. А гэты, Коля, гадаваўся пры бабцы з дзедам. Карміла грудзьмі яго Люся толькі падчас дэкрэтнага адпачынку, а потым ёй трэба было ехаць на сваю работу. Хлопчык перайшоў на каровіна малачко, кармілі з бутэлечкі. Ён рос — моцны, здаровенькі, і для бабкі з дзедам рабіўся ўцехаю, радасцю, скрашваў іх адзінокую старасць.

Люся жыла ў раённым гарадку, недалёка ад роднай вёскі, дзе працавала бібліятэкаркаю. Кожную нядзелю ездзіла да бацькоў — адведаць сына. Першы час, сказаць па праўдзе, не было ў яе вялікай любові да хлопчыка, адчувала свой сорам — перад людзьмі, перад бацькамі, а віной таму сораму быў сын. Ды, магчыма, не саспела яна яшчэ душою да мацярынства, мінула ўсяго дзевятнаццаць. Але з часам шчырая, даверлівая ўсмешка сына, першы зубік, вясёлае тупанне ножкамі ўсё больш кранали яе сэрца. Яна з нецярпеннем пачала ўжо чакаць таго выхаднога, каб вырвацца ў вёску, узяць на рукі Колю, пагушкаць, пагукаць з ім. Бачыла, што хлопчыку ў бацькоў добра, яны аберагаюць яго, нават ёй, мацеры, не вельмі давяраюць, глядзяць, каб яна яго не ўпусціла, каб добра пакарміла.

Вечарамі ў нядзелю яна садзілася ў перапоўнены аўтобус — былыя вяскоўцы, цяперашнія гараджане, вярталіся ў горад, на работу, валочачы з сабою паўнюткія сумкі вясковага харчу, якія напакавалі ім бацькі, што не адмовіліся ад сваёй векавечнай працы — даіць кароў, гадаваць парсючкоў і падкормліваць сваіх гарадскіх дзяцей, што мусяць там жыць толькі з магазінаў.

І Люся везла з сабою слоічак масла, кавалачак сала, дзясятак яек, што паклала ёй у цэлафанавую торбачку маці.

У панядзелак раніцою яна прыходзіла ў бібліятэку, якая месцілася ў старым цагляным доме, збудаваным недзе ў мінулым стагоддзі, што належаў, няйначай, мясцоваму багацею, але цяпер абсталяваным пад культурную ўстанову раённага гарадка. Бібліятэка ў асноўным выдавала кнігі на дом, але тут жа на сталах ляжалі падшыўкі газет, і часам некаторыя чытачы прысаджваліся, каб пагартаць іх, пачытаць свежыя. Работа Люсю не вельмі стамляла, не надта шмат чытачоў наведвала бібліятэку, заставалася шмат вольнага часу, і яна, прысеўшы каля століка за бар’ерам, што аддзяляў яе ад чытачоў, шмат чытала. Асабліва любіла раманы пра каханне і марыла, вядома, пра свайго прынца, але прынц, які напаткаў яе ў жыцці, аказаўся жанаты з іншаю прынцэсаю, яна цяпер не хацела яго ўспамінаць, выкінула са свайго жыцця, нікому пра яго не сказала і сабе загадала

знішчыць яго вобраз з памяці. Ды, калі праўду сказаць, сэрца яе цяпер па ім і не балела, можа, тое ў іх і не было каханнем, а так… Нешта звяло… Можа, усё адбылося ад суму, што апаноўваў яе вечарамі ў пакойчыку, які здымала ў адзінокай кабеты, удавы, у драўляным дамку з размаляванымі аканіцамі на ціхай вуліцы.

І пакаціліся гады, як мячыкі, размаляваныя ў чырвоны і сіні колеры: зіма — лета, зіма — лета. Яе хлопчыку набегла ўжо тры гады. Люся па-ранейшаму прыязджала да бацькоў кожны выхадны і адпачынак праводзіла ў вёсцы. Яна ўсё больш прывязвалася да сына. Звычайна ён спаў з бабкаю, а калі прыязджала яна, то клала сына спаць з сабою, і ён абдымаў яе ручкамі, не даваў ёй адвярнуцца да яго спінаю, быдта і ноччу, праз сон, баяўся, каб яна не з’ехала. А калі яна збіралася ад’язджаць, ён плакаў, не пускаў яе, і яна плакала, але мусіла ісці да аўтобуса, і па дарозе яшчэ доўга шчымела яе сэрца — шкадавала сына. Яна з зайздрасцю глядзела на дружныя сем’і, як гулялі маці з бацькам са сваімі дзеткамі, і пачынала разумець, што яе бяздумная маладосць скалечыла не толькі яе жыццё, але і жыццё дзіцяці, якое ніколі не зведае, што такое бацька.

У маленькім гарадку жыцця свайго не схаваеш, усе, хто ведаў Люсю, ведалі і пра яе незаконнага сына. Нельга сказаць, каб яе папракалі, каб з яе смяяліся, у вочы ніхто не кпіў, але за спінаю, напэўна, шапталіся, і гэта зрабіла яе недаверліваю да людзей, падазронаю. Яна яшчэ не траціла надзеі спаткаць чалавека, за якога выйшла б замуж, але марыла ўжо не пра нейкага прынца, а пра звычайнага хлопца — добрага, рабацяшчага, цвярозага. Але ёй такія не трапляліся, у гарадку амаль усе нежанатыя мужчыны былі пітушчыя, нейкія бесталковыя.

А сама яна пасля родаў быдта налілася маладым сокам, сама адчувала, што папрыгажэла, пазграбнела, з’явілася нейкая маладая, удумлівая сталасць на твары, наперакор злосным языкам, якія быдта чула за спінаю, старалася трымацца з гонарам, незалежна.

У яе свядомасці, і праўда, шмат што перамянілася. Замест маладой бяздумнасці з’явілася абачлівасць, пачала думаць пра жыццё і пра сябе ў ім. Калі раней усё ішло нібыта самацёкам, то цяпер пачынала разумець, што той самацёк трэба браць у рукі, самой кіраваць сваім лёсам.

Працаваць бібліятэкаркаю яна пайшла пасля дзесяцігодкі. Цяпер вырашыла завочна паступіць у педінстытут, на бібліятэчны факультэт. І здала ўжо экзамены за першы курс, перайшла на другі.

Сярод яе чытачоў найболей было школьнікаў і людзей сталага веку — пенсіянераў. Пайшоўшы на заслужаны адпачынак, некаторыя з іх бавілі свой вольны час за газетамі, кнігамі. Яна ведала сваіх мясцовых чытачоў і таму звярнула ўвагу на новага, незнаёмага мужчыну, што завітаў вечарам. І па адзежы, і па твары відаць было — чалавек не тутэйшы, Люся ўсюды пазнавала сваіх — нешта ў іх тварах было падобнае, і апраналіся неяк падобна. На гэтым была куртка не такога пакрою, як насілі тутэйшыя, — няйначай, імпартная, — і чыста паголены твар, удумлівыя вочы паказвалі, што ён гарадскі, не такі гарадскі, як мясцовыя, а з іншага, большага горада. Мужчына падышоў да яе, павітаўся, папрасіў запісаць у бібліятэку. І Люся дастала чысценькі фармуляр.

— Красоўскі… Васіль Сцяпанавіч, — дыктаваў ён сваё прозвішча, імя і імя па бацьку.

У фармуляры былі яшчэ пытанні, і неўзабаве Люся даведалася пра свайго новага чытача — колькі яму гадоў і дзе працуе. Ён быў на сем гадоў старэйшы за яе і рабіў на будаўніцтве, якое ў іхнім гарадку распачалося зусім нядаўна — узводзілі новы будынак аўтавакзала. Васіль Сцяпанавіч спытаў, ці ёсць у іх кнігі па будаўніцтву. Паліца з такімі кнігамі мелася ў бібліятэцы, і Люся дазволіла яму падысці, пашукаць што трэба. Ён даволі доўга выбіраў, гартаў старонкі, потым узяў адну, Люся запісала яе ў фармуляр.

Паклаўшы кнігу ў шырокую кішэню курткі, новы чытач азірнуўся, убачыў сталы, на якіх ляжалі падшыўкі, і спытаў, ці можна яму пачытаць газеты. Люся, вядома, дазволіла, і ён падышоў да стала, падсунуў да сябе падшыўку. Больш у бібліятэку людзей не заходзіла, і Люся прысела за сваім столікам, узяла свежы нумар часопіса «Маладосць», пачала гартаць яго. Стаяла поўная цішыня, толькі часам шамацела старонка падшыўкі, часопіс Люся гартала асцярожна, прывыкла да свайго царства цішыні і спакою. Часопіс зацікавіў Люсю, яна спынілася на адным апавяданні, зачыталася і забылася пра свайго новага чытача. Ён сам напомніў пра сябе — падышоў да бар’ерчыка, што аддзяляў яе ад залы.

— А ў вас тут утульна, — сказаў ён. — Ціха і цёпла.

Люся падняла на яго вочы. Чалавек прыветна ўсміхаўся ёй, і ўвогуле, як здалося Люсі, яго вочы, твар, усмешка вылучалі дабрыню. У яго быў высокі лоб, на які спадала хвалька светлых валасоў, хударлявыя шчокі, выглядаў ён маладзей за свае гады. І Люся міжвольна яму ўсміхнулася.

— Ага, цёпла, — адказала яна. — Раней было холадна, але летась рабілі рамонт і дабавілі батарэяў, то цяпер цёпла.

— Дзякуй вам за прытулак, — сказаў ён, зашморгваючы маланку на сваёй куртцы. — Бывайце здаровы.

— Бывайце здаровы, — адказала яму Люся.

І ён пайшоў, а яна села дачытваць апавяданне.

За вокнамі даўно сцямнела, пара было зачыняць бібліятэку, дзень сёння выдаўся аж занадта спакойны, усяго некалькі чалавек прыходзіла па кнігі ды двое пенсіянераў чыталі газеты. Ну, і яшчэ гэты, прыезджы. Мусіць, на будаўніцтва аўтавакзала запрасілі якую брыгаду з Мінска і гэты пасля работы сумуе ў інтэрнаце. Так падумала пра яго Люся і тут жа забылася.

Яна апранулася, патушыла святло, замкнула бібліятэку, пайшла дахаты.

Стаяў канец лютага, але сёлета ён выдаўся без маразоў і амаль без снегу. Ён ляжаў светлымі плямкамі толькі з паўночнага боку пад яблынямі ў садах, у барознах на агародах. З раніцы імжыў нават дожджык, але цяпер аціх, і неба пачало праясняцца, між цёмных аблокаў, што некуды беглі, спяшаліся, выбліскваў поўны месяц, на міг асвятляючы наваколле. Здаецца, нават крышку пачало падмарожваць, раз і другі пад нагою хруснуў лядок, зазвінеўшы, як тонкае шкло. Але паветра і ад таго марозцу не рабілася зімовым, яно пахла ўжо вясновай свежасцю, здавалася, вясна зусім блізка, недзе за недалёкаю павароткаю, ужо чуваць яе дыханне.

Люся ішла па ціхай пустой вуліцы, падобнай на вясковую. У іхнім гарадку толькі ў цэнтры стаялі цагляныя дамы, шмат якія яшчэ дарэвалюцыйныя, былыя крамы местачкоўцаў — на высокіх каменных падмурках, з дзвярыма на жалезных завалах. Некалькі новых дамоў пабудавалі пасля вайны — кінатэатр, універмаг. Новы гарадок вырастаў крыху ўбаку ад цэнтра, там стаялі ўжо чатырохпавярховыя жылыя дамы, рэстаран, гасцініца. Будавалася і новая аўтастанцыя замест маленькай, драўлянай, што месцілася недалёка ад цэнтральнай плошчы.

Люся ішла і лічыла дні — колькі засталося да выхаднога, каб хутчэй паехаць у вёску, пабачыць сына. Заўтра павінна быць зарплата, і яна думала, якія гасцінцы купіць Колю, як будзе ён радавацца тым гасцінцам і як будзе радавацца яна яго радасці. Яна будзе радавацца яшчэ раней, выбіраючы цацкі ці кашулькі, купляючы цукеркі. Яна раней і не ведала, што на свеце існуюць такія радасці, і як добра, што яна не адважылася на тое — каб не было яе хлопчыка.

Дарога кароткая, вось і дамок, дзе яна здымае пакойчык. У гаспадыні свеціцца акно, да жоўтага святла электрычнай лямпы дамешваецца блакітны колер — глядзіць недзе тэлевізар. Можа, і Люся паспее яшчэ на які фільм, яны часта ўдзвюх з гаспадыняю глядзяць вечарамі тэлевізар.

У яе пакойчыку стаяць ложак, столік, засцелены абрусам, звязаным з белых шпульковых нітак; у кутку — этажэрка з кнігамі. У пакой уваходзіць тыльны бок грубкі, абкладзенай белай кафляй. Грубка яшчэ цёплая, і Люся прыкладае да яе рукі. Хоць і не холадна на вуліцы, але рукі чамусьці змерзлі.

Усё было як звычайна. Яна папіла на вячэру чаю з хлебам і кавалачкам сала, паглядзела з гаспадыняю фільм, што паказвалі па тэлевізары, памылася і легла спаць. Ужо амаль засынаючы, успомніла раптам свайго новага чытача — Васіля Сцяпанавіча. Як жывое, устала перад вачамі яго аблічча.

«Недзе жанаты, дзяцей мае, — падумала пра яго. — Недзе шчаслівая жонка».

І заснула.

## 2

Яе новы чытач, Васіль Сцяпанавіч Красоўскі, праз некалькі дзён вечарам зноў завітаў у бібліятэку, зноў папрасіў дазволу пачытаць газеты.

— Бібліятэка на тое і ёсць, каб людзі тут чыталі, так што калі ласка, — ветліва адказала яму Люся.

Ён зноў пайшоў за стол, узяў сённяшнюю газету, якую Люся яшчэ не паспела падвязаць у падшыўку. А яна занялася сваёй работаю. Сёння чамусьці адзін за адным ішлі чытачы — то школьнікі, то пенсіянеры, яна прымала, выдавала кнігі. Пазней візіты прыпыніліся, і яна памаленьку пачала расстаўляць прынесеныя кнігі на свае месцы на паліцах. Ставіла кнігі, вярталася і паглядала на схіленага над газетаю свайго новага чытача, які, здаецца, моцна зачытаўся. Час ужо быў позні, хутка пара зачыняць бібліятэку, будзе няёмка напамінаць, што пара адыходзіць, нібы выганяеш. Але ён сам адклаў газету, устаў, падышоў да Люсі.

— У вас тут так прыемна, што не хочацца адыходзіць, — сказаў ён, і было ў яго позірку, у тоне нешта такое, што нібыта казала — прыемна яму тут не толькі таму, што ў бібліятэцы ціха і цёпла.

— То заходзьце часцей, — гасцінна запрасіла Люся.

І ён пачаў заходзіць. Амаль праз дзень. Прынёс кнігу, што ўзяў першы раз, выбраў новую. І заўсёды заставаўся чытаць газеты. Ён садзіўся за стол тварам да Люсі і час ад часу паглядаў на яе. Яна заўважала яго позіркі, і яны кранала нешта ў яе душы, рабілася прыемна і трывожна. Наогул яна пачынала адчуваць, што яе з гэтым чалавекам нешта нібы звязвае, нейкія патайныя ніці. Яна старалася адагнаць гэта насланнё, пераконвала сябе, што прыдумвае сабе нешта, але душа не слухалася розуму. Аднойчы яна глянула на яго, і ён падняў на яе вочы, іх позіркі сустрэліся, і гэта праняло Люсю, нібы токам. І яго позірк — шчыры, спагадлівы — нібы затрывожыўся, нібы захацеў сказаць ёй нешта такое, чаго не вымавіць словамі. І патайныя ніці, якія, здавалася Люсі, звязвалі яе з гэтым чалавекам, здаліся мацнейшымі і быдта ўжо бачнымі.

Ён раней, чым звычайна, пакінуў бібліятэку, і Люся адчула быццам палёгку і быццам шкадаванне ад таго, што ён пайшоў.

А калі вешала замок на дзверы бібліятэкі, убачыла, што ён стаіць воддаль, заклаўшы рукі ў кішэні сваёй курткі. І раптам радасць яе ахапіла, радасць і трывога, і яшчэ нешта варухнулася ў грудзях, быдта рыбка плесканулася.

Яна замкнула дзверы, сышла з ганка. Ён падышоў да яе.

— Вось… Вырашыў вас праводзіць… Позна, цёмна ўжо…

Яна не ведала, што яму адказаць, нешта прымушала яе патушыць у сабе тую радасць, надаць сабе строгасці, ці што.

— А ў нас тут спакойна, бандыты не водзяцца, не тое, што ў вялікіх гарадах…

— Ну, усё роўна… Адной, можа, сумна…

— А я прывыкла…

Яны памаўчалі.

— Вы пра мяне ўсё ведаеце, запісалі ў свой фармуляр… А я не ведаю нават, як вас зваць, — сказаў ён.

— Мяне зваць Люся.

— Ну, мяне можаце зваць проста Васіль.

Яны прайшлі крыху моўчкі, і Люсі няёмка было, што яны ідуць і маўчаць, але яна не ведала, пра што з ім гаварыць. Акрамя таго, падазронасць, недавер да людзей, асабліва мужчын, скоўвалі яе. Што за намеры ў гэтага чалавека, чаму ён пачаў да яе прыглядацца, а цяпер вось чакаў каля бібліятэкі? Яна не зусім разбіралася ў тым, як і сама ставіцца да яго, нешта ён закрануў у душы, але каб не памыліцца зноў.

— Добра, што ў вас тут ёсць бібліятэка, а то зайшоўся б вечарамі ад суму, — сказаў ён.

— Я пазнала, што вы не тутэйшы, і ўжо ведаю, што будуеце нам аўтастанцыю… А жывяце, мусібыць, у інтэрнаце? То там жа звычайна шмат народу, не павінна быць сумна.

— Народу там і праўда шмат, нас у пакоі пяцёра, але мае суседзі вечарамі выпіваюць, гуляюць у карты, а я гэтага не люблю.

— Ого! — падзівілася Люся. — Цяпер так цяжка сустрэць цвярозага мужчыну.

А сама падумала — можа, набівае сабе цану?..

За тры гады з таго часу, як нарадзіла свайго Колю, Люся не мела блізкага знаёмства ні з адным хлопцам, не мела ні з кім нават маленькага флірту. Не трапляўся ніхто, каб спадабаўся, ды і жыла ў грудзях насцярога — ведаюць усе пра яе грэх, ніхто не падыдзе з сур'ёзным намерам. Гэты, напэўна, пра яе грэх не ведае і таму такі спагадлівы, а даведаецца… І яна наўмысля заціскала ў сабе тое, што зацяплілася ў душы да гэтага чалавека, не вельмі актыўна падтрымлівала з ім гаворку. І ён аказаўся не вельмі гаваркі, так яны, не вельмі шмат размаўляючы, дайшлі да яе доміка ў ціхім завулку, спыніліся каля брамкі ў драўляным плоце. Акно ў гаспадыні, завешанае празрыстаю гардзінаю, зноў свяцілася, і знадворку дамок выглядаў вельмі ўтульна. Да сцен туліліся пакуль голыя галіны кустоў бэзу, побач з домам раскінулі голае голле некалькі яблынь.

— Вы тут з бацькамі жывяце? — спытаў Васіль.

— Не, пакойчык здымаю… Бацькі мае ў вёсцы… Адсюль недалёка.

Пра тое, што ў бацькоў жыве яе сын, не сказала. Навошта гэта ведаць чужому чалавеку, сёння ён тут, заўтра там. Яны крышку пастаялі, Люся ўзялася за брамку.

— Дзякуй, што праводзілі…

— Няма за што…

Здаецца, ён яшчэ хацеў нешта сказаць, але Люся піхнула варотцы, заспяшалася да дзвярэй.

У сваім пакойчыку яна паспешна распранулася, прыхінулася да цёплай грубкі, хоць гэтым разам і не змерзла. Потым, як заўсёды, папіла чаю, села глядзець з гаспадыняю тэлевізар — перадаваўся канцэрт, адзін за другім выступалі спевакі і спявачкі, Люся хацела слухаць, глядзець той канцэрт, але ў душы было неспакойна, тое, што рабілася на экране, раптам нібы знікала, яна паглыблялася ў свае адчуванні. «Кінь, дурніца, — супакойвала

сама сябе. — Сумна чалавеку ў чужым горадзе, у інтэрнаце, ад суму ў бібліятэку ходзіць, ад суму цябе праводзіў».

Але душа не супакойвалася.

Назаўтра Васіль зноў прыйшоў у бібліятэку і зноў праводзіў Люсю. І наступным днём таксама.

Вясна падыходзіла ўсё бліжэй, ледзяшы, што звісалі са стрэх, часам зрываліся, падалі, са звонам разбіваючыся на дробныя друзачкі, пахла адталаю ўдзень зямлёю, усё меншымі рабіліся снегавыя плямкі ў агародах, прыбывала і прыбывала дня. Цяпер Люся не да цямна сядзела ў бібліятэцы, выходзіла, калі паветра здавалася сіне-блакітным і ў ім далёка відаць было наваколле — купалок невялічкай царквы ў засені голых пакуль тапаляў, скверык у цэнтры горада, ціхія двары пры драўляных дамах уздоўж брукаванай вуліцы. Яны павольна ішлі з Васілём па тратуары. Васіль гаварыў:

— У вашым гарадку, як на іншай планеце. Пасля нашага грукату, гармідару, смуроду ад машын тут так спакойна, ціха.

— Але жыць тут, мусібыць, не згадзіліся б… Засумавалі б па вялікім горадзе.

— Магчыма…

— І скора канчаецца тут ваша работа?

— Што вы, яшчэ пачаць і скончыць, як гэта кажуць.

Люсю хвалявала — што азначаюць гэтыя яго праводзіны? Шукае ў ёй сябра, таварыша? Для сяброўства мужчыны выбіраюць мужчын. Ён аддае ёй увагу як жанчыне, гэта ясна. А яна? Чаму не забароніць яму гэтага заляцання? У маленькім гарадку ўсе ўсё ведаюць, недзе праз вокны цікаўныя кабеты ўгледзелі, што бібліятэкарку праводзіць не тутэйшы. Недзе, можа, пасміхаюцца, могуць палічыць яе гуляшчай. Ёй вельмі карцела спытаць — ці жанаты ён? Па гадах то павінен быць жанаты. Але спытаць пра гэта — значыць прыдаць іх сустрэчам сур’ёзнае значэнне… Каб не прынізіла гэта яе… Быдта яна шукае ў ім вольнага мужчыну, каб самой заняволіць. Яны зноў спыніліся каля брамкі.

— Заўтра выхадны, нядзеля, бібліятэка будзе зачынена… Можа, сходзім з вамі ў кіно? — спытаў Васіль.

Выхадны, нядзеля… Заўтра яна паедзе да бацькоў, да сына. Якое там кіно?

— Ведаеце, я заўтра не магу. У мяне заўтрашні дзень сплanaваны.

— Спланаваны? — здзівіўся Васіль. — А ці магу я даведацца пра вашы планы?

Люся на хвіліну замялася.

— Ну, я паеду ў вёску, да бацькоў… Я кожны раз па нядзелях езджу.

— І нельга гэтым разам прапусціць?

— Не, нельга, — пачырванела Люся, пачырванела ад таго, што не сказала Васілю ўсёй праўды.

— То, можа, там які трактарыст ці камбайнер, які асілак вас чакае?

— Што вы, — засмяялася Люся. — Няма ў мяне ні трактарыста, ні камбайнера… Нікога няма… Гэта ваш брат, мужчыны, як ад'едуцца ад дому, у камандзіроўку, так ужо і нежанатыя…

Яна выклікала яго на прызнанне, гэтым, нібы жартам, яна і яму задавала пытанне. Можа, ён прызнаецца, што жанаты, тады яна раз і назаўсёды спыніць гэтыя залёты.

— Не ведаю, як іншыя мужчыны, але я і праўда не жанаты.

Люся адчула, як павальнела, паспакайнела ў яе на душы.

— Але па гадах… Вы ж не зусім маладзенькі…

Васіль таксама быдта замяўся, пераступіў з нагі на нагу, пакратаў рукою штакеціну, нібы спрабуючы, ці моцна яна прыбітая.

— Ну, калі казаць праўду, то быў жанаты… Але развяліся… Не сышліся характарамі, як гэта кажуць.

Пакуль яны дайшлі да Люсінага дома, пакуль стаялі, гаварылі, сіне-блакітнае паветра перайшло ў цёмнае, звечарэла. У гаспадыні засвяцілася акно, цераз празрыстую гардзіну была відаць постаць кабеты, як прайшла яна раз, другі раз па пакоі.

Прызнанне Васіля не засмуціла Люсю, наадварот, нечым гэта ёй нібыта спагадала, нібы падсвядома падумалася: «І ён не бязгрэшны, можа, даруе і мой грэх». Але сказаць яму пра сына не адважылася.

— Кажаце, не сышліся характарамі… То ў каго ён быў кепскі, у вас ці ў яе? — спытала нібыта жартам.

— Гавораць, што найбольш людзі сыходзяцца з рознымі характарамі, а ў нас былі аднолькавыя, і ў яе, і ў мяне добрыя…

Люся разумела, што адказ яго жартоўны, але ёй спадабалася, што не чарніў, не ганіў былую жонку. І сама зразумела, што выпытваць далей, лезці ў душу — не зусім тактоўна. Але што, як ён кажа няпраўду? Тутэйшых усіх ведаеш, ведаеш усё пра іх, а гэты… Той, Колеў бацька, таксама быў залётнаю птушкаю, лейтэнант, і таксама казаў, што не жанаты, а як Люся зацяжарала, то і жонка аб'явілася.

— А ці праўду вы кажаце? — вырвалася само ў Люсі. — Што не жанаты, разведзены? А то ходзім мы тут з вамі, а раптам прыедзе з горада красуня і ўчасанне маё сапсуе?

Васіль засмяяўся.

— Пашпарт магу паказаць, — і ён палез у кішэню, і праўда, мусібыць, хочучы паказаць ёй пашпарт.

— Што вы, не трэба, — стрымала яго Люся. — І даруйце за маю недаверлівасць.

— Не-е, — хітравата паглядзеў на яе Васіль. — Так проста не дарую… Патрэбен выкуп.

— Выкуп? Які?

— Пацалунак, — і ён раптам абняў Люсю, прыпаў губамі да яе вуснаў.

Яна спачатку тарганулася, быдта хацела адштурхнуць яго, выслабаніцца, а потым замерла, застыла, прымаючы яго ласку.

— Якія цёплыя ў цябе вусны, — сказаў ён, адхінуўшыся ад яе.

— І ў цябе цёплыя, — праз хваляванне адказала Люся.

Так пачалося іх каханне, якое моцна захапіла Люсю, ды і Васіль, здаецца, трапіў у сіло. Спачатку яны падоўгу прастойвалі каля брамкі, не маючы сілы разысціся, у пакой Люся Васіля не запрашала, саромелася гаспадыні, каб не падумала пра яе блага. Але аднойчы сама гаспадыня сказала:

— Што вы там да паўночы брамку падпіраеце?.. Звала б ужо свайго кавалера ў хату.

Люся зачырванелася.

— Вы не падумайце… У нас нічога благога ў галаве… Ён не тутэйшы… Але сумленны чалавек…

Сама не ведала, што гаварыла.

— Ды бачу, што не тутэйшы… Я табе скажу, дзеўка… Ваша дзела маладое… І не хадзіць табе ўвесь век у манашках… Але асцерагайся… Маеш навуку.

— Маю, маю, — ківала галавою Люся.

І аднойчы, калі красавік, нібы раззлаваўшыся за цяпло, што ўхапіў сабе сакавік, падзьмуў халодным ветрам, сыпануў дробным дажджом са снегам, Люся запрасіла Васіля ў хату.

Абклееныя светлымі шпалерамі сцены, засцелены белаю капаю ложак, падушкі з прошвамі, вышываныя сурвэткі на этажэрцы — усё гэта спадабалася Васілю.

— Твой пакойчык такі самы сімпатычны, утульны, як і ты, — сказаў ён, абдымаючы Люсю.

Яны мала гаварылі, больш цалаваліся, але калі Васіль, абрынуўшы яе на ложак, даў волю рукам, яна падхапілася і ў нейкім страху, адчаі зашаптала:

— Не, не…

Ён крышку астыў, супакоіўся, сказаў прымірэнча:

— Не бойся… Проціў тваёй волі нічога не будзе.

Па нядзелях яна па-ранейшаму ездзіла да бацькоў, сустракалася з сынам. За тыдзень, што не бачыла яго, ёй здавалася, што хлопчык мяняўся, набіраўся новага. Выклікалі замілаванне новыя словы, цэлыя сказы, нават разважанні сына. Яна прывозіла яму дзіцячыя кніжкі з малюнкамі, чытала казкі, вершыкі, і ён лёгка іх запамінаў. Яна б гадзінамі магла з ім забаўляцца, абдымаць, і ён радаваўся прыезду мацеры, хадзіў за ёю, як сабачка, яна на двор — і ён за ёю, яна ў хату — і ён сюды.

Але апошнім часам да радасці ад спатканняў з сынам прымешвалася і трывога. Яна мусіла нарэшце сказаць Васілю пра свайго Колю, прызнацца ў сваім граху. Канечне, яна магла сказаць, што была замужам, развялася, але чаму ж не прызналася адразу? Боязна рабілася, што калі не яна сама — нехта скажа Васілю, ды яшчэ нагаворыць на яе кепскага. Трэба ўсё расказаць, усё расказаць… І падступаў страх… А што, як кіне?.. Не прыме яе такую?.. І гэта цяпер здавалася страшнейшым за ўсё на свеце. Страціць Васіля, калі ён так моцна запаў у яе сэрца… Калі з ім звязвалася надзея… Перамяніць жыццё, выйсці замуж.

Вясна, быццам абражаная холадам, што наступіў на яе, кінулася на барацьбу з ім, і холад адступіў, ярка засвяціла сонца, цеплыня паплыла над зямлёю. Адагрэтая ёю, зазелянела трава, наліваліся сокам пупышкі на дрэвах, паветра зрабілася празрыстым, даўжэйшым і даўжэйшым рабіўся дзень.

Усе Люсіны думкі, усе пачуцці запыняліся цяпер на Васілю. Трэба было рыхтавацца да летняй сесіі, з інстытута атрымала праграмы па ўсіх прадметах, і яна чытала, чытала, балазе што ў бібліятэцы мела на гэта час, але, чытаючы, лавіла сябе на тым, што не разумее, не памятае прачытанага, бо ў гэты час думала пра яго, думала, ці прыйдзе ў бібліятэку, а можа, будзе чакаць на лавачцы ў скверыку, праз які яна праходзіць, ідучы дадому. І што сёння, вось сёння яна яму ўсё раскажа. Але яны сустракаліся, Васіль расказваў ёй пра свае праблемы на будаўніцтве, яна чула гэта і не чула, бо тых праблем не разумела, потым яны ішлі да яе дадому, пілі чай. Васіль часам прыносіў кансервы, кілбасу, цукеркі, і вячэрняе чаяванне неяк асабліва збліжала іх, здавалася ледзь не сямейным. Люся зноў намервалася ўсё расказаць і зноў не адважвалася, бо баялася — як пачуе Васіль такую навіну, то і пакіне яе, а ёй цяпер без яго і жыццё не ў жыццё.

Але гэтым разам наважылася — скажа. Як будзе, так будзе, але мусіць сказаць.

Яна пачала з нецярпеннем і страхам чакаць Васіля. Можа, прыйдзе ў бібліятэку? На кожны рып дзвярэй яна азіралася з заміраннем душы, але прыходзілі то школьнікі, то старыя дзяды, Васіль не паяўляўся. Чакала ўбачыць на скверыку, але лавачка, на якой ён звычайна сядзеў, яе чакаючы, пуставала.

Яны сустракаліся не штодня, бывала, ён не прыходзіў і дзень, і два, тлумачачы гэта сваімі клопатамі на будаўніцтве. Але сёння, калі яна вырашыла ва ўсім яму прызнацца, а ён не аб'явіўся, здалося кепскім знакам. Ён не даруе ёй ні яе мінулага, ні таго, што столькі часу маўчала.

Але ён прыйшоў, прыйшоў, калі яна страціла надзею чакаць яго, калі ў душы і яго ўжо страціла. Ён прыйшоў — вясёлы, свежа паголены, ад яго пахла адэкалонам, абняў яе, пацалаваў, паставіў на стол дзве бутэлькі піва і загорнутыя ў газету, крыху ссохлыя піражкі.

— Пасля работы ў лазні парыўся… І вось, затрымаўся…

А Люся раптам уткнулася тварам яму ў плячо і заплакала. Потым адхінулася, выхапіла з кішэні халаціка насоўку, прыціснула да вачэй.

— Ты што? Ты чаго? — узяў яе за плечы Васіль.

— Я думала, ты больш не прыйдзеш… — І як у бездань абрынулася, загаварыла: — У мяне сын ёсць… Хлопчык, Коля… Тры гады… Я раней не гаварыла, баялася, што ты мяне кінеш.

Ён апусціў рукі, якімі абдымаў яе за плечы, адышоўся да стала, пастаяў крышку, быдта пра нешта думаючы, сарваў бляшаную накрыўку з бутэлькі з півам, наліў у шклянкі. Адну ўзяў сабе, з другою падышоў да Люсі.

— На, выпі, — падаў ёй.

Яна плакала, не адымаючы хусцінкі ад вачэй.

— Кінь плакаць… Я ўсё ведаў, — сказаў не то з папрокам, не то спагадліва.

Яна прыняла хусцінку, здзіўлена глянула на яго.

— Думаеш, у такім мястэчку можна надоўга нешта схаваць? Людзі добрыя расказалі…

Яна апусцілася на ложак, схіліла галаву, маўчала. Ён паставіў шклянкі з півам на стол, прысеў побач, абняў за плечы.

— Я даўно ўсё ведаў, і калі прызнацца табе шчыра, то раней хадзіў так… Хаця ты мне адразу спадабалася… А потым увяз, закахаўся, і мне цяпер усё роўна — ёсць у цябе дзіця ці няма… Я проста чакаў — калі ты мне сама скажаш.

— Даруй мне, — ціха вымавіла яна. — А я табе не казала… Ведаеш, спачатку думала — чаго я буду казаць чужому чалавеку,

сёння ён тут, заўтра там… А потым закахалася, і ўжо боязна было… Каб не страціць… І потым думала — мой жа Коля нічым не можа нам замінаць, ён жыве ў бацькоў, яны яго вельмі любяць… Ім цяпер Коля — адзіная ўцеха.

Гаварыла гэта і разумела, што здраджвае сыну, быццам адракаецца ад яго, аддае яго бабцы з дзедам, абы не страціць гэтага, што сядзіць побач і абдымае.

— Выходзіць, мы абое закахаліся… То што ж нам рабіць з нашым каханнем? — з усмешкаю спытаў Васіль. — Няйначай, трэба жаніцца.

Люся замерла, застыла, быдта маленькім рухам баючыся спудзіць словы, сказаныя Васілём, верачы і не верачы, што іх пачула.

— Што ж ты маўчыш, скажы, так ці не?

Усміхаючыся праз слёзы, якія яшчэ ўсё стаялі ў вачах, Люся павярнулася да Васіля, абняла яго, прыпала галавою да яго пляча, што без слоў азначала згоду і ўдзячнасць.

3

Яны распісаліся тут, у мястэчку, і пакуль вялося будаўніцтва аўтастанцыі, жылі ў яе пакойчыку. Люся старалася ва ўсім дагадзіць мужу, уставала раненька, каб падаць яму снядванак, гатавала абеды, была заўсёды ласкавая і сама адчувала сябе шчаслівую. Трохі муляў, усплываў часам тугою ўспамін пра сына, яна даўнавата не была дома, не бачыла хлопчыка. Аднойчы сказала Васілю:

— Можа, з'ездзім да маіх? Трэба ж ім пазнаёміцца з зяцем.

Ёй здалося, што Васіль нахмурыўся.

— Ты ж бачыш, няма часу.

— То можна ж у нядзелю…

— У нас цяпер і нядзелі занятыя.

Праўда, былі і нядзелі, калі яны працавалі, стараліся хутчэй закончыць аб'ект, але выпадалі і вольныя. Люся зразумела, адчула — не хоча Васіль ехаць да яе бацькоў, не хоча знаёміцца з яе сынам. Трошкі запякло ў сэрцы, але вырашыла не крыўдзіцца, яна была ўдзячная Васілю, што дараваў яе грэх, узяў замуж, і за гэта шмат магла яму дараваць.

Сама неяк вырвалася дадому, сказала бацькам, што выйшла замуж.

Маці і радавалася, і не магла схаваць трывогі.

— Ці ж хоць харошы чалавек?

— Харошы, мама, харошы.
— А як жа Коля?
— Ну, ён ведае пра Колю, ведае.
— То чаму з ім не прыехала? Вяселле зладзілі б, як у людзей.
Яна не прызналася мацеры, што гаварыла пра вяселле з Васілём, але той паморшчыўся.
— Гуляў я ўжо вяселле… Гэтым разам можна без яго.
Адказала мацеры:
— Ай, мама, навошта тое вяселле… І ён… Ён вельмі заняты…
Коля быццам нешта разумеў, з падазрэннем глядзеў на маці, а калі яна ўзяла яго на рукі, абшчапіў за шыю.
— Не едзь больш нікуды…
Яна пацалавала хлопчыка.
— Я ж не магу не ехаць, мне трэба на работу.
— А ты не хадзі на работу…
— Сонейка маё, — абдымала яго Люся. — Вырасцеш, сам убачыш, што на работу трэба хадзіць.
Абдымала, цалавала сына, а сама адчувала — сэрца рвецца да мужа, з нецярпеннем чакае гадзіны, калі прыйдзе аўтобус, каб вярнуцца назад. Хлопчык, здаецца, адчуваў гэта яе нецярпенне, адчуваў нейкую сабе пагрозу.
— А калі ты зноў прыедзеш?
— Скора, сынок, скора…
— А прывязеш мне зайку?
— Зайку? Якога зайку?
— Ну, такога, з доўгімі вушамі, як у Віцькі.
Ён бачыў плюшавага зайку ў хлопчыка Віці, што жыў ад іх недалёка, зайка яму вельмі падабаўся, і бабка гаварыла Колю, што калі той будзе слухацца, то маці і яму прывязе такога.
— Прывязу, сынок, прывязу, — не вельмі разумеючы, якога зайку просіць сын, абяцала яму Люся.
Маці як ніколі поўна напакавала яе сумку — ладны кавалак сала, два колцы кілбасы, гаршчочак масла, яек, сыру.
— Сумка цяжкая, бацька паднясе да аўтобуса, — сказала маці.
Яны праводзілі яе ўтрох — маці, бацька і Коля. Яна трымала ў руцэ мяккую, цёплую далоньку сына, і сэрца яе шчымела. Супакойвала сябе тым, што хлопчыку з бабкаю і дзедам добра, але разумела і тое, што не могуць яны замяніць дзіцяці маці, бацьку, што хлопчыку патрэбна сям’я.
Спадзявалася на час, што некалі звядзе Васіля са сваім сынам, хлопчык яму спадабаецца, і ён згодзіцца быць яму бацькам.

Маці перахрысціла яе на дарогу, сын плакаў.

І вось аўтастанцыя гатова, яна стаяла цяпер, як лялька, новенькая, з чырвонай цэглы, з вялікімі, чыста памытымі вокнамі, у якіх адбівалася сіняе неба з белымі аблокамі, ля яе спыняліся ўжо аўтобусы — і тыя, што прыязджалі ў мястэчка з вялікіх garадоў, і тыя, што праходзілі транзітам.

Люся збіралася ў новае жыццё — у вялікі горад, у Мінск. Васіль прыехаў па яе ў сініх «Жыгулях» — не ягоных, папрасіў у некага. Яна пазапіхала ў багажнік, на задняе сядзенне машыны свае клункі — пасцель, бялізну, адзежу ды абутак.

Стаяла сярэдзіна лета, усцяж дарогі, па якой ехалі, шапацелі кронамі таполі, за імі расхіналіся палі з густымі жытамі, на лугах пасвіліся статкі чорна-белых кароў. Васіль сам вёў машыну, Люся сядзела побач з ім і з любасцю пазірала на пасмачку валасоў, што вілася над яго загарэлым ілбом, на засяроджаны твар, на адкрытыя ў тэнісцы рукі, што ўпэўнена трымалі рулю машыны.

— Купім сваю… Вось атрымаю разлік за будаўніцтва… І на кніжцы ў мяне трохі ёсць… Купім сваю…

— Я і не ведала, што ты ў мяне такі, — весела адказвала Люся, — такі гаспадарлівы і такі багаты…

— Багаты не багаты, але не прапіваю, як іншыя… І зарабляць умею.

— Ты ў мяне малайчына…

Ёй падабалася ехаць у легкавушцы, абмінаць грузавыя машыны, аўтобусы, на ўскраі дарогі часам стаялі людзі, галасавалі, а яны праміналі іх, адчуваючы сваю перавагу над тымі, безмашыннымі. Сапраўды, добра было б мець сваю, уласную.

— Калі ў цябе не хопіць на машыну, то я ў бацькоў папрашу… Па-мойму, яны тое-сёе маюць, — сказала Люся. Ёй хацелася і самой далучыцца да светлай мары — займець уласную машыну.

— Там будзе відаць, — сур’ёзна адказаў Васіль.

У Мінску ў яго была двухпакаёвая кватэра, праўда, невялікая, так званая палутарка, хрушчоўка, абстаўленая не вельмі дарагою мэбляю, але мелася тут усё неабходнае для жыцця: і тэлевізар, і халадзільнік, на кухні грудзіліся каструлькі-патэльні.

Люся старалася не распытваць Васіля пра мінулае, пра былую жонку, але тут не стрымалася.

— А вы што, як разыходзіліся з жонкаю, то не дзялілі ні кватэры, ні мэблі?..

Васіль у ванным пакоі мыў рукі, выцер іх не вельмі свежым ручніком.

— Мы з жонкаю і года не пражылі… Кватэру мне яшчэ раней далі ад будаўнічай канторы, яна вярнулася да сваіх бацькоў, — ён павесіў ручнік на кручок, — а там кватэра, як палац, і сваіх халадзільнікаў ды маразільнікаў хапае…

Люся развязвала свае клункі, вымала чыстыя ручнікі, бялізну.

— А чаго ж усё-такі не ўжыліся? — спытала, не прыпыняючы свайго занятку.

Васіль адказаў не вельмі ахвотна:

— Не падышлі адно да аднаго… Вельмі любіла вучыць — не так жывеш, не тое робіш… Але ведаеш, — у яго голасе з'явіліся сухія, строгія ноткі, — давай не будзем варушыць мінулае. Ні маё, ні тваё.

Яна рада была не варушыць сваё і пагадзілася:

— Давай.

Люся пачала ахвотна віць сваё гняздо. У маці з бацькам яна была як тое птушанё, гняздо звілі бацькі, не яна там гаспадарыла, жыла, можна сказаць, на гатовым. І ў пакойчыку, у гаспадыні, не адчувала сябе вольнаю, кватарантка і ёсць кватарантка. Тут жа ўтульнасць, парадак залежалі выключна ад яе, і яна старалася. Найперш вышаравала-вымыла ўсю кватэру, пазасцілала, паразвешвала ўсё чыстае. Аднойчы, ідучы на базар, убачыла — барадаты хлопец прадаваў карціны ў рамах, адна карціна ёй спадабалася — зялёны лясок, над ім блакітнае неба, па якім лётаюць чорныя птушкі. Яна не ўтрымалася, купіла карціну, дома павесіла яе ў большым пакоі. Карціна цешыла яе вока, і Васілю, здаецца, спадабалася.

Яна хадзіла па магазінах, старанна выбірала прадукты, каб лепей, смачней прыгатаваць абед. І Васіль аказаўся гаспадарлівы, усё цягнуў у хату, рэдка прыходзіў з работы з пустымі рукамі — то рыбы якой прынясе, то кілбасы, то кавы — купляў у сваім стале заказаў ці ў краме па дарозе. Яны пакуль ні разу не пасварыліся, былі задаволены адно адным, часта абдымаліся, цалаваліся.

Люся хутка зразумела, што заставацца толькі хатняю гаспадыняю ў яе гады няможна, трэба шукаць работы. Пачала хадзіць, пытацца і скора ўладзілася на работу ў бібліятэку пры політэхнічным інстытуце. Дапамагло тое, што вучылася завочна на бібліятэчным факультэце. Работа тут была, канечне, не такая, як там, у мястэчку, наведваў бібліятэку зусім іншы люд, не школьнікі ды пенсіянеры, а студэнты, і кніжкі выдаваліся зусім іншыя. Асвойваць работу дапамагалі на першым часе старэйшыя

работнікі — Марта Цімафееўна, пажылая жанчына з вялікім вопытам работы, невялічкая, худзенькая, але з галавою, якую супрацоўнікі называлі энцыклапедыяй, — усё яна ведала, усё памятала. Дапамагала Люсі ўвайсці ў курс і другая супрацоўніца — Вера, жанчына гадоў трыццаці, высокая, прывабная, з касою, нібы каронаю, закручанаю над ілбом.

Васіль не пярэчыў, што Люся пайшла на работу, хоць бачыў — клопату ёй прыбавілася, мусіла і працаваць, і весці хатнюю гаспадарку, ды яшчэ да чарговай сесіі рыхтавацца. Але яна не скардзілася — маладая, дужая, побач з чалавекам, якога шчыра палюбіла, яна гатова была зрушыць горы, несці любую ношку.

Жыццё пакацілася, як той лакаматыў, дні міналі, як прыдарожныя слупы, поры года, як станцыі з кароткімі прыпынкамі — лета, восень, зіма, вясна… Не агледзелася, як мінуў год.

Яна рвалася дадому, рвалася пабачыць сына, але нешта ўсё замінала, нешта не давала вырвацца. Некалькі разоў прасіла Васіля паехаць з ёю да бацькоў, але той адказваўся — то не мае часу, то выплывала ў яго нейкая адгаворка. Люся разумела — не хоча ехаць.

А тут агледзелася, што зацяжарала. Васіль, здаецца, узрадаваўся.

— Во, нашчадак будзе, будзе каму нажытае дабро пакінуць.

Вельмі хацеў хлопчыка, але нарадзілася дзяўчынка. Назвалі Кацярынаю, у той год модным аказалася гэта імя, надта шмат дзяўчынак называлі Кацярынамі.

Хацеў Васіль хлопчыка, але скора палюбіў і дачку. Дапамагаў Люсі купаць яе, а як крышку падрасла і пачала пераходзіць на іншую яду, часам карміў яе з лыжачкі. Раней за Люсю ўбачыў у дзяўчынкі першы зубок, насіў на руках, гушкаў, перагукваўся на дзяцінай мове. Люся радавалася гэтай мужавай любові да дачкі, і шчымела яе сэрца, калі ўспаміналa сына, які не ведаў бацькавай ласкі. Зноў рвалася сэрца — туды, дадому, ужо два гады не бачыла хлопчыка. Але зноў заядаў побыт, і баялася прасіць Васіля, каб пусціў дадому. Разумела ўжо — не хоча ведаць яе мінулага, яе сына, жыве недзе там у бацькоў, і няхай жыве, няхай яму не замінае. Хаця, — думала Люся — чым бы ён тут замінаў, не аб'еў бы іх, яна цягне на сабе добры воз, пасадзіла б на гэты воз і Колю, Васіль не меў бы з ім клопату. Але сказаць усё гэта мужу не адважвалася, чакала выпадку, каб вырвацца ў вёску, хоць на дзень, хоць на некалькі гадзін.

І выпадак надарыўся. Васіль збіраўся ў камандзіроўку, нейкі клопат аказаўся ў іх на будаўніцтве з кафлем, Васіля пасылалі «выбіваць». Камандзіроўку выпісалі на тыдзень.

Сабраўшы мужа ў дарогу, яна і сама пачала ліхаманкава збірацца. Дамовілася з Вераю, каб тая тры дні парабіла і за яе.

— Я аддзячу табе, некалі і за цябе папрацую, — абяцала Люся.

— Добра, едзь, — згадзілася Вера.

Яны апошнім часам пасябравалі, і Вера ведала Люсіны праблемы. Потым, з дачкою на руках, пабегла па магазінах — купляць сыну падарункі. Спяшалася, хвалявалася, здавалася, зараз нехта запыніць, не дасць купляць, не дазволіць ехаць, і яна не вельмі выбірала цацкі, купляла, што трапляла на вочы: завадны аўтамабільчык, кубікі з малюнкамі і літарамі, нейкую гульню ў карабку, у якой сама не разабралася, цукеркаў. Паклала ўсё гэта на дно чамаданчыка, зверху калготкі, кофтачкі даччыны: не было з кім пакінуць Кацю, брала дачку з сабою.

У аўтобусе дзяўчынка скора заснула, Люся туліла яе да сябе і пазірала ў акно, за якім беглі зжатыя палі, падступалі блізка да шашы гонкія камлі хвойніку, бліскала, нібы шклом, круглае азерца. Бачыла ўсё гэта і не бачыла, сэрцам, думкамі была дома, чакала сустрэчы з сынам.

Аўтобус спыніўся каля новага будынка аўтастанцыі, які так нечакана далучыўся да яе лёсу, звёў з Васілём. Але будынак не выглядаў ужо такім новенькім, як два гады назад, на вокнах ужо ляжаў пласт пылу, цагліны дзе-нідзе былі пакрэмзаныя, абабітыя, вакол станцыі валяліся асмалкі цыгарэт, пустыя пакамечаныя пачкі і проста папера. Люсі трэба было яшчэ чакаць мясцовага аўтобуса, які завёз бы з мястэчка ў вёску, і яна прысела на лавачцы каля станцыі, трымаючы дачку на каленях і паставіўшы каля сябе чамаданчык. Дзяўчынка рвалася з каленяў, ёй хацелася тупаць па зямлі, і Люся часам апускала яе долу, трымаючы за ручкі — сама дзяўчынка хадзіць яшчэ не ўмела.

Падышоў іхні аўтобус, цёткі з кошыкамі, вёдрамі палезлі ў яго. Амаль усіх іх Люся ведала, амаль з усімі віталася, цёткі з цікавасцю паглядалі на яе, нешта між сабою перашэптваліся, Люся здагадвалася — гаварылі пра яе, але ёй гэта цяпер было ўсё роўна.

Яна села каля акна, з кожнаю хвілінаю адчуваючы ўсё большае хваляванне ад хуткай сустрэчы з домам. За вокнамі плыў ужо родны краявід, знаёмай выглядала кожная паваротка, кожная

палянка, кожны лясок, кожная лапінка зямлі, у прыадчыненае акно плыў непаўторны водар роднай зямлі.

Аўтобус прыпыніўся на сваім звычайным месцы — пасярод вёскі, і Люся, зручней усадзіўшы дачку на левую руку, у правую ўзяўшы чамаданчык, пакіравалася да сваёй хаты.

На вуліцы бегалі некалькі хлопчыкаў — босых, у расхрыстаных кашульках, узнімаючы пыл, яны ганялі нагамі мячык. Люся абыякава глянула на іх, не пазнаючы, чые гэта дзеці, прамінула іх і скора адчыніла веснічкі, што вялі ў іхні двор.

Яе абдало родным, сваім, што не зрушылася з месца за час яе адсутнасці, справа хлеў, гумно, злева хата з крытым ганкам, з лавачкамі на ганку, дыхнулася непаўторным, родным водарам травы, сырадою, распілаваных дроў, што акуратнаю паляніцаю ляжалі пад страхою гумна. Па двары хадзілі куры, дзюбалі, шукалі сабе ў траве спажыву. Вялікі чырвоны певень на міг адарваўся ад свайго занятку, нібы з цікавасцю глянуў на Люсю адным вокам.

Яна скоранька прайшла цераз двор, адчыніла дзверы ў сенцы. Не папярэдзіла бацькоў, што прыедзе, з хваляваннем чакала сустрэчы.

Маці мыла бялізну ў балеі, падняла вочы на рып дзвярэй і застыла з мокраю кашуляю ў руках, але тут жа кінула яе назад у балею, радасна ўсміхаючыся, ахаючы, пачала выціраць рукі аб фартух, падбегла да Люсі, абняла, заплакала, цалавала дачку, унучку, пра якую ведала з пісьмаў, — ездзіць дадому Люся не ездзіла, але пісьмы пісала і з дому весткі атрымлівала.

Бацька злазіў з печы — здаўся Люсі пастарэлым, яшчэ больш прыбавілася сівых валасоў, твар пабляднеў, нібы выцвіў. І ён падышоў да дачкі, да ўнучкі, і ў ягоных вачах Люся ўбачыла слязу радасці. Яна азіралася па хаце, шукаючы сына, але хлопчыка не было відаць.

— А дзе ж Коля? — спыталася з трывогаю.

— На вуліцы, мячык з хлопцамі ганяе, ідзі, дзед, гукні, — папрасіла яна бацьку. — А ты праходзь, праходзь, якая ж дзевачка ў цябе харошая, — радавалася маці.

Бацька пайшоў за дзверы, гукаць Колю, а Люся адчула, як болем апякло яе сэрца. Яна бачыла хлопчыкаў, што ганялі мячык, і не пазнала між іх сына… І ён не пазнаў матку, нават не глянуў у яе бок… І моцны жаль да хлопчыка, і свая віна перад ім калолі грудзі.

Маці ўзяла ў яе з рук дачку, Люся памкнулася да дзвярэй — пайсці на вуліцу, самой гукнуць Колю, але ён з дзедам сам ужо

ішоў у хату. Спыніўся каля парога — з запыленымі босымі нагамі, даўно нястрыжанымі валасамі, у расхрыстанай кашульцы, з новаю сілаю разануўшы болем матчына сэрца.

— Сынок, — падалася яна да хлопчыка, — сыночак, — абняла яго і заплакала. Але не адчула падатлівасці, мяккасці яго цела, як некалі, як быў маленькі, увесь ён быў падобны на цвёрды корчык, не прымаў матчынай ласкі, быдта нават бараніўся ад яе. — Сынок, як жа ты вырас, які вялікі ўжо… Можа, і мяне не пазнаў, я ж твая мама…

Коля не вырываўся з яе абдымкаў, але і не адказваў ласкаю, здавалася, ён проста трываў гэтую ласку, чакаючы, калі яна скончыцца, каб зноў бегчы на вуліцу.

Яна гладзіла яго запыленыя валасы.

— Мама, чаго ж ён такі нястрыжаны? — спыталася быццам з папрокам.

— А вось збіралася трохі сама нажніцамі падстрыгчы, цырульні ж у нас нямашака.

— Ну, нічога, я цябе сёння пастрыгу, памыю, хадзі паглядзі, што я табе прывезла.

Не выпускаючы сынавай рукі, яна падвяла яго да лаўкі, на якую маці паставіла яе чамаданчык, адчыніла вечка. Выняла на лаўку даччыну адзежу, што ляжала зверху, пачала вымаць машыну, кубікі, карабок з гульнёю, цукеркі.

— Гэта ўсё табе, — абдымала сына.

Хлопчык, здаецца, раўнадушна глядзеў на гэтае багацце.

— Вазьмі цукерку, вазьмі, — угаворвала яна сына.

Але той стаяў і быдта саромеўся браць, Люся сама ўзяла некалькі цукерак, дала сыну ў руку. Ён пакінуў сабе адну, астатнія паклаў на грудку, што ляжала на лаўцы.

— Разгарні паперку, еш, — угаворвала маці.

Коля паслухмяна разгарнуў паперку, запхнуў усю цукерку ў рот.

Нібы пакрыўджаная тым, што не яна ў цэнтры ўвагі, заплакала дачка. Але Люся не кінулася да яе, да дзяўчынкі падышоў бацька, пачаў забаўляць, але яна не прымала ўвагі чужога, незнаёмага чалавека, цягнулася рукамі да маці.

Коля, здаецца, толькі цяпер убачыў малую, здзіўлена паглядзеў на яе. Люся ўзяла яго за руку, падвяла да дзяўчынкі, якая сядзела на ложку.

— Гэта твая сястрычка, яе зваць Каця…

Малая залівалася плачам, цягнулася да маці.

Люся ўзяла яе на рукі, прысела разам з ёю перад Колем, які раўнадушна глядзеў на дзяўчынку.

— Гэта твой брацік, Коля, пагладзь яго па галоўцы, — і яна узяла руку дзяўчынкі, яе рукою хацела правесці па Колевай галаве, але той раптам ухіліўся, падбег да лаўкі, на якой ляжалі цукеркі, схапіў у жменю некалькі.

— Я хлопцам дам, — сказаў не да маці, а да бабкі, і выбег за дзверы.

Люся з дачкою апусцілася на ложак, і смяялася, і плакала.

— Так вырас… Ці ўспамінаў хоць мяне?

— Спачатку ўспамінаў, сумаваў, а потым прывык, — адказала маці. — Апошнім часам ужо не ўспамінаў.

Люся выцірала далонню вочы.

— Я хацела… Я так рвалася… Але не магла… Я ж там працую… у бібліятэцы… Цяпер папрасіла, каб пусцілі… На тры дні…

Маці ўздыхнула, пачала завіхацца каля стала, частаваць дарагіх гасцей — дачку і ўнучку, якую бачыла першы раз.

Увесь той дзень, прыбегшы з вуліцы, Коля стараніўся мацеры, пазбягаў яе ласкі, гаварыў з дзедам, з бабаю, да яе ставіўся як да чужой цёткі, што раптам апынулася ў іхняй хаце. На другі дзень крышку нібыта адмяк. Люся старалася забавіць яго цацкамі — заводзіла машынку, і тая бегала па хаце, нібы мышка, паказвала кубікі.

— А ты літары ведаеш? — спыталася ў сына.

— Не-а, — пакруціў галавою хлопчык.

Люся брала кубік, знаходзіла на ім малюнак і вялікую літару «А».

— Што тут намалявана? — пыталася ў сына.

— Ну, аловак, — адказваў Коля.

— А вось гэта літара «А», слова «аловак» пачынаецца з літары «А». Запомніў?

— Запомніў, — адказваў Коля.

Потым брала кубік з іншым малюнкам і іншай літарай, зноў тлумачыла хлопчыку, і ён добра ўсё запамінаў.

— Вось, вывучыш літары, табе бабка з дзедам памогуць, а потым будзеш словы складаць, так і чытаць навучышся.

— А ты зноў паедзеш?

— Паеду, сынок, на работу мне трэба, — абняла яна яго худыя плечыкі і не адчула больш супраціўлення, быдта абмяк той корчык, сын паддаваўся яе ласцы.

Маці распытвала яе пра жыццё ў горадзе, пра мужа.

— Знаеш, ён неблагі чалавек, гаспадарлівы, няп’юшчы… Мы ладна жывём, не сварымся…

— То чаго ж з ім ні разу не прыехала, не пазнаёміла з зяцем?

Люся замялася. Спачатку хацела шчыра прызнацца пра сваё падазрэнне — не хоча муж ведаць, бачыць яе сына, потым адумалася.

— Ён надта заняты… Цяпер вось у камандзіроўку паехаў, дык я сюды.

Маці, быццам нешта падазраючы, цяжка ўздыхнула.

Усе гэтыя тры дні Люся завіхалася каля сына, дачку даглядалі бабка з дзедам. Яна пакупала хлопчыка, пастрыгла валасы, вывучала з ім гульню, што ляжала ў карабку, ледзь разабраліся, як там трэба хадзіць, як налічваць тыя ачкі.

— Будзеш гуляць з хлопчыкамі, — гаварыла яму Люся. — Гэта цікавей, чым мячык ганяць у пыле.

— Не-а, мячык цікавей, — не пагадзіўся Коля, — а гэта цацка г… — І ён ужыў слова, якое ў вёсцы лічыцца нармальным, не брыдкім.

— Што ты гаворыш, няможна такіх слоў казаць, — ласкава папракнула яго Люся.

— Чаму няможна? — здзівіўся Коля.

— Ну, яно брыдкае…

Дзед сядзеў на ложку, трымаючы на каленях Кацю, якая забаўлялася пустою шпулькаю.

— Ён і не такія слоўцы ведае, — уставіў дзед, усміхаючыся.

— То трэба вучыць дзіцяня, што можна і што няможна казаць, — папракнула Люся і бацьку.

— Гэ, — засмяяўся той. — Ён тут вучыцца не ад бабы з дзедам, вуліца, хлапчукі, тут не ўсцеражэшся.

Люся разумела, што гэта так, і не ёй было папракаць бацькоў за нейкі недагляд за хлопчыкам, за сына павінна адказваць яна, маці.

І Люся змоўчала, нічога не адказала бацьку.

Тры дні праляцелі, як тры хвіліны, і трэба было збірацца дамоў. А Коля, здаецца, толькі пачаў прывыкаць да маці, гаварыць з ёю, прымаць яе ласку. Люся разумела, што яна развярэдзіла і сваё сэрца, і сынава, ёй так хацелася ўзяць хлопчыка з сабою, каб жыў з ёю ў сям’і, каб Васіль стаў яму за бацьку. Але забраць сына вось так, не пагаварыўшы, не параіўшыся з мужам, не адважылася. Спадзявалася, што некалі ўгаворыць Васіля прыняць яе сына, спадзявалася на час.

4

Люся не сказала Васілю, што пабывала дома, што пабачылася з сынам, а маленькая Каця яшчэ не ўмела гаварыць і не магла расказаць бацьку пра іхняе падарожжа. Васіль вярнуўся — дома ўсё ў парадку, жонка на месцы, дачка дагледжаная, на пліце варыцца і смажыцца ў чаканні яго прыезду. Ён стаміўся за сваю камандзіроўку і рады быў апынуцца дома, дыхнуць тым утульным парадкам, які, аказваецца, умела стварыць Люся. Ён расказваў ёй пра свае клопаты, якія мала яе цікавілі, бо ведала — нічога не можа параіць мужу, нічым не можа дапамагчы, хаця Васілю яе дапамога і не была патрэбная, ва ўсім мог разабрацца сам. Яна слухала яго аповеды і не слухала, бо сэрца ўсё яшчэ заставалася там, каля сына, і для спакою, для шчасця ёй не хапала таго, каб і ён быў побач.

Але дні пабеглі, усё больш аддаляючы яе ад тых дзён, што падарылі сустрэчу з сынам, і трывога, боль меншалі, глухлі.

Тым часам Васіль купляў машыну, Люсі таксама падабалася мара мець уласнага «Жыгуля». Раней яна лічыла, што машыну могуць мець толькі вельмі багатыя, нечым надта заслужаныя людзі, а цяпер да той катэгорыі магла далучыцца і яна, і Люся дзякавала лёсу, які звёў яе з Васілём, у яе вачах ён рабіўся ўсё больш вартым чалавекам. Работа ў бібліятэцы, клопат па дому, дачка, залікі, экзамены ў інстытуце, дзе яна заставалася завочніцаю, — усё гэта забірала сілы, і ўспаміны пра сына радзей і радзей, хоць і балюча, праціналі сэрца.

Машыну купілі — блакітнага «Жыгуля». Васіль раздабыў і гараж, праўда, далекавата ад вуліцы, на якой яны жылі. Грошай хапіла сваіх, Люсі не спатрэбілася прасіць у бацькоў, і гэта зноў узняло Васіля ў яе вачах, яна, бачачы яго такую дзелавітасць, старалася ва ўсім яму дагадзіць, не спрачалася з мужам, яго слова было для яе законам.

Калі першы раз ехала з мужам у сваім аўтамабілі, грудзі яе поўніліся гонарам і радасцю, яна адразу адчула сябе чалавекам больш высокага гатунку, чым тыя, што часалі пехатою, спыняліся на скрыжаваннях густым натоўпам, даючы дарогу машынам. Васіля страшэнна раздражнялі пешаходы, што не прытрымліваліся правілаў дарожнага руху, не чакалі зялёнага святла, лезлі, як ён казаў, пад калёсы. Скора такія пешаходы пачалі раздражняць і Люсю. Васіля злавалі і вадзіцелі іншых машын, што рабілі, як яму здавалася, нешта не так, і ён лаяўся,

часам ужываючы і брыдкія словы. Люся была згодная, што тыя вадзіцелі — паскуднікі, але прасіла мужа:

— Не лайся пры дзіцяці…

Стаяў верасень — з залатою лістотаю, ранішнімі туманамі, туманы скора сплывалі, адкрываючы чыстае сіняе неба, з якога мяккім цяплом грэла восеньскае сонца. Яны некалькі разоў ездзілі па грыбы. У лесе пахла прэлым лістам, хваёваю смолкаю, па доле гулялі сонечныя зайчыкі, бліскаючы на сонцы, плавалі, чапляліся за дрэвы, за твар лёгкія павучынкі. Яны назбірвалі цэлыя вёдры апенек, часам трапляліся і баравікі. Стомленыя, задаволеныя, вярталіся ў горад. І Люся думала: як добра было б вось так, на сваёй машыне, прыехаць у вёску, да бацькоў, маці з бацькам убачылі б, што даччыно жыццё не зламалася ад першай вялікай няўдачы, што ў яе ўсё добра, што яна шчаслівая. Як добра было б пасадзіць у гэту машыну і Колю, разам з ім прыехаць у горад, зажыць адной сям’ёю.

Гэта думка, угаварыць Васіля, каб ён дазволіў забраць Колю, аднойчы прыйшоўшы, усё больш і больш апаноўвала Люсю. Але час ішоў, а яна ўсё не адважвалася загаварыць пра гэта з Васілём.

Зямля зрабіла вакол сонца яшчэ адно кола, надышоў новы верасень, пакуль таксама сухі і цёплы. Чысценькія, прыбраныя ў новае, з ранцамі за плячыма і кветкамі ў руках, пацягнуліся ў школу дзеці. І Люся раптам схамянулася, як апамяталася, — і яе Колю сёлета час ісці ў школу, у першы клас.

Яна сама вырасла ў вёсцы, да шостага класа хадзіла ў вясковую школу, у тую школу, мусібыць, адправілі і Колю, а матка нічым не далучылася да такога сынавага свята. Ды павучыўшыся ў мястэчковай школе, пажыўшы некалькі гадоў у Мінску, яна разумела, якая розніца паміж школаю вясковаю, дзе ў адным пакоі вучацца два ці тры класы, і школаю гарадскою. Канечне, не закон, што з гарадской школы выходзяць разумнейшыя дзеці, чым з вясковай, і ўсё-такі, усё-такі… Цяпер яна без сардэчнага болю не магла бачыць гэтых маленькіх гарадскіх школьнікаў, так акуратненька, чысценька апранутых, успамінала, якім убачыла свайго сына ў вёсцы — запыленага, нястрыжанага. Гарадскія дзеткі калолі яе сэрца папрокам, грызлі пачуццём віны, і яна вырашыла, што сёння ж, сёння пагаворыць з Васілём, будзе прасіць яго на каленях, на каленях.

Васіль прыйшоў з работы, прынёс Каці шакаладку. Ён амаль кожны дзень прыносіў дачцэ які ласунак — то цукерку, то шакаладку, то апельсін. Яна ўжо так прывыкла да тых гасцінцаў, што бацька толькі паяўляўся на парозе, яна пыталася:

— А што ты мне прынёс?

І бацька радаваўся, вымаў з кішэні пачастунак.

Люся, як заўсёды, добра пакарміла Васіля, ён, як заўсёды, пасля вячэры пазабаўляўся з Кацяю, пачытаў газету, потым сеў глядзець тэлевізар. Люся чакала моманту, хвіліны — калі пачаць гаворку. Пакуль забаўляўся з дачкою, пакуль чытаў газету, глядзеў тэлевізар — не адважвалася. Яны ўсе ўтрох паслухалі «Калыханку», Люся пайшла ўкладваць дачку спаць.

Васіль яшчэ крыху пасядзеў перад тым блакітным экранам, але нічога цікавага не перадавалі, і ён выключыў тэлевізар.

«Цяпер, вось цяпер», — думала Люся і не адважвалася. Гэта было ёй так страшна, як некалі, збіраючыся сказаць Васілю, што ў яе ёсць сын. «Але ж ён нічога, ён прыняў мяне, можа, і цяпер прыме», — абнадзейвала яна сябе.

Яна хадзіла па кватэры, уся наструненая, знерваваная, але дала сабе слова — сёння скажа, сёння папросіць.

Калі Васіль збіраўся ўжо распранацца, каб класціся спаць і прысеў на ложак, яна сапраўды апусцілася перад ім на калені.

— Ты што? — здзіўлена паглядзеў на яе Васіль.

Яна прыхінулася лбом да яго калена, заплакала.

— Васіль… На каленях цябе прашу… Золатка, сонейка, я ж так цябе люблю і паважаю… Богам цябе прашу…

— Ты што? — паўтарыў Васіль. — Чаго ты хочаш, просіш?

— Любы, дарагі Васільку… Дазволь… Дазволь прывезці майго сына, каб жылі мы ўсёй сям’ёю… Ён жа табе не перашкодзіць, ён такі харошы хлопчык.

Васіль нарэшце зразумеў, чаго просіць жонка, адвёў свае калені ад яе лба. Памалу, нетаропка скідаў кашулю. Маўчаў, нічога не адказваў. А тая не ўзнімалася з каленяў.

— Васільку, дарагі, ён табе не будзе замінаць, а ў мяне баліць сэрца… Маё ж дзіця… Бог табе аддзячыць…

Выхаваная ў атэізме, Люся не верыла ў Бога, ніколі не малілася, не хрысцілася, але словы, непадуладныя ёй, самі выляталі, самі гаварыліся.

— Уставай, няма чаго поўзаць, — непрывычна груба сказаў Васіль.

— Не ўстану, пакуль не дазволіш… Дазволь, дарагі, — плакала Люся.

Ён падняўся з ложка, адышоў ад Люсі, пачаў сцягваць штаны.

— Вязі, — не вельмі ахвотна сказаў ён.

— Праўда? — падхапілася з каленяў Люся. — Дазваляеш? Дзякуй табе вялікі, Васільку, дарагі, я ведала, што ты дазволіш,

ты ж добры, я цябе так люблю, а буду любіць яшчэ болей, няхай у майго сына будзе бацька, ты будзеш яму бацька, мы ўсе будзем цябе вельмі любіць, — лапатала Люся, абдымаючы і цалуючы Васіля.

Ён адвёў яе рукі.

— Я ж сказаў табе — вязі.

Люся не магла суняць слёзы, цяпер ужо шчаслівыя.

5

Бацькам было балюча аддаваць Колю, яны выгадавалі яго з пялёнак, і Люся разумела, што без унука яны будуць сумаваць, але што зробіш, яна пераконвала іх — у сям'і Колю будзе лепей, Васіль дазволіў яго прывезці, можа, прывыкне, палюбіць хлопчыка, будзе яму за бацьку.

Маці згодна ківала галавою, бацька болей маўчаў, а сам Коля быў яшчэ ў такім узросце, што з ім дарослыя маглі рабіць, што захочуць. Ён не выказваў ні радасці, што паедзе ў горад, ні вялікага смутку ад расстання з бабкаю і дзедам. Можа, ён яшчэ не разумеў, не зведаў вялікага смутку па маці, ён не паспяваў прырасці да яе сэрцам, як яна надоўга знікала. Выклікала ў яго хіба цікавасць, што вось, паедзе на аўтобусе, будзе жыць у нейкім там горадзе, у якім ніколі не бываў.

Перад пасадкаю ў аўтобус бабка пачала на развітанне цалаваць унука, некалькі разоў перахрысціла, плачучы. І дзед, здаецца, хаваў слязу.

— Шчасліва вам, шчасліва, — прыгаворвала бабка. — Калі ж цяпер прыедзеш, ці скора?

— Прыедзем, мама, прыедзем, усёй сям'ёю, — абяцала Люся.

Яны з Колем занялі вольнае месца, Люся абняла сына. Яна глядзела ў акно, за якім на вуліцы стаялі маці з бацькам і выцíралі далонямі вочы.

— Памахай бабцы з дзедкам ручкаю, — папрасіла сына.

І Коля памахаў рукою, і яны яму памахалі.

Люсі не цярпелася, каб хутчэй рушыў аўтобус, нібыта баялася, што зараз нешта зменіцца, бацькі адумаюцца і забяруць Колю, не аддадуць ёй. Але вось аўтобус рушыў, вяскоўцы, што праводзілі сваіх, аддаляліся, аддаляліся, нарэшце і зусім зніклі. Люся везла сына дадому, у сям'ю.

Васіль адчыніў ім дзверы — не ўсміхнуўся, не павітаўся, быдта Люся хадзіла ў які магазін і вось, вярнулася. І быдта

вярнулася адна. Ён толькі на міг кінуў вокам на хлопчыка і тут жа адвёў позірк.

— Вось мы і прыехалі, вось мы і дома, — лапатала Люся, распранаючыся, скідаючы куртачку і ў сына. Яна даравала Васілю і змрочнасць, і няўвагу да хлопчыка. «Нічога, нічога, — думала яна, — прывыкне… Абы дазволіў яму жыць з намі».

З другога пакоя выбегла Каця, падкацілася да маці.

— А во твая сястрычка, ты памятаеш яе? — пыталася Люся ў сына, тым самым выдаючы сябе, што без мужавага дазволу ездзіла ў вёску. Але Васіль на гэтыя словы, здаецца, не звярнуў увагі. Коля панура маўчаў, нічога не адказваў. І за сталом, калі вячэралі, маўчаў, сам нічога не адважваўся ўзяць са стала, еў толькі тое, што маці клала яму на талерку. Ён рукамі ўзяў катлетку, панёс да рота. Люся стрымала яго.

— Няможна браць катлетку рукамі, во відэлец, вазьмі відэльцам.

Коля здзіўлена паглядзеў на маці, узяў відэлец, пачаў няўмела тыкаць ім у катлету.

Яны з Васілём спалі ў маленькім пакоі, які называлі спальняю, тут месціўся і Кацін ложак. Колю паслалі на канапцы ў большым. Калі патушылі святло, Люся абняла Васіля.

— Ты прывыкнеш да яго, ён харошы хлопчык, можа, не зусім выхаваны, але ведаеш — вёска… Ды ўсе мы з вёсак, не так даўно гарадскімі парабіліся.

— Прыпішаш яго… Падам заяву ў кантору, каб далі кватэру, — сказаў Васіль. — На чатырох гэта малая… Яна і на трох малая.

— Ага, праўда, — узрадавалася Люся, што сын, аказваецца, можа прынесці і карысць. — Вам, будаўнікам, скарэй кватэры дабіцца… Можа, праз які год і дадуць.

— Няхай даюць трохпакаёвую, — патрабавальным тонам сказаў Васіль.

— Ага, няхай даюць, — падтрымала яго Люся.

Васіль адвярнуўся да сцяны і скора заснуў, а Люся доўга не магла звесці вочы, прыслухоўвалася да нячутнага адсюль дыхання сына, але ведала — Коля тут, і якое гэта шчасце.

І пабег час, не спыняючыся ні на імгненне, адносячы ў мінулае тое, чым жылі гэтую хвіліну, прыносячы з бясконцай будучыні новыя і новыя клопаты. Люся ўладзіла сына ў школу амаль побач з домам. Хутка высветлілася, што Коля крыху адстае ад сваіх равеснікаў, тыя ўжо чытаць умеюць, а ён толькі склады

асвойвае. І піша неакуратна, літары ў яго крывыя. Трэба было дома пасядзець з ім, павучыць. Бегучы з работы, Люся па дарозе забірала з садка дачушку, а прыйшоўшы, не ведала, за што раней хапацца — ці вячэру гатаваць, ці рыхтаваць з сынам урокі, ці мыць ды прыбіраць, а яшчэ надышоў час пісаць дыпломную работу, яна дапаўзла ўсё-такі да апошняга курса, усе прадметы паздавала, заставаўся дыплом, і трэба было набрацца сілы, каб яго напісаць, іначай усе гады вучобы пойдуць намарна. І неяк з усім упраўлялася, пакуль Васіль прыходзіў са сваёй чарговай будоўлі, у яе было і памыта, і зварана, за дыплом садзілася, калі ўсе засыналі.

Васіль, як заўсёды, прыходзячы з работы, прыносіў Каці гасцінцы. Колю не прыносіў. Люся бачыла, што і Колю хочацца таго ласунку, і супакойвала яго, апраўдваючы мужа:

— Ну, ты ж ужо вялікі, а яна маленькая…

Вось і сёння Васіль выняў з кішэні, падаў Каці шакаладку. Тая заскакала ад радасці, пачала разгортваць паперку, за ёю — хрусткую серабрыстую фольгу. Васіль мыўся ў ваннай.

— Адламі кавалачак і Колю, дай яму пакаштаваць, — папрасіла Люся дачку.

— Ён ужо вялікі, — заявіла Каця і пабегла са сваёю шакаладкаю ў спальню.

— Нічога, я табе куплю, — сказала Люся, абдымаючы сына.

І назаўтра, ідучы з работы, купіла дзве шакаладкі — дачцэ і сыну. Дома ўрачыста падала гасцінцы дзецям. Каця, прывыкшая да ласункаў, тут жа схапіла шакаладку, пачала з ёю распраўляцца. А Коля замяўся.

— Я ўжо вялікі, — сказаў неяк панура.

— Не такі ўжо і вялікі, бяры, еш, — абняла яго Люся.

Коля ўзяў шакаладку, але не разгортваў, доўга разглядаў малюнак на паперцы, панюхаў, потым панёс і паклаў шакаладку ў ранец.

— Чаму ж ты не ясі? — здзіўлена спытала Люся.

— Я потым з'ем…

Праз некалькі дзён Люся палезла ў Колеў ранец паглядзець сшытак, што і як ён напісаў у школе, і вельмі здзівілася, калі ўбачыла, што тая шакаладка, зусім некранутая, дасюль ляжыць сярод кніжак.

Яе крыху мучыла, што Васіль зусім не заўважае хлопчыка, ніколі з ім не пагаворыць, наогул, нібы Колі ў хаце і няма, праходзіць каля яго, як каля пустога месца, мусіць, каб у хаце былі

кот ці сабака, ён болей аддаваў бы ім увагі. Люся старалася зразумець мужа: «Канечне, хлопчык нагадвае яму мой грэх… Я сама вінаватая… Цяпер трывай… За кожную віну павінна быць пакаранне… Але няхай пакаранне будзе мне, а за што ж дзіцяці, дзіця ж ні ў чым не вінаватае…»

А Коля, мусібыць, адчуваючы непрыязнасць да сябе айчыма, таксама стараніўся яго, нават быццам баяўся. Часам, пакуль Васіля не было дома, ён па-дзіцячы дурэў, гуляў з Кацяю, а як Васіль паяўляўся ў хаце — сціхаў, насцярожваўся.

Люся бачыла ўсё гэта, перажывала, але зноў спадзявалася на час, што прывыкнуць яе мужчыны адзін да аднаго, дасць Бог, і пасябруюць. Яе цешыла, што ў хаце няма сварак, няма скандалаў, як у іншых сем'ях.

Але напружаны спакой, што панаваў у сям'і, аднойчы такі выбухнуў сваркаю. Люся гатавала вячэру на кухні, як раптам пачула дзіцячы плач і грозны, злосны мужаў голас. Яна выбегла ў пакой. Каця, седзячы на падлозе, моцна плакала, Васіль трымаў за каршэнь Колю і пальцам грозна трос перад яго тварам.

— Што такое, што такое? — кінулася да іх Люся.

— Суймі свайго бэнся! — злосна крычаў Васіль. — Бо я яму галаву адарву, суймі яго!

Люсю разанула гэта слова — бэнсь, але зрабіла выгляд, што не пачула яго, прапусціла міма вушэй. Пачала пытаць нервова:

— А што, што ён зрабіў?

— Ён Кацю набіў, набіў малую!

Люся кінулася да сына, вырвала яго з рук раз'юшанага мужа, але таксама грозна, строга спытала:

— Ты навошта яе набіў?

Коля, пабялелы, спалоханы, здаецца, не мог нават гаварыць. Але маці торгала яго за руку, дапытвалася:

— Чаму ты яе набіў?

Заікаючыся і плачучы, Коля прагаварыў:

— Я яе н-не біў… Я толькі адпіхнуў…

— Адпіхнуў? А чаго піхаў? — пыталася маці.

— А чаго яна ў мой ранец палезла?

— У ранец палезла?.. То за гэта трэба біць, піхаць? — насядала на сына Люся.

Хоць ёй было і шкада Колю, яна адчувала ўжо, што вялікай бяды хлопчык не ўчыніў, але хацела паказаць мужу, што і яна строга ставіцца да сына, не дазволіць яму рабіць нешта кепскае.

Каця, убачыўшы, што на яе абарону выступілі і бацька, і маці, яшчэ мацней залілася плачам.

Люся падышла да яе, падняла з падлогі.

— Ён што, моцна цябе набіў? Пакажы, дзе ён ударыў? — пыталася ў малой Люся.

— Вось сюды ўдарыў, — паказала яна на грудзі.

Васіль, расхваляваны, хадзіў па пакоі, курыў.

— Калі ён яшчэ хоць дакранецца да малой, я з яго скуру спушчу! — грозна гаварыў Васіль да Люсі.

— Ну, ціха, — супакойвала тая і дачку, і сына, і мужа. — Вялікай бяды не адбылося, яны дзеці, паб'юцца і паміracца… А ты таксама не лезь да яго ў ранец. Чаго ты палезла?

Як потым аказалася, Каця падгледзела, што Коля не з'еў сваёй шакаладкі і насіў яе ў ранцы. Каця вырашыла, што гэта несправядліва — насіць шакаладку ў ранцы і не есці, значыць, Коля сапраўды вялікі і не любіць шакаладак. Яна і палезла па тую шакаладку. А Коля не з'еў, бо шкадаваў, надта прыгожая была паперка на шакаладцы, ён толькі паказаў шакаладку хлопцам у школе.

— Ціха, не плачце, — супакойвала Люся дзяцей. — Каця болей не будзе лазіць у твой ранец, а Коля не будзе цябе піхаць.

Дзяўчынка хутка супакоілася, а Коля, зашыўшыся ў куток на сваёй канапцы, яшчэ доўга плакаў.

Васіль апрануў паліто, пайшоў на вуліцу. Люся падсела да хлопчыка на канапку, абняла яго.

— Ціха, сынок, не плач, і з'еш ты тую шакаладку, чаго яе берагчы? Я табе куплю другую. І не чапай ты гэтай румзы, яна ж і праўда яшчэ малая…

Люся часта карысталася момантам, калі Васіля не было дома, прыгалубіць, пашкадаваць сына. Пры мужу не адважвалася адкрыта выказваць ласку да хлопчыка, нешта стрымлівала. Хацела, мабыць, паказаць Васілю, што ставіцца строга да сына. А ў душы шкадавала яго, неяк злавіла сябе на адчуванні, што шкадуе яго нават болей, чым дачку.

Васіль вярнуўся з вуліцы крыху супакоены. Яны павячэралі, паглядзелі тэлевізар. Васіль трымаў Кацю на каленях, Люся сядзела побач, Коля глядзеў са сваёй канапкі, заціснуўшыся ў куток.

Калі ляглі спаць і патушылі святло, Люся пачала прасіць мужа:

— Васільку… не называй Колю бэнсем… Ён жа не вінаваты… Я ва ўсім вінаватая, але ты ж мне дараваў… Не называй…

Васіль нічога не адказаў, павярнуўся да яе спінаю і скора заснуў, а яна зноў доўга не магла змежыць вочы. Сварка пака-

зала, што не ўсё добра ў яе каралеўстве, што Васіль не любіць хлопчыка і толькі стрымлівае сябе, стрымлівае раздражненне супроць яго. «Якому ж Богу маліцца, каб ён змякчыў мужава сэрца?» — думала Люся, якая не верыла ні ў якога Бога.

Як пасля буры на моры, у сям’і запанаваў штыль, але было ўжо ясна — бура можа паўтарыцца, і Люся баялася гэтага. Аднак супакойвала сябе — няма той хаткі, дзе не было б звадкі, і тут навальніца наляціць, праляціць, жыццё лепіцца не з адных прысмакаў, трапляюцца і горкія кавалкі. Аднак яна не магла не заўважыць, што пасля таго, як прывезла ў сям’ю Колю, Васіль да яе змяніўся. Стаў нейкі халодны, абыякавы, часам мог кінуць ёй і грубае слоўца.

Яна вінавaціла толькі сябе. Яе грэх, яе грэх… Але, Божа мой, ну што за грэх, калі яна дала жыццё дзіцяці, няўжо на свеце было б лепей, каб не нарадзіўся яе хлопчык? А яна цяпер не магла нават уявіць сабе — ну як гэта было б, каб не жыў на свеце яе Коля? І потым, Васіль жа ведаў, што ў яе ёсць дзіця, але ўзяў замуж. А яна думала — дараваў… Але дараваў, пакуль сын быў далёка, не трапляў на вочы кожны дзень.

Чаму мужчыны такія строгія да маральнасці сваіх жонак? Спакон веку, яшчэ ў біблейскія часы жанчыну, што здрадзіла мужу, закідвалі камянямі… І цяпер нявернасць жонкі — самая грунтоўная прычына, каб суд скасаваў шлюб. Мужчыны куды вальнейшыя, векавая традыцыя ўзаконіла за імі права на куды большую вольнасць. А жанчына? Бо мужчына мусіць быць упэўнены, што дзеці, якіх нарадзіла яго жонка, — ягоныя дзеці, дай жанчыне волю, то прыйдзецца гадаваць чужых дзяцей. Чужыя дзеці, свае дзеці… Бач, як кінуўся абараняць Кацю, хаця Коля надта моцна яе не пакрыўдзіў, сапраўды крыху піхнуў. Каця, бачыш, ягоная кроў, а Коля — дзіця чужое… Можа, дарэмна прывезла яна хлопчыка сюды, можа, лепей было б яму жыць з дзедам і бабаю?

Але не, не, трэба неяк зблізіць іх, прывучыць адно да аднаго, жыць сям’ёю, яна будзе старацца, будзе ўсё рабіць, каб змякчыць Васілёва сэрца. І яна зноў старалася ва ўсім дагадзіць мужу, гаварыла яму добрыя словы, начамі лашчылася, абдымала, і часам ён мякчэў, быдта зноў вяртаўся ў тыя дні, калі ім абаім было так добра адно з адным. Але такое доўжылася коратка, хутка зноў надыходзілі напружанасць, халоднасць.

Так прамінула зіма, у вокны раз за разам пачало пазіраць яркае веснавое сонейка, па вуліцах пабеглі раўчукі, звонка загучалі ў двары дзіцячыя галасы.

У кантору, дзе працаваў Васіль, паступіла заяўка на будаўніцтва новага аб'екта ў вобласці, фарміравалі брыгаду, Васіля паставілі ўзначальваць будаўнікоў. Звычайна Люся не любіла мужавых камандзіровак, сумавала без яго, ды ён быў і добрым памочнікам у хаце — часта прыносіў прадукты, падчас прыборак выбіваў дываны, дапамагаў развешваць на вуліцы памытую бялізну — балкона ў сваёй кватэры яны не мелі. Гэтым жа разам нават крыху ўзрадавалася, што муж паедзе, што нейкі час пражывуць без яго. Але старалася не паказваць гэтага, знарок моцна ўздыхала, рабіла выгляд — надта перажывае, што мужа доўга не будзе дома.

Васіль паехаў, і разам з сумам, пустатою, што часам агортвалі Люсю, яна адчула і нейкую вольнасць, свабоду. Не трэба было азірацца на кожны свой і Колеў крок, выбіраць словы, каб не зачапіць ні аднаго, ні другога. Яна быццам дала волю свайму сэрцу — не шкадавала для сына пяшчотных слоў, не баялася цяпер адкрыта абняць яго, прыгалубіць. Яна купіла яму новы касцюмчык, новыя чаравічкі, кашульку. Хоць жылі яны і не бедна, але пры Васілю баялася траціць на сына вялікія грошы.

І Коля нібы ажыў. Люся цяпер бачыла яго шчаслівыя вочы, ён стаў часта ўсміхацца, а часам, дурэючы з Кацяй, і моцна рагатаць. Той інцыдэнт з дзецьмі даўно забыўся, яны, здаецца, пасябравалі. Часам Люся выпраўляла іх гуляць на вуліцу, загадваючы Колю глядзець за Кацяю, і той ужо нікому не даваў малую ў крыўду.

Люся напісала пісьмо мацеры з запрашэннем прыехаць у госці, і маці, абвешаная вандзэлкамі, неўзабаве паявілася ў даччыной гарадской кватэры. Люся не ведала дня, калі прыедзе маці, гатавала абед на кухні, пачула стук у дзверы, гукнула:

— Коля, адчыні.

Хлопчык пабег адчыняць, і Люся раптам пачула немы крык сына. Яна спалохалася, плюхнула ў каструлю напалову абабраную бульбіну, кінулася ў прыхожую. Коля, абхапіўшы бабку за шыю, нема крычаў з радасці.

І Люся заахала, засмяялася, абняла маці, павяла ў кватэру.

— Чаго ж ты стукаеш у дзверы, трэба было званок націснуць, піпачку, што на вушаку, — прыгаворвала яна.

— А хто вас тут ведае, якія вашы піпачкі, — смяялася маці, радая сустрэчы з дзецьмі.

Коля ўсё вішчаў, тупаў нагамі, Каця стаяла ўбаку, заклаўшы за спіну рукі, не разумеючы, чаго такі вэрхал паднялі маці з

братам. Яна зусім не памятала бабку, і прыезд яе не выклікаў у малой ніякіх эмоцый, акрамя здзіўлення.

— А дзедка дзе, чаму дзедка не прыехаў? — пытаўся Коля.

— От чаго захацеў, — ласкава адказвала бабка, — каб ужо і дзедка прыехаў. А хто карову падоіць, парсючка, курэй накорміць?

Яна пачала развязваць свае вандзэлкі. Тут былі і сала, і свае, хатнія, кілбасы, масла ў гліняным збаночку, сыры ў анучках. І яшчэ выняла вялікаватую белую торбачку, поўную гарбузікаў.

— Столькі навезла, як у цябе сілы хапіла давалачы? — пыталася Люся.

— А нічога, як той казаў, свая ношка не цягне, — адказвала маці. Яна скінула хустку, гарачаватую ўжо для такой пары куртку, узмакрэлая, радасная, пазірала на ўнукаў.

— Колечка, як ты падрос, змяніўся, каб на вуліцы сустрэла — не пазнала б… І кашулька ў цябе такая прыгожая.

— Гэта мне мама купіла, — пахваліўся Коля.

Бабка падышла і да Каці, пагладзіла па галаве, пацалавала.

— Якая ж ты красівая, унучачка, — прамовіла ласкава.

Каця сапраўды расла ў іх прыгажуняй — вялікія сінія вочы, доўгія кучаравыя валаскі.

Але дзяўчынка не выказала да бабкі ніякіх пачуццяў, пайшла ў свой куток, узяла ў рукі ляльку.

Дзень быў пагодны, сонечны, жыццё рвалася з зямлі на святло, на вольнае паветра, трава ўкрыла двор зялёным дыванам, пупышкі на дрэвах, цяжарныя лісткамі, гатовыя былі вось-вось іх нарадзіць. І ў кватэру, у пакоі рвалася веснавое сонца, на сценах, на падлозе ляжалі яркія плямы святла, у раскрытую фортку плыў салодкі водар. Настрой ва ўсіх быў нібыта святочны, усе радаваліся адно аднаму, і Люся радавалася, хоць недзе глыбока, на дне душы, таіўся і жаль, шкадаванне, што няма з імі Васіля, як добра было б, каб і ён далучыўся да іхняй радасці.

Вечарам яны з маці леглі разам, на ложку, дзе Люся спала з Васілём. Патушылі святло, але хоць час быў ужо позні, цішыні ў кватэры не наступала. У суседзяў моцна гучаў тэлевізар, па вуліцы раз за разам з грукатам праязджалі машыны, у двары гаўкалі сабакі, якіх гаспадары павыводзілі на познюю прагулку. Люся прывыкла ўжо да гэтага несціханага гарадскога шуму, дзеці наогул яго не заўважалі і скора паснулі. Маці не спала. Можа, не магла звесці вочы на новым, непрывычным, месцы? Але не давала змежыць вочы, мабыць, іншае.

— Ну, як тут у вас? — спыталася сцішана. — Як твой да Колі? Не крыўдзіць?

Люся маўчала. Спачатку хацела сказаць мацеры — усё добра, не крыўдзіць, усё нармальна. Але душа турбавалася, была неспакойная, і хацелася хоць некаму выліць тое, што сабралася ў грудзях.

— Ведаеш, мама… Так то не крыўдзіць… Але ён… Быдта і няма Колі… Быдта пустое месца… І чуе мая душа — не любіць ён яго… Аднойчы нават… Ну, ён не пабіў яго, але так…

— Ты скажы, — павярнулася да дачкі маці, — замінае яму хлопчык…

Маці, мусібыць, знайшла правільнае слова — замінае… І вельмі судзіць Васіля Люся не бралася. Нікога не прымусіш любіць чужое дзіця, ды яшчэ незаконнае, вечны папрок яго мацеры ў легкадумнасці, у не вельмі строгай маральнасці. Але тое ж было, было і сплыло, цяпер Люся і ў думках не трымае, каб здрадзіць Васілю, цяпер яна яму верная з верных…

Душа чалавечая… Ніхто да дна не спазнае, што ў ёй творыцца, не толькі ў чужой, але і ў сваёй. Можа, Васіль і сам не чакаў, што так незалюбіць пасынка, можа, і сам не рады…

— Ведаеш, ён і да мяне стаў халаднейшы… Пачужэў… Няма таго, што раней.

Маці зноў уздыхнула.

— То, можа, не трэба было браць Колю ад нас, няхай бы ў нас жыў, — сказала маці.

— Думала я пра гэта… Але мне шкода Колю… Усё-такі гарадская школа… І пры мацеры, у сям'і. І ведаеш, Васіль падаў заяву, каб далі большую кватэру… Ну, паколькі сям'я пабольшала… Ды я ўсё спадзяюся — можа, прывыкне, няхай не палюбіць, але прывыкне.

Маці слухала з вялікім спачуваннем.

— А як Коля заве яго — тата, дзядзька?

— А ніяк не заве… Неяк абыходзіцца… Ды яны не надта там размаўляюць…

— Лета ідзе, канікулы, прывозь Колю да нас, — сказала маці.

— Ага, прывязу…

— Мы ж па ім так сумуем… Нібы душу вынялі з хаты, — прызналася маці.

Ляжалі моўчкі, сон не ішоў ні да Люсі, ні да мацеры.

— Ну, а як вы там? — спыталася Люся.

— А нічога, перазімавалі вось… Цяпер трава пайшла, бульбы да новай хопіць і нам, і парсючку… Карову пакуль не

хачу збываць, усё жыццё трымала, як і адна, без бацькі жыла, а цяпер… Як без каровы? Пакуль сілы будуць… Бацька, праўда, аслабеў, ходзіць ужо, як стары дзед, нагамі шоркае, а нядаўна ж усё подбегам, подбегам…

— Беражыцеся, — з клопатам сказала Люся. — Цяжка карову трымаць, то здайце на мяса, не надрывайцеся…

— О-ох, — уздыхнула маці, — як жа яе здасі на мяса, яна ж быдта свая, родная…

— Яно так, — пагадзілася Люся, — але давай, мама, спаць. Ужо і тэлевізар за сцяною сціх, і сабакі не гаўкаюць.

Але маці не засынала.

— Ну, а як у твайго, якая радня ёсць? Маці, бацька?

— Не, ён малодшы быў у сям'і, маці, бацька памерлі, ёсць у яго толькі старэйшы брат Іван, жыве ў Рэчыцы, пад Гомелем, але я яго яшчэ ні разу не бачыла.

Маці зноў пра нешта думала. Нарэшце пагадзілася:

— Давай спаць.

## 6

На канікулы Люся і праўда сабрала Колю, каб завезці ў вёску. За час, што жыў з імі ў сям'і, яна купіла яму некалькі дзіцячых кніжак-казак, купіла альбом для малявання і фарбы, каляровыя алоўкі. Усё гэта Коля браў з сабою.

— Ты ж гэтыя казкі чытаў ужо, — сказала Люся.

— А я яшчэ раз прачытаю… І буду маляваць…

— Ну што ж, прачытай і малюй, гэта ты маладзец, малюй.

Яна яшчэ зімою заўважыла цягу сына да малявання. Ён гадзінамі мог сядзець за сталом і нешта выдумляць на паперы, размалёўваць фарбамі, чым таксама раздражняў Васіля, і ёй трэба было выдумляць розныя прыёмы, каб і сыну дазволіць рабіць тое, што яму падабаецца, і мужа не раздражняць. Адзін з прыёмаў быў такі, што побач з Колем яна садзіла Кацю і ёй давала лісток паперы, каляровы аловак, каб і яна малявала. Каця абы-што крэмзала алоўкам на лістку, і тут толькі трэба было глядзець, каб не ўсчаўся між дзецьмі канфлікт, бо Каці аказваўся патрэбным іменна той аловак, якім маляваў Коля, той не даваў алоўка, і Люся вучыла, прасіла яго — давай малой усё, што яна папросіць.

— Але я малюю лес, мне патрэбен зялёны аловак, а ёй якая розніца, якім крэмзаць.

— Ну, яна малая, яшчэ дурненькая, каб не было крыку.

І Коля аддаваў ёй зялёны аловак, пачынаў маляваць лес алоўкам сінім, і потым яму здавалася, што так лес выглядае яшчэ прыгажэй.

Калі Васіль бачыў абодвух дзяцей за такім заняткам, то, здаецца, не так раздражняўся, толькі ўжо вельмі сачыў, каб Коля не пакрыўдзіў малую.

Люся склала Колева адзенне, тыя кніжкі, фарбы ды альбом у чамаданчык, паехала з ім на аўтобусную станцыю. Яна спісалася з бацькамі — калі, якім аўтобусам прыедзе хлопчык у мястэчка, дзедка будзе там яго чакаць і на мясцовым аўтобусе завязе дадому.

— Я і сам мог бы даехаць, — гаварыў Коля, — я ведаю, якія аўтобусы ідуць і ў мястэчка, і ў нашу вёску.

— Нічога, няхай дзедка цябе сустрэне, я і так буду хвалявацца, што аднаго пасадзіла цябе ў аўтобус.

Перад самаю пасадкаю Коля раптам паглядзеў на маці і спытаў не то з трывогаю, не то са спадзяваннем:

— А ты возьмеш мяне назад пасля канікулаў?

Люсіна сэрца крануў жаль. Зразумела, што сын душою адчувае — не вельмі рады яму айчым, не надта жаданы ён тут госць. Але на хвілінку стрымалася ад простага адказу, захацела пачуць, што скажа сын.

— А ты хочаш, каб я цябе забрала? Ці лепей застацца ў бабкі з дзедкам?

Хлопчык з хвіліну нібы думаў.

— Хачу, каб забрала… Хачу з табою жыць.

Люся абняла яго, пацалавала.

— Канечне, забяру, і я хачу з табою жыць, ты ўжо ў другі клас пойдзеш, забяру, канечне, а ў вёсцы ты падыхаеш чыстым паветрам, сырадойчыку пап’еш, яечка свежае з-пад курачкі з’ясі.

— Ага, ага, — ківаў галавою Коля.

Падышоў аўтобус — вялікі, чырвоны, з высокімі мяккімі крэсламі, зверху якіх ляжалі белыя сурвэткі — каб людзі галовамі не папэцкалі дарагую тканіну. Пасажыры — з чамаданамі, сумкамі, рукзакамі заспяшаліся на пасадку, усе хваляваліся, быццам некаму не хопіць месца, хаця ў кожнага ў руках быў білецік з указаным нумарам крэсла. І Люся паддалася таму хваляванню, заспяшалася, піхаючы перад сабою Колю і аберагаючы яго ад штурхатні. Але ўсе паўваходзілі ў аўтобус, пазаймалі свае крэслы, супакоіліся. Колева месца аказалася каля акна — ён быў задаволены, рады падарожжу, але нешта і трывожнае таілася ў яго вачах.

— Глядзі, сынок, без дзедкі нікуды не хадзі, ні ў які аўтобус не лезь, дзедка будзе чакаць цябе на станцыі.

— Добра, добра, ага, — пагаджаўся Коля.

— Як прыедзеш, напішы мне пісьмо, каб я тут не хвалявалася…

— Ага, ага, — зноў пагаджаўся хлопчык.

Люся выйшла з аўтобуса, стала перад акном, за якім свяціўся тварык сына, махала яму рукою. І Коля махаў ёй рукою.

Нарэшце аўтобус рушыў, памалу разварочваючы свой доўгі кузаў, пачаў вырульваць са станцыі. Люся махнула яму наўздагон рукою.

Вярталася дадому з невясёлым настроем — шкадавала сына. «Непрыкаяны ён нейкі… І сам адчувае сваю непрыкаянасць. Бач, спытаўся, ці забяру назад… І хоча назад… Хоча са мною жыць…»

Васіль усё яшчэ быў у камандзіроўцы, Люся цяпер заставалася толькі з Кацяю. Клопату нашмат паменела, дачка снедала, абедала, вячэрала ў садку, дома яе толькі крышку падкормлівала. Сабе абедаў не гатавала, перабівалася якою перакускаю. І мыцця бялізны, прыборкі паменела. Яна ўхапілася за гэтую свабоду, дапісала дыпломную работу, а хутка яе і абараніла. Такім чынам, адна гара з плеч — інстытут закончаны, у руках цвёрдая сіняя кніжачка — дыплом, яна цяпер дыпламаваны бібліятэчны работнік.

Калі вярнуўся Васіль, яна паклікала ў госці сваіх супрацоўніц — Веру і Марту Цімафееўну, адсвяткавалі гэтую падзею. Васіль радаваўся разам з Люсяю, але ёй здавалася, што ён радуецца не толькі яе дыплому, а і таму, што няма тут, на яго вачах, Колі. Як бы там ні было, але ў хату вярнулася спакойнае, шчаслівае жыццё, яны з Васілём быдта нанава зблізіліся, быдта вярнуўся іх мядовы месяц.

Васіль за час камандзіроўкі не меў ніводнага выхаднога дня і цяпер узяў адгул. Найболей корпаўся ў гаражы каля машыны, а ў нядзелю яны, узяўшы з сабою Кацю, ездзілі за горад. Акурат пайшлі суніцы, Каця хадзіла па лесе з кубачкам, але ў тым кубачку ледзьве закрывалася дно, больш ягадак ішло проста ў рот. Васіль ласкава смяяўся з дачкі:

— Так, так, дачушка, мы з мамаю за цябе пастараемся.

І яны назбірвалі цэлыя збанкі духмяных суніц, а дома Люся перацірала іх з цукрам і закатвала ў слоікі — рабіла нарыхтоўкі на зіму. А далей пайшлі грыбы. Васіль ведаў мясціны, куды не дапалі яшчэ гарадскія грыбнікі, і яны зноў назбірвалі цэлыя вёдры маслякоў, падасінавікаў, часам і баравікоў. І Люся зноў

рабіла на зіму нарыхтоўкі. Яны з Васілём за гэты час ні разу не пасварыліся, ні разу не паглядзелі адно на другога коса.

Ды лета канчалася, надыходзіў новы навучальны год, і трэба было ехаць па сына. Яна падазравала, што Васілю яе хлопчык зноў будзе замінаць, але спадзявалася, як на цуд, — а раптам муж зменіцца? Прыдавала ўпэўненасці і тое, што Васіль чакаў кватэры на тую заяву, што падаў: маўляў, прыбаўленне сям'і. Так што хоча не хоча, а хлопчыка мусіць прыняць… А далей?.. А раптам прымірыцца?

Канец жніўня выдаўся надзіва цёплы, сонечны, сухі. Усцяж дарогі, па якой ехаў аўтобус, залаціліся скошаныя нівы са сталкамі абмалочанай збажыны, на пакуль зялёных лугах пасвіліся каровы, каля невялікіх сажалак, у якіх пабліскваla срэбрам вада, хадзілі, перавальваючыся, гусі, качкі. Пасажыры ў аўтобусе пагойдваліся ў сваіх крэслах, хто драмаў, хто, сцішаны, сядзеў, паглыбіўшыся ў свае думкі. З кабіны шафёра, абклеенай фотаздымкамі амаль распранутых артыстак, паціху лілася музыка.

Пасажыры ехалі ў адным аўтобусе, у адным кірунку, міналі адны краявіды, чулі адну музыку з кабіны шафёра, але якія, мабыць, розныя думкі снавалі ў кожнага ў галаве, якія розныя клопаты турбавалі кожнага. Люся часам адрывалася ад сваіх думак, паглядала на пасажыраў, чые твары былі ёй відаць, і меркавала: вось у гэтай дзяўчыны, а можа жанчыны, беленькай, у сіняй шаўковай блузцы, напэўна, усё ў парадку, які спакойны яе мілы тварык, хаця, відаць, і яна пра нешта думае… А вунь тая жанчына з завіўкаю, што трымае на каленях хлопчыка… Яе хлопчык, нябось, не бэнсь, ніхто так не назаве яе хлопчыка, ён законны, законны…

Люсі здалося, што прыехалі вельмі скора, а неўзабаве падалі і мясцовы аўтобус — маленькі, абшарпаны, аблуплены, з прадушанымі крэсламі, запыленымі вокнамі, але ён вёз дадому, дадому, да бацькоў, да сына.

Коля за лета падрос, выцягнуўся, як дубчык, і ў твары, у вачах з'явілася нешта новае, крыху больш сталае, ці што. Ён узрадаваўся мацеры.

— Ты па мяне прыехала, па мяне? — пытаўся нібы з трывогаю, што, можа, і не па яго.

— Па цябе, сынок, па цябе, — абдымала яна сына і чула яго пах, таксама быдта новы, незнаёмы.

Коля вылузаўся з яе абдымкаў, пабег, прынёс свой альбом для малявання.

— Паглядзі, якія я карціны намаляваў, — пачаў адгортваць ён старонку за старонкай, і вочы яго блішчалі незнаёмай Люсі радасцю. Яна села з сынам за стол, пачалі разам гартаць альбом. Там былі намаляваны то лес, то хатка, поплаў з рамонкамі і васількамі, тое, што бачылі вакол сябе Колевы вочы, але Люся падзівілася таму настрою, які выклікалі гэтыя дзіцячыя малюнкі. Ад таго, што было намалявана, павявала нейкай дабрынёю, шчырасцю, лагодаю.

— Маладзец, маладзец, — хваліла яна сына.

— То ён жа гадзінамі сядзіць і мажа, мажа, — здаецца, нават з папрокам сказала бабка. — Прымусіў дзеда купіць у мястэчку фарбы, алоўкі, яшчэ альбом.

— А тыя, што я табе дала, хіба скончыліся? — спытала Люся.

— Захацела! — узбуджана азваўся Коля. — Дзіва што скончыліся, у мяне ўжо і гэтыя скончыліся.

— Нічога, я табе ў горадзе новыя куплю, — паабяцала Люся і павярнулася да маці. — Няхай малюе, гэта лепей, чым бегаць па вуліцы.

— Яго і на гэта хапае, — зноў нібы з папрокам сказала маці, але ў тым папроку Люся адчула і ласку, і любоў да ўнука, то быў, можа, і не папрок, а звычайная старэчая буркатня, за якою і дабрыня, і спагада.

Коля быў рады, што ад’язджае, і бабка зноў нібы з папрокам спытала ўнука:

— Хіба табе ў нас было так кепска? Крыўдзілі цябе, за вушы круцілі, хоць часам і варта было?

— Не, бабка, мне было добра, — апраўдваўся Коля.

— А мы ж тут без цябе сумаваць будзем, — уставіў сваё і дзед.

Коля не ведаў, што адказаць, нарэшце прыдумаў:

— Я вам лісты буду прысылаць… І свае малюнкі… А гэтыя во пакіну, — схапіў ён альбом, падрыхтаваны ўжо да таго, каб узяць з сабою, узрадаваны, што прыдумаў, як супакоіць дзедку з бабкай, ён пачаў разбіраць лісты альбома, потым пабег у сенцы, схапіў з паліцы, дзе віселі дзедавы цяслярскія прылады, малаток, зачарпнуў са скрыначкі жменю цвікоў. Хутка на ўсе сцены ў хаце ён напрыбіваў сваіх малюнкаў. І здалося тут адразу весялей, прыгажэй, сонца, намаляванае на паперы, нібыта засвяціла ў хаце, і нібыта запахла тут лесам, полем.

— Калі ж мы зноў цябе пабачым? — выцірала бабка слёзы на развітанне.

— На наступнае лета… Зноў прышлю да вас на канікулы, — адказала за сына Люся.

— Ці дажывём? — уздыхнула маці.

— Ну! — з абурэннем сказала Люся. — Вы ж яшчэ не надта старыя, вам яшчэ жыць ды жыць.

Бацька маўчаў, але Люся бачыла, што і ён перажывае.

«Ну, і няхай, няхай бэнсь, — быццам некаму са злосцю даказвала Люся. — Але ён патрэбны на свеце… Патрэбны мне, патрэбны бабцы з дзедкам…»

Дома чакала навіна — Васілю выдалі ордар на трохпакаёвую кватэру. Яны абое не чакалі, што кватэру дадуць так скора, Люся наогул не верыла, што яе дадуць. Памог выпадак. Інжынер, якому выдзелілі кватэру, збіраўся ехаць у Ізраіль, Васіль некуды пабег, недзе націснуў, даказаў, які патрэбны ён на будаўніцтве чалавек, і цуд адбыўся — ордар ляжаў у Васіля ў кішэні. Люся разумела, што козырам лягло тут прыбаўленне ў сям'і, што кватэру далі ім дзякуючы Колю, і вельмі цешыла яе спадзяванне — Васіль разумее гэта, паставіцца да хлопчыка больш спагадліва.

Цяжкая радасць — хіба так магла назваць Люся амаль месяц пераезду. Спачатку пакавалі рэчы дома — складвалі ўсё ў каробкі, звязвалі ў клункі, перавівалі вяроўкамі. Пакуль рэчы стаялі кожная на сваім месцы, здавалася, не так і шмат было іх у кватэры, а варта было скрануць, і колькі ж іх аказалася! Асабліва дзівіла кухня, усе гэтыя каструлькі, патэльні, міскі-талеркі, банкі-шклянкі. І шкада было хоць нешта выкінуць, і пакавалася, каб цэлае завезці на новае месца. Рабілася ўся праца вечарамі, калі абое, яна і Васіль, прыходзілі з работы, Коля са школы, а Кацю забіралі з садка. Пакаваліся кожны дзень амаль да поўначы. Коля памагаў, Каця круцілася пад нагамі, пакуль не ўкладвалі яе спаць. Працавалі з азартам, хаця і страшэнна стамляліся.

Яшчэ перад тым, як пакавацца, яны з Васілём хадзілі глядзець новую кватэру. Яна сапраўды была новая, светлая і прасторная, у ёй яшчэ пахла фарбаю, клеем, яшчэ не асеў тут пах жылля, які мае кожная кватэра, і кожная свой, асаблівы. Але ўсё рабілася тут па тандэту, аднолькава для ўсіх, і Васіль даводзіў кватэру да ладу — мяняў краны, падганяў рамы ў вокнах, у адным пакоі нават памяняў шпалеры.

Мэблі, што мелі раней, аказалася замала для трох вялікіх пакояў, і Васіль, купіўшы ў некага чаргу на гарнітур, узяўшы крэдыт у касе дапамогі, купіў яшчэ сценку, канапу і два крэслы. Усё гэта паставілі ў зале, і Васіль вельмі ашчаджаў новыя рэчы, глядзеў, каб дзеці не падрапалі сценку, не пасадзілі плямаў на канапу альбо на крэслы.

Нарэшце ўсё ўладзілася, і паплыло жыццё ў новай кватэры, быццам на новым вітку жыцця. У сям'і лунала радасць, Люсі нават не верылася, што гэта яе кватэра, што яна тут гаспадыня, часам здавалася, што гэта яна прыехала ў госці да некага багатага. Не думала, што Васіль акажацца такі гаспадарлівы, такі талковы, і расла ў ёй павага да мужа. Павага і быдта нейкі страх перад ім, як перад сілаю, што можа і дабро падарыць, і ўсё адабраць, калі захоча. І яна зноў старалася ва ўсім дагадзіць Васілю, ні ў чым не пярэчыць, і Колю вучыла — не спрачацца, не агрызацца, слухацца, што скажа бацька. Ёй вельмі хацелася, каб Коля называў Васіля бацькам, але хлопчык неяк абыходзіў гэтае слова, ды вельмі і не звяртаўся да Васіля, калі што трэба — прасіў у маці.

Было вырашана, што ўрокі Коля будзе рабіць на кухні — стол вялікі, і кухня прасторная, на стале цырата, калі і запэцкае, то можна выцерці. А Колю што — на кухні дык на кухні, не так ужо шмат тых урокаў задаюць. Горш аказалася з маляваннем: добра ж, калі маці не гатуе тут які абед, тады можна ўвесь стол заняць, а калі маці раскладзе качаны капусты, кавалкі мяса, абабраную бульбу, цыбулю, дзе тады прыладзіць альбом, фарбы, шклянку з вадою, каляровыя алоўкі? А ў зале, пасярод пакоя, вялікі круглы стол, пакрыты плюшавым абрусам, як добра было б зняць той абрус і раскашавацца на стале, убаку ад той цыбулі ды капусты. І аднойчы Коля папрасіў:

— Мама, я пайду маляваць у залу, за круглы стол, бо тут, бачыш, няма дзе… І табе перашкаджаць не буду, — дадаў ужо няйначай з хітрынкаю.

Люся крышку падумала, потым згадзілася. Ёй падабалася, што сын так любіць маляваць, пройдзе тая любоў ці застанецца, адзін Бог ведае. А можа? А раптам?.. І ў каго ён удаўся? Успомніла, што той, ягоны бацька, прыносіў часам ёй у падарунак выразаныя з дрэва цацкі — мядзведзіка, птушку, казаў, што сам зрабіў… Можа, той меў які талент?

І яшчэ падумала, што трэба было б купіць яшчэ адзін стол, паставіць у тым пакоі, дзе спалі дзеці. Але на новую кватэру патрацілі столькі грошай, што прасіць Васіля, каб купіў яшчэ адзін стол, сыну, яна не адважвалася.

Коля між тым, узрадаваны, што маці дазволіла пайсці за вялікі стол, сабраў свае прычындалы, уладкаваўся ў зале і, макаючы кісточку ў ваду, набіраючы на яе фарбу і кладучы на ліст паперы, забыўся пра ўсё на свеце.

Апамятаўся ад грознага голасу над вухам:

— Ты дзе гэта? Ты чаго гэта?

Коля ўздрыгнуў, падняў галаву. Над ім, з вачыма, поўнымі злосці, стаяў Васіль. Рукі ў Колі закалаціліся, з кістачкі на падасланую газету закапала фарба. Здаецца, Васілю толькі гэта і трэба было.

— Во, во, пэцкаль няшчасны! Ану, марш адсюль, бач, знайшоў месца! — І ён, раззлаваны, схапіў альбом, кінуў на падлогу, у бок да дзвярэй.

На шум з кухні выбегла Люся.

— Што тут, што такое?

— Ты чаго яму дазваляеш? Новую кватэру загадзіць хочаце? Мала я тут поту праліў? — крычаў Васіль ужо на Люсю.

— Дзе ён загадзіў, што ён загадзіў? — пыталася яна.

— Во, во, — тыкаў Васіль пальцам у кроплі фарбы, што ўпалі на газету.

— Ну, падумаеш, гэта ж на газету, — старалася змякчыць Люся мужаў гнеў.

— Сёння на газету, заўтра на стол, пасля на канапу, — не сунімаўся гаспадар.

— Добра, не крычы, — старалася спакойна гаварыць Люся. — Забірай, сынок, свае фарбы, алоўкі, пойдзем у кухню.

Коля паслухмяна пачаў збіраць усё са стала, падняў з падлогі альбом, панёс у кухню. Люся ссунула ўбок нарыхтоўкі для абеду, Коля паклаў на цырату альбом, паставіў шклянку з вадою, паклаў карабок з фарбамі, але маляваць болей не пачынаў.

— Я там нічога не запэцкаў, — сказаў з крыўдаю, — а фарба капнула, бо я спалохаўся, — і на вочы хлопчыка набеглі слёзы.

Люся, не выпускаючы з рук нажа, якім рэзала мяса, абняла сына, пачала супакойваць.

— Нічога, не плач, абыдземся без таго стала, нам і тут добра, праўда? — сказала прыцішана.

Коля шморгнуў носам, цeранyў пад ім рукавом, здаецца, пачаў супакойвацца, але ў той дзень больш не маляваў.

Люся разумела, што стол сталом, але ў Васіля зноў прарвалася нелюбоў да хлопчыка, якую апошнім часам, мусіць, таіў у сабе. І Люсіна душа зноў зашчымела ад жалю да сына, варухнулася крыўда на мужа. Але вырашыла не спрачацца з ім, прамінуць гэты выпадак, нібы яго і не было, не папракаць мужа, праглынуць крыўду. Так і зрабіла, і вечарам, у спальні, калі Васіль пацягнуўся да яе з ласкаю — не адштурхнула, сама абняла яго, пацалавала.

І зноў жыццё пакацілася па сваёй каляіне. Каця з Колем, калі не было дома Васіля, дружна гулялі, бегалі па кватэры, смяяліся. Як толькі на парозе паяўляўся гаспадар, усё мянялася. Каця бегла да бацькі, вісла ў яго на шыі, ён вымаў з кішэні шакаладку ці цукерку, даваў дачцэ. Коля нібы сцінаўся, супакойваўся, браў якую кніжку, зашываўся ў куток.

Малая Каця скора адчула сваім дзіцячым сэрцам прывілею ў сям'і. Што можна было ёй — таго нельга было Колю, ёй шмат чаго дазвалялася, яму — нічога. Калі не было бацькі дома, маці сачыла за справядлівасцю, і калі дачка чаплялася да сына, магла даць ёй і плескача па азадку.

Надыходзіў Новы год, людзі валаклі з базару ёлкі, з ёлкамі ехалі ў метро, у тралейбусах. І Васіль прынёс — з іхняй канторы машына ездзіла ў лясніцтва, прывезлі свежыя, лапушыстыя. Новага года людзі чакалі з нейкаю трывогаю, у паветры лунаў неспакой. Усё менш у крамах на паліцах ляжала тавараў, усё цяжэй было купіць прадукты. Людзі выстройваліся ў доўгія чэргі, душыліся каля магазінаў, вымяталі падрад усе тавары — патрэбныя сёння альбо непатрэбныя, складвалася ўражанне, што людзі хочуць збыць грошы, абы на што, але патраціць.

Гэтага клопату Люся не мела, новая кватэра забрала ўсе зберажэнні, яшчэ доўг вісеў над душою. Так што вельмі не задумвалася над тым, што надыходзіць, цешыла сябе пагаворкаю — што міру, тое і бабінаму сыну.

Трыццатага снежня пачалі ўпрыгожваць ёлку. Старых цацак, з мінулых гадоў, аказалася малавата для шыкоўнай прыгажуні, у магазінах да прылаўкаў з цацкамі не падступіцца.

— Я сам зраблю, сам зраблю цацкі на ёлку, — заявіў Коля.

— Як гэта ты зробіш? — здзівілася Люся.

— Нас у школе вучылі, на ўроку працы.

І ён пачаў рабіць. Папрасіў маці заварыць крухмал, з ваты майстраваў шарыкі, абмазваў тым крухмалам, сушыў, фарбаваў. Ён выразаў з каляровай паперы гірлянды, зорачкі, сцяжкі. Ён сам зрабіў Дзеда Мароза, з той жа ваты, абмазанай крухмалам.

Калі Васіль прыйшоў з работы, Люся пахвалілася:

— Паглядзі, як мы ёлку прыбралі, а гэтыя во цацкі, — яна паказала на гірлянды, на шарыкі, — Коля зрабіў сам.

Васіль нічога не адказаў, павярнуўся, пайшоў у ванную.

Звычайна снедалі, абедалі, вячэралі на кухні. Святочны стол накрылі ў зале. Люся наварыла, насмажыла, напякла рознай смакаты. Новы год — любімае свята, ды, кажуць, як сустрэнеш яго, так і пражывеш. Для хараства, для ўрачыстасці запалілі,

паставілі на стол нават свечку, пахла хвояю яшчэ свежая, прыбраная ёлка. Чакалі поўначы, нават Каці дазволілі не класціся спаць, чакаць прыходу Новага года, і яна, узбуджаная, бегала па кватэры, выскоквала ў прыхожую, чакаючы, калі ж той Новы год прыйдзе і можна будзе сесці за стол, на якім стаіць так шмат смачнага, а галоўнае — торт, які спецыяльна для Новага года спякла мама.

— А Новы год — гэта Дзед Мароз? — пыталася яна ў бацькі.

— Ага, Дзед Мароз, — адказваў Васіль.

— А ён да нас прыйдзе? Я бачыла па тэлевізары, як Дзед Мароз прыходзіў да дзяўчынак.

— Твой Дзед Мароз у садок прыйдзе, — сказала маці.

Каця сумелася.

— Значыцца, Новы год толькі ў садок прыйдзе?

— Во дурная, — засмяяўся Коля, — Новы год да ўсіх прыйдзе, да ўсяго свету.

— Бач, які разумнік, — з іроніяй сказаў Васіль.

За стол селі, не дачакаўшыся поўначы, Люся вырашыла пакарміць дзяцей ды пакласці спаць, а ўжо сам Новы год сустрэнуць удваіх з Васілём. Налілі па чарцы — развітацца са старым годам, падзякаваць за тое добрае, што ён даў, а крыўдзіцца на стары год не мелі прычыны, ён даў ім новую кватэру, а новая кватэра — гэта такое багацце, якое не адразу і ацэніш, у старым годзе Люся атрымала дыплом.

Елі, закусвалі, дзеці ўсмак уміналі халадзец, салатку, тушаную бульбу з мясам і грыбамі, але ўсё больш паглядалі на торт — не маглі дачакацца, калі надыдзе яго чарга. Нарэшце Каця заявіла, што есці больш не хоча, няхай мама дае торт з чаем.

Люся прыбрала са стала брудны посуд, прынесла чыстыя талеркі, кубкі для чаю. Вялікім нажом пачала кроіць торт.

І як атрымалася, Люся магла б пабажыцца, што сама не заўважыла, — Колю трапіў кавалак, на якім зверху ляжала чырвоная ружа з крэму, на Каціным кавалачку ружы не аказалася.

Прывыкшая, што ўсё лепшае павінна належаць ёй, Каця з крыкам пацягнулася да Колевай талеркі.

— Мне, мне такое, з ружай, хачу з ружай!

Коля, якому ніколі не выпадала лепшае, вырашыў бараніць сваё. Ён ашчаперыў талерку рукамі, не даючы Каці адабраць тую ружу. Каця рвалася да Колевай талеркі, ён не даваў, дзеці тузаліся, Коля ў азарце адпіхнуў Кацю, яна зачапіла рукою за свечку, тая ўпала, патухла. Усё гэта адбылося ў адно імгненне, Люся не паспела ўмяшацца ў дзіцячую сварку, затое ўмяшаўся Васіль. Ён пляснуў Колю па шчацэ.

На хвіліну ўсе заціхлі, знямелі, толькі Коля схапіўся рукою за шчаку, задыхнуўся, не адважваючыся моцна заплакаць.

Збялелая ад крыўды, ад жалю да сына, Люся, забыўшыся на ўсю сваю дыпламатыю ў адносінах з мужам, прагаварыла хрыплым голасам:

— Не смей яго біць! Ты яму не бацька!

— А дзе бацька? — таксама збялелы ад злосці прасіпеў Васіль. — Сабакам сена косіць? Нават няма з каго спагнаць аліментаў!

— А ён што, аб'еў цябе? Я таксама працую, на сябе і на яго зарабляю!..

— Я яму пляснуў, бо ён дзіця крыўдзіць, бачыла, як ён Кацю піхнуў? — пачаў нібы апраўдвацца Васіль.

— Тваё дзіця паганае, ты яго распесціў, усё ёй ды ёй!

— Яна і тваё дзіця, і калі паганае, то, можа, і па тваёй віне!

Такой сваркі ў іх ніколі не было, дзеці сядзелі сцішаныя, спалоханыя, торт, якога так чакалі, ляжаў на талерачках некранутыя. А Васіль і Люся кідалі адно аднаму абразлівыя, крыўдныя словы.

— Ты ў бібліятэку да мяне прыходзіў, газеты чытаў, я думала, ты культурны чалавек!

— Калі я табе не культурны, то знайдзі культурнага! Можа, той культурны, што зрабіў табе ды ўцёк? Ты ж нават не ведаеш, дзе ён акалачваецца!

Люся разумела, што такое нельга гаварыць пры дзецях, што Коля не павінен гэтага чуць, ён ужо вялікі хлопчык.

— Сціхні! — крыкнула яна Васілю. — Ён маё дзіця, і я не дам яго крыўдзіць!

І хоць Люся стрымлівала мужа, і сябе старалася стрымаць, разгарачаныя, яны яшчэ доўга не маглі супакоіцца і кідалі адно аднаму абразлівыя словы.

Нарэшце Люся паднялася, пайшла слаць дзецям ложкі. І тут агледзелася, што Колі няма ў кватэры. Яна зірнула ў туалет, у ванную — хлопчыка нідзе не было. Усхваляваная, яшчэ не астылая ад спрэчкі, яна выбегла на лесвіцу. Хлопчык сядзеў на прыступках і плакаў. Люся апусцілася побач з ім, абняла.

— Чаго ж ты тут, сынок, тут жа холадна, вунь ручкі ў цябе, як ледзяшы, — узяла яна ў свае далоні рукі хлопчыка.

— Завязі мяне да дзедкі з бабкаю, не хачу тут жыць, — праз слёзы сказаў Коля.

Люсіна сэрца працяў боль.

— Сынок, ты ж казаў, што хочаш са мною жыць…

— З табою хачу, а з ім не хачу…

— Ну, бачыш, — не ведала, што сказаць Люся, — мала чаго не бывае… Хадзем дадому.

— Не пайду, — упарта сказаў Коля.

— Што ж ты, тут начаваць будзеш? Разам з бяздомным катом? — паказала яна на рыжага ката, які прымасціўся на батарэі і насцярожана пазіраў на іх, мабыць, баючыся, каб яго не прагналі.

— Ну і няхай, — шморгнуў носам Коля.

— Не, сынок, ідзём дадому… Ён болей не будзе цябе крыўдзіць.

— Хачу да бабкі з дзедкам, — зноў заплакаў Коля.

Люся ледзьве ўгаварыла яго вярнуцца дадому, умыла, улажыла спаць.

Не дачакаўшыся поўначы, прыбрала са стала. Васіль выйшаў у калідор курыць. У ложку ляглі спаць спінаю адно да аднаго, не памкнуліся памірыцца.

Недзе даўно надышоў Новы год, у суседзяў наверсе чулася музыка, вясёлыя галасы, там спявалі, танцавалі. Люся зайздросціла тым людзям, — у іх няма вялікіх праблем, ва ўсякім разе, ім весела, а яны сапсавалі сабе свята. Яна ўжо разумела — не прывыкне Васіль да яе сына, не палюбіць. Ды што там палюбіць, яна на тое і не спадзявалася, няхай бы не было хоць такой нелюбові, амаль нянавісці. Люся разумела, што ніхто нікога не можа прымусіць любіць, тут ужо як сама душа павернецца. І што заўважыла яна між людзьмі, ды і за сабою бачыла, — калі чалавека любіш, то і хібы ягоныя яму даруеш, успрымаеш іх як мілыя недахопы. А калі чалавека не любіш, то і станоўчыя якасці ягоныя раздражняюць, не верыш, што ён па-добраму добры, думаеш, што ён прыкідваецца.

Што рабіць, што рабіць? — рвалася Люсіна сэрца. Завезці Колю да дзеда з бабаю? Але ж вёска — не горад, тут і школа лепшая, і гурток па маляванні. А раптам у хлопчыка талент? Што рабіць?

Яна чула, што і Васіль не спаў, не рабілася яго дыханне спакойным, роўным, варочаўся, пакашліваў, але не прыходзіла жаданне павярнуцца да яго, загаварыць. Сэрца пякла крыўда, усплываў яго шалёны позірк і як ён ударыў Колю. Дзіўна толькі, родныя бацькі лупяць сваіх дзяцей і далонямі і папругамі, але гэта не прымаецца як трагедыя, і самі бацькі, і дзеці скора забываюць тыя канфлікты. То, можа, і яна дарэмна так уз’елася? Але разумела, што не дарэмна. Родны бацька хоць і лупіць, але лю-

біць, а гэты насілу трывае. Каб ён, можа, за дзела ўдарыў Колю, то не так было б крыўдна, а тут хлопчык зусім не вінаваты…

Па зямлі крочыў, ішоў Новы год. Як сустрэнеш яго, так і пражывеш. Няўжо ж сёлета іх чакаюць адны сваркі?

7

Прыкмета, здаецца, праўдзілася. Быццам нядобры дух пасяліўся ў іхняй кватэры, быццам затхлы туман асеў на падлогу, на сцены, на новую мэблю. Ва ўсім, што рабілася, як жылі, не адчувалася радасці, спакою. Пасля той навагодняй спрэчкі дні тры яны з Васілём наогул не размаўлялі, потым, нікуды не дзенешся, трэба было вырашаць нейкія сямейныя праблемы, і яны пачалі гаварыць, але коратка, адказваючы адно аднаму на пытанні: так… не… Спаць па-ранейшаму клаліся спінаю адно да аднаго. І хоць крыўда на мужа ў Люсі не мінала, яна разумела — доўжыцца так не можа. І яшчэ, чым больш зацятымі рабіліся яны адно да аднаго, тым гэта зацятасць мацнела, з крызісу трэба выбірацца як мага скарэй, чым болей ён доўжыцца, тым цяжэй з яго выйсці. І калі аднойчы ў ложку Васіль паклаў руку на яе плячо, павярнуў да сябе, яна не запрацівілася, прыняла яго ласку.

Зацятасць крышку аслабела, хоць зусім не мінула, але патрошку жыццё зноў пакацілася па-ранейшаму, хоць Люся і адчувала — нейкая трэшчынка ўсё ж засталася, перашкаджала поўнай шчырасці, любові. Ды вечны клопат зноў закруціў, затлуміў, не мелася часу, ды і жадання, перажываць. Уставала ў шэсць гадзін, гатавала снеданне, абед, выпраўляла Васіля на работу, Колю ў школу, сама спяшалася ў бібліятэку, па дарозе адводзячы Кацю ў садок. А ідучы з работы, трэба было забегчы ў магазін, пастаяць у чэргах, напакаваць сумкі прадуктамі, дома накарміць усіх абедам, што прыгатавала раніцою, а далей — памыць Каціны калготкі, Колеву кашульку, каб у садок, у школу дзеці пайшлі чыстыя, так-сяк прыбраць у кватэры. Надыходзіла нядзеля — Люся і па суботах працавала — работы яшчэ прыбаўлялася, што не паспявала зрабіць за тыдзень, мусіла ўхапіць за выхадны. Думала часам — як разумна жылі некалі нашы продкі, працавалі, горбіліся цэлы тыдзень, але нядзеля было ўжо святая, працаваць у нядзелю лічылася грахом, у нядзелю адпачываў сам Бог. Грахом лічылася працаваць і ў рэлігійныя святы, а Люся тых святаў і не ведала, круціцца дзень за днём і ў будні, і ў свята. Васіль цяпер па гаспадарцы не памагаў, у вольны ад работы час абхаджваў сваю машыну, здаецца, у яго толькі гэта любоў і

засталася — да свайго каня. Не, і дачку яшчэ любіць. Вечарам уляжацца на канапе, і Каця па ім поўзае, і за нос пацягне, і за валасы, а ён толькі пасміхаецца. Люся радуецца хоць гэтай яго любові, можа, яна яшчэ трымае іхнюю сям'ю, бо так… І Люсі робіцца страшна, калі падумае, што можа здарыцца… Разышоўся ж з першаю жонкаю, дык можа і з другою… Не, толькі не гэта… Яна гатова на любыя ахвяры, абы ацалела сям'я… І калі Васіль дома, яна напускае на сябе строгасць у размовах з сынам, выгаворвае яму, калі той нешта не туды паклаў, не так зрабіў. Васілю гэта, здаецца, падабаецца. І лашчыць, абдымае сына, калі Васіль не бачыць.

Мінала зіма, сама аплакваючы сваё скананне слязьмі з вялікіх тоўстых ледзяшоў, што віселі пад дахамі, дробным дожджыкам, што рыхліў снег, капяжамі. Забурлілі, заспяшаліся раўчукі, зліваючы ваду ў падземныя рэкі, весела заблішчала сонейка, яркае, сляпучае, быдта адпачыўшае, памаладзелае за зіму. Паветра пахла свежасцю, яго не магла атруціць да канца нават гара машын, што вырваліся са сваіх бярлог на вуліцу.

Люся мыла забруджанае за зіму акно, з вуліцы ўрываўся ў кватэру разам са свежым, яшчэ халаднаватым паветрам шум машын, яшчэ нейкія невядомыя гукі, што не сціхаюць у горадзе. На тратуары, што вёў да дома, убачыла Колю — вяртаўся са школы. Сіняя вязаная шапачка, сіняя куртачка з плашчовай тканіны, штаны, перашытыя са старых Васілёвых, цяжкі ранец за спінаю — усё гэта абдало цяплом, пяшчотаю да сына. Ён канчаў ужо другі клас, добра вучыўся, любіў чытаць і гэта маляванне… Ён наведваў гурток па маляванні і дома кожную свабодную хвіліну раскладаў свае фарбы, альбом, маляваў, маляваў. Люся вызваляла яму стол на кухні, у залу са сваімі фарбамі Коля больш не хадзіў, ды і Люся болей яго туды не пускала.

Хлопчык пазваніў у дзверы, і Люся злезла з падаконніка, пайшла яму адчыняць.

— Я сёння пяцёрку атрымаў, — з парога пахваліўся хлопчык, — па чытанні. Вера Іванаўна пахваліла мяне, сказала, што я маладзец, дагнаў усіх у класе і перагнаў.

— Ну і я скажу, што маладзец, — пацалавала сына Люся.

Хлопчык распрануўся, павесіў сваю куртачку і ранец на кручок, зняў чаравікі, абуў тапкі.

— Ідзі мый рукі, я цябе пакармлю, — сказала Люся.

З ванны Коля выйшаў памыты, але ўскудлачаны, і Люся ўзяла грабеньчык, акуратна прычасала сыну валасы, яшчэ раз пацалавала.

У дзверы зноў пазванілі. Прыйшла паштарка, прынесла тэлеграму. Ідучы на кухню, Люся разгарнула яе, прачытала:

«Прыязджаю чатырнаццатага цягнік 165 вагон 6 Іван»

Тэлеграму прыслаў старэйшы Васілёў брат, Васіль казаў, што той збіраецца на днях прыехаць, званіў па тэлефоне, калі Люсі не было дома. Значыцца, прыедзе заўтра, трэба будзе як належыць спаткаць госця.

І швагер прыехаў — невысокі, з лысінкаю, мала падобны на Васіля, але нешта блізкае ўсё ж было — у тым, як паварочваўся, у нейкіх інтанацыях. Ён абышоў кватэру, пахваліў, што харошая, што мэбля багатая. Люся ўлавіла некалькі яго позіркаў і на сабе, быдта і да яе ён прыглядаўся, як да мэблі, ацэньваў. Позіркі здаліся Люсі прыязнымі. Яна кінулася збіраць на стол, частаваць госця, выставіла і бутэльку. Дзяцей за стол не пасадзіла, яна наогул пры гасцях не садзіла дзяцей за стол і не любіла, калі гэта рабілі ў іншых сем'ях. Мала што могуць гаварыць дарослыя людзі, ды яшчэ пад чаркаю, дзецям слухаць гэтага няможна. Дзяцей пакарміла на кухні.

Васіль з братам ажыўлена гаварылі, яны не бачыліся некалькі гадоў, успаміналі радню, знаёмых, якіх Люся не ведала. Яна падкладала і падкладала швагру закуску ў талерку, той у смак усё падчышчаў, усё меншала і меншала гарэлкі ў бутэльцы. Калі Люся зноў адхінулася ад стала, каб яшчэ прынесці нешта з кухні, Васілёў брат прытрымаў яе за руку.

— Кінь бегаць, пасядзі з намі, на стале яшчэ — роту салдат накарміць. — І павярнуўся да Васіля: — А спраўная ў цябе маладзічка, дзе ты такую і знайшоў…

Швагер падліў гарэлкі і ў яе чарку, усе ўтрох чокнуліся, выпілі. І зноў паплыла гаворка — вясёлая, пра ўсё патрошку, Люся адчувала да сябе спагаду Васілёвага брата і сама ўжо радавалася госцю, ён быў ёй ужо нібы родны, нібыта ейны брат. Наколькі ён прыехаў — Люся не ведала, і пытацца было няёмка, быдта яна хоча, каб доўга не затрымліваўся. Але хутка само стала ясным. У Івана цяпер адпачынак, ён прыехаў пабачыцца з братам і заадно пахадзіць па сталічных магазінах.

— У нас, брат, пуста, усе паліцы голыя. Во фокус, грошай поўныя кішэні, а патраціць няма на што, — жаліўся швагер.

— І ў нас пуста, — гаварыла Люся, — і ў нас паліцы голыя, часам з раніцы нешта выкінуць, дык людзі душацца ў чэргах, каля ўнівермага «Беларусь» адну кабету ледзьве да смерці не задушылі, як рынуліся ўсе да прылаўкаў.

— Ну, мяне не задушаць, — усміхнуўся Іван. — Я дзядзька моцны.

Люся бачыла, што ён і праўда моцны, шыракаплечы, лабасты, з дужымі караткаватымі рукамі, з упартым позіркам сініх, як і ў Васіля, вачэй.

Кожны дзень швагер уставаў вельмі рана, спехам снедаў і бег у магазіны. Прыходзіў недзе пад вечар, валочачы з сабою цэлыя кіпы пакункаў, карабкоў. Люся і не ведала, што такія тавары прадаюцца ў іхніх магазінах — патэльні, на якіх нішто не прыгарае, электрычныя прасы, інгалятары… Кофты, спадніцы, якія Люся бачыла толькі на вялікіх модніцах і ніколі ў магазінах, імпартныя чаравікі, боты.

— І дзе гэта вы купляеце, я калі ні зайду ў магазін, там заўсёды пуста…

— У сталіцы ўсё ёсць, трэба толькі ўмець купіць, — павучальна гаварыў швагер.

— Ну, мне няма часу бегаць па магазінах, — апраўдвалася Люся.

— А вам і бегаць няма чаго, у вас і так усё ёсць.

— Дык куплялі, калі яшчэ можна было нешта купіць, у мяне па гэтай часці Васіль маладзец, ён умее лепей за мяне.

— Ну, для такой маладзіцы можна і пастарацца, — хітравата паглядаў на яе швагер.

Люся старалася яму дагадзіць, прыдумляла кожны дзень згатаваць нешта смачнае, не абыходзілася за абедам і без чаркі. Але пачынала адчуваць, што госць ужо стамляе, пачынае надакучаць, ужо ўздыхнула б з палёгкаю, каб ён паехаў.

Аднойчы вечарам Люся пачула, што Васіль з братам пра нешта гавораць у зале прыглушанымі галасамі. Не захацела прыслухоўвацца, няхай сабе гавораць. Але хутка з залы выскачыў раз’юшаны Васіль.

— Дзе Колька? — люта ўставіўся на Люсю.

— На вуліцы гуляе, — адказала Люся. — А што?

— Зараз жа прывядзі яго сюды! — загадаў Васіль.

— Але навошта?

Аказалася, Іван, адыходзячы ў горад, пакінуў на стале сто рублёў. І цяпер гэтых грошай няма. І Васіль вырашыў, што ўзяць іх мог толькі Коля.

— Ты звар’яцеў! Хлопчык не мог узяць такія грошы, такія вялікія грошы!

— А яны што, самі збеглі? У іх ног нямашака, калі ты не ўзяла і я не ўзяў, то хто іх прыкарманіў?

Люся пабегла на вуліцу, знайшла Колю, прывяла дадому.

— Сынок, глядзі мне ў вочы і адказвай, толькі кажы праўду, чыстую праўду: ты ўзяў грошы, што ляжалі на стале ў зале?

— Якія грошы? — заміргаў хлопчык.

— Сто рублёў дзядзькі Івана, што ляжалі ў зале на стале.

— Н-не… Не браў я грошы.

— А дзе ж яны дзеліся, самі ўцяклі? — здзекліва спытаў Васіль.

— Не бачыў я ніякіх грошай, — з крыўдаю сказаў Коля.

— Абшукай яго, абшукай, — загадаў Люсі Васіль.

Люся неахвотна, але падпарадкавалася. Больш за ўсё яна баялася, каб не знайсці ў Колевых кішэнях і праўда якіх грошай. Але там ляжалі два круглыя каменьчыкі, агрызак алоўка, гумка, запэцканая насавая хусцінка. Грошай не было.

— Ранец абшукай, ранец ягоны абшукай, — загадаў Васіль.

Люся пайшла ў прыхожую, зняла з кручка цяжкі, напакаваны кніжкамі ды сшыткамі ранец. Выняла з яго ўсё, што там ляжала. На дне ранца зазвінела дробязь.

— Га, грошы! — нібы ўзрадаваўся Васіль.

Люся высыпала на стол манеты, іх аказалася больш чым рубель.

— Адкуль у цябе грошы, сынок? — спытала Люся.

— Ты, ты сама мне давала, на сняданкі ў школе, а я не еў, збіраў на фарбы, — адчайна апраўдваўся Коля.

— Табе лепей будзе, калі прызнаешся і аддасі грошы, — сіпеў Васіль.

— Але, можа, ён не браў, можа, Іван сам сунуў куды ды забыўся? — апраўдвала сына Люся.

— Іван не забыўся… Мне сорамна перад братам, што ў нас у хаце злодзей…

Іван тым часам зачыніўся ў зале, не ўмешваўся ў следства, якое вёў брат.

— Калі не аддасі грошы, я выкіну цябе з хаты, як шалудзівае кацяня! — сіпеў Васіль. — І ты яго не пакрывай, — павярнуўся ён да Люсі.

— Прызнайся, сынок, — прасіла хлопчыка і Люся. — Мы не будзем цябе біць, нават сварыцца не будзем, толькі аддай грошы, калі ты іх ўзяў.

— Не браў я ніякіх грошай, — заплакаў Коля.

Яны нічога не дабіліся ад хлопчыка, ён не прызнаў сваёй віны.

Васіль пайшоў у залу.

— Я аддам табе сто рублёў, — сказаў брату. — Дзе яны дзеліся — не ведаю, Колька не прызнаецца, кажа, што не браў.

— Не трэба мне твая аддача, — панура сказаў Іван. — Абыдуся без той сотні… Але я добра памятаю, што пакінуў грошы на стале.

— То прабач… Мала чаго не бывае…

Прыгода з грашыма сапсавала атмасферу ў хаце. Хоць усе стараліся рабіць выгляд, быццам нічога не адбылося, нешта ўжо прыкрае, непрыемнае лунала ў паветры.

Назаўтра Іван заявіў, што нагасцяваўся ўжо, збіраецца дахаты. Ні Люся, ні Васіль яго не затрымлівалі. Ён сабраў, запакаваў сваё куплёнае дабро ў дзве вялізныя сумкі, пакіраваўся на вакзал.

Васіль з Люсяю пайшлі яго праводзіць. Зноў рабілі выгляд, што ўсё між імі добра, няма ніякай прыкрасці, што былі рады госцю, шкадуюць, што ад'язджае, але падспудна нешта перашкаджала шчырасці, здаецца, фальшывілі галасы, фальшывілі позіркі. Усе з нецярпеннем чакалі, каб хутчэй адышоў цягнік, каб скінуць з твару маскі. А калі цягнік нарэшце рушыў і Люся з Васілём засталіся ўдваіх, ён сказаў хрыплым голасам:

— Ці ён, ці я, выбірай…

Люся зразумела ультыматум — ці ён, Васіль, ці Коля… Яна захлынулася ад крыўды.

— Але, Васільку, няма ж доказу, што Коля ўзяў тыя грошы, можа, ён не браў!

— Узяў, але хітра замёў! Расце добры злодзей!

— Ён жа ніколі… Ні капейкі… І нічога не браў з дому, — стрымлівала Люся слёзы.

— Не браў, бо шанцу не падварочвалася…

— А чаго ён, твой брат, пакінуў тыя грошы на стале? Калі так добра помніць, дзе пакінуў, то чаму не схаваў?

— Спяшаўся, па дарозе ўспомніў, што забыў узяць тыя грошы.

— У твайго брата тысячы, вунь колькі ўсяго накупляў, што яму тая сотня! — ужо злавалася Люся.

— Дзела не ў тым, колькі ў каго рублёў, а ў тым, што твой сын іх украў. Так што — ці ён, ці я…

Люся з горыччу прызнавала — не многа значыць тая сотня ні Івану, ні Васілю, надарылася добрая прычына збыць пасынка.

Калі падыходзілі ўжо да дому, Васіль збочыў на другую вуліцу.

— Куды ты? — гукнула яго Люся.

— Куды трэба, — груба адказаў ён.

Дома знайшла Кацю адну. Звычайна яны не пакідалі малую без нагляду, і гэтым разам з ёю заставаўся Коля, цяпер сына дома не было.

— А дзе Коля? — спытала ў дачкі.

— Пайшоў, — паказала малая на дзверы.

— А чаму ён пайшоў, можа, ты яго пакрыўдзіла?

— Ага! — з абурэннем сказала Каця. — Гэта ён мяне пакрыўдзіў, пляснуў па галаве, — і яна паказала далонькаю, як Коля яе пляснуў.

— А за што ён так?

— Бо я сказала, што ён злодзей.

— А навошта ты так сказала, які ж ён злодзей?

— Тата гаварыў…

— Тата памыляўся, ніякі Коля не злодзей, і калі ты яшчэ так будзеш гаварыць, то і я цябе плясну, не па галаве, а па другім месцы.

Расхваляваная, пакіравалася на кухню, гатаваць вячэру. Наогул настрой быў самы паганы, гэты Васілёў выбрык — пайшоў невядома куды, і ультыматум… Ці ён, ці Коля… Павінен памятаць, кватэру атрымаў дзякуючы Колю, што ж ён, атрымаў кватэру, а цяпер выкіне дзіця за дзверы?

Вінавaціла сябе за тыя словы, калі прызнавалася Васілю, што ў яе ёсць сын. Казала тады — мой жа Коля не будзе нам замінаць, ён жыве ў бацькоў, яны яго вельмі любяць… Казала так, бо баялася страціць Васіля… А ён, напэўна, добра запомніў гэта яе абяцанне — не будзе замінаць… Жыве ў бацькоў…

Абірала бульбу і прыслухоўвалася да крокаў на лесвіцы, чакала мужа і сына. На лесвіцы нехта тупаў, то паднімаўся на верхнія паверхі, то спускаўся ўніз, крокі праміналі іхнія дзверы.

У яе ўсё валілася з рук — то падаў нож, то ўпала, разбілася талерка. Супакойвала сябе — посуд б'ецца на шчасце, але ведала, разумела — шчасце абмінае яе хату, усё больш адварочваецца ад сям'і.

Пачынала цямнець. Ні сын, ні муж не вярталіся. Яна пачынала хвалявацца. Здавалася, усё даруе і аднаму, і другому, абы зараз аб'явіліся. Пра Колю думала — загуляўся і цяпер баіцца наганяю, што пакінуў Кацю адну дома, крыўдзіцца яшчэ і за допыт пра грошы. Бяда ў тым, што Люся і сама не пэўная, узяў Коля тую сотню ці не браў. Можа, і ўзяў, у дзяцей такое бывае, яна сама, малая, гадоў дзесяць было, аднойчы вытрасла ў бацькі з кашалька дробязь, пайшла ў краму, купіла цукерак. Праўда,

калі пачалі пытацца, ці брала яна грошы, то прызналася. Яе паўшчувалі, на тым і скончылася.

Ішло на дзясятую гадзіну. Люся не знаходзіла сабе месца. Нарэшце — званок у дзверы. Яна кінулася адчыняць. Прыйшоў Васіль. На вялікае Люсіна дзіва — п’яны.

— Ты што? — не так з гразьбою, як з непакоем, спытала яна. — Дзе гэта ты, з кім?

— Не тваё дзела, — груба адказаў Васіль, адхінуў яе рукою, пайшоў у залу, паваліўся на канапу.

Тое, што Васіль прыйшоў дадому п’яны, было для Люсі нечаканасцю, такім дадому ён ніколі не заяўляўся, і гэта напалохала яе, але яшчэ больш турбавала — сына дасюль няма. Не высвятляючы з мужам адносін — што з п’яным гаварыць, няхай праспіцца, — апранула паліто, пабегла на вуліцу — шукаць Колю.

Даўно сцямнела, у вокнах дамоў, што акружалі двор, гарэлі агні, жоўтаю круглаю плямаю падала на дол святло ад ліхтара, між голых дрэў тырчалі нямыя арэлі, паветра здалося золкім, дзьмуў халодны вецер. У двары было непрывычна ціха і пуста — ні дзіцячых галасоў, ні кабет на лавачцы, што з ранку да вечара абмяркоўваюць свае праблемы.

Люся кінулася ў адзін бок, у другі — усюды пуста. Яна спынілася, шчыльней затуліла каўнер паліто. Турбота ўсё больш непакоіла сэрца. Дзе Коля? Можа, пайшоў да якога таварыша? Але ў яго, здаецца, не было такіх таварышаў, у якіх мог заседзецца так позна, ды і маці такога таварыша даўно адправіла б дадому госця, што так забавіўся.

Яна яшчэ раз аббегла двор, выйшла на вуліцу. Па ёй час ад часу прабягалі машыны, асвятляючы дарогу яркімі фарамі, па тратуары спяшаліся рэдкія прахожыя.

Божа, а раптам што здарылася, а раптам трапіў пад машыну? І яна ўспомніла, як, ідучы ў магазін, убачыла ў зацішным, здаецца, завулку, з тварыкам, прыкрытым насавою хусцінкаю, хлопчыка гадоў дзесяці, збітага машынаю. Запомнілася пасінелая ўжо дзіцячая ручка, што бездапаможна ляжала на каменным бруку. Божачка! А раптам і Коля? Яе ахапіў такі жах, такі адчай. Званіць у міліцыю? Шукаць па бальніцах?

Яна пабегла дадому з надзеяй: а раптам, пакуль яна шукала, ён вярнуўся дадому? Але дома Колі не было, Васіль, не распрануўшыся, спаў на канапе, каля яго, скурчыўшыся, спала і Каця.

Трымаючыся рукою за галаву, думаючы, што рабіць, Люся выйшла ў прыхожую. І толькі тут агледзела, што няма не толькі Колевых куртачкі, шапкі, але і ранца, што вісеў пры іх на кручку

пад вешалкаю. Чаму няма ранца? Куды ён сабраўся з ранцам? Яна зноў выбегла на лесвіцу, ашалела прыслухоўвалася, ці не пачуе сынавых крокаў, але не чулася нічыіх крокаў, толькі ў кватэры насупраць гучала музыка. І Люся падзівілася, што недзе можа іграць музыка, што за дзвярыма ў людзей спакойна.

Яна ўспомніла, як тут, на прыступках, сядзеў пакрыўджаны Васілём Коля і прасіў яе: «Завязі мяне да бабкі з дзедкам, завязі…»

На батарэі сядзеў, грэўся той самы руды кот, глядзеў на Люсю ўважлівымі, быццам і разумнымі, вачамі, здавалася, ён ведаў, ведаў, дзе Коля, толькі не ўмеў сказаць.

Не прыкрыўшы галавы хусткаю, толькі шчыльней затуліўшы паліто, Люся, сама не разумеючы, што робіць, быццам вядомая нейкаю сілаю, накіравалася на аўтобусную станцыю. Яна доўга чакала тралейбуса, ён прыйшоў перапоўнены, і яна ледзьве ўціснулася ў дзверы. Над ёю павіс мужчына ў балонневай куртцы, ад якога моцна пахла гарэлкаю. Бывала, раней, натыкаючыся на п'яных мужыкоў, яна радавалася, што яе Васіль не заяўляецца дадому на вушах, а сёння вось… Але гэтыя разважанні толькі на міг закранулі душу, турбавала, стукала ў сэрца, у галаву — Коля… Сынок…

Тралейбус ішоў, здавалася Люсі, вельмі марудна, падоўгу стаяў перад святлафорамі, на прыпынках, чакаў, пакуль выйдуць адны пасажыры, увойдуць другія, ёй хацелася выскачыць з таго тралейбуса і бегчы, самой бегчы на аўтастанцыю, але разумела, што, як бы ні бегла, як бы ні спяшалася, тралейбус давязе хутчэй.

На аўтастанцыі таксама было непрывычна цёмна і пуста, на пляцоўцы, з якой адыходзяць аўтобусы, стаяў толькі адзін, чырвоны, з надпісам на баку — «Беларусь». У асветленым салоне, было відаць, сядзелі пасажыры. Можа, які міжгародні, што рабіў прыпынак у сталіцы? Лавачкі, што стаялі вакол пляцоўкі, таксама пуставалі, толькі некуды бег, абвешаны чамаданамі і сумкамі, адзінокі пасажыр.

Трацячы надзею, што і тут знойдзе сына, Люся пакіравалася ў пачакальню. На зялёных пластмасавых крэслах сядзела некалькі пасажыраў, каля іх стаялі чамаданы, сумкі. Шмат крэслаў пуставала. Люся аббегла тых пасажыраў вачамі — чужых, незнаёмых, якіх дарожны лёс затрымаў нанач у гэтай напалову пустой, халоднай зале. І раптам убаку ад гэтых чужых людзей падалося ёй нешта знаёмае, сіняе. Запынілася вачамі… Коля! Яго сіняя куртачка! Ён не бачыў маці, сядзеў задуменны, нахохлены, скурчаны, ашчаперыўшы рукамі свой ранец.

Люся кінулася да яго.

— Сынок! Што ты тут робіш!?

Коля спужаўся, на міг адхіснуўся ад мацеры, быццам баючыся, што яна яго ўдарыць, потым заплакаў.

— Што ты тут робіш, сынок, чаго тут сядзіш?

Люся тузала яго, быццам хочучы абудзіць сына ад сну, але хлопчык толькі плакаў.

— Я паеду да бабкі з дзедкам… Бо ён мне не верыць… І ты не верыш… І Кацька называе злодзеем… Не браў я тых грошай… А ён… А ён…

Люся разумела, сын хацеў выказаць вялікую крыўду на Васіля, але не ведаў, як выказаць, хаця Люся і так яго разумела.

— Я табе веру, сынок, — гаварыла яна, папракаючы ў думках сама сябе, што яшчэ нядаўна сумнявалася. — Я табе веру… А што Каця скажа — дык яна ж малая, дурная… І як жа ж бы ты паехаў, у цябе ж білета няма…

— Я б зайцам, — выціраючы рукавом нос, прызнаўся Коля.

— Ды цябе б і ў аўтобус не пусцілі… Ідзем дадому… Тут жа вельмі холадна… Я цябе так шукала, так шукала, добра, што цюкнула ў галаву.

— Не пайду дадому, — зноў заплакаў Коля. — Дай мне грошы, я раніцою паеду.

Люсіна сэрца рвалася ад жалю да сына. Успаміналіся і злосныя Васілёвы словы — ці ён, ці я… Няўжо не ўдалася яе спроба запыніць пры сабе хлопчыка? Няўжо і праўда прыйдзецца выбіраць — ці сын, ці муж? Ды і Коля заצяўся…

— Пойдзем дадому, там усё вырашым, раніца за вечар мудрэйшая, — забрала яна ў Колі ранец, цяжкі, напакаваны невядома чым. Выцерла хусцінкаю твар сына, узяла яго за руку. Ён не вельмі ахвотна, але паддаўся яе ўгаворам.

Дома Люся ўлажыла яго спаць, перанесла ў пасцель і Кацю. Васіль, п’яны, хроп на канапе. Яна ляжала адна ў спальні на шырокім ложку, ляжала, не спала, думала.

Што рабіць, што рабіць? Было ясна: не ўжыліся яе сын з яе мужам, і ў аднаго, і ў другога саспела ў душы вялікая непрыязнасць. І гэта цяпер, пакуль Коля малы… А будзе падрастаць, то будзе падрастаць і непрыязнасць, злосць. І сапраўды ёй трэба выбіраць — ці муж, ці сын. Яна ўсё-такі не ведала да канца, чаму Васіль развёўся з першаю жонкаю, але была, напэўна, моцная прычына… То можа пайсці на такое і з ёю… А яна прывыкла ўжо абапірацца на яго дужае плячо, дарма што і сама мае пэўны кавалак хлеба — скончыла інстытут. Ды жанчына

без мужчыны — нешта непаўнацэннае… Хаця, колькі цяпер і разведзеных… Не, яна не хоча разводу… Ды і як разводзіцца? Дзяліць кватэру, дзяцей? Ён жа не аддасць Кацю, скажа: калі табе твой бэнсь даражэй за сям'ю, то забірай яго і кацiся… А калі і аддасць? Яшчэ адно дзіця гадаваць без бацькі?

Не, яна не можа разбурыць сям'ю, застацца без мужа… Вунь як добра жылі яны, пакуль не прывезла Колю. Сынок… І ён, малы, а бачыш, ужо характар… Намерыўся сам ехаць да бабкі з дзедам… Можа, яму там будзе лепей?.. Там яго будуць любіць…

Спела, спела ў Люсінай душы рашэнне.

## Замест эпілога

Дзень выдаўся халодны, дажджлівы, вецер шкуматаў маладыя, яшчэ нядужыя лісткі на бярозах, таполях, з неба сыпала імжа, плылі цёмныя хмары, плылі скора, нібы і іх падганяў той вецер. Люся глядзела перад сабою, на дворнікі, што гайдаліся ўправа-ўлева, змываючы са шкла бясконцыя кроплі дажджу, ёй відаць было яшчэ плячо шафёра, які вёў аўтобус па мокрай слізкай шашы, яго лоб і вочы ў люстэрку, што вісела зверху і адбівала ў сабе салон. Яна ўсё гэта бачыла і не бачыла, бо глядзела сама ў сябе і вінавацiла сама сябе. Вінавацiла сваю дурную маладосць, неабачлівасць, якія ляглі цяпер каменем на ўсё яе жыццё. Людзі кажуць: «Каб маладосць ведала, каб старасць магла…» І праўда, што яна ведала ў свае васямнаццаць гадоў? Жыццё красавала, цвіло, усё здавалася вясёлым, простым. Ці ж ведала яна, што з тых цвецікаў вырастуць ягады, горкія ягады?..

Калі даверылася Колеваму бацьку, то і падумаць не магла, што гэта яна можа зацяжараць. А калі зацяжарала, то і тады да канца не разумела, што гэта ў ёй расце чалавечак. А цяпер вось разумее, што пусціла на пакуты хлопчыка… Так, на пакуты, бо вязе Колю да бабкі з дзедам не на лета, не на канікулы, вязе назаўсёды. А ці ж заменяць яны Колю матку, бацьку, сям'ю? Пакуль хлопчык малы, можа, і добра будзе яму ў вёсцы, а падрасце? А дзед з бабаю пастарэюць? Ці не зробіць яго жорсткім крыўда на матку, што жыве недзе ў горадзе сваёй сям'ёю, адрокшыся ад яго? Што не будзе ведаць дзе, хто ягоны бацька?

З таго ультыматуму, які паставіў ёй Васіль, — ці ён, ці Коля, Люся выбрала яго, мужа, не захацела рушыць сям'ю. Але яна разумела, што ўсё роўна сям'я так альбо іначай парушана, бо не будзе паміж ёю і Васілём былой шчырасці, паміж імі зазеўрала трэшчына, якая ніколі не зарасце, бо Люся ніколі не даруе Васілю, што не прыняў яе хлопчыка.

Яна абдымала Колю, чула цяпло дзіцячага плечука, бачыла, з якой цікавасцю паглядаў ён у акно, на пануры задожджаны свет, за якім ішло, бегла жыццё — спяшаліся сустрэчныя машыны, спакойна пасвіліся пад дажджом каровы, плавалі ў сажалцы гусі, качкі, прыкрыўшыся парасонам, прабегла па сцежцы ўсцяж дарогі маладзіца, перад шлагбаумам запыніліся калёсы, у якіх сядзеў мужык у плашчы з капюшонам.

Люся зноў падымала вочы, бачыла дворнікі, што ківаліся ўправа-ўлева, зганяючы са шкла ваду.

«Хлопчык мой, дзіця маё… Даруй сваёй дурной матцы», — білася ў Люсіным сэрцы.



## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

У 1951 годзе я скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і падала заяву аб залічэнні ў аспірантуру пры Акадэміі навук БССР. Мяне прынялі. 1 я адчула сябе, як кацяня, якое кінулі ў раку. Калі хочаш не патануць, то грабі лапкамі, можа, навучышся плаваць.

Кандыдацкі мінімум па ўсіх прадметах так-сяк здала. Паўстала пытанне аб тэме дысертацыі. І тут я без вагання выбрала — «Жыццё і творчасць Цёткі». Пра яе ў тыя гады было мала вядома, толькі некалькі вершаў у зборнічку ды шмат у чым блытаныя весткі з біяграфіі. Але і з тых вершаў, і з тых біяграфічных звестак узнікаў яркі вобраз самаахвярнай, самаадданай дачкі беларускага народа, вобраз мужнай жанчыны, якая стаяла ля вытокаў беларускага адраджэння. Тэму дысертацыі мне зацвердзілі. Забягаючы наперад, магу сказаць, што ў 1958 годзе я абараніла дысертацыю, атрымала званне кандыдата філалагічных навук. Здаецца, можна было б супакоіцца. Але я не супакоілася. Вобраз Цёткі (Алаізы Пашкевіч) ідзе поруч са мною да сённяшняга дня. Былі кнігі прозы — апавяданні, аповесці, раманы. Але не спынялася работа і над пошукамі новых звестак, новых матэрыялаў пра Цётку. І з’явілася кніга «Стану песняй» — вынік гэтай работы.

А тады, больш чым паўвека таму назад, былі першыя сцежкі… Помніцца ўсё, нібы было ўчора.

* * *

Наслізганы калёсамі брук перасякаў шырокае роўнае поле, бег да гарызонту, звужаўся каля цёмнай палоскі лесу. Быў пачатак кастрычніка, у паветры плавала павуцінне бабінага лета,

стаяў пах прывялай травы, узаранай зямлі, горкі дым вогнішча, што дагарала на бульбяным полі. Упершыню ішла я па гэтай дарозе, кіруючыся на радзіму Алаізы Пашкевіч. Недзе там, наперадзе, блізка каля шляху — яе магіла.

Выпраўлялася я ў гэта падарожжа, маючы вельмі прыблізны, а як высветлілася пасля, і недакладны адрас. У падручніках для школ было напісана, што пахавана Цётка ў вёсцы Высокі Двор на Лідчыне. Звузіць рэгіён пошукаў дапамагла Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, удава народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Яна сказала, што некалі разам з Янкам Купалам яны ездзілі на радзіму Цёткі, што недалёка там ёсць мястэчка, ці то Ішышкі, ці то Васілішкі. Мястэчка Ішышкі на карце я не знайшла, знайшла Васілішкі, туды і накіравалася.

Аднак і ў Васілішках, на той час ціхім, сонным гарадку, не адразу паказалі мне дарогу да магілы паэтэсы. Людзі, якіх сустракала на вуліцы і ў якіх пыталася, дзе тут вёска Высокі Двор, паціскалі плячыма, казалі, што такой вёскі ў ваколіцах Васілішак няма. Тады я паставіла пытанне інакш: «Ці не ведаеце вы, дзе тут пахавана вядомая беларуская паэтэса Алаіза Пашкевіч, або Цётка?» І адказ атрымала адразу: «Дык гэта ў Старым Двары, вёрст дзесяць адгэтуль, ідзеце вунь па той вуліцы, яна скіруе на тракт, а тракт прывядзе да Старога Двору, ідзеце проста і проста…»

Сонца свяціла ў чыстым бязвоблачным небе, дарога вяла і вяла наперад.

Здалёк убачыла купку дрэў, прыбавіла кроку, падыходзіла бліжэй і ўжо бачыла агароджу з вузкіх штыкецінак, ужо бачыла сярод зялёных кронаў цёмны граніт крыжа. Потым доўга стаяла, чытала і перачытвала напісаныя лацініцай словы:

*Цётка з Пашкевічаў. Алаіза Кейрыс. 3.VII.1876–5.II.1916.*

І ніжэй словы з яе верша:

На магіле ўзыйду дубам,
Пачну шаптаць братнім губам
Аб іх долі, аб свабодзе,
Стану песняй у народзе!

Вакол было пуста і ціха, ясень і туі клалі на магілу паэтэсы густы цень, каля помніка ляжаў крыху прывялы букецік позніх асенніх кветак — астраў і вяргінь. Здавалася, усё сцерагло вечны

спакой паэтэсы, і няёмка было парушаць яго нават шчоўканнем апарата.

Побач з магілаю Цёткі, абгароджаныя разам, узвышаліся яшчэ два курганкі. Пазней я даведалася, што пахаваны тут, ужо ў 1943 годзе, пляменніца Цёткі Феліцыя, дачка яе брата Войцэха, са сваёю сяброўкаю Аляй. Да вайны дзяўчаты вучыліся ў Віленскім універсітэце і да 1942 года жылі ў Вільні, але там пачаліся аблавы, моладзь вывозілі ў Германію, і, ратуючыся ад фашысцкай няволі, дзяўчаты з Вільні выехалі ў вёску. Вечарам 27 красавіка 1943 года да іх у хату зайшлі трое невядомых і расстралялі дзяўчат. Землякі Цёткі пахавалі ахвяр фашызму побач з паэтэсаю.

Я стаяла каля магілы Цёткі і не ведала, што за мною сочаць вочы гаспадыні недалёкай адсюль хаткі. Потым жанчына сама сказала мне, што даўно пазірала, як я хадзіла тут, ды не адважвалася падысці. А потым падышла, спыталася, хто я і адкуль, запрасіла да сябе ў хату, частавала варанаю бульбаю з малаком, расказвала пра сям'ю паэтэсы, паказала месца, дзе стаяла сядзіба некалі вялікай сям'і Пашкевічаў.

У 1947 годзе іхні дом разабралі і перавезлі ў вёску Замасцяны, недалёка ад Старога Двара, бярвенні ляглі ў будынак васьмігадовай Замасцянскай школы.

Жанчына сказала мне, што недалёка адсюль, на хутары, жыве сваяк Цёткі Восіп Міхневіч, ён добра помніць іхнюю радню, Цётчыных братоў і сёстраў.

Я сустрэлася з Восіпам Міхневічам, разам з ім на возе мы ездзілі ў вёску Перавозы: Восіп Міхневіч сказаў, што ў Перавозах, яшчэ ў адных далёкіх Цётчыных сваякоў, нібыта ёсць партрэт Цёткі, намаляваны фарбамі. Я загарэлася — а раптам ды знойдзецца гэты партрэт? Але партрэта мы не знайшлі, пасядзелі ў хаце тых сваякоў, пагаварылі пра сям'ю Пашкевічаў.

Тая паездка ў Перавозы запомнілася яшчэ барвовым захадам, як садзілася сонца за лес і заліло ўсё яркай чырванню, як стаяў сцішаны бор і вілася між дрэў дарога, як раптам, у адзін міг, сцямнела і зрабілася чорна вакол, а мы ўжо ехалі полем, узгоркамі, і дзіўна было мне, як знаходзіў конь дарогу.

І думалася, што гэтым полем, гэтымі ўзгоркамі некалі хадзіла Цётка, яна бачыла і гэты бор, і гэта неба, любавалася не раз такім барвовым захадам і нават чорнаю цемнатою не зблытала б сцежак у родным краі, які так любіла і па якім так сумавала ў выгнанні.

Назаўтра вярталася я дадому, ішла пехатою на Васілішкі, з Васілішак дабіралася да невялічкай чыгуначнай станцыі Скрыбаўцы. Сапраўды, Цётчын родны кут туліўся далёка ад шырокіх дарог, выбрацца адсюль у вялікі свет тым часам было нялёгка.

* * *

У 1976 годзе на радзіме Цёткі, у Старым Двары, адзначалася сто гадоў з дня яе нараджэння. З Мінска прыехалі пісьменнікі, мастакі, вучоныя. У зялёным садзе, на сцэне, змайстраванай спецыяльна для гэтага свята, сядзелі шаноўныя госці, слухачамі і гледачамі былі землякі, сяляне навакольных вёсак, якіх таксама сабралася шмат. Былі тут і журналісты з Гродзенскага тэлебачання, радыё.

Госці выступалі, расказвалі пра жыццё і творчасць выдатнай дачкі беларускага народа. Пасля ўрачыстай часткі быў канцэрт.

Свята мела шырокі рэзананс, пра яго гаварылі не толькі ў Беларусі, рэха яго дакацілася да Польшчы. І даведаўся пра яго сваяк Цёткі Станіслаў Вызга, які ў той час жыў у Польшчы, у Вроцлаве.

Хутка пасля гэтага свята я прыехала ў Астрыно — мястэчка, недалёкае ад Старога Двара. Душу маю клікалі мясціны, дзе жыла Цётка, дарогі, па якіх яна хадзіла. І ў гэты прыезд мне паказалі пісьмо, якое прыслаў у Астрынскі сельсавет Станіслаў Вызга. Аўтар пісьма паведамляў, што ў яго ёсць фатаграфіі, звязаныя з сям'ёю Пашкевічаў.

У Астрыне не ведалі, што рабіць з гэтым пісьмом, і я папрасіла, каб яго аддалі мне. Яго і аддалі.

Я разумела, што сустрэцца з гэтым чалавекам мне было б вельмі цікава, і напісала яму пісьмо. Хутка атрымала адказ. А далей я запрасіла яго да сябе ў госці, напісала яму афіцыйнае запрашэнне, як трэба было рабіць у той час.

Неўзабаве Станіслаў Вызга прыехаў да мяне ў Мінск, прыехаў не адзін, а са сваёй сваячкай Алінай Балюк.

Пан Станіслаў Вызга быў чалавек немаладога веку, паўнаваты, лысаваты, меў у сваім выглядзе, у паводзінах нешта артыстычнае. Ён адчыніў сваю тэчку — партфельчык — і выняў з яго некалькі здымкаў. Самым каштоўным для мяне аказаўся здымак сям'і Пашкевічаў — маці, бацька, браты і сёстры, сама паэтэса. Здымак быў зроблены ў 1905 годзе. Я адразу ўвяла яго ў навуковы ўжытак. Была там і фатаграфія сястры Цёткі Марыі,

і яшчэ некалькі, хто на іх сфатаграфаваны, і сам пан Вызга не ведаў, пазней прыйшлося ўдакладняць гэта з роднай сястрой Цёткі Каралінаю Пашкевіч.

Пасля сустрэчы ў Мінску ў нас са Станіславам Вызгам завязалася перапіска, і толькі ў адным з лістоў пан Станіслаў паведаміў мне, што жывая яшчэ родная сястра Цёткі Караліна Пашкевіч, што жыве яна ў Польшчы, у вёсачцы Франін каля Лодзі.

Сустрэцца з роднай сястрой Цёткі мне было, вядома, вельмі цікава, і пасля перапіскі, дамоўленасцяў я накіравалася ў Вроцлаў, да Станіслава Вызгі, каб разам з ім паехаць да Караліны.

Станіслаў Вызга звязаўся са сваёй знаёмай пані Геленаю, якая жыла ў Лодзі, тая сустрэла нас на вакзале на маленькім «фіяціку», мы селі ў машыну і паехалі. Прамінулі рабочую вуліцу Лодзі, засталіся ззаду аднолькавыя, як блізняты, чырвоныя цагляныя дамкі, пабудаваныя абапал фабрыкі, перад намі прасціраўся сучасны шырокі праспект з шумным патокам легкавых машын і аўтобусаў.

Зноў павузелі вуліцы, ведучы да прыгарада Лодзі — Аляксандрава, за якім была і мэта майго падарожжа — невялікая вёсачка Франін.

Машыну вяла пані Гелена, доктарка, мне яна была сімпатычная тым, што сярод клопату і турбот, якія паглынаюць жанчыну на ўсіх шыротах зямлі, знаходзіла час, каб наязджаць у вёсачку Франін, адведваць адзінокую Караліну Пашкевіч.

І вось скончыліся пакрытыя асфальтам вуліцы Аляксандрава, машына пакацілася па прасёлкавай дарозе. Абапал густая зеляніна чэрвеня, пахне ліпавым цветам, рамонкам, трускалкамі, што роўненькімі радочкамі кучаравяцца ўсцяж дарогі, тут і там чырванеючы буйнай спелай ягадай. Паміж кветнікаў — невысокія цагляныя дамкі сучаснай польскай вёскі. Машына спынілася каля аднаго — не самага новага, не самага прыгожага. Выходзім у халадок высокіх ліп, што растуць каля плота. Маё сэрца б’ецца паскорана — зараз я ўбачу родную сястру Цёткі, хочацца ўявіць — якая яна, і я чакаю ўбачыць старэнькую жанчыну ў доўгай спадніцы, у хустачцы пад бараду — жанчыну-сялянку…

У двары грэбаюцца куры, каля паваленага парканчыка забаўляюцца дзеці, з расчыненага хлява пахне гноем.

У цёмных сенцах крутая лесвіца вядзе на гарышча.

— Сюды, сюды, — паказвае мне Станіслаў Вызга, і я ступаю на лесвіцу.

— Божа мой, — дзіўлюся я, — і гэта пані Караліна ў свае дзевяноста тры гады кожны дзень ходзіць па гэтай лесвіцы?

— І ваду сабе насіць, і зімою вугаль, — адказвае Станіслаў Вызга.

На далейшую размову не хапае часу, мы стаім ужо каля дзвярэй, што вядуць да жылога пакоя, стукаем у іх, і нам адчыняюць.

Пані Караліна чакала гасцей, яе папярэдзілі, што прыедуць да яе здалёку, так што, убачыўшы нас, яна не здзівілася. Абняла, пацалавала мяне, як родную. Яе голас дрыжаў, дрыжалі худзенькія тонкія рукі.

Я памылілася, чакаючы ўбачыць сялянку ў доўгай спадніцы, у хустачцы, завязанай пад бараду. Перада мною была старэнькая, інтэлігентнага выгляду кабета ў чорным гарнітурчыку, белай блузачцы, чорных панчохах і туфліках на крыху збітых абцасах. Рэдзенькія сівыя валасы зачасаны ўгору, і трымаюць іх вузенькія грабеньчыкі, — так, як прыбірала валасы ў маладосці, як прыбіралі валасы яе сёстры, яе сучасніцы.

Але найбольш уразіў твар — мяккі, добры і па ўсім відаць, што некалі, у маладосці, вельмі прыгожы.

Ад хвалявання мы доўга не можам пачаць размовы, сядзім і абдымаем адна адну, і дрыжаць у пані Караліны рукі, і набягае на вока сляза. Дзіва, да яе, адзінокай, забытай, здаецца, усімі, і самім нават Богам, прыехалі з Беларусі, абудзілі ўспаміны пра радзіму, пра сям’ю.

Я азіраю пакойчык — засланы белым пакрывалам ложак, над ім — абразы, круглы стол, тапчан, шафка для посуду, на сценах старыя габелены. І кветкі, многа кветак у букетах — на стале, на падаконніку, на шафцы — рамонкі, васількі, лубін. Пасярод пакоя невялічкая кафляная пліта, гэта ў яе чэрава носіць халадамі пані Караліна вугаль, але ёсць і электрычнасць, на той жа пліце стаяць электрычныя прыборы — прас, чайнік.

Словы прывітання і размову пані Караліна пачала па-польску, але я спыталася ў яе, ці памятае яна беларускую мову, і Караліна Пашкевіч тут жа перайшла на самую чыстую, без акцэнту, прыгожую беларускую мову, якой не чула, на якой не гаварыла, можа, больш чым пяцьдзясят гадоў. Загаварыла з задавальненнем, з радасцю, і калі я потым, не вельмі ўмеючы, завяла з яе пляменнікам размову па-польску, яна ўзяла мяне за руку і папрасіла:

— Гавары па-беларуску…

Пані Гелена, якая прывезла нас на сваім «фіяціку» ў Франін, вярталася назад у Лодзь, яе чакалі службовыя абавязкі, абяцала заехаць па нас вечарам. Мы засталіся ўтраіх — гаспадыня, пан Станіслаў і я.

Караліна Пашкевіч разумела, што прыехала я да яе як да сястры Алаізы, што мяне цікавіць сям’я Пашкевічаў, і хутка павяла размову пра Алаізу. Да самага апошняга часу пані Караліна не ведала, што яе сястра — класік беларускай літаратуры, што яе вершы, біяграфію вывучаюць вучні ў школе. Зімою мінулага года я пераслала ёй праз Станіслава Вызгу аднатомнік твораў Цёткі, партрэт і плакат, выпушчаныя да стагоддзя з дня нараджэння паэтэсы. Разам са Станіславам Вызгам яны чыталі вершы, некаторыя з якіх Цётчына сястра ведала на памяць яшчэ з тых далёкіх часоў і якія з задавальненнем цяпер успамінала:

У кашульцы чорнай, зрэбнай,
Тварык сплаканы, мурзаты,
Ані бацькі, ані маткі,
Дзядзька выгнаў з роднай хаты…

Гэта з верша Цёткі «Сірацінка».

А вось плаката, партрэта ў хаце павесіць не можа.

— Надта баліць… Не магу глядзець, — кажа пані Караліна. — А тую кніжачку чытаю, паплачу і зноў чытаю…

Апошні раз Караліна Пашкевіч бачыла сваю сястру Алаізу ў 1915 годзе. Ішла Першая сусветная вайна, немцы падступалі да Вільні, Караліна з маці і з жонкаю брата Войцэха збіраліся ў бежанцы. Алаіза прыехала з Вільні, каб развітацца.

Бацька не паехаў з маці не толькі таму, што шкадаваў пакінуць гаспадарку, ён быў хворы, адняліся ногі.

Алаіза развіталася з маці, з сястрою, з залоўкаю.

Зімою 1916 года Стэпонас Кайрыс, перайшоўшы фронт, прыехаў у Чавусы Магілёўскай губерні, дзе жылі ў бежанцах маці і сястра Алаізы. Пра смерць Лізы маці не расказаў, шкадаваў яе здароўе. Зусім нядаўна яна перажыла смерць сына Юзіка. І пра смерць сына родныя не казалі мацеры, гаварылі, што сын у палоне. Але ў Васілішках спаткаў яе знаёмы і бухнуў:

— Ці ведаеш, пані, што сын твой забіты?

Маці ад гора ледзь не страціла розуму. І цяпер яна з падазрэннем пазірала на зяця, усё пыталася: «Як там Ліза?..» Душа чула нядобрае. А аднойчы раніцою прачнулася і сказала:

— З Лізаю няшчасце, я бачыла сон…

З бежанцаў Караліна з маці вярнуліся ў 1928 годзе, пасяліліся на хутары Катлоўка, каля Вільні, у брата Войцэха. Так што і на радзіме, у Старым Двары, пані Караліна не была з 1915 года, а

я туды ездзіла летась, і пані Караліна з хваляваннем мяне распытвала — як там цяпер, у Старым Двары?

Я гавару пані Караліне, што іхні дом перавезлі ў вёску Замасцяны, там цяпер школа.

— Добра, што хатку ўзялі пад школу, — кажа пані Караліна, а потым яшчэ раз паўтарае: — І вялікае для мяне шчасце, што ўзялі дом пад школу… А ці стаяць нашы ліпы? — пытаецца яна. — Некалі ў Старым Двары дужа раслі ліпы…

Я гавару, што ліпы растуць, што ў ліпавым парку Старога Двара святкавалі стагоддзе з дня нараджэння Цёткі, што, калі ўдарыў дождж, людзі хаваліся ад дажджу пад ліпы, якім, можа, па дзвесце гадоў.

Успаміны наплываюць адзін на адзін, і пані Караліна расказвае:

— Бацька вельмі любіў Лізу, а яе падоўгу не было дома, жыла за граніцай. Надта шкадавала, калі не магла патрапіць дадому на дажынкі, — любіла гэта свята. І бацька неяк пакінуў кавалак жыта, не скасіў, пакінуў для таго, каб справіць дажынкі, калі прыедзе Ліза. Любіла Ліза слухаць, як спяваюць жнейкі дажыначныя песні.

Засцілайце сталы, лавы,
Едзе госцік небывалы,
А ён доўга не бывае,
Скора з поля выязджае… —

успамінае пані Караліна, як спявалі ў іх на дажынках. — Здаецца, зусім нядаўна ўсё было, а цяпер… Я ўжо і глухая, і сляпая, і ўжо бабуля старая, — ціха смяецца Цётчына сястра. У ёй жыве пачуццё гумару, і яна любіць і ўмее прымаўляць у рыфму. Бярэ сваімі мяккімі рукамі мае рукі і расказвае: — У пятым годзе я з братамі жыла ў Вільні. і Алаіза жыла з намі… Дык у нас там усё лістоўкі пячаталі, пракламацыі, і станок быў… Прыходзілі да Лізы калегі, дзе катораму трэба схавацца, дык у нас хаваліся. Неяк ноччу стукаюць у дзверы, я гукаю: «Хто?» А мне кажуць: «Паліцыя». Я кажу: «Паліцыі не адамкну!» А гэта была не паліцыя, а нашы, з мяне пасмяяліся. Кажуць: «Каролька, мы свае, адчыні, не бойся…» А потым Ліза ў Нова-Вілейцы працавала, я да яе ездзіла, але надта той бальніцы баялася.

— А Ліза не баялася? — пытаюся я.

— Ліза нічога не баялася, адчайная была. Наша Фэля характарам па ёй пайшла, сумленная была, можа, за тое яе і забілі.

І я ўспамінаю курганок побач з магілаю Цёткі, дзе пахавана Феліцыя Пашкевіч, пляменніца паэтэсы.

— Толькі Ліза і Фэля засталіся на радзіме, у роднай зямлі, — уздыхае пані Караліна.

Я спыталася ў Цётчынай сястры:

— Скажыце, пані Караліна, можа, у вас захаваліся якія дакументы ці фатаграфіі вашай сям’і?

— Няма, мілая, нічога, — з горыччу адказала яна. — Усё спаліла. Хварэла надта, думала, памру ўжо, дык узяла і ўсё спаліла.

Я жахнулася:

— Нашто ж было паліць?

— А каб не валялася пасля маёй смерці… А то валяцца будзе, дзеці будуць цягаць… Плакала я і паліла, нікога ж з нашага роду не засталося, адна я дажываю веку, вось Станіслаў не забывае, прыязджае, каб не ён… Але што зробіш, у кожнага чалавека сваё гора, кожнаму рабак сэрца точыць…

Потым мы гулялі па двары, па вёсцы, і пані Караліна стаяла, крышку згорбіўшыся, склаўшы перад сабою рукі. А я ўспамінала адну фатаграфію Цёткі, на якой была добра відаць яе рука, і мне здавалася, што рукі ў пані Караліны акурат такія, як былі ў яе сястры Алаізы.

Гулялі мы і за гумнамі, дзе густою сцяною расло жыта і пахла зялёным коласам, мятаю, і там фатаграфаваліся, і пані Караліна, непрывычная да такой увагі, саромелася, зноў стаяла, склаўшы перад сабою рукі, а за спінаю ў яе спела на гарачым сонцы збожжа.

Відаць, і радасны, і цяжкі быў для яе гэты дзень, ён вырваў яе з прывычнай адзіноты, вярнуў у мінулае, у маладосць, прынёс подых радзімы, успаміны пра блізкіх і родных. Не спыняліся дрыжаць яе рукі, дрыжаў голас, з грудзей час ад часу вырываўся стогн, зноў і зноў наплывалі ўспаміны.

— Бацька наш добры быў, ніколі не біў дзяцей, мяне толькі раз стукнуў рукавом ад марынаркі — загадаў: «Ідзі скажы пастуху, каб выгнаў быдла ў поле», а я не паслухалася. Дзіва, пяць дзевак было, скажа адной нешта зрабіць, а тая іншую пасылае. Ён з намі мала бываў, больш у Пешчыне, там наглядаў за парадкам, у Стары Двор прыязджаў у суботу вечарам, на нядзелю. Дома запраўляла ўсім маці, а дзеці вучыліся ў Гродна, у Вільні, на вакацыі і на святы з’язджаліся дадому. мы, сёстры, дома вялікай работы не рабілі, як малыя былі, то бегалі ў лес па грыбы, па ягады, а як выраслі, то толькі сачылі за чысцінёю ў пакоях.

— А колькі было ў вашым доме пакояў? — пытаюся я.

— Пачакай, дай успомню, — кажа пані Караліна. І пачынае лічыць: — Шэсць было пакояў і кухня…

Каля дома пачуўся рокат матора, гэта прыехала, скончыўшы работу ў паліклініцы, пані Гелена. Караліна Пашкевіч павяла нас у свой пакойчык, паставіла на стол усё, чым была багата яе хата. І мы елі «канапкі» (бутэрброды), свежыя трускалкі, пілі цёплае, толькі з-пад каровы, малако.

— Вось ты і на праўдзівай вёсачцы пабыла, свежага малачка папіла, — гладзіла мае рукі пані Караліна. — З кубачка ды ў губачку…

— Пані Караліна, няйнакш і вы некалі вершы пісалі, — сказала я.

— У маладосці спрабавала, ды скора пакінула, — прызналася Цётчына сястра.

З адчыненага акна павеяла вечаровай прахалодай, канчаўся доўгі летні дзень, які нам здаўся вельмі кароткім. Час было збірацца дадому, у кішэні ў мяне ляжаў білет на цягнік да Варшавы.

На развітанне пані Караліна падарыла мне драўляны чорны крыжык з распяццем.

— Гэты крыжык вісеў яшчэ над ложкам нашай мацеры, — сказала сястра Алаізы Пашкевіч.

Цяпер гэты крыжык вісіць на сцяне над маім рабочым сталом. Я часам дакранаюся да яго і думаю: гэта ж да яго дакраналіся рукі Цётчынай мацеры… А можа, і рукі самой Цёткі?

Я дзякавала гаспадыні за яе гасціннасць, жадала добрага здароўя, сказала, што павінна выйсці кніга пра Цётку, што я прышлю ёй гэту кнігу.

— Каб жа дажыць да такога шчасця, — гаварыла пані Караліна. — Я тады б сказала: «Сястрыца мілая, іду да цябе з кніжкаю пра цябе!»

Мы абняліся, пацалаваліся. Пані Караліна праводзіла нас да машыны. І засталася стаяць пад ліпамі — самотная, у чорным гарнітурчыку. Родная Цётчына сястра, якая звязала нітачкаю той далёкі час з сённяшнім днём. Я ўяўляла, як яна вернецца ў свой пакойчык са старымі габеленамі, якія віселі яшчэ ў Старым Двары, і мне рабілася цяплей на сэрцы ад таго, што жыве яшчэ частачка свету, да якога дакраналася душа нашай выдатнай паэтэсы Цёткі. І рабілася тужліва, калі ўяўлялася самотнасць Цётчынай роднай сястры, адарванасць яе ад радзімы. Падчас нашай гутаркі не-не дый прарывалася ў пані Караліны крыўда — за тое, што раскідалі «саветы» па свеце рэштку іхняй сям'і, разбурылі роднае гняздо. Восенню 1939 года вывезлі ў Сібір

брата Войцаха, сястру Стэфанію. Войцах там і загінуў. Сястра Стэфанія вярнулася на радзіму і пасля вайны выехала ў Польшчу, памерла ў 1947 годзе ў Шчэціне ў багадзельні. Была вымушана выехаць у Польшчу і пані Караліна. І дасюль смуткуе па радзіме.

Ані маткі, ані таткі,
Савет выгнаў з роднай хаткі, —

з горыччу перайначыла яна верш Цёткі…

Але вестка пра сястру, пра тое, што яна — класік беларускай літаратуры, сагрэла душу пані Караліны, прынесла цяпло і подых з Радзімы, скрасіла дні, якіх у Цётчынай сястры заставалася ўжо нямнога.

Былі яшчэ дарогі, незабыўныя сустрэчы з тымі, хто хоць што-небудзь ведаў пра сям'ю Пашкевічаў, былі архівы і бібліятэкі, дзе па крупінках вышукваліся патрэбныя звесткі па тэме. Усё гэта памагло мне раскрыць прывабны вобраз легендарнай беларускай паэтэсы пачатку XX стагоддзя Алаізы Пашкевіч, якая сваім літаратурным імем выбрала наша простае слова — Цётка.

## СЯМ'Я

3(15) ліпеня 1876 года ў фальварку Пешчын, каля Васілішак, на Лідчыне, у сям'і Стэфана Пашкевіча нарадзілася дзяўчынка. Гэта было трэцяе дзіця, гадаваліся ўжо дзве дачкі — Стэфанія і Марыя.

Праз два месяцы пасля нараджэння, 8 (20) верасня 1876 года, бацькі запрэглі коней і паехалі ў мястэчка Васілішкі, у касцёл, дзе па ўсіх правілах рымска-каталіцкай царквы ксёндз Раецкі ахрысціў дзяўчынку. Імя далі ў гонар бабкі, бацькавай мацеры Алаізы Пашкевічовай, якую папрасілі стаць і хроснай маці ўнучкі.

Дзед будучай паэтэсы Войцах Пашкевіч меў два фальваркі — Тарэсін і Пешчын, вёрст за пяць адзін ад аднаго. Стэфан быў адзіным сынам у бацькоў, і калі ажаніўся, бацька аддаў яму большы фальварак, Пешчын, а сам застаўся жыць у Тарэсіне.

За жонку Стэфан Пашкевіч узяў прыгожую, статную дзяўчыну Ганну з роду Вызгаў — жылі недалёка ад Пешчына, у фальварку餐 Каролін. Жонка прынесла мужу добры пасаг, і малады Пашкевіч хутка аказаўся гаспадаром немалога багацця, а ўзяўшыся за працу самастойна, паказаў, што гаспадарыць умее. І ў

фальварку, і ў полі, і ў лесе былі ў яго парадак і лад, ведаў, як і што ў пару пасеяць, як і што ў пару прыбраць, умеў даглядаць за коньмі ды каровамі.

Сваёй сям'ёй не маглі ўправіцца на гаспадарцы, прыходзілася і парабкаў наймаць, але не ў такім ліку, каб самім зусім атрэсці рукі ад работы, і гаспадар таксама не меў вольнай хвіліны, хапала клопату і жонцы.

Стэфан Пашкевіч усё больш уваходзіў у смак сваёй гаспадаркі, пачынаў разумець, якое гэта залатое дно — зямля, ён ужо строіў планы, як купіць яе болей, каб разбагацець па-сапраўднаму. А тут адно за адным нараджаліся і дзеці — нашчадкі багацця, — пасля Алаізы знайшліся хлопчыкі Войцах і Юзік. Дзеці патрабавалі догляду, асабліва меншыя. Вырашылі, каб Алаіза з малодшым братам Юзікам гадаваліся ў Тарэсіне ў бабкі. Бабка і сама прасіла, каб прывезлі ёй унучку, бо Лізаньку (так звалі Алаізу ў сям'і) яна найбольш любіла, можа, мела тут значэнне, што бабка была і хросная сваёй унучкі, і імя малой далі бабчына, бачыла ва ўнучцы працяг свайго жыцця. Разам з малымі засталася жыць у Тарэсіне і старая нянька Ягася, якая выгадавала ўсіх дзяцей Пашкевічаў.

Бабця, як ласкава называлі бабку дзеці, была добрая, клапатлівая, як на той час, то і адукаваная, інтэлігентная кабета і разам з тым шчырая каталічка. З вялікаю вераю тлумачыла яна дзецям розныя каталіцкія догмы, прымушала завучваць пацеры, шчыра маліцца, са святасцю і вялікім шанаваннем ставіцца да ўсяго, звязанага з імем Бога.

Рэлігійнае выхаванне стаяла на першым плане, але Алаізу разам з тым бабка вучыла і рукадзеллю — вышываць крыжыкам і гладдзю, плесці карункі, як большай за Юзіка, скора пачала паказваць літары ў кнігах. Да рукадзелля Лізанька не мела вялікай ахвоты, затое хутка навучылася чытаць і пісаць па-польску.

Нянька Ягася была, як гэта кажуць, косць ад косці беларуская сялянка. Яна ведала шмат казак і любіла расказваць іх дзецям, найбольш было казак пра разбойнікаў і духаў з таго свету, і дзеці слухалі іх, паразяўляўшы раты. Пад уплывам гэтых казак яны і самі выдумлялі розныя страхі, чароўнае, неверагоднае прыходзіла і ў гульні — найбольш любілі гуляць у цыганоў, у ксяндзоў, у розных варажбітоў.

У гульнях і выдумках Лізанька была вельмі вынаходлівая і эмацыянальная, умела сваім настроем захапіць іншых дзяцей, прымушала іх паверыць у рэальнасць вобразаў уласнай фантазіі

і часам, навыдумляўшы розных страхаў, так палохала дзяцей, што тыя аж да бабкі беглі ратавацца. Такім настроем спрыяла і ваколіца — фальварак Тарэсін стаяў сярод густога дзікага лесу, дзеці хадзілі туды па грыбы, у ягады, аднак за кожным вываратнем былі гатовы ўбачыць лесавіка, голас птушкі здаваўся голасам чарадзея.

З дзецьмі ў поле, у лес хадзіла і нянька Ягася, якая ведала, здаецца, усё на свеце. Яна казала, як называецца кожная травінка, кветачка, па голасе пазнавала, якая птушка спявае, і апавядала дзецям пра яе нораў — як каторая птушка гняздо ўе, птушанят гадуе, і зноў тут жа ўспаміналіся казкі — пра лебедзя, пра салаўя.

Часам нянька пачынала спяваць песні — жаласныя, тужлівыя — пра горкую долю сіраты альбо маладой дзяўчыны, што аддалі замуж за нялюбага. У Алаізы ад гэтых песень аж халадзела ўсярэдзіне, і балюча, і хораша было іх слухаць, і шкода рабілася гаротных, няшчасных, што трывалі гэтулькі пакут.

Калі кволая ад нараджэння Лізанька хварэла, нянька лячыла шэптамі, замовамі, «святой вадой», зёлкамі, якіх заўсёды мела цэлы куфэрак, зашывала ў сукенку «святую аблатку», і гэта павінна было выгнаць хваробу, вадзіла да «святой» крыніцы, давала есці загаворанае жыта, качала пярэпалахі — шчыра верыла ў чары, шэпты, прыгаворы.

Відаць, ужо ў дзіцячыя гады ў душу паэтэсы пачалі западаць уражанні, што збіраліся, множыліся, каб потым даць парасткі, з якіх зацвітуць паэтычныя краскі, — глухая дзікая ваколіца і адзінокі фальварак, лагодная бабка, уплыў з яе боку — рукадзелле, грамата — і народная стыхія ў асобе нянькі Ягасі з яе казкамі, песнямі, народнаю мовай.

У сям'і Пашкевічаў з даўніх часоў жыла цяга да пісьменнасці, да культуры. Як на католікаў, цераз касцёл на іх уплывала культура польская, ды і наогул у вёсцы лічылася, што паны павінны «мувіць» па-польску, і ў хаце, у сям'і Алаізы, гаварылі па-польску, але на гэтую польскую мову вельмі ўплывалі беларускія сінтаксіс, вымаўленне, слоўнік. Гаварылі, можна сказаць, па-беларуску на польскі манер, а бацька дык і не стараўся ламаць гаворкі, у вёсцы, з сялянамі, з парабкамі размаўляў па-беларуску і дадому прыходзіў — не мяняў мовы, ведаў, што і так зразумеюць. Алаіза потым будзе прызнавацца, што доўга не магла зразумець, хто ж яна па нацыянальнасці — ці то полька, ці то літоўка, бо гэта ж не нацыянальнасць — тутэйшая, а пра беларускую мову тады і не чула, не ведала.

Ёй было дзевяць гадоў, калі бабка памерла і бацькі забралі дзяцей у сваю сям'ю. Цяпер Пашкевічы жылі ў вёсцы Стары Двор, усё ў тым жа кутку, недалёка ад Пешчына і Тарэсіна.

Пры Старым Двары мелі цяпер сто гектараў зямлі і сто дваццаць гектараў пусташы ў Пешчыне. Зямлю ў Пешчыне пачалі аддаваць у арэнду сялянам.

Вялікі, з тоўстых бярвёнаў, на шмат пакояў дом Стэфана Пашкевіча стаяў цяпер на ўскраі вёскі Стары Двор, крыху нават наводшыбе. На фоне бедных сялянскіх хат, пакрытых саломаю, ён вылучаўся гонтавай страхою, фарбаванымі аканіцамі.

За домам стаялі гумны, стадолы, абора, свіран, стайня, манеж, дзе працавалі малатарня і сячкарня. Да дома вяла алея арабін, па гэтай алеі выганялі на пашу кароў, узнімаючы пыл, скакалі ў начное спутаныя коні, і на спінах іх гарэлі чырвоныя водбліскі сонца, якое апускалася за лес.

Каля дома гаспадар пасадзіў сад, і ён добра прыняўся, хутка шырокімі кронамі разраслiся яблыні, высока ўзняліся стромкія грушы, залацілася лістамі вішня, жывою агароджаю кусціліся парэчкі, маліна. Вясною дрэвы абсыпала бела-ружовым цветам, ападаючы, ён усцілаў зямлю, як снегам.

Пад вокнамі ў гародчыку буялі кветкі — бэз, цюльпаны, ляўкой: сёстры Пашкевічанкі, а было іх цяпер пяцёра — Стэфанія, Марыя, Алаіза, Караліна, Зося, — любілі кветкі, даглядалі гародчык.

Калі Алаізе споўнілася адзінаццаць гадоў, яе павялі да першай споведзі, да першага прычасця ў касцёл. Перад гэтым маці, таксама вельмі набожная, шчырая каталічка, паўтарала ўрокі бабкі — пра Бога, у якога трэба свята верыць, якога трэба моцна любіць, шанаваць, вучыла малітвам, тлумачыла, як трэба жыць на свеце, каб ёю быў задаволены сам святы Божа, тлумачыла, што такое грэх.

У белай сукенцы, з вяночкам кветак на валасах, ступіла дзяўчынка ў таямнічую, прахалодную цішу касцёла, дзе ўсё' было так хораша прыбрана, дзе прыгожа спявалі, іграў арган. У куце стаяў, звесіўшы галаву на грудзі, з ранаю ў сэрцы, сам Езус Хрыстус. Алаіза пацалавала яго ў нагу ў тым месцы, дзе яна была прабіта цвіком, і шчыра хацелася ёй быць вернаю дачкою Бога, і ненавідзела яна грахі, што раняць яго сэрца.

А ксёндз казаў, што красці — грэх, хлусіць — грэх, не слухацца старэйшых — таксама грэх, і грэх котку мучыць.

Пасля першага прычасця Алаіза лічылася ўжо дарослаю. Калі ведаеш, што добра і што кепска, значыцца, ужо дарослы чалавек, можаш жыць на свеце па справядлівасці.

І яшчэ адно ўражанне дзяцінства, зусім не звязанае з першым, — гэта паездка з бацькам у Літву, у Ночу, лён прадаваць. Там упершыню пачула Алаіза літоўскую мову, зусім не падобную ні на польскую, ні на рускую, ні на тутэйшую. Сукенкі ў літовак быццам як нашы, і ўзор вышываны на блузках таксама, але на галовах ці то шапачкі, ці то каптуры. Здзівіў дзяўчынку шматколерны свет, а літоўцаў з таго часу яна пачала называць «гіргунамі», жартам, вядома, бо самі людзі ёй спадабаліся, а «гіргуны», бо не гавораць, а гіргочуць.

У багатай сям'і дзеці павінны былі вучыцца, і Стэфан Пашкевіч наймаў ім хатніх настаўнікаў. Дзеці вучыліся з ахвотаю. Здабыўшы дома першую грамату, імкнуліся ў вялікія гарады па далейшую навуку. Старэйшая сястра, Стэфанія, вучылася ў Гродні на агранома, брат Войцах рыхтаваўся паступаць у афіцэрскую школу ў Вільні, сястра Марыя канчала рэальнае вучылішча.

Дома хутка заўважылі, што Алаіза вылучаецца здольнасцю да навукі, проста на ляту ловіць усё, што тлумачаць ёй настаўнікі, умомант рашае нават самыя цяжкія задачкі. Браты і сёстры прарочылі ёй, што яна будзе тэлеграфісткай, у іх вачах гэта ўяўляла вышэйшую ступень, на якую можа ўзысці жанчына, здабыўшы асвету.

Настаўнікі ў дзяцей Пашкевіча часта мяняліся, Алаізу вучылі і гімназісты, і студэнты, і «аспірант на ксяндза» Антон Зарэмба, і руская дзяўчына Вера Тацішчава. Відаць, што тут перамешвалася і руская, і польская грамата, бацькі не ведалі, куды аддаваць дзяцей вучыцца далей, ды хутка зразумелі, што перавагу мае руская мова, у царскай Расіі афіцыйныя навучальныя ўстановы былі толькі рускія.

Бацька даваў навуку дзецям, бо хацеў бачыць іх панамі, не такімі, як ён сам, а важнейшымі: каб сыны былі афіцэрамі, ну а дочкі, калі вучоныя, то і замуж лепей выйдуць, не за абы-каго, а за важных чыноўнікаў. Перад вачыма быў прыклад іншых багатых сем'яў і вечны, непахісны аргумент: «А хіба мы горшыя?»

Стэфан Пашкевіч добра ведаў закон свайго грамадства — у каго грошы, той і пан, кожны стараецца нажыць іх болей. Гэтую жыццёвую мудрасць тлумачыў і дзецям. А гаспадыня, маці, чуйна стаяла на варце рэлігіі. У сям'і ўставалі і клаліся з малітваю, па нядзелях апраналі ўсё лепшае, запрагалі коней і ехалі ў Васілішкі, у касцёл. Да касцёла з'язджаліся сяляне з усёй ваколіцы, шмат хто ішоў пехатою за многія вёрсты, спадзеючыся, што за гэта яго малітва хутчэй дойдзе да Бога. Шлюб, радзіны, кожнае свята — хіба магло гэта адбыцца без благаславення боскага,

няхай бы хто адважыўся і сказаў якое слова супраць Бога, яго з хаты выгналі б, праклялі б.

І Алаіза расла ў атмасферы гэтай строгай рэлігійнасці, выконваючы ўсе каталіцкія абрады — малілася, стоячы на каленях, жагналася, цалавала крыж, хадзіла ў касцёл.

* * *

Але вось жыццёвыя абставіны мяняюцца. У 1892 годзе, ва ўзросце шаснаццаці гадоў, Алаізу разам з малодшым братам Юзікам, з тым самым, з якім разам гадавалася ў фальварку Тарэсін, адпраўляюць у Вільню, пад апеку старэйшай сястры Марыі, якая была ўжо замужам і жыла ў Вільні сваёй сям'ёй, — каб там малодшыя брат і сястра рыхтаваліся да паступлення ў навуку.

Да гэтага часу ў біяграфіі Цёткі пісалася, што ў Вільні яна паступіла вучыцца ў гімназію і потым скончыла яе. Такія звесткі падаў брат паэтэсы Войцах, але яны недакладныя. Дакументы дазволілі ўстанавіць, дзе вучылася Алаіза.

У Вільні ў той час існавала рускае прыватнае сямікласнае жаночае вучылішча Веры Міхайлаўны Прозаравай. Іменна ў гэта вучылішча і паступіла Алаіза Пашкевіч.

Рыхтаваў яе да паступлення студэнт па прозвішчу Баравік — невысокі, чарнявы, у паношаным пінжачку. А раней Алаіза думала, што ў Вільні жывуць адны паны: старэйшая сястра, якая вучылася ў Вільні, прыязджаючы на вакацыі дадому, столькі расказвала пра горад, пра яго высокія камяніцы, доўгія вуліцы, крамы, у якіх чаго толькі няма і з яды, і з адзення, пра хараша прыбраных гарадскіх паненак і паноў.

Вільня, якую ўбачыла Алаіза, была і падобная на тую, што ўяўлялася, і непадобная, ды пакуль не мела часу азірацца, увесь свет засланялі падручнікі, кнігі.

Алаіза вельмі старалася вучыцца — каб не зглуміць грошай, якія плаціў за навуку бацька, каб не дарэмна траціў на яе сілы пан студэнт Баравік. Старанні далі свой вынік, і ў 1894 годзе, ва ўзросце васямнаццаці гадоў, Алаіза паступае ў чацвёрты клас прыватнага рускага сямікласнага вучылішча Веры Міхайлаўны Прозаравай.

Пачаліся заняткі — урок за ўрокам, прадмет за прадметам, ад званка да званка. Лёгка давалася арыфметыка, любіла прыродазнаўства, геаграфію. Руская мова і славеснасць ішлі тугавата: што ж, вучылася чытаць і пісаць па-польску, з маленства чула

вакол сябе простую гаворку, тутэйшую, цяжка адразу засвоіць рускае пісьмо, граматыку. Але старалася.

І прыглядалася да ўсяго, што бачыла вакол — у вучылішчы, у горадзе, прыслухоўвалася да размоў, да разважанняў, сама пачала разважаць.

Моладзь, як і ўсюды, ва ўсе часы, імкнулася да кантакту паміж сабою, дзяўчаткі з вучылішча Прозаравай сустракаліся з гімназістамі, юнакі з іншых навучальных устаноў прыходзілі да вучаніц Прозаравай. Там-сям завязваліся інтымныя адносіны, пачыналіся сакрэты, дзяўчаты адна адной адкрывалі свае таямніцы. Толькі Алаізу прывабіла, захапіла іншае.

У Вільню па навуку ішла з вёсак і літоўская, і польская, і беларуская моладзь, паступала ў рускія гімназіі, семінарыі, бо навучальных устаноў на сваёй роднай мове не мела. Часцей за ўсё гэта былі не зялёныя хлапчукі, шмат каму падбіралася пад дваццаць, а каму і за дваццаць пераваліла. Нялёгкім быў іхні шлях ад сахі, ад бараны да кнігі. Навука ўладна клікала іх да сябе, клікала іх да сябе і палітыка. Прачыналася і класавае, і нацыянальнае самапачуццё, пратэст супраць несправядлівых умоў жыцця, калі адны маюць усё, самі нічога не робячы, а другія працуюць на іх ад світання да змяркання, калі адна нацыя пануе над другою, забараняе родную мову, насміхаецца з роднай культуры. Уплываў і бурлівы час, калі вялікая, шматнацыянальная Расія нібыта прачыналася ад сну, імкнулася зразумець: хто яна, па якой дарозе павінна ісці ў гісторыю.

Сярод віленскіх студэнтаў, гімназістаў утвараліся гурткі, у якіх яшчэ нясмела і пакуль яшчэ няўмела пачынала гучаць рэвалюцыйнае слова.

Прасочваўся сюды і народніцкі дух, прадстаўнікі гэтага кірунку адчувалі на сабе, інтэлігенцыі, абавязак перад сваім народам, лічылі, што яны павінны несці простаму люду грамату, культуру і гэтым спрыяць паляпшэнню яго ўмоў жыцця.

З імі спрачаліся тыя, чые бацькі, магчыма, прымалі ўдзел у паўстанні 1863 года. Яны скептычна ставіліся да ліберальных ідэй, выказвалі радыкальныя погляды, гаварылі аб тым, што перш-наперш неабходна вызваліць свой край ад расійскага самаўладства.

Вось да гэтых размоў, да гэтых гурткоў усёй душой пацягнулася Алаіза. Сама пачала думаць — а ці справядліва ўсё створана на зямлі, і калі несправядліва, то чаму благаславіў такія парадкі Бог? Чаму адным — усё, а другім — нічога? 1 калі грэх котку мучыць, то яшчэ большы грэх мучыць чалавека, а колькі на зямлі

бяды і гора, галодных дзяцей, змучаных непасільнаю працаю кабет, колькі на зямлі несправядлівасці.

Жылі Алаіза з братам у старэйшай замужняй сястры Марыі ў цагляным доме з тоўстымі, як у мурах, сценамі, вокны выходзілі ў каменны, падобны на калодзеж, двор, у якім не расло ні галінкі зеляніны. Пасля вясковага прастору, палёў і лясоў Алаізе непрывычным было гэта голае каменне, цесната, шум вуліц, але ўсё больш цікавіў і горад з яго фабрыкамі, заводамі, канцэртамі, універсітэтам.

Брат Юзік, услед за старэйшым братам Войцахам, рыхтаваўся паступіць у афіцэрскую школу. Алаіза налягала на падручнікі, прыахвоцілася і да чытання вершаў, раманаў, глытала кнігі адну за адной.

Ужо крыху прывычнае гарадское жыццё парушыла вялікая бяда — памерла сястра Марыя. На слабы ад прыроды арганізм Алаізы гэта смерць зрабіла вельмі цяжкае ўражанне. Яна захварэла — нічога не магла есці, кепска спала, і ў яе пачала развівацца анемія, як тады называлася малакроўе, — кружылася галава, нудзіла, літары ў кніжцы скакалі перад вачыма.

Доктар сказаў, што паненка, калі не хоча зусім згубіць здароўе, павінна, хоць часова, пакінуць горад, вучобу і паехаць у вёску, падыхаць чыстым паветрам, папіць свежага малака.

Доктар засмуціў Алаізу, сказаўшы, што яна павінна перапыніць заняткі, але яна ўжо скончыла пяць класаў вучылішча і мае больш чым дваццаць гадоў…

Каб не траціць часу, не проста так, без мэты, дыхаць вясковым паветрам, Алаіза просіць накіравання ў вёску, у школу, яна ўжо цяпер хоча працаваць настаўніцай.

І яе накіравалі ў вёску, у пачатковую школу.

…Звычайная сялянская хата, амаль палову якой займае печ, невялічкія вокны, збітыя з дошак сталы і лаўкі, а за імі — дзеці — нястрыжаныя, апранутыя ў саматканае адзенне, і то часта не сваё, а старэйшых брага ці сястры. Але колькі цікавасці ў вачах, колькі старання, якая паслухмянасць, на настаўніцу глядзяць як на святую, ловяць кожнае слова, так стараюцца ўсё зразумець, але… І тут тое самае, што для Алаізы было ў вучылішчы…

Школа ў вёсцы руская, і дзецям цяжка вучыцца чытаць і пісаць, шмат якіх слоў зусім не разумеюць, прыходзіцца тлумачыць па-тутэйшаму, па-мясцоваму, як дзеці дома з бацькамі гавораць.

Іншымі вачыма глянула цяпер Алаіза Пашкевіч і на беларускую вёску, па-новаму ўразілі беднасць, цемната, прыніжанасць,

людское гора, доля кабеты, лёс сіраты. Успаміналіся прамовы ў гуртках, і цяпер гэтыя прамовы, размовы таксама набывалі новы сэнс. Аказваецца, нельга мірыцца з несправядлівым парадкам жыцця, стварыў яго не Бог, а людзі, і самі людзі павінны перамяніць такі парадак.

У 1899 годзе Алаіза вяртаецца ў Вільню, каб вучыцца далей. Сястры ўжо не было, прыходзілася жыць адной, самастойна, і Алаіза наняла пакойчык у знаёмых на прадмесці. Бацькі хоць і нябедна жылі, аднак лічылі кожны грош, і Алаізе было ўжо няёмка напамінаць ім, што сядзіць без капейкі, што часта нават галадае. Мабыць, да гэтага перыяду яе жыцця адносяцца і ўспаміны Кветкі Вітан, якія Адам Мальдзіс адшукаў у Лондане. Кветка Вітан успамінае: «Разам у вышэйшых курсах з маёй старэйшай сястрой вучылася Алойзія Пашкевіч. Яна здала экзамены ў 4 ці 5 клас і была старэйшая за другіх дзяўчат па класе. Казалі, што яна прыехала з вёскі. Яна трымалася асобна ад другіх, была маламоўная, але з маёй сястрой яны сышліся бліжэй, бо сястра ёй памагала адрабляць лекцыі французскай і нямецкай мовы… Наогул аб сваім жыцці і сям'і Ал. Пашкевіч ніколі не гутарыла, сястра ведала толькі, што яна жыве ў знаёмых на прадмесці. Але раз у гімназіі паўстаў вялікі перапалох. Ал. Пашкевіч, вучаніца 7-га класа, абамлела ў час лекцыі, і школьная лекарка прызнала, што гэта ад недаядання яна так аслабела. Памятаю, мая сястра ў хаце са слязьмі апавядала, што Ал. Пашкевіч гэтак бедная, што на яду ёй не хапае, але яна вельмі амбітная, не хоча прымаць помачы…

Ал. Пашкевіч і сваімі гадамі (яна позна папала ў школу і з вялікімі пакутамі і працай падгатовілася да экзамену ў гімназію), і сваёй павагай выдзялялася сярод вясёлых, бестурботных дзяўчат. Помню, яна кідалася ў вочы сваім бледным паважным тварам, які не блістаў свежасцю і красой маладосці, але які сваімі сур'ёзнымі вачыма, трохі выступаючымі скуламі, тонкімі і зжатымі губамі казаў аб сіле і цвёрдасці характару.

У нас у хаце Ал. Пашкевіч была рэдкі госць, хоць мая маці яе ветліва прымала і запрашала, усё яна тлумачыла, што не мае часу, бо мусіць не толькі вучыцца, але яшчэ даваць лекцыі, каб зарабляць на сваё ўтрыманне. Мы яе лічылі за польку, бо яна была каталічка і ніколі ні слова не сказала аб сваёй беларускасці і палітычных ідэалах. Праўда, і я, і сястра былі нашмат маладзей за яе».

Такім чынам, ужо з першых крокаў самастойнага жыцця Алаізе Пашкевіч давялося пазнаць нямала горкага, давялося праявіць і мужнасць, і характар, каб дабіцца свайго. І яна дабі-

ваецца — у 1901 годзе, ва ўзросце 25 гадоў, заканчвае вучылішча Прозаравай і атрымлівае пасведчанне:

«Падацелька гэтага, былая вучаніца VII класа Віленскага прыватнага сямікласнага вучылішча Пашкевіч Алаіза, як відаць з дакумента, дачка мяшчан, рымска-каталіцкага веравызнання, паступіла па экзамену ў VI клас у 1899 годзе і, знаходзячыся ў вучылішчы да заканчэння поўнага курса навучання, пры выдатных паводзінах пераводзілася, па пастанове педагагічнага савета вучылішча, у вышэйшыя класы.

У бягучым годзе пры экзаменах VII класа яна, Пашкевіч, паказала па прадметах ніжэйпазначаныя веды: па закону Божаму — добрыя, па рускай мове і славеснасці — здавальняючыя, па французскай мове — здавальняючыя, па арыфметыцы — добрыя, па геаметрыі — здавальняючыя, па алгебры — здавальняючыя, па геаграфіі — добрыя, па гісторыі рускай і ўсеагульнай — здавальняючыя, па фізіцы — здавальняючыя, па гігіене — добрыя.

Звыш таго, яна, Пашкевіч, вывучала англійскую мову, маляванне, рукадзелле, у пацверджанне чаго ёй, Пашкевіч, і выдадзена гэта пасведчанне па вызначэнні педагагічнага савета Віленскага прыватнага сямікласнага жаночага вучылішча, які адбыўся 5 чэрвеня 1901 года».

Як відаць з пасведчання, адзнакі па прадметах у выпускніцы былі не вельмі высокія, найбольш здавальняючых і некалькі добрых, прычым здавальняючыя адзнакі — па гуманітарных прадметах.

Але вучылішча закончана, і трэба думаць, як жыць далей.

Пакуль падумалі за яе і накіравалі на працу ў вёску, настаўніцай.

Аднак ведала, адчувала Алаіза, што не спыніцца ўжо на дарозе па навуку, што вучылішча Прозаравай толькі яе пачатак, выплываў прывабнай марай універсітэт. Але для гэтага трэба мець грунт пад нагамі. Трэба разлічваць на сябе, на свае сілы, умець самой зарабляць на жыццё, не век жа прасіць у бацькі. А што яна ўмее? У вучылішчы лепш за ўсё ішла ў яе арыфметыка. Вось і вырашыла — здаць экзамен на званне хатняй настаўніцы арыфметыкі. І здала. У пасведчанні аб сканчэнні вучылішча чорным чарнілам цяпер было дапісана:

«Названая ў гэтым пасведчанні Алаіза Пашкевіч вытрымала ў экзаменацыйным камітэце пры кіраўніцтве Віленскай навучальнай акругай спецыяльны экзамен на званне хатняй настаўніцы арыфметыкі і атрымала ад кіраўніцтва названай акругі 27 чэрвеня 1901 года за № 8675 пасведчанне на гэта званне, аб чым запісана і казённаю пячаткаю пацверджана».

У пачатку ліпеня Алаіза прыехала дадому — ужо сапраўдная настаўніца, з накіраваннем у школу. Адпачывала, набіралася сілы перад новым навучальным годам. Маці заказала ёй у Васілішках, у краўца, новую сукенку — доўгую, з каўнерыкам каля самай шыі, заказала новае паліто, купіла новыя чаравікі — дачка настаўніца, трэба, каб выглядала не горш за людзей.

А каля дома, у садзе наліваліся сокам яблыкі, пачыналі спець парэчкі, буялі пад вокнамі кветкі, цвілі, на ўсю ваколіцу пахлі разложыстыя ліпы. Вакол быў родны прастор — лясы, палі, а ў хаце родныя, свае, якія яе любілі і якіх яна любіла, і рабілася так хораша, так светла на душы, чакалася ад жыцця незвычайнага, чароўнага і толькі добрага.

* * *

У той час, калі Алаіза Пашкевіч набіралася ведаў у вучылішчы Прозаравай, Вільня была звычайным губернскім горадам царскай Расіі, аднак гісторыя паклала на яго і самабытны адбітак. Князі, літоўскія і польскія, кожны ў час свайго панавання, будавалі ў сталіцы касцёлы — і як знак сваёй глыбокай веры, і як просьбу заступніцтва, падтрымкі ў святых. Акрамя таго, не хацелі адставаць ад Заходняй Еўропы, гарады якой з веку ў век упрыгожваліся перламі архітэктуры. І ў Вільні ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя было ўжо шмат касцёлаў, што ўяўлялі сабою сапраўдныя творы мастацтва.

Такім цудам лічыўся, і лічыцца цяпер, касцёл святой Анны. У 1812 годзе, падчас свайго паходу на Расію, Напалеон спыняўся ў Вільні, любаваўся гэтым касцёлам і, як сведчаць гісторыкі, сказаў, што, каб яго воля, узяў бы гэты касцёл на далонь і перанёс яго ў Парыж, толькі ў Парыжы, горадзе мастацтва, маўляў, яму месца. Прыгожыя былі ў Вільні касцёлы святой Тэрэзы, святых Пятра і Паўла на Антаколі, Кафедральны сабор пад Замкавай гарою.

Але самым святым збудаваннем лічылася Вастрабрамская капліца з абразом Боскай Маткі.

Доўгая вуліца ў Вільні канчалася, упіраючыся ў Вострую Браму. Яшчэ здалёк праз шкло вітража відзён славуты абраз Боскай Маткі Вастрабрамскай. Каля яго з двух бакоў па-лацінску залатымі літарамі зроблены надпіс, які па-беларуску гучыць прыблізна так: «Матка міласэрная! Пад тваю апеку аддаёмся!»

Людзі, ідучы да Вострай Брамы, яшчэ здалёк здымалі шапкі, бо каб хто адважыўся і не зняў, то яна, як пісаў Максім Гарэцкі

ў сваім рамане «Віленскія камунары», зляцела б у яго разам з галавой.

Падыходзячы блізка да касцёла, людзі ўкленчвалі і маліліся, перад самаю Востраю Брамаю заўсёды стаялі, сядзелі, кленчылі — прасілі міласціны — жабракі, калекі, больш абаротлівыя гандлявалі абразамі, крыжыкамі.

Існавала шмат паданняў, дзе расказвалася, як карала Матка Боская тых, хто не аддаваў ёй належнай пашаны. Расказвалі, што аднойчы нейкі чалавек, праходзячы каля абраза Боскай Маткі, паглядзеў на яго і засмяяўся. І тут жа аслеп. А яўрэю, які каля Вострай Брамы не зняў шапкі, закруціла тварам назад галаву, немца, які не пакланіўся Боскай Маці, кінула аб сценку.

Былі і іншыя паданні — аб тым, як Матка Боская вярнула зрок сляпому, як вылечвала розныя цяжкія хваробы.

Унутры капліцы, па ўсіх чатырох сценах, віселі «вотумы» — галасы. Гэта былі металічныя аблаткі з адбітымі на іх сэрцамі, рукамі, нагамі, вачыма. Іх прыносілі ў дар Матцы Боскай хворыя, каб памятала, што трэба вылечыць чалавеку. Быў выпадак — прынесла жанчына «вотум», зроблены з золата, і пачапіла яго каля абраза Маткі Боскай. А калі назаўтра ўкленчыла ў капліцы, то свайго дару не ўбачыла. Кабета кінулася ў паліцыю, пачалося следства, і выявілася, што ксёндз займаўся вялікім махлярствам, у яго быў спецыяльны майстра, які рабіў копіі «вотумаў» з простага металу, а золата, срэбра святы ойча забіраў сабе.

Недалёка ад Вострай Брамы пралягала вуліца Сабачая, на ёй з даўніх часоў, нібы па праву спадчыны, жыў гарадскі кат, яго памочнікі называліся падлізнікамі, падказнікамі альбо сабачнікамі, бо ў вольны ад сваіх простых абавязкаў час лавілі бяздомных сабак. Адсюль і вуліца — Сабачая, народ здавён ненавідзеў шпікоў і здраднікаў.

У пачатку дваццатага стагоддзя ў Вільні існавалі ўжо стары горад і новы — з шырокім Георгіеўскім праспектам, з прыгожымі камяніцамі, а стары — што туліўся каля колішняй гарадской сцяны. Там віліся вузкія вуліцы — на фурманках не размінешся, стаялі дамы з тоўстымі, як у мурах, сценамі, паміж дамоў — цёмныя гнілыя двары з горамі смецця — усё гэта з’яўлялася расаднікам хвароб, якія ніколі не выводзіліся ў Вільні.

У цэнтры горада ўзвышалася Замкавая гара, альбо гара Гедыміна, з рэшткамі старадаўняга літоўскага замка. Цяпер замак быў разбураны, а людзі ўзыходзілі на гару, каб падзівіцца з яе на Вільню і ваколіцы. Горад ляжаў пад гарою, разлінаваны палосамі вуліц, дахі чырванелі чарапіцаю, уздымаліся ўгору спічастыя

вежы і круглыя бліскучыя купалы касцёлаў, цэркваў, сіняю стужкаю абвівала горад Вілія, вакол, на ўзгорках, сінелі лясы.

На гары стаяла гармата, якая кожны дзень у дванаццаць гадзін страляла — па стрэлу гарматы ў Вільні правяралі час, які тут адрозніваўся ад пецярбургскага на дваццаць мінут.

Пазней унізе, пад гарою Гедыміна, недалёка ад «Катэдры», гарадскія ўлады пабудавалі помнік Кацярыне II. На пастаменце былі высечаны словы: «Отторгнутое возвратих», якія азначалі, што заходнія землі руская царыца не заваёўвала, яна толькі забрала сваё, што належала ёй спакон веку. Абышоўся гэты помнік, як пісалі ў свой час газеты, у 150 тысяч рублёў. Каштаваў ён так дарага не толькі таму, што павінен быў выглядаць шыкоўна, але і таму, што грунт, на якім яго ставілі, быў не вельмі трывалы, пад зямлёю ў гэтым месцы Вілейка ўпадала ў Вілію, і яе трэба было забіраць у спецыяльныя трубы — будавалі калодзежы, помпамі качалі ваду. Помнік рабіў вядомы ўсёй Заходняй Еўропе скульптар Антакольскі, сам родам з Вільні, і зроблены быў помнік таленавіта, але ад яго вельмі моцна павявала самадзержным духам.

Стаяў у той час у Вільні і помнік Мураўёву, які пра сябе некалі сказаў, што ён належыць не да тых Мураўёвых, якіх вешаюць, а да тых, якія вешаюць. Яму і праўда быў пастаўлены помнік у падзяку за тое, што задушыў паўстанне 1863 года.

На невялічкім скверыку, у засені ліп, туліўся і сціплы бюст Пушкіна, напэўна як памяць аб тым, што яго продка, арапа Ганібала, Пётр I хрысціў у віленскай царкве. (Гэта царква захавалася ў Вільні і сёння.)

У пачатку дваццатага стагоддзя Вільня была ўжо і прамысловым горадам, тут меліся фабрыкі, заводы, на якіх працавала каля сарака тысяч рабочых. З навакольных вёсак прыходзілі ў Вільню збяднелыя і беззямельныя сяляне, уліваліся ў шэрагі пралетарыяту, папаўнялі такім чынам колькасць гарадской беднаты.

Умовы работы на віленскіх прадпрыемствах былі цяжкія, працоўны дзень цягнуўся тут па 12–14 гадзін, плацілі фабрыканты мала. Рабочыя жылі ў гнілых бараках, у сутарэннях старых віленскіх дамоў.

Сярод настаўнікаў і маладых семінарыстаў Вільні распаўсюджваў «Іскру» і іскраўскія выданні Іван Кірылавіч Касяк, беларус, які жыў у Лентварысе (прыгарад Вільні) і працаваў там настаўнікам.

Прытулак у Івана Касяка не раз знаходзіў малады ў той час настаўнік Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч. Пазней Якуб Колас пісаў пра свайго даўняга сябра:

«Івана Кірылавіча Касяка я ведаю шмат гадоў як чалавека, які звязаў сваё жыццё і дзейнасць з грамадска-палітычным і рэвалюцыйным рухам, пачынаючы з 1900 года…

Калі я быў асуджаны да заключэння ў крэпасць, Касяк аказваў мне матэрыяльную дапамогу» (архіў бібліятэкі Акадэміі навук БССР, ф. 1, адз. зах. 30, с. 15).

Іван Кірылавіч Касяк падтрымліваў цесную сувязь з віленскай групай РСДРП, быў добра знаёмы з выдатным дзеячам літоўскага сацыял-дэмакратычнага рабочага руху Міцкявічусам-Капсукасам, з літоўскім вучоным Басанавічусам. Басанавічус нават бараніў Касяка, калі таго за палітычную дзейнасць хацелі звольніць з работы.

Цётка была добра знаёма з Касяком, у час рэвалюцыі 1905 года яны разам распаўсюджвалі рэвалюцыйную літаратуру. І зусім магчыма, што Касяк быў знаёмы з Цёткаю яшчэ раней, калі тая набіралася ведаў у вучылішчы Прозаравай, а потым працавала настаўніцаю, магчыма, іменна Касяк першы далучыў Алаізу Пашкевіч да іскраўскай літаратуры, пазнаёміў з літоўскімі сацыял-дэмакратамі, бо сучаснікі ў сваіх успамінах сцвярджаюць, што Алаіза Пашкевіч была звязана з літоўскімі сацыял-дэмакратамі яшчэ ў той час, калі вучылася ў Вільні.

* * *

Навука сцвярджае, што характар чалавека, яго тэмперамент, здольнасці шмат у чым залежаць ад спадчыны, якая перадаецца яму ад продкаў. А далей на асобу ўплываюць выхаванне, асяроддзе, эпоха і шмат іншых фактараў.

Ад нараджэння Алаіза атрымала палкую і чулую душу. Душа гэта адгукалася на кожны дотык наваколля, на радасць і бяду нават зусім незнаёмых людзей, на хараство і брыдкае, што бачылі яе вочы. Ад нараджэння Алаіза атрымала бурны тэмперамент — яна не толькі адгукалася на кожны дотык наваколля, але і бурна на яго рэагавала. Калі радасць, дык радасць, калі гора, то да слёз, калі нянавісць, то да смерці! І яшчэ — не толькі сузіранне жыцця і перажыванні, якія яно прыносіла, але і імкненне ўздзейнічаць на з’явы, на падзеі, імкненне выправіць тое злое, несправядлівае, што бачаць яе вочы.

А далей на характар дзяўчыны пачаў уплываць час — бурлівая эпоха. Уплывала нелегальная, у тым ліку і іскраўская, літаратура. Уплывалі размовы ў гуртках, на нелегальных сходках,

дзе адкрыта гаварылася, што трэба знішчыць самаўладства. Уплывалі размовы знаёмых і незнаёмых людзей, якія ганілі існуючы парадак, успаміналі шэсцьдзесят трэці год, Кастуся Каліноўскага. Сама бачыла, як жывуць селянін, рабочы. Усё гэта збіралася, вярэдзіла душу, клікала фізічна слабую дзяўчыну на барацьбу са злом усяго свету.

Але жыццё расхінала перад Алаізаю і сваё хараство. Хараство было ў навакольнай прыродзе, якая шапацела лістамі бароў, плыла рэкамі, звінела ручаямі, пераліваласа ўсімі фарбамі і колерамі. Хараство было ў песні, якую спявалі жнеі ў полі, якую зімовымі вечарамі, пры курным святле лучыны, заводзілі дзяўчаты на вячорках. Хараство было ў казках, паданнях, у батлейках, што прыносілі ў вёску скамарохі і паказвалі народу пасярод вуліцы.

А далей, як паехала з вёскі, свет хараства пашырыўся. З заміраннем душы слухала канцэрт славутага скрыпача ў Віленскай філармоніі, да болю ў сэрцы, аж млосна рабілася, так уразіла яго ігранне. А тэатр? Гэта табе не батлейкі, не лялькі, а жывыя людзі ходзяць па сцэне, паказваюць жыццё такім, якое яно ёсць. Уражвала архітэктура — віленскія касцёлы, цэрквы, абразы, убранне, што было ўсярэдзіне.

А дзіўны свет паэзіі — Пушкін! Міцкевіч!..

Быць настаўніцаю вельмі добра, вельмі пачэсна, Алаізе вельмі падабалася быць настаўніцаю, разумела і грамадскае значэнне сваёй работы. Але як жа мала ведае яна сама… А на свеце ёсць сапраўдная навука, і як цікава ісці, узнімацца да яе вяршынь! Не, нельга спыніцца ля падножжа гэтай гары, трэба яе адолець!

Вабілі нязведаныя далі.

## У ПЕЦЯРБУРГУ

Адвучыўшы зіму дзяцей у школе, зарабіўшы грошай на дарогу і на першы час жыцця далёка ад дому — у бацькі саромелася прасіць, — Алаіза едзе ў Пецярбург, каб вучыцца далей. Хоча паступіць у Пецярбургскі ўніверсітэт, ведае, што сярод яго студэнтаў нямала беларусаў, ёсць паміж іх і знаёмыя.

Летам 1902 года, з клуначкам у руках, выйшла яна з цягніка і хутка апынулася на Неўскім праспекце.

Вільня на перавале стагоддзяў была ўжо не маленькім горадам, так што Алаізу не маглі здзівіць ні высокія камяніцы, ні шырокія вуліцы, і ўсё ж Пецярбург не мог не ўразіць — сталічным шумам і шыкам, прыгажосцю вуліц і праспектаў, а ўздыбленыя

коні на мосце!.. Зімні палац!.. Помнік Пятру Першаму!.. Нява ў граніце!..

Спасцігла расчараванне — сёлета паступіць ва ўніверсітэт яна не зможа хоць бы таму, што пасведчання аб сканчэнні ёю Віленскага сямікласнага вучылішча мала для паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову Пецярбурга, павінна мець пасведчанне аб сканчэнні гімназіі. Алаіза магла б экстэрнам здаць такія экзамены ў любой пецярбургскай гімназіі, але за час, які заставаўся да новага навучальнага года, гэтага не паспела б зрабіць, ды і страшна было так адразу, пасля вучылішча ў правінцыі, ісці да строгіх сталічных экзаменатараў, трэба было б яшчэ трохі падвучыць некаторыя прадметы, асабліва рускую славеснасць, яшчэ смяяцца будуць з яе гаворкі. Адным словам, паступленне ва ўніверсітэт адкладвалася, а ў гэты час сярод дэмакратычнай моладзі Расіі былі вельмі папулярныя курсы выхавацелек і кіраўніц фізічнай адукацыі, на чале якіх стаяў вядомы вучоны, прафесар Лесгафт.

У той час у навучальную праграму курсаў уключаліся і такія прадметы, як фізіка, хімія, астраномія, матэматыка, усеагульная гісторыя, гісторыя літаратуры, і таму шмат якія слухачкі лічылі гэтыя курсы проста агульнаадукацыйнымі.

Курсы вельмі вабілі жанчын, што імкнуліся да адукацыі і не маглі атрымаць яе ў іншых навучальных установах Расійскай імперыі. Прывабілі яны і Алаізу Пашкевіч. Паступіць сюды было прасцей, чым ва ўніверсітэт, тут хапала пасведчання аб сканчэнні Віленскага вучылішча, і вучыцца на курсах абыходзілася танней, прафесар Лесгафт часта дапамагаў сваім слухачкам знаходзіць работу. А работа Алаізе была вельмі патрэбна, добра было б знайсці ўрокі арыфметыкі, бо зробленых ёю грошай хопіць ненадоўга.

З вялікім стараннем узялася яна за вучобу, з вялікім захапленнем акунулася ў студэнцкае жыццё.

На курсах існаваў культ — у самым лепшым сэнсе гэтага слова — прафесара Лесгафта. Курсісткі наперабой расказвалі адна адной факты з яго жыцця, захапляліся мужнасцю свайго прафесара, ён быў для іх чалавекам незвычайным, асобаю, узорам высокай грамадзянскай этыкі, усе хацелі быць падобнымі на яго, ва ўсім браць з яго прыклад. А прыклад браць было з каго.

Пётр Францавіч Лесгафт скончыў медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбургу, быў доктарам медыцыны, прафесарам, доўгі час загадваў кафедрай у Казанскім універсітэце, але за тое, што адкрыта абараняў студэнцкія рэвалюцыйныя гурткі і іх членаў,

быў вызвалены ад загадвання кафедрай і аддадзены пад нагляд паліцыі. Аднак гэта не прымусіла прафесара Лесгафта адмовіцца ад сваіх перакананняў, ён падпісвае пратэст супраць здачы ў салдаты студэнтаў, што ўдзельнічалі ў студэнцкіх хваляваннях, арганізоўвае збор подпісаў пад патрабаваннем — аддаць пад суд жандараў, якія збівалі студэнтаў у час дэманстрацыі, сам носіць арыштаваным студэнтам перадачы.

У той час, калі Пётр Францавіч працаваў ужо ў Пецярбургскім універсітэце і чытаў лекцыі па анатоміі, яго навуковаю дзейнасцю моцна зацікавіўся мільянер Сібіракоў і як шчодры мецэнат падараваў прафесару дом і дзвесце тысяч рублёў.

З усіх гэтых грошай Пётр Францавіч не скарыстаў ні капейкі, а паклаў іх у банк, на рахунак прыродазнаўча-гістарычнага музея, на базе якога потым была створана так званая біялагічная лабараторыя, а потым і тыя самыя курсы — выхавацелек і кіраўніц фізічнай адукацыі.

Расказвалі студэнткі паміж сабою і пра тое, як мужна і самаахвярна змагаўся ў свой час іх прафесар з эпідэміямі. У Магілёўскай губерні дні і ночы праводзіў у самым эпіцэнтры халеры, а калі яна пачала затухаць, накіраваў высокаму начальству дакладную:

«Пры такіх беднасці, жабрацтве і брудзе, у якіх жыве сялянства, эпідэмія, верагодна, выбухне зноў, калі ўявіць сабе, што халерныя хворыя харчуюцца гнілымі агуркамі і аржаной мякінай, змешанай з глінай».

Як бачым, поспехі медыцыны Пётр Францавіч ставіў у самую непасрэдную залежнасць ад сацыяльнага становішча ў краіне.

Усе гэтыя факты былі з мінулага жыцця прафесара, да таго як Алаіза Пашкевіч убачыла яго на свае вочы, стала яго вучаніцай.

Няма чаго і казаць, з якім захапленнем слухала яна лекцыі гэтага пажылога ўжо чалавека, які на вачах мяняўся, маладзеў ад кантакту з аўдыторыяй, ад скіраваных на яго ўважлівых вачэй, ад вялікага сэнсу таго, што хацеў укласці ў свае лекцыі. Адна са слухачак прафесара пісала:

«Чытаючы анатомію, ён даваў нам веды жыцця. Мы вучыліся разумець, гледзячы на мерцвяка і косці, якія засталіся, умовы жыцця чалавека, што загубілі яго сваім цяжарам. Мы вучыліся глыбока ненавідзець прыгнёт і эксплуатацыю аднаго чалавека другім».

У 1903 годзе слухачкі першага курса звярнуліся да прафесара Лесгафта з пісьмом:

«Не для атрымання сумы тых ці іншых ведаў, не для праходжання розных навуковых дысцыплін, не для набыцця навыкаў у практычнай рабоце сабраліся мы сюды… Наша канчатковая задача: мы павінны выпрацаваць тут пэўны светапогляд, павінны развіць у сабе абстрактнае мысленне, павінны выпрацаваць у сабе чалавека-грамадзяніна, непахісна стойкага ў сваіх перакананнях, які кіруецца ва ўсіх сваіх учынках праўдай, ненавідзіць насілле і самавольства».

Слухачкаю першага курса была ў той час і Алаіза Пашкевіч, так што зусім верагодна — і яна была адным з аўтараў гэтага пісьма, ва ўсякім разе, усім сваім жыццём яна потым распісалася, што менавіта да гэтага імкнулася душою.

Прафесар Лесгафт выдатна разумеў сваіх слухачак і сапраўды, побач з агульнаадукацыйнымі прадметамі, якія выкладалі на курсах лепшыя вучоныя таго часу, даваў ім «веды жыцця», імкнуўся выхаваць у іх грамадзянак, каб веды, атрыманыя імі на курсах, яны змаглі ўжыць з найлепшаю карысцю для свайго народа.

У план навучання ўводзіліся экскурсіі на пецярбургскія фабрыкі і заводы, на бойню, у гарадскія фільтры, медыцынская практыка праходзіла ў школах слепаглуханямых, у бальніцах для душэўна хворых, у прытулках для калек. Разам з урокамі па фізіялогіі і псіхалогіі тут даваліся і ўрокі спачування чужой бядзе, выхоўвалася этыка.

Пасля такіх экскурсій і такой практыкі перад слухачкамі раскрывалася ўся карціна жыцця Расіі пад ярмом самаўладства. Убачанае сваімі вачыма потым горача абмяркоўвалася на сходах і мітынгах, што адбываліся ў памяшканні курсаў.

Царскія ахраннікі сачылі за курсамі Лесгафта і даносілі свайму начальству, што лекцыі прафесара вельмі дзейнічаюць на моладзь, што яго гурткі аказваюць на слухачак шкодны ўплыў, што многія слухачкі Лесгафта — асобы ненадзейныя.

Царскія ахраннікі імкнуліся вытравіць рэвалюцыйны дух, які панаваў на курсах, нават самому прафесару прапанавалі сачыць за сваімі студэнткамі, але Пётр Францавіч катэгарычна адмовіўся, заявіўшы, што ніколі не быў і не будзе шпіёнам і нават прапанаваць яму такое — «безнравственно». Наадварот, ён абараняў сваіх слухачак, дапамагаў тым, за якімі сачыла паліцыя, а калі ў бібліятэцы курсаў знайшлі шмат нелегальнай літаратуры, усю віну ўзяў на сябе.

Атмасфера, якая існавала на курсах Лесгафта, была вынікам агульнага ўздыму рэвалюцыйнага руху ва ўсёй Расіі, свой голас

супраць самаўладства ўзнімала рэвалюцыйная моладзь і ў іншых навучальных установах Пецярбурга.

Алаіза прымала ўдзел у сходах, мітынгах, якія наладжвалі пецярбургскія студэнты і слухачкі курсаў Лесгафта, усё мацней усталёўвалася ў ёй вера, што сацыяльны лад у Расіі павінен быць знішчаны, што рэвалюцыя непазбежная, што ў сваім пераможным паходзе яна вызваліць і заходнія ўскраіны царскай Расіі.

Пецярбург у тыя гады быў цэнтрам, куды сцякалася дэмакратычная, прагрэсіўная моладзь прыгнечаных царызмам нацый — палякаў, літоўцаў, украінцаў, фінаў, грузін, армян і іншых народаў. Шукаючы адказу на хвалюючыя пытанні, яны аб'ядноўваліся ў гурткі, дзе праводзілася палітычная работа. Часцей за ўсё моладзь аб'ядноўвалася па нацыянальным прызнаку, бо адным з важнейшых пытанняў лічыла вызваленне нацыянальных ускраін Расіі. Групаваліся ў суполкі палякі, літоўцы, фіны.

У Пецярбургу ў 1902 годзе пазнаёмілася Цётка і са сваім будучым мужам літоўцам Стэпонасам Кайрысам, які ў той час быў студэнтам трэцяга курса тэхналагічнага інстытута. У сваіх успамінах пра Цётку Стэпонас Кайрыс піша пра гэты час яе жыцця:

«Алаізу Пашкевічанку-Цётку пазнаў я недзе ў 1902 годзе, калі быў студэнтам-тэхнолагам трэцяга курса. Пазнаёміліся мы ў Пецярбургу. Алаіза Пашкевічанка запісалася на вышэйшыя педагагічныя курсы прафесара Лесгафта ў Пецярбургу і адразу трапіла ў самы вір усё мацнеючага рэвалюцыйнага руху акадэмічнай моладзі. Студэнцкія стачкі, дэманстрацыі, крывавыя экзэкуцыі, арышты, ссыльныя канвоі ўсё часцейшымі і мацнейшымі сутаргамі калацілі жыццё вышэйшых колаў Расіі. Студэнцтва было тады пульсам царскай імперыі, пульсам, што пачынаў біцца ўсё мацней. Студэнцкаму рэвалюцыйнаму руху, які ахапіў розныя ідэалагічныя плыні з розных нацыянальных груп, было супольна адно: змаганне з манархічным царскім рэжымам. Паасобныя нацыянальныя групы звязвалі з гэтым і свае спецыфічныя заданні. У асяроддзі вось гэтай палымянай моладзі Алаіза Пашкевічанка пачулася адразу "як у сябе дома". Вельмі чуйная на падзеі выбуховага характару, не церпячы ніякіх кампрамісаў ані ў сабе, ані ў іншых, адкідаючы і высмейваючы ўсякія няшчырыя формы ў дачыненнях, яна паважала за свой абавязак і гонар быць усюды, дзе так ці гэтак выяўляўся нарастаючы супраць існуючага стану настрой. Яна наведвала сходкі, брала ўдзел у дэманстрацыях, рупілася пра арыштаваных

сяброў. Адразу самавызначылася беларускаю і гэткаю засталася назаўсёды.

Незвычайна жывога характару, вельмі яркая, яна вылучалася нават у шматколерным студэнцкім асяроддзі, ды адразу зрабіла на мяне ўражанне “чалавека з жывой душой”.

Па-свойму зблізілі нас Цётчыны апавяданні з дзён ейнага маленства, калі яна, яшчэ малою дзяўчынкаю, ездзіла з бацькам у Ночу прадаваць лён. Там яна першы раз пачула і літоўскую мову. Жартам нас, летувісаў, называла “гіргунамі”. З першых студэнцкіх гадоў засталося ў мяне не шмат студэнцкіх успамінаў. Былі мы маладыя. Жылі пачуццём, умелі размахнуцца, будучыні не палохаліся».

Як бачым, урокі, што даваў Пётр Францавіч Лесгафт, Алаіза Пашкевіч засвоіла вельмі хутка, засвоіла ўсім сэрцам: не прымала ніякіх кампрамісаў, высмейвала няшчырыя формы ў дачыненнях, паважала за свой абавязак і гонар быць там, дзе выяўляўся рэвалюцыйны настрой, наведвала сходкі, прымала ўдзел у дэманстрацыях, рупілася пра арыштаваных сяброў — і гэта ўжо там, у Пецярбургу.

Хочацца падкрэсліць і яшчэ адну дэталь, на першы погляд, можа, вонкавую, за якою, аднак, таксама глыбокі сэнс.

Пётр Францавіч Лесгафт сам быў чалавек вельмі сціплы, жыў багатым духоўным жыццём і ў людзях найбольш цаніў іх духоўнасць, натуральнасць у паводзінах, у знешнім выглядзе. Аўдыторыя перад ім была жаночая, а хто не ведае слабасці гэтага полу — хоць чым-небудзь ды сябе ўпрыгожыць: завіўкаю, падведзеным брывом, моднаю сукенкаю. Пётр Францавіч надта не любіў гэтага знешняга ўпрыгожвання і часам тонка, з іроніяй высмейваў «барышень», якія хочуць схаваць за стужачкамі і кветачкамі сваю бездухоўнасць. Іронія дзейнічала безадказна, і слухачкі з курсаў Лесгафта вельмі хутка пачалі вылучацца натуральнасцю ў паводзінах, у знешнім выглядзе. Гэты ўрок прафесара Алаіза Пашкевіч таксама засвоіла на ўсё жыццё. Людзі, якія ведалі Цётку, заўсёды падкрэслівалі яе натуральнасць у паводзінах, пагарду да строяў, шчырасць у дачыненнях з людзьмі, самаахвярнасць у сяброўстве.

Курсы Лесгафта, асоба Лесгафга далі Алаізе Пашкевіч на ўсё жыццё ўрокі этыкі, высокай грамадзянскасці, пагарды да мяшчанскага спакою, самалюбавання, найвышэйшае прызначэнне чалавека яна зразумела як барацьбу з цемрашальствам, з несправядлівасцю, з людскім горам.

Веды, атрыманыя на курсах па медыцыне, педагогіцы, гігіене, батаніцы, геалогіі, таксама потым паспяхова скарыстоўвала ў жыцці — і працуючы фельчарам, медыцынскаю сястрою, і стаўшы ля вытокаў беларускай педагогікі — выдаючы першыя кнігі для дзяцей, адчыняючы першыя беларускія нелегальныя школы, рэдагуючы часопіс «Лучынка».

Калі Алаіза Пашкевіч пачала пісаць вершы? Па сцвярджэнні сястры Караліны — яшчэ тады, калі вучылася ў Вільні. На якой мове пачала пісаць — на польскай, на рускай — гэта нам невядома. Сама Цётка казала, што ўзялася за пяро, зразумела сябе як беларуску пасля таго, як прачытала зборнікі вершаў Францішка Багушэвіча. Калі і як трапілі ў рукі Алаізы Пашкевіч зборнікі Мацея Бурачка? Калі яшчэ вучылася ў Вільні ці ўжо ў Пецярбургу?

Вершы Цёткі «Лета», «Восень» датуюцца 1902 годам, але зусім магчыма, што датаванне гэта прыблізнае, надрукаванымі мы іх сустракаем толькі ў зборніку «Скрыпка беларуская», які выйшаў у 1906 годзе.

У 1902 годзе, калі Цётка жыла ўжо ў Пецярбургу, сярод студэнтаў Пецярбургскага ўніверсітэта быў заснаваны «Круг прасветы і культуры беларускай». Гэты гурток выдаваў за мяжою творы беларускай паэзіі і распаўсюджваў іх на Беларусі. Алаіза Пашкевіч была цесна звязана з «Кругам», і зусім магчыма. што іменна там яна адкрыла для сябе свет паэзіі Мацея Бурачка.

У сваіх вершах Багушэвіч на ўвесь рост маляваў беларускага мужыка — цёмнага, галоднага, прыніжанага, але паказваў і тое, што мужык гэты больш не хоча жыць так, як жыў дасюль, ён шукае праўды, голасна крытыкуе рэчаіснасць, ён пачынае бунтаваць.

Сваю паэзію Францішак Багушэвіч параўноўваў з пастуховай дудкай, самым папулярным народным беларускім інструментам. Звяртаючыся да сваёй дудкі, паэт прасіў:

Ну, дык грай жа, грай жа,
Ўсё успамінай жа…
Штодзень і штоночы
Плач, як мае вочы,
Над народу доляй
І плач штораз болей.
Плач так да астатка,
Галасі, як маці,
Дзень, другі і трэці,

Іграй слёзным тонам
Над народу сконам!

У вершах «Праўда», «Быў у чыстцы», «Бог не роўна дзеле», «Дурны мужык, як варона» Багушэвіч з болем пісаў аб сацыяльнай няроўнасці ў грамадстве, выказваў глыбокае спачуванне беларускаму селяніну. У яго творах было шмат горкай іроніі, тонкага гумару, беларускі мужык паўставаў разумным, дасціпным чалавекам, небяспечнай сілай для сваіх ворагаў.

Да зборнікаў «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» былі напісаны прадмовы, у якіх з вялікім хваляваннем гаварылася аб роднай беларускай мове. Багушэвіч горача выступаў у абарону беларускага слова, абуджаў нацыянальную свядомасць беларусаў, даводзіў, што беларуская мова не горшая за іншыя мовы, што яна мае поўнае права заняць сярод іх сваё месца.

«Мова наша ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо іншая якая… — пісаў Ф. Багушэвіч. — І гаворым жа мы ёю шмат добрага, але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахватней гавораць па-французску, як па-свойму…»

«…Не кідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» — заклікаў паэт.

Зборнікі Францішка Багушэвіча ашаламілі, пакарылі Алаізу. Яна чытала і перачытвала вершы, прадмовы, хутка ведала ўсё гэта на памяць.

Адкрываўся новы свет. Яна ж дасюль не ведала, хто яна па нацыянальнасці, і вось Францішак Багушэвіч, Мацей Бурачок, сказаў ёй гэта, ён сказаў, што той, хто гаворыць па-беларуску, — беларус, значыцца, і яна, Алаіза Пашкевіч, беларуска! Дзякуй жа табе, разумны чалавек!

Натхнёная Мацеем Бурачком, Алаіза Пашкевіч і сама бярэцца за пяро.

Да калядных і велікодных свят сіламі Пецярбургскага беларускага гуртка выдаваліся кніжачкі-пісанкі. У «Каляднай пісанцы» за 1903 год ужо змешчаны верш Алаізы Пашкевіч «Мужык не змяніўся», у «Велікоднай пісанцы» за 1904-ы — два яе вершы: «Нямаш, але будзе» і «Музыкант беларускі», падпісаныя псеўданімамі Гаўрыла і Банадысь Асака.

У «Каляднай пісанцы» 1904 года — верш «Мужыцкая доля». Яшчэ раней (у канцы 1902 ці ў пачатку 1903 года) гэты верш быў надрукаваны ў рэвалюцыйным часопісе «Свабода» — першым друкаваным органе Грамады. Такім чынам, гэты перыяд,

напэўна, можна ўжо афіцыйна лічыць пачаткам літаратурнай дзейнасці Цёткі.

Як і Францішак Багушэвіч, маладая паэтэса расказвае ў вершах пра гаротнае жыццё беларускага селяніна, пра яго цяжкую долю, у яе вершах спачуванне чалавеку працы, яна выступае яго абаронцам.

Нямаш хлеба, нямаш солі,
Нямаш шчасця, нямаш долі,
Як ля ранку сляза блісне,
Жаль да ночы сэрца сцісне, —

піша Алаіза ў вершы «Нямаш, але будзе».

Журбою гучыць голас маладой паэтэсы і ў вершы «Музыкант беларускі», але побач з журбою тут і моцная сіла натхнення, велізарная самаадданасць, разуменне паэзіі як дзейснай сілы.

Ну і грай жа, скрыпка,
Хай ляціць там песня,
Або свет пачуе,
Або душа трэсне.

Паэтэса потым часта будзе гаварыць аб тым вялікім значэнні, якое мела для яе творчасць Францішка Багушэвіча, а часам ледзь не ставіць свой літаратурны лёс у залежнасць ад паэзіі Мацея Бурачка. У прадмове да зборніка «Смык беларускі» Францішак Багушэвіч пісаў:

«Смык ёсць, а хтось скрыпку можа даробе, а там была “Дудка” — вот і зробім мы музыку…»

Гэту скрыпку дарабіла Цётка, назваўшы зборнік сваіх вершаў «Скрыпка беларуская». У прадмове да гэтага зборніка паэтэса пісала:

«Доўга я гадаў і думаў, як сябе зваць, ці то палякам, ці то літоўцам, бо слова “тутэйшы” нексць не смакавала. І так колькі гадоў я хістаўся то на ту, то на другую сторану, аж покі не папала мне ў рукі “Дудка” Мацея Бурачка: яна то мне сказала, што хто гаворыць па-тутэйшаму, па-мужыцку, значыцца, ён гаворыць па-беларуску, а хто гаворыць па-беларуску, той беларус. Прачытаўшы тую “Дудку”, я сказаў: “Дзякуй табе, Мацей Бурачок. Чэсць і слава твайму слову! А ты, «Дудка», грай і мне голас дай”. З таго дня пачаў і я майстраваць інструмент. Выйшла з-пад рук “Скрыпка”. Цяпер кручу “Струны”. А ты, Мацей Бурачок,

ідзі, ідзі ўздоўж і папярок нашага беднага краю, братоў родных вітай, да курных хат заглядай, мо знойдзеш там артыста, каторы збярэ ўсе нашы беларускія інструменты і наладзіць граннё як мае быць».

Потым да гэтага аркестра далучыла свой голас «Жалейка» Янкі Купалы.

І сам Францішак Багушэвіч як асоба ўплываў на Цётку, дапамагаў ёй выбіраць кірунак і ў творчасці, і ў жыцці.

Чалавек з адукацыяй, інтэлігент, сын даволі заможных бацькоў, Францішак Багушэвіч не хацеў узвысіцца над цёмным селянінам, каб з гэтай вышыні вучыць яго, а імкнуўся стаць з ім побач, гаварыць з простым селянінам, як брат з братам.

І Алаіза Пашкевіч пераймае гэту дэмакратычную рысу свайго настаўніка, а псеўданімы — Гаўрыла, Гаўрыла з Полацка, Банадысь Асака — паказваюць, што за імі стаіць аўтар — просты чалавек, не пан, не вышэйшая асоба, а свой брат — мужык. Псеўданім жа Мацей Крапіўка, якім потым часта будзе падпісвацца Алаіза Пашкевіч, і зусім блізкі да псеўданіма Францішка Багушэвіча — Мацей Бурачок.

Але справа, вядома, не толькі ў псеўданімах. а ў духу творчасці самой паэтэсы. «Скрыпка беларуская» іграе тую ж мелодыю, што вялі «Дудка» і «Смык», Алаіза Пашкевіч выводзіць тыя ж ноты — гора і жальбы, шчырасці і болю.

Паэтэса абураецца тым, што мужык з веку ў век гне спіну на паноў, што сам ён застаецца цёмны, «усімі прыцяснёны», што дасюль не мае свайго абаронцы.

Як і Мацей Бурачок. Гаўрыла хоча расказаць пра беларускага мужыка ўсяму свету, аплакаць яго горкую долю.

Зайграю на дудцы,
Вытну па гармоні,
Заплачу на скрыпцы
Аб мужыцкай долі, —

і як гэта блізка па духу, па вобразнасці, па інтанацыі да верша Мацея Бурачка «Мая дудка» — ляжыць у адным паэтычным радзе, на адной эмацыянальнай хвалі.

Услед за Мацеем Бурачком Мацей Крапіўка выступае з артыкуламі, у якіх абараняе беларускую мову, заклікае любіць яе і берагчы. У гэтых артыкулах Мацей Крапіўка не раз успомніць Мацея Бурачка, паўторыць словы, якія той гаварыў пра беларускую мову.

Усё гэта было не толькі перайманне.

Гістарычныя ўмовы, пры якіх пачыналася творчасць маладой беларускай паэтэсы, яшчэ не шмат змяніліся з таго часу, калі пісаў свае вершы Францішак Багушэвіч. Селянін на той час яшчэ не змяніўся, не змяніліся яшчэ і ўмовы, у якіх ён жыў, і, поўная спагады да простага чалавека, поўная захаплення творчасцю свайго папярэдніка, кіруючыся тымі ж эмоцыямі, што і Мацей Бурачок, паэтэса адлюстроўвае рэчаіснасць, якую бачыць, якую добра ведае.

Але зменяцца гістарычныя ўмовы, і зменіцца творчасць беларускай паэтэсы, яе паэзія зробіцца якасна новаю з’яваю, да Цёткі яшчэ такога не было, яна адгорне новую старонку ў беларускай паэзіі — старонку мужнасці і барацьбы.

Калі шукаць у беларускай літаратуры ідэйных папярэднікаў гэтага перыяду яе творчасці, то можна назваць хіба Кастуся Каліноўскага: як востра ставіў той і вырашаў грамадскія праблемы ў «Мужыцкай праўдзе», так востра будзе ставіць іх і вырашаць у паэзіі Цётка. Як дапамагаў Кастусю Каліноўскаму бурлівы час паўстання 1863 года, так будзе Цётцы дапамагаць рэвалюцыя 1905–1907 гадоў. На глебе, палітай крывёю, вырастаюць пякучыя краскі.

Але гэта яшчэ наперадзе, а пакуль Алаіза Пашкевіч вучылася ў Пецярбургу, дзе сярод пецярбургскіх беларусаў хутка зрабілася вядомай як паэтэса. Часам моладзь збіралася, спявала народныя песні, чытала вершы. Прасілі і Пашкевічанку, каб яна што-небудзь прачытала. І яна дэкламавала свае вершы «Лета», «Восень», «Музыкант беларускі», «Мужык не змяніўся». Вершы перапісваліся ад рукі, бо гэта ж такое дзіва — беларуская паэзія, потым чыталі тым, хто раней не чуў іх. Так трапілі гэтыя вершы да пецярбургскага прафесара Браніслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілы, які вельмі падтрымліваў сярод беларускіх студэнтаў культурны і вызваленчы рух. Янка Купала ў сваёй аўтабіяграфіі адзначаў, што толькі дзякуючы матэрыяльнай і маральнай падтрымцы прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы змог чатыры гады вучыцца на курсах Чарняева ў Пецярбургу, на якіх прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла выкладаў у той час нямецкую мову.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі прафесар Эпімах-Шыпіла працаваў у бібліятэцы Ленінградскага ўніверсітэта, быў дырэктарам камісіі Інстытута беларускай культуры па складанні слоўніка беларускай мовы. Шмат гадоў свайго жыцця аддаў вучоны складанню хрэстаматыі беларускіх твораў ад старажыт-

ных часоў. Дакастрычніцкую частку хрэстаматыі ён заключыў вершамі-пракламацыямі Цёткі «Хрэст на свабоду» і «Мора».

Але і гэта будзе пазней, а на той час, у 1902–1904 гадах. Алаіза Пашкевічанка асабіста не была знаёма з Браніславам Эпімах-Шыпілам. Прафесару толькі чыталі яе вершы. І вершы спадабаліся вучонаму. Праз некалькі гадоў Цётка і Эпімах-Шыпіла пазнаёмяцца асабіста, і іх звяжа шчырае сяброўства, яны разам будуць шмат працаваць на ніве беларускай культуры, асветы.

Сярод сяброў Алаізы ў Пецярбургу былі і літоўцы, і рускія, і ўкраінцы, і яўрэі. Алаіза Пашкевіч не дзяліла людзей па нацыях, паважала ў іх перш за ўсё чалавечае і шчыра вяла сяброўства з усімі, хто імпанаваў ёй сваімі поглядамі. у кім бачыла аднадумца.

Жыла яна ў адным са старых пецярбургскіх дамоў на Васільеўскім востраве ў невялічкім сырым пакойчыку, часта прастуджвалася, хварэла — вільготны пецярбургскі клімат быў шкодны для яе здароўя, аднак на той час выручалі маладосць, гарачая энергія, работа, таварыскасць. У халодным пакойчыку часта рабілася цёпла ад сяброў, якія прыходзілі сюды гуртам, ад іх добрых слоў, ад спачування. Забываліся і голад, і холад, і хвароба — звінеў смех, сыпаліся жарты, вырашаліся сусветныя праблемы.

Адной з найбольш блізкіх сяброўак была ў Алаізы ў той час Сабіна Ячынаўская. Яе ў сваіх успамінах называе і муж паэтэсы. Дзяўчаты разам вучыліся на курсах Лесгафта, абедзве звязалі свой лёс з беларускім рухам. Пазней Сабіна Ячынаўская з'яўлялася членам праўлення выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». Была Сабіна Ячынаўская на два гады маладзей за Цётку, нарадзілася ў Шаўлях (Літва) у дваранскай сям'і. Рана засталася сіратою і жыла ў Пецярбургу пад апекаю старэйшай сястры Станіславы. Разам з Сабінаю аддавалі яны шмат часу і працы беларускай справе. Пазней шмат сілы беларускаму мастацтву аддавала родная сястра Сабіны, вядомая піяністка і кампазітар Марыя Ячынаўская. Яна ўдзельнічала ў беларускіх вечарынах, пісала музыку на вершы Цёткі.

Сабіна Ячынаўская на шмат гадоў перажыла сваю сяброўку Алаізу Пашкевіч, памерла ў 1954 годзе ў Варшаве. Двое яе сыноў загінулі ў час Варшаўскага паўстання.

Як дзіўна падступае да нас час — Сабіна, Цётчына сяброўка, і разам з тым Варшаўскае паўстанне… Як блізка ўсё… Амаль што побач…

Алаіза ў Пецярбургу горача прымала ўсе з'явы тагачаснага жыцця — ці то новая тэатральная пастаноўка, ці заезджы спявак

альбо музыкант, ці гастролі якой славутасці. А хіба можна было прапусціць выступленне Шаляпіна, калі той спяваў у Марыінскім тэатры? На чым толькі магчыма было эканоміліся грошы, але купляўся білет, няхай сабе на галёрку, і вось асалода — сядзець амаль пад столлю ў тэатры і слухаць, як Шаляпін спявае Дэмана.

А хіба можна было не пайсці на канцэрт славутага скрыпача, не паслухаць, як спяваюць-плачуць пад яго смыкам струны?

А драматычныя тэатры з п'есамі рускай і сусветнай класікі, з сучаснымі пастаноўкамі, у якіх дзе намёкам, а дзе і адкрыта выстаўляецца напаказ сучасная Расія з яе дзікасцю, варварствам, дзе акцёры са сцэны чытаюць страсныя маналогі, у якіх клічуць народ скінуць кайданы няволі! Як часта такія маналогі перарываліся воплескамі з галёркі, дзе сядзелі студэнты, пецярбургская моладзь, гатовая ісці на катаргу за свае ідэалы.

Падоўгу стаяла Алаіза Пашкевіч перад шэдэўрамі мастацтва, сабранымі ў Эрмітажы. Магчыма, іменна тут, у Пецярбургу, навучылася яна разумець гэта нямое і такое красамоўнае мастацтва, тут упершыню ўсхвалявалі яе таямніцы святла і ценяў, тоны фарбаў, кампазіцыя, тут захапіла яе экспрэсія твораў Мікеланджэла, якога яна палюбіла на ўсё жыццё. Тут упершыню ўбачыла яна карціны Рэмбранта і Рубенса, Тыцыяна і Веласкеса, Рафаэля і Леанарда да Вінчы. Потым, у новых гарадах, куды завядзе яе некалі лёс, першым чынам будзе кіравацца ў галерэі мастацтва, стаяць перад палотнамі славутых мастакоў, «акамянелая з-за дзіву».

І калі яшчэ не так даўно, у Вільні, Алаіза Пашкевіч толькі захаплялася мастацтвам, то цяпер пачынала разумець яго як імкненне чалавецтва пазнаць, зразумець самога сябе, праз мастацтва ўздзейнічаць на рэчаіснасць, уславіць прыгожае і знішчыць зло, пачынала разумець мастацтва як выяўленне душы народа, як сродак зносін паміж людзьмі, разумець, што мастацтва можа ваяваць на барыкадах — можа мець вялікае рэвалюцыйнае значэнне.

Сюды, у Пецярбург, хутчэй даходзіла літаратурная навіна і адразу рабілася здабыткам чытачоў, якія страсна шукалі адказу на пытанні, што ставіў перад імі час. Лепшыя творы перадаваліся з рук у рукі, вершы завучваліся на памяць, чыталіся на аматарскіх сцэнах, п'есы ставіліся аматарскімі тэатрамі. Усё лепшае, што на хвалі рэвалюцыі стваралася перадавымі пісьменнікамі ўсіх народаў Расіі і сцякалася ў Пецярбург, не мінала дапытлівага зроку Алаізы, збіралася, адкладвалася ў свядомасці, дапамагала адчуваць, разумець бурлівы час і сваю задачу.

Гады, пражытыя ў Пецярбургу, былі гадамі вучобы і пошуку ўласнага шляху, уласнай ролі ў падзеях, што няўхільна наплывалі, надыходзілі.

Разам з тым не пакідала мары і вучыцца далей, паступіць у Пецярбургскі ўніверсітэт. Для гэтага прымаліся і захады — 15 мая 1904 года Алаіза Пашкевіч здае экстэрнам у Аляксандраўскай жаночай гімназіі экзамены за поўны яе курс — гэта каб мець атэстат замест таго, што атрымала ў Вільні. Па ўсіх прадметах ёй былі выстаўлены самыя высокія адзнакі. Відаць, на курсах Лесгафта яна добра павысіла свае веды, бо калі ў пасведчанні аб сканчэнні Віленскага сямікласнага вучылішча ў асноўным у яе стаялі адзнакі «здавальняюча» і толькі некалькі «добра», то цяпер, у пасведчанні аб здачы экзаменаў за курс гімназіі, толькі вельмі добрыя, у тым ліку і па рускай мове.

Акрамя таго, у маі таго ж года пры 1-й Пецярбургскай мужчынскай гімназіі яна здае экзамен па лацінскай мове ў аб'ёме поўнага гімназічнага курса, што таксама было неабходна для паступлення на гуманітарны аддзел Пецярбургскага ўніверсітэта.

Аднак наспявала ўжо бура, і Алаіза Пашкевіч пакідае курсы, каб вярнуцца ў Беларусь, каб знаходзіцца там, дзе будзе вырашацца лёс беларускага народа, каб прыняць самы актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе. Мяркуе вярнуцца ў Пецярбург цераз год альбо два, потым закончыць навуку, а цяпер — на радзіму, будзіць беларусаў ад доўгага сну.

## НАПЯРЭДАДНІ

У пачатку дваццатага стагоддзя насельніцтва ў Вільні было вельмі разнароднае, цяжка вызначыць, якая нацыянальнасць па працэнтах тут пераважала. Бадай аднолькава па колькасці жыло тут і літоўцаў, і палякаў, і яўрэяў, і беларусаў, і рускіх.

Зведаўшы векавы прыгнёт царызму, нацыянальныя ўскраіны марылі аб незалежнасці, і кожная нацыя стварала сваю партыю, якая, выступаючы супраць царызму, патрабуючы вырашэння сацыяльных праблем, разам з тым выстаўляла і свае нацыянальныя патрабаванні.

У 1904 годзе, калі Алаіза Пашкевіч прыехала з Пецярбурга ў Вільню, тут існаваў ужо камітэт Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, вяла актыўную дзейнасць сацыял-дэмакратычная партыя Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ), працавала сацыял-дэмакратычная партыя Літвы, існаваў камітэт

Бунда, а таксама Беларуская рэвалюцыйная грамада (БРГ), якая пасля першага свайго з'езда ў 1905 годзе пачала называцца Беларуская сацыялістычная грамада — БСГ.

У час вялікіх маніфестацый, агульнагарадскіх забастовак, у час рэвалюцыйных выступленняў пралетарыяту віленскія рэвалюцыйныя партыі часта аб'ядноўвалі свае сілы, разам выступалі супраць царызму, наладжвалі агульныя сходы, мітынгі, разам хадзілі ў дэманстрацыях. Беларуская рэвалюцыйная грамада змагалася за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне беларускага народа, у час рэвалюцыі 1905–1907 гадоў яна актыўна выступала за знішчэнне самаўладства, за карэнную перабудову сацыяльнага ладу ў Расіі. У яе праграме быў запісаны пункт: «Раскідаць цяперашні капіталістычны парадак і аддаць у рукі народа зямлю, снасці рабочыя і ўсе спосабы камунікацыі для супольнага ўладання».

Вярнуўшыся з Пецярбурга ў Вільню, Алаіза Пашкевіч прымае актыўны ўдзел у рабоце Грамады, але хутка яе дзейнасць пачынае выходзіць і за рамкі гэтай партыі. Людзі, якія добра ведалі Цётку, успамінаючы яе палітычную дзейнасць, сцвярджаюць, што хоць паэтэса і была членам Грамады, яе не вельмі звязвалі пастановы і палітычная праграма партыі, не вельмі пільнавалася яна і партыйнай дысцыпліны. Цётка была арганічна злітая са сваім народам, і ў сваёй творчасці, і ў жыцці, і ў палітычнай дзейнасці яна цягнулася туды, дзе найбольш было гора, дзе крыўдзілі, прыніжалі чалавека. Такой жа пакрыўджанай, прыніжанай бачыла Цётка і беларускую нацыю, беларускую мову. Цётка была сацыялісткай па закліку свайго сэрца, па імкненні да справядлівасці.

У 1904 годзе ў Вільні Алаіза Пашкевіч пачынае выступаць на нелегальных сходах і мітынгах. Гаварыла яна заўсёды па-беларуску, вобразна і разам з тым проста, зразумела, бо вобразнасць яе была народная, прамовы эмацыянальныя, страсныя. Яна выступала супраць вайны, абуджала нацыянальную свядомасць беларусаў, заклікала да барацьбы з несправядлівасцю. Часта позна вечарам пасля нелегальных сходаў вярталася праз увесь горад дамоў адна, ды яшчэ з поўнымі кішэнямі пракламацый.

Жыла Алаіза на Хівінскай вуліцы ў братоў Войцаха і Юзіка, афіцэраў Маладзечанскага пяхотнага палка. Разам з братамі жыла і меншая сястра Караліна, вяла гаспадарку, бо абодва браты былі ў той час нежанатыя.

Часам завітвала ў Вільню, у госці да братоў і сясцёр, старэйшая сястра Стэфанія, часам прыязджалі і бацькі — адведаць

дзяцей. Аднойчы сабраліся ў Вільні ўсёй сям'ёю і пайшлі да фатографа, зрабілі фамільны здымак, на якім былі ўсе, акрамя сястры Марыі, ужо нябожчыцы.

Стэфанія не вельмі спачувала поглядам сястры Алаізы, выхаваная на польскі манер, хацела заставацца полькаю, а палітыкі наогул не разумела і не хацела ў яе ўмешвацца. Да польскай культуры хіліўся і брат Войцах, затое брат Юзік быў аднадумца Алаізы і шчыры прыхільнік усёй яе дзейнасці. Юзік таксама лічыў сябе беларусам і, хоць быў афіцэрам царскай арміі, належаў да той невялікай яе часткі, якая ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гадоў стаяла на баку народа і чым магла дапамагала яму ў барацьбе. Малодшая сястра Караліна глядзела на сястру Алаізу з захапленнем, імкнулася ва ўсім яе пераймаць, цудоўна ведала беларускую мову і нават сама ўпотайкі спрабавала пісаць вершы, але для сябе яшчэ не вырашыла, хто яна па нацыянальнасці — беларуска ці полька. Гэта было вельмі тыпова ў той час для шмат якіх беларускіх і літоўскіх сем'яў. «Тутэйшыя» імкнуліся вызначыць сваю нацыянальнасць і часта самі выказвалі прыхільнасць да той альбо іншай нацыі. Бывала, што ў адной сям'і адзін брат лічыў сябе беларусам, другі літоўцам, а трэці палякам (так было, напрыклад, у Цётчыных знаёмых, віленскіх жыхароў Умястоўскіх).

Прывілею перад іншымі нацыямі ў Вільні мелі палякі, яны панавалі ў касцёлах, часта вызначалі грамадскую думку, шмат рабілі для таго, каб апалячваць тых жа літоўцаў, беларусаў. Не ўсе маглі ўстаяць супраць уплыву «больш магутнай» нацыі, і некаторыя лічылі за гонар называць сябе палякамі.

Хівінская вуліца, дзе жыла Алаіза з братамі і сястрой, ляжала на самай ускраіне горада, за рэчкаю, за мостам. Яшчэ нядаўна там зусім не было будынкаў, набягалі адзін на другі пакрытыя травою ўзгоркі. На адным з іх узвышаўся крыж з распяццем, які меў сваю гісторыю.

Некалі армія Напалеона, уцякаючы ад рускага войска, падыходзіла да Вільні. Гэта быў не вельмі радасны эпізод у жыцці горада. Зняможаныя голадам і холадам французскія салдаты рваліся да цёплай, сытай Вільні, некаторыя ўжо ледзь дапаўзалі да горада, іншых прыносілі на руках сябры.

Салдат наплывала ў горад усё больш і больш, ужо чорна было ад іхніх брудных мундзіраў на вузкіх віленскіх вуліцах. Гэтыя людзі мала нагадвалі цяпер вайскоўцаў, яны больш нагадвалі галодных раз'юшаных звяроў і паводзілі сябе, як звяры, —

крышылі склады з правіянтам, урываліся ў дамы абывацеляў, забіралі ўсё падчыстую з яды, цёплую адзежу.

Але вельмі многіх не ратавала ўжо ні яда, ні цёплая адзежа. Наадварот, яда, да якой дарываліся згаладалыя людзі, цяпер забівала іх, і яны сотнямі паміралі на вуліцах.

Трупы падбіралі і, як дровы, грузілі на фурманкі, звозілі за раку, за горад. Вясною трупы пачалі гнісці, на горад пацягнула смуродам, іх прыйшлося закапаць. Атрымаўся курган — брацкая магіла, на якой губернатар загадаў паставіць крыж з распяццем. Гэты крыж і стаяў за мостам, за ракою Віліяй, як папрок чалавечаму вар'яцтву, як сведка вялікай чалавечай трагедыі.

У другой палавіне дзевятнаццатага стагоддзя Вільня пачала шпарка расці, злева за мостам узвышаўся цяпер касцёл святога Рафаіла, прыхаджанкаю якога была і Алаіза. Да касцёла прыязджалі сяляне з вёсак — ладзіць шлюб, хрысціць дзяцей, і па нядзелях каля касцёла стаяла шмат фурманак, пахаджвалі кабеты ў клятчастых хустках, накінутых на плечы, мужчыны ў світках з самаробнага сукна.

Хівінская вуліца была пакуль зусім невялічкая, драўляная, пры хатах — садкі, гародчыкі, толькі будынкі, дзе жылі паны афіцэры, — цагляныя, чатырохпавярховыя — узвышаліся на ўскраі.

У Алаізы на кватэры братоў часта збіраліся сходкі, назначаліся дзелавыя сустрэчы, вабіла ціхае, глухое месца ды яшчэ тое, што браты Алаізы — афіцэры царскай арміі, гэта спрыяла канспірацыі. На кватэры братоў Алаіза хавала шапірограф — станок для друкавання, на якім спрабавалі адціскаць лістоўкі, але стары шапірограф часта псаваўся, вялікага тыражу надрукаваць на ім было немагчыма.

Выступаючы на сходах, на мітынгах. Алаізе Пашкевіч трэба было хаваць сваё сапраўднае імя, у той час усе рэвалюцыянеры мелі партыйныя клічкі, мелі іх і члены Грамады. Узяла сабе партыйную клічку і Алаіза Пашкевіч, пачала ўсюды называць сябе Цёткаю, прасіла, каб і таварышы па барацьбе так яе ўсюды называлі, па вясковаму беларускаму звычаю, так у вёсцы звяртаюцца да кабеты, да простай беларускай сялянкі. Хацела падкрэсліць партыйнаю клічкаю свой дэмакратызм — яна не пані, а цётка, звычайная цётка, сястра працоўнай беларускай жанчыны. І клічка вельмі скора прыстала да яе, хутка Алаіза Пашкевіч стала вядомая ў Вільні пад імем Цёткі-беларускі.

Аб падзеях 9 студзеня ў Пецярбургу тут, у Вільні. даведаліся з газет. «Северо-западное слово», афіцыйнае віленскае выданне,

якое апошнім часам на першай старонцы змяшчала інфармацыю аб падзеях на японскім фронце, 10 студзеня 1905 года ўсю першую старонку прысвяціла таму, што адбылося на вуліцах і плошчах расійскай сталіцы.

«Пецярбург. 10 студзеня. Афіцыйная», — так было набрана буйным шрыфтам замест загалоўка.

Газета пісала бясстрасна, інфармацыйна. Спачатку аб таварыстве фабрычных і заводскіх рабочых, арганізаваным папом Гапонам, аб дзейнасці гэтага таварыства, аб забастоўцы пецярбургскіх рабочых, якая пачалася 2 студзеня.

Аднак газета была вымушана паведаміць і пра крывавыя падзеі, але так, каб зняць віну з забойцаў.

Падзеі 9 студзеня ўскалыхнулі ўсю Расію, ускалыхнулі і Вільню. У Віленскім акруговым судзе прысяжныя паверaныя адмовіліся прымаць удзел у судовых пасяджэннях па крымінальных справах. Хіба можна было судзіць за крадзеж, за забойства, якое ўчынілі цёмны селянін альбо галодны студэнт, калі сам цар — забойца, калі ў першую чаргу цяпер трэба судзіць самога цара.

Працоўныя Вільні кідалі работу, выходзілі на вуліцы, стыхійна ўзнікалі мітынгі, дэманстрацыі.

На Георгіеўскім праспекце быў клуб чыгуначнікаў, дзе збіраліся сходы рабочых. У адказ на расправу з пецярбургскімі рабочымі ў клубе адбыўся мітынг, на якім прысутнічала шэсць тысяч чалавек. Выступалі прадстаўнікі рэвалюцыйных партый, заклікалі да ўсеагульнай забастоўкі.

І забастоўка ахапіла ўсе прадпрыемствы Вільні — спыніліся заводы, фабрыкі, майстэрні. Гэта была працоўная салідарнасць рабочых Вільні з рабочымі Пецярбурга, гэта быў адказ на злачынства цара, гэта была жалоба па ахвярах 9 студзеня.

Разбуджаны выбухам рэвалюцыйнай бітвы, падаў свой голас і беларускі народ. Ён узняў на грэбень хвалі сваіх песняроў, якія мастацкім вобразам, мастацкім словам загаварылі аб сваім народзе, заявілі аб сваім праве «людзьмі звацца».

Рэвалюцыя 1905 года выклікала да жыцця паэзію Янкі Купалы і Якуба Коласа. Але Янка Купала свой першы верш «Мужык» надрукаваў у 1905 годзе і потым два гады з-за цэнзурных умоў не мог надрукаваць ніводнага радка. Якуб Колас свой першы верш надрукаваў у верасні 1906 года.

На барыкадах рэвалюцыі, у калонах дэманстрантаў, на сходках і мітынгах гучаў голас Цёткі. Паэтэса настроіла сваю ліру на гром рэвалюцыйных бітваў. Яе словы запальвалі сэрцы прагаю

барацьбы, яе песня лунала над хмарамі, апяваючы буру — рэвалюцыю народную.

Цётка была ў гушчы ўсіх рэвалюцыйных падзей. З болем, з гневам прыняла яна паведамленне аб расстрэле безабаронных жанчын, дзяцей на вуліцах Пецярбурга. І першым водгукам на падзеі 9 студзеня з’явіўся яе верш «Небывалыя часы», напісаны ў студзені 1905 года.

Паэтэса нібы спынілася перад тым, што ўбачыла, і застыла ў адчаі. У яе не хапае слоў, каб выказаць сваё абурэнне, свой гнеў, сваю нянавісць. Яна не можа больш глядзець на свет вачыма, якімі глядзела на яго дагэтуль, ды хіба сёння свет такі, як быў учора? Злачынства цара нібы спаралізавала ўсё жывое.

І песні заціхлі, і смеху не відна,
І дзеці старэнькімі сталі,
І ноты вясёлы музыкам браць стыдна,
Радасны струны парвалі.
І фарбы артыстаў смутна рысуюць,
І цені ясны зміраюць.
І вершы паэты з жалем рыфмуюць,
І сэрцы кроўю сплываюць.

Крывёю сплывае і сэрца паэтэсы, яна — той самы музыка, якому сорамна браць вясёлыя ноты, яна — той самы артыст, чые фарбы цяпер рысуюць толькі смутнае, яна — той самы паэт, які рыфмуе вершы з жалем.

Але трывога, смутак, жаль — гэта толькі на міг, гэта першая рэакцыя на злачынства самаўладства. Народ павінен адпомсціць за ўсё: і за кроў, і за смутак, і за жаль. Трывога, заціша — гэта перад выбухам, гэта перад бурай.

Пазней украінскі вучоны-славіст Іларыён Свянціцкі ў сваёй кнізе «Адраджэнне беларускага пісьменства», якая выйдзе ў Львове ў 1908 годзе, напіша, што ўвесь навейшы беларускі рух пачаўся ў небывалыя часы, пра якія спявала, якіх не прымала Цётка.

Верш Цёткі сапраўды быў нібыта вяхою, за якою пачыналася новая беларуская літаратура, літаратура барацьбы.

## БУРАЮ НАТХНЁНАЯ

Віленскі клуб чыгуначнікаў апошнім часам быў месцам, дзе збіраліся рабочыя, рэвалюцыйная інтэлігенцыя, вучні, прадстаўнікі рэвалюцыйных віленскіх партый, з якімі Цётка была амаль з усімі добра знаёмая.

У адказ на падзеі 9 студзеня ў Пецярбургу, у чыгуначным клубе адбыўся бурны як ніколі мітынг.

Выступала і Цётка, як заўсёды — страсна, тэмпераментна, яна заклікала адпомсціць за кроў — ісці на змаганне.

Пасля мітынгу Цётка разам з сябрамі ходзіць па заводах і фабрыках, гаворыць перад рабочымі прамовы, пераконвае іх, што надышоў час, калі трэба смела выступаць супраць заводчыкаў і фабрыкантаў. І рабочыя слухаюць яе, кідаюць работу, выходзяць на вуліцу. Паліцыі, жандарам ужо вядома, што на заводах выступаюць агітатары, і ўстанаўліваюцца кардоны, засады, каб не прапусціць іх, але Цётка ўсё роўна прабіраецца да рабочых, і вось у заводскім цэху зноў гучыць яе ўсхваляваны голас. Рабочыя ідуць на гэты голас, бо чуюць — гэта Цётка гаворыць пра тое, што набалела, гаворыць так, быццам ведае іх жыццё да самых драбнічак — пра тое, як жывуць яны ў гэтым вялікім і прыгожым, але не для іх прыгожым, горадзе, пра тое, як яны за мізэрную плату гнуць спіну на заводчыка ды яшчэ баяцца, каб не выгнаў іх заводчык за браму, бо як яны будуць жыць без тых капеек, пра тую вясковую беднасць, якая выгнала іх, учарашніх сялян, у горад шукаць хлеба, як гоніць гэта беднасць і сёння іх братоў і сёстраў сюды, каб і яны паспрабавалі гарадскога райскага жыцця, якое страшней за пекла.

І, мусіць, гэтая цётка са сваіх, з простых мужыкоў ці рабочых, бо гаворыць папросту, так, як яны дома, у вёсцы, гаварылі паміж сабою ды і тут, у горадзе, пакуль інакш гаварыць не навучыліся. Ад слоў агітатаркі закіпае ў жылах кроў, прыходзіць вера, што ты і праўда не рабочая скаціна, а чалавек, што тыварты лепшага жыцця, але ніхто табе яго не дасць, калі сам сабе яго не возьмеш.

Цётка выступае на мітынгах, якія праводзяцца то на вуліцах, то ў клубах, яе гарачае слова ўсюды запальвае людзей прагаю барацьбы, яна раздае на мітынгах лістоўкі, разам з рабочымі ідзе ў дэманстрацыі, не зважаючы на паліцыю, якая палюе за агітатарамі, хапае іх, арыштоўвае і кідае ў турмы, не зважаючы на конных жандараў, якія гатовы кожную хвіліну ўрэзацца ў натоўп і ссекчы яго бізунамі.

А пасля бурных, кіпучых дзён бяссонныя ночы, падзеі, што адбываюцца вакол, клічуць да жыцця паэтычныя вобразы, гэтыя вобразы стукаюць у грудзі, шукаюць выйсця, і не будзе спакою, не будзе жыцця, пакуль яны не стануць у паэтычныя радкі, не ўзарвуцца гнеўным і гарачым словам.

І нараджаецца верш — поўны страсці і горычы, гневу і радасці. «Хрэст на свабоду» — так назвала Цётка гэты свой верш, і ўжо ў назве яркі вобраз, гарачая эмоцыя. Слова «хрэст» Цётка ўжывае ў сэнсе хрышчэння, благаслаўлення, падзеі, аб якіх расказвае яна, хрысцяць людзей на свабоду, дазваляюць ісці за яе ў бой, благаслаўляюць народ на бітву.

Адно за адным выкрывае паэтэса злачынствы самаўладства:

На усходзе красна неба;
Нас не дзівіць — так і трэба!
Кроў ракамі льецца ў мора,
Салдат гіне там ад гора
Без кашулі і без хлеба;
Нас не дзівіць — так і трэба!

Паэтэса не можа пагадзіцца з тым, што народ прывык да мук, што церпіць іх, самыя вялікія злачынствы цара не выклікаюць у яго пратэсту, забіты, непісьменны, прыніжаны, прыгнечаны, ён лічыць, што «так і трэба», хоць гэта і горка яму, і балюча.

Гоняць сына, гоняць мужа,
Мы слухаем цара дужа.
З душы б’ецца скарга ў неба,
А мы маўчым — так і трэба!

А ці трэба так, падумайце, — нібы заклікае паэтэса. — І ці трэба маўчаць, калі маўчанне падобна на згоду, на дазвол здзекавацца і далей? Кожны радок верша напяты, як цеціва, стрэлы-вобразы б’юць і б’юць па цэлі:

Жандар стрэле, казак б’ецца,
У народа спіна гнецца
Ад налогаў з солі, хлеба,
А мы плацім — так і трэба!

І яшчэ адно, самае вялікае злачынства, — цар паслаў кулі ў людзей, якія ішлі да яго з харугвамі, з абразамі, якія спадзяваліся на яго літасць, на яго дабрыню, на яго дапамогу.

Ў Пецярбургу змерлі людзі:
Ім прашылі куляй грудзі,
Бо то з песняй і з алтарам
Пайшлі з папом перад царам.
А цар сыпнуў, як бы з неба.
Тысяч куляў — так і трэба.

Верш усё больш і больш нагадвае прамову — і сапраўды, усё, што складае яго змест, складала змест прамоў на сходах і мітынгах у Вільні. І японская вайна, і цяжкія падаткі, і расстрэл рабочых у Пецярбургу. Але якая страсная, бурная гэта прамова. Думка і эмоцыя сплаўлены тут у адзін моцны метал, і метал гэты звініць, як звон набату, збіраючы, уздымаючы людзей.

Сабе на дапамогу Цётка кліча ўсе сілы, кліча нават неба — сімвал справядлівасці, кліча нават Бога. Рэлігія заклікала людзей да цярпення, не дазваляла ўздымаць руку на тых, хто трымае ўладу, тым больш на цара, які лічыўся памазаннікам Божым. Але які ж цар «памазаннік Божы», калі страляе па абразах, страляе па людзях, што ідуць да яго з харугвамі? Само неба паўстае супраць цара, само неба благаслаўляе рэвалюцыю, благаслаўляе свабоду, яно абрынула свой гнеў на забойцу, выносіць яму смяротны прысуд:

Дурняў хрысціць на свабоду,
Цар навуку даў народу,
Паказаў ім, як бы з неба,
Што больш цара не патрэба!

І яшчэ:

Народ чуе голас з неба,
Што свабоды яму трэба!

І далей:

Чую яшчэ голас з неба,
Што цара павесіць трэба!

Хто яшчэ ў паэзіі 1905 года так радыкальна, так непрымірыма выказваў свае погляды, звяртаўся да народа з такімі рашучымі, адважнымі заклікамі?

Сумныя інтанацыі верша, калі Цётка расказвае пра гора народнае, пра пакуты працоўнага чалавека, саступаюць месца

бадзёрым, поўным рэвалюцыйнага пафасу, калі паэтэса паказвае той магутны ўздым, які ахапіў народныя масы, тую буру, якая ўзрушыла ўсю краіну:

З той пары Масква, Варшава,
Рыга, Вільня, Бак, Лібава,
Беларусь, Літва, Расея
Гоняць вон цара-зладзея!
Народ чуе голас з неба,
Што больш цара не патрэба!

Верш Цёткі голасна і страсна гаварыў аб самым галоўным, аб самым надзённым, у ім малявалася карціна народных пакут і паказваўся шлях, па якім трэба ісці, каб здабыць свабоду.

Верш «Хрэст на свабоду» насіў характар пракламацыі і, як кожная пракламацыя, мусіў быць надрукаваным, каб трапіць у шырокія народныя масы. Беларусы ў той час друкарні сваёй не мелі. А найбольш сябравалі яны з літоўцамі. Як вядома, Цётку з літоўцамі звязвалі і асабістыя дачыненні — з Пецярбурга ў Вільню прыехаў Стэпонас Кайрыс, адносіны з якім рабіліся ўсё больш блізкія, праз Кайрыса сышлася яна з прадстаўнікамі сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі Літвы, у тым ліку з Міцкявічам-Капсукасам. Літоўскія сябры і надрукавалі верш Цёткі «Хрэст на свабоду» па-беларуску лацінскім шрыфтам, тыражом тры тысячы экзэмпляраў, на вузкай доўгай паперцы — як часта друкавалі тады пракламацыі. У народзе такія пракламацыі так і называліся — «доўгенькія паперкі».

Вельмі хутка верш Цёткі «Хрэст на свабоду» зрабіўся адным з самых папулярных вершаў у Вільні — яго завучвалі на памяць, чыталі на сходах і мітынгах, раздавалі ў час дэманстрацыі. Беларускі літаратуразнаўца і бібліёграф Яўген Хлябцэвіч, які ў 1905 годзе жыў у Вільні, належаў да Грамады і добра ведаў Цётку, успамінае:

«Прыгадваю ўплыў на віленскія рабочыя масы верша Цёткі «Хрэст на свабоду», які быў выдадзены ў выглядзе нелегальнай пракламацыі ў вершаванай форме. Памятаю, з якім задавальненнем рабочыя Вільні чыталі на вуліцах гэты верш. Ён дзейнічаў на масы сваім рэвалюцыйным зместам і формаю».

Гарачае, страснае палітычнае слова, выказанае ў простай, даходлівай форме, вызначыла поспех верша «Хрэст на свабоду», зрабіла яго вядомым па ўсёй Беларусі.

* * *

На сходах і мітынгах у Вільні Цётка вельмі часта выступала разам з таварышам Сцяпанам — Барысам Вігілёвым, адным з папулярных дзеячаў рэвалюцыйнага руху ў Вільні, членам Віленскага камітэта РСДРП. З Барысам Вігілёвым Цётку звязвала і асабістае сяброўства.

Вігілёў Барыс Дзмітрыевіч у 1901–1902 гадах быў студэнтам Маскоўскага ўніверсітэта, прыродазнаўчага факультэта. У пачатку 1902 года за ўдзел у студэнцкіх беспарадках быў выключаны з універсітэта і арыштаваны. Праседзеў у турме шэсць месяцаў, пасля турмы яму забаранілі жыць у Маскве на працягу аднаго года, і ён пераехаў у Вільню, уступіў у віленскую групу РСДРП. 27 жніўня 1904 года яго арыштавалі на дыскусіі з бундаўцамі ў Антакольскім лесе, дзе адбывалася сумесная сходка прадстаўнікоў «Іскры» і Бунда.

Барыс Вігілёў быў прадстаўніком ад Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі ў забастовачным камітэце горада Вільні, узначальваў работу моладзі пры Віленскім камітэце РСДРП. Ён вылучаўся як вельмі энергічны і бясстрашны малады чалавек, жандары проста палявалі на яго, неаднойчы арыштоўвалі, але ён уцякаў з арыштанцкай, чым рабіў нямала клопату і непрыемнасцей віленскай паліцыі. У архіўных матэрыялах там і тут сустракаецца прозвішча Вігілёва, і часцей за ўсё ў сувязі з яго арыштам і ўцёкам з-пад арышту.

У матэрыялах пракурора Віленскай судовай палаты (ф. 446, воп. 1, спр. 671) чытаем:

«Затрымана сходка членаў мясцовага камітэта Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, у тым ліку Барыс Дзмітрыеў Вігілёў, які ўцёк з паліцэйскай арыштанцкай».

Яшчэ дакумент:

«Ноччу на 3 верасня 1906 года ў паліцэйскую арыштанцкую былі дастаўлены затрыманыя на сходзе ў доме № 31 на Хівінскай вуліцы Аляксандр Купрыянаў, Акілі Пальчык, Вільгельм Маркевіч, Павел Голубаў і былы студэнт Барыс Вігілёў, якія абвінавачваліся ў дзяржаўным злачынстве.

З паказанняў асоб, якім быў наладжаны допыт, устаноўлена, што Вігілёў 3 верасня 1906 года ўцёк з віленскай арыштанцкай паміж 11 і 12 гадзінамі дня».

І яшчэ адно сведчанне аб тых жа здольнасцях Вігілёва ўцякаць з-пад арышту. У артыкуле «Работа РСДРП у Паўночна-Заходнім краі» часопіс «Пралетарская рэвалюцыя» ў № 8–9 за 1924 год расказвае:

«Таленты Сцяпана як уцекача былі шырока вядомыя віленскай паліцыі. Прыстаў, які з'явіўся для арышту, заявіў Сцяпану пакрыўджаным голасам:

"А я праз вас, пан Вігілёў, прасядзеў на гаўптвахце цэлы тыдзень…" (Сцяпан уцёк з яго ўчастка.)

Няўрымслівы Сцяпан адказаў дзёрзка і самаўпэўнена:

"Ну і зноў пасядзіце"».

Барыс Вігілёў хварэў на сухоты і ў 1907 годзе паехаў у Закапанэ, потым у Фінляндыю, каб паправіць сваё здароўе, з Фінляндыі перабраўся ў Галіцыю, дзе і застаўся ў эміграцыі, быў студэнтам Ягелонскага ўніверсітэта, дзе вучылася ў свой час і Цётка.

У 1921 годзе Барыс Вігілёў уступіў у РКП(б). Ён вельмі хацеў вярнуцца ў Расію, але здароўе яго заставалася кепскае, і ён быў вымушаны жыць у Польшчы. У 1925 годзе ён памёр у Закапанэ ад сухотаў.

Няма сумнення ў тым, што такая яркая асоба, як Вігілёў, не магла не аказваць уплыву на Цётку, відаць, яны ўзбагачалі адно аднаго, далучаючы адно аднаго да сваёй работы.

Вядома выступленне Цёткі на мітынгу, арганізаваным Лігаю раўнапраўя жанчын. Яна паказвала на першыя рады, якія займалі багата апранутыя пані, і казала:

— Вось тут сабраліся капялюшніцы, з імі рабочым не па дарозе, работніцы павінны запісвацца не ў буржуазную лігу, а ў пралетарскую партыю сацыялістаў.

Цётка горача даводзіла работніцам, што буржуазная ліга не выступіць у абарону працоўнай жанчыны. што яна заўсёды будзе шукаць кампрамісу з уладаю, такога становішча, каб і авечкі былі цэлыя, і ваўкі сытыя, чаго, як вядома, не можа быць, бо ваўку, каб быць сытаму, акурат і трэба з'есці гэту авечку.

Аўтарытэт Цёткі сярод працоўных беларускіх жанчын быў такі вялікі, што яны вылучылі яе дэлегаткаю на жаночы з'езд, які адбываўся ў Маскве ў маі 1905 года. Цётка выкарыстала трыбуну з'езда для таго, каб расказаць пра існаванне беларускага народа, беларускай працоўнай жанчыны. Яна гаварыла аб цяжкім жыцці беларускай работніцы, беларускай сястры-сялянкі, якія гібеюць у непасільнай працы. Прамовы Цёткі зрабілі моцнае ўражанне і выклікалі сімпатыю да беларускай дэлегаткі з боку дэмакратычнай часткі з'езда.

В. Аляксандрава, якая таксама прымала ўдзел у гэтым з'ездзе, успамінае аб выступленнях Цёткі:

«Гаварыла надзвычай проста, без аратарскіх прыёмаў, без кветак звычайнага шаблоннага красамоўства, але ў словах яе было шмат непадробнага жару, яны ішлі ад сэрца, перапоўненага гарачаю любоўю да пакінутых лёсам і людзьмі сясцёр, яны былі сагрэтыя шчырым пачуццём, поўныя сапраўднай жыццёвай праўды».

На гэты з'езд з Вільні ў Маскву Цётка ездзіла нелегальна, дапамагла ёй дэлегатка ад польскіх жанчын Ж. Кодзіс, у пашпарце якой была запісана дачка Зося. Паколькі ўзрост дачкі ў пашпарце не ўказваўся, а Цётка выглядала молада, то камбінацыя ўдалася, і спачатку ўсе дэлегаткі ў Маскве называлі Цётку Зося Кодзіс, толькі на з'ездзе яна выступала пад сваім сапраўдным прозвішчам.

* * *

Бурлівы, кіпучы 1905 год захапіў, запаланіў Цётку. Не было і хвіліны бяздзеяння, раўнадушша, адпачынку, хіба толькі ў кароткія гадзіны сну. Яе вочы заўсёды гарэлі агнём натхнення, невысокая постаць была наструненая, яна сама нагадвала зарад, начынены порахам, гатовы ўзарвацца кожную хвіліну то радасцю пераможцы, то гневам, скіраваным на сваіх ворагаў.

Пра сябе зусім не дбала — хадзіла ўсё ў адным жакецiку без рукавоў, надзетым на сукенку, магла цэлымі днямі нічога не есці — не мела часу. Спяшалася і спяшалася — з аднаго мітынгу на другі, з завода на фабрыку, дзе арганізоўвала рабочыя гурткі. У гуртках яна чытала палітычныя рэфераты, прыносіла і раздавала лістоўкі, падбадзёрвала працоўных жывым, энергічным словам.

Палітычныя гурткі арганізоўвала яна і сярод жанчын, асабліва часта хадзіла на панчошную фабрыку Бруна, дзе працавалі пераважна жанчыны і вельмі ахвотна збіраліся паслухаць Цётку. Акрамя палітычных ведаў, кіраўніца гуртка давала ім веды па санітарыі і гігіене.

А сэрца, мозг паэтэсы-рэвалюцыянеркі непакоілі думкі-вобразы, яны прасіліся ў вершы, і вершы складаліся, нараджаліся, нібы выплаўляліся з агню, якім гарэла Цётка, выкрэсліваліся маланкамі бурлівага часу.

Не зважала на сваё здароўе, на дактароў, якія папярэджвалі, каб берaглася, бо вельмі слабыя лёгкія.

Ёсць успаміны Аляксандры Зотавай-Рамановіч, у той час вучаніцы віленскага Марыінскага вышэйшага жаночага вучы-

лішча, удзельніцы рэвалюцыі 1905 года, якая была ў той час знаёмая з Цёткаю. Зотава-Рамановіч успамінае:

«Аднойчы мяне паслалі да Цёткі сказаць ёй, што адбудзецца сход. Прыходжу, а яна ляжыць хворая, і доктар строга забараніў ёй уставаць.

Я пасядзела каля яе і пайшла, нічога не сказаўшы пра сход, а калі вярнулася туды, то першай убачыла Цётку, яна раней за мяне туды з'явілася» (архіў бібліятэкі АН БССР, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 345).

Жаданне Цёткі прысутнічаць на сходзе перамагло хваробу.

«Бо люблю я ураганы… Бо я ў буры чую рай…» — будзе прызнавацца паэтэса.

І сапраўды, Цётка адчувала сябе нібы гаспадыняю гэтай буры, гэтага ўрагану, узнятыя грэбнем рэвалюцыйнай хвалі, яе энергія, яе паэзія бунтавалі, бурлілі ў кіпені жыцця, яна была шчаслівая.

Сучаснікі сведчылі, што яе выступленні на сходах і мітынгах проста ашаламлялі слухачоў. У літоўскіх, польскіх, рускіх сацыял-дэмакратычных колах таго часу ды і сярод усяго насельніцтва Вільні яна была вядомая як Цётка-беларуска. І сёння мы знаходзім у архівах фатаграфіі Алаізы Пашкевіч, на якіх рукою яе сучаснікаў напісана: «Цётка-беларуска».

Адным з паплечнікаў Цёткі ў той час быў Алесь Бурбіс, які меў партыйную клічку Стары Піліп.

Гэта быў таксама энтузіяст рэвалюцыйнага руху — энергічны, адважны, таксама менш за ўсё думаў пра сябе — часта хадзіў галодны, няголены, у паношанай вопратцы, але заўсёды жыццярадасны, поўны веры ў перамогу народа, поўны баявога агню.

На радзіме, у мястэчку Майшаголе на Віленшчыне, пад яго кіраўніцтвам была ўтворана арганізацыя, якая ставіла сваёю мэтаю знішчэнне існуючага ладу.

Бурбіс і яго таварышы збіралі сялян на рынку, узлезшы на вазы, гаварылі прамовы, у якіх заклікалі не плаціць падаткаў, не падпарадкоўвацца ўладзе, не пасылаць навабранцаў у войска, а забіраць панскую зямлю, высякаць панскія лясы, зачыняць манапалькі, цераз якія казна выцягвала ў народа вялікія грошы і спойвала яго.

Разам з рабочымі, што падтрымлівалі гэту арганізацыю са зброяй у руках, рэвалюцыянеры захапілі ў Майшаголе ўладу і трымалі яе некалькі дзён — прадстаўнікі паўцякалі ў Вільню, у памяшканні воласці засядаў рэвалюцыйны камітэт, якім кіраваў Бурбіс. У Вільні ўзнялася паніка, губернатар паслаў у Майшаголу казакаў.

Сябры ў Вільні жартам называлі Алеся Бурбіса прэзідэнтам Майшагольскай рэспублікі. У 1906 годзе за ўдзел у рэвалюцыйным руху Алесь Бурбіс быў арыштаваны і праседзеў у турме да 1909 года, затым зноў уключыўся ў рэвалюцыйную работу.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Алесь Бурбіс служыў у беларускіх установах у Маскве, Смаленску. У час акупацыі Беларусі немцамі працаваў у бежанскіх арганізацыях, удзельнічаў у падрыхтоўцы Рыжскага мірнага дагавора. З 1921 года быў наркомам замежных спраў БССР.

Адна з сучасніц Алеся Бурбіса, расказваючы пра сваю першую сустрэчу з ім у Маскве, успамінала:

«Дык вось ён, той Бурбіс, аб якім гэтак многа чула, ён сапраўды шчыра хоча дабра народу, нездарма ён быў сябрам першай беларускай рэвалюцыянеркі Цёткі — Пашкевіч!»

Цікава адзначыць, што Змітрок Бядуля ў сваёй аўтабіяграфіі, якая цяпер змешчана ў зборніку «Пяцьдзясят чатыры дарогі», Цётку і Алеся Бурбіса называе сваімі сябрамі, сваімі «тагачаснымі таварышамі».

Памёр Бурбіс у 1922 годзе ад сухотаў. Газета «Савецкая Беларусь» надрукавала некралог з прычыны яго смерці.

«Беларусь! Пакрыйся сёння жалобай і ідзі на свежую магілу, у якой без пары злеглі косці твайго вернага — аж да скону, твайго чыннага — аж да апошніх сіл, сына і змаганніка за тваё адраджэнне — Алеся Бурбіса…

Усю сваю веру і імкненні ахвяраваў Алесь Бурбіс справе твайго, Беларусь, вызвалення — усе сілы аддаў на службу табе. І верным застаўся табе аж да скону…»

Беларусь аплаквала смерць Алеся Бурбіса, паплечніка Цёткі ў рэвалюцыйнай барацьбе 1905 года, яе шчырага сябра ў той нялёгкі час.

У 1905 годзе Алесь Бурбіс падзяляў радыкалізм Цёткі, разам з ёю імкнуўся рэвалюцыйнае слова спалучаць з канкрэтным дзеяннем. Ён часта бываў там, дзе Цётка, падтрымліваў яе выступленні, выконваў яе просьбы і даручэнні. Нездарма сябры часта жартам называлі Бурбіса ад’ютантам Цёткі. Бурбіс надаваў вялікае значэнне мастацтву ў рэвалюцыі. Яго рука таксама цягнулася да пяра, ён пісаў рэвалюцыйныя адозвы, рэфераты, звароты, заклікі і, магчыма, крыху зайздросціў Цётцы, яе ўменню словам высякаць іскры.

Як і Цётка, Алесь Бурбіс вельмі любіў тэатральнае мастацтва, пазней быў арганізатарам музычнага гуртка ў Вільні, выступаў

як акцёр, рэжысёр, чытальнік беларускіх вершаў, прымаў удзел у тэатральнай трупе Ігната Буйніцкага.

Часам у Вільню да Цёткі, да Бурбіса прыязджаў з Мінска Карусь Каганец. Разам выязджалі яны ў вёскі — агітаваць сялян на рэвалюцыйную барацьбу, прывозілі і раздавалі сялянам «афішкі» — лістоўкі.

Карусь Каганец быў не толькі паэт, драматург, але і мастак. Тэмаю яго мініяцюр, карцін, партрэтаў, якія маляваў ён тушшу, акварэллю, алеем, былі вобразы роднай прыроды, нацыянальныя тыпы, характары — вясковы дзед, маладзіца, дзеці, стары лірнік, жабракі. Шмат было ў яго зробленых з тонкім густам замалёвак з натуры — дрэвы, расліны, буслы ў гняздзе, рыбакі, касьба. У час рэвалюцыі 1905 года ён маляваў і палітычную карыкатуру, рабіў пячаткі для Грамады.

Паэт любіў паўтараць словы: «Беларусь трэба падымаць!», захапляўся гісторыяй Беларусі. Сам насіў доўгую бараду і вусы, апранаў кажух, надзяваў шапку са скураным брылём, за халяваю бота заўсёды меў нож — такі дзед-лесавік з Белавежскай пушчы.

Цётка і Карусь Каганец былі розныя па тэмпераменце, па духу творчасці, Цётка — заўсёды ў сённяшнім дні і ў будучым, а Карусь Каганец у мінулым. Даўніна для яго ўяўлялася сімвалам вольнасці, за якую трэба змагацца. Аднак у час рэвалюцыі 1905 года Цётка і Каганец разам выступалі за вырашэнне ўсіх сацыяльных і нацыянальных праблем шляхам рэвалюцыі. За палітычную агітацыю ў час 1905 года Карусь Каганец быў арыштаваны і праседзеў у турме больш як год.

Справа, якой служыла Цётка, патрабавала кантактаў з людзьмі — паплечнікамі, аднадумцамі. Маючы вакол сябе кола сяброў-беларусаў, яна ўсё больш сыходзілася і з літоўцамі, рускімі, яўрэямі. Вельмі ўмела яна вылучаць з грамады людзей, якія гатовы былі служыць інтарэсам народа, брала такіх людзей пад сваю ўвагу, прывязвалася да іх усімі сваімі пачуццямі, і яны рабіліся яе сябрамі, нягледзячы на іх нацыянальную прыналежнасць.

Трымаючыся вясковай беларускай манеры, яна ўсім знаёмым казала «ты», мужчын называла «дзядзькамі», была вельмі простая ў абыходжанні, дзялілася са сваімі сябрамі апошнім кавалкам хлеба, а калі трэба было, то, ратуючы іх, падстаўляла сваю галаву.

Толькі так і разумела сяброўства.

* * *

Стары Двор — бацькоўскае гняздо — заўсёды цягнуў да сябе Алаізу, як цягне кожнага чалавека месца, дзе нарадзіўся і вырас, дзе прайшло маленства і яшчэ там засталіся блізкія.

Родны парог, матчына дабрыня, бацька, сёстры — усё гэта мроілася, снілася ў халодным Пецярбургу, усё гэта ўспаміналася ў Вільні.

Жылі ў сэрцы лясы і палі, па якіх пралягалі знаёмыя сцежкі, урослыя ў зямлю сялянскія хаты, сціплыя постаці сясцёр-сялянак, нястрыжаныя галоўкі, цікаўныя вочкі сялянскіх дзяцей — усё гэта было вобразам радзімы. Месціліся поруч у душы бурны агонь і ціхая ручаіна, перуны, дынаміт і — птушыны шчогат.

Пры кожным выпадку ехала дадому — адведаць бацькоў, родныя мясціны, а разам і туды завезці бунтарны дух часу.

Магчыма, дома, як нідзе, характар Алаізы праяўляўся асабліва поўна. Дома, як нідзе, трэба было ўступаць у канфлікты не толькі з эпохаю, з часам, з царом, а і з самымі блізкімі людзьмі, што бывае куды цяжэй, чым з абстрактнымі з'явамі альбо з чалавекам, якога сама на свае вочы ніколі не бачыла. Дома трэба было ўступаць у канфлікты і з самой сабою.

Некаторыя малюнкі з жыцця Алаізы таго часу, яе адносіны з бацькамі, з блізкімі, з аднавяскоўцамі ўстаюць з успамінаў яе землякоў, якія памяталі тую пару.

Збоку выглядала так, што ў Стары Двор з Вільні прыязджала пані — чыстая, па-гарадскому апранутая. Не параўнаць жа было Алаізу, якая жыла і вучылася ў Вільні, у Пецярбургу, з простаю, непісьменнаю сялянкаю, закарэлаю, чорнаю ад цяжкай працы на зямлі. Сяляне і віталіся з ёю, як з пані — нізка кланяліся і здымалі шапкі.

Яна імкнулася зламаць гэты бар'ер, хацела паказаць простым людзям, што яна косць ад косці іхняя, што яна звычайная цётка, сялянка. І Алаіза ходзіць, абняўшыся з парабкамі, гаворыць ім:

— Навошта вы задарма працуеце на майго бацьку, патрабуйце, каб ён плаціў вам па рублю ў дзень!

Маці, бывала, толькі рукі сашчэпіць:

— Ліза, ты ж мне ўсю чэлядзь узбунтавала!..

Бацька казаў, што, каб не яго гаспадарка, на якой працуюць і парабкі, не вучылася б Алаіза ў Вільні, не патрапіла б і ў Пецярбург, не была б такая разумная, як цяпер.

Алаіза спрабавала тлумачыць, чаго цяпер дабіваюцца рабочыя ў гарадах, за што ваюе і яна сама — каб на зямлі зрабіць такі

парадак, пры якім ніхто не жыў бы з працы другога, і каб кожны меў хлеба ўволю, каб усе людзі былі роўныя, каб мужыцкія дзеці таксама хадзілі ў школу, вучыліся чытаць і пісаць, каб ніхто не смяяўся з іх роднай мовы.

Бацька казаў, што няма такой сілы, каб перамяніць на зямлі парадкі, створаныя самім Богам, што як было на зямлі спрадвеку, так навек і застанецца, і няма чаго ёй бараніць мужыкоў, гэтых гультаёў і п'яніц, ім хоць залатыя горы дай, яны ў карчму звалакуць і прап'юць.

Бацька і дачка хоць і любілі адно аднаго, але паразумецца ім было цяжка.

Алаіза добра ездзіла конна і дома часта садзілася на каня, скакала ў поле.

І разам з тым душа праменіла цяпло, ласку — сялянскіх дзяцей заводзіла ў бацькоўскі сад, частавала яблыкамі, ігрушамі, дзяўчаткам заплятала косы і ўплятала ў косы свае стужкі.

Аднойчы прыехала ў Стары Двор з сябрамі. Даведалася, што генерал Прыбытка, які недалёка меў маёнтак, вельмі мала плаціць парабкам, кепска корміць, жывуць парабкі ў гнілым бараку.

Алаіза з сябрамі выправілася на генеральскае поле, дзе ў гэты час парабкі аралі папар.

— Кідайце работу! Няхай генерал сам працуе, і не выходзьце ў поле, пакуль генерал вам не павысіць платы! — сказала яна.

Парабкі паслухаліся, пайшлі з поля. Потым расказвалі — кіпеў, злаваўся генерал, страшыў Алаізу і турмою, і катаргаю.

Цётка бачыла, як пад уплывам падзей 1905 года мяняецца беларускі селянін, як пачынае выказваць нязгоду з тым, што цярпеў дагэтуль, — забірае панскія землі, помсцячы за здзек і мукі, паліць панскія маёнткі.

Паноў абаранялі жандары. паліцыя, але не маглі ўсцерагчы маёнткаў ад пажараў. Тады на абарону багацеяў паднялася царква. Асаблівы гнеў абрынула яна на галовы агітатараў, што прыязджалі з гарадоў, уздымалі сялян на бунты. Прэлат рымска-каталіцкай епархіі Ю. Антановіч пісаў, звяртаючыся да ўсіх католікаў:

«Гэтыя лжэнастаўнікі, парушальнікі ўсякага парадку кажуць, што царскай улады не трэба. Між тым апостал народаў ясна гаворыць: «Кожная душа няхай будзе пакорная вышэйшай уладзе, бо няма ўлады не ад Бога, а якую цяпер мы маем, ад Бога ўстаноўлена. І той, хто выступае супраць улады, выступае супраць Бога».

Віленскі епіскап Эдуард Рап звярнуўся да ўсіх сялян Віленскай губерні:

«Што сказаў бы пра вас, людзі мае, Езус Хрыстус, каб ён з'явіўся сёння перад намі? Ці пахваліў бы ён вас за тое, што вырабляеце вы ў лясах і ў памешчыцкіх маёнтках? Каго вы слухаецеся? З гарадоў прысылаюць да вас людзей, у якіх няма Бога ў сэрцы. Вы, слухаючы іх балбатню, адышлі ад веры, адышлі ад правільнага каталіцкага жыцця.

Дзеці мае любыя! Калі сышлі вы са шляху хрысціянскага жыцця, то скарэй вяртайцеся на гэты шлях!»

Трэба было змагацца і супраць гэтай сілы, змагацца за свядомасць селяніна, выкрываць ксяндзоў і папоў. І Цётка робіць гэта вельмі арыгінальна, яна малюе і новы вобраз мужыка, і новы вобраз служкі культу.

Здаецца, зусім нядаўна быў напісаны Гаўрылам верш «Мужык не змяніўся». У ім паэт выказваў сваё здзіўленне тым, як абыходзіць мужыка ўсё, што адбываецца на свеце, як далёка схаваны ад яго здабыткі цывілізацыі. Які быў мужык тысячу гадоў назад, такі ён застаўся і сёння:

Пайшлі горы долам,
А далы гарамі,
Перасохлі моры
І сталі палямі.
А на гэтых палях
Камень пакрышыўся,
І за гэту пору
Мужык не змяніўся…
Ах, застаўся цёмны,
Як той лес зялёны,
Застаўся «хамула»,
Ўсімі прыцяснёны.

У тым жа вершы «Мужык не змяніўся» селянін просіць Бога, каб той даў яму крышку жыта, свінку, курэй колькі, багатую жонку — вось яго ідэал, і, акрамя як на Бога, няма на каго мужыку спадзявацца.

Але тое, чаго не зрабілі стагоддзі, зрабіў адзін год рэвалюцыі, за гэты год з'явіўся іншы мужык. Цяпер селянін са сваёю просьбаю звяртаецца не да нябеснай сілы, а да сацыялістаў і просіць не міласціны, а зброі:

Прыходзяць сацыялісты, пісулькі прыносяць,
Бунтавала просяць.
А каб жа далі хаця пораху
Жменьку, пісталет, дубальтоўку,
Аддаў бы апошнюю залатоўку
За кулі і шрот…

Варта звярнуць увагу на тон верша, на яго настрой, на яго рытм, на ўсю яго форму, як адрозніваецца ўсё гэта ад таго, што напісана было Цёткаю пра селяніна да рэвалюцыі.

У вершы «Ласы» няма жаласлівых нот, няма слёз, хоць селянін і цяпер не зрабіўся багаты і вольны, хоць ён і цяпер яшчэ «хамула, усімі прыцяснёны». Больш таго, герой верша «Ласы» нават адседзеў у астрозе, і, вядома ж, па несправядлівасці.

І ўсё ж настрой верша бадзёры, часам нават вясёлы, і гэту бадзёрасць, гэты вясёлы настрой прыносіць у верш злосць селяніна, злосць, якая пераходзіць у пратэст, і пратэст актыўны.

Селянін ужо ведае, хто яго вораг, хто багацее з яго працы, сядзіць на яго карку. Далягляд яго пашырыўся: калі раней мужык бачыў толькі тое, што рабілася ў яго хаце, на вузкай палосцы яго зямлі, у вёсцы, то цяпер у поле яго зроку трапляюць з’явы дзяржаўнага маштабу.

А ведама, кожны з царавых слуг прывык,
Акром пенсіі, грабіць мужыка.
І чым спрытнейшая рука,
Тым чыны скарэй ідуць.
Глядзі — міністр, генерал,
А за што? За тое, што, сказаўшы па-расейску,
«воровал»…

Вершы напісаны ў свабоднай форме, хоць радкі і рыфмуюцца — кожны першы з другім, аднак рытм верша вольны, што надае маналогу асаблівую афарбоўку. Народнасць, гутарковую інтанацыю стварае і мова селяніна, часта афарыстычная, з народнымі праклёнамі ў адрас ворага:

Станавы — пан, земскі — яшчэ большы,
А хто гад найгоршы —
Дык стражнік з Заполля!
А каб яго нядоля!
Было б каму губіць свет!
А каб яго прапаў след!

Гэта ж свінні пасвіў два рокі
У нашага Пятра Сарокі…

І далей:

Пан — стражнік, шышка!
А каб табе спухла кішка!
Каб табе вылезлі вочы,
Каб ты не меў спакою ні ўдзень, ні ўночы,
Як ты стармасіў мяне,
Як у халоднай сядзеў праз цябе!
Набрахаў, аскардзіў, далі медаль.
Толькі што не маю стрэльбы, жаль,
Але я не дарую, пляснў,
Хоць паленам па мазгавішчы, як у свечку ясну!..

У вершы «Ласы» Цётка зноў саюзнікам мужыка ў барацьбе з самаўладствам робіць і неба. Гэта зноў для таго, каб паказаць селяніну, якая святая нянавісць яго да прыгнёту, якая святая прага яго да барацьбы.

Астрог, месца чалавечай пакуты, Цётка параўноўвае з касцёлам. Як з касцёла, так і з астрога хутчэй павінен дайсці да неба голас чалавечай скаргі.

І яшчэ дзіва — арыштаваны за агітацыю, сядзіць у астрозе ксёндз. Цётка малюе вобраз служкі культу прывабнымі фарбамі, ставіць яго поруч з салдатам.

Селянін расказвае:

Як мы ў турме рабілі галодную забастоўку,
То так усе пад канец маркотнымі сталі,
Што найбольш спалі.
Толькі ксёндз ды яшчэ салдат
Як запяюць «Марсыльянку», брат,
Так паняволі ўсе ўстаём
І разам песню пяём.

Ксёндз спявае «Марсыльянку» — гімн французскіх рэвалюцыянераў, і ўсе арыштаваныя пачынаюць спяваць услед за ім. Служка божы, які выхоўвае паству ў высокіх маральных прынцыпах, самым высокім маральным прынцыпам лічыць цяпер барацьбу з самаўладствам. Больш таго, ён кажа свайму духоўнаму сыну, што грэх ухіляцца ад барацьбы. Выпраўляючы

на волю селяніна, які разам з ім сядзеў у астрозе, ксёндз яму наказвае:

> Не гультай, Пятрук, помні на той свет.
> Гані, каго трэба,
> Бо не ўбачыш неба,
> Бо мы табе будзем сніцца,
> Калі не будзеш мсціцца.

Ксёндз гаворыць селяніну, што той не трапіць у рай, калі не будзе помсціць за крыўду чалавечую, што яму будуць сніцца ахвяры, калі ён за іх не адплоціць.

Вядома, вобраз ксяндза, створаны Цёткаю, быў нетыповы для свайго часу, служкі культу ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гадоў вялі сваю рэакцыйную ролю, яны заклікалі прыхаджан не ўдзельнічаць у «беспарадках», выдаваць зачыншчыкаў бунту.

Тыповымі былі прамовы да сялян прэлата Антановіча ды епіскапа Рапа, якія прыводзіліся вышэй.

І Цётка ненавідзела гэтых ксяндзоў.

У сваіх успамінах Зотава-Рамановіч піша:

«Вельмі ксяндзоў ругала Цётка».

Паэтэса разумела, што яны, гэтыя ксяндзы, яшчэ маюць вялікую ўладу над чалавекам, разумела, якая шкодная іх улада, і змагалася з ёю. Для агітацыі сярод сялянства Цётцы быў вельмі жаданы, вельмі патрэбны вобраз ксяндза-рэвалюцыянера. Ёй трэба было проціпаставіць ксяндзам-езуітам ксяндза-барацьбіта за народныя інтарэсы, каб разбіць інерцыю непрацiўлення, што прапаведавалася рэлігіяй, каб выкарыстаць і гэту сілу, якая пакуль вельмі моцна трымала душу селяніна.

Герой верша Пятрук у адказ на ксяндзова павучанне гаворыць:

> Ну, дык я цяпер, Пятрук, ратуючы душу,
> Прыказанне мушу
> Спаўняць улёт.
> Каб толькі шрот,
> Дубальтоўку мець, пісталет —
> Так зараз пралажу след!
> Навяду масты з матэрыялу,
> Каб дасталося не толькі стражніку, станавому,
> Земскаму,
> Але і пану генералу,
> Знакім тым, губернатару нашай губерні.

Мусіць, таму так горача, так шчыра прымаліся вершы Цёткі ў народзе, што ў іх было вось гэта — добрае веданне сялянскай псіхалогіі. Паэтэса разумела, што цёмны селянін можа адхінуцца ад рэвалюцыйнага слова, калі ім, як касою, будзе за адзін раз зрэзана і вера ў цара, і вера ў Бога. Селянін можа выступіць супраць цара, але пакуль яшчэ баіцца Бога, яшчэ шмат чые душы трымаюць у палоне, у страху касцёлы, цэрквы.

І паэтэса знаходзіць прыём, магчыма, унікальны для рэвалюцыйнай літаратуры таго часу — зноў і зноў бярэ яна саюзнікам у рэвалюцыйнай барацьбе неба, Бога, каб, не абражаючы пачуцця веруючых, перацягнуць іх на свой бок.

А магчыма, і ў ёй самой яшчэ прысутнічала інерцыя каталіцкага выхавання, хоць і разбураны быў ужо храм веры ў свядомасці, яшчэ ляжаў на душы яго цень? Наогул адносіны ў Цёткі з рэлігіяй былі складаныя, і толькі ў апошнія гады свайго жыцця яна выказала ёй свой поўны і бескампрамісны прысуд.

## РЭВАЛЮЦЫЯ НАРОДНАЯ

Падзеі ў Расіі набывалі ўсё больш востры характар, забастоўкі і ўзброеныя выступленні з цэнтраў перакідваліся на ўскраіны. Але найбольшага напалу дасягнулі рэвалюцыйныя хваляванні ў час усеагульнай кастрычніцкай стачкі. Пачалася яна 7 кастрычніка забастоўкаю рабочых Маскоўска-Казанскай чыгункі, а 8 кастрычніка спынілі работу амаль усе чыгункі ў краіне. У сярэдзіне месяца не працавала больш чым дзве тысячы самых буйных фабрык і заводаў, баставалі пошта, тэлеграф, у забастоўцы ўдзельнічала больш за мільён рабочых і больш як 700 тысяч чыгуначнікаў.

Кастрычніцкая забастоўка ахапіла і Вільню, і гарады, размешчаныя блізка каля Вільні. Усюды, дзе былі заводы, фабрыкі, пралетарыят адгукаўся на заклік сваіх таварышаў, падтрымліваў іх.

14 кастрычніка 1905 года начальнік віленскага ахоўнага аддзялення паслаў тэлеграму ў дэпартамент паліцыі:

«Сёння спыніўся рух конкі, цэнтральная электрычная станцыя забаставала. У панядзелак збіраюцца зачыніць усе магазіны. Забаставаў машынабудаўнічы завод Вілейшыса».

17 кастрычніка таварыш міністра ўнутраных спраў генерал-маёр Трэпаў прасіў у Мікалая II дазволу на ўвядзенне ў горадзе Вільні ваеннага становішча. Інакш не маглі справіцца з маніфестацыямі, дэманстрацыямі, што маршыравалі па вуліцах горада, выліваліся на плошчы і бурлілі, як мора людское.

Гэта яны, віленскія дэманстрацыі, маніфестацыі, натхнілі Цётку на стварэнне верша «Мора», у якім вобраз рэвалюцыі народнай увасоблены ў вобразе разгневанай марской стыхіі. Верш меў падзагаловак — «Рэвалюцыя народная».

Шырокае, неабдымнае мора народнае хавала ў сабе сілы незлічоныя, аднак сілы гэтыя драмалі, і мора здавалася спакойным. Але вось народ захваляваўся, загрымеў гром вызваленчай бітвы.

Не такое цяпер мора,
Не такі у хвалях шум:
Цяпер бурна, страшна мора!
Хваля поўна дзікіх дум.

У вобразе разгневанага мора, хвалі якога рвуць берагі і да неба ўзносяць пырскі, паўстае рэвалюцыйны парыў раскаванай народнай сілы.

Мора вуглем цяпер стала,
Мора з дна цяпер гарыць,
Мора скалы пазрывала,
Мора горы хоча змыць.

Як можа ўзяцца агнём, на вугаль згарэць неабсяжны марскі прастор, так і народ сваім гневам здольны спапяліць ворага. І ніхто не стане папярок яго дарогі — як мора можа пазрываць агромністыя скалы, што сціскаюць яго берагі, як можа змыць векавыя горы, так і народ здолее скрышыць усе перашкоды, што стануць на яго шляху.

Гіпербала, якою карыстаецца паэтэса, надае вершу рамантычную ўзнёсласць. Усе фарбы, усе тоны, вобразы служаць таму, каб з найбольшай эмоцыяй, з найвялікшым эфектам намаляваць карціну вызваленчай бітвы.

Мора злуе, крэпнуць хвілі,
З дзікім шумам бераг рвуць,
Гром грыміць за вёрсты-мілі,
З мора брызгі ў неба б’юць.

Цётка адухаўляе мора, яно ў яе, як жывое, — і стогне, і плача, і гневаецца, і злуе, хвалі яго поўныя дзікіх дум. Над морам у тысячы труб грыміць магутны гром: малюнак буры, рэвалюцыі народнай набывае такія рамантычныя, такія чароўныя тоны, што не можа не прывабіць да сябе ўсіх, хто прагне справядлівасці,

гатовы за яе змагацца. І Цётка паэтызуе радасць гэтага змагання. Яна і сама гатова згарэць у ачышчальным агні, у такім доўгачаканым «бoі», з яе грудзей вырываюцца словы, поўныя страсці і гонару, бясстрашша і самаахвярнасці:

Такі бой вякамі жджэцца,
Такі бой гігантаў дасць,
Ў такім бою толькі грэцца,
Ў такім бою толькі пасць.

Цётка ў сваёй творчасці не раз звярталася да вобраза буры як да сімвала рэвалюцыйнай барацьбы, звязвала з гэтым вобразам сваю паэзію, прызнавалася, што толькі ў барацьбе знаходзіла яна паэтычнае натхненне, яснела думкамі, мацнела духам!

Летам 1906 года, адарваная ад радзімы, ад актыўнай рэвалюцыйнай дзейнасці, яна напіша верш «У дарогу», поўны страснага парыву вярнуцца туды, дзе ішло змаганне:

Цераз моры, акіяны
Палячу ў далёкі край,
Бо люблю я ураганы,
Бо я ў буры чую рай;
Бо на дзікіх грывах хвалі
Маім думам лягчэй плыць;
Бо у дзікай страшнай буры
Я аб песні магу сніць;
Бо я толькі на прасторах
Ў звонкай ліры маю слух;
Бо у дзікай, страшнай буры
Крэпне мой свабодны дух.

У тым жа 1906 годзе яна напіша верш «Бура ідзе», у якім зноў праз вобраз буры будзе прадракаць новы ўздым рэвалюцыйнага руху. Паэтэса радуецца, што зноў мацней выюць віхры, што зноў надыходзіць бура, што зноў крояць неба маланкі і зноў «засыпле свежым градам».

Ствараючы вобраз ачышчальнай буры, навальніцы, якая знішчыць стары лад і ачысціць зямлю для новага, светлага жыцця, Цётка далучала свой голас да голасу перадавых пісьменнікаў свайго часу, ішла ў нагу з тымі, хто словам і пяром служыў рэвалюцыі, быў яе ідэйным натхняльнікам.

Яшчэ А. П. Чэхаў вуснамі Тузенбаха, героя п’есы «Тры сястры», гаварыў:

«…Насоўваецца на ўсіх нас… рыхтуецца здаровая, моцная бура…»

У час рэвалюцыі 1905 года сцягам перадавых пісьменнікаў Расіі была «Песня пра Буравесніка» Максіма Горкага, у якой малявалася магутная карціна непазбежнай навальніцы.

Творы Максіма Горкага ў пачатку дваццатага стагоддзя шырока распаўсюджваліся на Беларусі, былі добра вядомыя беларускім пісьменнікам, уплывалі на развіццё іх светапогляду, на іх творчасць. Янка Купала ў лісце да Максіма Горкага пісаў:

«Сонца ўсходзіла, сонца заходзіла, а Вы, як той легендарны Праметэй, сваімі агністымі, перуновымі словамі распальвалі сэрцы, разбунтоўвалі думкі для вялікага змагання за вызваленне чалавецтва з адвечных ланцугоў няволі, ланцугоў няроўнасці, ланцугоў панавання чалавека над чалавекам…

…Па разбунтаваным моры хваля за хваляй, вал за валам біліся на недаступныя, непадатныя скалы, на якіх адно арлы гаспадарылі. На прасторах неўгамоннага жыцця разбівалася аб Вашу непахіснасць, аб Вашу ясназорую сумленнасць усё абманнае, усё нікчэмнае, і Вы смела і горда пялі “Песню аб Сокале”, прарочылі Буравесніка ўсяму скаванаму свету.

Думы Вашы, заклікі Вашы, сягаючы ўсюды, дзе толькі “сонца ўсходзе і заходзе”, даляталі ў краіну, дзе адно нявольніцтва і цемра вілі сабе жудаснае панаванне…»

Янка Купала заканчвае гэты ліст словамі самога ж Буравесніка, як называлі ў той час Максіма Горкага:

«Безумству храбрых поем мы славу!»

Творчасць Цёткі перыяду рэвалюцыі была сугучна і з паэзіяй Лесі Украінкі, якая свае вершы таксама зрабіла вострай зброяй супраць самаўладства.

«У паэзіі я дасягнула нечаканай гармоніі паміж настроем маёй музы і грамадскім настроем…»

Гэта з поўным правам магла сказаць пра сябе і Цётка.

Украінская паэтэса Леся Украінка і яе беларуская сястра Цётка ў пошуках шляхоў да вызвалення свайго краю выйшлі на адну дарогу. І Леся Украінка, і Цётка ва ўмовах жорсткай класавай барацьбы праяўлялі ўзоры мужнасці і адданасці справе рэвалюцыі. Яны абедзве былі не толькі песняркамі вызваленчага руху, але і актыўнымі ўдзельніцамі рэвалюцыі 1905–1907 гадоў.

Цётка і Леся Украінка блізкія не толькі па сваім светапоглядзе, але і па паэтычным тэмпераменце, свой пратэст супраць тагачаснай рэчаіснасці Леся Украінка і Цётка выказвалі ў палымяных, баявых вершах. У «Песнях пра волю» ўкраінская паэтэса з гневам і горыччу ўсклікае:

Чого марсельску пісню чути?
Хіба день славы вже настав?
Хіба разорвані всі пути?
Хіба тиран вже з трону впав?

Як падобна гэта да гарачых, непрымірымых радкоў Цёткі, якая таксама сваімі вершамі імкнулася пахіснуць трон.

У 1905 годзе ў Вільню прыязджала вядомая польская пісьменніца Эліза Ажэшка, якая ў сваіх творах сцвярджала гуманістычныя ідэі, пісала аб героях паўстання 1863 года, выступала з крытыкай капіталістычнай рэчаіснасці. Эліза Ажэшка падтрымлівала творчыя сувязі з многімі рэвалюцыйна настроенымі дзеячамі культуры і літаратуры на Украіне і Беларусі. Яна вельмі высока цаніла творчасць Францішка Багушэвіча, захаплялася паэзіяй Цёткі. Падчас свайго прыезду ў Вільню ў 1905 годзе яна асабіста пазнаёмілася з Цёткаю, слухала яе вершы, якія беларуская паэтэса чытала польскай пісьменніцы.

У музеі Элізы Ажэшка ў Гродне ёсць карціна беларускага мастака Васіля Іванавіча Пушкова — Цётка чытае свае вершы Элізе Ажэшка.

У пакоі, абстаноўка якога, асобныя дэталі характарызуюць час — камін з люстэркам, вялікае, свабоднае крэсла, канапа, круглы столік з разнымі ножкамі, — сустрэліся вядомая польская пісьменніца і маладая беларуская паэтэса.

Хутчэй за ўсё, гэта сустрэча адбываецца ў кватэры Элізы Ажэшка, яна тут адчуваецца гаспадыняю — і па свабоднай паставе ў крэсле, дзе яна сядзіць упёршыся локцем на ўзлакотнік, па выразу твару — добразычлівым, уважлівым да беларускай паэтэсы-рэвалюцыянеркі.

Цётка стаіць спінаю да каміна, у люстэрку адбіваецца яе спіна, густая прыгожая каса, заплеценая ззаду ў тугі вузел.

Беларуская паэтэса ў доўгім цёмным сарафане і белай блузцы з высокім каўняром. У левай руцэ ў яе кніжка, праваю яна ўспіраецца на спінку крэсла.

Твар у Цёткі натхнёны і крыху ўсхваляваны, насцярожаны. Відаць, яна толькі што прачытала верш і не ведае, ці спадабаўся ён вядомай польскай пісьменніцы.

Уладзіслава Францаўна Луцэвіч у сваіх успамінах пра Цётку расказвала, што Эліза Ажэшка ў 1908 годзе, прыязджаючы ў Вільню і сустракаючыся з дзеячамі беларускай культуры, успамінала сваю сустрэчу з Цёткай і палымяныя вершы беларускай паэтэсы.

* * *

Паэзію Цёткі 1905 года можна назваць летапісам рэвалюцыі. Ад першага зацішша перад бурай, праз яе грымотныя баі вяла яна свой верш, адлюстроўваючы ў ім бурлівыя этапы барацьбы.

У паэтычную арбіту Цёткі трапляюць факты, падзеі, сведкаю. а часам і ўдзельніцаю якіх была яна сама, знаходзяць сваё адлюстраванне ў гарачых радках яе вершаў, робяцца дакументамі эпохі.

Для паэзіі 1905 года наогул было вельмі характэрна браць сваім аб’ектам канкрэтныя падзеі — «крывавая нядзеля», руска-японская вайна, дэманстрацыі, маёўкі, расправы царызму з народам. У вершах Цёткі таксама — і руска-японская вайна, і «крывавая нядзеля», і дэманстрацыі.

Адлюстраваўся ў яе творчасці і яшчэ адзін канкрэтны факт — расстрэл працоўных у Вільні 16 і 21 кастрычніка 1905 года. Пад уражаннем гэтых падзей напісаны яе верш «Пад штандарам».

Як адзначалася вышэй, працоўныя Вільні далучыліся да ўсеагульнай кастрычніцкай стачкі, якая пачалася ў Маскве.

15 кастрычніка, у суботу, віленскія сацыял-дэмакратычныя арганізацыі аб’явілі ўсеагульную палітычную забастоўку. У нядзелю, 16 кастрычніка, у горадзе зачыніліся ўсе магазіны, спынілася работа на фабрыках і заводах, на электрастанцыі.

На 10 гадзін раніцы ў памяшканні клуба чыгуначнікаў быў прызначаны агульнагарадскі мітынг. Прыйшло больш чым тры тысячы чалавек, у зале ўсе не змясціліся, шмат людзей стаяла на вуліцы, пад вокнамі.

Аднак мітынг пачаць не маглі, бо народ хваляваўся — на вуліцах Вільні стаяла войска, хадзілі чуткі, што салдаты збіваюць забастоўшчыкаў, што на Нямецкай вуліцы паранілі работніцу.

Усхваляваныя ўдзельнікі мітынгу выбралі дэлегацыю, каб паслаць яе да губернатара з просьбаю зняць патрулі.

Дэлегацыя паехала, але хутка вярнулася і аб’явіла, што губернатар адмовіўся зняць з вуліц войска, ён заявіў, што не мае на гэта права, што адвесці салдат можа толькі начальнік краю.

У зале пачалося яшчэ большае хваляванне. Але ў гэты час прыехаў сам губернатар граф Пален.

Прысутныя абступілі яго, зноў пачалі патрабаваць, каб вывелі з вуліц войска, бо там, дзе зброя, могуць быць і стрэлы, могуць быць ахвяры.

Граф Пален пад націскам рабочых згадзіўся разам з дэлегатамі паехаць да генерал-губернатара і ўгаварыць яго зняць патрулі.

Пачынаўся дождж, людзі настаўлялі каўняры, сям-там расчыняліся парасоны, але народ не разыходзіўся, чакалі перамен у горадзе, яшчэ спадзяваліся, што адбудзецца прызначаны мітынг.

Абкружаны чатырма дэлегатамі, якія сталі на падножку карэты, граф Пален сеў у брычку і выехаў на Георгіеўскі праспект.

Упоперак Георгіеўскага праспекта стаяла войска. Калі граф Пален пад'ехаў да яго зусім блізка, аднекуль пачуўся стрэл, і ў адказ на яго салдаты далі некалькі залпаў у натоўп…

Гэта было так нечакана, што ў першую хвіліну людзі не маглі апамятацца, не маглі зразумець, што адбылося. Але хутка ўбачылі на бруку забітых і параненых.

Натоўп разбягаўся, чуліся крыкі, стогны, праклёны, а салдаты ўсё яшчэ стаялі з вінтоўкамі напагатове.

Пасля першай панікі і адчаю пачалі падбіраць параненых, заносіць іх у Георгіеўскі клуб і на кватэру да доктара, які жыў недалёка.

Паднялі цяжкапараненую Таццяну Памяранц, слухачку апошняга курса медыцынскага факультэта Жэнеўскага ўніверсітэта. У клубе яе паклалі на канапу, але была патрэбна неадкладная медыцынская дапамога, і на той жа канапе жанчыну вынеслі на вуліцу, каб даставіць у бальніцу.

Суправаджала яе чалавек пяцьдзясят. Працэсія была падобна на дэманстрацыю, і ваенны патруль загадаў людзям спыніцца, сказаў, што не прапусціць іх, а калі яны пойдуць — будзе страляць.

Канапу з жанчынай, якая сцякала крывёю, паставілі на мокры тратуар, пад дождж, дзе яна прастаяла больш чым паўгадзіны.

Забітых было пяцёра, параненых — сорак шэсць. Сярод забітых аказаўся хлопчык у форме гандлёвага вучылішча.

Вельмі хутка паніка і адчай змяніліся гневам і нянавісцю. На дрэвы ў Георгіеўскім скверы, які быў побач з месцам расправы, вывесілі аблітыя крывёю кашулі параненых і забітых, і яны палымнелі, як чырвоныя сцягі — сімвал рэвалюцыі.

Назаўтра па ўсім горадзе расклеілі лістоўкі з запрашэннем жыхароў Вільні прыняць удзел у пахаванні ахвяр самаўладства.

Пахаванне адбылося 17 кастрычніка. Стаяў халодны восеньскі дзень, сыпаў дождж, але за трунамі ішоў шматтысячны натоўп. Заднія ішлі шарэнгамі, трымаючыся за рукі, пярэднія неслі вельмі многа вянкоў.

На могілках за варотамі стаяў стол, на які ўсе, хто заходзіў, клалі грошы. Да стала быў прымацаваны плакат — «Ахвярам рэвалюцыі».

Над магіламі гаварылі прамовы на рускай, польскай, беларускай, літоўскай, яўрэйскай мовах. Пахаванне ахвяр вылілася ў новую дэманстрацыю. Віленская паліцыя даносіла ў Пецярбург:

«На чале шматтысячнага натоўпу ішлі дэпутацыі ад супрацьурадавых арганізацый… Наперадзе пахавальнай працэсіі неслі сорак вянкоў з рэвалюцыйнымі надпісамі. Сацыял-дэмакратычнымі арганізацыямі накладзена жалоба на тры дні. Тэлеграм не прымаюць… Забастоўка ў Вільні ахапіла ўсе роды працы. Будуць зняты паліцэйскія варты з-за небяспекі нападу на іх… Горад ва ўладзе рэвалюцыянераў».

Аб падзеях на Георгіеўскім праспекце пісалі газеты:

«17 кастрычніка адбылося пахаванне рабочых, якія загінулі ў час дэманстрацыі. У жалобнай працэсіі ішло шэсцьдзесят тысяч чалавек. Такой грандыёзнай дэманстрацыі ў Вільні яшчэ не было. На чырвоных сцягах стракацелі надпісы:

“Далоў самаўладства!”

“Смерць тыранам!”

Злучаны штаб баявых дружын абараняў дэманстрацыю і падтрымліваў парадак у горадзе сіламі ўзброеных рабочых».

І яшчэ афіцыйнае паведамленне:

«17 кастрычніка. У Вільні становішча з учарашняга не змянілася. З дазволу ўлады адбылося пахаванне забітых без удзелу войска і паліцыі. На чале шматтысячнага натоўпу ішлі дэпутацыі ад супрацьурадавых арганізацый з вянкамі, на якіх былі вельмі злачынныя надпісы, што рабіла кепскае ўражанне на прыхільнікаў парадку.

18 кастрычніка. Горад у тым жа стане, адбылося пахаванне тых, хто памёр ад ран, без удзелу паліцыі.

Наперадзе пахавальнай працэсіі сорак вянкоў з рэвалюцыйнымі надпісамі. Арганізацыямі накладзена жалоба на тры дні. Учора тэлеграм не прымалі».

Пасля пахавання ахвяр Вільня некалькі дзён заставалася ў жалобе. Не працавалі заводы, фабрыкі, былі зачынены ўсе магазіны, майстэрні, на вуліцах не грымела конка. Тут і там адбываліся жалобныя мітынгі, на якіх гаварылі прамовы.

Такімі былі крывавыя падзеі ў Вільні, якія выклікалі да жыцця верш Цёткі «Пад штандарам». Гэты верш напісаны ў тым жа кастрычніку, па гарачых слядах падзей, услед за расстрэлам безабаронных рабочых.

Цётка ў сваім вершы не пераказвае дакладна таго, што адбылося ў Вільні, а стварае абагулены мастацкі вобраз. У цэнтры

верша не стыхійны натоўп, а дэманстрацыя, якую вядзе за сабою рабочы, пралетар з чырвоным сцягам. І ахвяра царскай кулі не выпадковы чалавек, а іменна ён, важак, мужны і адважны.

У вершы побач і жалобныя ноты, калі паэтэса выказвае жаль па ахвяры, і грозныя, гучныя — ноты гневу і пратэсту.

Герой верша — рабочы юнак. Гэта ён, з чырвоным сцягам у руцэ, ішоў наперадзе дэманстрацыі, гэта яго скасіла куля. І ўслед за балючымі словамі спачування, скіраванымі да яго бацькоў, паэтэса малюе свайго героя — як смела і адважна вёў ён за сабою людзей, як кідаў у вочы свайму ворагу гнеўныя словы праўды:

Гасудар,
Ці наеўся ты слёз?
Ці напіўся крыві,
Ці накрыўдзіўся нас?
Мы з штандарам прыйшлі:
Расплаціцца ўжо час.

Паэтэса лічыла, што смерць юнака павінна паслужыць вялікаю навукаю тым, хто пазбавіў яго жыцця. І яна паказвае, як цяпер каецца капітан, што даў загад салдатам страляць у людзей. Гэты капітан ужо зразумеў, якое ён зрабіў злачынства:

Я забіў, я праліў
Пралетарскую кроў,
Я душу загубіў,
Заплаціць я гатоў, —

у роспачы гаворыць ён.

Зразумеў цяпер сваё злачынства і просты салдат; ён больш не будзе слухацца афіцэраў, ён адчуў сябе сынам і братам народа. Цяпер салдат

На прыказ падаць залп
У чырвоны штандар —
Выстрал пусціць на жарт
У аблокаў алтар.

Вядома, не так проста было салдату адмовіцца выканаць загад афіцэра, а капітаны не так хутка згаджаліся ісці ў адным шэрагу з народам. Задача перад Цёткаю зноў стаяла агітацыйная. Як паэтэса-рэвалюцыянерка яна імкнулася выкарыстаць канкрэтныя падзеі, сведкаю якіх была ўся Вільня, сведкам якіх было

і тое самае войска, каб заклікаць гэта войска служыць народу, а не выступаць супраць яго.

А рабоце ў арміі, сярод салдат і афіцэраў віленскія рэвалюцыйныя арганізацыі надавалі вельмі вялікае значэнне.

Адозва «Да афіцэраў», што рассылалася па адрасах вышэйшых воінскіх чыноў, Віленскага гарнізона, заклікала не даваць салдатам каманды страляць у народ.

Палітычная агітацыя сярод салдат і афіцэраў мела свае вынікі, у арміі пачыналі ўтварацца саюзы, арганізацыі, якія далучалі свой голас да голасу працоўнага народа. У казармах наладжваліся мітынгі, салдаты і афіцэры збіраліся на патаемныя сходкі.

У зборніку матэрыялаў «Рэвалюцыя 1905–1907 гадоў у Літве» ёсць цікавы для нас дакумент. Пракурор Віленскага акруговага суда паведамляў пракурору судовай палаты аб палітычнай сходцы салдат Віленскага гарнізона.

«Маю гонар далажыць в. п., што 8 снежня 1905 у гор. Вільні ў доме Умястоўскага на Варшаўскім завулку адбыўся сход дэлегатаў ніжэйшых воінскіх чыноў Віленскага гарнізона».

Далей пракурор пералічвае ўсіх затрыманых на сходцы, сярод якіх называе бацьку і двух братоў Умястоўскіх.

«Пры вобыску, які быў зроблены ў кватэры Івана Ануфрыева Умястоўскага, — піша далей пракурор, — знойдзена двухствольная стрэльба, вялікая колькасць рэвалюцыйнай літаратуры на польскай, беларускай і рускай мовах, а таксама рукапісы злачыннага характару».

Цётка сябравала з братамі Умястоўскімі, асабліва з Пранукам, які вучыўся ў Пецярбургу, у тэхналагічным інстытуце, у той самы час, калі Цётка была слухачкаю курсаў Лесгафта, а пазней, у 1906 годзе, ён разам з Цёткаю прымаў удзел у выданні «Нашай долі». Таму дакумент, змешчаны ў зборніку «Рэвалюцыя 1905–1907 гадоў у Літве», даў штуршок для новых пошукаў.

І вось у бібліятэцы АН Літ.ССР знойдзены абвінаваўчы акт па справе Умястоўскага Івана і іншых, якія абвінавачваліся ў прыналежнасці да Віленскай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі РСДРП і ў распаўсюджванні пракламацый на рускай, беларускай, польскай, літоўскай мовах.

У гэтым акце падрабязна расказваецца, як нейкі Галаўня, радавы 108-га Саратаўскага пяхотнага палка, наняты паліцыяй, доўга хадзіў, вывіжоўваў, дзе збіраюцца салдаты на патаемныя сходкі. Ён сам прыкінуўся рэвалюцыянерам, улез у давер да тых, хто быў звязаны з арганізацыяй, і правакатару паверылі, запрасілі на чарговае пасяджэнне.

Галаўня прыйшоў, але паведаміў пра сходку начальству, і на Варшаўскі завулак былі адкамандзіраваны члены мясцовай паліцыі, ваенны патруль. Амаль усіх, хто прымаў удзел у пасяджэнні, арыштавалі, уцякло толькі некалькі чалавек.

У пратаколе, складзеным пры вобыску, было адзначана, што ў доме Умястоўскага знойдзена 985 экзэмпляраў злачынных пракламацый на рускай, польскай, беларускай, літоўскай мовах. У абвінаваўчым акце даецца іх апісанне.

Сярод пракламацый РСДРП з дэвізам «Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!» значацца і вершы-пракламацыі Цёткі. Тут запісана, што пры вобыску знойдзена «17 экзэмпляраў, надрукаваных рускім шрыфтам, і 276 экзэмпляраў, надрукаваных лацінска-польскім шрыфтам, пракламацыі пад загалоўкам «Пад штандарам», выдадзенай у горадзе Вільні 31 кастрычніка 1905 года, якая па змесце ўяўляе сабою рэвалюцыйную песню».

Крыху ніжэй зноў сустракаемся з апісаннем верша Цёткі:

«Знойдзен 91 экзэмпляр пракламацыі пад загалоўкам "Хрэст на свабоду", выдадзенай у горадзе Вільні 31 кастрычніка 1905 года, у якой гаворыцца, што 9 студзеня цар даказаў народу, што яму цара не трэба, што Гапон чуў голас з неба аб тым, што цара належыць павесіць, што шмат якія гарады паўсталі, каб прагнаць цара-зладзея, і што народу патрэбна свабода».

І яшчэ адзін дакумент, які ў дом Умястоўскіх магла прынесці толькі Цётка, — гэта знойдзены тут сярод рэвалюцыйных пракламацый «Статут саюза рабочых і работніц лячэбніцы для душэўнахворых на чыгуначнай станцыі Нова-Вілейка, які мае сваёю мэтаю аб'яднанне сіл у абарону рабочых і актыўнае выступленне ў сучаснай рэвалюцыі ў саюзе з мясцовымі сацыял-дэмакратычнымі арганізацыямі».

Ніхто, акрамя Цёткі, якая тады працавала ў Нова-Вілейскай лячэбніцы фельчаркаю і была членам рэвалюцыйнай арганізацыі, што там існавала, не мог прынесці гэты дакумент на Варшаўскі завулак.

Цікава крышку заняцца арыфметыкай.

Усіх пракламацый у доме Умястоўскіх, згодна з абвінаваўчым актам, знойдзена 985. Пракламацый Цёткі, згодна з тым жа актам, усіх разам налічваецца 394 экзэмпляры. Такім чынам, з усёй рэвалюцыйнай літаратуры, знойдзенай пры вобыску, Цётчына займала больш чым трэцюю частку!

Акрамя вершаў, Цётка ў той час пісала тэксты для рэвалюцыйных, так званых «лятучых лісткоў», якія пашыраліся па

Беларусі ў тысячах экзэмпляраў, так што зусім магчыма, што і сярод іншай рэвалюцыйнай літаратуры, канфіскаванай пры вобыску, былі «лісткі», напісаныя Цёткаю. Але і без іх удзельная вага рэвалюцыйнага слова беларускай пясняркі вельмі вялікая.

Абвінаваўчы акт па справе ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі РСДРП яшчэ раз пацвярджаў блізкую сувязь Цёткі з гэтай арганізацыяй. Акрамя таго, ён яшчэ раз сведчыў пра тое, як шырока распаўсюджваліся яе вершы-пракламацыі ў рэвалюцыйнай Вільні і яе ваколіцах. З гэтага акта відаць і тое, што верш Цёткі «Пад штандарам» быў надрукаваны як пракламацыя ўжо 31 кастрычніка 1905 года, услед за крывавымі падзеямі ў Вільні. Ён распаўсюджваўся вайсковай групай РСДРП сярод войск віленскага гарнізона разам з лістоўкамі сацыял-дэмакратычнага зместу, дапамагаў схіляць армію на бок народа.

З гэтага акта мы даведаемся, што верш Цёткі «Хрэст на свабоду» ў 1905 годзе на беларускай мове друкаваўся двойчы — першы раз лацінскімі літарамі яго выдала Літоўская сацыял-дэмакратычная партыя, а потым, у кастрычніку, рускімі літарамі яго выдала Грамада.

Як жа склаўся лёс арыштаваных бацькі і братоў Умястоўскіх? Ёсць звесткі, што бацьку Умястоўскаму і сыну Прануку ўдалося апраўдацца, склаўшы віну на брата Вітольда, якога перад тым выпусцілі пад залог. А брат Вітольд у гэты час быў ужо за мяжою, у Галіцыі.

Як відаць з далейшых падзей, другі брат, Пранук, не пакінуў рэвалюцыйнай справы. Па ўспамінах яго сучаснікаў, ён быў добры прамоўца і часта разам з Цёткаю выступаў на сходах і мітынгах перад рабочымі Вільні. Калі Цётка ў 1906 годзе жыла ў Вільні нелегальна, Пранук Умястоўскі часам даваў ёй прытулак на тым жа Варшаўскім завулку.

## У НОВА-ВІЛЕЙЦЫ

У царскай Расіі жанчынам заўсёды цяжка было знайсці работу. Нават атрымаўшы добрую адукацыю, яны найбольш перабіваліся прыватнымі ўрокамі, выконвалі працу па даручэнні і вельмі рэдка маглі трапіць на дзяржаўную службу.

Апошнім часам зарабіць на кавалак хлеба зрабілася яшчэ цяжэй — зачыняліся шмат якія фабрыкі, заводы, установы, расла колькасць беспрацоўных, без работы заставаліся мужчыны, якія лічыліся карміцелямі ў сям’і, што было казаць пра жанчын, ды

яшчэ інтэлігентных прафесій. І праз аб'явы ў газеце прапанавалі свае паслугі настаўніцы, стэнаграфісткі, канторскія работніцы.

«Асоба з прыгожым почыркам шукае вячэрніх заняткаў альбо ўрокаў…»

«Курсістка-лесгафтычка жадае атрымаць урокі ў горадзе альбо ў вёсцы…»

«Паненка шукае месца канторшчыцы, прадаўшчыцы, эканомкі альбо боны ў прыстойнай сям'і…»

«Шукаю месца касіркі, перапісчыцы на пішучай машынцы альбо эканомкі».

Такія аб'явы былі амаль у кожным нумары «Северо-западного слова».

Асвета, атрыманая Цёткаю ў вучылішчы Прозаравай, давала ёй права быць настаўніцаю ў вясковай школе. Мела Цётка і пасведчанне на званне хатняй настаўніцы арыфметыкі, але работу знайсці было немагчыма. Дапамагло тое, што на курсах Лесгафта атрымала веды па медыцыне, гэта адчыніла дзверы ў лячэбніцу, якая размяшчалася ў Нова-Вілейцы. Тое, што бальніца была не звычайная, а для душэўнахворых, не палохала: прафесар Лесгафт вадзіў у такія бальніцы, вучыў не баяцца ніякіх хворых, вучыў бачыць свой абавязак у адным — аблягчаць чалавечыя пакуты.

Некалі ў Расіі для душэўнахворых наогул не будавалі лячэбніц, іх аддавалі ў манастыры. Магчыма, часта іменна душэўнахворых прымалі потым за святых, маліліся іх мошчам. Толькі Пётр І падпісаў указ:

«Хворых не ў манастыры аддаваць, а пабудаваць на тое нарочны дом, як гэта звычайна ў замежных дзяржавах…»

Але ў Расіі з веку ў век хапала клопату са здаровымі людзьмі, да хворых, ды яшчэ душэўнахворых, не даходзілі рукі, больш спадзяваліся на літасць боскую. І ўсё ж, відаць, наспела і гэта патрэба.

У Нова-Вілейцы будаўніцтва лячэбніцы закончылася ў 1903 годзе, на яе адкрыццё сабралася ўсё высокае начальства губерні. Падчас урачыстасці генерал-губернатар Віленскі, Ковенскі і Гродзенскі Святаполк-Мірскі накіраваў цару тэлеграму, у якой пісалася:

«Па аднадушнаму, выказанаму прысутнымі, жаданню маю гонар павергнуць да ног Вашай імператарскай Вялікасці вернападданыя пачуцці ўдзельнікаў урачыстасці і бязмежную ўдзячнасць насельніцтва за міласцівае задавальненне надзённых мясцовых патрэб у доглядзе хворых.

Лячэбніца бездакорна абсталявана, хворыя карыстаюцца найлепшым доглядам, урачэбны персанал на поўнай вышыні свайго вельмі цяжкага прызвання.

Абставіны гэтыя, забяспечваючы поспех лячэння хворых, надаюць значэнне новай установе і як навуковаму цэнтру».

У адказ на гэтую тэлеграму Мікалай II прыслаў сваё віншаванне:

«Дзякую вам за выказаныя пачуцці. Мне прыемна было прачытаць ваш водгук аб новым збудаванні. Жадаю яму паспяхова служыць пакутнікам».

І былі крыкі «ўра» і гімн «Божа, цара барані».

Нова-Вілейка на той час была невялікім гарадком, магчыма, тысяч на пятнаццаць жыхароў. Але мелася тут некалькі фабрык, млын, дзве школы, паравознае дэпо, болей чым сто гандлёвых крам і майстэрняў. Самым буйным прадпрыемствам быў завод Поселя, дзе рабіліся цвікі і косы, па вытворчасці кос — самы буйны ў свеце. Рабілі тут косы са шведскай сталі, яшчэ і сёння жыве слава пра так званую касу-літоўку.

Буйной была і фабрыка Мозера, дзе рабілі машынамі вышыўкі па тканіне. Меліся і дзве папяровыя фабрыкі, але невялікія.

Сярод насельніцтва пераважалі былыя сяляне, выгнаныя з вёсак голадам, беззямеллем. Пралетарыят быў шматнацыянальны — літоўцы, палякі, беларусы, рускія, яўрэі, немцы і інш. Рэвалюцыйны рух у Нова-Вілейцы пачаўся яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя — на папяровай фабрыцы Зібірэта распаўсюджваліся пракламацыі з заклікам да забастоўкі. У 1904–1905 гадах працоўны дзень на прадпрыемствах Нова-Вілейкі, як і па ўсёй Расіі, цягнуўся 10–12 гадзін, заработная плата нізкая, умовы працы і жыцця кепскія. На папяровай фабрыцы нават мізэрная плата выдавалася нерэгулярна, шмат было выпадкаў, калі рабочыя машынамі калечылі рукі.

Пралетарыят Нова-Вілейкі ўсё мацней падаваў голас пратэсту супраць існуючых умоў жыцця, выстаўляў палітычныя і эканамічныя патрабаванні.

Ад чыгуначнай станцыі Нова-Вілейка да лячэбніцы вёў тракт, усланы брусчаткаю, абсаджаны з двух бакоў таполямі. Размяшчалася лячэбніца ў парку, у доўгіх цагляных двухпавярховых карпусах, і займала вялікую тэрыторыю. У цэнтры стаяў галоўны корпус — трохпавярховы, прыгожай архітэктуры, такіх будынкаў няшмат было і ў самой Вільні. Тут знаходзіліся лабараторыі, кабінеты ўрачоў, адміністрацыя. На першым паверсе была і вялікая зала, у якой наладжваліся канцэрты для хворых,

танцы — адцягваць увагу ад душэўных пакут. На канцэрты сюды прыязджалі нават госці з Вільні.

Пад бальнічнымі карпусамі пралягалі тунэлі, падземныя хады, у тунэлях размяшчаліся розныя склады, топкі, майстэрні, там заўсёды панаваў прыцемак. Аднойчы ў адным з тунэляў знайшлі забітага папа Лебедзева, вялося следства, але забойцу так і не знайшлі.

Карпусы, у якіх трымаліся хворыя, будаваліся вугламі адзін да аднаго, утвараючы ўсярэдзіне квадратныя двары, каб хворыя гулялі ў гэтых дварах і не ўцякалі на вуліцы, у горад.

Быў, аднак, выпадак, пра які пісала нават газета з пэўнаю мераю абурэння, — да хворага прыехалі сваякі і прывезлі яму крыху грошай. Хворы вырашыў на іх пачаставаць свайго доктара і павёў яго ў карчму. Праз нейкі час душэўнахворы вёў назад у бальніцу п’янага ўшчэнт доктара.

У парку лячэбніцы стаяла царква, пабудаваная ў візантыйскім стылі, разлічаная на шэсцьсот чалавек. Пры ёй меўся аматарскі хор з хворых. Кожную суботу і нядзелю ў царкве званілі, клікалі на малітву, і хворыя чародкаю, адзін за адным, ішлі на гэты покліч. Відаць, адміністрацыя лячэбніцы не вельмі спадзявалася на медыцыну, брала сабе ў саюзнікі і Бога, разлічвала на яго дапамогу. А можа, малітвы, як і канцэрты, танцы, служылі свайго роду псіхатэрапіяй?

Падпарадкоўвалася лячэбніца Міністэрству ўнутраных спраў пад высачайшым наглядам і папячыцельствам генерал-губернатара Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага Святаполка-Мірскага.

Штат служачых быў зацверджаны 27 студзеня 1903 года — 48 чалавек, акрамя таго, ніжэйшых служачых, гаспадарнікаў — 200 чалавек.

За ўтрыманне, лячэнне хворых бралася плата, і чым лепшыя былі палаты, чым лепшы догляд — тым плата вышэйшая.

У тым жа парку, дзе размяшчалася лячэбніца, убаку ад яе карпусоў стаяла некалькі драўляных флігеляў, у якіх жылі служачыя лячэбніцы. Адзін з невялікіх пакойчыкаў займала там і фельчарка Алаіза Пашкевіч. Жалезны бальнічны ложак, тумбачка, таксама бальнічная, невялікі столік, на якім заўсёды ляжалі кнігі, два зэдлікі — вось і ўсё абсталяванне.

Работа ў бальніцы займала шмат часу. Цётка не толькі шчыра выконвала свае абавязкі, але і спагадліва прыглядалася да хворых — што прывяло каторага з іх сюды, якая трагедыя паслужыла прычынаю хваробы, ці спадчына, невядомыя яшчэ

для навукі прычыны? Імкнулася ставіцца да іх не паблажліва, як шмат якія тут рабілі, не адгароджвацца ад іх сваёю лекарскай пасадай, і адкрывала для сябе цікавы свет жыцця, пачуццяў, надзей і спадзяванняў. Потым расказвала сябрам, як любяць яе хворыя і якія сярод іх ёсць цікавыя людзі.

З Вільні прыязджалі да яе таварышы — Алесь Бурбіс, Яўген Хлябцэвіч, Іван Луцкевіч, Фелікс Стацкевіч, — апошні ў гэты час займаўся наладжваннем у Вільні патаемнай беларускай друкарні. Аднойчы завітаў, прыехаўшы з Мінска, Карусь Каганец. І яна заўсёды перш-наперш кідалася пакарміць госця. А потым вяліся гарачыя размовы — як арганізаваць мітынг на заводзе, як перадаць пракламацыі надзейным людзям, каб яны потым расклеілі іх там, дзе трэба, дзе дастаць шрыфт, паперу для друкарні.

Цётка расказвала пра тое, што робіцца ў Нова-Вілейцы, якая разгортваецца тут работа, які вялікі разгон для рэвалюцыйнай дзейнасці і ў гэтым, на першы погляд глухім, кутку.

Разрывалася паміж работаю ў Нова-Вілейцы і Вільні, і там заставаліся гурткі — жаночы на фабрыцы Бруна, на скураным заводзе, на якім працавала шмат беларусаў, часта ездзіла ў друкарню да Фелікса Стацкевіча — узяць новых пракламацый.

Усюды, дзе знаходзіла беларусаў, імкнулася абуджаць іх класавае і нацыянальнае пачуццё, прыцягнуць да актыўнай работы. Прамовы на сходах і мітынгах гаварыла па-беларуску і заўсёды знаходзіла ўважлівых слухачоў. Бывала, пасля гарачых, поўных страсці выступленняў Цёткі раптам ледзь не ўся зала ўздымалася і заяўляла, што яны — беларусы і хочуць далучыцца да беларускага руху.

Гэта было вялікай радасцю, вялікай узнагародай для прамоўцы, бачыла, лішні раз пераконвалася ў тым, што зерні, якія яна кідае, трапляюць не на каменне.

Чым магла дапамагала сябрам — і рускім, і палякам, і літоўцам, і яўрэям. Хавала ў бальніцы Барыса Вігілёва, якога шукала паліцыя, ёсць звесткі, што некаторы час нават трымала яго ў палаце як хворага.

У падземным тунэлі хавала шапірограф, на якім Вігілёў друкаваў пракламацыі.

І разам з тым — вершы, яны цяпер патрэбны былі не менш, чым зброя. Словы, рыфмы бясконца жылі ў ёй, турбавалі, станавіліся ў радкі, разбягаліся, зноў збіраліся ў стройны рад. Запісвала часцей за ўсё начамі ў сваім пакойчыку пры слабым святле газавай лямпы, але ў саміх вершах гарэў яркі агонь.

У вершах клікала на бой і сама ішла на бітву, яна магла сказаць пра сябе так, як пісала М. Паўлыку Леся Украінка:

«Адмовіцца ад усякай палітыкі ніяк не магу, таму што гэтага не дазваляюць не толькі мае перакананні, але і мой тэмперамент… Тады трэба адмовіцца мне і ад маёй паэзіі, ад маіх самых шчырых слоў, таму што гаварыць іх і пісаць на паперы, адмовіўшыся ад той справы, на якую яны клічуць, будзе ганьбаю».

Палічыла б для сябе ганьбаю і Цётка, каб толькі ў вершах клікала да барацьбы, а сама нічога не рабіла для набліжэння перамогі.

У час рэвалюцыі 1905 года шмат якія бальніцы і клінікі шырока выкарыстоўваліся для сходаў, складоў зброі і літаратуры, урачы аказвалі дапамогу параненым у час рэвалюцыйных выступленняў, у бальніцах і клініках хаваліся ад паліцыі і жандараў, знаходзілі прытулак тыя, што ўцякалі з турмаў.

Святаполк-Мірскі дакладваў цару, што медыцынскі персанал у Нова-Вілейскай лячэбніцы знаходзіцца «на поўнай вышыні свайго вельмі цяжкага прызвання». І гэта было так. Лячэбніца ў Нова-Вілейцы на той час з’яўлялася адной з буйнейшых медыцынскіх устаноў Расіі і прывабіла да работы шмат таленавітых дактароў. Яны былі не толькі таленавітыя дактары, але і перадавыя людзі свайго часу, ворагі самаўладства. Таму і магла ў сценах лячэбніцы ўтварыцца рэвалюцыйная арганізацыя, якая ставіла сваёй мэтай знішчэнне існуючага грамадска-палітычнага ладу. У «Абвінаваўчым акце аб урачах псіхіятрычнай лячэбніцы ў Нова-Вілейцы» гаворыцца аб гэтай арганізацыі:

«У другой палове 1905 года ў Віленскай акруговай псіхіятрычнай лячэбніцы, размешчанай у ваколіцах Нова-Вілейкі, сярод служачых у ёй асоб утварылася злачыннае таварыства з намерам гвалтоўна змяніць у Расіі ўстаноўленыя асноўнымі законамі ўстоі кіравання і знішчыць існуючы дзяржаўны лад».

Далей па пунктах пералічвалася, што рабіла гэта арганізацыя, якім шляхам ішла да сваёй мэты.

«Сродкамі для дасягнення мэт гэтым таварыствам былі выбраны:

1. Слоўная прапаганда сярод служачых і рабочых бальніцы, сярод сялян навакольных вёсак, а таксама сярод рабочых і жыхароў Нова-Вілейкі.

2. Наладжванне ў памяшканні лячэбніцы публічных мітынгаў, дзе члены таварыства і запрошаныя імі аратары гаварылі прамовы, якія падбухторвалі слухачоў да ўзброенага паўстання,

да знішчэння існуючага ў дзяржаве грамадскага ладу і да ўтварэння ў Расіі рэспубліканскага кіравання.

3. Арганізацыя сярод служачых лячэбніцы баявой дружыны, здольнай аказаць, у выпадку патрэбы, узброенае супраціўленне ўрадавым войскам.

4. Наладжванне забастовак у сценах лячэбніцы, на суседніх заводах Поселя і Мозера і ў Кучкурышскай царкоўнапрыходскай школе, прытым члены арганізацыі, не задавальняючыся слоўнымі ўгаворамі, прыбягалі да прымусу.

5. Распаўсюджванне пракламацый рэвалюцыйнага зместу сярод рабочых, навакольных сялян, воінскіх чыноў і жыхароў Нова-Вілейкі».

У тоўстых папках, дзе захоўваецца судовая справа па дзейнасці рэвалюцыйнай арганізацыі ў Нова-Вілейскай лячэбніцы, сабраны следчыя матэрыялы: паказанні сведак, матэрыялы допытаў, акты, складзеныя пры вобыску, іншыя дакументы. З гэтых дакументаў узнікае карціна барацьбы, якую вяла арганізацыя ў такіх, здавалася б, незвычайных умовах — адгароджаная ад усёй бурлівай Расіі і разам з тым аб'яднаная з ёю, разам з ёю шукаючы шляхоў да новага жыцця, да прагрэсу.

Дзверы лячэбніцы, у зале якой адбываліся сходы і мітынгі, былі шырока адчынены для ўсяго насельніцтва Нова-Вілейкі. Калі дырэктар бальніцы Хардзін неяк на нарадзе дактароў сказаў аднаму з членаў арганізацыі, што бальніца не можа быць месцам палітычных сходаў і нельга карыстацца тэлефонам для неслужбовых размоў, доктар заявіў дырэктару, што лячэбніца не можа стаяць убаку ад таго, што адбываецца ў Расіі, не можа не прымаць удзелу ў рэвалюцыйным руху, яна павінна служыць яму і залай, і тэлефонам.

Для лекцый і дакладаў рэвалюцыйнага зместу часта запрашаліся прамоўцы з Вільні, адзін сведка паказаў, што лектарам, які прыехаў з Вільні, быў аднойчы і «нейкі студэнт Сцяпан».

Гэта быў той самы Сцяпан — Барыс Вігілёў, сябар Цёткі. Тое, што ён у 1905 годзе наведваў лячэбніцу як лектар, пацвярджаюць і іншыя дакументы: ліст дырэктара Інстытута гісторыі партыі Літвы Р. Шармайціса ад 4.IX.1954 да аўтара гэтых радкоў.

У лячэбніцы распаўсюджвалі пракламацыі РСДРП «Да сялян», «Да рабочых», «Да салдат», «Да грамадзян», «Усеагульная забастоўка», «Далоў Дзяржаўную думу», вершы-песні «Варшавянка», «Марсельеза», «Вставай, подымайся, рабочий народ!», пародыю на малітву «Ойча наш», пракламацыі сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі Літвы «Таварышы і падругі», прак-

ламацыі на беларускай мове «Якая карысць народу ад выбранага правіцельства», «Чаго хочуць людзі, якія ходзяць з чырвоным сцягам» і шмат іншых.

Рэвалюцыйная арганізацыя мела свой «Статут», адным з пунктаў якога было: аб'яднанне рэвалюцыйных сіл у абарону рабочых і актыўнае выступленне ў сучаснай рэвалюцыі ў саюзе з мясцовымі сацыял-дэмакратычнымі арганізацыямі.

Работа сярод працоўных не абмяжоўвалася прапагандай рэвалюцыйных ідэй, распаўсюджваннем пракламацый, у лячэбніцы была створана баявая дружына для актыўнай барацьбы з контррэвалюцыяй і для супраціўлення, у выпадку неабходнасці, урадавым войскам. Яна была сфарміравана з рабочых і служачых лячэбніцы, узброеных рэвальверамі, сякерамі, жалезнымі прутамі. Зброю для дружыны члены арганізацыі здабылі па фіктыўным дакуменце, надрукаваным на бальнічным бланку. У зброевы магазін Малчанава ў Вільні прыйшоў чалавек і падаў патрабаванне за № 98 аб дастаўцы ў лячэбніцу 24 рэвальвераў, 4 — сістэмы «Браўнінг» і 20 — сістэмы «Сміт і Весан». З канторскай кнігі, якая захоўвалася ў справавода лячэбніцы Дзмітрыева, нехта выдраў бланк за № 98, і на гэтым бланку ад імя дырэктара бальніцы было напісана патрабаванне ў зброевы магазін аб дастаўцы ў лячэбніцу партыі рэвальвераў.

З патрабаваннем пастаўшчык лячэбніцы Леў Валкоўскі прыйшоў у магазін Малчанава ў Вільні і, выдаючы сябе за доктара — асістэнта лячэбніцы, прапанаваў магазіну даставіць у лячэбніцу партыю рэвальвераў.

Зброя была дастаўлена.

Акрамя рэвальвераў на доўгія тапарышчы было насаджана дзесяць сякер. Узброеная такім чынам дружына некалькі разоў выходзіла з бальніцы ў горад. Калі 13 снежня 1905 года чарнасоценцы збіраліся ўчыніць у Нова-Вілейцы яўрэйскі пагром, дружына выступіла супраць чарнасоценцаў, і пагром быў папярэджаны. У лячэбніцу вярталіся з песняй «Вставай, подымайся, рабочий народ!»

З дакументаў, якія захоўваюцца ў судовай справе, мы даведваемся, што служачая лячэбніцы Кобжава паказала на царскія партрэты ў бібліятэцы і сказала: «Чаму не прыбяруць адсюль гэтых мярзотнікаў!», а потым, калі скідаліся партрэты, члены арганізацыі здзекліва чыталі малітву-пародыю: «Отче наш, российского народа, иже еси в Петербурге, да будет проклято имя твое, да будет разрушено царствие твое…»

Тая ж Кобжава распаўсюджвала пракламацыі, у якіх пісалася: «Салдаты, вы браты, кідайце зброю і ідзіце з намі супраць цара!»

Служачая лячэбніцы Юлія Веман вывесіла на адным з будынкаў чырвоны сцяг і крыкнула: «Няхай жыве рэвалюцыя!»

Члены арганізацыі ездзілі ў вёскі, заходзілі ў хаты да сялян, чыталі ім пракламацыі, заклікалі не плаціць падаткаў, выступаць супраць існуючага ладу.

У спісе асоб, прыцягнутых да адказнасці ў якасці абвінавачаных, пад № 21 стаіць імя фельчаркі Алаізы Пашкевіч.

Матэрыялы, сабраныя жандарскім упраўленнем, сведчаць аб тым, што Цётка вяла вялікую рэвалюцыйную работу і ў самой лячэбніцы, і за яе межамі. У абвінаваўчым акце па справе рэвалюцыйнай арганізацыі ў лячэбніцы гаворыцца:

«Алаіза Пашкевіч, згодна з паказаннямі Сцяпана Дзёміна і Соф'і Лістоўскай, прымала ўдзел у сходах таварыства, якія адбываліся ў кватэрах дактароў Падзельвера і Клевезела.

На мітынгах, што адбываліся ў лячэбніцы, яна гаварыла на беларускай мове прамовы, якія заклікалі слухачоў не падпарадкоўвацца ўраду, не плаціць падаткаў, змагацца супраць урада, прытым, згодна з паказаннямі Сцяпана Дзёміна, яна яшчэ летам 1905 года збірала на могілках служачых лячэбніцы і гаварыла ім прамовы, якімі рыхтавала іх да рэвалюцыйнай дзейнасці, яна друкавала на беларускай мове "ганьбаваўшыя цара" пракламацыі і раздавала іх у лячэбніцы, прытым сведка Пузыркевіч заявіў, што ён аднойчы бачыў у яе каля ста экзэмпляраў такіх пракламацый.

Не абмяжоўваючыся агітацыяй у сценах лячэбніцы, яна, згодна з паказаннямі Івана Шамшура, ездзіла разам з іншымі асобамі па навакольных вёсках, дзе падбухторвала сялян да звяржэння існуючага ладу».

У другім дакуменце судовай справы, дзе гаворыцца аб дзейнасці члена арганізацыі Таццяны Краінскай, зноў упамінаецца імя Цёткі.

«Таццяна Краінская прымала ўдзел у сходах Клевезела. Яна, разам з Алаізай Пашкевіч, у той час, калі служачыя лячэбніцы пасля работы разыходзіліся, друкавала ў канцылярыі лячэбніцы пракламацыі. Адну такую пракламацыю, пакінутую (забытую) на стале, бачыў Архіп Петрухан. Пракламацыя гэта была надрукавана на беларускай мове, і ў ёй меліся фразы: "Далоў цара!", "Далоў самаўладства!", "Няхай жыве рэспубліка!"»

І яшчэ адзін сведка паказвае:

«Я бачыў, як Пашкевіч раздавала пракламацыі ў лячэбніцы на беларускай мове».

Сведкі казалі, што пракламацыі на беларускай мове Пашкевіч друкавала на шапірографе, які хавала ў лячэбніцы. Вось тэкст адной з лістовак, надрукаванай на беларускай мове, да якой, безумоўна, прыклала сваю руку Цётка:

«Працавіта бедната ўсіх краёў, злучайся!

Да ўсіх работнікаў і работніц Віленскай бальніцы.

Таварышы!

Усе работнікі і работніцы дабіваюцца сабе лепшай долі. Вас, работнікі і работніцы Віленскай бальніцы, таксама абдзіраюць, таксама здзекуюцца над вамі, а вы маўчыцё.

Таварышы! Пара пазнаць сваё становішча і дамагацца таго, што вам належыць. Годзе набіваць вашым крыўдзіцелям кішэні нашаю крываваю працаю, а самім здыхаць з голаду.

Дамагайцеся, няхай вам:

1. Дадуць восем гадзін працы ў пару, а пазней гадзіны пары зусім свабодныя.

2. Лепшую страву.

3. Скасуюць кватэры ў скляпеннях і вартаўніцах пры хворых, хай адменяць кватэры на болей прыстойныя і здаровыя.

4. Няхай накінуць усім 4 рублі ў месяц.

5. Няхай будзе роўная зарплата для мужчын і кабет пры роўнай працы.

6. Няхай наважацца каго-кольвек скрыўдзіць за гэтыя змовы.

Таварышы! Ад сваіх дамаганняў не адступайце, да работы не ідзіце, пакуль вам усяго не дадуць. Памятайце толькі, што трэба нам усім брацца, тады толькі вы зваюеце.

Памятайце і тое, што багата з вас працуе не пры бяздушных машынах, а пры жывых людзях. Дзеля таго назначце з паміж сябе чароду на варту, каб не дапусціць якога-небудзь няшчасця ў хворых.

Прэч грабенні і здзёрства!

Хай жыве згода паміж работнікамі! Хай жыве арганізацыя!

Віленскі рабочы камітэт Польскай партыі сацыялістычнай.

Другі краёвы камітэт Беларускай сацыялістычнай грамады.

Вільня, у верасні 1905 г.»

Гэта лістоўка паказвае не толькі кірунак, які мела рэвалюцыйная дзейнасць Цёткі, але і яе інтэрнацыяналізм — пракламацыя складалася разам з прадстаўнікамі Польскай партыі сацыялістычнай. Працоўныя заклікаліся не да стыхійнага бунту, а да арганізаванага, свядомага змагання.

Сведка Іван Шамшур у сваіх паказаннях падкрэсліваў, што, заклікаючы сялян да барацьбы з урадам, фельчарка Пашкевіч вучыла іх арганізоўвацца ў саюзы, каб потым саюзы сялянскія злучаць з гарадскімі, пралетарскімі.

У дні, калі рэвалюцыя ўзнялася на вышэйшы грэбень хвалі, Цётка разам з доктарам Сільвановічам, таксама членам рэвалюцыйнай арганізацыі ў лячэбніцы, узначальвала дэманстрацыю, якая накіроўвалася з лячэбніцы ў Нова-Вілейку з чырвоным сцягам і заклікамі: «Далоў самаўладства!», «Далоў Мікалая II!», «Спыніць работы!» Гэта дэманстрацыя прайшла праз усю Нова-Вілейку, спыняючыся каля заводаў і фабрык, заклікаючы рабочых са зброяй у руках выходзіць на вуліцу.

Нова-вілейскі фабрыкант Мозер, выступаючы на следстве ў якасці сведкі, заявіў жандару, і той запісаў у пратакол:

«Да мяне на фабрыку з'явіўся вялікі натоўп рабочых з завода Поселя і з яго фабрыкі ў Кучкурышках з чырвоным сцягам і зачыніў маю фабрыку. На чале гэтага натоўпу быў доктар Сільвановіч, разам з Сільвановічам была фельчарка Пашкевіч, рабочыя Адольф Ліндзенаў, Стома і Ступенька» (ЦДАЛМ Літ. ССР, ф. 446, воп. II, адз. зах. 26, с. 63).

На працягу 1905 года рабочыя Нова-Вілейкі неаднаразова арганізоўвалі забастоўкі, выстаўлялі патрабаванні аб скарачэнні рабочага дня, павышэнні заработнай платы. У кастрычніку 1905 года, пратэстуючы супраць звальнення свайго таварыша, рабочыя завода Поселя аб'явілі забастоўку, а дырэктара косавага аддзялення Франца Вохнера вывезлі на тачцы за вароты.

Адміністрацыя завода аб'явіла лакаўт, а гарадскі галава Мозер, брат фабрыканта Мозера, прапанаваў рабочым выдаць зачыншчыкаў, абяцаючы ўзнагароду ад губернатара. Аднак рабочыя адказалі на гэта дэманстрацыяй з чырвоным сцягам і гучнымі рэвалюцыйнымі песнямі.

Снежаньская забастоўка нова-вілейскіх рабочых пачалася выступленнем чыгуначнікаў — 9 снежня забаставалі рабочыя і служачыя чыгуначнай станцыі, а 12 снежня спыніліся работы на заводзе Поселя, на фабрыцы Мозера, у дэпо.

Днём 12 снежня адбылася ўзброеная дэманстрацыя, якая праходзіла пад заклікам «Далоў самаўладства!». Для таго каб на чыгунцы не аднавіўся рух, былі выведзены са строю пяць паравозаў.

Літовец Кайлюнас кіраваў узброенай дружынай, што была арганізавана на заводзе Поселя. Калі 16 снежня 1905 года жандары акружылі лячэбніцу, каб пачаць арышты сярод членаў

рэвалюцыйнай арганізацыі, Кайлюнас прывёў да лячэбніцы дружыну, магчыма, дзякуючы менавіта Кайлюнасу некаторыя члены арганізацыі ўратаваліся, бо дружына пачала з жандарамі перастрэлку, і тыя не так хутка ўварваліся ў будынкі.

Пастановаю ад 7 лютага 1906 года за подпісам ротмістра жандараў Барадаеўскага фельчарка Алаіза Пашкевіч, разам з іншымі членамі рэвалюцыйнай арганізацыі, прыцягвалася да судовай адказнасці па 126-м артыкуле крымінальнага ўлажэння.

У дэпартамент паліцыі паведамілі аб вышуку небяспечнай злачынкі, якая замахвалася на царскі трон, імкнулася гвалтоўна змяніць існуючы ў дзяржаве парадак.

Але жандары Цётку не знайшлі ні ў Нова-Вілейцы, ні ў Вільні, ні ў яе ваколіцах.

* * *

Як паэзія Цёткі шчыльна звязана з яе рэвалюцыйнай дзейнасцю, так рэвалюцыйная дзейнасць паэтэсы зноў моцна звязвалася з яе паэзіяй.

Прамовы на сходах і мітынгах у лячэбніцы Цётка заўсёды заключала вершам, часта напісаным па гарачых слядах падзеі, што адбывалася тут жа, у Нова-Вілейцы, толькі кожную такую падзею Цётка імкнулася ўзняць да абагульнення, увасобіць у паэтычны вобраз. Як у кроплі вады адбіваецца сонца, так у фактах і з'явах жыцця праяўляецца тое галоўнае, што прынёс, нарадзіў сённяшні дзень, і Цётка ў сваім паэтычным горне выплаўляе гэтыя залатыя крупіцы, каб яны заблішчэлі, заіскрыліся, каб іх убачылі ўсе.

Сіла і моц беларускага працоўнага народа — вось тое галоўнае, што Цётка бачыць у сённяшнім дні, што нарадзілі апошнія падзеі, сіла і моц народа, які нядаўна пакорліва трываў здзек і эксплуатацыю, лічачы, што ўсё, што робіцца на свеце, — так і трэба.

Пазней, у 1908 годзе, вялікі беларускі паэт Янка Купала напіша верш «А хто там ідзе?», у якім выдатна пакажа імкненне паднявольных людзей да свайго самасцвярджэння, пакажа неадольную прагу чалавечай годнасці.

А чаго ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім? —

спытаецца Янка Купала ў беларусаў. І сам адкажа за іх:

— Людзьмі звацца!

Гэта прага — людзьмі звацца — жыла ў прыгнечаным беларускім народзе і выказвалася вуснамі яго паэтаў. Гэта прага — каб быў беларус чалавекам — выказваецца і вуснамі Цёткі ў вершы «Вера беларуса», толькі Цётка, захопленая рамантыкаю барацьбы, глядзіць наперад з вялікім аптымізмам, яе сэрца поўнае веры, што беларускі народ ужо на парозе сваёй волі, што яшчэ адно намаганне, і спадуць кайданы:

Веру, братцы: людзьмі станем,
Хутка скончым мы свой сон;
На свет Божы шырай глянем,
Век напіша нам закон.

Моц беларускага народа Цётка параўноўвае з каменем, з жалезам, рэвалюцыйныя бітвы з кузняю, у якой гартуецца сталь, — так гартуюцца і народныя масы ў полымі барацьбы. Душу народа Цётка параўноўвае з дынамітам, якому дастаткова іскры, каб выбухнуць і знішчыць старое, ненавіснае жыццё.

У той жа час напісаны і верш «Добрыя весці», ён таксама поўны аптымізму, поўны веры ў народную сілу, поўны веры ў перамогу, якая паэтэсе здаецца зусім блізкаю.

Баявы, аптымістычны тон вершаў «Вера беларуса» і «Добрыя весці» быў абумоўлены ўздымам рэвалюцыйнага руху, які ў канцы 1905 года набыў моцную сілу. Вельмі чуйная да ўздыму альбо спаду гэтага руху, Цётка заўсёды вітала яго актывізацыю і кідала свае вершы ў рэвалюцыйнае вогнішча, каб больш, каб ярчэй разгараўся яго агонь.

Царскі ўрад яшчэ ў верасні месяцы быў вымушаны спыніць вайну на Далёкім Усходзе. Самаўладства заяўляла, што ў вайне з Японіяй Расія перамагла, але ўсім было вядома, чым здабыта гэта «перамога». Вайна каштавала больш чым дзве тысячы мільёнаў рублёў, у вайне загінуў царскі флот, Расія мусіла плаціць вялікія працэнты па пазыках, зробленых для таго, каб было магчыма весці вайну. На палях баёў загінулі сотні тысяч рускіх салдат.

Рабочы клас Расіі ведаў пра ўсё гэта і не мог радавацца перамозе, як заклікаў яго ўрад.

Не ашукаў рэвалюцыйную Расію і царскі маніфест 17 кастрычніка, які абяцаў свабоду слова, свабоду сходаў, недатыкальнасць асобы і іншыя правы. Члены рэвалюцыйнай арганізацыі ў Нова-Вілейскай лячэбніцы правялі мітынг і перад усім народам выкрылі няўдалую спробу цара спыніць рэвалюцыю.

— Маніфест даў нам свабоду слова, свабоду сходаў — пакарыстаемся гэтаю свабодай, — сказаў член арганізацыі доктар Полазаў.

Ураднік Мароз, які быў прыстаўлены да бальніцы, каб сачыць за ўсім, што тут адбывалася, спыняў дактароў, якія ішлі на мітынг, казаў то аднаму, то другому:

— Панове, ну што вы… Усё, дзякуй Богу, уладзілася, сходы дазволены, гаварыць можна што хочаце, дык чаго ж вы збіраецеся?

Дактары смяяліся.

— Нам трэба, пан Мароз, каб вы тут не аціраліся, — казалі яны, — бо ў вашай прысутнасці мы ніяк не можам адчуць усёй слодычы свабоды, якую так міласціва падарыў нам цар.

Мароз хмыкаў у руды вус, мусіць, на гэты вус шмат чаго і намотваў, бо потым у даносах распісваў усё, што гаварылі яму члены арганізацыі, што сам падслухаў, — памяць ураднік меў неблагую.

Ва ўсіх, хто быў на гэтым сходзе, яшчэ свежа балелі сэрцы па ахвярах на Георгіеўскім праспекце, і ніякі маніфест не мог ашукаць народ, не мог яго супакоіць, прымусіць паверыць у царскую міласць.

Па Вільні калілася новая хваля рэвалюцыі, зноў адбываліся сутычкі рабочых з паліцыяй, зноў па вуліцах цякла рабочая кроў.

Урад не ведаў, як расправіцца з забастоўшчыкамі, з «бунтарамі», і паклікаў на дапамогу чорную сотню. Але Віленскі камітэт сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі Літвы надрукаваў адозву да працоўных, у якой выкрываў чарнасоценцаў.

«Давайце зробім так, — пісалася ў адозве, — каб вуліцы Вільні сёння былі пустыя… Няхай пустыя вуліцы і плошчы, а на іх кучка хуліганаў і басякоў будуць лепшым доказам таго, колькі чалавек хочуць ісці за дэспатам-царом і колькі імкнуцца да свабоды і святла. Калі ж гэты зброд пачне пагром супраць яўрэяў і інтэлігенцыі, пачне рабаваць, будзем гатовы ўзняцца на іх абарону».

Уздым рэвалюцыйнага руху спачатку ў кастрычніку, потым у снежні нёс надзею на хуткую перамогу, адна за адной прыходзілі весткі аб узброеных выступленнях рабочых, аб барыкадах, што перагарадзілі вуліцы Масквы і Пецярбурга.

У паветры луналі радасць, надзея. І ў вершы Цёткі «Добрыя весці» — гэтыя самыя радасць, надзея. Добрымі паэтэса называе весткі аб рабочых перамогах на ўсходзе:

Ах, браце родны, нясуцца весці,
Ужо граюць маршы там на ўсходзе;
Над кожнай хатай, у кожным месцы
Шчабечуць птушкі нам аб свабодзе.

Паэтэса апявае чароўнае слова «свабода», якое аб'яднала ўсе народы, якое ўсіх злучыла, за якое маці гатова аддаць сына, а жонка мужа. За яе, за гэту свабоду:

І дзед старэнькі бяжыць ў дружыну,
І ўнучак следам дзеда спяшыць;
Хлапец, абняўшы любу дзяўчыну,
На барыкадах смела стаіць…

Падчас жыцця ў Нова-Вілейцы Цётка не парывала сувязі з Грамадой — удзельнічала ў сходах, пісала пракламацыі, выязджала ў вёскі, дзе агітавала сялян не плаціць падаткаў, забіраць у паноў землі, не пасылаць у войска моладзь.

У гэты час у Вільні ўжо актыўна працавала патаемная беларуская друкарня «Аганёк». Фелікс Стацкевіч, які кіраваў ёю — набіраў тэксты, друкаваў адозвы, — атрымаў партыйную клічку «Аганёк». Часта Цётка разам з Феліксам Стацкевічам і Бурбісам расклейвала і развешвала па горадзе надрукаваныя тут пракламацыі. Адсюль, з гэтай друкарні, прыносіла Цётка ў лячэбніцу сотні экзэмпляраў лістовак, адозваў, раздавала іх рабочым і служачым, дактарам. Іменна тут, у друкарні «Аганёк», былі выдадзены ў якасці пракламацый і яе вершы «Хрэст на свабоду», «Мора», «Пад штандарам».

1 сакавіка 1906 года друкарня пераехала ў Мінск, а ў 1907 годзе была вымушана спыніць сваё існаванне.

Сярод членаў Грамады ў 1905 годзе шмат было яркіх асоб, шчыра адданых народнай справе, і сама гэта партыя вяла актыўную рэвалюцыйную работу, аднак Цётка, як адзначалася вышэй, імкнулася аб'яднаць дзейнасць Грамады з іншымі партыямі Вільні.

Адзін з сучаснікаў Цёткі, дзеяч літоўскага рэвалюцыйнага руху, успамінае (успаміны прысланы аўтару гэтых радкоў Інстытутам гісторыі партыі Літвы):

«Не памятаю дзень, але гэта было пасля разгону мітынгу 11 снежня 1905 года, у Вільні адбылася аб'яднаная нарада прадстаўнікоў рэвалюцыйных партый… Былі заслуханы шырокія даклады аб сучасным становішчы, намечаны перспектывы

рэвалюцыі, але гэта нарада не прыняла ніякага канкрэтнага рашэння аб далейшай дзейнасці ў Вільні.

Калі нарада падыходзіла да канца, раптам адчыніліся дзверы і ўвайшла прадстаўніца Беларускай сацыялістычнай грамады, якая на беларускай мове выказала пратэст супраць таго, што Грамада не была запрошана на гэту нараду. Выказаўшы пратэст, яна хутка выйшла і знікла.

Памятаю, як адзін з удзельнікаў нарады з абурэннем сказаў, што нехта не вытрымаў канспірацыі і выдаў месца нарады. Аднак усім было непрыемна, што Беларускую грамаду сапраўды не запрасілі на дадзеную нараду. Ды прадстаўніца Грамады Цётка магла і не пратэставаць, бо гэты сход паказаў, па-першае, што віленскія рабочыя ў гэты момант, акрамя як усеагульнай забастоўкаю, нічым не могуць падтрымаць сваіх таварышаў, якія ўдзельнічалі ў рашаючых барыкадных баях на вуліцах Масквы».

Як бачым, Цётка з’явілася на гэтую нараду з манераю, уласціваю для яе характару, тэмпераменту, — увайшла, выказала пратэст і знікла.

Крыху рамантызаваныя абставіны, выкліканыя рэвалюцыйнай сітуацыяй, — канспірацыя, падполле, патаемныя сустрэчы, рызыка на кожным кроку — часам вымагалі і рамантычных прыёмаў дзеяння, што не супярэчыла багатаму на вобразы, эмацыянальнаму характару Цёткі.

Дзейнасць паэтэсы гэтай пары была поўная кіпучай энергіі. Непрымірымасць, адсутнасць кампрамісу, мэтанакіраванасць — усё гэта множылася на страсць, на самаахвярнасць. Вершы паэтэсы і яна як асоба былі шчыльна звязаныя, злучаныя, адно выплывала з другога — рамантыка, пафас, покліч — пераліваліся з гарачага, палкага сэрца аўтара, жывілі паэтычны радок.

Гарачы час распальваў сэрца, з гарачага сэрца шугала полымя.

* * *

З кожным днём рабілася ўсё больш яўнаю хлусня царскага маніфеста — разганяліся сходы і мітынгі, канфіскоўваліся «крамольныя» выданні, зачыншчыкаў «бунту» садзілі ў турмы.

Самаўладства наступала на рэвалюцыю.

Па Расіі з вуснаў у вусны плыў горкі гумар — мусіць, ён дапамагаў перажываць цяжкія дні.

Жартавалі:

— Насельніцтва ў Расіі за апошні час павінна падвоіцца.

— Чаму?

— А па разліку — за аднаго бітага двух нябітых даюць…

Яшчэ:

— Ты куды сабраўся?

— У лазню.

— Здурнеў! Разгоняць са зброяй!

— А раптам не? Цяпер жа свабода сходаў!

Горкую ўсмешку выклікалі жарты накшталт такіх: «У п’есе, што ішла ў тэатры, артысты замест “Марсельезы”, якую трэба было спяваць па ходу дзеі, спявалі “Козліка”». Альбо:

«Асобы, якія ўночы маюць неабходнасць звяртацца да медыцынскай дапамогі, павінны звяртацца да бліжэйшага паліцэйскага чына».

Гумарыстычны часопіс надрукаваў прызнанне графа Вітэ:

«Я ведаю, як ратаваць Расію, і я яе выратую, хаця б для гэтага прыйшлося яе знішчыць!» Перадавалася размова песіміста з аптымістам:

«*Песіміст.* А рэакцыя ўсё больш узнімае галаву…

*Аптыміст.* І разам з тым усё больш выстаўляе шыю…»

Дапамагла вось гэта вера — што рэакцыя, узнімаючы галаву, усё больш выстаўляе шыю. Аднак нельга было заплюшчваць вачэй і на тое, што рабіла рэакцыя. Надыходзіў час вельмі цяжкіх выпрабаванняў.

Надыходзіў 1906 год. Сплываў крывёю 1905-ы. Што будзе далей?

У снежні 1905 года Цётка піша верш «Перад Новым годам», дзе зноў, як у люстры, адбіваюцца падзеі апошняга часу. І трывожны роздум паэтэсы — чаму ж так атрымалася, чаму сёння над рэвалюцыяй падняты меч? І каб ведалі наперад, што прыйдзецца прыняць столькі пакут, прынесці столькі ахвяр, — ці трэба было ўсё роўна ўзнімаць руку на самаўладства?

Паэтэса малюе карціну расправы царызму з народам:

Праз вокны бачу поўна поле
Старых, малых. Ах, чую крыкі!
Салдат людзей там рэжа, коле,
Казак дзяцей падняў на пікі.
Ляціць, як віхар, матка ў болю,
Хватае труп малога сына;
А тут і ёй якраз на долю
Трапляе вострая шраціна…

Карціна робіцца ўсё шырэйшая, вось па ўсёй ужо краіне ідзе астатні жорсткі бой з яго незлічонымі ахвярамі:

Нясецца гром з сталіц па краю;
Вяроўкі шыбеніц скрыпяць.
Самадзяржаўных гіцляў зграю
Народ рабочы хоча змяць.

І ўсё ж паэтэса не можа, не хоча верыць, што царызм пераможа, яна зноў і зноў паказвае нікчэмнасць ладу, заснаванага на подкупе, на зладзействе, на здзеку з нявінных людзей, і прадракае гэтаму ладу пагібель. Заключныя радкі верша поўныя аптымізму, поўныя веры ў тое, што мінулы год прынясе свой плён, што ён дасць яшчэ свой ураджай, што трэба з надзеяй глядзець наперад:

Як я раздумаў — добры год,
Як я разважыў — будуць плёны,
Будзе добры ураджай.
Біце ў звоны, біце ў звоны!
Новы год, народ, страчай!

* * *

Паэзія Цёткі 1905 года была паэзіяй трыбуны, паэзіяй барыкад, паэтэса ў гэтым бачыла сваю задачу, ёй падпарадкавала кожны свой вобраз, кожны радок і дасягнула ў вырашэнні гэтай сваёй задачы бліскучых поспехаў. Верш Цёткі вырваўся з сялянскай хаты, замест смутку і тугі набраўся адвагі, агню, зрабіўся мэтанакіраваны, дзейсны, ён узняўся над бытавізмам, над шэраю будзёншчынаю, сігануў да вяршынь, да якіх яшчэ не ўзнімалася беларуская літаратура. Верш Цёткі ўзняўся да неба, да зор, да сонца, заклікаючы іх то ў сведкі, то ў свае саюзнікі.

Цётка адкрыла новую старонку ў беларускай літаратуры, прывяла ў яе новыя вобразы, новы стыль.

Алегорыя, сімволіка, прамоўныя інтанацыі, заклікі — усё гэта было новай формай, якой патрабаваў новы, рэвалюцыйны змест яе вершаў.

Бура, маланка, град, вецер увасабляюць у яе творах рэвалюцыю народную; хмары, туманы — варожыя ёй сілы; жалеза, агонь, дынаміт — гэта мужнасць тых, хто выйшаў на змаганне; неба, сонца, птушкі — тыя сілы, што ім спрыяюць, благаслаўляюць, дапамагаюць у барацьбе.

Алегорыя, сімволіка былі наогул уласцівыя паэзіі рэвалюцыйнай пары, былі яны ўласцівыя і тагачасным рускай, украінскай, літоўскай, латышскай літаратурам. У Цёткі яны былі не абстрактныя, не касмапалітычныя, а свае, нацыянальныя, беларускія. І справа тут не толькі ў мове, на якой пісаліся творы: верш Цёткі насычаны народным духам, прасякнуты народнай, беларускай вобразнасцю. Гэта і народная лексіка, і пабудова сказа, і прыказкі, прымаўкі, без якіх не абыходзіцца беларуская народная мова, і сам дух, які прысутнічае то паміж радкоў, то невядома дзе, але надае твору гэта непаўторнае нацыянальнае хараство.

Верш Цёткі па-народнаму проста размаўляе з народам: «Вось як нас, што не хацелі гарэлкі піць ды падаткаў плаціць, то так казакі ссеклі, што ўжо не будзе горш балець у пекле» («Ласы»), «Ах, браце, важны момант прыходзіць, важну ахвяру прыйдзецца даць…» («Добрыя весці»), «Веру, братцы: людзьмі станем, хутка скончым мы свой сон…» («Вера беларуса»). Вершы Цёткі можна цытаваць бясконца, паказваючы іх народнасць, іх непаўторную беларускую тканіну, нацыянальную самабытнасць.

Крытыкі 30–40-х гадоў часам папракалі Цётку за злоўжыванне дыялектызмамі, паланізмамі. Думаецца, гэтым крытыкам не хапала гістарычнага погляду на паэзію Цёткі. Нельга мераць паэзію пачатку стагоддзя меркамі нашых сённяшніх граматычных нормаў. Беларуская мова ў той час толькі складвалася, на слоўнік паэтэсы ўплывала гаворка таго рэгіёна, дзе яна нарадзілася, дзе ўпершыню пачула беларускае слова. І яна не магла не прывесці гэта слова ў свой верш, тым больш што яно акурат і ўяўлялася паэтэсе народным. Гэтым жа тлумачыцца і ўжыванне Цёткаю паланізмаў, на беларусаў-католікаў польская мова мела немалы ўплыў. Але і тыя ж дыялектызмы, паланізмы аніяк не засланялі беларускага, глыбока нацыянальнага, а можа, наадварот, яшчэ больш падкрэслівалі народнасць верша.

Паэтычная вобразнасць, народнасць былі памножаны ў паэзіі Цёткі на страсць, на глыбокую эмацыянальнасць. Верш Цёткі бедаваў, бунтаваў, выкрываў, клікаў. Ніводнага раўнадушнага радка, нават там, дзе, здаецца, спакойна плыве слова, пад ім — выбуховая сіла, гатовая кожную хвіліну ўзарвацца дынамітам. Шмат якія вершы нават так і пабудаваны — спачатку вонкава нібы і спакойная развага, роздум, затым страсці накаляюцца, закіпаюць і — выбух. Той жа верш «Хрэст на свабоду» — спачатку паэтэса малюе карціну рэчаіснасці, паўтарае свой рэфрэн — «так і трэба!», нібы і сама пагаджаючыся з усім, што робіцца на зям-

лі, а далей — выбух, пратэст: «Дурняў хрысцяць на свабоду!», «Цара павесіць трэба!», «Больш цара не патрэба!»

Таксама пабудаваны і верш «Мора» — спачатку малюнак буры на моры, калі эмоцыя, страсць перадаюцца гэтым малюнкам, а далей, як гэта кажуць, — адкрытым тэкстам, заклікам: «Такі бой вякамі жджэцца! У такім баю толькі пасць!»

Такі прыём у вершах «Добрыя весці», «Вера беларуса», «Пад штандарам», калі пасля малюнка рэчаіснасці паэтэса кідае ў народ свае лозунгі-заклікі: «Рука цвёрда, грудзь акута, пара, братцы, парваць пута!» Альбо: «На небе сонца шчасця ўсходзіць, толькі патрэбна хмары прагнаць!» Ці яшчэ: «Цару згінуць пара!»

Пра мастацкія асаблівасці паэзіі Цёткі перыяду рэвалюцыі ніяк нельга гаварыць у адрыве ад іх зместу, бо яны абсалютна злітыя паміж сабою, абумоўленыя адно адным. Палітычны радыкалізм Цёткі, яе бескампраміснасць — у яе творах; яе думкі, імкненні — у яе вершах; паэзія Цёткі — гэта яна сама са сваім бунтарствам, энергіяй, паэтычнай вобразнасцю, крыштальнай чысцінёй чалавека, які выйшаў на вялікую бітву і гатовы ў ёй загінуць, згарэць, кінуць сваё сэрца на алтар перамогі.

* * *

Актыўны ўдзел Цёткі ў рэвалюцыі 1905 года быў абумоўлены не толькі яе бунтарскім духам, не толькі барацьбой за справядлівасць, за прыстойнае жыццё працоўнага чалавека. Ад рэвалюцыі яна чакала вызвалення свайго краю, стварэння незалежнай дзяржавы, вольнай Беларусі. Як і іншыя народы ўскраін царскай Расіі таго часу — палякі, літоўцы, украінцы, з рэвалюцыяй яна звязвала спадзяванні на самастойнасць сваёй краіны, на яе незалежнасць, на развіццё сваёй эканомікі, культуры. Як відаць з ходу гісторыі, праблема гэта стаіць перад народам Беларусі і да сёння, і да сёння лепшыя людзі Беларусі імкнуцца адстойваць нашу незалежнасць, якая пакуль трымаецца, можна сказаць, на валаску. Але, на жаль, няма сёння ў нас такой яркай асобы, як Цётка, што гатова пакласці жыццё на алтар Айчыны. Людзі сталі больш асцярожныя, практычныя і часам сваё асабістае цэняць вышэй за прывідную будучыню зямлі, на якой жывуць.

І яшчэ адно, што цяжка абмінуць з погляду сённяшняга дня.

Каб ведала некалі Цётка, што Мікалая II, якога народ на пачатку стагоддзя лічыў крывавым, у канцы стагоддзя царква залічыць у лік святых. Не прыняла не толькі царква, але і сённяшняе грамадства жорсткай смерці, якую ўчынілі бальшавікі

над царом і яго сям'ёю. У 1918 годзе цара, яго жонку і дзяцей расстралялі ў Екацярынбургу, у скляпенні Іпацьеўскага дома.

Час мяняе абставіны, мяняе погляды на жыццё. І нават рэвалюцыя, якая ў сваю пару віталася ўсім прагрэсіўным чалавецтвам, сёння лічыцца не самым лепшым шляхам да ісціны.

Чалавецтва шукае выйсця з тупіка да светлай будучыні, якая мроіцца яму за гарызонтам.

## НЯСУ СЛЯЗУ, НЯСУ Я СТОГН

Рэвалюцыйная арганізацыя ў лячэбніцы была разгромлена, фельчарку Алаізу Пашкевіч шукала паліцыя, трэба было неадкладна пакідаць Нова-Вілейку, але дзе жыць, дзе хавацца ад жандараў? Вярнуцца ў Вільню, на кватэру братоў, небяспечна, у паліцыі быў вядомы яе віленскі адрас.

І Цётка некаторы час жыве ў Вільні ў сям'і сваёй сяброўкі Кацярыны Дзмітрыеўны Івановай, з якою разам вучылася на курсах Лесгафта, а потым працавала ў лячэбніцы. На кватэры Кацярыны Дзмітрыеўны Цётка яшчэ раней наладжвала нелегальныя сходы, збірала сяброў па рэвалюцыйнай справе, таму Івановы таксама хутка падпалі пад падазрэнне, і Цётка начуе ў іншых знаёмых, пакуль не заўважае, што і тут прымільгалася.

Не хацелася верыць, што разгул рэакцыі надоўга, кожны дзень чакала нейкіх перамен. Бо жыць так — хаваючыся, баючыся адкрыта прайсці па вуліцы, было вельмі пакутліва.

Тым часам ішла ўжо зіма 1906 года. Скаваная лёдам, ляжала пад Замкавай гарою сцішаная Вілія. Але як жыла, цякла пад лёдам вада, так жыла яшчэ рэвалюцыя. Пасля чарговага паражэння яна зноў збірала, гуртавала сілы, яшчэ верылася, што народ дасць рашучы бой, яшчэ не страцілася надзея на перамогу.

У студзені 1906 года ў Мінску збіраецца другі з'езд БСГ, і Цётка нелегальна прыязджае ў Мінск. Я. Хлябцэвічу, які ў гэты час, карыстаючыся каляднымі вакацыямі, выехаў з Вільні ў Бельскі павет на Гродзеншчыне, яна пасылае зашыфраваную тэлеграму:

«Халімон, прыязджай у Мінск на шлюб. Цётка».

Я. Хлябцэвіч успамінае:

«Не ўцяміўшы, што гэта за вяселле наладжвае Цётка, я выправіўся ў Мінск. Прыехаўшы туды да знаёмых мне таварышаў, я накіраваўся з імі далёка на канец горада, на кватэру бібліятэкара Пушкінскай бібліятэкі. За сталом сядзяць усе віленскія і мінскія

таварышы, а таксама рабочыя і сяляне, былыя члены Сялянскага саюза ад Мінскай губерні.

Цётка, зразумела, у цэнтры, задаволена размахвае рукамі:

— А-а-а! Халімон! Прыехаў-такі з-пад Белавежскай пушчы! А каб цябе халера! А мы думалі, што не прыедзеш на шлюб!»

З'езд абмяркоўваў сітуацыю ў краіне на пачатак 1906 года, складаў план сваёй работы на будучыню, ставіў пытанне аб неабходнасці развіцця беларускага друку, прытым не толькі пракламацый, а беларускіх газет, часопісаў. Цётка прымала актыўны ўдзел у рабоце з'езда.

А вярнулася з Мінска ў Вільню і ледзь не трапіла ў рукі паліцыі, на кватэру, дзе апошнім разам начавала, прыходзілі жандары, трэба было зноў мяняць жыллё, але ўжо абначованы ўсе знаёмыя — дзе дзецца?

У гэты час у Вільні знаходзіўся ўкраінскі мастацтвазнаўца і славіст Іларыён Свянціцкі. Продкі яго былі беларусы, і сам вучоны лічыў сябе ў нейкай ступені беларусам, таму выказваў вялікую цікавасць да ўсяго, што адбывалася на зямлі яго продкаў. Ён першы сярод славянскіх вучоных зацікавіўся гісторыяй беларускай літаратуры, першы напісаў аб ёй навуковую працу «Адраджэнне беларускага пісьменства». Сам Іларыён Свянціцкі быў энергічны, рухавы чалавек, пра яго казалі — «як агонь». У 1899 годзе ён скончыў філасофскі факультэт Львоўскага ўніверсітэта і ў дзень, калі атрымаў свой дыплом, пайшоў на гару Высокі замак — ёсць такая ў Львове, — каб паглядзець з яе на белы свет, які адтуль шырока разлягаўся.

Вяршыня гэтай гары — найвышэйшая кропка паміж Чорным і Балтыйскім морамі. Горад Львоў ляжыць пад ёю з вежамі касцёлаў і цэркваў, манастыроў, з плошчамі і камяніцамі, пабудаванымі яшчэ ў сярэднявеччы. Іларыёну Свянціцкаму здавалася, што з гэтай вышыні яму будзе відаць дарога ў белы свет, які прасціраўся цяпер перад ім, дарога, па якой ён павінен пайсці ў жыцці. І раптам юнак адчуў, што шляху свайго пакуль не бачыць, што самае галоўнае, самае цікавае для свайго жыцця яшчэ не адкрыў.

У тым жа 1899 годзе Іларыён Свянціцкі едзе ў Пецярбург і паступае ў археалагічны інстытут, адначасова вывучае мовы — нямецкую, французскую, англійскую, італьянскую, лацінскую, грэчаскую, а дагэтуль ведаў усе славянскія мовы.

Скончыўшы археалагічны інстытут у Пецярбургу, ён вярнуўся ў Львоў і пачаў вялікую работу па стварэнні нацыянальнага ўкраінскага музея, у якім адвёў месца і для беларускага аддзела.

У Вільню ён прыехаў другі раз, першы раз быў тут у 1905 годзе, збіраў матэрыялы для музейных экспанатаў — слуцкія паясы, беларускія старадрукі, быў добра знаёмы з беларусамі, у тым ліку і з Цёткай.

І вось беларускія сябры ўгаварылі Цётку выехаць разам з Іларыёнам Свянціцкім у Львоў, бо, пераконвалі яны, заставацца ёй у Расіі небяспечна, калі са сваім здароўем трапіць за краты, то…

Доўга не згаджалася Цётка, не хацела пакідаць радзімы, але іншага выйсця не бачыла. Іларыёну Свянціцкаму даручылі апеку над беларускай паэтэсай, разам пасадзілі іх у цягнік.

І вось Цётка ў Львове. З краіны вятроў і маланак, буры і грому трапіла нібыта ў поўны штыль — шыкоўныя вітрыны магазінаў, кавярняў, напарфумленыя паны і пані важна шпацыруюць па тратуарах, паціху размаўляючы па-польску, па-нямецку, са звонам пралятаюць па бруку размаляваныя і раззалочаныя фіякры.

А будынкі, вуліцы дыхаюць сярэднявеччам, плошча Рынак захапляе сваёй гармоніяй, Тэатр оперы і балета — элегантнасцю.

Але перад велічным будынкам Галіцкага сейма — натоўп беспрацоўных, каля касцёлаў — жабракі з працягнутымі рукамі, як каля Вострай Брамы…

Іларыён Свянціцкі дапамог уладзіцца з жыллём — знайшоў Цётцы пакойчык на вуліцы Сыкстуцкай, дом 39 (цяпер вуліца Жаўтнёва, дом 41).

А далей выгнанніца пачала азірацца. Аказалася, што і тут, у Галіцыі, не так ужо ўсё ціха і спакойна, не такі ўжо стаіць штыль, як здалося напачатку.

Рэвалюцыя ў Расіі прынесла новыя думкі, новыя настроі і сюды, у Аўстра-Венгрыю, у склад якой у той час уваходзіла Галіцыя. Працоўныя Львова таксама пачалі выступаць з дэманстрацыямі пратэсту супраць цяжкага эканамічнага становішча, выстаўляць палітычныя патрабаванні.

На плошчы Адама Міцкевіча, каля цудоўнага помніка вялікаму паэту, які быў пастаўлены тут зусім нядаўна, збіраліся мітынгі рабочых, гаварыліся вольналюбівыя прамовы. «Крываваю нядзеляю ў Львове» назвалі працоўны дзень 6 мая 1906 года, калі тут, на гэтай плошчы, паліцыя пасекла шаблямі рабочых, якія сабраліся на свой мітынг.

І Цётка акунаецца ў палітычнае жыццё Галіцыі. Яе думка цяпер скіравана ў адно — трэба ўсім разам змагацца супраць тыраніі, трэба аб’ядноўвацца ўсім суседзям у няволі, падаваць адзін аднаму братнюю руку.

Аўстра-венгерскія ўлады ў Галіцыі давалі розныя прывілеі польскай шляхце, і ўкраінскі народ знаходзіўся пад двайным прыгнётам — і заваёўнікаў, і польскіх паноў, капіталістаў.

Да ўкраінцаў, прыгнечанага народа, і звяртаецца Цётка з заклікам — яднаць свае сілы для барацьбы. Яна выступае з прамовамі ў рэвалюцыйных гуртках, якія пачала наведваць у Львове, і ў гэтых прамовах звяртаецца да ўкраінскіх братоў, просіць у іх дапамогі свайму народу і сама абяцае стаць з імі поплеч, калі ім спатрэбіцца падтрымка беларусаў.

Часта прыходзіць Цётка да Іларыёна Свянціцкага — і ў музей, і дадому, пазнаёмілася з яго жонкай, Аніссяй Мацвееўнай, і з ёю пасябравала.

Пра свае думкі, адчуванні расказвала ўкраінскім сябрам, часта з болем і любоўю ўспаміНала радзіму, яшчэ больш распальваючы сэрца Іларыёна Свянціцкага цікавасцю да ўсяго беларускага.

У гэты час вучоны акурат пісаў сваю кнігу «Адраджэнне беларускага пісьменства» — нарыс гісторыі беларускай літаратуры, пачынаючы з часоў Скарыны. Цётка была для яго крыніцай самай дакладнай інфармацыі і па старажытнай, і па сучаснай беларускай літаратуры, ведала на памяць шмат вершаў беларускіх паэтаў, перадавала яму творы, якія прысылалі ёй з Беларусі сябры.

З цікавасцю ставіўся Іларыён Свянціцкі і да паэзіі самой Цёткі. У сваёй кнізе ён цытуе і каменціруе шмат якія яе вершы, адзначае іх баявы, рэвалюцыйны тон. Падкрэсліваў Іларыён Свянціцкі і той факт, што Цётка вельмі гарманічна спалучае ў сабе якасці мужнага рэвалюцыянера і таленавітага паэта-лірыка…

Вельмі хацелася Цётцы, каб думкі, ідэі, якімі яна жыла, не заставаліся толькі ў грудзях, у сэрцах, каб пра іх ведалі ўсе, асабліва там, на радзіме. А зрабіць гэта можна было толькі праз друкаванае слова.

І Цётка пачынае шукаць спосабу, каб у Львове наладзіць выданне кніг на беларускай мове.

На друкарню Базыльянскага манастыра ў Жоўкве звярнуў яе ўвагу хутчэй за ўсё Іларыён Свянціцкі.

Нацыянальны музей, экспанаты для якога збіраў малады ўкраінскі вучоны, раней закладваўся як музей царкоўны, і Свянціцкі наведваў цэрквы, манастыры, вывучаючы іх побыт, збіраючы прадметы культу. На гэтым грунце адбылося знаёмства Іларыёна Свянціцкага і з Базыльянскім манастыром уніятаў, які

знаходзіўся ў Жоўкве (цяпер Несцераў, кіламетраў за дваццаць пяць ад Львова).

У 1895 годзе пры Базыльянскім манастыры была адкрыта друкарня для выдання кніг духоўнага зместу. Друкарня, як на той час, была абсталявана па-першакласнаму — мела новыя друкарскія станкі, зробленыя ў Вене, прыгожы шрыфт — лацінскі і кірыліцу.

Сам гарадок Жоўква быў невялікі, чысценькі, з плошчай, пабудаванай яшчэ ў сярэднявечча, якую ўпрыгожвалі старадаўнія будынкі, галерэі. За высокімі цаглянымі мурамі туліўся манастыр з вежаю ўніяцкай царквы. Як было трапіць за тыя муры? Як схіліць манахаў на выданне рэвалюцыйных кніг?

Адзін нядаўна адшуканы дакумент дазваляе пабудаваць гіпотэзу. Дакумент гэты — пісьмо іераманаха Іосіфа, дырэктара ліцэя святога Мікалая ў Харбіне, пасланае 18.02.1935 года ў рускую каталіцкую епархію візантыйскага абраду ў Кітаі Уладыславу Талочку. Іераманах пісаў (на беларускай мове):

«Дарагі ойча Уладыславе!

Я быў у Львове ў 1922 годзе… Тады, варочаючыся назад, я заязджаў у Жоўкву, гасціў два дні. Адзін дом манастырскі быў заняты пад польскі ваенны шпіталь. Я пазнаёміўся з усімі манахамі, быў вельмі ласкава прыняты, гаварыў з імі па-беларуску, што ім было дужа цікава. Найбольш мы падружыліся з пробашчам манастырскай царквы, прозвішча якога я забыўся, і вось ён мне паказваў беларускі малітоўнік для дзяцей Цёткі. Гэта быў рукапіс арыгінальны, досыць грубы сшытак, пісаны буйнымі літарамі. Я яго праглядаў і чытаў. Найбольш мяне зацікавілі літанні. Я тады прасіў перадаць мне гэты рукапіс, але той даць адказаўся і яно там засталося. (Я маніўся паступіць да Васільянаў, а папаў да Марыянаў.) Здаецца, там былі і другія рукапісы, аднак добра не помню.

Ваш А. Іосіф, іераманах, дырэктар ліцэя св. Мікалая ў Харбіне».

З гэтага пісьма вынікае, што сярод манахаў Базыльянскага манастыра былі і беларусы, з якімі Цётцы было паразумецца лягчэй, чым з манахамі іншых нацыянальнасцей. І што Цётка падрыхтавала малітоўнік для дзяцей на беларускай мове. Магчыма, гэтым малітоўнікам і адчыніла яна сабе дзверы ў друкарню і пакарыла сэрцы манахаў. Бо без іх дазволу дзверы ў друкарню для Цёткі наўрад ці адчыніліся б. Але малітоўнік застаўся ў рукапісе, а выдадзены зборнікі рэвалюцыйных вершаў «Хрэст

на свабоду» і «Скрыпка беларуская». На тоненькай паперы, невялічкім фарматам, магчыма, абрэзкі ад духоўных кніг.

Зборнік вершаў «Хрэст на свабоду» Цётка падпісала псеўданімам Гаўрыла, а зборнік «Скрыпка беларуская» — псеўданімам Гаўрыла з Полацка. Зноў пакарысталася мужчынскім імем, тым самым, якім падпісвала свае вершы, надрукаваныя яшчэ ў «пісанках». Лічыла, што такі занятак, як паэзія, больш стасуецца да мужчын? А можа, блытала сляды паліцыі, цэнзуры? Няхай шукаюць Гаўрылу ў Полацку, пакуль Цётка выдае кніжкі ў Львове.

Невыпадкова было і тое, што псеўданім Гаўрыла з Полацка пераклікаўся не толькі з псеўданімам Францішка Багушэвіча — Сымон Рэўка з-пад Барысава, але і з псеўданімам Кастуся Каліноўскага — Яська — гаспадар з-пад Вільні. Падбіралася добрая кампанія: да Яські з-пад Вільні далучаліся браты-аднадумцы Сымон Рэўка з-пад Барысава і Гаўрыла з Полацка, прадстаўнікі розных куткоў Беларусі.

Паэтэса намервалася выкарыстаць друкарню Базыльянскага манастыра на поўную сілу, збіралася наладзіць тут выданне серыі брашур для беларускага народа пад агульным дэвізам: «Працавіта бедната ўсіх краёў, злучайся!» І друкуе артыкул з гэтай серыі — «Як мужыку палепшыць сваё жыццё», аўтарства якога хутчэй за ўсё належыць ёй.

У той жа друкарні ў тым жа 1906 годзе замест малітоўніка паэтэса выдае кніжачку «Гасцінец для малых дзяцей» — творы ўкраінскіх аўтараў у перакладзе на беларускую мову, пераклала, вядома, Цётка. Кніжачка выдадзена пад псеўданімам Тымчасовы, у яе ўключаны апавяданні «Хлеба будняга дай нам, сонейка», «Расінка на розу», «Малпа», «Неспадзяваны гасцінец», «Лебедзь», «Рыжая», уключаны таксама загадкі, пагаворкі — далёкія ад рэлігійнага зместу.

У зборнік «Хрэст на свабоду» паэтэса ўключыла вершы «Хрэст на свабоду», «Небывалыя часы», «Мора», «Добрыя весці», «Бунтаўнік», «Пад штандарам», «Перад Новым годам», «Бура ідзе», «Ласы» — тыя, што пісаліся пад уражаннем падзей 1905 года і былі поўныя рэвалюцыйнага агню. Потым зборнік нелегальна распаўсюджваўся ў Беларусі і Пецярбургу, у Пецярбургу яго распаўсюджвалі, разам з іншай нелегальнай літаратурай, студэнты-беларусы. Заносілі ў патаемныя бібліятэкі, прапаноўвалі выкарыстоўваць на мітынгах і нелегальных сходах, завозілі ў вёскі.

Сярод студэнтаў Пецярбургскага ўніверсітэта існавала спецыяльная тэхніка пераносу нелегальнай літаратуры: да мяшка

прышпільваліся брашуры, потым мяшок надзяваўся на цела, як кашуля, і завязваўся спераду — гэта калі шпік угледзіць пераносчыка і захоча затрымаць, каб можна было скора зняць мяшок у якой-небудзь падваротні і выкінуць.

За такім студэнтам-пераносчыкам ішоў другі студэнт і сачыў — калі першы выкідаў падпольную літаратуру, другі падбіраў і нёс далей. Не раз так перапраўляўся і зборнік Цёткі «Хрэст на свабоду».

Да зборніка «Скрыпка беларуская» была напісана ўжо вядомая нам прадмова і ўключаны вершы «Скрыпка», «Вам, суседзі», «Лета», «На магіле», «Вера беларуса», «Мужык не змяніўся», «На чужой старонцы», «Восень», «Суседзям у няволі», «Артыст грайка», «У дарогу».

Верш «Суседзям у няволі» быў напісаны ў 1906 годзе там жа, у Львове, і вельмі яскрава паказваў, якімі настроямі жыла Цётка ў Галіцыі. Паэтэса лічыла сябе пасланнікам беларускіх хат, беларускага народа. Да ўкраінцаў яна звярталася як да родных братоў, якія павінны падаць руку дапамогі беларусам. У вершы заклік — яднаць свае сілы ў барацьбе з ворагам:

Ад сваіх хат, ад сваіх ніў,
Ад усіх братоў, хто толькі жыў,
Нясу слязу, нясу я стогн,
Нясу нагаек царскіх звон.
У нас там ноч, у нас там стук,
Мы ацямнелі з страшных мук,
З нас пот ліецца, сохнуць грудзі.
Нас катуюць! Чуйце, людзі!
Чуйце, чуйце, руку дайце!
Мы вам родны. Праўду знайце:
Ці ў долі, ці ў нядолі —
З вамі станем ў адным полі,
Рука ў руку з вашым братам
За свабоду перад катам.

Зборнік «Скрыпка беларуская», хоць і выдаваўся нелегальна, трапіў у рукі царскай цэнзуры, і цэнзар Васянцовіч-Макарэвіч у рапарце ад 2 мая 1907 года дакладваў свайму начальству:

«Невядома дзе выдадзеная гэта маленькая брашурка на беларускім дыялекце заключае ў сабе даволі нявіннага характару лірычныя песенькі-вершы, акрамя аднаго, на с. 19, пад назвай «Суседзям у няволі».

Далей цэнзар пераказвае на рускай мове змест верша і робіць сваё заключэнне:

«Хоць у вершы гэтым даволі невыразна гаворыцца аб ворагу-каце, супраць якога заклікаецца з'яднацца, але ўпамінанне «царскіх нагаек» дае падставу бачыць у ім заклік да барацьбы з царскай уладай, з сучасным дзяржаўным ладам. А паколькі брашура, відаць, разлічана на простага беларускага селяніна, то такія вершы належыць выключаць. А паколькі нязручна выключаць цэлую старонку альбо нават увесь апошні аркуш (с. 19–20) у невялічкай брашуры, я лічыў бы за лепшае яе забараніць, аб чым маю гонар далажыць камітэту».

У Беларусі зборнік Цёткі «Скрыпка беларуская» распаўсюджваўся і прадаваўся нелегальна. Інспектар друку і кніжнага гандлю ў Вільні Судакоўскі падчас рэвізіі кнігарняў знайшоў 32 экзэмпляры гэтага зборніка ў кнігарні Марыі Пясецкай-Шляпялене і 10 экзэмпляраў у кнігарні В. Макоўскага.

Супраць Пясецкай-Шляпялене і Макоўскага была ўзбуджана судовая справа за распаўсюджванне нелегальнай літаратуры.

8 кастрычніка 1907 года начальнік Віленскага губернскага ўпраўлення дакладваў Віленскаму, Ковенскаму і Гродзенскаму генерал-губернатару аб тым, што ім «...узбуджана дазнанне ў парадку 1035 артыкула па абвінавачанні ўладальнікаў у горадзе Вільні кніжных магазінаў Марыі Пясецкай-Шляпялене і Вячаслава Макоўскага ў злачынстве, прадугледжаным 129-м арт. крымінальнага ўлажэння».

Царскі чыноўнік, якому было даручана весці справу аб распаўсюджванні зборніка Цёткі «Скрыпка беларуская», характарызуючы верш «Суседзям у няволі». пісаў:

«Аўтар заклікае насельніцтва да ўзброенага паўстання для змены дзяржаўнага ладу ў Расіі і пераходу на бок рэвалюцыянераў у барацьбе з самадзяржаўным урадам, які прыгнятае народ, прычым гасудар імператар называецца катам».

Верш Цёткі «Суседзям у няволі» пазней быў змешчаны ў кнізе І. Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства». Усё той жа цэнзар Васянцовіч-Макарэвіч у рапарце аб гэтай кнізе падкрэсліваў, што ў вершы «Суседзям у няволі» «...ёсць заклік да барацьбы за свабоду супраць тырана-ката, прычым апісваецца сучаснае жыццё беларуса, як цёмная ноч, сярод якой чуюцца слёзы, стогн і свіст царскіх нагаек».

У той жа дзень, 2 мая 1907 года, і тым жа цэнзарам Васянцовічам-Макарэвічам быў напісаны і другі рапарт — на брашуру «Як мужыку палепшыць сваё жыццё».

У Ленінградскім дзяржаўным гістарычным архіве гэтыя дакументы захоўваюцца ў адной папцы, падшытыя адзін за адным. Нелегальна прывезеныя з Львова ў Расію, недзе разам ляжалі «Скрыпка беларуская» і брашура «Як мужыку палепшыць сваё жыццё», разам захапіла іх паліцыя і даставіла ў цэнзуру, каб высветліць, што ўяўляюць яны сабою з палітычнага боку.

Брашура «Як мужыку палепшыць сваё жыццё» ў асноўным агітавала сялян выстаўляць да паноў эканамічныя патрабаванні, але была напісана такой мовай, што прыводзіла да такіх абагульненняў, што не магла не закранаць і палітычных пытанняў, тым больш што выдавалася яна пад дэвізам: «Працавіта бедната ўсіх краёў, злучайся!»

«Усім добра вядома, што няма горш жыцця, як мужыцкае жыццё, — пісалася ў брашуры. — Працуй цяжка, не пакладаючы рук, пакуль маеш хоць крыху сілы, і за гэта цярпі голад і холад, жыві ў здзеку, паняверцы ды цемнаце — то доля мужыцкая. І працуе мужык, сцяўшы зубы, бо ведае, што іначай чакае яго галодная смерць. А тым часам бачыць ён, што шмат людзей каля яго жыве без усялякай працы ў багацці і здабытках, не знае ні гора, ні бед.

І злосць бярэ мужыка — адкуль гэткая несправядлівасць на свеце? Дзе прычына мужыцкай нядолі?»

А вось да якой высновы прыходзіць аўтар у канцы брашуры:

«Мы напачатку ўжо сказалі, што цяпер на свеце такі парадак, пры каторым заўсёды будуць і багачы, і бедныя, адны людзі будуць жыць з цяжкай працы другіх, самі нічога не робячы.

Але гэты парадак не вечны, зрабіў яго не Бог, а людзі, і самі людзі пераменяць у ём усё злое». (Гэта зноў замест малітоўніка: парадак на зямлі зрабіў не Бог, а людзі, і людзі пераменяць у ім усё злое… Ці ведалі манахі, які атэістычны тэкст друкуецца ў іхняй друкарні?) «Толькі трэба ведаць, — пісалася ў брашуры, — што зрабіць гэту перамену можа толькі ўвесь рабочы народ, уся вясковая і меставая бедната, калі ўсе разам пойдуць па адной дарозе…»

Брашура «Як мужыку палепшыць сваё жыццё» была выдадзена Цёткаю рускім і лацінскім шрыфтамі. Цэнзар у сваім рапарце, скіраваным у Галоўнае ўпраўленне па справах друку, прыводзячы загалоўкі абедзвюх брашур, пісаў:

«Гэтыя дзве брашуры на беларускім дыялекце зусім аднолькавыя па сваім змесце і розныя толькі знешне, адна надрукавана рускімі літарамі, другая лацінскімі. Як паказвае назва брашуры, яна прапануе аб'яднанне рабочага пралетарыяту для паляпшэння

жыцця мужыкоў. Спосабам для гэтага павінны служыць сялянскія саюзы ў вёсках для прад’яўлення аднолькава павышаных патрабаванняў памешчыкам пры рабоце на іх землях і паніжанай плаце пры арэндзе яе. «Цяпер на свеце такі парадак, пры якім заўсёды будуць і багачы, і бедныя… але гэты парадак не вечны, — піша аўтар брашуры. — Толькі трэба ведаць, што зрабіць гэту перамену можа толькі ўвесь рабочы народ, уся вясковая і меставая бедната, калі ўсе разам пойдуць па адной дарозе… Няхай мужыкі не забываюць, што яны сіла, і шляхам сваіх саюзаў даб’юцца ўсяго, што трэба для паляпшэння іх быту».

Хоць брашура гэта рэкамендуе толькі арганізацыю саюзаў, якія наогул цяпер дапускаюцца, калі маюць сваёй мэтай падняцце эканамічнага ўзроўню жыцця, тым не менш арганізацыя сялянскіх саюзаў наўрад ці зможа быць дазволена, бо можа мець вынікам круты паварот у эканамічным жыцці Расійскай дзяржавы, разарэнне памешчыкаў і ўпадак прамысловасці. Таму мне цяжка вырашыць, ці можна дазволіць брашуру, якая мае характар прапаганды сярод сялян такіх саюзаў, аб чым маю гонар далажыць камітэту».

У брашуры «Як мужыку палепшыць сваё жыццё» аўтар замахваўся на клас эксплуататараў, які панаваў у Расіі, і цэнзар угадаў яго намер. Але, мусіць, не толькі гэта спыніла цэнзара, не дазволіла падпісаць, благаславіць брашуру, каб пайшла яна ў свет, да сваіх чытачоў. Сялян клікалі аб’ядноўвацца з гарадскім пралетарыятам, а такі саюз мог даць зусім непажаданыя вынікі не толькі эканамічныя, але і палітычныя. Мужык, аб’яднаны з рабочым, — сіла, якая будзе ўяўляць сапраўдную небяспеку для дзяржавы, для яе парадкаў.

Зборнік Цёткі «Скрыпка беларуская» і брашура «Як мужыку палепшыць сваё жыццё», выдадзеныя ў Жоўкве, былі забаронены царскай цэнзурай, але яны ўсё роўна знаходзілі дарогу да сваіх чытачоў — прадаваліся нелегальна, перадаваліся з рук у рукі, будзілі думку селяніна, трывожылі яго душу.

## ЧАС ДАЛЁКІ — ЧАС БЛІЗКІ

Бывае вельмі цікава, калі сухі радок афіцыйнага дакумента, якому блізка семдзесят гадоў, раптам ажывае і за ім устае чалавек — сведка далёкага мінулага.

Так ажыло, увасобілася ў жывым чалавеку прозвішча Пясецкая-Шлапялене, якое значылася ў судовай справе па абвінавачанні ў распаўсюджванні зборніка Цёткі «Скрыпка беларуская».

Верасень у Вільнюсе заўсёды прыгожы — негарачае ўжо сонца аблівае густую спакойную зеляніну, у якой яшчэ толькі пачынае залацець ліст, адбіваецца ў чыста вымытым шкле вітрын, кладзе свае промні на старадаўнія муры, на вежы касцёлаў і цэркваў, што стаяць тут, як помнікі даўніх часоў, надаючы гораду непаўторнае аблічча.

Я шмат разоў бывала ў гэтым горадзе, а вераснем 1974-га прыехала сюды зноў, каб яшчэ раз пахадзіць вуліцамі. па якіх некалі ступалі ногі Цёткі, яшчэ раз перагартаць лісткі архіўных матэрыялаў, падшыўкі старых газет — а можа, знойдуцца дасюль невядомыя старонка ці радок, што дададуць да вобліку пясняркі, да яе жыцця хоць невялікі новы штрышок.

Хацелася і яшчэ раз паспрабаваць знайсці людзей ці хоць аднаго чалавека, што памяталі тую пару, памяталі хоць што-небудзь, звязанае з Цёткаю.

І трэба сказаць, што мы мала шукаем, а таму шмат страчвае гісторыя нашай літаратуры, а галоўнае — мы абыходзім людзей, памяць якіх — неацэнны скарб, гэтыя людзі адзін за адным пакідаюць жыццё, бо такі няўмольны закон яго, і забіраюць з сабою тое, што не паспелі перадаць нам, бо мы гэтым не пацікавіліся.

Вядома, што мала надзеі было адшукаць сучаснікаў Цёткі, людзей, што памяталі яе, сустракаліся з ёю.

І ўсё ж…

У Інстытуце марксізму-ленінізму Літоўскай ССР, куды я звярнулася з просьбай дазволіць мне пазнаёміцца з архівам інстытута, мяне сустрэлі ветліва. У архіве я, на жаль, нічога новага, што датычыла б Цёткі, не знайшла. Аднак дырэктар інстытута і вучоны сакратар параілі мне пагаварыць з некаторымі «старымі віленцамі», як яны называлі людзей, што даўно жывуць у Вільні, у тым ліку і з вядомым літоўскім грамадскім і палітычным дзеячам, літаратарам Юстасам Ігнавічам Палецкісам.

Юстас Ігнавіч жыў на вуліцы Чурлёніса. Зайшла ў зялёны дворык ягонага дома, потым у кватэру. Паднялася на другі паверх, у кабінет гаспадара, па сценах застаўлены кнігамі.

Мяне сустрэў высокі, стройны, немалады ўжо чалавек з некалі, мусіць, русявымі, цяпер белымі валасамі, запрасіў садзіцца. Гэта і быў Юстас Ігнавіч Палецкіс. Я сказала пра прычыну свайго візіту, пра тое, што мне параілі зайсці да яго.

Гаспадар шчыра пашкадаваў, што нічога не можа расказаць мне пра Цётку, не сустракаўся з ёю, не ведаў яе, ды і ў тыя гады, калі жыла Цётка, ён быў яшчэ падлеткам.

Але Юстас Ігнавіч шчыра хацеў мне дапамагчы і пачаў думаць, як гэта зрабіць. Ён перабіраў у памяці людзей, якія даўно жывуць у Вільні і маглі б нешта памятаць калі не пра самую Цётку, то хаця б пра той час.

Так узнікла прозвішча Шлапялене… Марыя Пясецкая-Шлапялене.

— Пачакайце, — сказала я. — Гэта прозвішча мне знаёмае, я сустракала яго ў архіўных матэрыялах. Пясецкая-Шлапялене была гаспадыняй кнігарні, дзе прадаваўся зборнік Цёткі «Скрыпка беларуская». Пясецкую-Шлапялене прыцягвалі за гэта да судовай адказнасці — за распаўсюджванне нелегальнай літаратуры…

Юстас Ігнавіч зняў з паліцы том Літоўскай Энцыклапедыі, пагартаў яго і знайшоў прозвішча — Шлапялене. Прачытаў, што яна сапраўды з 1906 года трымала ў Вільні кнігарню і яе прыцягвалі да судовай адказнасці за распаўсюджванне рэвалюцыйнай літаратуры.

— Толькі наўрад ці яна жывая, — сказаў Юстас Ігнавіч. — Бачыце, 1880 года нараджэння. Хаця, — глянуў ён яшчэ раз у Энцыклапедыю, — тут стаіць толькі год нараджэння. Гэты том Энцыклапедыі выдаваўся ў 1971 годзе, значыцца, тады яна была яшчэ жывая.

У мяне ў грудзях нешта заварушылася, як бывала часта, калі прадчувалася якая знаходка.

— Ведаеце што, трэба мне паспрабаваць гэта высветліць, — сказала я. — Можа, у яе ёсць тэлефон? Трэба паглядзець у тэлефонную кнігу.

Юстас Ігнавіч узяў тэлефонны даведнік.

— Ёсць, — сказаў ён. — Шлапялене. І імя супадае, Марыя.

Затаіўшы дыханне, глядзела я, як гаспадар набіраў нумар, потым слухала, як ён гаварыў па-літоўску. Паклаў трубку, усміхнуўся.

— Гэта не яна… Гэта яе далёкая сваячка… Але Марыя Шлапялене жывая, толькі сваячка не ведае яе адраса. Кажа,

што патрэбная вам Марыя Шлапялене жыве на вуліцы Горкага, недалёка ад Кафедральнай плошчы, дом на левым баку вуліцы, увесь абвіты плюшчом…

Мне здалося, што і па гэтых арыенцірах я знайду былую гаспадыню віленскай кнігарні. Я паднялася, шчыра падзякавала гаспадару.

— Пачакайце, я падару вам на памяць сваю кнігу. — сказаў Юстас Ігнавіч. І зняў з паліцы таўставаты белы томік. «В двух мирах» — прачытала я на вокладцы.

— Гэта кніга маіх успамінаў, — сказаў ён. На тытуле напісаў мне: «На памяць аб сустрэчы ў Вільнюсе, з лепшымі пажаданнямі. Вільнюс, 1974.IX.19».

Расчуленая, узяла я падарунак, яшчэ раз падзякавала, развіталася.

Было гадзін восем вечара, і ўжо сцямнела. Але адкладваць пошукі Шлапялене на заўтра ў мяне не хапіла цярпення, і, узяўшы таксі, я паехала на вуліцу Горкага. На пытанне таксіста, дзе спыніцца, сказала, што не ведаю, потым вырашыла пачаць пошукі з самага пачатку вуліцы.

«Дом, абвіты плюшчом», — добра памятала я. — Што ж, трэба будзе заходзіць у кожны дом, абвіты плюшчом».

Але хутка мне прыйшлося расчаравацца. Я ішла па вуліцы і не знаходзіла ніводнага дома, абвітага плюшчом. Вось ужо далёка ўнізе засталася Кафедральная плошча, але на ўсёй вуліцы Горкага ніводнай галінкі плюшчу ні на адным доме не было відаць.

Адзін будынак, сапраўды абвіты зелянінаю, стаяў не на левым, а на правым баку вуліцы.

«Магчыма, жанчына, што гаварыла па тэлефоне, памылілася, — падумала я. — Магчыма, яна палічыла левым бок вуліцы, ідучы па ёй зверху?..»

Перайшла на той бок, пачала прыглядацца — у вокнах абвітага зелянінаю дома святла не было. У ім не жылі, там размяшчалася нейкая ўстанова.

Тады я вярнулася назад, да пачатку вуліцы. і пачала заходзіць у двары.

Шмат якія з іх былі невялічкія, высокія каменныя сцены будынкаў падступалі блізка адна да адной, пазіралі адна на адну рэдкімі, жаўтаватымі ад электрычнага святла, вокнамі. Гэта была частка старога горада, збудаваная па-даўнейшаму — тоўстыя сцены, шырокія каменныя падваротні, выступы і нішы, цяжкія драўляныя дзверы, брук замест зелянiны, якой так шмат у сучасных дварах.

Нарэшце ўбачыла адзін дом, сцены якога аж да даху былі абвіты дзікім вінаградам.

«Ага, вось дзе ты», — узрадавалася я.

Каля дома ў цемнаце гулялі дзеці, за імі наглядала жанчына ў цёмным паліто, у хустцы. Я спыталася ў яе, ці не жыве ў гэтым доме Пясецкая-Шлапялене, кабета немаладога ўжо веку.

Жанчына падумала.

— Не, — адказала яна. — У нас не жыве. Толькі адна старэнькая кабета жыла ў нашым доме, ёй было семдзесят шэсць гадоў, яна летась памерла.

У параўнанні з тою жанчынаю, якую шукала я, нябожчыца была зусім маладая. Маёй бабульцы цяпер павінна было быць дзевяноста чатыры…

Зноў вярнулася я на вуліцу, спынілася, не ведаючы, у які бок ісці далей.

Стаяла і не ведала, што за мною назіраюць.

— Мы даўно ўжо бачым, вы нечага тут шукаеце, можа, мы ведаем — што, — падышлі да мяне двое хлопцаў.

Я была ў такім адчаі, што расказала, каго шукаю.

— Дом, абвіты плюшчом? — перапытаў адзін з іх. — Ведаеце, тут цяпер шмат дамоў адрамантавалі, можа, які і быў абвіты плюшчом, ды плюшч садралі…

Гэта было падобна на праўду, якая, аднак, мяне не ўсцешыла. Губляўся арыенцір, па якім я магла знайсці сучасніцу Цёткі.

Хлопцы з далікатнасці зайшлі са мною яшчэ ў адзін, у другі двор, шукаючы дом з зелянінаю, але ўсе двары былі каменныя, падобныя на калодзежы, ні адзін будынак не быў падобны на такі, які я шукала.

Хлопцам хутка надакучыла гэта бесперспектыўнае бадзянне, і яны пайшлі сваёй дарогай. Я засталася адна, не ведаючы, як шукаць далей.

Нешта цягнула мяне назад, да таго адзінага дома ў двары, сцяна якога аж да даху была абвіта дзікім вінаградам.

«Магчыма, жыхарка таго дома памылілася, а можа, не ведае ўсіх сваіх суседзяў, і Марыя Шлапялене жыве іменна ў тым доме?» — думалася мне.

Вярнулася да таго дома. Пастукалася ў кватэру на першым паверсе. Здзіўленай гаспадыні, якая ўбачыла перад сабою незнаёмую, пачала тлумачыць, каго я шукаю.

— Шлапялене? — перапытала яна. — У яе некалі была крама?.. Дзе кніжкі прадаваліся?..

— Ага, ага, — узрадавалася я, што шукаю не міф, а жанчыну, якую нехта ведае.

— Яна сапраўды жыве на нашай вуліцы, але не ў нашым доме. Вось не ведаю, у якім доме яна жыве. Але пачакайце…

І мілая гаспадыня ўкленчыла перад тэлефонам, які стаяў на нізенькім, каля люстэрка, століку.

Яна гаварыла з некім па тэлефоне на літоўскай мове, я не разумела, пра што, але чула прозвішча — Шлапялене і здагадвалася — пыталася ў некага, ці не ведае той яе адраса.

Расчараваная, паклала трубку — там адраса Шлапялене не ведалі.

Тады гаспадыня кватэры пачала званіць яшчэ некуды — і глянула на мяне радасным позіркам: няйнакш, там ведалі адрас.

І сапраўды, хутка я замест невыразнага арыенціра мела дакладныя звесткі — вуліца Горкага, дом 40, кватэра 4.

Гэта было даволі далёка ад Кафедральнай плошчы, і цёмным вечарам я не ўбачыла там ніякай зеляніны.

У цёмным двары на другі паверх вяла цёмная жалезная лесвіца. Ніяк не магла знайсці на пляцоўцы ні дзвярэй, ні якога званка, каб пазваніць.

І раптам у вочы ўдарыла святло — мусіць, у нейкай кватэры пачулі, што на лесвіцы нехта шкрэбаецца, і запалілі электрычнасць. З адных дзвярэй выйшла немаладая, даволі мажная жанчына.

— Вам каго трэба? — сурова спытала яна.

— Ці тут жыве Марыя Пясецкая-Шлапялене? — з хваляваннем спыталася я.

— А хто вы такая?

Ну як было ёй тлумачыць, хто я і што, навошта шукаю Шлапялене?

А жанчына была настроена не вельмі гасцінна.

— Навошта яна вам, яе няма! Няма, разумееце? — рэзка гаварыла яна, наступаючы на мяне, адціскаючы назад па лесвіцы.

Я была амаль у адчаі — недзе тут, на гэтай лесвічнай пляцоўцы, жыве чалавек, якога я так шукала, які, магчыма, бачыў Цётку, памятае яе, а злосная суседка засланіла гэтага ад мяне спінаю, не дае нават убачыць яго.

Але ў гэтую хвіліну адчыніліся другія дзверы, насупраць тых, з якіх выйшла злосная суседка, і на парозе я ўбачыла зусім старую бабульку ў светлым ці то паліто, ці то халаце, з бледным, нібы выцвілым ад часу, тварам, з завязаным вокам. Яна трыма-

лася рукою за ручку дзвярэй і, відаць, хацела ўбачыць, хацела зразумець, хто тут з кім гаворыць.

«Гэта яна!» — упэўнена падумала я.

Злосная суседка пачала па-літоўску нешта тлумачыць бабульцы, паказваючы на мяне. Бабка нахіляла да яе вуха — каб пачуць.

Мусіць, суседка растлумачыла бабцы, што гэта я яе пытаю, бо тая раптам усміхнулася, гасцінна расчыніла дзверы, запрасіла мяне — заходзьце, калі ласка.

Я ўвайшла ў кватэру. У адным, вялікім, пакоі было цёмна, у другім, меншым, гарэла электрычнасць. Гаспадыня павяла мяне ў асветлены пакой, на хаду просячы прабачэння, што ў вялікім няма святла — перагарэла лямпачка.

Мы селі з ёю за невялікі столік, што прытыкаўся бокам да сцяны, над ім віселі танныя, наклееныя на кардонках, абразы.

Гаспадыня з цікавасцю глядзела на мяне адным вокам. Разы са два прыйшлося ёй сказаць, чаго я завітала, — жанчына кепска чула. Але, як зразумела мяне, твар яе адразу пасвятлеў, голас загучаў молада.

— Цётка! — з радасцю загаварыла яна. — Алаіза Пашкевіч! Яна потым выйшла замуж за Кайрыса, жыла ў Вільні на Кальварыі, памерла ад тыфу, сама была медыцынская сястра! — з такімі падрабязнасцямі пачала ўспамінаць гаспадыня.

— Дык вы яе ведалі?

— Дзіва што ведала! Гэта ж была мая сяброўка!

Сапраўды дзіва — у 1974 годзе сустрэць сяброўку Цёткі!

Падчас нашай гутаркі злосная суседка зайшла ў кватэру, паглядзець, ці ўсё ў парадку. Убачыла, што мы завялі ажыўленую гаворку, — супакоілася.

Марыя Шлапялене расказала мне, што Цётку яна ведала з 1900 года, што Цётка вадзіла яе на нелегальныя палітычныя сходы.

У 1906 годзе Марыя Пясецкая выйшла замуж за Юргіса Шлапяліса, і разам з мужам яны адкрылі кнігарню. У асноўным у гэтай кнігарні прадаваліся літоўскія кнігі, але дзверы крамы заўсёды былі гасцінна адчынены і для беларусаў.

Цётка наладзіла кантакт Пясецкай-Шлапялене з беларускай выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца», і ўсе кнігі, якія выдаваліся гэтай суполкай у Пецярбургу, прадаваліся ў кнігарні Марыі Пясецкай-Шлапялене, прадаваліся тут і беларускія газеты, паштоўкі. Самі беларусы прызначалі тут свае сустрэчы, пазней частым госцем быў тут Янка Купала, ён прыходзіў у кнігарню з мастаком Чурлёнісам, з якім жыў у

адным доме і сябраваў. У кнігарні Марыі Пясецкай-Шлапялене прадаваліся кнігі і Янкі Купалы.

Расказала мне гаспадыня і пра тое, як судзілі яе за распаўсюджванне зборніка Цёткі «Скрыпка беларуская».

Цётка сама прынесла да яе ў кнігарню каля пяцідзесяці экзэмпляраў зборніка. Пясецкая-Шлапялене павінна была іх зарэгістраваць, упісаць у кнігу, якая правяралася інспектарам друку і кніжнага гандлю ў Вільні Судакоўскім. Але гаспадыня кнігарні, ведаючы, што зборнік Цёткі выдаваўся нелегальна, не зарэгістравала яго, а проста паклала на падаконнік, спадзеючыся, што яго купяць да таго, як прыйдзе інспектар.

Але інспектар прыйшоў раней тэрміну, убачыў «Скрыпку беларускую», узяў адну кніжачку, пагартаў, пачытаў. Там былі вострыя, антыдзяржаўныя вершы. Спытаў, дзе выдавалася кніжка, ці ёсць рэгістрацыя. Зразумеў, што зборнік нелегальны, тут жа склаў акт, канфіскаваў выданне. Год да суда знаходзілася пад наглядам паліцыі, а потым пачалася судовая справа, прыцягнулі да адказнасці па 129 артыкуле крымінальнага ўлажэння.

Гаспадыня так і назвала артыкул, дасюль памятала.

— Я пераконвала суд, — гаварыла яна, — што не магу прачытаць усе кніжкі, якія трапляюць да мяне на продаж, ды і не ўмею разабрацца — дзе крамольная, а дзе не крамольная. Выкручвалася, як умела, і тым разам выкруцілася, добрыя адвакаты дапамаглі, ад турмы была вызвалена, але пільнае вока нагляду пастаянна сачыла ўжо за мною.

У чатырнаццатым годзе зноў павялі супраць мяне следства, за распаўсюджванне літоўскай нелегальнай літаратуры, але тым часам выратавала першая сусветная вайна. Немцы наступалі, царскія войскі адыходзілі, Вільні пагражала акупацыя, царскі суд эвакуіраваўся, так я на волі засталася.

Марыя Пясецкая-Шлапялене актыўна ўдзельнічала ў літоўскім культурным руху пачатку дваццатага стагоддзя, як артыстка выступала ў літоўскім аматарскім тэатры камедыі і аперэты, прымала ўдзел у першай літоўскай оперы «Бірутэ» Мікаса Пятраўскаса.

Муж яе, доктар Шлапяліс, быў лексіколаг, педагог, таксама зрабіў нямала для развіцця літоўскай культуры.

Я прасіла гаспадыню, каб яна ўспомніла яшчэ што-небудзь са свайго жыцця, каб успомніла яшчэ што-небудзь пра Цётку.

— О, мілая, — ківала яна галавою. — Колькі гадоў прайшло, амаль семдзесят, старая я ўжо, хворая, даўно павінна была б не жыць…

— Што вы, жывіце на здароўе, — сказала я.

— Каб жа было яно, тое здароўе… Вось я вам сваю фотакартку падару, як былі мы маладыя, — сказала яна і паднялася з крэсла. Цяжка дыхаючы, пайшла ў другі пакой, вярнулася з канвертам тых, даўніх, часоў, на ім былі напісаны адрас і назва кнігарні. Выняла з канверта фатаграфію. На ёй была маладая прыгожая жанчына ў сукенцы такога пакрою, як насіла некалі і Цётка. Побач з жанчынаю — малады мужчына. Па ўсім было відаць, што перад аб'ектывам апарата закаханая пара.

— Гэта фатаграфія 1906 года, вазьміце яе сабе на памяць. Разам з гэтым канвертам. А калі выйдзе ваша кніга пра Цётку — прышліце мне, калі ласка.

Я абяцала прысланць кніжку. Мы развіталіся.

Усхваляваная, ішла я па тратуары, па якім некалі, вядома ж, ступалі і ногі Цёткі. У кватэры засталася жанчына, што добра яе ведала.

Час далёкі — які ты блізкі…

## ДЛЯ ДЗЕТАК-БЕЛАРУСАЎ

Беларусь у пачатку XX стагоддзя была краінай амаль поўнай непісьменнасці, зрэдку ў вёсцы сустракаўся чалавек, які ўмеў чытаць, іншыя радаваліся, што навучыліся распісвацца, агромністая маса сялян замест подпісу ставіла славутыя крыжыкі.

Амаль зусім не ведалі граматы жанчыны, ды і навошта ім была грамата, іх дарога — ад печы да парога, за іх і крыжыкі ставілі мужчыны.

Аднак народ абуджаўся, ужо больш таленавітая моладзь ішла па асвету, здабывала веды, каб потым несці іх свайму народу.

Як паэтэса-рэвалюцыянерка, як дзеяч на ніве беларускай культуры, як асветніца адну з задач рэвалюцыі Цётка бачыла ў тым, каб далучыць беларускі народ да багаццяў сусветнай культуры.

Першае, што трэба было зрабіць на шляху да навукі беларускага народа, — даць грамату сялянскім дзецям, разгарнуць шырокую сетку школ на беларускай мове. І Цётка адстойвае гэта права свайго народа.

У артыкуле «Як нам вучыцца», надрукаваным у № 1 газеты «Наша ніва» за 1906 год, Цётка патрабуе, каб дзяцей у беларускіх вёсках вучылі па-беларуску, «…каб тлумачылі ім усё па-тутэй-

шаму, па-свойму, як дзеці гавораць у хаце з бацькамі і як ім найлягчэй разумець. Тады дзеці і чытаць скарэй навучацца, і пазнаюць лягчэй іншыя мовы — расейскую ды польскую. Дзеля таго ўсе беларусы і ўсе, хто хоча даць народу праўдзівую навуку, павінны дамагацца для беларусаў беларускай начальнай школы».

У гэтым артыкуле Цётка вучыць любіць і паважаць родную мову, не цурацца яе, а берагчы, шанаваць, развіваць нацыянальную культуру, якая не можа існаваць без сваёй, нацыянальнай формы — беларускай мовы.

«Доўга мы, беларусы, — піша Цётка, — цураліся сваёй мовы і, як кажуць, хаваліся з ёю за печ перад чужымі людзьмі. Вось і склалася нейкая дурная пагаворка, што наша мова хамская, брыдкая, што на ёй не можна гаварыць з вучоным чалавекам, ані пісаць кніжак, як на іншых, «далікатных», мовах. Але гэта толькі выдумка».

Для таго каб адкрываць школы на роднай мове, каб вывучаць родную мову, патрэбны былі кнігі, падручнікі, лемантары на беларускай мове. Цётка гэта добра разумела і першая сярод дзеячаў беларускай культуры ўзялася за выданне кніг для дзяцей на роднай мове.

Як адзначалася вышэй, у Жоўкве, там жа, дзе друкаваліся зборнікі вершаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская», Цётка выдае першую кніжачку для дзяцей на беларускай мове «Гасцінец для малых дзяцей». Пад загалоўкам кніжачкі пісалася: «Пералажыў з украінскага языка на беларускі з малымі пераменамі Тымчасовы». Псеўданім зноў быў патрэбны для таго, каб схаваць сваё сапраўднае прозвішча, а слова Тымчасовы, напэўна, значыла, што Цётка збіраецца жыць далёка ад радзімы толькі «тым часам», збіраецца хутка з гасцінцам для дзетак вярнуцца дадому.

Пісьменніца сама адзначала, што пераклады з украінскай мовы на беларускую яна рабіла з «малымі пераменамі», і сапраўды адчуваецца, што шмат у якіх месцах яна выступае не толькі як перакладчык, але і як сааўтар украінскіх літаратараў. А на ўсім перакладзе адчуваецца празрысты стыль Цёткі, нацыянальная афарбоўка кожнай фразы, своеасаблівы Цётчын лірызм.

Цётка імкнулася надаць украінскім творам беларускі нацыянальны каларыт, каб, чытаючы гэтыя творы, дзеці пазнавалі ў іх сваё.

Вось пейзаж з апавядання «Хлеба будняга дай нам, сонейка»:

«Быў цёплы вечар. Сонейка чырвоным кругам кацілася быстра за суседні лясок. Пастухі гналі быдла з поля. Кароўкі

рыкалі, авечачкі бляялі, конік іграў на зялёным лузе. Варочаліся жнейкі з поля, касцы спявалі, апранаючыся на пракосах».

Гэта родны беларускі пейзаж, і не трэба быць вялікім тэкстолагам, каб пазнаць, што намаляваны ён Цёткаю.

Рука Цёткі адчуваецца і ў нарысе «Лебедзь». Тут мы знаходзім і просты зварот да беларускага чытача, які мог быць напісаны толькі Цёткаю. Вельмі цікава ўводзіць пісьменніца ў гэту прыродаапісальную замалёўку сацыяльны элемент, падкрэслівае свае класавыя сімпатыі і антыпатыі. Вось як расказвае яна дзецям пра лебедзя:

«Лебедзь пахож на гуску. А хто з вас, дзеці беларускія, не пасвіў гусей, каго не пачаставаў гусак цвёрдымі скрыдламі? Канечне, усе знаеце гусей. Во тож лебедзь пахож на гуску, але так пахож, як пан, мяркуючы, пахож на мужыка».

І далей, праводзячы гэта параўнанне — лебедзя з панам, а гусака з мужыком, — Цётка піша:

«Лебядзінага пуху не шмат. А панскай працы яшчэ менш на свеце. Любіце, дзеці, гусачак, бо на іх падушках спіцё, любіце мужыкоў яшчэ больш, бо з іх працы жывяцё».

У апавяданні «Рыжая» намечана тэма, якая потым знойдзе развіццё ў творы Цёткі «Міхаська». З брыдкай рыжай дзяўчынкі ўсе смяюцца, дражняць яе, а потым выяўляецца, што сваім характарам дзяўчынка нашмат лепшая за сваіх крыўдзіцеляў, гэта пачынаюць разумець і тыя дзеці, якія раней смяяліся з «Рыжай».

У кніжачцы «Гасцінец для малых дзяцей» змешчана сем кароценькіх апавяданняў, акрамя іх — загадкі, прыказкі, прымаўкі. Гэта была першая кніжка мастацкіх твораў для дзяцей на беларускай мове, і трэба разумець усю важнасць такога выдання.

Акрыленая поспехам — удалося выдаць два зборнікі сваіх вершаў, брашуру для сялян і кніжачку для дзяцей, — Цётка пачынае верыць, што тут, у Жоўкве, можна сапраўды шырока разгарнуцца — наладзіць выпуск кніг для беларускага народа. Яна поўная ўжо творчых планаў, у яе ўжо распрацавана вялікая праграма дзеяння.

У Пецярбург, да Браніслава Эпімах-Шыпілы піша Цётка са Львова ліст, у якім расказвае аб сваіх планах, просіць дапамогі.

«Дужа паважаны прафесар!

Выбачайце, што незнаёмая і пішу да Вас. Я Пашкевічанка, Вам аба мне казаў Іваноўскі, бо то калісь прабавала вершы пісаць і іх Вам чыталі. Во тож цяпер жыву я ў Львове, з украінцамі-русінамі і уніятамі заводжу знаёмства. Шмат нам спрыяюць,

памогуць у чом сіла. Цяпер покі што будуць друкаваць па-беларуску. Калі маеце што, то прышліце. Я хачу даведацца ад Вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанетыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народа, дык не ведаю, як чаго трымацца.

Скора вышлю кніжкі аб уніі для акадэмікаў духоўных на Ваш адрас для Будзькі. Вы, шаноўны прафесар, закіньце перад імі слова за унію, бо яны Вас вельмі шануюць і паважаюць.

Унія для беларусаў была б крэпкай падпорай, бо лацінскае духавенства ў нас на нішто.

Бывайце здаровы, пане прафесар, мо напішаце колькі слоў? Адрас: Львоў, Сыкстуцкая, № 39.

З паважаннем. Пашкевічанка.

28 чэрвеня 1906 года.

Пане прафесар, мо будзеце ласкавы прыслаць мне народныя песні Шэйна».

Пры цытаванні гэтага пісьма звычайна апускаліся радкі пра унію. Сапраўды, не вязаліся з вобразам Цёткі, палымянай рэвалюцыянеркі, пошукі ёю нейкага новага Бога для беларускага народа. І лягчэй было закрэсліць гэтыя радкі, чым разабрацца ў іх.

Безумоўна, што ксяндзы зусім скампраметавалі сябе перад народам, Цётка сама піша, што «лацінскае духавенства ў нас на нішто». Аднак рэлігія, вера здавён цэментавала народ, аб'ядноўвала яго ў нацыю, а беларусам акурат і не хапала гэтага «цэменту», католікаў перацягвалі на свой бок палякі, праваслаўных — рускія. У пошуках яднання беларусаў як нацыі, і беларусаў-католікаў, і беларусаў-праваслаўных, Цётка і звяртаецца да уніі, у якой шукае выйсця. Адсюль і малітоўнік для дзяцей на беларускай мове, і знаёмствы з уніятамі, пра якія піша ў лісце да прафесара, і кніжкі пра унію, што абяцае прыслаць для акадэмікаў.

З ліста да прафесара відаць, як нялёгка было Цётцы пачынаць выдавецкую справу далёка ад радзімы, на голым, можна сказаць, месцы, калі не існавала яшчэ стабільнай беларускай граматыкі і невядома было, як правільна пісаць тое альбо іншае слова.

Паэтэса пытаецца ў прафесара, што чутно з букваром, ці гатоў ужо. Відаць, яна мела на ўвазе «Беларускі лемантар», які ў гэты час рыхтаваўся да друку ў выдавецкай суполцы «Загляне сонца і ў наша аконца». Гэта быў першы беларускі лемантар, па якім дзеці маглі б вывучаць літары, маглі спасцігаць нялёгкую для іх навуку чытання.

У гэтай жа суполцы і ў той жа час рыхтавалася і другая кніжка — «Першае чытанне для дзетак-беларусаў», напісаная Цёткаю.

Вось да гэтай кніжачкі, дзіцячай, аўтарка ўпершыню дапасавала свой рэвалюцыйны псеўданім, упершыню свой літаратурны твор падпісала псеўданімам — Цётка. І гэты псеўданім аказаўся тут вельмі дарэчы — з маленькімі чытачамі гаварыла іх старэйшая сяброўка, гаварыла цётка, родная цётка, якая вельмі хацела дабра сваім пляменнікам.

Пісьменніца і сама потым не раз абыграе гэты свой псеўданім — лісты да сваіх малодшых сяброў яна не раз падпіша: «Ваша родная Цётка».

Складалася «Першае чытанне для дзетак-беларусаў» з дзвюх частак. Першая — набраная буйнымі літарамі, над кожным словам — націск, каб дзеці вучыліся правільна вымаўляць словы. Тэксты, змешчаныя ў першай частцы, расказвалі маленькім чытачам пра тое, што было ім добра знаёма: як праходзіць нядзеля ў сялянскай сям'і, якая ў селяніна гаспадарка. Абразкі так і называліся: «Нядзеля», «Наша гаспадарка». Пісьменніца нібы паказвала дзецям, што пяром, мастацкім словам можна апісаць усё жыццё селяніна, кожны яго дзень, расказаць пра яго клопаты.

Апрача таго, Цётка, як добры педагог, ведала, што малым будзе лягчэй пазнаваць навуку чытання па тэкстах, ім зразумелых.

У першай частцы чытанкі змешчаны абразок «Сварба», у якім ярка і вобразна апісваліся з'явы прыроды.

Вясну і зіму Цётка паказвае дзецям як жывых істот, што сварацца паміж сабою — каму зараз трэба панаваць на зямлі. Перамагла вясна, бо ёй час заступаць на работу, і Цётка паказвае крыўду зімы:

«Бедная зіма заплакала горка на людзей, слёзкі яе цяклі са стрэх, білі па абалонках, разліваліся па зямлі, збягалі ў лужы, з лужаў у рэчкі, з рэчак у моры, з мораў у акіяны».

Услед за абразком «Сварба» Цётка змяшчае верш «Вясна», пастаўленыя побач, яны ствараюць свежы, веснавы настрой, дапаўняюць адзін аднаго паэтычнай вобразнасцю.

І пасля кожнай навелкі-замалёўкі Цётка стараецца змясціць вершык на тую ж тэму, нібы хочучы паказаць, што ўсе з'явы жыцця могуць быць апісаны і паэтычным радком, могуць служыць і аб'ектам паэзіі.

Другая частка «Першага чытання» звернута ўжо да больш спрактыкаванага чытача — тэксты тут набраны драбнейшымі літарамі, няма націскаў над складамі.

Пачынае другую частку чытанкі верш Цёткі «Мой сад», у якім паэтэса апявае хараство саду ў любую пару года — і тады, калі стаіць ён, заліты майскім сонцам, і летам, калі спеюць у ім ігрушы, і калі гуляе па ім восень, і калі засыпае яго снегам зіма. Няйнакш апісвала Цётка сад, які разлягаўся пад вокнамі роднай хаты.

Люблю мой сад ў маёвым ранку,
Як тоне ён ў расістай мгле,
Як ліпа шэпчацца пры ганку
І як зязюлька «ку-ку» шле…

У другой частцы «Першага чытання» змешчаны і верш Цёткі «Родная вёска», у якім паказана вялікая любоў паэтэсы да сваёй зямлі.

Поўны яркіх паэтычных вобразаў верш Цёткі «Лес»:

Высокі лес, шумі-скрыпі,
Расу хавай,
Ў раку ўлівай;
Грыбы расці.
Не дай цвісці
Жалобным кветкам.
Нясі палеткам
Свой доўгі цень,
Кладзі на пень
Ў гірлянды мох, —
Сцялі пасцель,
Каб кожны мог
Прылегч спачыць…

Лес у вершы выглядае як казачнае царства, поўнае таямніц і прыгажосці.

Поўная рамантыкі карціна буры ў лесе. Гром, маланкі, град палохаюць усё жывое, толькі не паэтэсу, яна захапляецца магутнай сілай прыроды, яе бурнай стыхіяй.

Цётка малюе і карціны спакойнага, задуменнага лесу, калі стаіць ён зімою, прысыпаны снегам, і зялёная елка — «быццам з пудэлка» — быццам намаляваная.

Верш сведчыць і пра тое, як добра адчувала Цётка прыроду, як тонка разумела ўсе яе праявы, нораў кожнай жывой істоты, асаблівасці кожнай раслінкі.

У «Першым чытанні для дзетак-беларусаў» Цётка змяшчае і прыпеўкі, прыказкі, загадкі, каб прывіць дзецям любоў да народнай творчасці, дапамагчы спасцігнуць яе мудрасць, хараство і паэтычнасць яе вобразнасці.

«Гасцінец для малых дзяцей» і «Першае чытанне для дзетак-беларусаў» былі першымі кніжкамі для дзяцей на беларускай мове, з іх пачала Цётка сваю працу на ніве асветы беларускага народа, ёй, гэтай працы, аддала потым шмат сіл і энергіі.

## ДАДОМУ

Стаяла гарачае лета. Львоўскія камяніцы, брук за дзень награваліся так, што і ноччу недзе было дзецца ад духаты. Здавалася нават, карыятыды ды атланты, што падпіралі сваімі плячыма балконы і дахі львоўскіх будынкаў, абліваліся потам. Дрэвы ў парках і скверах амаль не варушылі густым лісцем, неба над горадам вісела распаленае, белае, без хмурынкі.

І міжволі ўспаміналася роднае неба, па якім цяпер, мусіць, плывуць аблачынкі, успаміналася шырокая Вілія, ад якой у летнюю спёку вее прахалодай.

Тут за горадам спелі сланечнік, кукуруза, але вецер часам прыносіў пахі, якія напаміналі роднае, і тады здавалася, што бачыш, як за гумном цвіце бульба, чуеш, як шапацяць жытнія каласы, як пахнуць травы. Уяўлялася родная вёсачка Стары Двор, што параскідала хаты — адну на пагорак, другую ў лагчыну, а воддаль ад вёсачкі ліпавы гай, у якім стогадовыя дрэвы. Ніколі не адлучаліся яны ад дому, стаяць цяпер у пахучым цвеце, п'юць з зямлі жыватворныя сокі, каб потым лячыліся людзі, п'ючы ліпавы навар, і шэпчуць разгалістыя кроны аб вечнасці.

А навакол — прастор, палі, лугі, ад лесу плыве хмельны пах хвоі, ён змешваецца з пахам ліп, з пахам скошанай канюшыны, і ўсё гэта — водар Айчыны.

Радзіма была штодзень у думках, у сэрцы, у кожным нерве. І вабіла, клікала назад, дадому. Акрамя таго, ляжалі ў пачках гатовыя кнігі, і трэба, каб яны трапілі да сваіх чытачоў, трэба завезці іх у Беларусь.

Зноў чакала, што там нешта пераменіцца, але весткі прыходзілі ўсё такія ж нярадасныя. Потым вырашыла — ці пан, ці

прапаў. І ў жніўні 1906 года Цётка нелегальна едзе ў Беларусь, перавозячы з сабою цераз мяжу зборнікі вершаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская», брашуру «Як мужыку палепшыць сваё жыццё» і «Гасцінец для малых дзяцей». Перавозіць вялікі груз дапамагаў украінскі сябар, які разам з ёю ехаў са Львова ў Расію.

У Вільні Цётку сустрэлі з радасцю, кнігі пайшлі ў віленскія кнігарні, а што проста разабралі па руках. Далей жа высветлілася, што самаўладства не забылася фельчаркі Алаізы Пашкевіч, што справа аб рэвалюцыйнай арганізацыі ў Нова-Вілейскай лячэбніцы не спынена, што ўжо шмат хто сядзіць за кратамі, што шукаюць астатніх… (Следства аб рэвалюцыйнай арганізацыі ў Нова-Вілейскай лячэбніцы цягнулася да 1909 года.)

Пакіравалася ў Стары Двор, але і там паяўляцца адкрыта было небяспечна, і разам з таварышам, які з ёю прыехаў са Львова, яны хаваюцца некаторы час у зямлянцы каля Старога Двара. Пра гэта расказвае сваяк Цёткі Восіп Міхневіч.

«Цётка прыехала з Украіны з хахлом і хавалася з ім у лесе, потым папрасіла бацьку, каб завёз іх на станцыю. Мы з Болесем Яхноўскім завозілі Цётку з хахлом на станцыю. і Цётка давала нам па дарозе афішкі — лістоўкі. Потым Яхноўскага з гэтымі афішкамі затрымаў ураднік…»

Ці з Украіны прывезла Цётка з сабою «афішкі», ці набрала іх ужо ў Вільні — невядома, але факт, што адразу ж, толькі ступіўшы на родную зямлю, яна ўключаецца ў работу, не збіраецца сядзець ціха і мірна.

У гэты час віленскія грамадоўцы дабіліся дазволу на выданне першай легальнай беларускай газеты «Наша доля», і Цётка, рызыкуючы, што яе могуць выкрыць і арыштаваць, застаецца жыць у Вільні, каб прыняць удзел у выданні газеты.

Век газеты быў кароткі, выйшла ўсяго шэсць нумароў, і ўсё ж «Наша доля» адыграла вялікую ролю ў развіцці грамадскай думкі на Беларусі. Яна заносіла ў самыя глухія куткі перадавыя ідэі свайго часу, выхад газеты быў вельмі важнай падзеяй і ў культурным, літаратурным жыцці беларускага народа. Максім Гарэцкі пісаў, спасылаючыся на сведкаў таго часу:

«Вестка аб легальнай беларускай газеце пракацілася па ўсёй Беларусі, як першы вясновы гром. Захаваліся пераказы і мемуары таго часу, што людзі плакалі ад радаснай навіны, чытаючы пра выхад «Нашай долі». А на вуліцах Вільні газету бралі нарасхват, чыталі вялікімі гурткамі і плацілі часам за нумар вялікія грошы, каб толькі яго атрымаць.

Калі газета дайшла ў правінцыю, беларускія сяляне пачалі слаць у рэдакцыю безліч пісьмаў, таксама змочаных слязьмі і спісаных простымі мужыцкімі, але цвёрдымі і натхнёнымі словамі абуджаных сыноў Беларусі».

Янка Купала напісаў верш, прысвечаны выхаду ў свет «Нашай долі».

… «Доля» хай адважна
Ляціць к нам, загнаным,
К грамадзе нашай сярмяжнай,
К горам гартаваным, —

такімі словамі вітаў вялікі беларускі паэт выхад першага нумара газеты.

Якуб Колас у «Нашай долі» надрукаваў свой першы верш «Наш родны край». У вершы «Беларусам», змешчаным у трэцім нумары газеты, ён заклікаў беларускі народ да барацьбы супраць самаўладства:

Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі,
Ўстань ты, наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палаткі
Жыцця новага вясна!

У «Нашай долі» Якуб Колас надрукаваў і апавяданне «Свабода», у якім востра высмейваў царскі паліцэйскі апарат.

У канцы 1906 года Якуб Колас прыязджаў у Вільню, сустракаўся з беларускімі літаратарамі, нават рабіў спробу застацца ў Вільні і працаваць у «Нашай ніве», якая пасля задушэння «Нашай долі» засталася адзіным беларускім выданнем, і цяжка дапусціць, каб у час гэтага свайго прыезду Якуб Колас не пазнаёміўся з Цёткаю, якая ў «Нашай долі» змяшчала яго першыя творы. Але фактаў аб знаёмстве Цёткі з Якубам Коласам на сённяшні дзень, на жаль, няма.

Цётка вельмі многа працавала над кожным нумарам «Нашай долі», пісала артыкулы, рэдагавала, правіла матэрыялы. Няма сумнення ў тым, што ўдзел Цёткі ў выданні першай легальнай беларускай газеты шмат у чым вызначыў яе кірунак. Радыкалізм, уласцівы «Нашай долі», быў у пэўнай меры вынікам радыкалізму Цёткі. Шмат у якіх матэрыялах газеты адчуваюцца рука, літаратурны стыль, пафас і непрымірымасць, такія ўласцівыя беларускай паэтэсе-рэвалюцыянерцы.

Падчас работы ў «Нашай долі» Цётка адчувала новы прыліў творчых сіл. Радавала тое, што яна зноў на радзіме, зноў у гушчы падзей, прыносіў надзею і новы ўздым рэвалюцыйнага руху, які ў канцы 1906 года набываў новую сілу. З грудзей вырываліся радкі, поўныя жаданай радасці, поўныя баявой энергіі.

Зноў навіслі цёмны хмары,
Зноў туманы неба крыюць;
Зноў па свеце ходзяць мары,
Зноў крапчэй нам віхры выюць.
Зноў надходзіць для нас бура,
Зноў маланкі бягуць радам,
Зноў шалее ўся натура,
Зноў засыпле свежым градам.

Знаходзячыся на нелегальным становішчы, Цётка ходзіць на заводы, выязджае ў вёскі, каб ведаць, чым сёння, у гэты час, у гэтую хвіліну, жывуць рабочы, селянін, каб прынесці ім слова падтрымкі. Стэпонас Кайрыс успамінае:

«Поўна яе было ўсюды. Працавала ў газеце, брала ўдзел у сходах, прамаўляла на мітынгах, выступала як прадстаўніца Беларускай сацыялістычнай грамады на нарадах дэлегатаў рэвалюцыйных партый… У асобе Цёткі малады беларускі рух здабываў не толькі адданую ўсёй душой працаўніцу, але і няўтомную ініцыятарку самога руху».

І шмат думала — чаму так выходзіць, чаму перамога, якая, здавалася, была ўжо ў руках, як прывід, адступае ўсё далей, чым бліжэй да яе падыходзіш? І калі нарэшце можна будзе дакрануцца да яе, адчуць?

За плячыма была ўжо вялікая навука канспірацыі, была эміграцыя, нелегальныя паездкі па Расіі, жыццё без пашпарта і пад чужым пашпартам.

Набываўся вопыт барацьбы, хоць прыходзіў гэты вопыт, пакідаючы добрыя гузы. Было ясна, што вораг, супраць якога паўстала працоўная Расія, яшчэ вельмі дужы, і не так лёгка яго зваліць, як раней здавалася. А цяпер, раздражнёны, ён набраўся яшчэ большай злосці, будзе крышыць і нішчыць усё, што трапіць пад руку.

За плячыма быў вопыт пятага года, які нельга было назваць інакай, як крывавым. Той-сёй пачынаў ужо са страхам глядзець у будучыню — што ж там, наперадзе, хутка два гады калоціцца

Расія, хутка два гады безупыннай, жорсткай барацьбы, а дзе перамога — царскі маніфест, з якога можна толькі пасмяяцца?

І смяяліся з маніфеста, аднак хацелі скарыстаць і так званую прывідную свабоду слова, якую ён дакляраваў.

У 1906 годзе ў Расіі з'явілася як ніколі шмат сатырычна-палітычных часопісаў: «Нагаечка», «Забіяка», «Залп», «Люстэрка», «Жупель», «Вампір», «Стрэмка», «Кулямёт», «Полымя», «Вадаварот», «Злы дух», «Біч» — гэта далёка не поўны іх пералік.

Бытавых праблем не ўзнімалі, друкавалі толькі палітычную карыкатуру, палітычныя артыкулы, фельетоны. Век гэтых часопісаў быў кароткі, яны нараджаліся, успыхвалі пякучым полымем і пад брандспойтам цэнзуры тут жа тухлі, гінулі. Але і за кароткае жыццё сваё паспявалі нямала зрабіць.

Часопіс «Нагаечка» змясціў малюнак, на якім быў паказаны прыход новага, шостага года — малады год, толькі з'явіўшыся на свет, у страху схапіўся за галаву, бо ўбачыў, што яму пакінуў у спадчыну пяты: лужыны крыві, чарапы, горы мерцвякоў. На будынку палымнеў прастрэлены сцяг рэвалюцыі, стары год нёс у вечнасць на сваіх плячах ганьбу вайны, казнакрадства, беззаконне, за спінаю новага, шостага стаяла смерць з касою.

Амаль усе гэтыя часопісы малявалі Расію ў вобразе спакутаванай жанчыны, залітай крывёю. Паведамлялася аб тым, што за апошнія гады ў Расіі расстраляна людзей больш, чым за ўсе гады загінула ад самай лютай халеры.

Малюнкі і фельетоны абуджалі не адчай, а нянавісць,клікалі да помсты. Непрымірыма крытыкаваліся тыя, хто стаяў ля ўлады, — Вітэ, Дурнаво і сам Мікалай II. Нягледзячы ні на што, сцвярджалася вера ў перамогу рэвалюцыйнага народа. Часопіс «Жупель» маляваў свабоду ў вобразе лакаматыва з запаленымі фарамі, які імчаў праз цемру. Часопіс «Вампір» увасабляў свабоду ў вобразе вялікага сонца, якое хочуць утапіць у моры міністры, буржуі і папы, ды ўтапіць ніяк не могуць.

Сатырычна-палітычныя часопісы канфіскоўваліся адзін за адным, рэдактараў арыштоўвалі і садзілі ў турмы, але з'яўляліся новыя адважныя, і ў свет выходзілі новыя вясёлыя выданні. Рэдактары зноў смяяліся з маніфеста, які абяцаў свабоду слова, смяяліся са сваёй бяды: «Рэдактары-выдаўцы не могуць карыстацца дзвюма свабодамі адразу — заставацца на свабодзе і свабодна пісаць».

Для тых, хто аддаў сябе рэвалюцыі, было ясна, што адступаць няма куды, што ніякія рэформы Расію не выратуюць.

Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя ў газеце «Партыйныя весці» пісала:

«Той складаны вузел сацыяльна-палітычных і эканамічных канфліктаў, што так доўга завязваўся, не можа быць развязаны павольным, марудным рэфарматарствам, ён можа быць толькі рассечаны мечам рэвалюцыі».

Перадавы сацыял-дэмакратычны друк моцна ўплываў на рэвалюцыйны рух і на друк ускраін царскай Расіі. Ён вучыў непрымірыма і адважна адстойваць свае правы, ён жывіў веру ў перамогу святла над цемраю.

Безумоўна, што і на «Нашу долю» ўплываў гэты друк, беларуская газета імкнулася кіравацца ў рэчышча, у якім бурліла прагрэсіўная думка ўсёй Расіі. Такія допісы, як «Даход расійскага цара», «Выдаткі на стражнікаў і паліцыю» былі яўна запазычаны «Нашай доляй» з іншых рэвалюцыйных выданняў і выкрывалі эксплуататарскую палітыку самаўладства. Шмат іншых матэрыялаў таксама ставілі пытанні агульнадзяржаўныя.

Адной з такіх агульнадзяржаўных праблем з’яўлялася і праблема зямлі, праблема мужыка, якому на яго зямельнай палосцы было і вузка, і цесна.

Гэта пытанне вельмі моцна хвалявала Цётку як ідэолага працоўнага народа, як яго абаронцу.

Зноў і зноў уставалі вобразы роднай Беларусі — цесныя палоскі зямлі, неўраджайныя нівы, а побач — абшары панскіх палеткаў, лясы, лугі, палі, на якія не мае права чалавек працы.

Уставаў вобраз беларускага селяніна — змучанага непасільнай працай, прыгнечанага, цёмнага, прыніжанага, як і ўся Беларусь.

Але чаму гэты мужык адчувае сябе такім бяссільным? Ён жа не адзінокі на свеце, ён жа пагадаваў сваіх дзяцей. Хіба не яго сын — рабочы, які паехаў у Пецярбург шукаць хлеба? Хіба не яго сын — салдат у войску? Чаму яны пакінулі свайго бацьку? Павінны заступіцца!

Вобразы не давалі спакою, не спынялася работа думкі, і нараджаўся твор, які будзе называцца «Прысяга над крывавымі разорамі». У ім праз вобразы вялікага мастацкага абагульнення Цётка дасць адказ на самыя хвалюючыя пытанні часу.

Апавяданне было змешчана ў першым нумары «Нашай долі» і па сваёй алегарычнасці, па сімволіцы, па напале страсці блізка стаяла да вершаў паэтэсы.

У цэнтры апавядання селянін Мацей, які ўвасабляе ўсё беднае сялянства Беларусі, клопаты Мацея, яго мары — гэта клопаты

і мары беларускага мужыка, пазбаўленага зямлі, змушанага працаваць на пана, хадзіць на адработкі.

Пачынаецца апавяданне малюнкам асенняга дня:

«Быў цёплы асенні дзень. Нівы ціха адпачывалі пасля летняй працы. Цёмны лес шаптаўся ў глыбокай задуме. Буслы тужліва ляцелі на вырай».

Сумная замалёўка асенняга дня, нібы камертон, дасць настрой усяму твору: лес, што шэпчацца ў задуме, буслы, што тужліва ляцяць на вырай, — усё гэта стварае карціну, якая будзе адпавядаць стану і настрою Мацея, што, маркотны і згорблены пад цяжкаю хмарай невясёлых дум, ледзьве-ледзьве поўз у поле.

Мацей ужо стары і хворы, у яго баліць галава, баляць рукі, але ён змушаны сам ісці на сваю палоску зямлі, бо падсобіць Мацею няма каму: сыноў, якіх ён гадаваў, няма дома — «аднаго ўзялі ў маскалі, другі паехаў да Пецярбурга шукаць хлеба, трэці пайшоў за парабка да двара…»

Тое, што ў Мацея трое сыноў і што адзін з іх салдат, другі — рабочы, а трэці — парабак — сімвалічна. Сыны Мацея, як тыя біблейскія тры кіты, на якіх трымаецца зямля, — так на спінах Мацеевых сыноў трымаецца Расія, яны — тая сіла, без якой наогул не можа існаваць свет, — і пояць, і абараняюць ад ворагаў.

Тым, што і рабочы, і парабак, і салдат — сыны Мацея, селяніна, Цётка яшчэ раз хоча падкрэсліць — не можа быць паміж імі антаганізму, яны — сыны аднаго бацькі, і адны павінны быць у іх інтарэсы, не можа рабочы пакрыўдзіць селяніна, і не павінен салдат падняць зброі на рабочага.

Мацей ішоў у поле, і сумныя думкі трывожылі яго душу:

«Бедната, адзіноцтва, сілы ўжо не тыя, — а рабі і рабі, працуй без канца… Мардасовічу — за лён, Бізуноўскаму — за пашу, а там і за бульбу плужы і плужы штодзень на адработках, так што сваё, хоць і вузка, але і то лында, і то няхват часу ў пару засеяць».

Хворы Мацей прыйшоў на сваю палоску зямлі. Перамагаючы нямогласць, зачэрпнуў з фартуха зярнят і са словамі: «Радзі, Божа», кінуў іх на чорную глебу.

Аднак адчуваў Мацей, што працаваць не можа — зярняты мігцелі перад вачыма, балела галава, і спаць вельмі хацелася. Не падсцілаючы, ён лёг на чорную зямлю і заснуў.

«Спаў, як пласт, упоперак загона з раскінутымі рукамі. Ліцо было бледна, губы чорны ад смагі; дыхаў ён часта і з якімсь хрыпам. Здалёк выглядаў на чалавека, каторага вот-вот раскрыжавалі і прыбілі да зямлі, і так ён паволі канае…»

З плана рэалістычнага, у якім пачыналася апавяданне, Цётка пераводзіць яго ў план сімвалічны. Ужо гэты вобраз — Мацей здалёк выглядаў на чалавека, якога раскрыжавалі, прыбілі да зямлі, і так ён паволі канае — сімвалічны. Так распята на крыжы пакут усё беднае беларускае сялянства, так яно паволі канае ад мук.

Мацей спаў і сніў, што на яго ніве сабраліся людзі, і маладыя, і старыя, і мужчыны, і кабеты, і ўсе крычалі: «Вузка! Цесна! Мала!»

І здалося Мацею, што прыбег яго сусед Астап, заціснуўшы кулакі, закрычаў так гучна, яшчэ мацней за Мацея: «А скуль узяць? Скуль дастаць? Кажы, скуль?..»

Тады захістаўся народ і зароў:

— Глядзіце, во прасторы! Во нівы, лясы, палі! Усё гэта наша!..

А Астап:

— Лжэце! Няпраўда! Не дадуць: то казённае, дворнае, — ні я, ні вы не маем права. Не дадуць, паб'юць!»

На пытанні, на сумненні Астапа адказалі сыны Мацея.

Яму ў сне здаецца, што з цьмы народу выйшлі тры яго сыны: парабак дворны, салдат і рабочы пецярбургскі. Яны сталі на калені і прысягнулі гучна, ясна, паволі: «Мы дамо! Мы — сіла! Мы — права!

…толькі разоры стаяць, поўныя крыві, а над імі вісяць тры скрыжаваныя далоні… І раздаецца ціха ясны голас:

— Мы сіла! Мы права!..»

Зноў сімвал — тры скрыжаваныя далоні, далоні парабка, рабочага і салдата. Сімвал яднання, сімвал саюзу ў рэвалюцыйнай барацьбе рабочых і сялян, бо салдат, сын Мацея, таксама селянін. Які адкрыты заклік да саюза рэвалюцыйных сіл і якая цвёрдая вера, што толькі яны — рабочыя, селянін і салдат — могуць здабыць свабоду свайму народу, даць зямлю беззямельнаму…

У «Нашай долі» надрукавала Цётка і верш «Наш палетак», у якім зноў выказвала клопат пра развіццё нацыянальнай беларускай культуры, літаратуры.

З уласцівай ёй алегарычнасцю і нацыянальнай вобразнасцю работу на ніве культуры Цётка параўноўвае з работай на зямлі, на палетку. Ёй балюча, што гэты наш палетак зарос палыном, закіданы каменнямі, што на ім нічога не расце.

Ці то глеба да нічога?
Ці то рукі ў нас слабыя,

Ці не маем зерня свога,
Што мы ходзім, як сляпыя? —

пытаецца Цётка і тут жа адказвае, што і глеба ў нас добрая, і сіла ў руках ёсць, толькі беларус дагэтуль не мог працаваць на роднай ніве, яго талентам карысталіся іншыя народы. «Ён не раз там плёны выдаў, а ў нас раслі каменні», — піша Цётка. І заклікае беларусаў выйсці на свой палетак, узяцца за работу, рабіць хто што можа, каб разам узараць цаліну:

Ну-ка, братцы, кумы, сваты,
Да работы станьма жыва!
Хто араці добра зможа,
Хто разоры скора ладзіць,
Хто шчасліва сее збожжа,
Хто гароды добра садзіць, —
Жыва, жыва за работу!
Без аглядкі, хто што можа…
Усіх праца будзе гожа!

Выйшла толькі шэсць нумароў «Нашай долі», на працягу выхаду ў свет і гэтых шасці нумароў тыражы газеты неаднаразова канфіскоўваліся, арышт накладваўся на першы, трэці, чацвёрты і пяты нумары. Пасля канфіскацыі шостага нумара на афіцыйнага рэдактара «Нашай долі» Івана Адамавіча Тукеркеса была заведзена судовая справа. Яму выстаўлялася наступнае абвінавачанне:

«Віленскі мешчанін Іван Адамаў Тукеркес, 25 гадоў, абвінавачваецца ў тым, што ў 1906 годзе ў Вільні быў рэдактарам штотыднёвай газеты на беларускай мове “Наша доля”, надрукаваў і распаўсюдзіў:

1. № 1 названай газеты ад 1 верасня 1906 г., змясціўшы ў гэтым нумары артыкул пад назваю “Што будзе?”, які, заведама для яго, заклікаў да ўчынення бунтоўных дзеянняў. Артыкул сцвярджаў, што пасля таго. як урад распусціў Дзяржаўную думу і гэтым даказаў, “што не дасць народу ні зямлі, ні сапраўднай свабоды”, народу заставалася толькі самому падумаць аб сваім лёсе, і народ, зразумеўшы гэта, “выступіў на бой за шчасце ўсяго пралетарыяту”, што меры рэпрэсій, якія прымае ўрад і якія выявіліся ў тым, што ён “крывёю заліў наш край”, не супакояць народ, бо “кроў забітых братоў цяжка забыць, слёзы і ўдоў і сірот не даюць спакою ні ўдзень, ні ўночы”, што лепшае жыццё для народа можа наступіць толькі пры ўмове перадачы ўлады народ-

ным прадстаўнікам, выбраным на аснове ўсеагульнага, прамога, роўнага і тайнага галасавання, што калі ўрад не згодзіцца выканаць "волю народа" і перадаць уладу ўказаным прадстаўнікам, то "барацьба будзе працягвацца… будзе ліцца кроў", заклікаў да ўзброенага паўстання для змены дзяржаўнага ладу перадачаю дзяржаўнай улады ў рукі народных прадстаўнікоў, выбраных на аснове ўсеагульнага, прамога, роўнага і тайнага галасавання.

2. № 3 той жа газеты ад 20 верасня 1906 г., змясціўшы ў ім артыкул "Як мужыку палепшыць сваё жыццё", які заведама для яго ўзбуджаў да звяржэння існуючага ў Расійскай імперыі грамадскага ладу, у якім рабочыя і хатняя прыслуга, для якой "роўныя работа і плата за яе і панскае рабаўніцтва". Беззямельныя і малазямельныя сяляне, чыншавікі і арандатары заклікаюцца арганізоўвацца ў саюзы, якія будуць вялікаю сілай у барацьбе з багацеямі за шчасце ўсяго рабочага народа і затым, злучыўшыся з гарадскім рабочым пралетарыятам, агульнымі сіламі зменяць існуючы зараз, створаны "не Богам, а людзьмі" парадак грамадскага строю, пры якім усюды будуць і багачы, і бедныя, і людзі будуць жыць з цяжкай працы другіх, самі нічога не робячы.

На аснове вышэй выкладзеных меркаванняў судовая палата прыгаварыла заключыць Тукеркеса ў крэпасць на адзін год, забараніць Тукеркесу прымаць на сябе званне выдаўца на працягу трох гадоў, выданне ж газеты "Наша доля" спыніць назаўсёды».

Пасля суда, які адбыўся над рэдактарам «Нашай долі», віленскі губернатар дакладваў у Галоўнае ўпраўленне па справах друку:

«Пракурор Віленскай судовай палаты адносінаю ад 12 бягучага студзеня за № 127 паведаміў мне, што Віленская судовая палата, разгледзеўшы ў судовым пасяджэнні 11 студзеня справу аб рэдактары-выдаўцы газеты "Наша доля", якая выдаецца ў Вільні на беларускай мове, Івану Адамавічу Тукеркесу, які абвінавачваецца па 1 і 2 пп. 129 арт. крымінальнага ўлажэння і 6 арт. 8 аддз. часовых правіл аб пачасовых выданнях, 24 лістапада прыгаварыла:

"Падсуднага рэдактара-выдаўца газеты «Наша доля» мешчаніна г. Вільні Івана Адамавіча Тукеркеса, 25 гадоў, заключыць у крэпасць на адзін год з забаронаю яму прымаць на сябе званне рэдактара альбо выдаўца якога б то ні было пачасовага выдання на працягу трох гадоў, само ж выданне «Нашай долі» спыніць назаўсёды"».

Аўтарства артыкула «Як мужыку палепшыць сваё жыццё», што фігуруе ў судовай справе, як адзначалася вышэй, прыпісва-

еццa Цётцы, і зусім магчыма, што гэта так, нездарма яна ўзяла яго з сабою ў эміграцыю і выдала там асобнай брашурай.

У артыкуле «Што будзе?» таксама адчуваецца рука, стыль Цёткі, хаця канкрэтнага доказу, што пісала яго іменна яна, — не знаходзім. І ўсё ж няма сумнення ў тым, што іменна радыкалізм Цёткі, непрымірымы, рэвалюцыйны пафас яе публіцыстыкі быў адной з прычын канфіскацыі нумароў газеты, а потым і поўнай яе забароны, бо сам Тукеркес да творчасці, да напісання артыкулаў не меў ніякага дачынення, ён быў, як гэта кажуць, падстаўная асоба і яшчэ асоба камерцыйная.

Па ўспамінах сучаснікаў, Цётка была адным з самых актыўных дзеячаў газеты, ае пяру належала найбольш артыкулаў.

Забарона «Нашай долі» з’явілася для Цёткі яшчэ адным ударам, яшчэ адным выпрабаваннем. Суцяшала тое, што работа, думкі, энергія не засталіся толькі ў душы, у грудзях, усё гэта шчыра аддадзена народу.

Уздым рэвалюцыйнага руху ў канцы 1906 года зноў змяніўся спадам, на гэты раз глыбокім. Рэакцыя распраўлялася з выданнямі, якія выступалі супраць самаўладства. Узмацнілася праследаванне тых, хто быў звязаны з рэвалюцыйным рухам. Арыштавалі Алеся Бурбіса, у турме ўжо сядзеў Карусь Каганец, Барыс Вігілёў быў вымушаны пакінуць Вільню, ён пераехаў у Віцебск.

Ярчэй, чым любыя словы, гаварыла статыстыка. Карэспандэнт літоўскай газеты «Скардас» паведамляў, што калі ў 1903 годзе палітычных зняволеных налічвалася ў Расіі 35 чалавек, то ў 1904 годзе — 187, у 1905 — 1303, а ў 1906 — 2000 чалавек.

Усё большая небяспека пагражала і беларускай паэтэсе, трэба было вяртацца ў Львоў.

## ЧАГО СЛОВАМ НЕ СКАЗАЦІ

Летам 1906 года ў Жоўкве, складаючы зборнікі сваіх вершаў, Цётка падзяліла іх і адны аб’яднала пад назвай «Хрэст на свабоду», а другія — пад назвай «Скрыпка беларуская».

Магчыма, Цётка хацела асобна вылучыць вершы, напісаныя па слядах бурных рэвалюцыйных падзей 1905 года. Магчыма, падзяляючы вершы на два зборнікі, хацела выратаваць ад цэнзуры, ад канфіскацыі хоць адзін з іх. Магчыма, па тэхнічных прычынах у той час зручней было друкаваць два невялікія зборнікі, чым адзін большы.

Адным словам, Цётка свядома падзяліла свае вершы на два зборнікі, і кожны з іх мае сваю тэму.

Асноўная тэма зборніка «Скрыпка беларуская» — гэта тэма мастацтва, тэма паэта, тэма творцы. Паэтэса выказвае свой погляд на мастацтва і на мастака, як разумее яна задачы, што стаяць перад ім, як разумее яго месца ў жыцці.

У гэтых вершах глыбока і поўна раскрываюцца эстэтычныя погляды Цёткі, разуменне ўзаемаадносін мастацтва і рэчаіснасці, мастака і народа. У гэтых вершах ключ да ўсёй творчасці паэтэсы, да яе грамадскай, асветніцкай дзейнасці, ключ да ўсяго яе жыцця.

Асноўны настрой зборніка «Скрыпка беларуская» мякка-лірычны, хоць бура, кіпенне, страсці прысутнічаюць і тут, толькі тут бура, кіпенне, страсці не на вуліцах, не на барыкадах, не на рэвалюцыйных мітынгах, а ў грудзях самой паэтэсы.

Як для характару Цёткі, так і для яе паэзіі вельмі ўласціва было спалучэнне баявога, страснага духу з мяккім лірызмам, задушэўнасцю, якія часам блізка падступалі аж да сентыментальнасці. Толькі добры мастацкі густ паэтэсы і яе талент не дазвалялі часам расслабляцца да слязлівасці, прымушалі спыніцца перад мяжою, за якою пачыналася гэта сентыментальнасць.

Нават самыя мяккія і задушэўныя вершы паэтэсы прасякнуты грамадскімі настроямі, у іх няма нічога асабістага, усё асабістае ў Цёткі — грамадскае, і ўсё грамадскае — асабістае.

У вершы «Мае думкі» паэтэса выказвае сваё запаветнае жаданне, і гэта запаветнае жаданне ў тым, каб сваё жыццё, сваю творчасць пакласці на алтар Айчыны, каб сваёй творчасцю, сваім жыццём палегчыць долю працоўнага чалавека.

Хацела б быць зярном пшаніцы,
Упасць на ніўкі вёскі,
Зазалаціцца, без мятліцы
Даць хлеб смачнейшы трошкі.
Хацела б быць я рэчкай быстрай,
Абегчы родны край!
Дзе напаіць, а дзе скупаць,
А дзе ўтуліцца ў гай…

Хочацца яшчэ раз звярнуць увагу на народнасць вобразаў Цёткі: яна хацела б зрабіцца зярном пшаніцы, каб смачнейшым быў сялянскі хлеб, яна гатова зрабіцца рэчкаю — каб напаіць родны край, вобразы ідуць ад зямлі, ад сялянскага жыцця. Ад народнага характару і мяккасць, лірычнасць запеву верша.

Але вось інтанацыі нарастаюць, гэта — як музыка, што пачынаецца з лірычнай ноты, калі ціха і пяшчотна іграюць скрыпкі, і пераходзіць у бурную, страсную мелодыю — ужо б’е бубен, грымяць літаўры. Паэтэса заяўляе, што яна хоча

Агнём кіпець у дне.
Ды так разгрэцца і спяніцца,
Каб у неба хваляй здаць,
Украсці сонца, зноў спусціцца
І больш света людзям даць.

А далей — зноў лірычныя ноты, задушэўнасць, калі сэрцу хочацца

Прыгарнуць усё ў дарозе,
Каплю шчасця, долі ўліць,
Думаць усюды аб народзе,
Родны край усюды сніць,
То рассыпацца расою
Па галінках, па лісткох,
То абняцца так з зямлёю,
Каб ніхто разняць не мог!

Сапраўды, так паэтычна, так вобразна магла сказаць толькі вялікая паэтэса: яна хоча «абняцца з зямлёю» — хіба можна больш поўна, больш глыбока, больш ярка і вобразна выказаць жаданне еднасці з радзімаю, з народам, да якіх імкнулася паэтэса!

У вершах «Скрыпка», «На магіле», «Артыст грайка» Цётка гаворыць аб вялікай сіле мастацтва, аб тым, што яно можа запальваць агнём людзей, будзіць у іх страсці, веру ў сваю сілу.

Паэтэса не ведае іншага сродку, як паэзія, каб выказаць свае асабістыя пачуцці, перадаць іх людзям, не ведае іншага сродку, як паэзія, каб уславіць жыццё, апець яго найлепшыя праявы.

Ў песні можна пераліці
Ўсё найлепша, наймілейша;
Ў песні можна даць пяруны,
Песняй сэрца рваць на часці;
Крэпкі толькі былі б струны,
Я заграла бы аб шчасці! —

піша Цётка ў вершы «Скрыпка».

А далей відаць, у чым бачыць паэтэса сваё шчасце, — гэта зноў не асабістае, не інтымнае, а грамадскае: шчасце паэтэсы ў шчасці свайго народа, свайго краю, шчасце ў тым, каб яе паэзія была насычана сокамі роднай зямлі, напоўнена духоўным багаццем простага народа.

У вершы «Лета» Цётка выказвае жаданне змаляваць усіх сваіх суседзяў, змаляваць прыгожую дзяўчыну Касю. Але яна баіцца, што ў яе не хопіць фарбаў, не хопіць паэтычнага майстэрства, каб карціна, створаная ёю, была па-сапраўднаму прыгожая, каб яна была праўдзівая.

Паэтэса збіраецца «пайсці светам», каб там «націснуць фарбаў», каб навучыцца ў сапраўдных мастакоў і потым ужо ўзяцца за работу.

І паэтэса «хадзіла светам», брала свае барвы з тых самых «нівак залацістых», са звону сярпа, касы, з матчынай песні над калыскаю, з усяго гэтага сплятала вянок паэзіі, шчодра дарыла людзям хараство.

У вершы «На магіле», сама назва якога кліча да мінорнага настрою, паэтэса славіць жыццё, марыць пра будучыню, яна верыць, што яе песня і пасля смерці будзе служыць людзям:

На магіле ўзыйду дубам,
Пачну шаптаць братнім губам
Аб іх долі, аб свабодзе,
Стану песняй у народзе!
Пастух дудку з мяне скруціць,
Як заграе, кроў замуціць…

«Пастух дудку з мяне скруціць», — зноў яркі вобраз — самаахвярнасць паэтэсы: не страшна і паміраць, калі пакінеш нашчадкам свой голас, застанешся песняю ў народзе.

Увесь верш «На магіле» напоўнены жывымі, страснымі інтанацыямі, імклівы рытм робіць верш экспрэсіўным, дынамічным.

Паэтэса заўсёды цесна звязвала мастацтва з рэвалюцыяй, у лісце да Я. Хлябцэвіча яна пісала:

«Геня, ці ведаеце Вы, якое рэвалюцыйнае значэнне мае мастацтва?..»

Мастак, на думку паэтэсы, гэта змагар, барацьбіт, а яго творы павінны запальваць масы агнём змагання і барацьбы, які гарыць у сэрцы аўтара.

Цётка паказвае і сам працэс творчасці, які прыносіць мастаку і вялікую радасць, і вялікія пакуты, калі мастак зліваецца з

песняю, зліваецца з тонам. зліваецца са сваёю скрыпкаю: «Весь у песні, весь у тоне, то смяецца, то зноў стоне…»

Творчасць забірае ў мастака ўсе яго сілы, і фізічныя, і духоўныя, яна паліць яго, як агнём, разрывае сэрца, вельмі нялёгка даюцца артысту вясёлыя ноты, якія чуе народ, і нездарма людскія сэрцы сціскаюцца, чуючы яго ігру, — у гэты час сэрца самога мастака абліваецца крывёю.

Сам музыка з скрыпкай зліўся
І, як вецер, ў неба ўзвіўся,
Весь у песні, весь у тоне,
То смяецца, то зноў стоне,
То людзей усіх абніме,
То адступіць, камень кіне…

Тут з’яўляюцца і новыя адценні ў паказе мастака, аўтарка «Скрыпкі беларускай» ужо імкнецца ўзвысіць паэта над светам, над людзьмі, паказаць яго асобаю, падначаленаю толькі свайму таленту, такія ноты не-не дый будуць з’яўляцца і пазней у творчасці Цёткі.

Гэта не значыць, што паэтэса схілялася да ідэалістычнага разумення працэсу творчасці, зусім не. Цётка паэтызавала самазабыццё, страсць творцы, і ў гэтай паэтызацыі ўзнімала вобраз мастака так высока, што адрывала, адлучала ад вобраза таго артыста, якога нядаўна апявала: цяпер ужо не сам музыка кіруе сваімі пачуццямі, сваёю скрыпкаю, а пачуцці, скрыпка кіруюць мастаком, вядуць яго ў чароўныя далі, недаступныя простым людзям, і тады — «што заграе, што забае, сам артыста толькі знае».

Пазней, у апавяданні «Зялёнка», Цётка напіша, як хворая дзяўчына, слухаючы выдатную ігру скрыпача, памірае ад хвалявання тут жа, у тэатры. Такую сілу бачыць паэтэса ў мастацтве, такою сілаю надзяляе мастака — ён гаспадар жыцця і смерці.

## НА ЧУЖЫНЕ

Апошні нумар «Нашай долі» быў канфіскаваны, газета спыніла сваё існаванне, рэдактара Адама Тукеркеса арыштавалі і прысудзілі да аднаго года зняволення. Пад небяспекаю апынуліся і тыя, хто выдаваў, рэдагаваў газету, у паліцыі было вядома, што Адам Тукеркес не з’яўляўся ідэйным кіраўніком выдання.

Цётцы пагражала двайная небяспека — яе маглі прыцягнуць да адказнасці як удзельніцу выдання, а каб пры гэтым раскрылася, што Цётка — тая самая фельчарка Алаіза Пашкевіч, якую даўно шукае паліцыя, то тэрмін зняволення ёй быў бы прысуджаны яшчэ большы.

Нічога не заставалася рабіць, як вяртацца назад у Львоў. І ў канцы 1906 года Цётка зноў пакідае радзіму, яшчэ з большай горыччу, яшчэ з большым болем у сэрцы, нібы адчуваючы, што гэтым разам едзе надоўга, на шмат гадоў.

З канца 1906 года і сапраўды пачынаецца доўгае жыццё Цёткі ў эміграцыі — спачатку ў тым жа Львове, потым у Закапанэ, у Кракаве, зноў у Львове.

Першы раз прыехала паэтэса ў Львоў пад вясну, калі ажывала прырода, наперадзе чакалася лета і ў сэрцы жыла надзея на лепшае. Цяпер Львоў сустрэў марозам, калючым ветрам. У старых дамах з тоўстымі цаглянымі сценамі таксама было холадна, сыра, і стыла душа, ныла ў грудзях — і ў пераносным сэнсе, і ў прамым, — душыў кашаль, біла ліхаманка.

Але трэба было перамагаць сум, перамагаць хваробу, якая навальвалася ўсё грубей, рабілася ўсё больш небяспечнай.

Яшчэ ў першы свой прыезд у Львоў Цётка падала прашэнне ва ўніверсітэт з просьбаю залічыць яе студэнткаю філасофскага факультэта.

У Аўстра-Венгрыі існавала правіла, што кожны яе грамадзянін, які меў пасведчанне аб сканчэнні гімназіі, мог паступіць ва ўніверсітэт без экзаменаў. А грамадзяне не аўстрыйскага падданства, нават маючы пасведчанне аб сканчэнні гімназіі, павінны былі пісаць заяву ў Вену і прасіць дазволу на паступленне ва ўніверсітэт у імперска-каралеўскага міністэрства.

А там да эмігрантаў з Расіі ставіліся з падазрэннем, бо ведалі, што сярод іх шмат рэвалюцыянераў, якія пасля задушэння рэвалюцыі былі вымушаны пакінуць радзіму.

З недаверам паставіліся і да Алаізы Пашкевіч. Яе не залічылі ў якасці звычайнай, ардынарнай студэнткі, а запісалі толькі як вольную слухачку філасофскага факультэта ўніверсітэта.

Але цяпер Цётку радуе і гэта, яна ж даўно марыла вучыцца ва ўніверсітэце, збіралася паступаць яшчэ ў Пецярбургу, тады не ўдалося, дык, можа, цяпер нагоніць тое, што ўпусціла. Спатрэбілася тут, у Львове, і пасведчанне аб сканчэнні гімназіі, якое некалі атрымала ў Пецярбургу, без гэтага пасведчання не залічылі б нават вольнай слухачкай.

І выгнанніца з захапленнем бярэцца за вучобу — слухае лекцыі, наведвае семінары, вядзе навуковую работу.

У тым самым будынку ўніверсітэта, у якім цяпер праходзіла навуку Цётка, і на тым самым філасофскім факультэце ў 1875–1881 гадах вучыўся вялікі ўкраінскі пісьменнік і змагар за свабоду ўкраінскага народа Іван Франко. Перадавыя традыцыі актыўных грамадскіх дзеячаў Украіны перадаваліся моладзі з пакалення ў пакаленне, жылі яны сярод студэнтаў і ў тыя гады, калі вучылася ў Львоўскім універсітэце Цётка.

У чэрвені 1975 года, падчас Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва на Украіне, да будынка ўніверсітэта была прымацавана мемарыяльная дошка з барэльефам Цёткі — у знак памяці аб гадах вучобы паэтэсы ў слаўнай навучальнай установе старадаўняга Львова.

Мемарыяльная дошка з імем Цёткі знаходзіцца цяпер побач з мемарыяльнай дошкай вялікаму ўкраінскаму паэту Івану Франко.

Ва ўніверсітэцкім музеі, дзе захоўваюцца фатаграфіі, экспанаты, звязаныя з гісторыяй Львоўскага ўніверсітэта, ёсць стэнд з дакументамі Цёткі, на якім — фатаграфія беларускай паэтэсы, вокладкі кніг, выдадзеных ёю ў Жоўкве, фотакопія прашэння аб залічэнні яе ў лік ардынарных студэнтаў, картка, у якой адзначаны праслуханыя ёю лекцыі…

Як заўсёды, Цётка не магла абыходзіцца, не магла быць без грамадскай работы. І тут, у Львове, яна далучаецца да рэвалюцыйных гурткоў, якія дзейнічалі ва ўніверсітэце, наладжвае сувязь з прагрэсіўнымі арганізацыямі моладзі ў іншых навучальных установах, усюды горача выступае супраць тыраніі, заклікае дапамагаць сваім братам у няволі і самім дабівацца сацыяльных перамен.

Іларыён Свянціцкі ў кнізе «Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі», якая выйшла ў 1924 годзе, успамінаючы Цётку, пісаў аб яе грамадскай дзейнасці ў эміграцыі:

«Прыгадаць тут належыць Цётку (Пашкевіч-Кейрыс), якая пражыла ў нас у Львове некалькі гадоў і заўсёды ўносіла ў гурткі, у якіх паяўлялася, асаблівы грамадскі настрой і кірунак думкі… выступала скрозь як заўзятая рэвалюцыянерка, супроць усялякага гнёту і ўсялякай няпраўды».

У красавіку 1975 года я сустрэлася з дачкою Іларыёна Свянціцкага Вірай Іларыёнаўнай Свянціцкай, сядзела, размаўляючы з ёю, у тым самым пакоі, у якім часта сядзела і Цётка, прыходзячы ў госці да Свянціцкіх.

Віра Іларыёнаўна расказвала мне пра Цётку па ўспамінах сваіх бацькоў. Казала, што тыя часта прыгадвалі яе, асабліва калі якая жанчына сваёй рашучасцю, праўдзівасцю была падобна на беларускую паэтэсу. Яны тады казалі між сабою: «Вось гэта падобна на Цётку».

Па словах Віры Іларыёнаўны, бацькі асабліва падкрэслівалі ў характары, у паводзінах Цёткі яе праўдалюбства. Яна гаварыла заўсёды тое, што думала, і на першым часе гэта нават крыху шакіравала субяседніка, бо тут, у Галіцыі, у той час між людзьмі былі ў пашане кампліментарныя адносіны.

Але потым людзі пачыналі прыхільна ставіцца да арыгінальнай жанчыны, выказваць да яе сімпатыю.

Ёсць успаміны і самога Іларыёна Свянціцкага пра Цётку, знойдзеныя Т. Кабржыцкай і В. Рагойшам. Украінскі вучоны падкрэслівае самабытнасць характару беларускай паэтэсы, яе незалежнасць у думках, у паводзінах. «Мая жонка так характарызавала Цётку, — піша Іларыён Свянціцкі. — Асоба арыгінальная, экзальтаваная, неспакойны дух, студэнтка-багема, падатлівая да дыскусій; з пачуццём прыгажосці, разумная і не без вясёлых хітрыкаў».

Іларыён Свянціцкі прыгадвае выпадак, як аднойчы Цётка прыйшла да яго ў музей і сказала: «“Дзядзечка, пойдзем слухаць салаўёў, у мяне ёсць беларуская кілбаса…”. Пайшлі ў Стрыйскі парк, знайшлі месца каля гайка, людзі снуюць парамі і гуртамі, салавейкі тут і там цёхкаюць, заліваюцца. Цётка глядзіць у зорнае неба, жуе кілбасу і марыць».

Тады Цётка жыла ў Львове на вуліцы Яблуноўскіх, дом 46 (цяпер вуліца Шата Руставелі, 42) з сяброўкаю медычкаю. Львоў у той час, на нямецкі лад, называўся Лемберг, на вуліцах, у крамах чулася нямецкая гаворка, што лішні раз падкрэслівала выгнанніцы — яна на чужыне. Рвалася да мастацтва ва ўсіх яго праявах, на апошнія грошы купляла білеты і хадзіла ў тэатры, на канцэрты. Любіла аглядаць саборы, цэрквы, касцёлы, гуляць на плошчы Рынак, недалёка ад якой жыла, і не стамлялася захапляцца яе гармоніяй, перламі архітэктуры. Падоўгу любавалася помнікам Адаму Міцкевічу — паэт стаяў, прыхіліўшыся да высокай калоны, а крылаты анёл, які ўвасабляў генія, падаваў яму ліру.

Любіла на трамваі, што зусім нядаўна пусцілі па горадзе, заехаць на ўскраіну і пагуляць, пахадзіць — тут у невялічкіх гліняных мазанках жыў просты люд і шырока разлягалася мілагучная ўкраінская гаворка.

Зноў шукала спосабу, як прыносіць карысць свайму народу, і адзін з такіх спосабаў знайшла ў прапагандзе беларускай літаратуры, культуры, народнай творчасці.

Збірала, гуртавала між сабою беларусаў, якія жылі ў Галіцыі, ёсць звесткі, што тут, за мяжою, Цётка імкнулася арганізаваць Беларускае сацыялістычнае таварыства.

Вяла перапіску з беларускімі паэтамі, дзеячамі культуры, з рэдакцыяй «Нашай нівы». У Львоў прысылаў ёй пісьмы Янка Купала, з якім Цётка пакуль не была асабіста знаёмая, але ведала ўжо як выдатнага беларускага паэта.

Янку Купалу трапіўся ў рукі зборнік Цёткі «Скрыпка беларуская» і так спадабаўся, так усхваляваў, што паэт напісаў верш, прысвечаны Цётцы, — «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай».

Чутка йграеш, гулка йграеш
Ты на скрыпачцы сваей,
К небу думкай падлятаеш,
Шчасця зычыш для людзей.
Ўперагонку з салаўямі
Пайсці голас можа твой.
Грай жа, грай жа паміж намі,
Ваюй песняй з цемнатой… —

пісаў Янка Купала.

І далей:

Аб чымсь светлым, аб чымсь новым
Твая скрыпка грае нам,
Грае, грае, а ёй мова
Наша чуецца без плям…
Беларуса й яго жонку
Называеш ты людзьмі,
Беларусь, яе старонку,
Славіш песнямі сваймі.

Ах, як хочацца, хоць сціха,
Тваёй скрыпцы ўтараваць, —
Піць з таго, што й ты, кяліха,
Аб чым граеш, апяваць.
Гэй, пяснярка, болей, болей
Нам на скрыпцы сваёй грай!
Прывітаннем хлебам-соляй,
Дзякуй скажа родны край…

Вядома, як радасна было Цётцы тут, на чужыне, атрымаць ліст з такім вершам ад маладога, але вядомага ўжо беларускага паэта. Сяброўства Цёткі з Янкам Купалам, пакуль яшчэ завочнае, умацавалася яшчэ больш. Амаль кожны свой новы верш Янка Купала пасылаў у Львоў Цётцы, каб пачытала яна, каб напісала яму — ці падабаецца. Цётка таксама з вялікай любоўю і павагай ставілася да Янкі Купалы. Уладзіслава Францаўна, жонка Янкі Купалы, у сваіх успамінах піша:

«Цётка была звязана цеснымі сяброўскімі адносінамі з многімі беларускімі дзеячамі і пісьменнікамі. Асабліва яна дружыла з Янкам Купалам. Дружба Цёткі з Янкам Купалам пачалася яшчэ задоўга да іх афіцыйнага знаёмства. Купала напісаў верш "Скрыпка" (маецца на ўвазе верш "Аўтарцы «Скрыпкі беларускай»") і прысвяціў яго Цётцы, калі яна знаходзілася ў выгнанні.

Ён пасылаў ёй з Пецярбурга ў Львоў амаль усе свае новыя вершы. І Цётка, як яна сама расказвала, знаёмячы львоўскіх украінцаў з беларускай літаратурай, заўсёды адводзіла віднае месца Купалу.

Цётка з вялікай сардэчнай цеплынёй і чуласцю адносілася да Янкі Купалы, кожны новы верш яго ўспрымала як вялікую падзею. Яна не раз казала сваім сябрам: "Не ведаю, чаму я так люблю гэтага Купалку!"»

Вершы, якія Цётцы ў Львоў прысылалі Янка Купала і іншыя беларускія паэты, яна перадавала Іларыёну Свянціцкаму для выкарыстання ў рабоце «Адраджэнне беларускага пісьменства» (выйшла ў Львове ў 1908 годзе). У гэтай кнізе Іларыён Свянціцкі ўпершыню надрукаваў верш Янкі Купалы «Там», які з-за цэнзурных умоў не мог паявіцца на радзіме.

Львоўскія таварышы прыхільна ставіліся да беларускай паэзіі, шмат якія творы перакладалі на ўкраінскую мову. Украінскі паэт Мікіта Шапавал часта перакладаў вершы Янкі Купалы, Францішка Багушэвіча, ён пераклаў і верш Цёткі «Артыст грайка».

І тут, у Львове, з сябрамі, са знаёмымі Цётка была заўсёды вясёлая, ніколі ні на што не скардзілася, і ніхто не ведаў, што жылося ёй вельмі нялёгка. Яна пускала ў ход усе свае веды і здольнасці, каб не прапасці з голаду. Спецыяльна навучылася масажу, каб з гэтага мець які заробак, знаходзіла прыватныя ўрокі і нават выступала як артыстка.

І ўвесь час мучыла, прыгнятала туга па радзіме. Яна не шукала вольнай хвіліны, каб наваліцца на грудзі, запаланіць усе пачуцці, яна не пакідала ні на міг, але характар быў такі — ста-

ралася іншых весяліць бадзёрым словам, а не прасіць спачування сваёй бядзе.

Толькі астаўшыся сам-насам, можна было даць волю пачуццям, паклікаць далёкія вобразы, паклікаць радзіму.

І Цётка піша вершы, поўныя тугі, поўныя горычы ад расстання з родным краем:

Маркотна мне. Чужы я людзям.
Цесна душы. Цесна грудзям.
Бягу думкай у край далёкі,
У лес цёмны, у лес высокі…

Усё будзённае, чым жыве беларуская вёска, цяпер здаецца паэтэсе незвычайным, поўным вялікага хараства, яна паэтызуе кожную расінку на роднай зямлі, бацькаўшчына здаецца ёй раем, з душы паэтэсы вырываецца стогн:

Ой, да хаткі! Кінь мне, доля…

І яшчэ:

Ой, як люба родна хата!
Ой, як мілы родны край!
Паляцеў бы, як у рай!

Выказваючы тугу па радзіме, Цётка ўвесь час памятае аб тым, што беларускі народ застаўся ў няволі, яна поўная трывогі за будучае свайго краю, за тое, што ўзыдзе на яго ніве, ці прарасце на ёй зерне свабоды, ці заглухне яна, запусцее. Гэтую трывогу Цётка выказвае ў вершы «З Новым годам», напісаным насустрач 1908 году. Што прынясеш ты, Новы год, што пасееш у народзе?

Ці развяжаш ты нам путы,
Ці не будзеш нам ліхі?
Ці зноў прыйдзеш такі ж люты,
Як той сёмы быў, стары?

У апавяданні «Навагодні ліст», напісаным у гэты ж час, жывуць настроі 1905 года.

З апавядання ўстае карціна жыцця сялянства пасля задушэння рэвалюцыі, гучаць водгаласкі падзей, якія нядаўна тут адбываліся, і над усім — горкая іронія, скептыцызм селяніна, які нічога не дачакаўся ад цара і нічога не спадзяецца атрымаць, які гібеў і гібее пад уладаю моцных. Усё гэта вынікае з пісьма

старога Юзуля да сына, якое ён дыктуе пісару, паведамляючы навіны сялянскага жыцця і перасыпаючы іх навінамі палітычнага характару.

«Жывём добра, чаго і табе жадаем. Зіма ў нас крэпка. Паўмястэчка згарэла на Сёмуху… Хлеб у нас скончыўся перад Калядамі. Красулька ацялілася… У мястэчку стражнікі пабілі людзей… Адну кабеціну нават застрэлілі… Мы купілі сабе парсючка на Зельну. Цётка Каруся прасіла цябе паздаровіць; ёй вецер увосень саўсім страху садраў з хаты… З Амерыкі ўцякаюць людзі, бо і там дрэнна. У воласць не маем з чаго заплаціць… А вучыцель усё сядзіць у астрозе. У мястэчку яшчэ дзве манапалькі адкрылі… Народ не ўспакоіўся. Улетку па дварах стаялі казакі… Больш нічога не было без цябе. Ага! У трэцюю Думу выбралі дэпутатаў, бо другую распусцілі: кажуць, мужыкоў там зашмат было, вельмі зямлі дамагаліся ды нікога слухаць не хацелі. Ад новай Думы нічога яшчэ не дачакаліся. Кажуць, выбралі ад нас дэпутата, што калісьці Расію немцам прадаў».

Падборам фактаў з жыцця селяніна Цётка намалявала яркую карціну жыцця — тут і беднасць беларускай вёскі, і тое, што «народ не ўспакоіўся» і што ў Думу выбралі дэпутата, які «калісьці Расію немцам прадаў».

У гэтых фактах і адносіны пісьменніцы да рэчаіснасці, яна падзяляе і трывогу селяніна, і яго скептыцызм, па-ранейшаму спачувае яго бядотам, апавяданне сведчыць аб тым, што і пісьменніца «не ўспакоілася», не развіталася з вольналюбівымі ідэямі.

Цётка працавала, вучылася, хоць рэдка, але і тут бралася за пяро, толькі над работаю, над вучобаю ў Львове зноў навісла перашкода — гэтым разам цяжкая хвароба. Цяпер, калі пранесліся буры і шквалы пятага года, калі адышла небяспека трапіць за краты, адрыгнулася перажытае: і хвароба, якую не вылечыла ў маладосці, і недаяданне, і сыры пецярбургскі клімат.

Ды і тут, у Львове, хіба мела яна тое, што патрэбна чалавеку для нармальнага жыцця. хіба не знясільвала сябе работай, вучобай. І апратку вецер прадзімае, чаравікі цякуць. Душа ные ад суму па родных і блізкіх. Усе, хто сустракаў, казалі, што яна вельмі змянілася, пахудзела. Ды і сама бачыла: некалі такія цудоўныя косы — усе сяброўкі зайздросцілі — нашмат патанелі, страціўся іх залацісты бляск.

Хутка дактары паставілі і дыягназ: тое, што напачатку здавалася звычайнай прастудай — кашаль, ліхаманка, — перайшло

ў сухоты, і трэба было ратавацца, трэба было лячыцца, пакуль існавала надзея спыніць працэс.

## У ЗАКАПАНЭ І Ў ІТАЛІІ

У пачатку дваццатага стагоддзя сухоты, можна сказаць, былі хваробай веку, яны вельмі касілі студэнтаў, маладых інтэлігентаў, якія не мелі сродкаў на добрае харчаванне, на цёплую адзежу, кватэру, жылі багатым духоўным жыццём, пагарджаючы матэрыяльнымі дабротамі, якіх большым часам і не мелі.

Адным з куточкаў, куды ехалі ратаваць здароўе, было на той час Закапанэ — невялікі курортны гарадок каля Высокіх Татраў, у даліне ракі Белы Дунаец. Можа, і назва — Закапанэ — была дадзена гарадку ад яго размяшчэння, ён сапраўды быў нібы закапаны сярод высокіх гор, што ўзвышаліся вакол — зялёныя летам і белыя зімою. Была, уласна, адна цэнтральная вуліца, на якой стаяла некалькі белых каменных будынкаў — санаторыяў, ці, як тады называлі, дамоў здароўя, а далей раскіданыя без парадку ўласныя дамы і дамкі мясцовага насельніцтва, заезджых багацеяў. На схілах гор і вышэй, ледзь не на вяршынях, стаялі гуральскія хаткі, рэдкія гуральскія вёсачкі.

Дамы гуралы будавалі з тоўстага бярвення, літараю «Г». У адным, даўжэйшым, баку гэтай «літары» размяшчаліся пакоі, у другім, карацейшым, — свойская жывёла. З жылых пакояў у хлеў вялікія дзверы — каб зімою, у халады, можна было выйсці да скаціны, нават не апранаючыся.

Гуралы вельмі здатныя да прыкладнога мастацтва — самаробная мэбля ў іх аздоблена ўзорамі, размаляваная, нацыянальная адзежа ўпрыгожана яркаю вышыўкаю, карункамі, пацеркамі, нацыянальны абутак — драўляная падэшва і скураны верх з голаю пяткаю. І драўляная падэшва, і скураны верх аздобленыя ўзорамі, чаравік такі больш нагадвае твор мастацтва, чым абутак. Конская збруя ў гуралаў з кутасамі, са званочкамі, яркая, стракатая. Вясельны картэж падобны на святочны карнавал: пышна апранутыя госці з пер’ямі, кутасамі на капелюшах, жанчыны ў расшытых вышыўкаю блузках, камізэльках, упрыгожаныя коні, карэты — і ўсё гэта з гуральскаю музыкаю, песнямі.

Але не этнаграфія вабіла сюды хворых людзей. Горны клімат, мяккая зіма і не вельмі гарачае лета дапамагалі адужваць хваробу, хоць, вядома, і далёка не ўсім, на могілках у Закапанэ заўсёды ўзвышаліся свежыя курганкі.

Захварэўшы на сухоты, прыехала ў Закапанэ і Цётка. Спачатку жыла ў санаторыі для бедных студэнтаў, потым наняла пакойчык высока ў гарах, у гаспадыні па прозвішчы Шчасная. Пакойчык быў невялікі, абстаўлены па-гуральску — з самаробнаю мэбляю, абвешаны ткацтвам свайго вырабу, вышыўкамі.

І ў Закапанэ, хворая, Цётка застаецца сама сабой — з цікавасцю назірае жыццё гуралаў, іх побыт, звычкі, завязвае знаёмствы з новымі людзьмі. Аказалася тут нямала і старых сяброў — некаторы час жыў тут і лячыўся Барыс Вігілёў, таксама хворы на сухоты, сустрэла земляка Вітаўта Чыжа. Вітаўт Чыж родам быў з Ашмянскага павета, у Львове вучыўся на тэхналагічным факультэце. У Закапанэ і яго прывяла хвароба. Спаткалася тут Алаіза Пашкевіч і з літоўскім паэтам Іонасам Білюнасам.

Хворая Цётка не траціць энергіі, жыццярадаснасці, жыва цікавіцца міжнароднымі падзеямі, ловіць весткі з Расіі, Беларусі, Літвы, піша лісты ў «Нашу ніву», просіць, каб ёй высылалі кожны нумар, не жаліцца нікому на кепскае адчуванне, сама імкнецца суцешыць, прыдаць надзеі тым, хто пачынае яе страчваць. Часта ходзіць яна ў Высокія Татры — падыхаць горным паветрам — і вяртаецца заўсёды з букетам кветак, падоўгу сядзіць у бібліятэцы — не хоча адставаць у навуцы. Сюды, у Закапанэ, прывезла яна і свае зборнікі вершаў, адзін з іх пакінула ў бібліятэцы.

Паэт Алесь Баршчэўскі ў нататках пра Цётку, змешчаных у беластоцкай газеце «Ніва», расказвае, што некалькі гадоў назад адна студэнтка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта лячылася ад сухотаў у Закапанэ. Пераглядаючы бібліятэку санаторыя, яна знайшла зборнік вершаў Цёткі, выдадзены ў Жоўкве.

Па дарозе з Лондана ў Расію, адведаць хворую Цётку, заехаў у Закапанэ Стэпонас Кайрыс. У сваіх успамінах ён піша:

«Алаіза Пашкевіч, якая кожнай працы аддавалася ўсёй душой, не ўмела сцерагчы свайго здароўя. Яна не знала супачынку, калі трэба было нешта тэрмінова выканаць. За працаю часта забывалася, што трэба есці. Калі была студэнтка, не хацела зварочвацца да блізкіх за дапамогаю і часта галадала. Як найменш рупілася пра свае ўборы — усё ёй было добра.

Нядбайнасць пра сваё здароўе з часам памсцілася.

Ранняй вясною 1907 года мне давялося браць удзел у агульным з’ездзе Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі ў Лондане. Па дарозе назад у Літву я завярнуў у Закапанэ. У Закапанэ, у гуральскай хаціне, знайшоў хворую на лёгкія Цётку —

як заўсёды жвавую, чуйную на падзеі і найменш дбайную пра сябе. Працэс у лёгкіх толькі пачынаўся, аднак для залячэння яго канечнымі былі чыстае горнае паветра, як найбольш сонца ды магчыма лепшая яда. Пра гэта, аднак, Цётка і ў Закапанэ найменш рупілася. Засталася там на ўсё лета».

У гэты час у Закапанэ лячыўся літоўскі паэт Іонас Білюнас. Цётка часта заходзіла адведаць яго, прыводзіла да яго літоўскіх, беларускіх сяброў.

Хочацца яшчэ раз прайсціся па сцежцы, якая прывяла да адкрыцця дасюль невядомай старонкі з жыцця, з такой багатай і цікавай біяграфіі Цёткі.

Усё пачалося з невялічкага, абадранага па краях лістка паперы, спісанага напалову алоўкам, напалову чарнілам па-польску. Лісток гэты і цяпер ляжыць у папцы, што захоўваецца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР. Рукою памянёнага вышэй В. Чыжа былі напісаны невялічкія ўспаміны пра жыццё Цёткі ў эміграцыі. В. Чыж пісаў, што ў 1907 годзе Цётка шмат працавала ў бібліятэцы Львоўскага ўніверсітэта — збірала даныя аб батлейцы, потым захварэла і выехала ў Закапанэ, пасялілася ў доме здароўя, а пазней на прыватнай кватэры. У 1908–1909 гадах жыла ў Кракаве і паступіла ва ўніверсітэт на гуманітарны факультэт, была членам «Спуйні» — арганізацыі сацыялістычнай моладзі ў Кракаўскай акадэміі. «Сустракаліся ў Білюнасаў» — такімі словамі заканчваў аўтар свае ўспаміны аб Цётцы.

Вось за гэтую нітачку, за апошнія словы, я і ўхапілася.

Калі Цётка хадзіла дадому да літоўскага паэта Іонаса Білюнаса, значыцца, была з ім добра знаёмая, можа, нават сябравала. Як знайсці доказы, факты гэтага сяброўства?

Наш вядомы літаратуразнаўца Генадзь Кісялёў жыў і працаваў у той час у Вільнюсе. Да яго і скіравала я ліст з просьбай даведацца — хто ў Літве вывучае жыццё і творчасць Іонаса Білюнаса.

Хутка атрымала адказ. Генадзь Кісялёў у лісце ад 22.11.1966 пісаў мне, што ў Вільнюсе жыве літаратуразнаўца і біёграф Білюнаса Мяйле Лукшэне. Яна — дачка жонкі Іонаса Білюнаса ад другога шлюбу. Мой шаноўны адрасат нават паведамляў мне, што пагаварыў ужо з Мяйле Лукшэне па тэлефоне і яна згодна сустрэцца са мною, расказаць усё, што мяне цікавіць, пра Іонаса Білюнаса і яго сяброўства з Цёткаю.

Тут жа напісала я ліст да Мяйле Лукшэне, пыталася ў яе, калі мне лепей прыехаць у Вільнюс, каб пабачыцца і пагаварыць з

ёю. І зноў скора атрымала адказ. Мяйле Станіславаўна пісала, што яна, хоць і зусім маленькая была, але памятае Цётку, што ў сваёй кнізе пра Білюнаса ўспамінае яе, але, перш чым сустрэцца са мною, хацела б пагаварыць пра Цётку са сваёй мамай, а мама жыве ў Каўнасе…

Божа мой, значыцца, жывая сама жонка Іонаса Білюнаса! І яна памятае Цётку!..

Радасць і нецярплівасць ахапілі мяне, хацелася хутчэй туды, у Вільнюс, у Каўнас, сустрэцца з гэтымі жанчынамі, паглядзець на іх, пагаварыць з імі.

Я зноў напісала ліст да Мяйле Лукшэне — поўны ўдзячнасці за тое, што адгукнулася на маю просьбу, поўны радасці, што жывуць на свеце людзі, якія ведалі Цётку і памятаюць яе. Я пыталася, калі можна будзе сустрэцца з імі, паслухаць іх, пагаварыць.

З нецярпеннем пачала чакаць адказу.

Але адказу не было.

Кожны дзень, вяртаючыся з работы, я з хваляваннем адчыняла паштовую скрынку, але чаканага ліста там не знаходзіла.

Мінуў тыдзень, другі.

Я не вытрымала, пазваніла ў Вільнюс.

— Мама хварэе, — сказала мне па тэлефоне Мяйле Станіславаўна, — як ачуняе, я вам напішу.

І зноў пачалося чаканне — доўгае і пакутлівае.

Нарэшце пісьмо. Я атрымала яго 23.IV.1966.

«Мая мама хварэла грыпам, потым хвароба дала ўскладненне, — пісала Мяйле Станіславаўна, — у такім стане цяжка было думаць, успамінаць далёкае мінулае. Цяпер мама, што магла, зрабіла. Я нават не ведала, што Цётка запрашала маму зрабіць падарожжа ў Італію. Падарожжа было тым больш цікавае, што да іх далучыўся яшчэ адзін літоўскі мастак. Гэта было падарожжа па італьянскім мастацтве…»

Дык і я ж не ведала, ніхто ў Беларусі не ведаў, што Цётка ездзіла ў Італію, рабіла падарожжа па італьянскім мастацтве! Праўда, у нарысе «З дарогі», надрукаваным у «Лучынцы» і вельмі падобна, што напісаным Цёткаю, есць радок: «Яшчэ калісь, як была я ў Рыме…». Але некаторым даследчыкам іменна гэты радок перашкаджаў упэўнена сцвярджаць, што аўтар нарыса «З дарогі» — Цётка, не мелася фактаў аб тым, што паэтэса наведвала Італію.

І вось яны, факты…

Нецярпенне маё дасягнула межаў, ледзьве дачакалася я святочных, вольных ад работы майскіх дзён і, дамовіўшыся з Мяйле

Лукшэне па тэлефоне, выехала ў Вільнюс, каб там, сустрэўшыся з ёю, накіравацца ў Каўнас да яе мамы.

З Мяйле Станіславаўнай Лукшэне спаткаліся на вакзале — гэта была жанчына з маладым сімпатычным тварам і зусім белымі, сівымі валасамі, невысокая ростам, гаварыла па-руску з мілым літоўскім акцэнтам.

Мы селі ў цягнік і амаль усю дарогу прагаварылі пра Білюнаса, пра Цётку.

Творчасць Цёткі і Білюнаса была ў многім сугучная. І Білюнаса, і Цётку натхнялі, жывілі рэвалюцыйныя ідэі, падзеі, звязаныя з вызваленчай барацьбой. І адзін, і другі паэт багата выкарыстоўвалі ў сваіх творах сімволіку, алегорыю.

У біяграфіях Цёткі і Білюнаса таксама было шмат падобнага. Іонас Білюнас, як і Цётка, спачатку быў настаўнікам, пасля яго захапіла медыцына, і ён вучыўся ў Тартускім універсітэце на медыцынскім факультэце, рэвалюцыя і Цётку, і Білюнаса зрабіла вядомымі паэтамі.

Лёс іх быў яшчэ падобны тым, што, горача любячы сваю радзіму, і Цётка і Білюнас былі вымушаны доўгі час жыць у выгнанні. Білюнас так і памёр далёка ад радзімы, толькі ў 1958 годзе прах яго з Закапанэ быў перавезены туды, дзе паэт упершыню ўбачыў блакіт неба, пачуў шум бору, звон ручаіны, пачуў родную матчыну мову, — у Анікшчай, адзін з цудоўных куткоў Літвы. Па дарозе з Закапанэ ў Анікшчай пахавальная працэсія заязджала ў Вільнюс, труна з прахам Іонаса Білюнаса стаяла ў Доме пісьменнікаў Літвы, прыходзілі людзі, каб аддаць пашану памяці паэта.

Адбыўся жалобны мітынг, адсюль паехалі на радзіму паэта.

Цяпер магіла Білюнаса ў Анікшчаі…

За размовою дзве гадзіны язды ад Вільнюса да Каўнаса здаліся вельмі кароткія — вось ужо за акном вагона і Каўнаскае мора, а хутка мы ішлі і вуліцамі горада.

Юлія Мацвееўна, якую дачка папярэдзіла аб нашым прыездзе, сустрэла мяне ўсхвалявана, радасна абняла, пацалавала.

— Цётка, Цётка, беларуская Цётка, — паўтарала яна, быццам я і была тая Цётка, якую яна некалі любіла і цяпер памятала.

Юліі Мацвееўне на той час, калі я наведалася да яе ў госці, было 86 гадоў. Худзенькая, зусім сівая, але рухалася яна жвава, гаварыла звонка, вочы свяціліся жывым агнём. Хацела адразу пачаць расказваць мне пра Цётку, але мы бачылі, што яна ўзбуджаная, і супакойвалі яе, прасілі не хвалявацца.

Дачка паставіла каву, і, толькі крыху счакаўшы, Юлія Мацвеeўна пачала расказваць. Няма чаго і гаварыць, з якой цікавасцю слухала я яе апавяданне. Дзівілася яе вельмі добрай памяці, можна было верыць кожнаму слову яе ўспамінаў, зусім уразіла мяне яна, калі сказала, на якой вуліцы жыла Цётка ў Вільні пасля вяртання з эміграцыі. Спачатку яна назвала гэту вуліцу па-літоўску — Пушю, а пасля і па-руску — Сасновая! — упэўнена сказала яна. Гэта было так, шмат якія дакументы захавалі гэты адрас Цёткі.

З успамінаў Мяйле Станіславаўны і Юліі Мацвееўны паўставала карціна апошніх месяцаў жыцця Іонаса Білюнаса ў Закапанэ, яго сяброўства з Цёткаю.

Іонас Білюнас ведаў, што жыць яму засталося зусім мала, што ён паволі згасае, але не здаваўся хваробе, імкнуўся яшчэ працаваць. Юлія Білюнене, тады яшчэ зусім маладая жанчына, не адыходзіла ад крэсла, а потым ад ложка, з якога ўжо не мог падняцца хворы. Аднак душэўныя сілы Білюнаса былі мацнейшыя за фізічныя, ён папрасіў, і жонка зрабіла яму ў ложку прыстасаванне, каб ён мог лежачы працаваць, і Білюнас зусім слабаю рукою спрабаваў яшчэ пісаць вершы.

«Здаецца, няма мастацтва, больш блізкага душы прыгнечанага, чым літаратура… Яна прыносіць спакой сэрцу, хоць крышку змяншае пакуты…» — гаварыў ён.

У лісце да свайго сябра Білюнас пісаў:

«Смерці не баюся, не ў гэтым справа, толькі крыўдна было б рана памерці, нічога не напісаўшы».

Цётка часта прыходзіла да Білюнаса, расказвала яму пра тое, што робіцца ў гарадку, пра навіны з Літвы, Беларусі, якія даходзілі да яе. Яны шмат гаварылі пра свабоду для сваіх народаў, складалі планы барацьбы за яе, шмат было размоў пра літаратуру і мастацтва. Мяйле Лукшэне ў сваёй кніжцы пра Білюнаса пісала:

«У Закапанэ хворы Білюнас ляжаў не ўстаючы. Да яго часта прыходзіла беларуская паэтэса Ліза Пашкевічютэ, жанчына з вялікім акцёрскім талентам. Яе энтузіязм, з якім яна ставілася да грамадскіх пытанняў, да мастацтва, яе шырокая адукацыя прыносілі шмат радасці і святла ў дом Білюнасаў. Цётка адчыняла вокны хвораму Білюнасу на жыццё і прыроду…»

Аднойчы Цётка прыйшла да Іонаса Білюнаса са сваёй літоўскай сяброўкай Давідайцітэ. Дзяўчаты прынеслі шмат кветак і з вясёлым смехам закідалі імі Білюнаса. Білюнас бачыў такія

кветкі ўпершыню, ён збіраў іх з твару, з падушкі, дзяўчаты расказвалі, як высока і далёка ў горы хадзілі яны па гэтыя кветкі, каб прынесці іх Білюнасу.

Кветкі доўга стаялі каля ложка хворага, Білюнас любаваўся імі і сказаў жонцы, што добра было б знайсці сюжэт, каб расказаць людзям пра гэта хараство…

Юлія Мацвееўна расказвала, успамінала.

Расказвала хараша, вобразна:

«Гэта было даўно. Час робіць сваё. Вобразы блякнуць, а грані сціраюцца, зліваюцца контуры, а фарбы выцвітаюць. Але некаторае жыве ясна.

З Лізаю мы не вельмі многа былі разам, больш за ўсё ў той час, калі мы і яна жылі ў Закапанэ, дзе асабліва зблізіліся. Пазнаёмілася я з ёю ў пачатку 1907 года. Яна прыехала ў Закапанэ лячыцца. Захварэла на сухоты. Жыла ў санаторыі для бедных студэнтаў.

Цётка была асобаю, якая не паспела да канца расцвісці, выявіць усе свае здольнасці. Яна вельмі добра ведала мастацтва, мела драматычны талент, яе вельмі вабіла сцэна. У Кракаве яна паступала ў драматычную студыю.

Пры першай сустрэчы, пры першым позірку яна магла здацца непрыгожай, але калі з ёю пачыналі гаварыць, калі з ёю збліжаліся, яна рабілася проста прыгожай. І сам чалавек, які з ёю ўступаў у кантакт, рабіўся лепшы, святлейшы.

У яе былі прыгожыя косы, бліскучыя, прамяністыя вочы. Была вельмі адукаваная, вясёлая, тэмпераментная. У размовах часта прыбягала да вобразаў, наогул мова яе была вельмі вобразная, і гаварыць з ёю было вельмі цікава. У наш дом яна прынесла шмат цяпла і святла, Іонас Білюнас заўсёды радаваўся, калі прыходзіла Цётка.

Мы жылі каля лесу, недалёка ад вуліцы, у доме з вялікаю верандаю. Білюнас вельмі любіў ляжаць на верандзе. І сюды, на гэту веранду, часта прыходзіла Цётка. Яны гаварылі на розныя тэмы, дыскутавалі ці проста слухалі, як шуміць лес. Недалёка ад нас быў парк, у гэтым парку славутасці, якія прыязджалі ў Закапанэ, рэпеціравалі свае канцэрты. Паколькі хадзіць на тыя канцэрты Білюнас не мог, мы часта ўтраіх, з веранды слухалі музыку. Так праслухалі мы канцэрты скрыпача Барцэвіча, славутага піяніста Славінскага.

На верандзе Білюнас часта працаваў, я змайстравала яму столік, які прымацоўваўся да ложка, на гэтым століку Білюнас,

лежачы ў ложку, пісаў. Аднойчы я паставіла яму той столік, падала часопісы і паперу. Білюнас збіраўся працаваць, у яго быў творчы настрой, і ён паціхеньку спяваў літоўскую песню. У гэты час адчыніліся дзверы, і на парозе з'явілася Ліза. У руках у яе быў букет эдэльвейсаў. Яна падышла да Білюнаса і паклала яму кветкі на грудзі. Пасля стала перад ложкам на калені і сказала, поўнячыся хваляваннем:

— Я схіляю галаву перад прыгажосцю, якую прынесла табе творчае натхненне…

Гэта было так шчыра і паэтычна, што запомнілася мне на ўсё жыццё.

Пасля Іонас і Ліза многа смяяліся, жартавалі.

Іонас Білюнас і Цётка былі вельмі заклапочаныя грамадскімі праблемамі, марылі аб свабодных Літве і Беларусі, змагаліся супраць самаўладства. Цудоўна выглядалі мае абаронцы-салдаты, шкода толькі, што недалёка маглі адысціся ад ложка. Але духам былі стойкія, загартаваныя ў барацьбе, самай вялікай іх зброяй былі творчае слова, пяро.

Вельмі прыгожы чалавек была Цётка, гэта вялікая страта для Беларусі, што яна памерла так рана…

Яшчэ адзін эпізод, перажыты з Лізай. Гэта падарожжа ў Італію ў 1908 годзе.

Смерць Іонаса Білюнаса была для мяне вельмі вялікім горам. Ліза таксама моцна гаравала, але яна была мужная і больш за ўсё клапацілася, каб падтрымаць мяне. У 1908 годзе яна вучылася ў Кракаўскім універсітэце. Аднойчы раніцою я атрымала ад яе пісьмо. Ліза пісала, што мае білет на два тыдні ў Італію, збіраецца выехаць наступным цягнікам — у гэтым была ўся Ліза з яе тэмпераментам — выязджаю наступным цягнікам, — і загадала мне зараз жа збірацца, каб ехаць з ёю.

Я разумела, што гэта яна клапацілася пра мяне, хацела адцягнуць маю ўвагу ад тугі і гора.

Я згадзілася. Ліза сустрэла мяне на станцыі. Мы абняліся і абедзве расплакаліся. Абняўшы, яна павяла мяне да свайго жылля — невялічкага пакойчыка, у якім жыла ў Кракаве. Там ужо чакаў нас студэнт — мастак Станейка, які збіраўся ехаць у Рым вучыцца жывапісу. Як і ўсе мастакі ў той час, ён быў з доўгімі валасамі, аброслы, кепска апрануты і не вельмі чыста памыты. (І ў гэтым выявіўся характар Цёткі. Яна прыхільна ставілася да людзей, якія бязмерна любілі мастацтва, яно адно было для іх важным у жыцці, і зусім не мела значэння такая дробязь, як

уласная персона, можна было не есці, абы-як апранацца і нават не вельмі чыста мыцца, жыць толькі мастацтвам і дзеля яго.)

Мы сабралі агульную касу. Станейка даў 30 гульдэнаў, Ліза — 35, а я — 80.

Цяпер чалавек і не падумаў бы пачынаць падарожжа на два тыдні з такімі грашыма. Але Ліза была вельмі смелая, рашучая, знаходлівая, а ў дадатак — маладосць з крыламі. Мы вельмі шмат убачылі дзякуючы ёй, яна была цудоўны чалавек.

Жылі мы ў прыватных пакойчыках, пераязджаючы з горада ў горад — Рым, Венецыя, Фларэнцыя. Харчаваліся кепска, але не прапускалі ніводнага канцэрта, абышлі ўсе музеі, галерэі, і гэтыя два тыдні праляцелі хутка. Даўжэй за ўсё мы былі ў Рыме. Вельмі вялікае ўражанне на нас з Лізаю зрабілі «Піета» Мікеланджэла, якую мы бачылі ў саборы святога Пятра, фрэскі плафона Сіксцінскай капэлы ў Ватыкане. Асабліва запомніліся «Страшны суд», «Сатварэнне Адама», «Сатварэнне жанчыны». Гэтыя фрэскі ўражвалі экспрэсіяй, пластыкай вобразаў.

Моцна запала ў памяць і скульптура прарока Майсея ў царкве Сан П'етра ў Рыме. Калі прыйшлі туды — быў вечар, манахі з ліхтарамі ў руках адчынілі царкву. Святло падала на скульптуру, ад яе на сцяну клаўся вялікі цень. Уражанне было незабыўнае.

Шмат бачылі мы і твораў Рафаэля. (Цётка ў нарысе «З дарогі» выказвае свае адносіны да Мікеланджэла, да Рафаэля і прызнаецца, што каля твораў Рафаэля прайшла са спакойным сэрцам, а Мікеланджэла яе моцна ўсхваляваў. — *Л. А.*)

На афішы ў Рыме прачыталі, што спявае Каруза. Купілі білеты на чацвёрты ярус — дзешавейшыя, і нас там вельмі здзівілі паводзіны публікі. Усе елі апельсіны, цукеркі, кідалі паперу і шалупінне на падлогу, хрумсталі, перашкаджалі слухаць.

Ліза не вытрывала, пачала абурацца, сарамаціць іх, але мовы не ведала і рабіла гэта мімікаю і жэстамі. Жэсты былі эмацыянальныя, выразныя, і гэта развесяліла публіку яшчэ больш. Хлопцы пачалі частаваць Лізу апельсінамі, каб яна не крыўдзілася. Усім было весела, толькі не нам. Ліза злавалася, гразіла ім кулаком, але нічога не памагала.

Італьянцы шумелі, смяяліся, не чуваць было і спевака, так што Карузы мы, можна сказаць, і не чулі. А збоку гэта, мусіць, выглядала сапраўды смешна: тэмперамент Лізы, смецце на падлозе, бурная весялосць публікі.

Яшчэ адзін эпізод.

Мы былі вельмі стомленыя і selі ў трамвай. Насупраць нас у трамваі аказаўся малады прыгожы італьянец. Убачыўшы нас, ён

пачаў спяваць песні аб каханні. Спявае і ўсё глядзіць — як мы рэагуем. Спяваў ён вельмі добра, і скора Ліза прыйшла ў такое захапленне, што пачала шаптаць мне: «Зараз стану перад ім на калені, перад яго талентам…»

«Пачакай, — кажу ёй, — не станавіся».

Тут хутка трамвай спыніўся, і італьянец, паслаўшы нам развітальны позірк, выйшаў.

Калі трэба было вяртацца дадому, у Кракаў, аказалася, што каса наша пустая. Што было рабіць? У Лізы быў аўстрыйскі пашпарт, у мяне — рускі. Але паколькі я добра ведала нямецкую мову, а Ліза — рускую лепш за мяне, то мы памяняліся пашпартамі яшчэ ў самым пачатку падарожжа. Цяпер нам прыйшла думка схадзіць у кансулаты. Мы і пайшлі. Я — у аўстрыйскі з Лізіным пашпартам, яна з маім — у рускі. Там нас пашкадавалі, далі па дзесяць лір на дарогу і купілі нам білеты да Кракава.

Мы адчулі сябе страшэнна багатымі і ў той дзень не паехалі дахаты, пайшлі ў Рымскую оперу. Пакінулі з гэтых грошай крыху лір нашаму мастаку Станейку, які не збіраўся вяртацца дахаты, заставаўся ў Рыме. Пасля мы даведаліся, што ён жыў у Рыме яшчэ два гады, працаваў малярам, тынкоўшчыкам. Усё хацеў зарабіць грошай на вучобу. Не зарабіў, такі ж абадраны вярнуўся праз два гады ў Кракаў.

На астатнія грошы мы купілі сабе ежы і літр віна — частаваць італьянцаў, з якімі будзем разам ехаць у цягніку.

На наша шчасце, суседзямі нашымі аказаліся вясёлыя і сімпатычныя людзі. Мы іх і пачаставалі. Размова была вельмі вясёлая, гаварылі мы больш пальцамі і мімікай, толькі некалькі слоў ведалі па-італьянску. Не заўважылі, як прыехалі да мяжы. Гэта было маім лепшым падарожжам».

Яшчэ расказваючы ўсё гэта, Юлія Мацвееўна пачала пераглядаць старыя лісты, паштоўкі. Успомніла, што ў 1913 годзе атрымала ад Цёткі паштоўку — сяброўкі не пакідалі падтрымліваць паміж сабою сувязі, пры магчымасці сустракаліся, а калі былі далёка адна ад аднае — перапісваліся. Гэтую паштоўку і хацела знайсці цяпер Юлія Мацвееўна. Цётка ў той час зноў была за мяжой. «Здаецца, у Дрэздэне», — не магла дакладна ўспомніць гаспадыня.

Нарэшце знайшла паштоўку. Радкі пісьма былі скіраваны да маленькай дачкі Юліі Мацвееўны — да той самай Мяйле Лукшэне, якая цяпер была тут, разам з намі. На паштоўцы рукою Цёткі чорным чарнілам было напісана па-літоўску:

«Мая маленькая сястрычка! Як ты расцеш? Як тваё здароўе? Ці шмат ты бегаеш па вуліцах? Ці слухаешся маму? Слухайся, слухайся, куплю табе ляльку. Твая Цётка».

Памяць і гэтым разам не падвяла Юлію Мацвееўну, паштоўка сапраўды была з Дрэздэна, у 1913 годзе здароўе Цёткі зноў пагоршылася, яна ехала на поўдзень лячыцца, праязджала праз Дрэздэн і адтуль прыслала паштоўку сваёй сяброўцы.

Цётчына «маленькая сястрычка» з белымі ад часу валасамі сядзела цяпер тут, побач з намі, і ўсміхалася сваім успамінам.

Уздыхала сваім успамінам яе маці.

За акном было сонечна і ціха, як бывае на вуліцы ў святочны дзень, калі адшумелі ўжо дэманстрацыі і людзі сядзяць у хатах за святочнымі сталамі, адпачываюць.

Трэба было даць адпачыць і гаспадыні…

Калі праз восем гадоў, вераснем 1974-га, я зноў была ў Вільнюсе, то зноў сустракалася з Мяйле Лукшэне. І вялікая была мая радасць, калі я даведалася, што яе маці па-ранейшаму жыве ў Каўнасе і, як на яе гады, някепска сябе адчувае.

На той час ёй было ўжо 94 гады, яны з Марыяй Пясецкай-Шлапялене равесніцы.

Такім чынам, у 1974 годзе жылі на свеце яшчэ дзве сяброўкі Цёткі — Марыя Пясецкая-Шлапялене і Юлія Мацвееўна. Жылі і памяталі Цётку, захоўвалі ў сваіх сэрцах яркі вобраз беларускай паэтэсы.

## І ДУШНА, І ЦЕСНА…

Не залячыўшы да канца працэсу ў лёгкіх, Цётка пакідае Закапанэ і едзе ў Кракаў — старажытны польскі горад на Вісле, цесна звязаны з імем Тадэвуша Касцюшкі — змагара за незалежнасць польскага народа ад феадальнага прыгнёту, пахаванага ў Кракаве, у адным з цудоўных помнікаў сярэдневяковай архітэктуры — Вавельскім саборы.

Вольналюбівыя традыцыі нацыянальнага героя Польшчы далі свой багаты плён у час паўстання 1863 года, у якім кракавяне прымалі самы актыўны ўдзел — шмат жыхароў горада пайшло ў паўстанцкія атрады, многія загінулі.

Кракаў здавён лічыўся не толькі вольналюбівым горадам, але і вясёлым. У час нацыянальных свят жыхары горада апраналіся ў нацыянальнае святочнае ўбранне, выходзілі на вуліцы,

танцавалі, і любімым танцам быў кракавяк, які раней лічыўся мужчынскім — некалі яго танцавалі рыцар са сваім збраяносцам.

На старадаўніх вуліцах горада разыгрываліся стракатыя містэрыі, адбываліся карнавалы.

Здавён славіўся Кракаў вырабам сукнаў, на багатых яго рынках прадавалася шмат тавараў, зробленых рукамі народных умельцаў, і асабліва многа было ганчарных вырабаў.

Рука часу, дакранаючыся да аблічча горада, часам непазнавальна яго змяняе, застаюцца асобныя рысачкі, па якіх ледзьледзь, з цяжкасцю можна пазнаць тое, што было. Як ні дзіўна, але мне здаецца, што даўжэй за ўсё ў гарадах жыве брук… Усё старое вакол зруйнавана, пабудавана новае, застаўся толькі адзін брук, і ён перажыў час, па ім пазнаеш вуліцы горада. Так я ў Мінску пазнавала даваенныя Савецкую, Энгельса. Па бруку. Думаю, што жыхары Варшавы вось так, па бруку, успаміналі некалі і свае вуліцы — вуліцы разбуранай фашыстамі польскай сталіцы.

Але ёсць гарады, якім пашанцавала, якія з даўніх вякоў захавалі вуліцы, плошчы, будынкі. За гэтыя плошчы, будынкі заплачана крывёю, жыццямі людзей, якія засланілі сабою помнікі старажытнасці.

Кракаў — адзін з такіх гарадоў. Яго выратавалі ад знішчэння савецкія воіны — цяжка палічыць, якою колькасцю ахвяр. І гэта павінны памятаць тыя, хто сёння ходзіць па вуліцах Кракава, любуецца Вавелем, Сукенніцаю, кракаўскім Нотр-Дамам, касцёламі — святога Андрэя, святой Кацярыны, святога Казіміра, Пятра і Паўла, помнікам вялікаму польскаму паэту — Адаму Міцкевічу.

У Кракаве пасля Другой сусветнай вайны, якая спапяліла тысячы гарадоў, застаўся не толькі стары брук, засталося ўсё гэта.

Я думала так, ходзячы па каменным дворыку, па лесвіцах і галерэях Ягелонскага ўніверсітэта, якія памяталі яшчэ Каперніка з Торуні, па якіх хадзіў Францішак Скарына, у куточках якіх яшчэ, здаецца, таіўся голас Цёткі.

Цагляныя сцены з замураванымі нішамі, высокія вокны, нібы забраныя кратамі, такія густыя ў іх пераплёты рам з дробнымі шыбкамі, цяжкія драўляныя дзверы. А за імі — калідоры, залы са старажытнаю мэбляю — шафы, камоды, паліцы, за шклом якіх тоўстыя фаліянты рэдкасных кніг. На сценах — партрэты прафесараў, што некалі былі славаю ўніверсітэта, некаторыя з іх у час Другой сусветнай вайны загінулі ў фашысцкіх канцлагерах.

Але мяне больш за ўсё цікавіла не тое, што ляжала на паверхні, даступнае воку, мяне цікавіў архіў Ягелонскага ўніверсітэта,

хацелася там паглядзець, пашукаць — павінен жа застацца нейкі след, дакумент аб тым, што тут вучылася беларуская паэтэса.

Аддзелам архіва, які мог адказаць мне на гэта пытанне, загадваў прафесар Лешак Гайдукевіч. Разам з ім мы і пачалі пошукі.

Спачатку шукалі прозвішча Пашкевіч сярод студэнтаў так званых «звычайных» — не знайшлі. Потым пачалі шукаць сярод вольных слухачоў — і вось перада мною каталог філасофскага факультэта Ягелонскага ўніверсітэта, а ў ім — два дакументы Алаізы Пашкевіч, анкеты, запоўненыя ёю пры запісе на летняе паўгоддзе 1908 года і на зімовае паўгоддзе 1908–1909 навучальнага года. Агортвае радасць, якая перашкаджае нават засяродзіцца на дакументах. Супакойваю сябе, пачынаю вывучаць запоўненыя рукою Цёткі анкеты.

У анкеце на летняе паўгоддзе 1908 года (значыцца, у Ягелонскі ўніверсітэт Цётка залічылася вясною 1908 года) пададзены асноўныя біяграфічныя даныя паэтэсы. Месцам нараджэння Цётка запісвае Беларусь, нацыянальнасць — беларуска, падданства — расійскае. Указаны адрас, дзе жыла ў той час у Кракаве, — вуліца Сабескага, дом 19, другі паверх — таксама невядомая дасюль падрабязнасць.

У графе, якая ставіць пытанне — чым займалася на радзіме, Цётка запісвае: «Займалася сельскаю гаспадаркаю». Як бачым, выгнанніца з Беларусі крышку паграшыла супраць ісціны, але не пісаць жа было ёй, што ў Расіі будавала барыкады, што замахвалася на самога цара.

За права слухаць лекцыі ва ўніверсітэце бралася плата. У анкеце адзначана, што Алаіза Пашкевіч заплаціла грошы 9 мая і ў сувязі з гэтым ёй была выдадзена квітанцыя за № 2337. Адзначана таксама ў анкеце, што за права карыстацца бібліятэкаю Алаіза Пашкевіч заплаціла дзве кароны.

Запісаны ў анкеце і назвы лекцый, якія мелася праслухаць паэтэса, колькасць іх у тыдзень, прозвішчы прафесараў, якія іх чыталі. Сярод гэтых лекцый — «Эстэтыка драмату», «Дваццаць пяць вякоў развіцця еўрапейскай філасофіі», «Другое пакаленне рамантыкаў», «Псеўдакласічная лірыка», «Гісторыя ўкраінскай літаратуры ў сувязі з літаратурамі польскай і рускай». Чыталі гэтыя лекцыі прафесары Паўліцкі, Сташэўскі, Віндакевіч, Трацяк.

У анкеце на зімовае паўгоддзе 1908–1909 навучальнага года Цётка зноў падае свае біяграфічныя звесткі, месца нараджэння яна тут піша — Літва (як вядома, Беларусь некалі называлася і Літвою), нацыянальнасць зноў, як і ўсюды, як заўсёды, — беларуска. На пытанне, дзе жывуць бацькі, зноў піша — Літва,

называе бацьку, Стафана Пашкевіча — займаецца сельскаю гаспадаркаю. Адрас Цёткі ў тым жа Кракаве цяпер іншы — вуліца Любамірскіх, дом 11 (і гэты адрас быў невядомы). За вучобу заплаціла 26 кастрычніка 1908 года, і за карыстанне бібліятэкаю — дзве кароны.

Зноў падаюцца назвы лекцый, якія мае праслухаць Алаіза Пашкевіч, і мы чытаем: «Гісторыя сучаснай думкі», «Праблема прычыннасці», «Гісторыя літаратуры польскай», «Псеўдакласічная лірыка», «Маладыя рамантыкі (неарамантызм)», «Украінская народная паэзія», «Польская марфалогія», «Гісторыя ўкраінскай літаратуры з самых старажытных часоў». Прафесары зноў — Трацяк, Віндакевіч, Тарноўскі, Сташэўскі, Ян Лось.

Як відаць, найбольш цікавілі Цётку філасофія і літаратура, праз філасофію імкнулася зразумець свет, жыццё, яго заканамернасці, прычыны з'яў, а літаратура была не толькі любоўю паэтэсы, Цётка была ўпэўнена, што мастацкае слова — адзін са сродкаў уздзейнічаць на жыццё, выправіць у ім злое. Выгнанніца з Беларусі шмат гадзін аддае вывучэнню гісторыі літаратуры польскай, літаратуры ўкраінскай, вывучэнню рамантычнай паэзіі, прыхільніцаю якой была сама.

Як заўсёды, шукала знаёмых, сяброў, аднадумцаў, і тут, у Кракаве, іх аказалася нямала. У 1908 годзе ў Ягелонскі ўніверсітэт на філасофскі факультэт паступіў Барыс Вігілёў. Яшчэ нядаўна яны былі разам у Закапанэ, жылі на адной вуліцы. І цяпер аказаліся суседзямі.

Барыс Вігілёў быў у той час актыўным дзеячам Кракаўскага саюза дапамогі палітзняволеным, падтрымліваў сувязі з сацыялдэмакратыяй Каралеўства Польскага і Літвы. Трэба меркаваць, што да яго работы не раз далучалася і Цётка.

Пасля лячэння ў Закапанэ прыехаў у Кракаў зямляк Цёткі Вітаўт Чыж. Сярод студэнтаў Ягелонскага ўніверсітэта нямала аказалася літоўцаў, якія былі вымушаны пакінуць радзіму, жыць у эміграцыі. Шмат каго з іх Цётка ведала яшчэ па Вільні. У Кракаве літоўцы арганізавалі сваю групу, якая рабіла што магла для сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення літоўскага народа. Літоўцы былі блізкія Цётцы, і Цётка была ім блізкая, збліжэнню з літоўскаю групаю спрыялі і адносіны беларускай выгнанніцы са Стэпонасам Кайрысам, якія з часам рабіліся ўсё цяплейшыя.

Сярод моладзі Ягелонскага ўніверсітэта яшчэ з 1904 года існавала рэвалюцыйная арганізацыя «Спуйня». Сама назва — «Спуйня» — дэкларавала свой палітычны характар, яна нібы працягвала дзейнасць палітычных арганізацый, што існавалі

ў мінулым, — «Спуйня» ў Парыжы ў 1898 годзе, «Спуйня» ў Варшаве ў 1899–1900 гадах, якая мела характар сацыялістычны і міжнародны, аб'ядноўвала студэнтаў польскіх і расійскіх у барацьбе з царызмам.

На дзейнасць кракаўскай «Спуйні» вялікі ўплыў аказала рэвалюцыя 1905–1907 гадоў у Расіі. У 1906 годзе члены «Спуйні» выйшлі на вуліцу з дэманстрацыяй, каб адзначыць гадавіну Крывавай нядзелі ў Пецярбургу. Асабліва актывізавалася дзейнасць «Спуйні», калі ў Галіцыю, пасля задушэння рэвалюцыі ў Расіі, хлынула палітычная эміграцыя, сярод якой шмат моладзі.

Цётка, стаўшы студэнткаю Ягелонскага ўніверсітэта, тут жа робіцца членам «Спуйні», прымае актыўны ўдзел у яе рабоце.

У архіве бібліятэкі Ягелонскага ўніверсітэта захаваліся матэрыялы, звязаныя з дзейнасцю «Спуйні». З гэтых матэрыялаў відаць, што дзейнасць «Спуйні» была звязана з сацыялістычнымі партыямі Каралеўства Польскага і Расіі, арганізацыя шырока выкарыстоўвала друк, сярод яе членаў было шмат дзеячаў, прыналежных да СДКПіЛ, да РСДРП. Актыўны ўдзел у рабоце «Спуйні» прымалі палітычныя эмігранты з Расіі, сярод якіх называюцца імёны Сяргея Багоцкага і таго ж Барыса Вігілёва.

Цётка зрабілася членам «Спуйні» ў 1908 годзе, калі дзейнасць арганізацыі знаходзілася, можна сказаць, у самым росквіце. Наладжваліся палітычныя сходы, чыталіся рэфераты аб навуковым сацыялізме, аб сацыялістычных ідэалах, наладжваліся дыскусіі па актуальных праблемах дня, вырашаліся спрэчныя пытанні ўніверсітэцкага жыцця, «Спуйня» выступала ў абарону прафесараў ад нападу рэакцыйнага ўніверсітэцкага кіраўніцтва. Дакладчыкі часта запрашаліся з Каралеўства Польскага і з Расіі, выступалі палітычныя эмігранты, што жылі ў Галіцыі. Быў запрошаны дакладчык з Вільні, каб расказаў аб удзеле Літвы ў рэвалюцыі 1905–1907 гадоў.

Вядома, у дакладах, дыскусіях шмат было і спрэчнага, часам далёкага ад навуковай думкі, на частку моладзі моцна ўплываў каталіцызм, але здаровы пачатак пераважаў у рабоце арганізацыі.

Адной з важных задач «Спуйня» лічыла барацьбу з нацыяналізмам і шавінізмам у Галіцыі, члены «Спуйні» падтрымлівалі ўкраінскіх студэнтаў, што дабіваліся ўкраінскага ўніверсітэта ў Львове.

«Спуйня» аказвала дапамогу палітычным эмігрантам з Польшчы і Расіі, падтрымлівала іх матэрыяльна, хавала ад паліцыі, дапамагала здабываць дакументы, арганізавала для іх сталоўку. Палітычныя сходкі часта сумяшчаліся са спевамі, му-

зыкай, дэкламацыяй, чытаннем мастацкіх твораў, спектаклямі, пры «Спуйні» існавала кола драматычнае і хор.

Як відаць, уся дзейнасць «Спуйні» вельмі адпавядала і палітычным поглядам, і характару Цёткі. Я вывучала матэрыялы «Спуйні» і як жывую бачыла Цётку сярод рэвалюцыйнай моладзі Ягелонскага ўніверсітэта — як яна выступала з прамовамі на пасяджэннях арганізацыі, як чытала свае вершы, уяўляла, як клапацілася пра сяброў, хавала іх ад паліцыі, дапамагала ім здабываць дакументы. І менш за ўсё дбала пра сябе, пра сваё здароўе, а сюды ж, у Кракаў, яна прыехала з Закапанэ, дзе лячылася ад сухотаў. І нават падумаць не магла сама пакарыстацца дапамогаю «Спуйні», лічыла, што іншым дапамога патрэбна болей, чым ёй. І з дому саромелася прасіць; на вучобу, на жыццё сродкі здабывала сама — наймалася на начныя дзяжурствы ў бальніцу, часам зарабляла масажам і нават выступала як артыстка, ды ўсё гэта былі выпадковыя заробкі, і часта прачыналася раніцою, не ведаючы, як пражыве сённяшні дзень.

Але жыццё ішло і вабіла, вабіла ўсімі сваімі праявамі.

У адным з кракаўскіх тэатраў выгнанніца з Беларусі ўбачыла на сцэне ігру выдатнай польскай артысткі Ірэны Сольскай. Ігра артысткі так захапіла паэтэсу, што яна пачала марыць пра тэатр, і, вядома, пра тэатр для беларусаў, якія ў той час яго зусім не мелі. Сама Цётка запісалася ў драматычную студыю Сольскай, каб спасцігнуць таямніцы тэатральнага майстэрства, сябры пераконвалі, што яна мае акцёрскія здольнасці. Пра свае мары — стварыць прафесійны беларускі тэатр — напісала ў «Нашу ніву» і атрымала адказ праз газету. Нашаніўцы пісалі:

«Аўстрыя. Кракаў. Цётцы. Набірайцеся здароўя і сілы, каб хутчэй маглі арганізаваць беларускі тэатр».

Але радзіма пакуль была далёка, мяжа зачынена. Яшчэ ў 1905 годзе, у Вільні, Цётка зноў сустракалася з Кайрысам, у той час яны асабліва зблізіліся, але Кайрыс заставаўся яшчэ студэнтам, Цётка была вымушана пакінуць Расію — лёс зноў развёў іх. Аднак увесь час існавала перапіска, у 1907 годзе, як відаць з успамінаў Кайрыса, ён адведваў Алаізу Пашкевіч у Закапанэ. Цяпер Цётка вырашыла адведаць Кайрыса і летам 1909 года едзе ў Мелікос (на той час Самарская губерня), дзе Кайрыс пасля сканчэння тэхналагічнага інстытута працаваў інжынерам на пабудове чыгуначнага моста. Якім чынам, з якім дакументам ездзіла туды Цётка — невядома, і наогул пра гэта падарожжа няма больш падрабязных звестак, але відаць, што яно не ўзняло настрою Цёткі, на акрыліла, не прынесла радасці. З-пад пяра паэтэсы ў гэты час выходзяць самыя сумныя, самыя

тужлівыя вершы. І трагедыя Цёткі не ў тым, што хвароба, смерць, якія ўвесь час трымаюць над ёю свой меч, могуць пазбавіць яе, маладую жанчыну, радасці жыць і кахаць, бяда і гора ў тым, што прывід смерці пагражае яе ліры, яе песням, яе думкам. Яшчэ так шмат трэба сказаць людзям, яшчэ не праспявана галоўная песня, не страчана жаданне жыць, працаваць, а згасаюць і згасаюць сілы, насоўваецца змрок. Гэтыя пачуцці і выліваюцца ў верш, поўны смутку і тугі, — «Грайка».

Граў бы я многа, ды сіл не хватае,
І рвецца за стрункаю струнка,
Хоць песня яшчэ не замоўкла ўдалая,
Хоць родзіцца думка за думкай.
Граў бы я многа, ды смерць кажа: «Годзе!»,
Ў магілку мне ладзіцца кажа…

Але не была б то Цётка — Цёткаю: змрочныя матывы яе верша саступаюць месца светлым, тэма смерці адыходзіць, ператвараецца ў тэму жыцця, і вось ужо весела, жыва звіняць струны. Цётка верыць, што з той ліры, якую пакладуць у дамавіну разам з ёю, вырасце іва, што з парваных струн узыдуць белыя кветкі, што ў цяні гэтай івы будуць гуляць дзеці і хто-небудзь з іх скруціць жалейку — «унучку паломанай ліры».

А далей — вера ў бессмяротнасць сваёй паэзіі, у тое, што ўнукі давядуць да канца справу, якую не паспела завяршыць на зямлі паэтэса. І вось ужо зноў радасна звініць ліра, голас паэтэсы поўны надзеі, спадзявання, песня набірае новую сілу.

Дзедавы струны, рана парваныя,
Зноў звонка азвуцца, як звоны:
Песня, за жыцце яго не дагранaя,
У сэрцы унука дасць плёны.
А на задушкі пад цёмнаю івай
Жывое пачуецца слова.
Што песня ўстала з стотысячнай сілай,
Жыве мая ліра нанова!

У гэтыя гады надзея часта змяняецца ў Цёткі змрочнымі думкамі, змрочнымі прадчуваннямі.

Тры змяі бесперастанку джаляць яе сэрца, яе цела — хвароба, кепскія ўмовы жыцця і сум па радзіме. Якая з іх, гэтых змей, самая лютая? Мусіць, усё-такі апошняя, сум па радзіме. Здаецца, каб толькі ступіць на родную зямлю, адразу і паздара-

вела б, і галодная была б шчаслівая, толькі б убачыць родныя палі, родныя лясы, дыхнуць родным паветрам. Туды, у родны край, ірвецца душа, ірвуцца думкі, туды, як птушка, ляцела б на крылах, расінкаю плыла б у хмары.

Сум па радзіме кіруе рукою паэтэсы, і з-пад яе пяра выходзіць верш, поўны глыбокай тугі, адчаю адзінокай душы, адарванай ад жывога цела — сваёй радзімы:

І душна, і цесна, і сэрца самлела
Мне тут на чужыне, здалёк ад сваіх…
Як птушка на скрыдлах, ляцець бы хацела,
Як хваля па моры, плыла бы да іх!

Ўзнялася б, здаецца, расінкай на хмары,
А хмары бы ветрам сказала я гнаць
Далёка-далёка, дзе сняцца мне чары,
Дзе боры густыя над Нёмнам шумяць;

Дзе пацеркай белай Вілля прабягае,
Дзе Вільня між гораў гняздо сабе ўе,
Дзе кожна дарога і крыж мяне знае,
Дзе ўсё, усё чыста вярнуцца заве.

І зноў тое лірычнае, далікатнае, што выглядала б сентыментальным, каб не было такое шчырае, каб не было такое народнае з гэтымі стогнамі «ох» і «эх», з ласкавымі зваротамі, з усёй сваёй народнай інтанацыяй:

Ой, мілая, мілая, снегам пакрыты
Загоны, лясочкі, дарожкі мае!
Эх, як вы у сэрцы маім не забыты,
Як часта абраз ваш у думцы ўстае!

Верш поўны задушэўнасці, непадробнага смутку і горычы. Ён друкаваўся ў «Нашай ніве», быў прыняты і беларускімі пісьменнікамі, і чытачамі газеты як сведка вялікай чалавечай мукі, выяўленне вялікай Цётчынай тугі па родным краі.

У «Нашай ніве» друкаваўся і верш Цёткі «Грайка», сюды прыслала яна з Кракава свае вершы «Вясковым кабетам», «Скора прыйдзе вясна» і «Тры кветкі» — пераклад з украінскай мовы.

У вершы «Вясковым кабетам», а пазней у вершах «Гаданне», «Сірацінка» Цётка малюе вобраз жанчыны і робіць гэта з вялікім спачуваннем да горкай долі беларускай сялянкі.

З веку ў век, з пакалення ў пакаленне перадаюць маткі сваім дочкам спадчыну — слёзы, пакуты, гора — цяжкое жаночае жыццё.

У манеры, блізкай да народнай, фальклорнай, для якой так характэрна спачуванне чалавечай бядзе, аплаквае Цётка долю сваіх гераінь.

Ой, сястронкі, ой, вясковы,
Ой вы, кветкі прызавяты!
Вашы твары, як васковы,
Вашы шчокі слязьмі змяты…

Як каліну град страсае,
Як пярун каменне крышыць,
Так лёс рана вас ламае,
Так жыццё красу вам нішчыць.

Паэтэса знаходзіць шмат шчырых слоў, яркіх параўнанняў, каб выказаць свае пачуцці. Зноў выкарыстоўвае яна прыёмы народнай творчасці — рэчытатыў, анафару. Так галосяць над труною, аплакваючы нябожчыка, як аплаквае паэтэса жыццё вясковых кабет — ніколі не ведалі яны радасці, так хутка развіталася з імі маладосць, нічога не зналі яны, акрамя цяжкай работы.

Паэтэса параўноўвае вясковых кабет з птушкамі бескрылатымі, з кветкамі, што звялі без пары, з лілеямі без мовы — усё гэта зноў з арсенала народнай творчасці, да якой часта звярталася Цётка як да ўзору мастацкай вобразнасці.

Верш «Вясковым кабетам» вельмі высока цаніў Цішка Гартны, ён пісаў, што гэты твор яго заўсёды вельмі хваляваў, што ён не ведае ў беларускай літаратуры іншага верша, які так шчыра і па-мастацку маляваў бы вобраз працоўнай беларускай сялянкі.

«Выразнасць і моц гэтага верша, — пісаў Цішка Гартны, — поруч з вялікай спагадай да вясковага простага народа абуджалі ва мне пачуццё абурэння супраць тых умоў, якія высмоктвалі радасці і паўнату сялянскага жыцця».

Цішка Гартны падкрэсліваў значэнне крытычнага пафасу, якім быў прасякнуты верш Цёткі, адзначаў, што верш выклікаў пратэст супраць умоў, у якіх жыло працоўнае сялянства, падкрэсліваў сацыяльнае значэнне гэтага твора.

* * *

І Кракаў, і Львоў былі для Цёткі чужынаю, але цяпер паэтэсе здавалася, што ў Львове ёй жылося лепш — там лягчэй было знайсці работу, з Львова лягчэй было дабірацца дадому.

Надыходзіла лета, цяпер і ў Львове будзе цёпла, можа, не вельмі пашкодзіць здароўю перамена клімату…

І, сабраўшы свой невялікі скарб, разлічыўшыся з гаспадыняю, з Кракаўскім універсітэтам, кракаўскімі сябрамі, яна едзе назад у Львоў.

Спачатку клопаты з перасяленнем — трэба было зноў шукаць жыллё, аднаўляцца ў Львоўскім універсітэце, шукаць работу — паглынулі ўвагу, занялі думкі. А як было ўсё ўладжана, прыйшло адчуванне яшчэ большай нуды, адзіноты. Нідзе не магла знайсці спакою — ні ў сваім пакойчыку, ні ў бібліятэцы, ні на вуліцы, ні сярод сяброў.

Дадому, дадому — ірвалася душа.

Але дзверы дадому зачыненыя, праўдаю іх не адамкнеш, зноў трэба нешта прыдумаць, каб яны, хоць ценадоўга, адчыніліся, прапусцілі сваю дачку да роднай хаты.

Трэба было знайсці пашпарт, абы-які, чужы, ён, як той чароўны сезам, адчыніў бы запаветныя дзверы.

Мела вопыт. Яшчэ ў 1905 годзе ездзіла ў Маскву на жаночы з’езд як дачка Марыі Кодзіс… У 1906 годзе нелегальна прыязджала з Львова ў Вільню, жыла ў Вільні доўгі час без пашпарта, і нічога, абышлося.

Гэтым разам вырашыла папрасіць сяброўку па ўніверсітэце Меланню Бордун, каб тая ўзяла пашпарт для паездкі ў Расію на сваё імя, а з гэтым пашпартам паедзе яна, Цётка.

Меланння Бордун згадзілася.

І вось Цётка зноў сядзіць у цягніку. Стукаюць колы. За акном то прысыпаны снегам лес, то пустое поле, то адзінокі хутар-мазанка сярод голага цяпер, зімою, саду…

Сёння з Мінска да Львова самалётам можна даляцець за адну гадзіну. Цётцы і не снілася такая хуткасць, яна, мусіць, пры ўсёй сваёй багатай фантазіі і марыць не магла, што некалі такое будзе.

У той час дарогі былі куды даўжэйшыя. Не існавала нават прамога цягніка, на якім можна было б прыехаць з Львова ў Вільню альбо ў Мінск без перасадкі.

А на станцыях хмары народу з клункамі, з торбамі, доўгія чэргі каля кас.

А ў вагонах трэцяга класа цесна, духата, бруд — на чысцейшыя вагоны трэба вялікія грошы, а дзе іх узяць, ды дадому ехала б, здаецца, хоць стоячы ў тамбуры, хоць на падножцы — абы ехаць.

Цягнік ішоў павольна, спыняўся на кожнай, нават невялічкай станцыі — паравоз браў дровы альбо вугаль, наліваў у тэндар ваду.

А пераезд цераз мяжу? Колькі хвалявання для ўсіх пасажыраў! Нават у каго дакументы ў парадку, і то трывога — мала да чаго можа прычапіцца паліцыя! А калі едзеш з чужым пашпартам? Колькі разоў памолішся, перахрысцішся ў думках, каб усё абышлося.

Але затое як мінеш кардон, можна адпачыць душою. Не зважаеш ні на цеснату, ні на бруд, любуешся роднымі лясамі, роднымі палямі, што бягуць за акном, здаецца, чуеш пах дымку, што ўецца з коміна адзінокай хаткі, закіданай снегам.

Усім сэрцам, усёй душою цяпер ужо са сваімі. Перажываеш радасць блізкай сустрэчы і трывогу, трывогу: як там, дома? Ці здаровыя маці, бацька, браты, сёстры? З ліста пра ўсё не даведаешся, ды кожная гадзіна, кожная мінута можа змяніць усё на свеце. Маці яшчэ, здаецца, мацнаватая, бегае, а бацька за апошнія гады здаў. Вось узрадуюцца дома, убачыўшы сваю блудную дачку!

А што там, у Вільні? Ах, як павольна едзе цягнік, зноў спыніўся на станцыі і стаіць, стаіць…

Ёсць успаміны Меланні Бордун пра гэта падарожжа Цёткі з яе пашпартам. Меланя Бордун расказвае:

«У 1909 годзе Цётка хацела паехаць на бацькаўшчыну і папрасіла мяне атрымаць для яе пашпарт, але на маё прозвішча. Я згадзілася і выканала яе просьбу. Гэта было няцяжка зрабіць. Для пашпарта тады не трэба было фотаздымка, а мы былі нават крыху падобныя адна на адну — абедзве яснавокія, светлавалосыя.

Яна паехала з пашпартам на маё імя, даехала дадому без якіх-небудзь прыгод, а калі вярталася назад у Львоў, на граніцы западозрылі, што гэта не яе пашпарт. Але яна не разгубілася, бо была вельмі настойлівая і рашучая, і вярнулася шчаслівa ў Львоў».

Як той казаў — патрэбна толькі рызыка…

# ГАЮЧЫ БАЛЬЗАМ

На радзіме першым чынам паехала ў Стары Двор — адведаць бацькоў, пабачыцца з блізкімі. Усе, вядома, радаваліся яе прыезду. Маці, праўда, больш плакала, чым радавалася, — надта ж змарнела дачка, кашляе, ці не досыць ёй бадзяцца па свеце, сядзела б дома, адпаілі б яе тут сырадоем, каровы, дзякаваць Богу, пацяліліся, малака хапае.

Бацька, хоць таксама шкадаваў Алаізу, але і бурчаў, не-не дый і ўпікнуць быў гатовы — што, навалявалася? Хацела ўсім пароўну зямлю падзяліць? Ці не казаў ён, што як стварыў Бог на гэтым свеце, так яно і будзе вечна?..

Не здавалася, спрачалася з бацькам.

Надта ўзрадавалася, калі акурат у гэты час прыехаў на пабыўку малодшы брат — Юзік, той самы, з якім некалі разам у бабкі гадаваліся, з якім разам вучылася ў Вільні.

Брат цяпер быў ужо падпаручнік. Хоць афіцэрская форма яму вельмі пасавала, але тут, дома, ён скідаў яе, хадзіў апрануты па-сялянску.

Трэба было бачыць, як радавалася маці, што дзеці дома, блізка каля яе, бо для мацеры дзеці, хоць і дарослыя, а ўсё дзеці. Старалася падаць на стол смачнейшае, сказаць ласкавае слова то дачцэ, то сыну. Са слязьмі шчасця пазірала на Юзіка — які ён прыгожы, статны — афіцэр, у акулярах.

З братам Алаіза шмат гаварыла пра паэзію, чытала яму свае вершы, захаплялася народнаю моваю, якая гучала вакол, даўно займела блакноцік, у які запісвала цікавыя словы, багацце народнай гутаркі. Заходзіла на кухню і пыталася ў вясковага хлопчыка:

— Як называецца гэта, што вісіць?

— Шаць, — адказваў хлопчык.

І Цётка запісвала: шэрань — шаць…

Хутка братава пабыўка скончылася, ён мусіў вяртацца ў свой полк, ды і сама Алаіза рвалася ўжо з дому ў Вільню.

Развітаўшыся з маці, якая зноў плакала, з бацькам, які зноў бурчаў, з сёстрамі, з суседзямі, яны разам з братам накіраваліся ў Васілішкі, каб адтуль ехаць у Вільню.

* * *

У Вільні Цётку на першым часе агортвае радасць ад таго, што яна зноў сярод сяброў, у любым горадзе, такім дарагім сэрцу, што можа хадзіць па вуліцах, кожны камень якіх, кожны будынак яшчэ, здаецца, дыхае тым дарагім, бурлівым часам.

Потым радасць засмуцілася.

У сэрцы паэтэсы жыла рэвалюцыйная Вільня, Вільня дэманстрацый і забастовак, узброеных сутычак народа з царскім войскам, паліцыяй, у сэрцы паэтэсы жыла Вільня мітынгаў.

Цяпер горад быў зусім інакшы. Цішыня і страх, знешні спакой, нянавісць схавана ў падполле. Але радавала, што жыве і шырыцца беларускі рух, што выходзіць «Наша ніва», у якой, нягледзячы на шчыльнае рэшата цэнзуры, застаюцца ўсё-такі смелыя думкі — пратэст супраць прыгнечання беларускага народа, супраць рэакцыі, спадзяванне на перамены, якія мусіць прынесці час. Акрамя таго, газета была ў той час адзіным выданнем, дзе беларускія пісьменнікі маглі друкаваць свае творы. «Наша ніва» змяшчала ў той час вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цішкі Гартнага, Канстанцыі Буйло, апавяданні Змітрака Бядулі, Ядвігіна Ш. і іншых беларускіх аўтараў. У гэтых творах прысутнічаў той непагасны агонь, які асвятляў, саграваў старонкі газеты, надаваў ёй таго зместу, які цяжэй было правесці праз артыкулы, допісы.

«Наша ніва» была асяродкам, дзе групаваліся культурныя беларускія сілы, газета падтрымлівала і прапагандавала беларускі вызваленчы рух, нацыянальную культуру.

У Вільні Цётка ўваходзіць у непасрэдны кантакт з нашаніўцамі, жыве ідэямі і праблемамі, якія ставіць і імкнецца вырашыць беларуская інтэлігенцыя.

У гэты час у беларускіх гарадах адбываюцца так званыя вечарыны, якія ставяць за мэту развіццё нацыянальнай беларускай культуры. Арганізацыі гэтых вечарын шмат увагі аддаваў Алесь Бурбіс, які, адседзеўшы тры гады ў астрозе, выйшаў на волю і пачаў грамадскую і культурную работу сярод працоўнага беларускага народа. Першая такая вечарына адбывался ў Вільні 12 лютага 1910 года, у клубе чыгуначнікаў.

Народу прыйшло вельмі многа, на сцэне, сярод дэкарацыі лесу, выступаў хор у беларускіх нацыянальных касцюмах. Пачаў ён вечарыну песняй, якую напісаў кампазітар Рагоўскі на словы Янкі Купалы — «А хто там ідзе?». Потым паказвалі камедыю Крапіўніцкага «Па рэвізіі», затым Алесь Бурбіс чытаў вершы Янкі Купалы і іншых беларускіх паэтаў. Асабліва спадабаўся слухачам прачытаны Алесем Бурбісам верш Янкі Купалы «Ворагам Беларушчыны»:

Чаго вам хочацца, панове,
Які вас выклікаў прымус

Забіць трывогу аб той мове,
Якой азваўся беларус?..

Танцоры пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага весела скакалі «Мяцеліцу», «Юрачку», «Лявоніху».

Зала з захапленнем прымала кожны нумар.

Такія вечарыны пачалі арганізоўвацца і ў іншых гарадах Беларусі і ў Пецярбургу.

У Пецярбургскім універсітэце з года ў год вучыліся студэнты з Беларусі, яны групаваліся паміж сабою ў кола, якое называлася зямляцтвам. У 1909 годзе гэта зямляцтва арганізавала вечар з праграмаю беларускіх нацыянальных песень. Другі вечар быў наладжаны ў лютым 1910 года, хутка пасля таго, як адбыўся першы канцэрт у Вільні.

Пецярбургскія студэнты дазналіся, што ў гэты час у Вільні нелегальна знаходзіцца Цётка, і прыслалі ёй запрашэнне прыехаць на вечарыну ў Пецярбург. Ведаючы, што ў Цёткі ніколі не бывае грошай, прыслалі ёй і грошай на дарогу.

Цётка прыехала ў Пецярбург і прыняла актыўны ўдзел у беларускай вечарыне, а потым прыслала карэспандэнцыю ў «Нашу ніву», у якой расказала пра свае ўражанні ад гэтай падзеі.

З карэспандэнцыі відаць, як сур’ёзна ставілася Цётка да ўсіх форм развіцця беларускай культуры, якое вялікае значэнне надавала ўсім гэтым канцэртам, вечарынам.

«Ідзе работа цяжкая, мазольная, — пісала яна ў карэспандэнцыі. — Возьмем хаця б тыя вечарыны і ігрышчы, што апошнімі днямі рабілі беларусы ў Вільні, Слуцку, Гродні, Пецярбургу. Гэта не былі звычайныя гулянкі: гэта была сур’ёзная культурная праца. Гуляць адно дзеля забавы, быццам матылёк на сонцы, можа толькі народ з вялікай культурай, бо ён мае ўжо арганізаваныя тэатры, аркестры, хоры, музыку. А беларус што меў дагэтуль?

Першае сваё ігрышча сыгралі ў Пецярбургу, беларусы 19 лютага (февраля). Насамперад пайшла камедыя Крапіўніцкага “Па рэвізіі”. Пасля хор з 65 чалавек прапяяў некалькі народных песень. Тады выйшла беларуская паэтка Цётка і вельмі добра гаварыла вершы “Мае думкі”, “Грайка”, “Родны край”. Далей пекна ігралі на віяланчэлі, на скрыпцы, — ізноў была дэкламацыя і песні, а закончыўся канцэрт беларускімі народнымі танцамі. Добра скакалі “Юрачку”, “Лявоніху”, “Качара”. Народу было многа, як беларусаў, так і чужых гасцей. Найбольш спадабаліся ўсім хор, дэкламацыя і танцы, бо для беларусаў гэта было роднае, а для гасцей — першыня. Але і іншыя нумары праграмы былі вялікай артыстычнай вагі».

Падпісала Цётка гэтую карэспандэнцыю псеўданімам Мацей Крапіўка, што дало ёй магчымасць расказаць і пра сваё выступленне.

На гэтай вечарыне прысутнічаў, але не выступаў, Янка Купала. Можна дакладна сказаць, што іменна тады, 19 лютага 1910 года, адбылося асабістае знаёмства Цёткі з Янкам Купалам. Расчаравання не наступіла, бо цудоўны паэт быў і прыгожы малады мужчына інтэлігентнага выгляду, сціплы, далікатны ў абыходжанні.

Іх сяброўства зрабілася яшчэ мацнейшае. Са шчырасцю, як старэйшая таварышка, паставілася Цётка і да маладой настаўніцы Уладкі Станкевічанкі, якая неўзабаве зрабілася жонкаю Янкі Купалы. Разам з Уладкаю працавалі яны на ніве беларускай асветы — арганізоўвалі бібліятэкі, беларускія патайныя школы, дзіцячыя прытулкі. Янка Купала з Уладзіславай Францаўнай потым не раз будуць гасцямі Цёткі і на кватэры ў Вільні, і ў Старым Двары, бо, успамінае Уладзіслава Францаўна: «…Як дом Цёткі на вёсцы, так і ў Вільні — былі сапраўднымі месцамі збору лепшых літаратурных і рэвалюцыйных сіл».

Сярод беларускай моладзі Цётка на той час была ўжо вядомая як паэтэса-рэвалюцыянерка, як грамадскі дзеяч, вопытны прапагандыст палітычных ведаў, і да яе часта прыходзілі за парадаю, за дапамогаю.

Паўліна Мядзёлка ў сваёй кнізе «Сцежкамі жыцця» ўспамінае, як не ўдавалася ёй работа ў нелегальным гуртку швачак і хатніх работніц. Палітычныя рэфераты, што даваў ёй Алесь Бурбіс, часта былі напісаныя моваю малазразумелаю не толькі для слухачак, але і для самой кіраўніцы гуртка.

І тут на дапамогу прыйшла Цётка. Яна параіла больш чытаць мастацкай літаратуры, урыўкі з рамана Чарнышэўскага «Што рабіць?», творы Багушэвіча, Купалы, Коласа.

Падчас нелегальнага прыезду ў Расію Цётка не забываецца і на вучобу ва ўніверсітэце — здае ў Пецярбургу экзамен па грэчаскай мове, авалодваць якою дапамагаў ёй у Львове Іларыён Свянціцкі. З вольнай слухачкі збіралася пераводзіцца ў студэнткі звычайныя, а для гэтага неабходна было мець атэстацыю па ўсіх прадметах, якія ўваходзілі ў праграму філасофскага факультэта Львоўскага ўніверсітэта.

Экзаменацыйная камісія выдала ёй дакумент:

«Падацелька гэтага Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна, дачка мяшчан, нараджэння 3 ліпеня 1876 года, рымска-каталіцкага веравызнання, была дапушчана ў асобым экзаменацыйным камітэце пры С.-Пецярбургскай навуковай акрузе да экзамену

па грэчаскай мове з курса васьмі класаў мужчынскай гімназіі і выявіла ў ім здавальняючыя веды, што пацвярджаецца подпісам з прылажэннем казённай пячаткі лютага 6 дня 1910 года за № 271».

У пачатку 1910 года ў Беларусі пачынае развівацца і тэатральнае мастацтва, мары аб якім яшчэ нядаўна беларуская інтэлігенцыя звязвала з Цёткаю. Аднак лёс выгнанніцы трымаў паэтэсу далёка ад дому, а ў Беларусі знайшоўся аматар у асобе Ігната Буйніцкага, які пачаў закладваць асновы першага беларускага прафесійнага тэатра. Яго работу моцна падтрымліваў Алесь Бурбіс, шчыра і бескарысліва ўзяўся памагаць беларускім аматарам мастацтва польскі кампазітар Людамір Рагоўскі, ён кіраваў беларускім хорам, гарманізаваў беларускія песні.

У час свайго нелегальнага прыезду на радзіму Цётка з запалам узялася працаваць для тэатра. На заводах, у майстэрнях, сярод вучнёўскай моладзі знаходзіла яна хлопцаў і дзяўчат з добрымі галасамі, аматараў танцаў і прыводзіла іх Буйніцкаму. Угаварыла і сваю сястру Караліну выступаць на сцэне, і тая выступала як танцорка. У маёй перапісцы з Каралінаю Пашкевіч тая тлумачыла, чаму на адной з фатаграфій яна апранута ў нацыянальны ўбор. «Здымак у народным строі паходзіць з прадстаўлення, арганізаванага ў клубе беларускай моладдзю і Цёткаю з дапамогаю Алеся Бурбіса, я выступала ў тым прадстаўленні як танцорка».

Відаць, цераз сястру Алаізу Караліна Пашкевіч была добра знаёмая з Алесем Бурбісам, калі ў памяці яе гэта імя захавалася больш чым на паўвека.

Муж паэтэсы Стэпонас Кайрыс у сваіх успамінах таксама пісаў:

«Алаіза Пашкевіч-Кайрыс пакладала шмат натугаў, каб арганізаваць і рыхтаваць трупу беларускіх артыстаў-аматараў для гастроляў па мястэчках Віленшчыны. На адным такім паказе ў Вілейцы давялося быць і мне».

Напачатку выступаў беларускі хор, артыстычна выконваліся беларускія танцы — «Лявоніха», «Чачотачка», «Мяцеліца», «Юрачка» і іншыя. Вострa ўстала пытанне з драматычным рэпертуарам, з арыгінальных беларускіх п’ес мелі толькі «Моднага шляхцюка» Каруся Каганца. Кінуліся шукаць, перакладаць аднаактовыя п’есы, рабіць інсцэніроўкі з твораў на рускай, украінскай, польскай мовах і хутка мелі «Па рэвізіі» і «Пашыліся ў дурні» Крапіўніцкага, «У зімовы вечар» і «Хам» Элізы Ажэшкі, «Сватанне» Чэхава, «Міхалку» Далецкага.

Вясною 1910 года Цётка з групаю артыстаў едзе ў Палівачы, маёнтак Ігната Буйніцкага, рыхтаваць праграму выступленняў.

Развучвалі камедыю «Па рэвізіі», у якой Цётка вяла ролю старой вясковай бабы Пантурчыхі. Камедыя расказвала, як старая кабета напляткарыла на маладую, і жанчыны прыйшлі да валаснога старшыні разбіраць свой канфлікт. Але гэты, на першы погляд бяскрыўдны, змест выкрываў тупасць, самадурства мясцовай улады, высмейваў п’янства, вясковую цемнату.

Роля старой Пантурчыхі была адной з галоўных у п’есе, і роля складаная, трэба было стварыць вобраз сварлівай, сквапнай да плётак кабеты, у душы якой тоіцца і добрае, жаласлівае. І тут раскрыліся сапраўдныя акцёрскія здольнасці Цёткі. Яе гераіня — цёмная, непісьменная жанчына, яна сама не ведае, што робіць, але душа яе ўміг адгукаецца на добрае слова.

Падрыхтаваўшы рэпертуар, артысты Буйніцкага паклалі на падводы рэквізіт і, дзе пешкі, дзе пад’язджаючы, пайшлі па Беларусі са сваім вандроўным тэатрам. У кожным населеным пункце трэба было браць дазвол на канцэрт у мясцовага начальства, а начальства прынюхвалася — ці няма ў выступленнях якой крамолы, аднак п’еса была дазволена цэнзураю, а артысты… Амаль усе артысты мелі псеўданімы. Цётка выступала пад псеўданімам Крапівіха (ад літаратурнага Мацей Крапіўка), Бурбіс таксама не хацеў мазоліць вочы паліцыі прозвішчам нядаўняга арыштанта і падпісваўся Г. Бухавіцкі, мелі псеўданімы і іншыя артысты трупы.

Прыязджаючы ў населены пункт, шукалі памяшкання для выступлення, не заўсёды знаходзілі залу са сцэнаю, часцей за ўсё даводзілася на скорую руку збіваць памост, але моцны, каб распаленыя «Лявоніхаю» ці «Мяцеліцаю» танцоры не разбілі яго ды не паламалі ногі. Калі заслона мелася, то і добра, не мелася — абыходзіліся без яе. На край сцэны ставілі газавую лямпу, якая вызначала рампу. Часам гледачы і артысты былі так блізка адзін да аднаго, што ледзь не змешваліся разам, гледачы маглі дакранацца рукамі да тых, што выступалі.

На канцэрты народ валіў валам, з навакольных вёсак прыходзілі ледзь не стогадовыя дзяды, каб падзівіцца на прадстаўленне, жыва рэагавалі на кожнае слова артыстаў, па некалькі разоў выклікалі на біс танцораў, спевакоў, дэкламатараў.

У танцах прымалі ўдзел дзве дачкі Ігната Буйніцкага, з адною з іх ён танцаваў у першай пары. Зяць Буйніцкага Я. Хвеакціст загадваў музычнай часткай тэатра і сам выступаў як саліст-спявак. На афішы тэатра Буйніцкага, якая паведамляла аб спектаклі ў гарадскім клубе ў Полацку 25 верасня 1910 года, значылася, што Я. Хвеакціст заспявае песні на вершы М. Крапіўкі «Грайка» і «Вясковым кабетам». Хто напісаў музыку на вершы Цёткі?

Можа, кампазітар Рагоўскі, а можа, сам Хвеакцiст? Гэта пакуль невядома, але вельмі цікавы той факт, што вершы Цёткі былі пакладзены на музыку і выконваліся ў час прадстаўленняў тэатра Буйніцкага як песні.

Сама Цётка вельмі часта чытала свае вершы, і дэкламацыі яе заўсёды былі вельмі артыстычныя.

І пайшла вандраваць тэатральная трупа Буйніцкага па Беларусі — Клецк, Слуцк, Нясвіж, Свянцяны, Вілейка, Полацк, а далей і Мінск, і Пецярбург. Як сведчаць былыя акцёры тэатра, праца іх не аплачвалася, бо выдаткі на пераезды, на начлегі, харчаванне, як ні эканомілі на гэтым, не пакрываліся даходамі тэатральнай касы. Білеты прадаваліся па цане, даступнай небагатым людзям, а шмат сялян, рабочых пускалі і зусім без білетаў. Усе артысты трупы былі энтузіястамі, іх вабілі не заработкі, натхняла мастацтва і разуменне таго, што праца іх прыносіць карысць народу.

Незаўважна прайшло лета 1910 года, а там і восень, Цётка ніяк не магла адарвацца ад тэатра, а трэба было вяртацца ў Львоў, там чакалі заняткі ва ўніверсітэце.

Летам 1911 года Цётка зноў на радзіме, зноў з тэатрам Буйніцкага. Яна рыхтуе ролі Наталкі ў спектаклі «Сватанне» па Чэхаву і старой Насты з п’есы «У зімовы вечар» па аднайменным апавяданні Элізы Ажэшкі.

Як сведчыць аўтар Н. Красоўскі («Беларусь», № 10, 1945 г.), Ігнат Буйніцкі быў асабіста знаёмы з выдатнай польскай пісьменніцай, вёў з ёю перапіску, Эліза Ажэшка сама ўдзельнічала ў рабоце трупы, па просьбе Ігната Буйніцкага адрэдагавала сваё апавяданне «У зімовы вечар», каб яно адпавядала сцэне. Думаецца, што апавяданне Элізы Ажэшкі «У зімовы вечар» невыпадкова прыцягнула ўвагу Бурбіса як акцёра і рэжысёра тэатра і Цёткі як артысткі. У цэнтры апавядання — беглы катаржнік, якога ловіць паліцыя. Мусіць, тэма гэта была блізкая і Бурбісу, як нядаўняму вязню царскай турмы, і Цётцы, якая, каб не трапіць за краты, была вымушана пакінуць радзіму. Бурбіс у гэтым спектаклі іграў ролю Бонка — падарожнага.

Бонк, беглы катаржнік, сапраўды шмат зла зрабіў людзям, на яго руках нават кроў чалавечая, але ўсім ходам спектакля артысты паказвалі, што Бонка зрабіла такім несправядлівасць, якая існуе ў грамадстве, душу яго скалечыла зло, якога так шмат на зямлі. Аўтар апавядання Эліза Ажэшка не хавае вялікага спачування Бонку і асуджэння грамадству, у якім ціхі, паслухмяны, душэўны хлопец мог ператварыцца ў злога духа Бонка, і гэта думка гучала лейтматывам усяго спектакля.

Цётка выконвала ў гэтым спектаклі ролю старой Насты. Гэта зноў жанчына з народа — добразычлівая, шчырая, хоць і не без грахоў — любіць прыкласціся да чаркі, часам зашмат і не заўсёды да месца гаворыць. Яе душа — скарбонка фальклору, Наста з тых жанчын, якія пераняли паэзію народа, што дайшла да іх з далёкіх часоў, і перадаюць гэтую паэзію наступным пакаленням.

Зноў пайшоў вандраваць па Беларусі тэатр Ігната Буйніцкага. Ставілі «Па рэвізіі», «Моднага шляхцюка», «Сватанне», «У зімовы вечар». Усе спектаклі прымаліся з вялікім захапленнем, але найбольш падабалася п’еса «У зімовы вечар». Язэп Лявонавіч Дыла, беларускі грамадскі дзеяч і пісьменнік, быы акцёр тэатра Буйніцкага, у сваіх успамінах піша:

«31 ліпеня ў памяшканні полацкага тэатра паказвалі “У зімовы вечар” Э. Ажэшкі. П’еса карысталася асаблівым поспехам, бо ўсіх захапляла ўмелая і шчырая ігра паэткі А. Пашкевіч (Цёткі), якая выконвала ролю старое Насты».

Далей, у тых жа ўспамінах:

«15 жніўня ў Вілейцы ставілі “У зімовы вечар”, і пяснярка А. Пашкевіч у выкананні ролі старое Насты мела, як і раней, вялікі поспех».

І яшчэ:

«21 жніўня ў Ашмянах далі “У зімовы вечар” і “Сватанне” Чэхава, пяяў хор, былі скокі. У п’есе мела зноў жа поспех паэтка А. Пашкевіч, якая вяла ролю старое Насты».

П’есу «У зімовы вечар» ставілі ў Нясвіжы, Слуцку, Свянцянах, 19 лістапада 1911 года яе выконвалі пецярбургскія студэнты-беларусы, на ролю Насты запрасіўшы Цётку. Галоўныя мужчынскія ролі ў гэтым спектаклі ігралі браты Эпімах-Шыпілы. Відаць, Цётка сапраўды мела немалыя акцёрскія здольнасці, магчыма, дала свой вынік, хоць і кароткая, вучоба ў выдатнай польскай драматычнай артысткі.

Тэатр для дзеячаў беларускай культуры зрабіўся новай трыбунай, з якой у народ ішло беларускае слова, перадавыя ідэі свайго часу. Нездарма артысты чыталі вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, і Цётка чытала свае вершы, поўныя любові да радзімы, імкнення служыць ёй, запальвала слухачоў агнём, якім сама гарэла.

У час прыездаў на радзіму яна так захаплялася тэатрам, што з цяжкасцю адрывалася ад яго і пазнілася ў Львоў на заняткі. А там былі свае праблемы, і трэба было іх вырашаць. І зноў нездаровілася. І так не хацелася зноў ехаць на чужыну. Але спакойна жыць на радзіме яна яшчэ не мела права.

## УНІВЕРСІТЭЦКАЯ АДЫСЕЯ

У пачатку дваццатага стагоддзя ў Львоўскім універсітэце, ды і ў некаторых іншых універсітэтах, існавала катэгорыя так званых вольных слухачоў, альбо студэнтаў незвычайных, экстраардынарных.

Вольныя слухачы маглі хадзіць на лекцыі, а маглі не хадзіць, маглі не здаваць ніякіх залікаў, маглі займацца навуковай работай, а маглі не займацца. Гэта была катэгорыя моладзі, а ў той час, бывала, і не вельмі маладых людзей, якія хацелі павысіць сваю адукацыю, некаторыя з іх цікавіліся толькі пэўнымі прадметамі, не вывучалі ўсёй універсітэцкай праграмы. Але былі сярод вольных слухачоў студэнты, якія па тых альбо іншых, часта незалежных ад іх прычынах не траплялі ў студэнты ардынарныя, хаця і імкнуліся да гэтага. Яны здавалі залікі па ўсіх прадметах, наведвалі семінары, вялі навуковую работу і спадзяваліся раней ці пазней перайсці ў лік студэнтаў звычайных, бо незвычайныя нават пры сканчэнні ўніверсітэта павінны былі здаваць дадатковы экзамен на права выкладаць у школе і не дапускаліся да здачы на доктарскую ступень. Студэнты звычайныя пры сканчэнні ўніверсітэта атрымлівалі ступень доктара і права выкладаць ва ўніверсітэце.

У Цёткі, якую залічылі ва ўніверсітэт як вольную слухачку, былі здадзены залікі амаль па ўсіх прадметах, што вывучалі і студэнты звычайныя, яна наведвала лекцыі, семінары, акрамя таго, працавала над навуковым даследаваннем і лічылася ўжо экстраардынарнай студэнткай чацвёртага года навучання.

І Цётка вырашыла перайсці ў лік студэнтаў ардынарных, альбо звычайных. Раней не рабіла такой спробы, магчыма, таму, што з вольных слухачоў бралі меншую плату за навучанне, звычайныя студэнты плацілі больш. Але вырашыла, што апошні год як-небудзь адужае…

І пачалася Цётчына ўніверсітэцкая адысея.

Сярод архіўных матэрыялаў, што захоўваліся ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР і потым, разам з іншымі матэрыяламі беларускага фонду, былі перададзены ў Дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва БССР, ёсць дакументы, якія расказваюць пра гэту Цётчыну адысею. Частку матэрыялаў той пары знайшоў у львоўскіх архівах беларускі паэт Сяргей Панізнік.

З гэтых дакументаў вынікае, што на падставе заявы Алаізы Пашкевіч савет прафесараў філасофскага факультэта Львоў-

скага ўніверсітэта накіраваў прашэнне ў імперска-каралеўскае міністэрства ў Вену.

«Алаіза Пашкевіч, рымска-каталіцкага веравызнання, — пісалася ў гэтым прашэнні, — згодна прыкладзенага пасведчання, выдадзенага 5 чэрвеня 1901 года, вытрымала заключны экзамен у сямікласным вучылішчы В. Прозаравай у Вільні і паўтарыла гэты экзамен у поўным аб'ёме гімназічнага курса для дзяўчат пры жаночай гімназіі імя Аляксандравай у Пецярбургу 15 мая 1904 года, акрамя таго, на падставе вытрыманага ёю 27 ліпеня 1901 года экзамену перад экзаменацыйнай камісіяй Віленскай школьнай акругі ёй было выдадзена пасведчанне на прысваенне прыватнай настаўніцы. Затым просьбітка ў маі 1904 года пры 1-й Пецярбургскай гімназіі здала экзамен па лацінскай мове ў аб'ёме поўнага гімназічнага курса і 6 лютага 1910 года перад спецыяльнай камісіяй Пецярбургскай школьнай акругі — экзамен па грэчаскай мове, таксама ў аб'ёме поўнага гімназічнага курса, і просіць цяпер імперска-каралеўскае міністэрства дазволу на іматрыкуляцыю». (Іматрыкуляцыя — запіс у лік студэнтаў звычайных. — *Л. А.*)

І Алаіза Пашкевіч атрымала дазвол. Калі зімою яна вярнулася ў Львоў, яе чакала паведамленне з Вены:

«Алаізе Пашкевіч, слухачцы факультэта філасофіі ў Львове.

Імперска-каралеўскае міністэрства веравызнання і асветы загадам ад 13 жніўня 1910 года за № 28296 у парадку выключэння дазволіла прыняць Вас, грамадзянку замежнага паходжання, на факультэт філасофіі імперска-каралеўскага Львоўскага ўніверсітэта ў якасці слухачкі звычайнай на падставе пройдзеных Вамі навук, а таксама дазволіла Вам залічыць летняе паўгоддзе 1909–1910 года, паколькі Вы праслухалі патрэбную колькасць лекцый.

Паведамляючы пра гэта, дэканат ставіць Вас да ведама, што не пазней 25 верасня Вы павінны з'явіцца ў дэканат да загадчыка фінансаваю справаю ўніверсітэта, інакш вышэй атрыманы дазвол страціць сілу».

Варта было паглядзець на каляндар, каб пераканацца, што дазвол ужо страціў сілу. Алаіза Пашкевіч з'явілася ў Львоўскі ўніверсітэт толькі ў снежні 1910 года.

Ва ўніверсітэце існавала правіла — на кожны наступны семестр і студэнты звычайныя, і вольныя слухачы павінны былі запісвацца асабіста ў дэканаце факультэта. Выклікалася гэта тым, што перад пачаткам заняткаў трэба было ўносіць плату за навучанне. Паколькі Алаіза Пашкевіч прыехала ў Львоў толькі

ў снежні месяцы, то не змагла запісацца і на наступны семестр, не змагла ў час унесці платы. І яе не ўпісалі нават у лік вольных слухачак.

Алаіза Пашкевіч кінулася ва ўніверсітэцкі сенат з просьбаю, каб улічылі, што яна не па сваёй віне спазнілася на заняткі, і зацвердзілі дазвол міністэрства на іматрыкуляцыю.

Але ва ўніверсітэцкім сенаце яе просьбу не задаволілі, папракнулі нават, што яна паставіла ў няёмкае становішча савет прафесараў, за яе хадайнічалі, а яна позніцца на заняткі… А калі хоча, каб яе залічылі на наступны семестр, то няхай зноў пасылае заяву ў высокае міністэрства ў Вену.

І Алаіза Пашкевіч зноў піша ў высокае міністэрства заяву, у якой растлумачвае, чаму яна не змагла з'явіцца да 25 верасня ў дэканат, і просіць залічыць яе на наступны семестр навучальнага года хаця б студэнткаю незвычайнаю.

«Высокае міністэрства!

У выніку цяжкай хваробы, якая напаткала мяне ў час летніх канікул у Расіі і з-за якой я пакінула сваё звычайнае месцажыхарства, маючы намер лячыцца, не было ў мяне магчымасці запісацца ў тэрмін, устаноўлены сенатам Львоўскага ўніверсітэта, — я прыбыла ў Львоў толькі 16 снежня.

У сувязі з тым, што ўніверсітэцкі сенат не задаволіў маёй просьбы быць прынятай ужо зараз у якасці студэнткі ардынарнай, згодна дазволу высокага міністэрства ад 13 жніўня 1910 года, накіроўваю высокаму міністэрству просьбу дазволіць мне запісацца яшчэ на гэты зімовы семестр (1910–1911). Тым больш што я наведвала патрэбныя мне лекцыі як экстраардынарная студэнтка на працягу васьмі семестраў. Ва ўсякім выпадку, я прашу залічыць мне летні семестр 1909–1910 года, які, як сведчыць прыкладзеная заліковая кніжка, згодна правіл афармлены. Калі немагчыма дазволіць запісацца на гэты семестр, прашу высокае міністэрства дазволу на запіс у летнім семестры 1910–1911 года.

Студэнтка IV года філасофіі

Алаіза Пашкевіч.

22 снежня 1910 года».

Можа, Алаіза Пашкевіч і не да канца тлумачыла прычыну свайго спазнення ва ўніверсітэт. Успомнім, што ўсё лета і восень 1910 года яна ездзіла па Беларусі з тэатрам Буйніцкага. Так што не адна хвароба тут была вінавата.

Так альбо іначай, але спазненне на заняткі ёй даравалі і дазволілі запісацца на летні семестр 1910– 1911 года. Тады яна робіць яшчэ адну спробу перайсці ў лік студэнтаў ардынарных. Гэтым разам з міністэрства прыходзіць сухі, катэгарычны адказ:

«Міністэрства веравызнання і асветы пастановаю ад 11 кастрычніка 1911 года за № 11148 не задаволіла просьбу пані аб дазволе на іматрыкуляцыю ў характары студэнткі звычайнай у тутэйшым універсітэце, аб чым паведамляем пані, вяртаючы заяву».

І Цётка зноў наведвае лекцыі як незвычайная студэнтка, здае залікі, вядзе даследчую работу, не кідаючы разам з тым працы ў палітычных гуртках.

Іван Франко ў свой час сказаў, што Львоўскі ўніверсітэт яго пары нельга было назваць «светачам у царстве духу», бо тут цемрашалы ў прафесарскіх мантыях душылі кожнае жывое слова, забаранялі, каб у сценах універсітэта гучала «хлопская» мова. Сам Іван Франко так і не дабіўся дазволу на выкладанне ў Львоўскім універсітэце ўкраінскай славеснасці.

Няшмат змянілася з той пары і ў час, калі ў Львоўскім універсітэце вучылася беларуская паэтэса. Як і па ўсёй Галіцыі, аўстра-венгерскія ўлады аддавалі тут перавагу польскай шляхце, і польская моладзь, падагрэтая духам шавінізму, часта пагардліва ставілася да ўкраінскай мовы, украінскай культуры. Супраць гэтага выступала, з гэтым змагалася маладая ўкраінская інтэлігенцыя і студэнты-ўкраінцы. Гарачая моладзь часта адстойвала свае правы не толькі словамі, але і кулакамі. Вядомы выпадак, калі ўкраінскія студэнты, абараняючы права на сход украінскай моладзі ў сценах універсітэта, пусцілі ў ход сталы, крэслы, лавы. У выніку такога бурнага абмену думкамі ўніверсітэт некаторы час не працаваў.

Цётка, якая дома, на радзіме, таксама бачыла шмат несправядлівага ў адносінах да роднай мовы, культуры, шчыра спагадала ўкраінскім сябрам і ў палітычных гуртках падтрымлівала іх патрабаванні — каб дазвалялі прафесарам чытаць лекцыі на ўкраінскай мове, каб не забаранялі ў калідорах і з прафесарамі размаўляць па-ўкраінску, каб у праграму навучання ўключалі прадметы, звязаныя з гісторыяй Украіны, з гісторыяй яе літаратуры і культуры.

І зноў універсітэцкая бібліятэка, чытальня, кнігі і кнігі, семінары, залікі. Асабліва шмат часу праводзіла яна ў маленькіх, падобных на скляпенні, пакоях бібліятэкі Асалінскіх, сярод багатых калекцый старадрукаў, твораў мастацтва, перыядычных выданняў, якія прыходзілі сюды з усёй Еўропы, тут былі сабраны тоўстыя фаліянты фальклору ўсяго свету, унікальныя рукапісы.

У Львоўскім універсітэце ў свой час існавала магчымасць наведваць не толькі тыя лекцыі, якія чыталіся па праграме, але і

тыя, якія, звыш асноўных, хацеў бы праслухаць студэнт. Існавалі карткі, у якія запісваліся лекцыі, што намерваўся наведаць слухач. Захавалася некалькі картак Цёткі. У адной з іх, на 1910–1911 навучальны год, яна робіць заяўку на семінары па польскай мове і літаратуры. Семінар па польскай мове і літаратуры вёў тады ў Львоўскім універсітэце вядомы польскі паэт Ян Каспровіч, сябар Івана Франко.

Цётка наведвае семінары па творчасці Адама Міцкевіча і па польскай драматургіі, семінары па ўкраінскай і рускай філалогіі. Адам Міцкевіч быў адным з любімых паэтаў Цёткі. Яна сама прызнавалася, што творчасць Адама Міцкевіча, асабліва тыя яго вершы, якія напісаны на беларускім фальклорным матэрыяле, зрабілі вялікі ўплыў на яе паэзію.

Карткай на 1911/12 навучальны год Цётка зноў падае заяўку на слуханне лекцый, гэтым разам па драматургіі польскай, гісторыі польскай мовы, па жыцці і творчасці польскага паэта Зігмунта Красінскага.

Цётка аддавала шмат увагі польскай славеснасці, бо лічыла, што ў ёй можна знайсці нямала звязанага з беларускай культурай. Часта польская літаратура, польскі фальклор выкарыстоўвалі беларускія народныя матывы, усё гэта збірала, вывучала Цётка.

У графе «родная мова», якая мелася ў картках-заяўках на лекцыі, Цётка заўсёды пісала «беларуская». Добра ведаючы польскую мову, ды яшчэ належачы да рымска-каталіцкай царквы, Алаіза Пашкевіч магла б запісаць сябе полькаю, ва ўніверсітэце, як вядома, палякі мелі прывілеі, можа б, яе тады і ў лік ардынарных слухачак хутчэй перавялі. Але Алаіза Пашкевіч не адракалася ад свайго народа, ад беларусаў, хаця шмат хто ў той час і не ведаў, што існуе такая нацыя — беларусы.

У Львоўскім універсітэце Цётка слухала лекцыі прафесара Раціборскага па агульнай біялогіі, прафесара Антановіча па італьянскім мастацтве, прафесара Гедэчыка па грэчаскай антычнай архітэктуры і грэчаскім разьбярстве, лекцыі прафесара Калесы па гісторыі ўкраінскай літаратуры і філасофіі. Барацьба ўкраінскай моладзі за права вывучаць і сваю культуру дала вынік — апошнія гады ў праграму гуманітарных факультэтаў універсітэта ўключаліся і лекцыі па гісторыі ўкраінскай літаратуры, філасофіі, па гісторыі Украіны.

У канцы 1911 года Цётка слухае лекцыі па гісторыі Польшчы, уступ да вывучэння польскай літаратуры, параўнальны сінтаксіс, гісторыю напалеонаўскіх часоў, вывучае ўкраінскую,

нямецкую, чэшскую мовы, этнаграфію, фальклор Польшчы, Украіны, Літвы.

Як бачым, Цётка набывала ва ўніверсітэце шырокія веды, і нездарма сучаснікі пасля казалі, што яна была вельмі адукаваным чалавекам.

Для сваёй навуковай работы ва ўніверсітэце Цётка спачатку ўзяла тэму «Паўстанне Свідрыгайлы» — пра ўзброены паход беларускіх і ўкраінскіх феадалаў пад кіраўніцтвам Свідрыгайлы за роўныя правы католікаў і праваслаўных, супраць уніі з Польшчай. Бунтаваў вольны дух паэтэсы. Акрамя таго, гэта была гісторыя Беларусі, яе барацьбы супраць апалячвання. Лёгка здагадацца, што такая тэма не магла быць падтрымана ўніверсітэцкім начальствам, сярод якога шмат было палякаў, настроеных шавіністычна. І Цётка мяняе тэму. Але зноў не адрывае яе ад Беларусі: «Батлейкі і яслі на Беларусі і іх сувязь з польскай літаратурай драматычнай». Працавала над гэтай тэмай некалькі гадоў, сабрала шмат цікавага і каштоўнага матэрыялу.

Беларуская батлейка — гэта народны тэатр лялек. У скрынцы, якая замяняла будынак тэатра з яго сцэнай, дэкарацыяй, выступалі лялькі. Кожная лялька мела свой вобраз, характар і ўвасабляла купца, цыгана, пана, беднага селяніна, яго жонку і іншых герояў.

Падлога ў скрынцы была пакрыта заечымі шкуркамі, каб не было відаць, як ходзяць лялькі. Паказваліся батлейкі на плошчах і мястэчках, на кірмашах, у вёсках і, як усякае народнае відовішча, збіралі вакол сябе шмат людзей. Тэксты для п’ес у батлейках часцей за ўсё былі народныя і высмейвалі папоў, купцоў, а беднага селяніна паказвалі разумным, дасціпным. Перад пачаткам бытавога спектакля разыгрываліся сцэны рэлігійныя. Часта паказвалася батлеечная п’еса «Цар Ірад» — пра тое, як цар Ірад, даведаўшыся, што нарадзіўся Хрыстос, загадаў забіць усіх дзяцей і як потым смерць прыйшла да самога цара Ірада.

Народныя сцэны падаваліся на беларускай мове, і зместам іх было беларускае народнае жыццё. Высмейвалася абжорства, паказвалі, як караюць жонку за здраду, а мужыка за п’янства, у інтэрмедыях спяваліся песні, выконваліся танцы.

У пачатку дваццатага стагоддзя, з развіццём капіталізму ў Расіі, а ў сувязі з гэтым з развіццём гарадоў, тэатральнага мастацтва, батлейка пачынае сыходзіць з народнай сцэны, аднак гісторыя яе ўяўляе навуковую цікавасць, і Цётка імкнецца сабраць як мага больш матэрыялу аб гэтым першым народным

беларускім тэатры, навукова асэнсаваць яго. Паказвае яна і ўплыў польскай культуры на развіццё беларускай батлейкі.

Кожны раз, прыязджаючы дадому, яна распытвала людзей, якія бачылі батлейку, пра тое, як яна выглядала, якія прадстаўленні паказваліся. Збіраючы матэрыял аб батлейках, яна хадзіла і па іншых беларускіх вёсках, заязджала ў вёскі літоўскія. Праз газету «Наша ніва» — № 40–45 за 1910 год — звярталася да чытачоў з просьбаю: «Збірайце матэрыялы аб батлейцы». У гэтай карэспандэнцыі Цётка пісала:

«Вялікую заслугу зрабілі б людзі для народнай беларускай літаратуры, каб запісалі ўсё, што ведаюць аб батлейках — яслях, казе, мядзведзю, цыганах і г. д., у каторых адбіліся і этнаграфія нашага краю, і гумар, і псіхіка нашага народа. Як на цяпер і пара да гэтага, бо надыходзяць Каляды. Адкладаць гэтай работы нельга, бо батлейкі — яслі, мядзведзі, цыганы і г. д. выходзяць ужо з моды, а з імі сходзіць з народнай сцэны наш дагэтуль адзіны беларускі народны тэатр».

Далей Цётка дае вялікую праграму для збірання матэрыялаў аб гэтых народных спектаклях, дае вялікі пералік пытанняў, на якія просіць адказаць, адзначае, на што звярнуць увагу, што запісваць (форма сцен, страхі, ганка, колькі батлейка мае паверхаў, з якога матэрыялу зроблена, якія мае аздобы, з якога матэрыялу аздобы, куды і якія лялькі ўваходзяць, выходзяць, запісаць, што гавораць у батлейцы, і г. д.).

Потым гэтую карэспандэнцыю, яшчэ больш пашыраную, Цётка выдала асобнай брашурай. Калі мець на ўвазе, што бясплатна гэтага нельга было зрабіць, то выходзіць, што на сваю навуковую работу студэнтка выдаткавала грошы, пра што яна потым скажа і сама.

Незаўважна мінуў яшчэ адзін год вучобы ў Львоўскім універсітэце. Цяпер Алаіза Пашкевіч ужо незвычайная слухачка пятага года навучання на факультэце філасофскім. І зноў робіць яна спробу перайсці ў лік студэнтаў ардынарных, зноў піша заяву ў высокае міністэрства.

«Вышэйназваная слухачка філасофіі Львоўскага ўніверсітэта Алаіза Пашкевіч мае гонар звярнуцца з просьбаю да імперска-каралеўскай канцылярыі міністэрства з просьбаю перавесці ў слухачкі звычайныя Львоўскага ўніверсітэта. Адначасова маю гонар паведаміць міністэрству, што ўжо ў 1910 годзе я атрымала дазвол на ўзвычайненне ў зімовым семестры, але ў сувязі з хваробаю (на што прыкладаю адпаведную даведку) у прызначаны

тэрмін не магла з’явіцца для афармлення рэгістрацыі і таму страціла права на дазвол.

Увесь апошні час я не спыняла сваіх заняткаў, у доказ чаго прыводжу сведчанне прафесара Вільгельма Брухнальскага.

Мэта майго імкнення — атрыманне доктарскай ступені. Я праводжу навуковае даследаванне, працую над трактатам, на які, не лічачы ўласнай працы, патраціла і шмат грошай на збор матэрыялу сярод насельніцтва Літвы і Беларусі аб яслях і батлейцы.

Мне было б вельмі крыўдна, каб я страціла пяць гадоў вучобы ва ўніверсітэце і не змагла б належным чынам выкарыстаць матэрыялы маёй працы, давесці да канца апрацоўку выбранай мною тэмы.

Алаіза Пашкевіч».

Да гэтай заявы яна прыклала даведку ад віленскага доктара медыцыны Бурбо, датаваную вераснем і кастрычнікам 1910 года:

«Сведчу аб тым, што пані Алаіза Пашкевіч хварэла ў верасні і кастрычніку гэтага года на інфлюэнцу, якая суправаджалася катаральным запаленнем лёгкіх».

Другая даведка была ад прафесара Вільгельма Брухнальскага. У ёй пісалася:

«Пацвярджаю, што Алаіза Пашкевіч, слухачка незвычайная факультэта філасофіі, прымала ўдзел у семінарскіх занятках па старажытнай польскай літаратуры і на працягу доўгага часу працуе над тэмай, дасюль нікім не чапанай — «Батлейкі і яслі на Беларусі і іх сувязь з польскай літаратурай драматычнай».

Пасведчанне гэта выдадзена з мэтаю падтрымаць хадайніцтва Пашкевіч на залічэнне яе звычайнаю слухачкаю, каб у далейшым яна магла здаць экзамен на ступень доктара філасофіі».

Але высокае міністэрства маўчала.

Што ж, трэба было не траціць часу, не траціць надзеі, спадзявацца на лепшае, цешыцца радасцямі, якімі можна было карыстацца.

Летам 1911 года звычайныя студэнткі Львоўскага ўніверсітэта едуць у Вену на так званыя ўніверсітэцкія студыі. Сярод гэтых звычайных студэнтак сяброўкі Цёткі — Анісся Мацвееўна Свянціцкая, жонка Іларыёна Свянціцкага, і Меланiя Бордун, з пашпартам якой нядаўна так удала падарожнічала Цётка. І Цётка едзе да сваіх сябровак у Вену, у якой раней ніколі не была і якую ўяўляе горадам мастацтва, горадам цікавай архітэктуры, багатых музеяў.

Пра гэта падарожжа Цёткі расказвае тая ж Меланія Бордун:

«У 1911 годзе была я са сваёй прыяцелькай Аніссяй Свянціцкай у Вене на ўніверсітэцкіх студыях. Да нас прыехала Цётка, яна таксама захацела пабачыць Вену. Мы наведалі з ёю музеі, агледзелі ўсе касцёлы. Асаблівае ўражанне на яе зрабіў касцёл святога Стэфана. Пахадзілі мы і па венскіх парках. Алаіза Сцяпанаўна хоць і не ведала мовы, але адчувала сябе добра і свабодна. Гутарыла з людзьмі на мігі. Людзі лёгка яе разумелі, ставіліся да яе дабрадушна і з сімпатыяй. Паводзіла яна сябе з людзьмі проста, дэмакратычна, звярталася да ўсіх пераважна на «ты», называла мужчын дзядзькамі.

У Вене сустракалася з некаторымі галічанамі і лёгка знаходзіла з імі агульную мову. Сама гаварыла пераважна беларускаю моваю, ведала таксама ўкраінскую і рускую».

Сучаснікі ў сваіх успамінах падкрэсліваюць, што Цётка ўсюды і заўсёды заставалася сама сабой, не старалася выглядаць іншай, чым яна ёсць. У Вене з элегантнымі венцамі яна абыходзілася запанібрата, чым некаторых надта здзіўляла, здзіўляла сваімі абыякавымі адносінамі да ўласнага выгляду — хадзіла ўсё ў адной, не вельмі моднай, сукенцы, голасна гаварыла па-беларуску, кіравалася толькі грамадзянскімі парывамі, захаплялася мастацтвам.

Іларыён Свянціцкі ў сваіх успамінах пра Цётку піша: «У Вене Цётка не стрымлівала свайго ўзрушэння, уголас радавалася, у захапленні яна кіравалася сваім характарам… Венцаў надзвычай уражвала яе няўвага да ўласнага адзення і да нястрыманай цішыні ў размове».

У сталіцы тагачаснай Аўстра-Венгрыі Цётку цікавяць не толькі музеі і паркі, яна наведвае там заводы, каб пазнаёміцца з умовамі працы аўстрыйскіх рабочых, заводзіць з рабочымі блізкае знаёмства і ходзіць да іх у госці, каб больш даведацца пра іх побыт.

Пра Цётчын прыезд у Вену расказвае і Анісся Мацвееўна Свянціцкая, яе ўспаміны таксама дадаюць штрыхоў да вобраза беларускай паэткі.

«Між іншым, — расказвае Анісся Мацвееўна, — у тыя гады і прынята было захапляцца народнасцю, але шырокая дэмакратычная накіраванасць Цёткі была яркай рысай яе характару і вызначала яе паводзіны. Проста дзіўна, як хутка яна сыходзілася з людзьмі, умела знайсці кантакт з чалавекам. Памятаю, у 1911 годзе мы жылі некаторы час у Вене.

І вось летам прыязджае да нас у госці Цётка. Яна не бачыла да гэтага часу Вены, і мы два ці тры дні разам аглядалі горад.

Цётка па паўгадзіны магла любавацца якім-небудзь прыгожым палацам, захапляючыся яго архітэктурай.

У тыя дні да нас на кватэру зайшоў адзін наш знаёмы, які працаваў у міністэрстве. Выхаваны ў спецыфічным асяроддзі ды, тым больш, займаючы высокую пасаду ў міністэрстве, чалавек гэты сваімі паводзінамі здаваўся нейкім ганарыстым. І вось ён пазнаёміўся з маёй госцяй. Ужо праз некалькі хвілін высокі чыноўнік быў «дзядзька» (Цётка кожнага знаёмага мужчыну называла дзядзькам), фанабэрыі нашага знаёмага як і не было. Я памятаю Цётку ці не з 1910 года. Муж вельмі цікавіўся беларускаю літаратураю, меў багатую перапіску з Беларуссю і на гэтым грунце пазнаёміўся з Цёткай. Яна мела намнога больш гадоў, чым я, і таму адносілася да мяне з апякунствам, як старэйшая таварышка.

Цётка ведала польскую мову, але амаль увесь час гаварыла пабеларуску. І гэта зусім не перашкаджала нам разумець адна адну.

У час нашых сустрэч было відаць, што яна чалавек хваравіты. Але яна на людзях ніколі не дазваляла сабе быць засмучанай, а старалася быць бадзёрай, рухавай. І заўсёды падкупляла яе непасрэднасць у адносінах з людзьмі, прастата яе характару.

Жыла Цётка небагата. Аднойчы яна занядужала, і я пайшла да яе на кватэру. Абстаноўка сціплая. Я дапамагла ёй лекамі, прыгатавала чай…

З 1913 года я Цётку ўжо не бачыла, толькі памяць аб сардэчным чалавеку жыве з тых часоў».

Пачынаючы з 1911 года Цётка жыве ўжо то ў Львове, то ў Расіі, яна падоўгу застаецца ў Беларусі, але клапоціць яе і ўніверсітэт, яшчэ крышку — і навука скончана, яна атрымае ступень доктара, зможа зарабляць сабе на хлеб, яна ўжо зусім змучылася ад вечных пошукаў няпэўнай работы, ад таго, што трэба лічыць кожны грош, ды яшчэ добра, калі ёсць што лічыць. У бацькі больш не бярэ ні капейкі, колькі можна браць, прасіць, ды ў таго ў самога апошнія гады ўсё пайшло не ў лад, збяднела яго гаспадарка. Можа, стары ўжо, не хапае сіл самому ўсё дагледзець, а маці заўсёды была не вельмі практычная, больш кіравалася эмоцыямі, чым розумам.

2 снежня 1911 года Цётка з Пецярбурга, дзе жыла тым часам, піша ліст выкладчыку Львоўскага ўніверсітэта К. Студзінскаму:

«Вельмі паважаны пане прафесар!

Не сярдуйце на мяне, што так смела зварочваюся да Вас з просьбай, але мая ўніверсітэцкая справа вымагае таго.

Пан Мазуркевіч у Ведні (так называлася тады Вена. — *Л. А.*) абяцаўся памысльне павесці маё дзела з узвычайненнем, калі шаноўны пан прафесар напіша да яго картку. З усяе гаворкі з панам Мазуркевічам я зразумела, што ён панскае слова цэніць, як золата.

Дзеля таго ў страху, каб не прапала майго паўпята года ўніверсітэта Львоўскага, пішу з просьбай да прафесара: мая справа цяпер у Ведні і будзе залежаць, хто і як яе павядзе. П. Мазуркевіч мог бы шмат зрабіць… Дык, можа, пан прафесар быў бы ласкаў да яго напісаць.

Перапрашаю і астаюся з вялікаю пашанаю.

Алаіза Пашкевіч.

Пецярбург, 2 грудзеня 1911 г.».

І толькі ў 1912 годзе, пасля хадайніцтва многіх прафесараў, з Вены прыйшоў дазвол на залічэнне Алаізы Пашкевіч у якасці ардынарнай студэнткі.

Міністэрства веравызнання і асветы паведамляла:

«Пані Алаізе Пашкевіч, слухачцы незвычайнай факультэта філасофіі ў Львове, імперска-каралеўская канцылярыя міністэрства веравызнання і асветы загадам ад 29 ліпеня 1912 года за № 31005 дазволіла ў парадку выключэння, па просьбе групы прафесараў факультэта філасофіі, дапусціць яе, грамадзянку замежнага паходжання, да іматрыкуляцыі ў якасці студэнткі звычайнай факультэта філасофіі ўніверсітэта Львоўскага ад першага паўгоддзя 1911–1912 года.

Аб гэтым паведамляем Вам, папярэдзіўшы, каб не пазней 1 кастрычніка 1912 года з'явіліся Вы асабіста для выканання іматрыкуляцыі ў дэканаце факультэта, у выпадку, калі Вы не з'явіцеся да ўказанага тэрміну, дазвол страціць сілу».

І Цётка нейкі час разрываецца паміж універсітэтам — так мала засталося, каб атрымаць ступень доктара, і радзімаю, куды вабіць сэрца. А потым пакідае Львоў. Над цвярозым розумам узялі перавагу пачуцці. І не першы раз.

Некалі, у Пецярбургу, яна так і не скончыла курсаў Лесгафта — вярнулася на радзіму, каб падчас рэвалюцыі, якая пачыналася ўжо, закіпала, быць са сваім народам.

Так і цяпер.

Дома, на радзіме, шырыўся беларускі культурны рух, акрамя таго, надыходзілі змены ў асабістым жыцці — Стэпонас Кайрыс прапанаваў сваю руку і сэрца. Змена прозвішча магла дапамагчы вярнуцца на радзіму і жыць там, не хаваючыся ад паліцыі.

І Цётка больш не хоча заставацца ў Львове, яна ахвярue ўніверсітэцкім дыпломам, доктарскай ступенню, каб цалкам аддаць сябе грамадскай і культурнай дзейнасці на радзіме.

## ЗНОЎ У ВІЛЬНІ

7 лютага 1911 года Цётка выходзіць замуж за Стэпонаса Кайрыса. Захавалася метрычная выпіска з кнігі віленскага рымска-каталіцкага прыходскага касцёла аб гэтым шлюбе.

«Тысяча дзевяцьсот адзінаццатага года, лютага сёмага дня, у віленскім РК прыходскім касцёле кс. Кухта без аб'явы, па індульту п. кіраўніка віленскай РК епархіі ад 11 лютага гэтага года, за № 778 грамадзяніна Сцяпана, па метрыцы Сцяпана Кейрыса, халастога, 32 гадоў, з дзяўчынаю, прыхаджанкаю віленскага святога Рафаіла касцёла, па зробленаму наперад строгаму, з абодвух бакоў на пісьме даследаванню аб перашкодах да шлюбу і не знайшоўшы ніякіх, а таксама па выказанай ад абаіх асоб узаемнай згодзе, знешнімі знакамі паказанай, Вікенція і Урсулы з Пузынаў Кейрысаў, законных мужа і жонкі сына, Сцяпана і Анны з Вызгаў Пашкевічаў, законных мужа і жонкі дачкою, пажанілі і ў асобе касцёла ўрачыста благаславілі ў прысутнасці веры дастойных сведак Іосіфа Сцяпанавіча Пашкевіча, Войцэха Пашкевіча і шмат іншых, якія пры гэтым знаходзіліся».

Прозвішча мужа Цёткі па-літоўску пішацца не Кейрыс, а Кайрыс. У пасведчанні аб шлюбе, якое дайшло да нас на рускай мове, гэта прозвішча запісана як Кейрыс. І Цётка ўсюды сваё прозвішча па мужу пісала Кейрыс, чаму — застаецца пакуль невядома, магчыма, па-руску, па-беларуску яно больш натуральна гучала як Кейрыс. А можа, пры складанні копіі пасведчання аб шлюбе нехта адзін раз памыліўся, і адтуль пайшло? Магчыма, і тое, што крышку змененае прозвішча мужа зноў блытала б сляды паліцыі, каб яна памкнулася дакапацца да той самай Алаізы Пашкевіч, фельчаркі… Але гэта ўсё толькі меркаванні.

З вышэйпададзенага дакумента відаць, што шлюб Цёткі з Кайрысам адбываўся без аб'явы, па індульту, гэта значыць па дазволу пана кіраўніка віленскай рымска-каталіцкай епархіі.

Звычайна, калі ў касцёле мелася быць абвенчана маладая пара, ксёндз перад гэтым з амбона тры разы абвяшчаў прыхаджанам аб такой падзеі.

Алаізе Пашкевіч, якая ў Вільні ў той час знаходзілася нелегальна, няможна было так шырока абвяшчаць аб сваёй прысут-

насці. Таму быў узяты індульт (дазвол на шлюб у вышэйшага культавага чына, які дазваляў вянчаць маладых без папярэдняй аб'явы).

З выпіскі відаць таксама, што Цётка выходзіла замуж, калі мела ўжо 35 гадоў, і была на тры гады старэйшая за свайго нарачонага, што ўступалі маладыя ў шлюб па ўзаемнай згодзе і перашкод да гэтага шлюбу касцёл не бачыў, што сведкамі з боку Цёткі былі яе браты Юзік і Войцах, а таксама шмат іншых людзей, якія прысутнічалі пры вянчанні.

Такім чынам, з 7 лютага 1911 года Алаіза Пашкевіч пачала называцца Алаіза Кейрыс, альбо Кайрыс. Цяпер яна магла заставацца на радзіме, жыць тут легальна як законная жонка законнага мужа.

Але ў той час яшчэ не скончылася яе ўніверсітэцкая адысея, Алаіза Пашкевіч, цяпер ужо Кейрыс, яшчэ даводзіць яе да канца.

І вось, нарэшце, прыйшоў дазвол на ўзвычайненне.

Цяпер абставіны ў жыцці Цёткі складваліся найлепшым чынам. Яшчэ паўгода вучобы, і яна доктар філасофіі. А дома, у Вільні, свой прытулак, якога не мела з маладосці, усё жыла па чужых кутках як кватарантка. Дома, у Вільні, муж…

Захаваліся фатаграфіі Цёткі той пары — на іх прыгожая жанчына з натхнёным тварам, на адной — у капелюшы, на другой — з хараша прыбранымі валасамі, але ў той самай сукенцы, відаць, фатаграфіі рабіліся ў адзін дзень, два іх варыянты. Адна з гэтых фатаграфій — Цётка ў капелюшы — прыклеена на заліковую кніжку Алаізы Кейрыс, з Пашкевічаў, ужо звычайнай студэнткі філасофскага факультэта Львоўскага ўніверсітэта, выдадзеную 26 верасня 1912 года.

Усе магчымасці былі цяпер у Цёткі звіць мяккае, цёплае гняздо. Але такога жыцця не прыняла б душа паэтэсы. Яна пакідае ўніверсітэт, ахвяруе доктарскім дыпломам і вяртаецца ў Беларусь, вяртаецца не для таго, каб адпачыць ад турбот, ад цяжкага, галоднага жыцця эмігранткі, не для таго, каб забыцца ў салодкім сне кахання, а зноў для цяжкай, «мазольнай» работы.

Імя Цёткі было шырока вядомае ў Вільні яшчэ з часоў рэвалюцыі 1905 года, тут добра памяталі яе рэвалюцыйныя вершы, выступленні на мітынгах. Вяртанне паэтэсы на радзіму выклікала цяпер вялікую радасць сярод прагрэсіўнай беларускай грамадскасці і асабліва сярод студэнтаў. Усе былі задаволены, што паэтэсе ўдалося ашукаць паліцыю і застацца на волі, што яна змагла вярнуцца на радзіму.

Цётка з мужам пасяліліся ў Вільні, у раёне Звярынца, на вуліцы Сасновай, якая была на ўскраіне горада і на якой сапраўды раслі сосны. Муж Цёткі ўспамінае:

«Уладзіліся мы вельмі сціпла, па-студэнцку. Цётка не цярпела мяшчанскага спосабу жыцця, і аж да Першай сусветнай вайны мы абыходзіліся памяшканнем з двух пакояў з кухняй. Наймічкі мы не мелі, хоць майго заробку за працу стала б і на крыху раскашнейшае жыццё, на абаіх знаць было яшчэ нядаўняе студэнцтва».

Сюды, дадому да Цёткі, пачалі часта прыходзіць сябры мужа і Цётчыны сябры па грамадскай дзейнасці. Часта літоўцы і беларусы гаварылі аб адным — аб свабодзе для сваіх народаў, аб вызваленчай барацьбе, якая зноў павінна разгарэцца, рабілі ўсё, што маглі рабіць ва ўмовах рэакцыі, каб не заглухлі вольналюбівыя ідэі, каб захоўвалася ў сэрцы прага барацьбы.

Тады яшчэ невядома было, як, каго і куды павядзе некалі лёс, як, каго падзеляць погляды. І хоць часам узнікалі палітычныя дыскусіі, творчыя спрэчкі, усім здавалася, што ў галоўным яны аднадумцы, усе супраць тыраніі, за свабоду для сваіх народаў, за развіццё нацыянальнай культуры, літаратуры.

З Вільні Цётка часта наязджае ў Пецярбург — там пачаў выходзіць часопіс «Маладая Беларусь», пісьменніца друкуе ў ім свае творы, яе цікавіць жыццё ў Пецярбургу, вялікую радасць прыносяць сустрэчы з Янкам Купалам.

У 1911 годзе ў Пецярбургскім універсітэце на базе беларускага зямляцтва быў створаны навукова-літаратурны гурток. Арганізатарам яго быў Яўген Хлябцэвіч, тады ўжо студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта. Шмат дапамагаў рабоце гуртка, быў яго сэрцам прафесар Броніслаў Эпімах-Шыпіла.

Рускія вучоныя віталі з’яўленне новага навуковага таварыства, віншаванні накіравалі яму прафесар М. П. Пагодзін, даследчык беларускага фальклору Е. Р. Раманаў, які напісаў у сваім пасланні:

«Дзень добры, племя маладое, невядомае!.. Ратуючы народ ад эканамічнай залежнасці, ад яго ворагаў, вы выратуеце яго і ад духоўнага зняволення…»

Гэты гурток наладжваў вечарыны і запрашаў на іх Цётку.

Цётка з ахвотаю адгукалася на запрашэнні, укладала ў гэтыя вечары шмат сваёй душы. Яна апранала беларускае сялянскае ўбранне з яркімі стужкамі і пацеркамі, абувала лапцікі і ў такім убранні дэкламавала свае вершы. Выступала заўсёды з вялікім артыстызмам, укладаючы ў дэкламацыю шмат энергіі, агню.

Прысутныя гаварылі паміж сабою, што Цётка «…згарае полымем любві да сваёй радзімы».

Блізкім сябрам яна прызнавалася:

— Дыхаю адным лёгкім…

У Пецярбургу Цётка кожны раз радавалася сустрэчам з Янкам Купалам. Яўген Хлябцэвіч успамінае, што на адной з беларускіх вечарын Цётка падышла да яго і сказала:

«Як я люблю гэтага Янку. Вось праўдзівы беларус, так і ўспамінаю Беларусь з яе нівай, з яе лясамі і лугамі і жалейкай пастушка на полі».

У 1912 годзе Янка Купала пераехаў з Пецярбурга ў Вільню. Уся беларуская грамадскасць сустрэла яго з радасцю. Асабліва радавалася Цётка, яна казала яму, абдымаючы:

«Вось добра, Купалка, што ты прыехаў, шмат працы ў нас, чакалі мы ўсе тут цябе».

Ноччу з 23 на 24 чэрвеня 1912 года беларускі музычна-драматычны гурток у Вільні наладзіў свята Купалля. Яно было тым больш радаснае, што на ім прысутнічаў сам беларускі паэт, які ўзяў сабе гэта, глыбока нацыянальнае і рамантычнае прозвішча — Купала. З вечара 23 чэрвеня ўдзельнікі свята паселі ў вялікія чаўны і пад музыку паплылі па Віліі цераз увесь горад. Чаўны былі прыбраны зелянінаю і ліхтарыкамі, музыка іграла беларускія народныя песні. Па берагах Віліі стаялі людзі, любаваліся прыгожым відовішчам.

Высадзіліся з чаўноў у лесе, сабраліся на паляне, і там пачаліся гульні, забавы, спявалі беларускія песні, танцавалі, скакалі праз агонь. Усе ўдзельнікі апрануліся ў нацыянальныя беларускія касцюмы. Свята Купалля было адной з форм, праз якую беларусы імкнуліся сцвердзіць сябе як нацыю, паказаць сваю багатую народную творчасць, сваё імкненне да развіцця нацыянальнай культуры. Пра гэта пісаў Янка Купала ў «Нашай ніве», расказваючы, як святкавалася Купалле ў 1912 годзе ў Вільні.

У Вільні Цётка з Янкам Купалам пасябравалі яшчэ мацней. Разам з іншымі беларускімі дзеячамі культуры, літаратуры Янка Купала стаў частым госцем Цёткі на Сасновай вуліцы, прымаў удзел у дыскусіях, якія там разгараліся, чытаў свае вершы. Уладзіслава Францаўна ўспамінае аб гэтых сустрэчах:

«На вечарах Цёткі вяліся жывыя спрэчкі па самых актуальных пытаннях беларускага жыцця, на тэму шляхоў, якімі павінен ісці беларускі народ, зачытваліся новыя вершы. Цётка была душой гэтых вечароў. Здаралася, аднак, што яна адчувала сябе стомленай, давала аб сабе знаць цяжкая хвароба. У такія

хвіліны Цётка звычайна сядала побач з Купалам і гаварыла аб вялікай працы і аб недахопе сіл.

«Наш народ такі дужы, такі добры. Столькі працы, столькі сіл нам патрэбна. А ў мяне сіл не хапае. Знаеш, Купалка, — нешта пячэ ў грудзях і слабасць такая…»

Так шчыра прызнавацца ў сваёй хваробе можна было сапраўды толькі вельмі блізкаму чалавеку.

Янка Купала таксама вельмі любіў і паважаў Цётку, высока цаніў яе паэзію, яе вялікую адданасць беларускай справе».

Былы дырэктар бібліятэкі Саюза пісьменнікаў БССР Марыя Канстанцінаўна Хайноўская, якая сябравала з Янкам Купалам і яго сям'ёю, расказвала, што Янка Купала вельмі часта і з вялікай цеплынёю і шчырасцю ўспамінаў Цётку.

У тыя далёкія гады Цётка разам з Янкам Купалам і Ядвігіным Ш. выступала ў беларускім клубе на Віленскай вуліцы, у літоўскім клубе «Рута». Беларускія пісьменнікі сябравалі з літоўскім паэтам Людасам Гірам, з мастаком Чурлёнісам, з літоўскай паэтэсай Лаздзінай Пеледа, з польскім паэтам Ежы Янкоўскім, які ў тыя гады жыў у Вільні.

Імёны перадавых беларускіх пісьменнікаў таго часу — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цёткі, Максіма Багдановіча — таксама былі ўжо шырока вядомыя не толькі беларускай культурнай грамадскасці, а і за межамі Беларусі.

Цётка ўмела сябраваць, умела «злівацца» з людзьмі ўсякай нацыянальнасці. Яе муж у сваіх успамінах пісаў:

«Хоць Цётка ўсюды і заўсёды падкрэслівала, што яна беларуска, і не дазваляла нікому зачапіць беларускую справу, у гэтай, аднак, своеасаблівай ваяўнічасці не было ніякай агрэсіўнасці супраць якой-небудзь іншай нацыянальнасці. Наведваючы разам маю бацькаўшчыну, мне не раз даводзілася дзівіцца, як лёгка і «натуральна» Цётка ўлівалася ў новае ёй асяроддзе. Пасля дня гасцявання яна была ўжо «свая» сярод маіх блізкіх, хоць гэта былі і «гіргуны». Што дапамагала Цётцы вельмі борзда зліваццa хай і з чужым сабе нацыянальным асяроддзем, дык гэта ейны людскі падыход да чалавека і пашана да яго. З літоўцамі сябравала асабліва цёпла, і ў час нашага жыцця ў Вільні наш даволі сціплы «таварыскі круг» складаўся блізу вылучна з літоўцаў і беларусаў, сярод іх мы абое чуліся «сваймі».

А як важна — адчуваць сябе сярод людзей сваім. Гэта неабходная ўмова для чалавечага шчасця.

## РВАЦЬ ЛАНЦУГ ЦЕМНАТЫ

Царскі тэрор напалохаў так званых спадарожнікаў рэвалюцыі, якія ў 1905 годзе нібыта і прымалі ў ёй актыўны ўдзел. У рускай літаратуры ў гэты час запанавалі дэкадэнцкія плыні, з новай сілай загучалі заклікі аб так званай свабодзе мастацтва, смакаваліся эратычныя матывы, а такія пісьменнікі, як Салагуб і Арцыбашаў, спалучалі парнаграфію з шалёнымі наскокамі на рэвалюцыю.

І трэба паставіць у заслугу перадавым беларускім пісьменнікам, у тым ліку і Цётцы, што рэакцыя не засланіла ад іх твару жыцця, як ад пісьменнікаў-дэкадэнтаў, што беларускіх пісьменнікаў па-ранейшаму хвалюе лёс краіны, творчасць іх засталася глыбока сацыяльнаю, ім па-ранейшаму дарагія ідэалы рэвалюцыі.

Янка Купала, Якуб Колас, Цётка і ў гады рэакцыі пішуць пра свой народ і для свайго народа, яны вераць, што ноч рэакцыі мінецца, што наступіць светлы дзень, які прынясе свабоду.

У гэтыя змрочныя гады Янка Купала стварае верш «Яшчэ прыйдзе вясна». Якуб Колас кажа селяніну:

Не пужайся, пойдзем далей,
Ноч мінаецца, змоўкнуць совы!
Дзень спаткаць будзьма гатовы!
Дык наперад, брат, павалім!

Усе вершы, апавяданні, публіцыстыка, напісаныя Цёткаю ў гэты час, поўныя клопату пра лёс краіны, пра лёс свайго народа, у іх па-ранейшаму ставяцца грамадскія пытанні.

Падкрэсліць гэта неабходна для таго, каб яшчэ раз адкінуць абвінавачанні вульгарна-сацыялагічнай крытыкі, якая ў свой час скажона трактавала ідэйна-мастацкі кірунак творчасці Цёткі 1907–1914 гадоў.

Спасылаючыся на тое, што ў творчасці паэтэсы гэтай пары больш няма такіх вершаў, якія былі ў 1905 годзе, няма вершаў, у якіх яна адкрыта заклікала б да рэвалюцыі, што ў некаторых яе творах з’явіліся сумныя ноты, вульгарныя крытыкі паспяшаліся залічыць паэтэсу ў лік рэнегатаў.

Але хіба магла ў час рэакцыі пісаць паэтэса вершы, якія стварала ў час рэвалюцыі? У час рэвалюцыі паэзія Цёткі адлюстроўвала бунтарную эпоху, была голасам сваёй пары, адбіткам той рэчаіснасці, паходняю, запаленаю ад агню рэвалюцыі.

У час рэакцыі клікаць народ на барыкады было б вераломствам і безадказнасцю. Нават самыя моцныя рэвалюцыйныя сілы ў гэтую пару былі вымушаны пайсці ў падполле, змяніць сродкі і метады барацьбы.

Шмат зроблена новымі пакаленнямі даследчыкаў для таго, каб выправіць памылкі мінулага. Неабходна выправіць памылку і ў адносінах да Цёткі. Жыццё і творчасць паэтэсы 1907–1914 гадоў акурат разбіваюць вульгарную канцэпцыю, сведчаць аб вернасці паэтэсы абранай дарозе.

С. Кайрыс пісаў пра настрой Цёткі гэтай пары: «Не падыходзіла б да Цётчынага характару, каб яна не верыла ў святлейшую будучыню свайго народа. Песімізм, які і на яе ці не раз моцна нападаў, ніколі не ўплываў на яе жаданне працаваць і на яе веру ў поступ чалавецтва, а разам і свайго краю».

Пратэст супраць затхлага жыцця перыяду рэакцыі знаходзіць выйсце ў горкіх, але рашучых радках верша «Арлы-брацці». Вольнаму духу Цёткі сорамна заставацца ўнізе, сярод людзей, якія пагадзіліся з няволяй, і паэтэса ўсклікае:

Арлы-брацці, дайце скрыдлы,
Бо унізе жыць мне збрыдла;
Кіньце кожны адно пёрка,
Бо жыць ўнізе стала горка.

У гэтым вершы зноў уваскрасае Цётка бунтарнай пары з яе імкненнем да волі, да шырокіх прастораў, да барацьбы. Цётка гаворыць арлам:

Хачу, арлы, ляцець з вамі
Над гарамі, над марамі,
Крыллем хмары рассякаці,
Смела ў неба заглядаці!

Але крылы паэтэсы звязаны, няма прастору яе музе.

У гады рэакцыі Цётка па-ранейшаму аддае ўсе свае сілы, усе свае здольнасці народнай справе, яе дзейнасць па-ранейшаму скіравана супраць самаўладства, супраць яго палітыкі, але формы пратэсту цяпер іншыя, ды яны і не маглі быць не іншыя ў гады, калі над усёй Расіяю панавала ноч рэакцыі.

У Віленскай губерні ў той час існавалі дзіцячыя ўстановы, падпарадкаваныя «Обществу попечительства о бедных». Дазволенае царскаю ўладаю, таварыства гэта магло адчыняць

дзіцячыя прытулкі для дзяцей-сірот, але не мела права весці асветніцкай работы.

Аднак сярод выхавацеляў часта траплялiся перадавыя людзі, якія, пагарджаючы небяспекай, імкнуліся праводзіць сярод дзяцей і моладзі асветніцкую работу. Цётка наладзіла сувязь з гэтымі выхавацелямі, і хутка пад бяскрыўднымі шыльдамі прытулкаў пачалася асветніцкая работа.

Арганізоўваліся неафіцыйныя (патайныя, як тады называліся) беларускія школы ў вёсках, сярод сялянскіх дзяцей. У 1911–1914 гадах на ўскраіне Вільні, у Нова-Вілейцы, каля станцый Яшуны і Беняконі на Лідчыне, на радзіме Цёткі пад Васілішкамі дзейнічалі патайныя беларускія школы. Праз гэтыя школы ішло распаўсюджванне беларускай літаратуры, перадавых ідэй.

Па ўсёй Беларусі адчыняліся і бібліятэкі, працаваць туды ехалі маладыя хлопцы, дзяўчаты, якіх таксама сваім словам умела натхніць Цётка.

Яшчэ ў вучылішчы Прозаравай Цётка рыхтавала сябе да педагагічнай дзейнасці, і хоць жыццё яе склалася так, што непасрэдна настаўніцаю ёй давялося працаваць нядоўга, аднак любоў да гэтай справы, цяга да яе засталіся, і Цётка з ахвотаю пачынае працаваць у нелегальных беларускіх школах — вучыць дзяцей грамаце, выкладае арыфметыку. Яна вядзе барацьбу супраць русіфікатарскай палітыкі царызму, супраць польскага шавінізму, які імкнуўся апалячваць беларусаў, асабліва каталіцкага веравызнання.

Землякі ўспамінаюць, якую вайну за дзіцячыя душы вяла Цётка з ксяндзамі, калі тыя заманьвалі вясковых хлопчыкаў і дзяўчатак да касцёла, каб там вучыць іх на «панскай», польскай мове, як тлумачыла яна і дзецям, і іхнім бацькам, што беларуская мова не горшая за польскую, як вучыла дзяцей спяваць беларускія песні, казаць на памяць беларускія вершы. Часам, можа, ужывала і не зусім педагагічныя прыёмы. Казала якому дзіцяці: «Будзеш гаварыць па-беларуску, дык дам цукерку…»

Цётка вельмі добра разумела, што будучыня беларускага народа ў яго моладзі, і прыкладала ўсе намаганні, каб гэтую моладзь вучыць. Беларускія школы — гэта апошнім часам было самае блізкае, самае дарагое сэрцу паэтэсы, нездарма ў год яе смерці як вянок на яе магілу па ўсёй Беларусі пачалося ахвяраванне сродкаў на беларускія школы. Ахвяравалі беларускія арганізацыі, прыватныя асобы, яны так і паведамлялі — як вянок на магілу Цёткі ахвяруем грошы на беларускія школы.

Асвета беларускага народа праз школы, бібліятэкі, развіццё нацыянальнай культуры — гэтым жыла, гэтым гарэла Цётка, гэтым запальвала іншых, паказваючы разам з тым і свае выдатныя арганізатарскія здольнасці.

Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, якая разам з Цёткаю працавала на ніве асветы беларускага народа, успамінае:

«Не раз Цётка, прыйшоўшы ў беларускую кнігарню на вуліцы Завальнай, дом № 7, і апынуўшыся сярод сваіх сяброў па працы на беларускай ніве, пачынала са шчырым запалам гаварыць аб удачах у рабоце, ганіць недахопы, раячы адразу, як іх перамагаць.

— Вось ты, Юрка, паедзеш у Нова-Вілейку, — гаварыла Цётка, — там трэба дапамагчы наладзіць вечарыну, каб прыцягнуць больш людзей.

— А ты, Станкевічанка, — звярталася яна да мяне, — паедзеш у Гудэлі, там трэба адчыніць школку».

Беларуская паэтэса Канстанцыя Буйло, на той час маладая дзяўчына, якая толькі пачынала пісаць вершы, з пашанай і захапленнем ставілася да Цёткі, але Цётка паводзіла сябе з ёю, як і з усімі іншымі людзьмі, проста і па-таварыску.

Аднойчы Цётка запрасіла Канстанцыю Буйло да сябе ў госці на калдуны. Калдуны калдунамі, але Цётка мела на ўвазе яшчэ і сваё: перад ёю была маладая беларуская паэтэса, улюбёная ў кнігу, поўная сіл і энергіі, і трэба было гэтыя сілы і энергію скіраваць на добрую справу.

Канстанцыя Антонаўна ўспамінала:

«Мы доўга ішлі рознымі вуліцамі, дайшлі да яе доміка, ён быў невялікі, зайшлі ў маленькі пакоік, і Цётка адразу пачала клеіць калдуны. Яна сказала мне, што ў Полацку павінна быць адчынена беларуская кнігарня і ў іх ёсць думка, каб паслаць мяне туды загадчыцай кнігарні. Яна гаварыла, што там трэба згуртаваць моладзь, каб весці работу асветніцкую наогул і беларускую таксама, трэба, каб моладзь чытала рэфераты на тэмы. якія ўздымае сучаснасць, і г. д.

Я не магла адказаць адразу, мне трэба было напісаць бацькам, параіцца з Уладкаю (Уладзіслаўай Францаўнай Луцэвіч. — *Л. А.*), і я папрасіла даць мне нейкі час на роздум.

Мы елі калдуны, пілі чай, потым Цётка праводзіла мяне трошкі, і я паехала да Уладкі. Праз нейкі час у рэдакцыі «Нашай нівы» я зноў сустрэлася з Цёткаю, яна адразу звярнулася да мяне з пытаннем — што я надумала. Я сказала, што згодна ехаць у Полацк. Парывістая Цётка схапіла маю руку і пацалавала яе, як быццам я выказала згоду на нейкі подзвіг. Я паехала ў Полацк,

працавала ў кнігарні вельмі мала, памяшканне было ўзята пад шпіталь — пачалася вайна».

Пра парывістасць, эмацыянальнасць Цёткі расказваюць шмат якія сучаснікі. Грамадскія справы былі такія дарагія яе сэрцу, такія для яе асабістыя, што яна магла пацалаваць руку таму, хто адгукаўся на яе просьбу — выканаць тое альбо другое даручэнне, часам угаворваючы свайго таварыша выступіць на мітынгу, яна магла стаць перад ім на калені.

Шмат у чым гэта, мусіць, ішло і ад каталіцкага выхавання ў сям'і, калі чалавека змалку прывучалі выказваць падзяку і пашану цалаваннем рукі, прасіць у Бога аб нечым важным — стоячы на каленях. Нагрузка ўсіх гэтых звычаяў змянілася, а сам звычай заставаўся, як наша сённяшняе «Божа барані», «не дай Бог», «дзякуй Богу», што мы гаворым па звычцы, укладваючы ў гэтыя выразы толькі эмоцыю і не надаючы значэння іх даслоўнаму сэнсу.

Шмат работы ўклала Цётка ў арганізацыю беларускага дзіцячага прытулку ў Мінску. На гэта патрэбны былі грошы. Частку іх меліся сабраць арганізацыяй вечароў і канцэртаў, разлічвалі і на багатых дабрадзеяў. Надумалі натрэсці крыху грошай для дзіцячага прытулку і са скарбонкі княгіні Радзівіл, якая на той час жыла недалёка ад Мінска, у Кухцічах, сваёй сельскай рэзідэнцыі.

Княгіня Магдалена Радзівіл была вельмі багатая — мела некалькі маёнткаў з зямлёю на дзясяткі тысяч дзесяцін, сотні тысяч кубаметраў лесу перапрацоўвалі ўласныя лесапільныя заводы, у Варшаве стаяла некалькі ўласных дамоў, у скарбонку княгіні адзін за адным плылі мільёны.

Княгіня Радзівіл выказвала сваё мецэнацтва то да палякаў, то да літоўцаў, у залежнасці ад свайго настрою. У тую пару яна акурат нечага пасварылася і з палякамі, і з літоўцамі і, на злосць ім, пачала выказваць сваю прыхільнасць да беларусаў. Гэтым яе настроем час ад часу і карысталіся беларусы для сваіх выдавецкіх спраў.

Цётка, якая была заўзятым ворагам багацеяў-арыстакратаў, скептычна ставілася да дабрадзейнасці княгіні, але патрэбны былі грошы для дзіцячага прытулку, і яна, махнуўшы рукою, вырашыла паспрабаваць — а раптам ды княгіня раскашэліцца.

На дыпламатычныя перагаворы вырашылі паслаць Уладку Станкевічанку. Яна таксама не верыла ў шчырую прыхільнасць княгіні да беларусаў, не хацелася і кланяцца ў ногі магнатцы. Цётка яе супакойвала, казала:

— Нічога, Станкевічанка, ідзі смела да Радзівіліхі, толькі глядзі, не чапай яе сабачак, а то набярэшся бяды.

Цётка мела падставу так гаварыць — усе ведалі пра слабасць княгіні да гэтых стварэнняў. У пакоях Радзівіліхі, каля яе ног, вечна круцілася з тузін сабачак — малых і кудлатых. Па тым, як адносіліся людзі да яе сабачак, гаспадыня вызначала і свае адносіны да людзей. Аднойчы аграном, зайшоўшы ў пакоі княгіні, адкінуў нагою сабачку, які з брэхам кінуўся да яго і ўчапіўся за калашыну. Пасля гэтага княгіня выгнала агранома са свайго маёнтка, сказаўшы, што ён кепскі чалавек. І наадварот, хто паспяваў у час пагладзіць яе кітайскіх мопсаў, заваёўваў давер.

Мусіць, крыху грошай для дзіцячага прытулку княгіня ўсё-такі адшкадавала, інакш не мела б яна маральнага права прыехаць з кошычкам, у якім ляжалі цукеркі, і частаваць дзяцей у прытулку. Кошычак нёс за княгіняю слуга, сама яна толькі вымала па цукерцы і давала іх дзецям.

Цётку княгіня Радзівіл ведала, шмат чула пра яе, цікавілася беларускай паэтэсай як незвычайнай, сенсацыйнай жанчынай, пра якую хадзіла слава рэвалюцыянеркі і мужыцкай паэтэсы.

Вельмі хутка высветлілася, што сродкаў для ўтрымання прытулку больш няма адкуль чакаць, трэба зачыняць яго, а жыло там ужо шмат дзяцей-сірот, што было з імі рабіць?

Ёсць звесткі, што частку гэтых дзяцей Цётка адправіла на радзіму, у Стары Двор, пад апеку старэйшай сястры Стэфаніі.

Зямляк Цёткі, жыхар хутара Грабнік М. К. Дабрылка, расказвае:

«Родная сястра Цёткі Стэфанія яшчэ да рэвалюцыі прывезла з горада беспрытульных дзяцей. Іх было каля дваццаці пяці чалавек. Трымала іх на сваім харчаванні, вучыла роднай беларускай мове, за што была пад надзорам царскага ўрада. Часта прыязджалі жандары і праводзілі вобыскі хаты і блізкіх суседзяў. Быў такі выпадак, калі ў суседнім доме Вінчы Казіміра былі схаваны дзеці, а жандары рабілі вобыск. Каб адцягнуць іх увагу, сям'я пайшла на хітрасць. Маці Вінчы Казіміра лягла на лаву, як бы памерла. Жандары адчынілі дзверы, увайшлі ў хату, паглядзелі, што ляжыць чалавек, накрыты белым пакрывалам, і пайшлі.

Дзякуючы такой хітрасці дзеці былі выратаваны».

Гэты ўспамін запісаны настаўніцай Шастакоўскай школы А. П. Корчык. У Шастакоўскай школе ёсць альбом, у які настаўніца запісвае ўспаміны землякоў аб паэтэсе, тое, што яшчэ памятаюць пра сям'ю Пашкевічаў старажылы.

У час паездкі аўтара гэтых радкоў на радзіму Цёткі таксама даводзілася чуць ад былых Пашкевічавых суседзяў пра беспрытульных дзяцей, якіх яшчэ да рэвалюцыі прывезлі ў Стары Двор да Цётчынай сястры Стэфаніі. Зусім магчыма, што гэта акурат і былі дзеці з мінскага прытулку. Пра далейшы іх лёс ніякіх звестак не захавалася.

Вярнуўшыся з Мінска ў Вільню, Цётка зноў шмат працуе па арганізацыі беларускіх школ, прымае ўдзел у заснаванні беларускіх настаўніцкіх курсаў, а калі яны пачалі працаваць, выкладае педагогіку і гігіену.

У 1911–1913 гадах Цётка займаецца не толькі асветніцкай дзейнасцю. У Вільні, на Віленскай вуліцы, быў арганізаваны беларускі клуб, дзе па вечарах збіраліся рабочыя, беларуская інтэлігенцыя. Тут наладжваліся канцэрты, вечары самадзейнасці, паэты чыталі свае вершы. Часта праводзіліся тут і палітычныя сходы, запрашаліся лектары.

Выступала тут з прамовамі і Цётка, у алегарычнай форме гаварыла яна аб непрымірымасці працоўнага народа з самаўладствам, аб неабходнасці працягваць барацьбу.

1 мая 1913 года ў Звярынецкім лесе — ваколіца Вільні — была наладжана маёўка, на якой прысутнічала рабочая моладзь, студэнты і ўся беларуская інтэлігенцыя Вільні. Цётка гаварыла на гэтай маёўцы прамову, дзе зноў у алегарычнай форме заклікала да барацьбы, расказвала пра вялікае свята салідарнасці працоўных усяго свету — Першае мая. Усе, хто выступаў на мітынгу, гаварылі ў алегарычнай форме — яшчэ не час было выступаць адкрыта, царызм жорстка распраўляўся з тымі, хто падпадаў пад падазрэнне як бунтаўшчык, рэвалюцыянер.

У гэтыя гады Цётка часта ездзіла дадому, у Стары Двор. Землякі добра ведалі яе як паэтэсу, шмат хто на памяць дэкламаваў яе вершы «Хрэст на свабоду», «Вясковым кабетам». Да Цёткі прыходзілі сяляне — параіцца, паскардзіцца на несправядлівасць. Цётка чым магла дапамагала, а часта і лячыла, давала медыцынскія парады.

Асабліва радавалася Цётка, калі сустракалася дома з братам Юзікам. Тады яны і дома, у вёсцы, наладжвалі вечарыны. У прасторную хату збіраліся суседзі, і маладыя хлопцы, дзяўчаты, арганізаваныя Алаізаю і Юзікам, спявалі песні, ігралі на цымбалах, Алаіза і Юзік чыталі беларускія вершы, спрабавалі нават разыгрываць спектаклі.

Паглядзець і паслухаць такія канцэрты прыходзілі сяляне; на ўсе вочы глядзелі, на ўсе вушы слухалі дзеці.

Часам Цётка прыязджала дадому са сваімі віленскімі сябрамі, з мужам. Гэта найчасцей было летам. Тады падоўгу гулялі ў ваколіцах Старога Двара, па лесе, па полі. Сябры заўсёды дзівіліся — як добра, як тонка разумее, ведае Цётка прыроду — кожную травінку, кожную раслінку, жыццё і нораў кожнага звера, кожнай птушкі.

А яна радавалася, што зноў дома, што можа любавацца хараством сваёй старонкі, калі захоча, можа пайсці па любой сцяжыне, што перасякаюць лес і поле, дакрануцца рукою да любой хвоі, да любой бярозы.

Хто не гібеў у выгнанні, той не ведае, як гэта дорага!

## ДУША ЧАЛАВЕКА

Ужо ў першых апавяданнях Цёткі — «Прысяга над крывавымі разорамі», «Навагодні ліст», у казках і замалёўках для дзяцей было відаць, як упэўнена адчувае сябе рука паэтэсы ў прозе — празрысты сказ, яркі вобраз, народная мова.

Апошнія гады пісьменніца ўсё больш звяртаецца да прозы. Чаму? Узрост вёў да гэтага жанру, калі думкі, назіранні ўжо не месцяцца ў паэтычныя радкі? Магчыма, і гэта. Але яшчэ, мусіць, і тое, што цяпер Цётку ўсё больш хвалюе чалавек, яго індывідуальнасць, яго ўнутраны свет. Калі ў сваіх вершах Цётка звярталася да народа, да грамады, і народ, грамада былі яе героем, то цяпер яе цікавіць чалавек, асоба. Хацелася спыніцца і паглядзець, падумаць, а гэтаму, мусіць, больш спрыяюць празаічныя жанры.

«Зялёнка», «Міхаська», «Лішняя», «Зваротлівы» — ва ўсіх гэтых апавяданнях, можна сказаць, адзін герой, і духоўны свет яго імкнецца даследаваць Цётка. Пісьменніца выступае супраць абставін, у якіх яе героі не могуць быць шчаслівыя. Тут і беднасць, цемната, вечная прыніжанасць, і пакуты жанчыны, якая не знайшла сабе шчасця пад гэтым небам, і адзінота, страх чалавека на парозе смерці.

Апавяданні прасякнуты сумнымі нотамі, у іх жаль, спачуванне да сваіх герояў. якія бачылі ў жыцці так мала радасці, шчасця. У гады рэакцыі сум, горыч пранізвалі не толькі творчасць Цёткі, яны прысутнічалі і ў творах іншых беларускіх паэтаў, пісьменнікаў. Лепш за ўсіх растлумачыў гэту з’яву Янка Купала ў сваім артыкуле «Чаму плача песня наша», змешчаным у газеце «Наша ніва». Янка Купала пісаў, што для таго, каб весялей заспявалі

беларускія паэты, трэба змяніць рэчаіснасць, а цяпер плача наша песня, плача, бо народ у кайданах.

У апавяданні «Асеннія лісты» Цётка расказвае аб тым, як пасля доўгай разлукі сустрэліся двое старых дзядоў, як успамінаюць сваё жыццё, сваю маладосць, як ім горка цяпер, у канцы жыцця. Сцяпан жаліцца сябру на сваю адзіноту, успамінае свае няшчасці. Расказвае, што нарадзіўся ён на свет з крыжам — на правай лапатцы радзімы знак быў — крыж чырвоны.

«…Значыць, прыйшоў на свет божы ўжо з крыжам. А пасля як пасыпаліся, — так толькі крыжы, крыжы па ўсёй скуры… А душа шчымам шчыміць. Бацькі з пажару не выйшлі, няшчасце з жонкай, астрог, калецтва, а после, — як пацерачкі, — да апошняга…»

У гэтым апавяданні крыж, з якім нарадзіўся на свет селянін, — тая ж сімволіка, да якой так часта звярталася паэтэса ў вершах. З дня нараджэння і да смерці мусіць несці на сабе селянін крыж пакуты.

Сцяпан і Сымон азіраюцца на жыццё, якое, нібы тая муха — «Б-з! і праляцела». Па-народнаму вобразна, з вялікай горыччу ў душы, расказвае пра сваё жыццё і Сымон.

«…Што зробіш, жыццё трасе чалавекам… ой, рэчкі павысыхалі… так трасе, так трасе, як вецер лісцем на дрэве! А мы з табою, Сцяпане, праўду сказаць, асеннія лісты, патрасе яшчэ крыху намі, патрасе, і адпадзём!»

Канец апавядання, нібы сумная элегія, якая гучыць для змучаных жыццём Сцяпана і Сымона.

«Асенняе неба хмарна і зімна… не адкажа вам, пажоўклыя лісточкі. Вецер толькі закалыша і знікне. Адзін звон па вас заплача шчыра, а зямля-маці прытуліць спрацаваныя косці. Елка або бяроза пусціць карэнне ў вашы збалелыя сэрцы, выцягне з іх усю горыч і вынесе ў вясёлай зелені суроваму свету… канец мукі».

Апавяданне «Асеннія лісты» было надрукавана ў часопісе «Маладая Беларусь», які выдаваўся суполкаю «Загляне сонца і ў наша аконца» ў 1912–1913 гадах у Пецярбургу. Часопіс гэты друкаваўся кірыліцаю і лацініцаю — каб маглі чытаць яго і беларусы-католікі, і беларусы-праваслаўныя. Як адзначалася вышэй, беларускі народ здавён дзяліўся па рэлігіі на католікаў і праваслаўных, католікі вучыліся грамаце па-польску, пры касцёлах, праваслаўныя адольвалі грамату па рускіх кніжках. Таму першыя беларускія кнігі, газеты, часопісы друкаваліся і лацініцаю, і кірыліцаю, каб зразумелі іх і тыя беларусы, якія

карысталіся лацінскім алфавітам, і тыя, што вучыліся чытаць рускімі літарамі.

У «Маладой Беларусі» змяшчалі свае творы Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Змітрок Бядуля, Канстанцыя Буйло.

Акрамя «Асенніх лістоў» Цётка надрукавала тут апавяданні «Лішняя» і «Зялёнка». І ў гэтых апавяданнях гучаць матывы смерці, толькі калі ў «Асенніх лістах» мы адчуваем блізкую смерць старых людзей, то ў апавяданнях «Лішняя», «Зялёнка» паміраюць маладыя дзяўчаты, і іх смерць выглядае несправядліваю, горкаю.

Страсная, парывістая дзяўчына з апавядання «Лішняя» не можа прымірыцца з тым, што назаўсёды траціць каханага чалавека — ён здрадзіў ёй, ажаніўся з другою. Цётка паказвае вялікі боль дзяўчыны, тую невыносную муку, якую адчувае яе душа. Дзяўчына не можа перажыць свайго гора, не можа вытрываць пакут і болю. Яна канчае жыццё самагубствам, кідаючы гэтым пратэст жорсткаму свету. А перад тым як пайсці з жыцця, яна кідае пратэст і Богу:

«Во, глядзі, Божа! — голас ламаўся ў бяспамяцтве, а хрыплая скарга біла мацней і мацней у глухаце ночы. Блуд прыступаў быстра.

Літасцівы — ха-ха-ха!

Міласэрны — гу-гу-гу-гу-гу!

Прыпаднялася на пальцы і плюнула…»

Дзяўчына смяецца, здзекуецца з Бога, які абыякава глядзіць з неба на чалавечыя пакуты. А калі ён такі бессардэчны, дазваляе, каб на свеце панавала несправядлівасць, то ці варта яму маліцца? Тут ужо сур'ёзны замах Цёткі на рэлігію. Хоць наўрад ці можна аб'ядноўваць думкі, пачуцці самой аўтаркі з адчуваннямі гераіні.

Апавяданне «Лішняя» напісана з надрывам, дзяўчыну пісьменніца паказвае на мяжы вар'яцтва, і гэта месцамі вядзе да меладраматызму, а малюнак, калі тапельніца плыве раніцой па рацэ, выглядае сентыментальным.

Аднак, нягледзячы на слабасці гэтага апавядання, яно цікавае для нас як нечаканае выяўленне душы пісьменніцы. Што выклікала гэты бурны парыў пачуцця? Чаму раптам з'явіўся ў Цёткі першы і апошні твор пра каханне? Ці ёсць пад ім аўтабіяграфічная аснова, і нехта сапраўды прычыніў паэтэсе мукі здрадаю, яно, апавяданне — акенца ў свет асабістых адчуванняў, перажыванняў, які паэтэса ўвесь час так шчыльна ад нас зачыняла, ці вынік жыццёвых назіранняў, вынік роздуму над так званымі «вечнымі пытаннямі» — каханне, смерць, што хвалю-

юць чалавецтва з часу яго з’яўлення на зямлі і да сённяшняга дня, якія турбавалі, хвалявалі і Цётку? У лісце да Я. Хлябцэвіча яна пісала:

«Ведаеце, Геня, я ніяк не магу пагадзіцца са смерцю. Мяне заўсёды хвалююць гэтыя пытанні — каханне і смерць…»

Сум і трагедыя ярка выявіліся ў апавяданні Цёткі «Зялёнка», дзе ярка абмаляваны час, паказаны побыт і характар пецярбургскай моладзі, што прымала ўдзел у рэвалюцыі і дасюль жыве ідэямі, надзеяй на лепшыя дні.

Зялёнка вельмі хворая, яна ведае, што хутка памрэ, але стараецца схаваць пакуты ад сваіх сяброў, каб не трывожыць іх, не хваляваць. Больш таго, Зялёнка нават ведае, калі памрэ, — яна сябе пераканала, што гэта здарыцца тады, калі ў яе краі асыплецца лісце на дрэвах.

Да хворай Зялёнкі прыходзяць сябры, і Цётка паказвае, якія гэта харошыя і шчырыя людзі — украінец Хведарчук нават бандуру прывалок, каб развесяліць хворую, Сібіра прынёс яблыкі, але адразу пасаромеўся іх аддаць, яўрэй Шмулька доўга недаядаў, эканоміў грошы, каб купіць Зялёнцы білет на канцэрт у Дваранскую…

Што ж звязвае Зялёнку з гэтымі маладымі людзьмі, што звязвае іх усіх паміж сабою, на якім грунце ўзнікла іх таварыства? Маладосць? Вучоба? Вядома, што і гэта, але, відаць, і нешта большае. Іх, людзей розных нацыянальнасцей, студэнтаў розных навучальных устаноў, звязваюць ідэі, за якія яны змагаліся ў 1905 годзе, за якія сасланы на катаргу іх таварышы.

І не парываецца сувязь сяброў Зялёнкі з тымі, хто апынуўся ў ссылцы. Сувязь падтрымліваецца перапіскаю, з Пецярбурга ў Якуцк пасылаюцца кнігі. Апошні раз павінна была паслаць кнігі Зялёнка, ды захварэла, яна цяпер турбуецца, ці зрабіў хто гэта за яе. Сябры Зялёнкі абкладаюць сябе падаткам, каб сабраць грошай і выслаць сябрам у Якуцк, і Зялёнка паклала ў агульную касу рубель. Усе гэтыя дэталі ў апавяданні невыпадковыя, усе яны перадаюць настроі перадавых пецярбургскіх студэнтаў у гады рэакцыі, усе яны перадаюць і настроі Цёткі. Невыпадкова сярод сяброў Зялёнкі ходзіць і пагалоска пра тое, што Зялёнка з Сібірам напісалі драму, героем якой выступае дзед Сібіры, высланы ў Акатуй — царскую ссылку. За што мог адправіць цар селяніна на катаргу, калі не за бунт, не за ўдзел у паўстанні супраць яго, цара? Магчыма, дзед Сібіры прымаў удзел у паўстанні 1863 года? І вось гэтага селяніна, селяніна-бунтара, Зялёнка з Сібірам робяць героем сваёй драмы. Гэты факт зноў

падкрэслівае, што вольналюбівыя ідэі па-ранейшаму трывожаць маладых людзей, што яны не прымірыліся з рэчаіснасцю, а глыбока ў душы хаваюць вогненны запал.

Ва ўсёй творчасці Цёткі тэма рэвалюцыі і тэма мастацтва перапляталіся ці ішлі побач. Варта ўспомніць яе вершы «Артыст грайка», «Скрыпка», «Грайка» і іншыя. У вершы «Артыст грайка» Цётка малюе вобраз мастака, злітага са сваёю скрыпкаю. Гэты мастак можа выклікаць у людзей слёзы, можа прыносіць ім радасць, яму падначалены цэлы свет. Сам мастак, як маланка, пануе ў прасторы, яго смычку падначалены ўсе тоны, якія існуюць у сусвеце. Але гэта музыка кроіць і сэрца мастака, таму ў яго вачах часта блішчаць слёзы і стогнуць пад рукою струны.

У апавяданні «Зялёнка» Цётка зноў звяртаецца да гэтай тэмы, зноў паэтызуе мастацтва, зноў паэтызуе вобраз мастака.

«Выйшаў артыст, не пакланіўся, ані глянуў, каму будзе іграць. Стаіць яшчэ дзіця-хлопчык, ліцо натхнёна. Паволі скрыпку падносіць на рамяно. Смычок чуць-чуць даткнуўся, азваліся струны… Ціхая мелодыя, як першы ўздых дзіцяці, палілася; ідзе, вядзе некуды ў засветныя разлогі чыстага лірызму».

І далей Цётка расказвае аб тым, пра што гаворыць гэта скрыпка, што ўяўляе Зялёнка пад яе сумны спеў:

«Маладая душа верыць у шчаслівыя далі, узнімаецца, рвецца да іх смелым лётам. Мераць у яе адзін за другім громы абману, зла… Змагаецца з цёмнымі сіламі прозы, б’е скрыдламі ў нябесныя скляпенні паэзіі. Бой даходзіць фазы смерці і жыцця. Белая шата паволі пакрываецца крывавай расою. Скрыдлы апускаюцца. І ўжо смяртэльна раненая маладосць плача, стуліўшыся ля варот шчыльна зачыненага раю шчасця…»

Скрыпка іграе пра трагедыю маладой душы, магчыма, і пра трагедыю самой Цёткі — Зялёнкі, калі яе маладая душа верыла ў шчаслівыя дні і рвалася да іх смелым лётам, змагалася з цёмнымі сіламі зла, але вось яны перамаглі, і страцілася радасць жыцця. Нездарма пасля таго, як перастала іграць музыка, Зялёнка гаворыць:

«Вялікая трагедыя схоплена тонамі…»

А пасля новых магутных акордаў зноў гаворыць:

«Божа, якая ты страшная, творчасць! Роўна вогненна мора падыходзіць з усіх старон да апутанага табою чалавека. Бессмяротная слава такому плачу, што не згіне ў тваіх тонах!»

Кволы, змучаны хваробаю арганізм Зялёнкі не вытрымлівае такога моцнага ўзрушэння, такога моцнага хвалявання, узнятага музыкай, Зялёнка тут жа, у тэатры, памірае.

Але апошнія словы яе — гэта словы захаплення мастацтвам, захаплення музыкаю, якая мае над чалавекам такую ўладу.

* * *

Сумныя ноты ў апавяданнях Цёткі, матывы смерці і тугі ў вялікай ступені былі абумоўлены і хваробаю паэтэсы. У гады, калі пісаліся «Зялёнка», «Лішняя», «Асеннія лісты», здароўе Цёткі зноў пагоршылася, зноў абвастрылася трагедыя — жаданне паэтэсы жыць, працаваць і страта сіл, прывід смерці, які зноў устаў перад ёю.

Дактары раілі неадкладна ехаць да цяпла, да мора — у Італію, інакш не маглі паручыцца за тое, што хвароба не адолее ў гэтую ж зіму.

З неахвотаю, толькі па неабходнасці, пакуе Цётка чамадан, садзіцца ў цягнік, у вагон чацвёртага класа, каб ехаць на поўдзень.

Дарога вяла цераз Германію, цераз Дрэздэн. Уражанні ад гэтага падарожжа Цётка апісала ў нарысе «З дарогі», які потым надрукавала ў першым нумары «Лучынкі» ў 1914 годзе.

Напісаны нарыс у форме лістоў дзяўчынкі Анелькі да сваёй маці, і за вобразам Анелькі мы празрыста бачым Цётку, бо ўсё ў гэтым нарысе аўтабіяграфічнае, перажытае, пачынаючы ад маршруту Цёткі, ад яе назіранняў у дарозе да асабістых адчуванняў, настрою.

Пачынаецца нарыс невялікім уступам, які называецца «Еду лячыцца». Ён дае настрой усяму нарысу, раскрывае душэўны стан Цёткі ў час падарожжа, паказвае сум, адчай, пакуты хворай, змучанай душы і вялікую барацьбу за жыццё, надзею на тое, што адужае хваробу.

«Выпечаны румянец на твары, кашаль сухі і схварэлае цела адразу людзям кажуць пра маю цяжкую хваробу. Пасажыры ахвотна ўступаюць месца. У вачах іх я бачу, што шкадуюць маёй маладосці. Закрываю вечі. Не хачу відзець іх жаласці, бо веру, што ашукаю ваш жаль, людзі добрыя, што змагу цябе, смерць лютая, а цвёрдае жыццё вазьму ў свае рукі і буду з яго прасці доўгую нітку быцця, унізваючы, як белымі перламі, працавітыя дні неслухмянай долі…»

Застаючыся сам-насам са сваімі думкамі, са сваёй хваробаю, гераіня нарыса то прыходзіць у адчай, то спадзяецца, што жыццё запануе над смерцю. У інтанацыях, перажываннях Анелькі

адчуваюцца тыя ж хваравітасць, надрыў, што і ў апавяданнях пісьменніцы той пары.

Не можа не захапіць, не пакарыць мужнасць Анелькі, яе жаданне адужаць хваробу, жаданне жыць, жыць. Зноў барацьба Цёткі, зноў бітва, на гэта раз з хваробаю. Гераіня Цёткі, як і яе правобраз, змагаецца з хваробаю тым, што жыве на поўную сілу, што не ашчаджае сябе, што думкамі — са сваёй радзімаю, з прыродаю, з шэдэўрамі мастацтва, якія сустракае на сваёй дарозе.

У адным з лістоў Анелька піша:

«Я ўжо абышла берагі Эльбы і цяпер пайду ў музей глядзець на ўвесь свет слаўныя малюнкі».

Гэта яна збіралася ісці ў Дрэздэнскую галерэю.

Як вядома, мастацтва для Цёткі ніколі не было забаваю, заняткам, пры дапамозе якога можна весела і цікава прабавіць час. Паэзія, музыка, жывапіс заўсёды ўяўляліся ёй з’явамі велізарнай сілы, здольнымі перабудоўваць свет, акрыляць і знішчаць чалавека. Яе душа ўмела тонка ўлоўліваць хараство і значнасць твора, жыва адгукалася на мастацтва, запальвалася агнём, якім гарэў сам творца. Вось як апісвае яна сваё ўражанне ад тыцыянаўскага «Фарысея», якія думкі і вобразы ён у яе выклікае:

«Расказала б, апісала б я гэты абраз, каб льга было словам абняць той абшар у ім векавога дабра і зла.

Душа мая яго разумее, але вусны не ў сілах выказаць, толькі родзіцца думка:

Бачу, як абквечанымі палямі ў далёкім часе ідзе малы хлопчык-дзіця. За сінім небам ад нізін сабіраюцца хмары… Гром упатайне грыміць. Дзіця адно ў полі… Страшная бура ідзе, зближаецца… З дзіцяці вырастае чалавек-гігант, аж пад самае неба…

Гэта самая думка… а абраз зусім іншы».

У нарысе «З дарогі» ёсць радкі ўспамінаў пра тую, першую, паездку па Італіі, калі Цётка ездзіла туды разам з удавою Білюнаса і мастаком Станейкам. Анелька піша пра свае ўражанні ад твораў, якія бачыла ў Рыме некалі.

«Яшчэ колісь, як была я ў Рыме, каля твораў Рафаэля прайшла з сэрцам спакойным, затое перад Анджэла Буанароці і Леанарда да Вінчы анямела ўсімі сваімі чуццямі, думкамі склепілася і стаяла гадзінамі, анямелая з-за дзіву…»

Узрушвала маладую жанчыну, студэнтку ўніверсітэта, экспрэсіўнае, дынамічнае мастацтва тытанаў італьянскага Адраджэння Мікеланджэла і Леанарда да Вінчы, і пасля пережытых рэвалюцыйных бур не вельмі імпанавалі мяккія, лірычныя фарбы Рафаэля.

Не ашчаджаючы сябе, не зважаючы на хваробу, Анелька-Цётка не толькі дае волю сваім эмоцыям і падоўгу стаіць «акамянелая з-за дзіву» перад творамі мастацтва. Праз акно вагона яна прыглядаецца да чужой зямлі, каб потым расказаць пра тое, што ўбачыла, што варта пераняць дома. Ёй прыемна глядзець на чыстыя, брукаваныя вуліцы нямецкіх вёсак, на прыгожыя гародчыкі каля хат. Потым у «Лучынцы» Цётка напіша зварот «Да дзяўчатак», у якім будзе заклікаць і беларускіх дзяўчатак саджаць кветкі ў гародчыках, каб прыгажэй выглядалі нашы вёскі.

Яна вывучае жыццё і звычаі чужых краін, каб потым і пра гэта расказаць сваім чытачам. Паэтычна, яркімі фарбамі апісвае Цётка прыроду, якая разгортвала перад Анелькаю на ўсім шляху свае чароўныя малюнкі. Тут і строгія Альпы, дзікія горы, скалы, кручы, прорвы, самы доўгі на той час у свеце Сенгатарскі тунэль у гарах і мора, якому Цётка ў сваёй паэзіі прысвяціла нямала радкоў, апяваючы яго бурную стыхію.

Анелька спынілася ў Генуі, пачала лячыцца. Больш спадзявалася на клімат, на сонца, падоўгу сядзела каля мора, дыхала марскім паветрам, любавалася яго бяскрайнім прасторам, то спакойным, то бурлівым.

Знаёмства ні з кім не заводзіла — не было на гэта сілы, адзінока сядзела на скалах.

Вельмі ўзрадавалася, калі ўбачыла, што пакрышку пачала папраўляцца — перастала кашляць, спала тэмпература, пабольшала сілы. У наступным лісце да маці Анелька ўжо шле словы радасці і надзеі, расказвае маці ў сваіх лістах пра заморскую прыроду, апісвае мора і ў спакойны час, і ў буру, расказвае, як ходзяць па ім караблі, як лётаюць над ім белыя чайкі.

Вярталася Анелька з Італіі праз Ніцу, Трыест, ехала параходам, зноў захаплялася дзівосамі прыроды. Кожны ліст Анелькі поўны цеплыні і шчырасці, любві і даверу дачкі да сваёй старой маці, ёй расказвае яна пра сваё гора, цешыць сваімі спадзяваннямі, апісвае сваё жыццё каля мора, дзівы дзіўныя, што бачыць у цёплай старонцы. Ёй адкрывае яна і адну «таямніцу», перш чым сказаць яе, нават просіць, каб маці «дала вушка». А таямніца гэта — што прыгажэй за ўсю заморскую экзотыку, прыгажэй за ўсё чужое хараство — родная зямля.

«Мамачка, хачу нешта табе сказаць, але не паверыш так адразу пасля маіх лістоў, дай хіба вушка: мамачка, нідзе так не пекна, як у нас. Прымерам, калі седзімо мы з табою на нашым прыгорачку ў даліне, ля рэчкі бягуць загоны сівога аўса; па ру-

чаю ляжыць палоска бела-рожавай рачыхі, і ніжэй вусаты ячмень упіраецца пазалацеўшымі загонамі ў канюшыну. Або як бульба наша сінімі кветкамі ківаецца на сонцы. Чырвоныя шчаўі бягуць межамі. Мядункі, смалянкі, іскры гудуць пчолкамі; купальскае зеллечка кругом пахне, сіняя мацярдушка ў купінах крые сваё лекі; сардэчнікі чырвонымі ніткамі пераскакваюць ручайкі, а васількі ў нашым жыцце!..»

Хараство кожнай кветачкі і травінкі, якія Цётка ведае як сапраўдная сялянка, хараство звычайнага, такога прывычнага для вока малюнка — як шчаўі бягуць межамі, як бульба сінімі кветачкамі цвіце, — усё гэта апаэтызавана Цёткаю, усё гэта поўнае любві да роднага, свайго, усё гэта нашмат даражэй паэтэсе, чым заморская экзотыка. Усё гэта кліча дадому, хоць здароўе поўнасцю і не вярнулася.

Але наперадзе столькі планаў, столькі работы! Трэба не здавацца, не зважаць на хваробу, працаваць, працаваць, каб жыць, жыць і не траціць надзеі на лепшае.

З Інсбрука пасылае Анелька да маці свой апошні ліст, а хутка і сама вяртаецца дадому.

* * *

Як і вершы паэтэсы, апавяданні яе поўныя сімволікі, алегорыі, паэтычныя па стылю і па вобразнасці. Псіхалагічна паглыбленыя, напісаныя на высокай ноце аўтарскага пачуцця, яны ўздымалі беларускую прозу той пары над бытапісальніцтвам, якое было ёй тады ўласціва. Малюючы праўдзівыя карціны беларускага народнага жыцця, Цётка думкаю сягала на вышыні, куды ўздымалася і думка, мастацкая вобразнасць сусветнай літаратуры.

Сэрца пісьменніцы адгукалася на ўсякае людское гора і прымушала яе маляваць гэта гора, выклікаючы спагаду да таго, каму цяжка, выклікаючы спагаду людской бядзе. Найбольш гэта рыса выявілася ў цудоўным апавяданні Цёткі «Міхаська», напісаным у 1914 годзе і змешчаным у часопісе «Лучынка».

Гэта апавяданне пра хлопчыка-сірату, які прыйшоў на свет вельмі брыдкі і за гэта меў ад людзей шмат крыўды — мачаха яго не любіла і гадавала ў запечку, пастушкі прыляплялі мянушкі, не прымалі гуляць у сваю кампанію.

Людская жорсткасць і Міхаську зрабіла злым — ён пачаў рабіць людзям шкоду, на крыўду адказваць крыўдаю. І невядома, што за чалавек вырас бы з Міхаські, каб не здарыўся выпадак.

Аднойчы на поле, дзе Міхаська і пастушкі пасвілі скаціну, прыляцеў паранены жораў. Пастушкі пачалі лавіць яго, але жораў, уцякаючы, кінуўся да Міхаські, і хлопчык упершыню адчуў вялікую цеплыню і радасць. Жораў застаўся ў Міхаські, і хлопчык вельмі з ім пасябраваў. Дзве скалечаныя, скрыўджаныя, хворыя душы адчулі адна да адной вялікую спагаду, і спагада гэта перарасла ў моцнае сяброўства. Хлопчык і жораў палюбілі адзін аднаго, толькі ў кампаніі адзін з адным і знаходзілі ласку. І сяброўства гэта вярнула хлопчыку дабрыню, ён больш не рабіў шкоды, у душы яго растаў лёд, знікла нянавісць.

Але Міхаська быў хворы, і з надыходам вясны здароўе яго зусім пагоршала, у адзін з ясных вясновых дзён ён памірае. Калі Міхаську неслі на могілкі, жораў першы пайшоў за яго труною, а потым, пасля пахавання, расправіў крылы, падняўся і паляцеў.

Такі змест гэтага апавядання, якое Цётка схільна называць і казкаю. «Асенні вецер гудзе, казку сумну нясе», — піша яна ў канцы.

Ці апавяданне гэта, ці казка, але як вобразна і глыбока вырашае Цётка ў гэтым творы праблему — адкуль жорсткасць на свеце, адкуль зло.

Жорсткасць нараджаецца жорсткасцю, зло нараджаецца злом, — мастацкімі сродкамі паказвае ў апавяданні Цётка. Ратуе душу чалавека, душу дзіцяці дабрыня, ласка, сяброўства.

Цётка паэтызуе вернасць у сяброўстве, выказвае пратэст супраць цемры, супраць рэчаіснасці, якія нараджаюць жорсткасць.

Пісьменніца выказвае вялікі жаль, спагаду да хлопчыка: ён не адчуў дабра, цеплыні ад людзей і шукае іх у птушкі; праз яркія мастацкія дэталі паказвае пісьменніца жыццё Міхаські, калі быў ён зусім маленькі, — як забаўляўся ён з сонечным зайчыкам, як пабег за сонцам на вуліцу, як сустрэла яго на вуліцы воспа, пасля якой твар у хлопчыка стаў такі, што «хоць хрэн аб яго дзяры». Праз вобразы вялікай мастацкай сілы паказвае Цётка ўсё гаротнае жыццё Міхаські, нечалавечыя ўмовы яго існавання.

«Адзін раз зімой парасяты, гуляючы, адкінулі качаргу, памяло і розны іншы гаспадынін рыштунак. Запечак разявіў чорны рот, а ў ім, як белы зуб, паказалася светла-русая галоўка Міхася». Кантраст чорнага і белага, чорных абставін, у якіх расце, гадуецца дзіця, і яго светлай душы, безабароннасці.

Словы Міхаські падаюць, «як цяжкія каменні на мужыцкую ніву», а сам ён на полі стуліўся ў клубочак і выглядае, «быццам тая шэрая купінка, наточаная кротам», у хаце ён стаіць у кача-

рэжніку, «бы асінавы пеньчык». Усе вобразы — з сялянскага, народнага жыцця, з сялянскага побыту, вельмі яркія, уражлівыя.

Цётка паказвае, што дабрыня, спачуванне ляжаць у чалавечай душы недзе зусім блізка, трэба зусім нямнога, каб яны выявіліся, прачнуліся. Хлопчыкі, якія здзекаваліся з Міхаські, дражнілі яго, калі ўбачылі, што Міхаська страціў прытомнасць, — і вады прынеслі, кажушок пад галаву падклалі, жорава Міхаську аддалі.

Добрыя пачуцці жывуць нават у сэрцы злоснай мачыхі. Яна ненавідзіць жорава, не любіць Міхаські, але яе кранае мудрасць птушкі, і яна падкідае ёй корму, сэрца мачыхі замірае, калі пасынак, сірата, называе яе мамаю.

Усім гэтым Цётка нібы хоча сказаць, што жорсткасць і нянавісць у людзей ад цяжкага іх жыцця, і, як дакор гэтай жорсткасці, дакор рэчаіснасці, устае з апавядання вобраз Міхаські, хлопчыка, замучанага імі.

Уся гісторыя сіраты Міхаські пададзена не толькі для таго, каб паспачуваць яго нешчаслівай долі, яна заклікала да перамены існуючых сацыяльных умоў, адмаўляла рэчаіснасць, у якой маглі адбывацца такія трагедыі. Апавяданне Цёткі «Міхаська» да гэтага часу з'яўляецца адным з лепшых твораў для дзяцей і пра дзяцей у беларускай літаратуры. Яно папаўняе сабою і сусветную галерэю вобразаў дзяцей, замучаных умовамі жыцця, галерэю няшчасных дзяцей чалавецтва.

## СТАРОЖКА ЗАПАЛЕНАЙ ЛУЧЫНКІ

У 1912 годзе ў Вільні пачаў выходзіць сельскагаспадарчы часопіс «Саха», які змяшчаў агранамічныя парады, артыкулы па жывёлагадоўлі, пчалярстве, садоўніцтве, прапагандаваў арганізацыю сельскагаспадарчых суполак. У 1913 годзе ён атрымаў сярэбраны медаль за распаўсюджванне сельскагаспадарчых ведаў.

З 1913 года «Саха» пачынае выходзіць у Мінску, рэдакцыя часопіса змяшчаецца на вуліцы Аляксандраўскай (цяпер вуліца Максіма Багдановіча) у доме № 25.

У тым жа 1913 годзе рэдактар газеты «Наша ніва» А. Уласаў таксама пераязджае ў Мінск, а на чале «Нашай нівы» становіцца Янка Купала. Віленскі губернатар, правіцель канцылярыі, дакладваў у Галоўнае кіраўніцтва па справах друку:

«Рэдактар-выдавец выходзячага ў гор. Вільні кожна-тыднёвага культурна-асветніцкага часопіса на беларускім нарэччы пад назваю “Наша ніва”, сын калежскага саветніка Аляксандр

Нікітаў Уласаў падаў мне заяву аб тым, што правы і абавязкі адказнага рэдактара вышэйназванага часопіса ён перадаў пражываючаму ў гор. Вільні мешчаніну Івану Дамінікавічу Луцэвічу.

Паведамляючы аб вышэйсказаным, у дадатак да адносіны ад 21 верасня 1913 года за № 24582, маю гонар паведаміць Галоўнае кіраўніцтва па справах друку, што мною адначасова з гэтым выдадзена Луцэвічу новае пасведчанне за № 5813».

У сваёй аўтабіяграфіі, напісанай па просьбе Л. М. Клейнбарта, Янка Купала, успамінаючы гады работы ў «Нашай ніве», расказваў, што там яму прыходзілася рабіць усё — выпраўляць рукапісы, асабліва вершы, перакладаць з польскай, рускай, украінскай моў, чытаць карэктуры, дапамагаць у экспедыцыі газеты. У 1913–1915 гадах штат рэдакцыі складаўся з Янкі Купалы і Змітрака Бядулі, іх абавязкам было напісаць увесь нумар, пракарэкціраваць і выпусціць у свет.

Былы рэдактар «Нашай нівы» А. Уласаў — рэдагаваў цяпер у Мінску часопіс «Саха» і хадайнічаў аб выданні месячніка для дзяцей «Лучынка» — падаў заяву мінскаму губернатару, у адказ на якую мінскі губернатар напісаў дакладную запіску ў Галоўнае кіраўніцтва па справах друку:

«Паведамляю Галоўнае кіраўніцтва па справах друку, што мною адначасова з гэтым за № 7881 выдадзена пражываючаму ў горадзе Мінску на Вясёлай вуліцы ў доме Снітко Аляксандру Нікіціну Уласаву пасведчанне ў двух экзэмплярах у пацвярджэнне таго, што ім пададзена пісьмовая заява аб жаданні выдаваць у горадзе Мінску пад сваёй рэдакцыяй літаратурны месячнік на беларускім нарэччы пад загалоўкам “Лучынка” па наступнай праграме:

1. Аповесці, апавяданні, вершы, байкі.
2. Навукова-папулярныя артыкулы.
3. Артыкулы аб маралі.
4. Пагаворкі, загадкі, жарты, шарады і задачы.
5. Паштовая скрынка.
6. Аб’явы.

Адзначанае выданне будзе друкавацца ў горадзе Мінску, у друкарні Новеха Мойшага Нахумава на Койданаўскай вуліцы ў № 7–11, і выходзіць у свет па падпіснай цане: на год — 2 руб., на 6 мес. — 1 руб., на 3 мес. — 50 кап., без перасылкі — 14 кап.

Рэдакцыя гэтага выдання будзе змяшчацца на Аляксандраўскай вуліцы ў доме № 25».

Афіцыяльны рэдактар «Сахі» і «Лучынкі» Аляксандр Мікітавіч Уласаў прымаў удзел у рэвалюцыйных падзеях 1905 года,

быў адным з арганізатараў і рэдактараў «Нашай нівы». Жартам ён казаў, што для таго, каб заснаваць рэдакцыю, трэба мець пакойчык, некалькі скрынак замест стала і крэслаў, прымус, чайнік і пабольш энтузіязму. Энтузіязму сярод беларускай інтэлігенцыі той пары хапала. А.Уласаў пісаў: «Усе нашы павадыры на беларускай справе карысці сабе не зрабілі. Жыццё іх горкае і мучаніцкае, і ідуць яны не па кветках, а па калючках».

Як толькі атрымалі дазвол на выданне месячніка, Цётка цалкам аддае сябе рабоце ў ім, вядзе ўсю рэдактарскую работу, з чацвёртага нумара пачала падпісваць сваё прозвішча побач з прозвішчам Уласава — «Літаратурны рэдактар А. Крапіўка». Сам А. Уласаў у сваіх успамінах адзначаў, што ў выданне месячніка «Лучынка» «найбольш душы ўкладала Цётка». (Успаміны А. Уласава знаходзяцца ў архіве аўтара гэтых радкоў.)

Змяшчалася «Лучынка» ў тым самым памяшканні, што і часопіс «Саха», — усім хапала месца, бо пакой быў амаль пусты, а супрацоўнікаў не многа; доўгі час не мелі ніякага абсталявання, нават скрынак замест стала і крэслаў, і Цётка рэдагавала матэрыялы, пісала лісты, седзячы на сенніку, кінутым на падлогу, пакуль у нейкага дабрадзея не знайшлі старога крэсла.

Тыя, што сабраліся выдаваць першы беларускі часопіс для дзяцей, таксама былі энтузіястамі, яны ведалі, што іх работа вельмі патрэбная, што моладзь у вёсцы з нецярпеннем чакае іскрынкі святла, таму і назвалі часопіс «Лучынка».

Першы нумар пачынаўся вершам Цёткі, які называўся «Лучынка» і ў якім паэтэса вызначала праграму месячніка:

З «Лучынкай» паволі ў зімовую ночку
З хаты да хаты пойдзем шукаць,
Мабыць, забыты людзьмі ў куточку,
Хлопец-сіротка дзе хоча чытаць.

Можа, дзяўчынка, спраўшы кудзельку,
Будзе ў запечку маркотна сядзець
Альбо ў зімовую нудну нядзельку
Праз выбіту шыбу на поле глядзець…

Адразу відаць кірунак — часопіс хоча служыць дзецям сялянскай беднаты: хлопчыку-сіротцы, дзяўчынцы, якая глядзіць праз выбітую шыбу сваёй беднай хаткі на голае поле… Гэтым дзецям хоча занесці Цётка праменьчык святла, бо на гэтых дзяцей спадзяецца, у іх бачыць сілу, будучыню свайго народа:

Моладзь, вы — сіла ў кожнай хаце,
Вы — сонейка, радасць для бацькі, для маці.
Вучыцесь, старайцесь, багацьцесь у сілы,
Бо жджэ вас з надзеяю край наш радзімы.

З гарачым словам да беларускай моладзі звярнуўся праз «Лучынку» і Янка Купала:

Схамяніся ж ты, моладзь арліна,
Ў бок другі віхры веяць прымусь,
Бяры светач, ідзі за судзьбінай,
Ідзі з словам святым — Беларусь.

Янка Купала друкаваў свае вершы амаль у кожным нумары «Лучынкі». Са старонак гэтага часопіса ўбачылі свет «Казкі жыцця» Якуба Коласа, яго вершы і апавяданні, шмат твораў надрукавалі тут Змітрок Бядуля, Ядвігін Ш., Янка Журба, так што месячнік даваў чытачам узоры беларускай мастацкай літаратуры. Цяжэй было з навуковымі артыкуламі, з нарысамі, і тут Цётка кідалася ва ўсе бакі, біла ў звоны, выкарыстоўвала ўсё сваё красамоўства, каб далучыць да месячніка больш аўтараў, каб угаварыць іх пісаць для беларускай моладзі.

Яна пасылае лісты Браніславу Эпімах-Шыпілу, Браніславу Тарашкевічу, пецярбургскім студэнтам з просьбаю — дасылаць матэрыялы для часопіса. Вось адзін з яе лістоў да пецярбургскіх студэнтаў:

«Дарагія браткі!

Беларусы-студэнты!

Вам пашчаслівілася: вы ўжо аж ва ўніверсітэце вучыцеся. Але вашы браты, дзе каторыя мо родныя вам, асталіся ў вёсцы, там яны працуюць ад світання да змяркання, а ім жа ж таксама хочацца, як і вам, шмат чаго ведаць, пазнаць. Ось для гэткіх-то працаўнікоў на нашай роднай зямельцы цяпер выходзіць “Лучынка” (месячнік). Браткі-студэнты! Не маеце права атрасці рук ад працы ў “Лучынцы”; на вашым сумленні будзе ляжаць найбольшая часць сораму, калі “Лучынка” будзе дрэнна свяціць вашым братам і сёстрам у вёсцы беларускай, што для вас хлеб сеюць і жнуць.

Вы, можа, будзеце рагатаць, чытаючы маё казанне. Смейцеся, затое кажу шчырую праўду і веру, што знойдуцца такія між вамі, што будуць працаваць для “Лучынкі”.

З пашанай да вас усіх, цісну рукі. Цётка — старожка запаленай “Лучынкі”. Адрас для перасылкі матэрыялаў для “Лучынкі”: Вільня, Звярынец. Сасновая вул., д. 11, А. Кейрыс».

І як жа павярнулася рука ў крытыка І. Пятровіча, які ў 1934 годзе, разважаючы аб творчасці Цёткі, мог напісаць:

«Такім чынам, шлях пісьменніцы такі: ад “Хрэст на свабоду”, дзе яна заклікала знішчыць пакуту, здабыць свабоду, да зацвярджэння пакут сялянства, ад барацьбы з царызмам праз бунтарства да песімізму, да пакоры, да буржуазнага нацыяналізму, ад патрабавання культуры для шырокіх мас сялянства — да зацвярджэння цемры, і, нарэшце, ад любві к прыгнечаным да нянавісці к людзям, да вузкай індывідуальнай замкнёнасці».

Старожку запаленай «Лучынкі» крытык змог абвінаваціць у тым, што яна сцвярджала цемру. Пісьменніцу, якая ні на міг не адрывалася ад свайго народа, абвінаваціць у вузкай індывідуальнай замкнёнасці.

Можна было б, вядома, ігнараваць такія выказванні крытыка, сёння яны і ігнаруюцца, але ў свой час на даволі доўгі перыяд яны вызначалі адносіны да творчасці Цёткі перыяду 1907–1914 гадоў і моцна трымаліся ў літаратуразнаўстве. І можна толькі падзівіцца — што кіравала рукою крытыка, як можна было так фальсіфікаваць творчасць выдатнай паэтэсы-грамадзянкі, так паклёпнічаць на яе як на асобу. Няхай паслужыць гэта ўрокам для тых, хто бяздумна дагаджае кан’юнктуры, хто гатовы гандляваць і сваім пяром, і сваім сумленнем.

Работа па выданні «Лучынкі» была цяжкая і складаная, цяжка было не толькі таму, што не хапала матэрыялаў, не ўсё з таго, што прысылалася, магло быць надрукавана — цэнзура строга сачыла за выданнямі. Акрамя таго — не мелі вопыту, гэта была першая спроба выдання часопіса для вясковых дзяцей на беларускай мове. Першы нумар выйшаў не такі, якім хацела бачыць яго Цётка, яна лічыла, што ў гэтым нумары мала агню, адсутнічае сваё аблічча. У пісьме да Браніслава Эпімах-Шыпілы Цётка пісала:

«“Лучынку” запалілі, але покі што вельмі слаба яна тлее. Трэба больш агню ад маладых сіл. Дровы, з каторых цяпер шчапаецца “Лучынка”, залішне слязьмі-доляй нацягнула — дык слаба гарыць. Першы нумар выйшаў без аблічча ад незалежных ад нас прычын. Ратаваліся толькі, каб хаця як літаратурная кніжачка выйшла не вельмі ліхая… Дзядзечка, кіньце кліч між беларускай пецярбургскай маладзёжы, хай бярэцца да працы для пакіненых братоў і сёстраў у вёсцы. Студэнцкая маладзёж

суседніх нам народаў — украінцаў і літоўцаў, шмат робіць для вясковай моладзі».

Хочацца яшчэ раз звярнуць увагу на вобразнасць мовы Цёткі. Не толькі ў вершах, апавяданнях, у звычайных лістах яна ўжывае мастацкія вобразы, бо мысліла імі; як сведчаць сучаснікі, нават звычайная гаворка ў яе заўсёды была вобразная — так бачыла, так адчувала яна навакольны свет.

Падчас сваёй працы ў «Лучынцы» пісьменніца зноў хварэла, падоўгу ляжала ў ложку, але і тады не заставалася без работы і хворая пісала вершы, апавяданні для «Лучынкі», пісала лісты да розных знаёмых усё з тою ж просьбаю — працаваць для «Лучынкі».

Лежачы ў ложку, хворая, пісала яна ліст да Браніслава Тарашкевіча, які ў той час быў студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта.

Браніслаў Тарашкевіч належаў да маладзейшага пакалення работнікаў на ніве беларускай. У той час, калі ён быў яшчэ гімназістам у Віленскай гімназіі, Цётку ўжо ведалі як паэтэсу, яе імя грымела па ўсёй Вільні. Палымяныя вершы Цёткі захаплялі моладзь, шмат якія з гэтых вершаў ведаў на памяць і гімназіст Браніслаў Тарашкевіч. А потым пазнаёміўся з самой аўтаркай. Яго адрэкамендавалі Цётцы як юнака, які едзе ў Пецярбург вучыцца, каб потым набрацца мудрасці і самому напісаць кнігу — беларускую граматыку для школ. Хіба магла не абняць, не пацалаваць такога юнака гарачая, эмацыянальная Цётка!

Браніслаў Тарашкевіч спраўдзіў надзеі, якія ўскладала на яго беларуская інтэлігенцыя. Ён напісаў першую «Беларускую граматыку для школ», потым быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, з'яўляўся кіраўніком парламенцкага беларускага прадстаўніцтва, пасланым рабочымі і сялянамі Заходняй Беларусі на сейм Рэчы Паспалітай для абароны іх інтарэсаў, быў акадэмікам Акадэміі навук БССР. Адзіны сын Браніслава Тарашкевіча загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны ў шэрагах савецкіх партызан.

Цётка ставілася да Браніслава Тарашкевіча як да малодшага таварыша. У сваіх лістах яна называла яго не Браніславам, а Тарасам, як клікалі яго самыя блізкія людзі.

«Тарасе, не сядзі на Парнасе!

Чаго маўчыш, як вады ў губы ўзяўшы? Рыхтуйся жаніцца: дзеўчука знайшла, як купальскую кветку. Ці хлопцы што зробяць для "Лучынкі" ўлетку? Ці дастаў мой ліст? Калі ёсць ахвотнікі да працы, то вазьмі іх адрасы, дзе будуць улетку, і прышлі або

прывязі мне. Зоську гадзіну пад бок штурхні — чаму нічога не прысылае. Цісну руку. Душу напаўжывую, напаўмёртвую страсяні ад мяне за чупрыну.

Вільня, Звярынец, Сасновая, № 11.

Яшчэ покі што сяджу ў ложку.

Твая родная Цётка!!!

Мо хто нам аб каменнях напіша ў "Лучынку"?»

А вось другі ліст Цёткі да Тарашкевіча, у якім зноў клопат пра «Лучынку», гарачы тэмперамент пісьменніцы, яе вобразная мова:

«Тарасе, чаго сядзіш на Парнасе?

Злазь! А то лазы ад Цёткі дастанеш. Ты пакумекай, каб хлопцы што напісалі. Ты аб асобеннасці беларускай мовы напішы з выясненнем, што беларуская мова ёсць мова, а не "наречие", як шмат хто кажа. Студэнтам-жэўжыкам дай тэмы:

Пінскія балоты і іх асушка.

Гісторыя балот.

Пяскі ў Гродзенскай губерні і занос пяскамі штораз большых абшараў.

Змаганне лясных гатункаў дрэў.

Гэтых тэм няма каму ўзяцца апрацаваць:

Зацьменне сонца…

Сонца, месяц…

Эміграцыя ў Амерыку.

Нацыяналізацыя зямлі.

Надта няма часу, прыязджай у Мінск, пацягаемся па Беларусі…

№ 1 "Лучынкі" выйшаў, але задзержка з паліцыяй…»

У гэтым пісьме Цётка просіць Тарашкевіча прыслаць ёй выпіскі з газет, старых часопісаў аб батлейках на Беларусі і дае вялікі пералік гэтых выданняў. Мусіць, у бібліятэках Мінска і Вільні нічога не знайшлося, і Цётка спадзяецца на багатыя пецярбургскія сховішчы.

Значыцца, і пакінуўшы ўніверсітэт, Цётка не спыняе работы над сваім навуковым даследаваннем. Яна ведае, што гэта даследаванне не прынясе ёй цяпер навуковых лаўраў, не паслужыць атрыманню доктарскай ступені, але яна разумее самастойнае значэнне рэферата, яго навуковую важнасць як даследавання гісторыі беларускага мастацтва і не спыняе працы над ім.

Цётка была вельмі адукаваны чалавек, пра гэта сведчыць цэлы шэраг навукова-папулярных артыкулаў, якія яна напісала для «Лучынкі». Сярод іх і нарыс пра газу, і праграмы для збіран-

ня гербарыя, і гутаркі аб птушках, і артыкулы аб роднай мове, аб народнай творчасці. Можна было толькі дзівіцца, з якою дасведчанасцю пісала Цётка гэтыя артыкулы, нарысы.

У нарысе «Газа» яна робіць экскурс у гісторыю адкрыцця газы, расказвае, як яе ўжывалі старажытныя грэкі і рымляне, індзейцы ў Паўночнай Амерыцы, народы Каўказа. Расказвае аб месцах, дзе залягаюць пласты нафты, аб спосабах яе здабычы.

Спасылаючыся на тэорыю Мендзялеева, Цётка апавядае аб паходжанні зямлі. Тэма размовы дазваляе пісьменніцы закрануць і сацыяльныя пытанні, і яна піша аб эксплуатацыі капіталістамі прыродных багаццяў, аб іх пагоні за прыбыткам.

У артыкуле «Да школьнай моладзі» Цётка з вялікай дасведчанасцю дае рэкамендацыі, як збіраць гербарый, яна ведае назвы ўсіх раслін і піша гэтыя назвы па-лацінску, па-руску, па-беларуску. Заданне — збіраць гербарый — яна дае для таго, каб выкарыстаць гэты матэрыял для беларускай batanікі. Тым больш, што знаходзіўся ўжо і аўтар такой кнігі — прафесар Сяўрук Леанід Сафоніевіч. Сяўрук скончыў прыродазнаўчае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта, выкладаў батаніку ў Сіроцкім інстытуце ў Пецярбургу, меў некалькі прац па прыродазнаўстве на рускай мове. Родам з-пад Слуцка, Сяўрук лічыў сябе беларусам і актыўна далучаўся да беларускага руху, сябраваў з Янкам Купалам.

Некалькі сваіх кніг з вельмі цёплымі аўтографамі Янка Купала падарыў Л. Сеўруку. Ён, Сяўрук, і меўся складаць кнігу па беларускай батаніцы.

У артыкуле «Папараць-кветка» Цётка паказвае дасягненні навукі свайго часу, і яе ўласная фантазія глядзіць пры гэтым наперад, можна сказаць, прарочым вокам.

«Тайніцу за тайніцай людзі вырываюць у прыроды, — піша Цётка. — Чалавек ужо стаўся панам страшэнна глыбокіх акіянаў. Штучна і ўсіленым вокам ён смела зазірнуў у нязмерную вышыню зораў. Хутка мо там знойдзе сваіх братоў-людзей і загавора з імі. У паветры чалавек лётае, як птушка; па моры плавае шпарчэй рыбы; слова сваё жывое за дзясяткі тысяч міль кідае мігам; голас свой перадае за сотні вёрст, перуны і маланкі ўзяў у свае рукі, і ўжо болей яны яму не страшны».

Аддаючы належную павагу навуцы, захапляючыся яе дасягненнямі, Цётка ў сваім роздуме вяртаецца ў даль вякоў, у дзяцінства чалавецтва, калі яно толькі марыла аб усёзнанні і звязвала гэтую мару з папараць-кветкай. Яна расказвае аб узнікненні свята Івана Купалы, аб імкненні чалавека да святла, да

шчасця. Тут і добрае разуменне аўтарам фальклору, народных звычаяў, легенд, звязаных са святам Купалы.

У звароце «Да вясковай моладзі беларускай» Цётка імкнецца абудзіць цікавасць чытачоў да грамадскіх праблем, заклікае іх прыгатаваць свае сэрцы, душу і рукі для працы на карысць роднага народа, выказвае ўпэўненасць, што беларуская моладзь не змарнуе жыцця, патрапіць пастаяць за долю свайго пакрыўджанага народа і працай сваёю заложыць падваліны пад лепшую, яснейшую будучыню.

«Развівайце ў сабе *любоў да чалавека*, — і для вас заўсёды будзе дораг родны край і народ цёмны, бедны, забыты Богам і людзьмі.

Развівайце *любоў да народа* (падкрэслена ўсюды Цёткаю. — *Л. А.*), — і сэрца ваша ў сталыя гады будзе адклікацца гарачым пратэстам на кожную крыўду», — так пісала Цётка ў артыкуле «Аб душы маладзёжы».

Цётка ў «Лучынцы» яшчэ і яшчэ раз выступае ў абарону роднага слова, роднай мовы. Мову Цётка лічыць «апраткаю душы».

У артыкуле «Шануйце роднае слова» яна піша:

«Быў у нас пясняр, што ў час спячкі народнай першы адважыўся клікаць беларусаў, каб шанавалі мову бацькоў і дзядоў сваіх. “Не кідайце мовы сваёй, каб не ўмёрлі”, — пісаў Мацей Бурачок да беларусаў. І гэты вокліч абудзіў прыспаныя сэрцы. Народ прачнуўся. Ён пазнаў, хто ён. Родная мова яго — загнаная, пагарджаная — паднялася высока і стае ўжо поруч з “панскімі” мовамі. І здабывае пашану ў людзей: людзі бачаць, што мы яе шануем, што яна для нас мае вялікую цану, — ды самі пачынаюць інакш глядзець і на нас і на яе.

На вас — моладзі — ляжыць вялікая павіннасць: развіваць далей родную мову, узбагачаць свой народ знаннем і культурай».

Крыніцаю, якая жывіла творчасць Цёткі ва ўсе гады яе жыцця, была рэчаіснасць, аднак першыя паэтычныя ўражанні звязаны ў яе з народнай творчасцю, з фальклорам, павагу і любоў да якога паэтэса захавала на ўсе жыццё. Яна часта звярталася да народнай творчасці як да крыніцы мудрасці і мастацкага ўзору, сама вучылася ў фальклору і прапанавала яго як навуку сваім чытачам. Народныя казкі, прымаўкі, загадкі Цётка ўключала ў свае кніжкі для дзяцей, на ўсё жыццё захапіў Цётку народны беларускі тэатр — батлейка.

У часопісе «Лучынка» Цётка друкуе і свой артыкул, прысвечаны народнай творчасці, артыкул гэты называецца «Наша народная беларуская песня».

Фальклор, народную творчасць у гэтым артыкуле Цётка разглядае як люстра жыцця беларускага народа. У гэтым люстры адбіліся і гора народнае, і яго радасці, і вялікі смутак па лепшай долі, і вера ў лепшае жыццё. Цётка паказвае фальклорныя творы, у якіх гаворыцца аб цяжкай працы селяніна, аб горкай долі жанчыны-сялянкі, расказвае аб узнікненні сумных шлюбных песень, аб жыцці маладой жанчыны замужам. Цётка сцвярджае, што ў народнай творчасці адбіўся характар беларускага народа, яго псіхіка. Пісьменніца паказвае фальклорныя творы, у якіх апяваецца любоў народа да працы, яго высокая маральная чысціня.

Ва ўступным раздзеле артыкула Цётка гаворыць аб узнікненні народнай творчасці, аб тэмах і матывах, якія ў ёй распрацоўваюцца, аб тых народных традыцыях, што знайшлі сваё адлюстраванне і ў народнай творчасці і праз яе ж перадаюцца наступным пакаленням.

«Наша народная песня, — піша Цётка, — вылілася з сэрца, вуснаў і фантазіі ўсяго народа беларускага і дзеля таго называецца *народнай*.

Гэту песню наш народ складаў вякамі ў розных хвілінах свайго жыцця; ён як бы выказваў шчырымі словамі ў вузкія радкі песні ўсе свае радасці, свой смех, сваё гора, долю і нядолю, слёзы жыццёвыя.

Песня народная шчырымі словамі, не раўнуючы як працавітымі пчолкамі, сабрала ўсё багацце красы і праўды для сваіх узораў.

З пакалення ў пакаленне народ ад дзеда — унуку, ад унука — праўнуку перадаваў у песні глыбокую і праўдзівую навуку тым, прад каторымі слаўся няпройдзены цяжкі жыцця шлях.

Толькі кожнае новае пакаленне да дзедавай навукі песні дадавала яшчэ ўласнымі губамі свой уласны погляд на жыццё, свой боль, свой смутак і сваю радасць.

Затым то для нас *народная* песня так зразумела, так родна, так блізка сэрцу, бо ў ёй мы чуем і слёзы памершай маткі, і радасць брата, надзею сястры, залатыя свае ўласныя сны. Затым то наша песня *народная* так гудзе ўлетку пры кожнай працы — ці то на полі, ці то на лузе, ці ў лесе, ці ў садочку. А прыйдзе зіма, заштурмуюць сіверы — народная песня *разам з намі* туліцца пад страху — у цесную нашу хатку, жыве ў ёй разам з намі, з нашымі думкамі, жаданнямі. Сэрцу нашаму песня дае пацеху, а дзеткам, слухаючым яе, — жывую навуку».

Цётка і сама распрацоўвала матывы народнай творчасці. У рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР

захаваўся аўтограф верша Цёткі «Адкрый, пані», напісаны па матывах народнай дажыначнай песні. Вось страфа з раздзела «Песні дажыначныя» ў зборніку песень Шэйна, які, як мы памятаем, Цётка некалі прасіла Б. Эпімах-Шыпілу прыслаць ёй у Львоў:

Адчыняй, пані, новыя вароты,
Нясем вяночак з шчырага злота,
Бадай мы здаровы плён плёнавалі,
Бадай мы здаровы зарок дачакалі.

Верш Цёткі «Адкрый, пані» з'яўляецца апрацоўкай гэтай народнай песні:

Адкрый, пані, добра пані,
Цісаваты вароты:
Нясуць жнейкі, нясуць жнейкі
Вянец шчыра-злоты.

Архіўныя матэрыялы расказваюць і гісторыю гэтай апрацоўкі.

Польская аўтарка (прозвішча не захавалася) напісала аповесць з жыцця сялян беларускага краю. У гэтым творы апісваліся дажынкі ў панскім двары — пані прымала жнеек, якія спявалі ёй дажыначную песню. Аўтарка аповесці сама склала і песню — на польскай мове. Але хацела, каб сцэна ў панскім двары выглядала праўдзіваю з этнаграфічнага боку, для гэтага ёй было патрэбна, каб жнейкі спявалі песню па-беларуску. Вось і прыйшла польская аўтарка да Цёткі з просьбаю перакласці песню на беларускую мову.

Цётка згадзілася, аднак арыгінал верша ёй зусім не спадабаўся, і яна сказала, што зробіць вольны пераклад. Пераклад гэты можна лічыць вершам Цёткі — ад арыгінала там мала чаго засталося, Цётка проста апрацавала народную дажыначную песню.

Аб увазе Цёткі да беларускага фальклору не раз пісаў Максім Багдановіч, які таксама вельмі высока цаніў паэзію народнай творчасці. У артыкуле «Забыты шлях» ён пісаў:

«Сотні год народ вытвараў сваю паэзію, выробляў прыпадаючыя да сваёй душы вобразы, параўнанні, эпітэты, сюжэты, творчаскія падыходы. А чым нашы песняры скарысталіся з усяго гэтага? Бадай што нічым…

Зрэдку то там, то сям спатыкаюцца ў сучасных вершах то народны эпітэт, то народны паралелізм або метр, або рыфма,

або сюжэт. Але як тое рэдка і як тое выпадкова! Часцей гэта спатыкалася ў Цёткі…»

У артыкуле «Белорусское возрождение» Максім Багдановіч зноў успамінае Цётку і сувязь яе творчасці з фальклорам:

«Довольно своеобразны и хороши, — піша паэт, — изредка появляющиеся стихотворения Тётки (М. Крапіўка), близкие многими своими сторонами к народному творчеству».

Вершы, апавяданні, артыкулы, нарысы — як шмат было напісана Цёткаю за першыя тры месяцы 1914 года, а колькі матэрыялаў ішло без подпісу, як рэдакцыйныя. Шмат часу займала апрацоўка таго, што паступала ў «Лучынку», хапала клопату з друкаваннем, і ўсё рабіла Цётка, не было вельмі на каго перакінуць абавязкаў.

Акрамя творчасці — работа на заводах, дзе зноў пачала ствараць гурткі, выступаць з прамовамі.

Уладзіслава Францаўна ўспамінае:

«Апрача працы ў рэдакцыі часопіса, Цётка знаходзіць час для завязвання знаёмстваў з рабочымі, наведвання ўскраіны Мінска. Усё гэта пры хваробе, якая развівалася і аб якой сама Цётка ведала».

Часта ў Мінск прыязджаў Алесь Бурбіс, і тады на заводы і фабрыкі яны хадзілі разам — збіралі рабочых, сваімі прамовамі будзілі іх класавае пачуццё, рыхтавалі да новых выступленняў.

Бурбіс пасля гаварыў:

«Некалісь мы з Цёткай-Пашкевічанкай хадзілі па мінскіх фабрыках і заводах. Цётка памерла. Засталіся другія…»

Рэдакцыя «Лучынкі» была ў Мінску і цэнтрам культурнага руху, тут збіралася моладзь, вяліся палітычныя і творчыя дыскусіі, чыталіся вершы, спяваліся песні. А. Уласаў у сваіх успамінах піша: «Кватэра ў рэдакцыі была адначасова і заезным домам. Па пятніцах збіраліся нашы песняры, празаікі. Экспансіўная Цётка, як феерверк, чытала свае рэчы, іх ацэньвалі, крытыкавалі. Пасля моладзь адкрывала гульні. Пра беларускія пятніцы пранюхала іншая інтэлігенцыя, што жыла ў Мінску, пачала сцягвацца на Аляксандраўскую вуліцу, і тут збіраўся ў нас цвет мінскай інтэлігенцыі».

Цётка была душою ўсяго гэтага культурнага жыцця, яна групавала вакол сябе моладзь, заахвочвала яе да арганізацыі вечарын, спектакляў, сама прымала ўдзел у канцэртах, пастаноўках. Наогул Цётка вельмі любіла моладзь, у ёй бачыла будучыню свайго краю, яго надзею і клікала юнакоў, дзяўчат да грамадскай работы, да творчасці, вучыла шанаваць сваю радзіму, свой народ.

І моладзь любіла Цётку, ад якой заўсёды і ўсюды праменіла энергія, слова якой заўсёды было гарачае, а думка смелая і вобразная, сэрца поўнае спагады і дабра.

Цётка часта прастуджвалася, кашляла, ведала, як гэта небяспечна для яе здароўя, але не зважала на прастуду, пакуль не змарнела зусім. Зноў абвастрыўся працэс у лёгкіх.

Вера Данілаўна Аляксандрава, якая добра памятала Цётку па 1905 годзе — некалі разам з ёю ездзіла на жаночы з'езд у Маскву і цяпер, у Мінску, часта сустракалася з ёю, успамінае свае першыя спатканні з паэтэсаю:

«Прыгожаю яе нельга было назваць, але малады свежы тварык быў мілавідны і надзвычай сімпатычны. Вочы былі такія ясныя, і ад усяго яе вобліку веяла шчырасцю і праўдзівасцю».

А вось як выглядала Цётка ў 1914 годзе па ўспамінах той жа В. Аляксандравай:

«Куды дзелася юнацкая свежасць твару, перада мною быў выцвілы, раней часу пастарэўшы, страціўшы сваю былую мілавіднасць твар з пячаткаю хваробы і цяжкіх перажыванняў, і голас глухаваты, з нейкай асаблівай, якая бывае ў хранічна хворых, афарбоўкаю».

Трэба было зноў ехаць лячыцца. Але куды?

Казалі, што вельмі добра лечыць лёгкія клімат скандынаўскіх краін, умерана кантынентальны, а дзе і марскі, што там цяпер будуюць спецыяльныя санаторыі для хворых на сухоты.

І Цётка, падрыхтаваўшы матэрыялы для наступнага нумара «Лучынкі», збіраецца ў дарогу. Сябры параілі ехаць у Фінляндыю, далі нават адрас знаёмага чалавека, каб не ехаць у свет як у капейку, а адразу ў пэўным кірунку.

Шлях у Фінляндыю вёў праз Пецярбург, і Цётка плануе затрымацца на некалькі дзён у Пецярбургу — наведаць знаёмых, пацікавіцца справамі беларускімі.

Там усё шырэй разгортвалася работа беларускіх студэнтаў, у 1914 годзе пецярбургскія студэнты-беларусы пачалі выдаваць на беларускай мове часопіс «Раніца», у якім вялі агітацыю за тое, каб моладзь, скончыўшы ўніверсітэт, вярталася на радзіму, да свайго народа, яму несла здабытыя веды.

Вялікую работу на ніве беларускай асветы і культуры па-ранейшаму вёў прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла, якога Цётка вельмі паважала, з якім сябравала на глебе ўсё той жа беларускай справы, беларускай асветы.

23 сакавіка 1914 года Цётка пісала Браніславу Эпімах-Шыпілу:

«Каля 30-га гэтага месяца буду ў Пецярбургу: еду на месяц у Фінляндыю прылатаць крыху здароўе. Дрэннае самаадчуванне не забівае ахвоты даведацца пра беларусаў пецярбургскіх, пра сабранні беларускія, не адымае жадання працаваць».

У Пецярбургу, на кватэры Браніслава Эпімах-Шыпілы, Цётка сустрэлася з пецярбургскімі беларусамі, яны расказвалі ёй пра свае навуковыя гурткі, пра сходы, пра вечарыны, пра часопіс «Раніца», добрым словам праводзілі паэтэсу ў дарогу.

Браніславу Эпімах-Шыпілу Цётка абяцала пісаць з дарогі лісты.

У Фінляндыю Цётка ехала з сяброўкаю, удзвюх дабіраліся яны да вёскі Лотала, да селяніна Кюмеляйна (палітычнага гаспадара, як ёй яго адрэкамендавалі), у якога параілі ім спыніцца, пажыць месяц, набіраючыся здароўя.

Гэты час (красавік) у Фінляндыі лічыцца самым лепшым для папраўкі хворых лёгкіх — яшчэ трымаецца мароз, і ўжо свеціць яркае вясновае сонца, паветра здаровае ды яшчэ насычанае пахам хвоі, які шчодра дораць вялікія тут масівы хваёвых лясоў.

З самага пачатку свайго падарожжа Цётка прыглядаецца да людзей, па руска-фінскім слоўніку стараецца разгаварыцца з фінамі, толькі выказвае нездавальненне гэтым слоўнікам, мусіць, ён для паноў напісаны, бо ёсць у ім, як называецца туз званковы, як называюцца розныя дарагія віны, як — лёкай, але не напісана, як папрасіцца на начлег.

З уласцівым Цётцы гумарам расказвае яна, як дамаўляліся з фінамі: «…і рукамі, і нагамі, і носам гаворым, выкручваем, паказваем на мігі…»

Вярнуўшыся дадому, Цётка піша і друкуе ў шостым нумары «Лучынкі» нарыс «Успаміны з паездкі ў Фінляндыю», дзе расказвае пра сваё падарожжа, пра ўражанні ад краіны, пра людзей, пра жыццё сялянскай сям'і, якое яна назірала з уласцівай ёй цікаўнасцю.

Цётка расказвае пра сялянскую гаспадарку, пра хату, дзе жыве селянін, пра тое, як фіны апранаюцца, што ядуць, пра іх побыт і звычаі. Некаторыя раздзелы так і называюцца: «Будні дзень у фінаў», «Што ядуць фіны», «Нядзеля».

У нарысе Цётка робіць экскурс у гісторыю фінскага народа, фінскай культуры.

«Фінляндскі народ цяпер займае шчытнае месца паміж культурнымі народамі. Фінляндскі ўніверсітэт штогод з сваіх сцен выпушчае маладую армію сыноў-хлебаробаў, каторыя ідуць у народ і працуюць з забыццём шчасця, свайго я. Народа шчас-

це — іх шчасце. Фінляндскі народ першы ў Еўропе прызнаў роўныя правы кабетам. Кабета-матка — свядомая фінляндка-патрыётка — яшчэ ў калысцы пачне навучаць свае дзеткі любіць родны край, родны народ, любіць і паважаць справядлівасць роднага народа…»

Паездка ў Фінляндыю крыху падмацавала здароўе Цёткі, але тэмпература яшчэ трымалася, яшчэ біў кашаль, гарэў хваравітым румянцам твар.

У Фінляндыі казалі, што асабліва карысна пажыць у Скандынавіі летам, падыхаць свежым, не гарачым паветрам, у якім перамешваюцца і марскія, і горныя струмені.

І ў ліпені 1914 года Цётка едзе ў Скандынавію, гэтым разам у Швецыю.

І ў Швецыі з цікавасцю да ўсяго прыглядаецца, шукае кантактаў з людзьмі. Свае ўражанні ад паездкі апісвае ў паштоўках да Браніслава Эпімах-Шыпілы, госцем якога была зноў, перад ад'ездам у Швецыю.

«…Я ўжо 70 кіламетраў адпаўзла ад Стакгольма, начую сёння ў сяле Вангорад у жалезнадарожным гатэлі на трэцім паверсе, каштуе 2 м. 50 в., але з дзвюма пасцелямі і вельмі чыстыя. Ураджаяў я яшчэ нідзе такіх не бачыла, як у Швецыі. Крыху ўжо знаёмімся з людзьмі, вучымся іхняй мове. З інтэлігенцыяй усюды можна па-нямецку разгаварыцца. Лес, возеры, багатыя нівы, наўздзіў пекныя будынкі, кожны дамок немаль мае тэлефон» (7.VII.1914).

«Ужо прайшла 195 кіламетраў пехатою. Вельмі цікавая старонка. Учора начавала ў Норкёпінг, фабрычны горад. Сёння начуем у Норшгольме, пры самым Сётэ канале каля возера Боксен, тры гадзіны паедзем цераз возера параходам» (14.VII.1914).

«Усяго найлепшага пасылаю з Гётэборга. У дарозе вельмі дрэнна вядзецца: маю бабу-таварку муж адзывае дахаты, змаркоціўся, каб яго маланка. Мусіць, адна пайду па Нарвегіі. Як згіну — не шкадуйце…»

Гэтыя лісты не патрабуюць каментарыяў — тут увесь характар пісьменніцы: пехатою прайшла амаль усю Швецыю, збіраецца перасячы і Нарвегію, яе цікавіць усё, што трапляе на вочы, нягледзячы на хваробу, на кепскае самаадчуванне, поўная аптымізму, радасці жыцця, не траціць гумару: «Як згіну — не шкадуйце…»

Між тым разгаралася першая сусветная вайна — добра ўзброеная Германія пачала правакаваць іншыя краіны, уцягваць іх у ваенныя канфлікты. Пад яе ўздзеяннем Аўстра-Венгрыя паслала

ультыматум Сербіі, які, наперад было вядома, Сербія ніяк не прыме. І 15 (28) чэрвеня Аўстра-Венгрыя аб'явіла Сербіі вайну.

Сюды, у далёкую Швецыю, дайшла да Цёткі вестка аб тым, што Германія аб'явіла вайну Расіі, — трэба было хутчэй вяртацца дадому.

Выдаўцы «Лучынкі» нейкі час яшчэ трымаліся — шкода было спыняць выданне, але фронт грымеў, насоўваўся, друкаваць часопіс рабілася ўсё цяжэй, да таго ж афіцыйнага рэдактара Уласава прызвалі ў войска, і «Лучынка» спыніла сваё існаванне, Цётка вярнулася ў Вільню.

І тут пасялілася ўжо трывога, мірнае насельніцтва прыціскалі нягоды вайны — з кожным днём даражэлі прадукты, прыходзілі цяжкія весткі з франтоў, моладзь забіралі ў войска. «Наша ніва» змясціла нататку, у якой пісала пра беларускіх пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў, што вымушаны былі пайсці ў войска. «Пайшоў шчыры народны паэт Якуб Колас, — паведамляла "Наша ніва", — выдатная сіла між нашымі песнярамі. Далей — малады здольны пісьменнік Максім Гарэцкі, публіцыст Лявон Гмырак, добра вядомы нашым чытачам, А. Гурло — паэт, А. Аўэйцэвіч — фельетаніст "Нашай нівы" ды Ф. Умястоўскі, вядомы як "дзядзька Пранук"». (Той самы Умястоўскі, які разам з бацькам і братам быў у 1905 годзе арыштаваны на Варшаўскім завулку. — *Л. А.*)

Наперакор грымотам фронту, цяжкаму ваеннаму жыццю не спынялася беларуская культурная праца. У Вільні і гарадах Беларусі яшчэ адбываюцца вечарыны, ставяцца спектаклі па п'есах беларускіх драматургаў, на ўсіх аматарскіх сцэнах ідзе купалаўская «Паўлінка», несучы светлую радасць, бунтарны дух юнай гераіні.

Цётка ў Вільні не прапускае ніводнай вечарыны, выступае на іх, чытае свае вершы, ходзіць на спектаклі, зноў часта сустракаецца з Янкам Купалам, разам з ім глядзіць спектакль па п'есе Дуніна-Марцінкевіча «Залёты», на які потым Янка Купала напісаў рэцэнзію і змясціў у «Нашай ніве», № 15 за 1915 год.

А чорныя хмары ўсё шчыльней затулялі небасхіл, і ныла душа, прадчувала нядобрае.

## ТУДЫ, ДЗЕ НАЙЦЯЖЭЙ

Першая сусветная вайна разгаралася ўсё шырэй, фронт набліжаўся, Вільні пагражала акупацыя, і ў горадзе пачаліся трывожныя дні — вывозілі абсталяванне заводаў, фабрык, і рабочыя заставаліся без працы, выязджалі з Вільні канцылярыі, камітэты, вывозіліся помнікі Кацярыне II і Мураўёву, ішла масавая эвакуацыя мірнага насельніцтва.

Усё цяжэй было выдаваць «Нашу ніву», цэнзура чаплялася да кожнага слова, і часта газета выходзіла з белымі плямамі, на рэдактара Янку Купалу раз за разам пісаліся даносы, і хутка ён быў вымушаны адмовіцца ад рэдагавання газеты, а каб не трапіць пад нямецкую акупацыю, выехаў з Вільні.

На фронце пад Вільняй у гэты час вяліся жорсткія баі, руская армія несла вялікія страты, на палях баёў заставалася шмат забітых, параненых, не хапала медыцынскага персаналу, каб аказваць параненым першую дапамогу.

Першая сусветная вайна прынесла ўжо ахвяру і ў сям'ю Пашкевічаў — у баях пад Гродна загінуў малодшы брат Цёткі Юзік, той самы, з якім праходзіла яе маленства ў фальварку Тэрэсін, які быў такі блізкі яе сэрцу, яе друг, аднадумца.

У царскай арміі Юзік Пашкевіч меў чын падпаручніка. Як толькі Германія аб'явіла вайну Расіі, разам са сваім палком накіраваўся ён на баявыя пазіцыі. 28 жніўня 1914 года ў Прусіі быў цяжка паранены — у руку і ў нагу, а таксама кантужаны. Яго прывезлі ў шпіталь у Вільню, дзе жыла тады і Цётка. Не адны суткі праседзела яна над ложкам любімага брата, дапамагаючы яму і як сястра міласэрная, і гаючым, ласкавым словам.

Не ачуняўшы як след пасля ранення, 18 лістапада 1914 года Юзік Пашкевіч зноў паехаў у армію. 10 лютага 1915 года, ужо каля Гродна, загадалі яму весці роту ў атаку. Пашкевіч пайшоў наперадзе. А вакол было голае поле, і варожыя кулі пачалі касіць салдат рускай арміі. Прастрэлены ў жывот і грудзі, першы ўпаў падпаручнік Юзік Пашкевіч.

Газета «Наша ніва», якую ў той час яшчэ рэдагаваў Янка Купала, змясціла некралог з поваду смерці Юзіка Пашкевіча. У некралогу пісалася:

«Юзік Пашкевіч заўсёды быў шчырым беларусам, ад роднай мовы не адракаўся. Заўсёды гаварыў ён, пісьмы пісаў па-беларуску. Тут, у Вільні, бываў усюды, дзе збіраліся беларусы. Між імі чуў сябе найлепей».

У гэтым жа некралогу змешчана некалькі радкоў з пісьма Юзіка Пашкевіча, дасланага з фронту і датаванага 28 снежня 1914 года.

Брат Цёткі пісаў:

«Як толькі прыехаў, то зараз атрымаў роту і ўжо камандую ёю трэці месяц.

Людзі мае вельмі добрыя і любяць мяне, бо калі пачулі, што мяне хочуць перавесці ў другую роту, то прасілі не пакідаць іх… Яны знаюць, што за іх плечы не схаваюся, як будзе туга, і кожную мінуту могуць забіць…»

Да каго адрасавана гэта пісьмо? Хутчэй за ўсё, да роднай сястры, да Алаізы Пашкевіч, хутчэй за ўсё, яна і прынесла гэта пісьмо ў рэдакцыю «Нашай нівы».

Салдаты пахавалі свайго камандзіра, які сапраўды не схаваўся за іх спіны, недалёка ад таго месца, дзе ён быў забіты.

Цётка са старэйшым братам Войцахам і прыяцелем Юзіка паехалі пад Гродна, шукаць магілу меншага брата. Салдаты паказалі курганок.

Старэйшыя брат і сястра перавезлі цела малодшага брата ў Гродна і пахавалі там на могілках, каля капліцы, на крыжы напісалі:

«Юзік Пашкевіч — падпаручнік энскага палка, аддаў душу, баронячы Гродна…»

Меркавалі, што хаваюць брата ў Гродна да часу, як скончыцца вайна — перавязуць цела на радзіму.

А ў некралогу, змешчаным у «Нашай ніве», пісалася, што Юзік Пашкевіч вельмі любіў свой родны край, у час далёкіх салдацкіх паходаў сумаваў па ім і марыў, што пасля вайны пакіне службу і асядзе на зямлі, паміж свайго народа беларускага.

Смерць Юзіка была пачаткам няшчасцяў, што адно за адным пачалі навальвацца на сям’ю Пашкевічаў.

Але пакуль аплаквалі сына, брата. Боль кроіў сэрца паэтэсы, уяўляла, як пакутуюць маці, бацька, якое вялікае гора там, у Старым Двары. З дому пісалі, што маці ходзіць як непрытомная, усе баяцца, каб не страціла ад гора розуму.

Пасля першай балючай весткі прыйшла другая, таксама горкая, — на фронце моцна паранены брат Войцах, знаходзіцца ў шпіталі каля Пецярбурга.

А віленскія бальніцы таксама забіваліся параненымі, хворымі на інфекцыйныя хваробы і найбольш на тыф — акопы, бруд, недаяданне, холад тварылі сваё, і салдаты гінулі не толькі ад куль

і ад газу, які тою вайною ўпершыню пачалі ўжываць немцы, іх забівалі тыфозныя вошы, крываўка.

Шмат у якіх артыкулах пра Цётку пісалася, што ў час першай сусветнай вайны яна пайшла міласэрнай сястрой на фронт, але муж паэтэсы ў сваіх успамінах пра Цётку піша, што гэта не так, на фронце Цётка не была, але як чалавек, што не мог быць абыякавы да падзей, якія разгортваліся на яе вачах, абыякавы да чужога гора, вясною 1915 года добраахвотна падалася на працу міласэрнай сястрой у барак для інфекцыйных хворых у Вільні.

Вялікія палаты-казармы з дашчанай падлогай, з крывымі рамамі акон, якія не адчыняюцца, дваццаць, трыццаць коек у адной палаце з прадушанымі сеннікамі, маладыя і немаладыя, апаленыя хваробаю твары на шэрых, кепска памытых бальнічных наўлечках… Нехта трызніць, нехта просіць піць, нехта моўчкі ляжыць, уставіўшыся шклянымі вачыма ў столь, і невядома, катораму з іх цяжэй, да каторага перш бегчы. Пахне карболкаю, падгарэлым супам, і страшэнная духата, няма чым дыхаць.

Міласэрная сястра Алаіза Пашкевіч ходзіць ад ложка да ложка: таму трэба даць лякарства, таго перавязаць — у інфекцыйны барак трапляюць і параненыя, — таму сказаць слова надзеі, падтрымкі.

А вось у калідор памалу выйшлі тыя, што пачынаюць ачуньваць, з імі ў міласэрнай сястры свае размовы.

— Што, ачуньваеце памаленьку? Зноў на фронт вас пагоняць, ваяваць за цара, за айчыну? А што даў вам цар, што дала такая вайна, такая айчына — раны, тыфозныя вошы?..

Хворыя слухаюць, згодна ківаюць галовамі.

— Так, сястрыца, усё так, святую праўду кажаш, але што рабіць, мы бязвольныя, куды нас пагоняць…

— Бязвольныя? Куды вас пагоняць?.. Вось вам афішкі, лістоўкі… — І міласэрная сястра вымае з кішэняў халата пракламацыі. — Чытайце, што тут напісана, і рабіце так, як напісана…

Крытык М. Мілючанка ў часопісе «Шлях моладзі» (Вільня, 1936 г.) пісала:

«Найлепшаю падзякаю Цётцы, доказам яе самаахвярнасці былі лісты, у вялікай колькасці атрымоўваемыя ёю ад жаўнераў, якія пакінулі баракі і апынуліся зноў на фронце альбо выехалі дахаты. У гэтых лістах апошнія горача дзякавалі Цётцы за яе помач у часе іх хваробы, за шчырае падтрыманне ў хвіліны духоўнай знямогі, а таксама за словы ідэйнага ўсведамлення».

А фронт набліжаўся да Вільні, 15 верасня 1915 года прыйшлі ў Вільню немцы, і ўсе адразу адчулі і нямецкую культуру, і нямецкі парадак. На Вільню навалiліся голад, хваробы, немцы прымусова зганялі мужчын на работы, за кожнае непаслушэнства збівалі, садзілі ў турму.

С. Кайрыс успамінае:

«Нямецкая акупацыя адразу спаралізавала грамадскае жыццё, спыніла выхад прэсы, не дапускала арганізаванай дзейнасці, праз вайскова-адміністрацыйны апарат скавала ўвесь край і пачала бязлітасна ачышчаць яго. Вільня адразу апынулася пад пагрозай голаду. Трэба было ратаваць ад галоднай смерці дзяцей і арганізоўваць ім прытулкі. Неўзабаве пачало галадаць масавае насельніцтва, і немцы былі змушаны даць дазвол на арганізаванне публічных сталовак для народа і выдзеліць ім крыху харчоў.

Так пачалася праца ратавання ад голаду, і Цётка жыва ў яе ўключылася».

Зноў пачынае яна арганізоўваць прытулкі для дзяцей, сіротамі якіх зрабіла вайна, шмат энергіі пакладала, каб дапамагчы рабочым арганізаваць свой клуб.

Пры клубе зрабілі сталоўку, дзе рабочым па картках выдаваліся абеды, былі там і бібліятэка, і зала, дзе чыталіся лекцыі, выступалі самадзейнасць, хор.

У лекцыях, што слухалі рабочыя, часта бываў палітычны разнабой, але, як успамінае Максім Гарэцкі, яны абуджалі ў рабочай масе сацыяльную свядомасць, не давалі драмаць класаваму пачуццю, і рабочыя праз гэтыя лекцыі рабіліся больш пісьменнымі, больш развітымі людзьмі.

Выступала тут з лекцыямі і Цётка, і яе выступленні, па ўспамінах сучаснікаў, «…моцна кранаалі струны рабочага сэрца».

І ў гэты трывожны, галодны час не спыняла Цётка работы над словам, над тым, што можа быць каштоўным для культуры беларускай. Максім Гарэцкі ў рамане «Віленскія камунары», напісаным на дакументальным матэрыяле, успамінае:

«Цётка стварала літаратурную беларускую мову і часта запісвала ў свой блакноцік цікавыя беларускія словы ад рабочых. Ліцкевіч ведаў беларускую народную гутарку дасканала, і вось часам ён наўмысля скажа:

— Хочаш, Цётка, скажу табе адно цікавае беларускае слова… Толькі што ўспомніў.

— Ну-ну, скажы, браточак! — І рада, зараз дастае свой блакноцік.

Ён пачне ёй баіць кшталтам таго:

— Вось бачыш, як праводзілі шасу з Пецярбурга на Варшаву, дык быў я тады ў адной вёсцы Дзісненскага павета, каля мястэчка Глыбокага, быў там тады камацёсам…

— Камацёсам? — радуецца Цётка і запісвае, прымаўляючы: — Добрае слова, добрае… Гэта там так кажуць?

— Ды не, я табе зусім не гэта слова хацеў сказаць. Камацёс — кажуць і ў нас, у Вільні. Я, бачыш, не толькі шавец, а і крыжы магу абрабляць, плінтусы надмагільныя і ўсе словы ведаю, і шавецкія, і камацёскія… Там, бачыш, кажуць не камацёс, а…

— Як-як? Ну-ну! — трымае яна аловак напагатове. А ён маўчыць, як бы падражніваецца.

— Кажуць там… ведаеш як? — часак! Калі панаехала часакоў! Дык пішы: часак.

Яна запіша слова і прыклад, у якім яно сказана, і адзначыць, ад каго і калі запісана — дзе, калі і хто, і як казаў. І цешыцца».

Замалёўка зроблена выдатным мастаком — пісьменнікам і вельмі ярка перадае шчырую цікавасць Цёткі да роднага слова, яе нецярпенне, гарачае жаданне пачуць новае, радасць ад знойдзенай крупіцы золата — моўнага скарбу.

Гэта было ў 1915 годзе, падчас акупацыі Вільні немцамі.

Цётка ўпарта і настойліва вяла сваё — збірала тыя крупіцы скарбаў, што потым лягуць у падмурак беларускай культуры, беларускай літаратурнай мовы.

І наўрад ці хто са знаёмых, блізкіх паэтэсе людзей думаў, што зусім мала засталося жыць гэтай кіпучай, поўнай энергіі жанчыне, што блізка ўжо той чорны дзень, які асіраціць бацькаўшчыну.

## ГРАЎ БЫ Я МНОГА…

6 студзеня 1916 года Цётка атрымала з дому вестку, што ў бальніцы ў Лідзе памёр ад тыфу яе бацька. Адразу выправілася ў Ліду на пахаванне.

Аплаквалі бацьку толькі тры дачкі. Вайна раскідала яшчэ нядаўна вялікую сям'ю Пашкевічаў — адзін сын быў забіты, другі пасля ранення зноў ваяваў з немцамі, маці з дачкою Каралінай і з жонкаю брата Войцаха выехалі ў бежанцы — уцякалі ад немцаў, ад акупацыі і цяпер недзе далёка ў Расіі.

Бацька не паехаў з маці ў бежанцы, не хацеў пакінуць гаспадарку, не хацеў пакінуць хату, дабро чорту лысаму. З хатаю, з дабром, з гаспадаркаю разлучыла смерць.

Сястра Стэфанія адразу пасля пахавання вярталася ў Шаркаўшчызну, дзе жыла замужам. У Старым Двары заставалася адна сястра Зося.

Чаму Алаізе пасля пахавання бацькі так захацелася паехаць у Стары Двор? Хацелася ў горы пабыць паміж родных сцен? Ці пабыць з сястрою, якая заставалася ў хаце адна-адзінокая? Ці невядомая сіла лёсу вабіла, цягнула да прыстанку, каб знайсці апошні спачын пад родным дахам?

Зімоваю дарогай, коньмі, пры вялікім марозе паехала на бацькаўшчыну. Цішыня. Пустата. Глухата. І ў хаце, і ў вёсцы.

Гора навалілася не на адну сям'ю Пашкевічаў, шмат мужчын з навакольных вёсак забралі на вайну, засекі падмяталіся на падаткі, і ў хатах была бясхлебіца, ды яшчэ эпідэмія тыфу, спадарожніца сусветных катаклізмаў.

І Цётка пачынае хадзіць па дварах, па хатах, лячыць людзей ад хваробы — ведала, як гэта рабіць, сама ж нядаўна працавала ў інфекцыйным бараку. Але ці многа зробіш без медыкаментаў, калі так цяжка дабіцца чысціні і іншых элементарных умоў гігіены, калі хворым няма чаго есці, калі і цяпер у вёсцы больш вераць знахарам, шэптам, святой вадзе, чым медыцыне.

Тады Цётка пачала збіраць статыстычныя даныя аб матэрыяльным становішчы сялян, каб апублікаваць іх, паказаць усяму свету ступень народнай галечы і беднасці, цемнаты.

Ці не кіраваў ёю і тут прыклад жыцця прафесара Лесгафта, які таксама змагаўся з эпідэміямі, ставіў эпідэміі ў залежнасць ад сацыяльных умоў жыцця народа? А можа, гэтыя прынцыпы прафесара зрабіліся ўжо і яе прынцыпамі, яе спосабам жыцця, яе натураю.

Але нядоўга прыйшлося Цётцы змагацца з бядою народнай — сама захварэла тыфам. Адразу зразумела, адчула, што не ўстане, і папрасіла сястру, каб пахавала яе тут, у Старым Двары, каля саду, каля шляху, каб далёка былі відаць родныя палі і лясы, каб паўз магілу ішлі і ішлі людзі. Памятаючы пра сваё слабое здароўе, такую просьбу выказвала неаднойчы, цяпер толькі паўтарыла яе. А потым упала ў бяспамяцтва.

Запрасілі з Васілішак доктара — немца, але ён слаба знаўся на лячэнні тыфу і не памог нічым, а шукаць іншых лекараў было немагчыма — завеі, люты мароз, да Вільні не дабярэшся, ды было ўсё гэта, мабыць, і запозна.

Ноччу з 4 на 5 лютага 1916 года Цётка памерла. І яшчэ адно гора прыйшло ў сям'ю Пашкевічаў, і вялікае гора прыйшло

ў сям'ю беларускага народа, які страціў сваю пяснярку, сваю асветніцу, свайго абаронца.

Суседзі Вінча Казімір і Баляслаў Яхоўскі зрабілі труну. Народу на пахаванне сышлося няшмат — вайна спустошыла вёскі, яны як вымерлі, і каля труны, у якой ляжала худзенькая жанчына з вялікім і яшчэ нядаўна такім гарачым сэрцам, стаялі толькі муж, дзве сястры, блізкія суседзі, і то больш старыя ды малыя.

А Цётка ляжала, прыбраная галінкамі дзеразы, склаўшы на грудзях рукі, і дзіўна было бачыць яе такую — спакойную, нерухомую. Толькі смерць спавіла ёй рукі, заплюшчыла вочы, астудзіла грудзі.

Забілі века труны. Засыпалі зямлёю.

І з далёкае далі, з таго часу, які быў яшчэ будучыняй для Цёткі, але ўжо мінулы для нас, далятаюць словы людзей, што памяталі, ведалі паэтэсу. І хочацца пачуць іх галасы над вечнай яе памяццю.

Яўген Хлябцэвіч у часопісе «Каторга и ссылка» пісаў пра Цётку:

«Нягледзячы на хваробу, вясёлая, радасная, захаплялася тэатрам і наогул мастацтвам. Яна была незамянімым таварышам, заўсёды ўзнёсла-вясёлая, заўсёды без грошай і ў той жа час ніколі не сумная, яна заўсёды працягвала сваю рэвалюцыйную справу».

У часопісе «Полымя» № 3 за 1924 год той жа Яўген Хлябцэвіч зноў пісаў:

«Цётка была бясцэнным дарагім сябрам усіх падпольных таварышаў і крыштальна чыстым чалавекам, што выяўлялася ва ўсіх яе словах, чыннасці і захоплена-паэтычнай радасці, якая запальвала рэвалюцыйным агнём усіх, каму здаралася быць у кампаніі з ёю».

Не менш прывабны вобраз Цёткі як чалавека ўстае з успамінаў яе сябра Вітаўта Чыжа:

«Усе яе вельмі любілі — за яе бескарыслівую таварыскую помач: яна дзялілася апошнім кавалкам хлеба з тым, каму была патрэба. Яе альтруізм даходзіў да самазабыцця, і трэба было пільнаваць, каб сама з'ела абед, усё, што мела, — раздавала».

Уладзіслава Францаўна Луцэвіч свае ўспаміны пра Цётку заканчвае радкамі:

«Нам (Уладзіславе Францаўне і Янку Купалу. — *Л. А.*) было вельмі цяжка развітвацца з Цёткай і з усімі тымі людзьмі, з якімі нас звязвалі доўгія гады супольнай працы, імкненняў, барацьбы. Але іншага выхаду не было, і мы развіталіся і страцілі адны

адных, многіх назаўсёды. Доўгі час мы нічога не ведалі і аб найбольш блізкай нам Цётцы.

Толькі праз некалькі гадоў, ужо вярнуўшыся ў Мінск як у сталіцу Савецкай Беларусі, мы даведаліся, што Цётка памерла 4 лютага 1916 года. Яна загінула, як салдат на сваім пасту.

Мы балюча адчулі страту выдатнай паэтэсы і чалавека, які ўсё жыццё аддаў суроваму служэнню справе вызвалення беларускага народа ад путаў нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту».

Яшчэ ўспамін сучаснікаў пра Цётку:

«Падвышаная эмацыянальнасць характэрна для Цёткі. Праз усё жыццё Цётка папраўдзе гарэла, і шыбка таялі яе сілы, каторыя так шчодра аддавала беларускай справе».

Сябры ўспаміналі, што Ядвігін Ш. «…аб Цётцы-Пашкевіч гаварыў з вялікім натхненнем. На худым твары яго загараўся жывы румянец, а вочы блішчалі чыстым агнём вялікага пачуцця да першай беларускай рэвалюцыянеркі, якая жыццё сваё ахвяравала свайму простаму народу беларускаму».

Максім Лужанін у кнізе «З ранку да вечара», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1978 годзе, прыгадвае, як некалі з сябрам адведваў хворага Янку Купалу. Гаспадар, каб заняць гасцей, пачаў паказваць ім фотаздымкі, і вось у рукі яго трапіў партрэт.

«Перад вачыма картка, з яе ўсміхаецца малады жаночы твар пад саламяным капялюшыкам, абапал яго, як па ветры, разлятаюцца стужкі.

Купала прыгашвае папяросу і робіць рух рукою — нібыта адганяе дым ці імглу часу з гэтага светлага аблічча. Мы паспяваем заўважыць, што выраз вачэй у жанчыны не пасуе да ўсмешкі, а яшчэ больш да тых, крыху легкаважкіх, стужак на капялюшыку. Задуменне і смутак дыхаюць з яе вачэй, адчуваецца ў іх настойлівая, трывожная рупнасць.

— Акравак маланкі! — кажа Купала і, убачыўшы па нашых тварах, што не пазнаём, бо проста не ведаем, хто гэта, дадае: — Цётка!

Магчыма, было сказана больш, не гэтак коратка, запомніліся ж толькі два словы… Як бы там ні было, параўнанне з бліскавіцай у вялікага паэта трапнае і дакладнае, калі не сказаць вычарпальнае».

І яшчэ ўспамін мужа:

«У сваю творчасць Алаіза Пашкевіч заўсёды ўкладала душу. Не заўсёды было ёй лёгка выказаць словамі перажыванні, пачуцці, думкі. Чарнавікі ейных друкаваных твораў паказваюць,

што часта патрэбна была марудная праца, пакуль выказаныя думкі знаходзілі сабе адпаведную форму на паперы. Можа, дзеля гэтага Цётка не паспела стварыць гэтулькі, колькі абяцаў ейны, перажываннямі наўздзіў багаты, нутраны свет. А любасці да людзей і свайго краю Цётцы заўсёды стала б на гэтулькі доўга, колькі ёй было б прызначана жыць».

* * *

Ішлі гады. Над радзімаю Цёткі стаяла то яснае неба, то грымеў гром і бліскалі маланкі. Па шляху, што пралёг каля яе магілы, праходзілі і вялікае гора, і вялікая радасць.

Вечна імкнецца душа чалавека да ісціны, да справядлівасці, да міру і дабра.

Ці адзін паклаў жыццё ў барацьбе за ўсё гэта!

Вось на шашы ля Старога Двара, недалёка ад курганка, дзе вечным сном спачыла паэтэса, спыніўся аўтобус. І пабеглі са смехам і гоманам дзеці — каб паспець у яго. Дзеці з ранцамі, з партфелямі. Спадарожны аўтобус давязе іх да школы ў Шастаках, да школы, якая носіць імя Цёткі.

Праехаў аўтобус, і ціха зрабілася на шашы. Але ненадоўга.

Вось ідуць, гамоняць людзі; вунь паехала яшчэ машына, легкавая, а далей грузавая прагрукацела… Зноў аўтобус едзе па шашы, зноў ідуць людзі. Бліскае шыба ў акне недалёкай адсюль хаткі… Узняў угору дзюбу журавель калодзежа…

А вакол палі, шапацяць на пагорку старыя высокія ліпы, сінее лес абапал. Вакол родныя прасторы, родная зямля.

Не, Цётка не памерла, яна проста абнялася са сваёй зямлёю.

***2005***



## ЯН З ЛІТВЫ

Дзень быў гарачы і парны, аж не хапала чым дыхаць, неба зацягвала смуга, мусіць, збіралася на дождж. А ён быў вельмі патрэбны, бо зямля на градах у гародчыках, што былі тут скрозь, каля кожнага дома, зусім высахла. Пажаўцеў гурочнік, рудзелі, толькі завязаўшыся, памідоры, не раслі, скручваўся ліст на яблынях.

Ніна ішла з работы, думаючы, што вельмі патрэбен дождж, што калі пойдзе сёння, дык не трэба будзе загадваць Толю, старэйшаму сыну, насіць ваду і паліваць грады. Толя не вельмі каб з ахвотаю рабіў гэту работу, ды яно добра было б і не ганяць хлопца — апошнія дні дома, восенню пойдзе ў армію, хай бы пагуляў. Але ж бацька і вечарамі заняты, як паставілі яго дырэктарам завода, дык ні выхаднога яму, ні свята. То нейкія вагоны прыбываюць на станцыю, і трэба іх разгружаць, то нешта «выбівае», то ў Мінск да начальства едзе. Дома амаль не стыкаецца, памочнік цяпер з яго ніякі.

Ніна думала яшчэ, што, як прыйдзе дахаты, возьмецца адразу гатаваць абед. Па дарозе зайшла ў магазін, купіла мяса. Успомніла, што меншаму сыну трэба зацыраваць штаны — і гарыць жа ўсё на ім, новага не напасешся. Будзе круціць носам, не захоча цыраваныя надзяваць, але не вялікі кавалер, паносіць.

Ніна ішла незабрукаванай вуліцай па вузкім дашчаным тратуары, на якім ведала кожную дзірку, кожную шчыліну — пятнаццаць гадоў ужо ходзіць гэтаю вуліцай. За платамі, пафарбаванымі ў зялёнае, жоўтае, сіняе, — акуратныя домікі, пры іх — агароды, сады. Дрэвы густа абсыпаны яблыкамі, вісяць, як завушніцы, грушы між тугога і гладкага лісця. Харошая іх вуліца — ціхая, зялёная, і да цэнтра блізка, дачу на лета наймаць не трэба.

Прахожых нямнога, і ўсё больш знаёмыя, суседзі, толькі і ківаеш галавою, як ідзеш па вуліцы, — «дзень добры!».

Ніна ішла, думаючы пра сваё — штодзённае, звычайнае, і раптам усё гэта як абарвалася. Варухнулася, затрымцела ўсярэдзіне нейкая жылка.

Па тратуары, насустрач ёй, ішоў хлопец. Крышку больш чым сярэдняга росту, худы, светлыя валасы зачэсаны назад, лоб высокі, пукаты. Ды не так тым лобам ці валасамі, як увесь — постаццю, ростам, хадою так жа падобны быў хлопец на Яна. Ён ішоў ёй насустрач, а Ніна аж упілася ў яго вачыма.

Хлопец падыходзіў бліжэй, бліжэй, зусім не заўважаючы, як углядаецца ў яго гэта немаладая жанчына. А Ніна цяпер добра разгледзела хлопца і ўбачыла, што зблізку не так ужо і падобны хлопец на Яна. Нешта блізкае ёсць, але Ян быў зусім іншы. Ды такая кашуля, як на гэтым хлопцу, Яну і не снілася. Іх тады і не было такіх — нейлонавых ды капронавых. Ян насіў сінюю, у бобачкі, старую, выцвілую, з саціну. І латаныя штаны. І больш хадзіў босы.

Пасля Ніна ўсміхнулася сама сабе. Помніць Яна маладым, а цяпер яму, калі жывы, гадоў сорак пяць, а мо і болей. Недзе і ў яго, мусіць, дзеці вялікія.

Ніна азірнулася, каб яшчэ раз паглядзець на хлопца, які напомніў ёй Яна. Хлопец ішоў па тратуары, далей, далей.

Дваццаць чатыры гады прайшло. Шмат чаго забылася, ой, шмат чаго ўжо і зусім не ўспомніш, работа, дзеці, вечны сямейны клопат, а галоўнае — час — аддалялі і аддалялі мінулае. Толькі зрэдку яно выплывала, як з дна ракі ўзнімалася, і тады доўга разыходзіліся кругі патрывожанай памяці.

Але гэта бывала рэдка і з гадамі — радзей, радзей. Дык чаму ж сёння як апякло, калі ўбачыла гэтага хлопца?

Недзе жыве ў ёй усё тое. Толькі стаілася і чакае — каб нахлынуць, запаланіць, прымусіць яшчэ раз перажыць і гора, і страх, і надзею, і сваю віну. Віну перад Янам. Калі ні ўспомніць яго — так і агорне сорам, точыць віна.

Ах, Ян, каб жа ведаць, што ты жывы, каб напісаць табе пісьмо… Маладыя былі, дурныя, нават прозвішчаў адно ў аднаго не спыталіся. А такое ж разам пераажыта…

…Як жа плакала, як галасіла тады Ніна, лічыла, што ўсё, скончана, прапала яе жыццё, даіла кароў, а слёзы цяклі ў даёнку.

«Каб вы падохлі тут, усе каровы! Каб вы падохлі тут, усе немцы! Каб ты згарэла тут, уся зямля!» — плакала Ніна.

Чаму ж палонныя не забралі іх з сабою? Абяцалі ж! Казалі, што як будуць уцякаць — забяруць і іх. Не ўзялі…

Ян супакойваў яе:

— Яны не ўзялі вас, бо шкадавалі вас… Яны палонныя, калі іх зловяць, то ім лагер альбо расстрэл, і вас тады б з імі.

Ян кепска гаварыў па-руску, з моцным акцэнтам, не там ставіў націскі.

— Дык навошта ж абяцалі?! — галасіла Ніна. — Казалі, што возьмуць!

— Цішэй плач, — супакойваў Ніну Ян, — фрау Марта пачуе…

Напамінак пра фрау Марту прывёў Ніну ў яшчэ большы адчай. Кожны дзень бачыць гэту сухую кабылу, пакорліва маўчаць, калі яна будзе цягаць за валасы!

Дзяўчаты казалі, што фрау Марта носіць парык, што яна лысая. Можа, і праўду казалі, бо не відаць было, каб валасы ў фрау Марты адрасталі, каб яна іх стрыгла, мо таму і любіла цягаць дзяўчат за валасы.

— Не плач, — стукаў Ян ноччу ў падлогу сваёй каморкі, якая была над іх пакойчыкам. Чуў, што Ніна і ноччу плакала.

Яны не ведалі прозвішча Яна, быў «Ян з Літвы», гэтага хапала. Таксама як хапала Яну ведаць, што ў пакойчыку пад ім жывуць Ніна і Жэня з Беларусі, што ў тым жа маёнтку служыць Ванда з Польшчы і Жан з Францыі.

Ніна ведала прозвішча толькі адной дзяўчыны — Вольгі, бо Вольга была з Нінаю з адной вёскі. Цяпер Вольга жыла на хутары з вярсту ад маёнтка, але вечарамі, парабіўшы работу, збягаліся, часцей Вольга прыходзіла да Ніны, з хутара ў маёнтак.

Назаўтра Ніна выйшла на двор з чырвонымі ад слёз вачыма. Усё вакол здалося яшчэ больш чужым і нямілым — і пакрытыя чарапіцаю спічастыя дахі, і доўгі кароўнік, і гэтае гер-гер-гер, гер-гер-гер, якое далятала з дому фрау Марты. На некага ўжо крычала, нехта ўжо з раніцы ёй не ўгадзіў.

«Каб памерці, ці што», — падумала Ніна і зноў заплакала.

А днём яна зноў даіла кароў, і калі вылівала ў бітон якое ўжо пятае вядро, да яе падышоў Ян. Ён таксама працаваў тут, на ферме. Ян нахіліўся да Ніны і зашаптаў:

— Мне палонныя наказалі… Яны загадалі, каб я вывеў вас… Далі заданне…

І цяпер не ведае Ніна, ці праўду сказаў тады Ян, ці сапраўды палонныя даручылі яму вывесці дзяўчат, ці Ян сам прыдумаў такое, бо шкадаваў іх, шкадаваў Ніну, якая так плакала.

Ці праўду сказаў Ян, не ведае Ніна і сёння, але тады ў яе ўраз высахлі вочы, Ніна ўраз нібы ажыла, усміхнулася.

— Праўда, Ян?

— Праўда, праўда… Будзем рабіць пабег, намецім дзень…

— Чаму ж ты адразу не сказаў, Ян? А я думала, што яны самі ўцяклі, а нас зусім пакінулі.

— Яны пабаяліся вас браць… Калі зловяць… Яны далі мне даручэнне…

— Яначка! — кінулася Ніна Яну на шыю, абняла.

Ян пачырванеў, засаромеўся. Колькі гадоў было тады Яну? Гадоў дваццаць… А ёй? Сямнаццаць.

Ніна прыйшла дадому, прывычна пераапранулася, надзела халацік, прывычна пайшла на кухню, забразгала посудам. Злазіла ў склеп, набрала кош бульбы. Бульба ўжо мяккая, прарасла, скора маладой нарасце, можа, і цяпер ужо можна было б выкапаць якіх пару карчоў, наварыць свежай, але яшчэ шкода капаць, хай падрастае. Узяла нож, села на ўслончык. Абірала бульбу, а ў грудзях зноў заварушылася, паплыло…

Ноч — густая, цёмная. Ніна паціху, як кошка, больш навобмацак, прабіраецца да Вользінага хутара. Кусты язміну, шыпшыны абступілі флігель, па сценах уецца хмель, дзікі вінаград.

Абдзіраючыся аб шыпшыну, баючыся шораху, які сама рабіла, падсунулася Ніна да акна. Акно, як і дамовіліся, адчынена.

— Вольга! — ціха гукнула Ніна.

Вольга не адазвалася.

— Вольга! — паклікала Ніна яшчэ.

У доме, дзе жылі гаспадары, бразнулі дзверы, пачуліся крокі — бліжэй, бліжэй. Можа, стары Фіпс абыходзіць хутар? Апошні час, Вольга казала, Фіпс ходзіць ноччу, як лунацік, па хутары, абшнырвае ўсё, абнюхвае, як сабака. Толькі што не брэша.

Гукаць больш Вольгу няможна. Што ж рабіць? Пакінуць? Пайсці без Вольгі? Але ж з аднае вёскі… Ды як убачыць заўтра Вольга, што яны пайшлі, а яе пакінулі…

Ніна перачакала, пакуль сціхлі крокі, паднялася на дыбачкі, зірнула ў пакой. Цёмна, нічога не відаць, Вользін ложак стаіць пры сцяне, ледзь віднеецца, бліскае жалезная спінка. І здаецца Ніне, што нехта ў пакоі ёсць, што ён не пусты, вунь і дыханне нібы далятае.

Падцягнулася на руках, стараючыся не грукаць, узлезла на падаконнік. Асцярожна апускала нагу, пакуль не намацала падлогі.

Стараючыся ні на што не напароцца, пасунулася да Вользінага ложка. Лэпала рукамі, пакуль не дакранулася да цёплага і праз сукенку Вользінага пляча.

Спіць… Злосць і крыўда… Пачала трэсці за плячо.

— Га?! Што?! — падхапілася Вольга.

— Гэта ты так чакаеш! — засіпела на яе Ніна.

— Аво-ой, — вінавата застагнала Вольга. — Гэта ж я чакала, чакала…

— Уставай… Хутчэй!

— А дзе ж Ян, Жэня?..

— Ян, Жэня, — перакрывіла яе Ніна. — Чакаюць.

Ці была за імі пагоня? Так і не ведаюць. За палоннымі-то была. Прыехалі з горада немцы з сабакамі, шукалі, даганялі, ці злавілі тых — хто ж ведае. Ці даганялі іх — невядома.

Выводзіў іх Ян. Ян быў мужчына, і старэйшы за іх, ды і ўзяўся ж выводзіць, сказаў, што палонныя яму даручылі.

Доўга ішлі лясною дарогай, адзін за адным, гуськом. Вакол было чорна, і ледзь бачылі ў гэтай цемнаце адзін аднаго. Перагаворвацца баяліся, спыняліся, пачуўшы шум альбо шоргат.

Выбраліся да шашы. На слупку са стрэлкаю прачыталі надпіс: «Кёнігсберг. 20 км». Зноў збочылі ў лес. Плуталі нейкімі сцежкамі, выходзілі на лясныя дарогі, зноў збіваліся на сцежкі, ішлі, ішлі. Нарэшце ў святле месяца, які выплыў з-за хмары, зноў бліснула палоска шашы. Вырашылі і тут прачытаць на слупку надпіс. Тая самая стрэлка — «Кёнігсберг. 20 км». Значыцца, скруцілі баранку, зноў выйшлі да таго ж месца.

Ян адчуваў сябе вінаватым.

— Цёмна, — апраўдваўся ён. — Але нічога, больш не заблудзімся…

Удзень адседжваліся ў кустах, у копах сена. Паўз іх праходзілі жанчыны з сярпамі, мужчыны з косамі. Быў час жніва. Па дарогах ішлі, ехалі немцы ў вайсковай форме, бачылі немцаў здалёк, але ўсё роўна было страшна — а раптам нехта здагадаецца, што яны тут, а раптам як пазнаюць.

Ноччу зноў ішлі. Да граніцы. Ведалі, што яна недзе тут, блізка. Ішлі на паўднёвы ўсход.

Дзяўчаты рваліся дадому, Ніна і Вольга — у сваю вёску пад Слуцкам. Жэня была з Заходняй Беларусі, жыла на хутары недзе каля Міра. Таксама рвалася дахаты. Толькі Ян не хацеў ісці дадому, яшчэ перад вайною бацька Яна ажаніўся, узяў мачыху, Ян казаў, што гэта мачыха і падстроіла, каб яго ў Германію забралі. Не хацеў Ян ісці дадому.

— Вазьміце мяне з сабою, я з вамі пайду, — прасіў ён Ніну і Вольгу. — Пайду ў вас там у партызаны.

— Добра, пойдзем, — згаджалася Ніна. Вольга маўчала.

Сухары, якія ўзялі з сабою ў дарогу, вельмі скора скончыліся, і нешта на трэці дзень ім падцягнула жываты. Вырвалі корч бульбы — расла блізка каля лесу, але што з ёю, з сырою, зробіш. Агню не раскладзеш, каб спячы.

...Шмат забылася, ой, шмат чаго ўжо і зусім не ўспомніш, дваццаць чатыры гады прайшло. Не помніць Ніна, хоць забі, як яны перайшлі граніцу. Звечара былі ў Германіі, а раніцою — у Польшчы. Вось і ўсё. Па чым яны пазналі, што Польшча ўжо? Ага, дзяцей у лесе спаткалі. У дзяцей у кошыках ляжалі лісічкі, вось лісічкі Ніна добра помніць, ляжалі — жоўценькія, моцныя, кучаравыя. Дзеці перагукваліся ў лесе:

— Ясю-у!

— Го-о!

— Гдзе ты ест? Ходзь тутай! Прэндзэй!

— Мусіць, Польшча ўжо, — зашаптаў Ян.

Жэня, якая жыла ў Заходняй Беларусі і ведала па-польску, гукнула хлопчыка. Ён быў бялявы, нястрыжаны, босы, у палатняных штоніках крыху ніжэй каленяў, у сіняй кашульцы з залатанымі локцямі. Звычайны вясковы хлопчык, такі, як і беларускія дзеці, нямецкія дзеці былі не такія — чысценькія, падстрыжаныя. Хлопчык не спалохаўся чужых людзей, з цікавасцю разглядаў іх. Падышлі і яго таварышы. У кошыках ва ўсіх ляжалі лісічкі.

— Тутай ест Польска? — спыталася Жэня.

— Так, Польска, — заківалі хлопчыкі галовамі.

— А далеко до всі?

— Не, блізко.

— А немцы сон во всі?

— Не, нема...

Рагаталі ад радасці, як дурныя. Дзіва што! З Германіі ўцяклі! Польшча ўжо!

Цяпер адсюль, ад Польшчы, да Янавай Літвы было рукой падаць: вёрст сто прайсці на поўнач — і Літва. Але Ян цвёрда сказаў, што не пойдзе дадому, пойдзе з імі ў Беларусь, пойдзе ў беларускія лясы да партызанаў.

Польшча была зусім не такая, як Германія. Там — багатыя цагляныя маёнткі, дарогі, замошчаныя каменем, залітыя асфальтам, дахі на вясковых дамах высокія. І дамы, нават у вёсках, цагляныя.

А тут — драўляныя пахіленыя хаткі, бедныя вёскі, пыльныя дарогі, адзінокія гнілыя хутары.

Там, у Германіі, усё цэленькае, акуратнае, а тут усё пажарышчы ды пажарышчы, тырчаць белыя печы ды каміны.

Але ў Польшчы ім было куды як смялей, у Польшчы яны не баяліся людзей, якіх сустракалі на дарогах, цераз Польшчу ішлі ўдзень, а нанач прасіліся ў хаты. Тут яны прызнаваліся людзям, што ўцякаюць з Германіі, з палону. І ім спачувалі, кармілі, давалі начлег, паказвалі дарогу. Ідучы да вёскі, пасылалі наперад Жэню, паглядзець, ці няма там немцаў, паліцэйскіх. Калі ў вёсцы былі немцы ці паліцэйскія — начавалі ў полі, у лесе, у якім закінутым гумне. Спаць прывыклі абы-дзе, горш было перажываць голад, часам нічога не елі дні па два — не ўдавалася зайсці ў вёску альбо на хутар. Збіралі ягады, жавалі шчаўе, але што гэта за яда, ад яе яшчэ больш рэзала ў жываце, слабелі ногі. Ян, і раней худы, даўганосы, цяпер зрабіўся зусім як шкілет, адны косці, абцягненыя скураю, толькі нос тырчаў, зрабіўся яшчэ даўжэйшы.

Але пакуль ішлі. Кожны дзень набліжаў іх да дому. Ішлі ў Беларусь. І Ян з імі.

Ніна памыла мяса, нарэзала яго тонкімі скрылікамі, каб лепей усмажылася. Абірала, крышыла цыбулю, і з вачэй яе сыпаліся слёзы. Пачала шукаць запалкі, каб запаліць газ, глянула туды-сюды — няма. Ах, гэтыя курцы, вечна зацягнуць некуды. Раней быў адзін курэц — гаспадар, цяпер і сын. Сварыліся, сварыліся на яго ды махнулі рукою.

— Я ўжо дарослы, — басіць Толя. — У армію іду, так што магу курыць.

Пагавары з ім.

Ніна ходзіць на кватэры, шукае запалкі. У адным пакоі, у другім, у трэцім.

У Ніны добрая кватэра, тры вялікія пакоі, кухня, ванна, усе выгоды. Толькі паравога ацяплення няма, зімою трэба паліць грубкі. Муж угаворвае пераехаць на другую кватэру — будуюць дом для рабочых завода, так што яму, дырэктару, дадуць. Але Ніна не хоча. Там жа не будзе гародчыка, садка, а як добра летам выцягнуць з градкі сваю моркаўку, сарваць свой памідор, агурок, яблык. Кожнае лета Ніна рыхтуе на зіму запасы — робіць кампоты, марынуе гуркі, памідоры, усё гэта «закручвае» ў трохлітровыя шкляныя банкі, зімою — як знойдзеш. Не, не хоча Ніна ў новы цагляны дом, хоць, мусіць, прыйдзецца, не век жа будуць стаяць тут, амаль у цэнтры горада, гэтыя драўляныя дамкі з садамі. Скора пазносяць.

Нарэшце Ніна знайшла запалкі, ляжалі на століку каля тэлевізара.

У Ніны добрая кватэра, добрая сям’я, добры муж. Яна, можна сказаць, шчаслівая; добры муж, дзеці, дастатак. Яна не наракае на свой лёс, але магло ж быць іначай, ці горш, ці лепш, але іначай.

Чаму Ян хацеў ісці ў партызаны ў іх лясы? Мог жа ён застацца ў партызанах у Польшчы, мог застацца каля Жэні — у Заходняй Беларусі. Мог пайсці ў Літву, і там былі партызаны. Ён хацеў ісці з імі, з Нінаю і Вольгай.

— Я ўзяўся вас выводзіць — хачу давесці да дому, — гаварыў Ян. — І да вашых партызанаў пайду…

Ці ўсю праўду гаварыў Ян? Ці толькі таму хацеў ісці з імі, каб іх да самай хаты давесці? Ніна адчувала, разумела, што не толькі таму. Хоць ёй было ўсяго сямнаццаць, жанчына ўжо прачыналася ў ёй, і Ніна сэрцам чула, што Ян хоча ісці з імі не проста так. Хоча ісці з ёю. Хіба ж дарма Ян так глядзеў на яе? Так браў за руку, калі памагаў пераходзіць праз які роў ці балота? У яго вачах, у дотыку рукі былі асцярожнасць, пяшчота.

Ян заўсёды адчуваў, калі Ніна стамлялася, калі Ніне здавалася, што далей ужо ўсё, ісці немагчыма, больш не зробіць і кроку. Ян забіраў тады ў яе хатулёк, ускідваў сабе на плечы. Колькі і цяжару было ў тым хатульку, але Ніне рабілася лягчэй, і яна зноў ішла.

Падносіў Ян і Вользін хатулёк, і Жэнін, але найчасцей браў у Ніны, найчасцей ёй памагаў.

Аднойчы ў халодную раніцу Ніна прачнулася пад Янавым пінжаком. Відаць, Ян ноччу ўкрыў яе. Самому ж недзе было холадна.

— Не трэба, Ян, — сказала Ніна, аддаючы яму яго пінжак.

Ян засаромеўся, нібы зрабіў нешта кепскае. Ускінуў пінжак на адно плячо. Пайшоў. У той дзень быў маўклівы і задуменны, ціха спяваў свае літоўскія песні.

А Вольга раптам пачала чапіцца да Яна, дражніць яго. І ходзіць ён смешна, і гаворыць не па-людску — «палкаю па галава». Нашэптвала ўсё Ніне — які Ян брыдкі, які ў яго доўгі нос, малады, а ўжо на галаве плешына…

Польшчу яны перайшлі за які тыдзень, і вось — свая зямля. Здаецца ж — і ў Нямеччыне лясы, і ў Нямеччыне расце хлеб на полі. Праз лясы ішлі яны і ў Польшчы, перабіраліся цераз рэкі. Бачылі пастушкоў з каровамі на лугах. Здаецца — усюды зямля, усюды на ёй растуць дрэвы, спее хлеб, корміцца скаціна. Адно неба над галавою. Але не, не. Тут, на роднай зямлі, усё ўжо іншае, усё сваё, свой лес, сваё поле, свае дарогі, сцежкі, сваё неба. Па

чым гэта відаць? Па ўсім. І як бяжыць дарога, і як кувае зязюля, як шуміць таполя, дрыжыць асіна, і як пахне лес.

Людзі, якіх сустракаеш у полі, у лесе, гавораць на роднай мове. Ого, вы не ведаеце, што гэта такое — год пабыўшы на чужыне, ад чалавека, якога сустракаеш на дарозе, пачуць родную мову!

І як крыўдна, што тут, на сваёй зямлі, трэба ісці з аглядкаю, абыходзіць гарады, бальшакі, прадзірацца глухімі сцежкамі.

Аднойчы над імі з'явіўся нямецкі самалёт. Адкуль ён выскачыў, адкуль узяўся — невядома. Яны ішлі дарогаю цераз поле. Вакол — ні дрэва, ні кусточка. А самалёт пачаў зніжацца, кружыцца над імі. І раптам сek секануў з кулямёта.

Яны пападалі на зямлю. Ніна і Вольга, самі не разумеючы, што робяць, паўкрывалі галовы спадніцамі — так пахаваліся ад самалёта. Лётчык стрэліў яшчэ некалькі разоў, самалёт пачаў узнімацца. Знік, як і з'явіўся, невядома куды.

Іх нікога не зачапіла, толькі напалохаліся вельмі, пасля смяяліся самі з сябе — як хаваліся ад самалёта.

Найцяжэй было перапраўляцца цераз рэкі. Масты ахоўвалі немцы, і трэба было шукаць броду ці прасіць людзей, каб перавозілі.

Помніць Ніна, як спыніліся яны перад шырокаю ракою, якая перагарадзіла ім дарогу. На тым беразе зелянелі кусты, вілася белая сцежка. Сцежка была асабліва прывабная, здавалася, па ёй дойдзеш да самага дому. Але ад сцежкі аддзяляла шырокая плынь бурлівай вады — уброд не пяройдзеш і такую шырыню не пераплывеш. Пачалі шукаць лодку, знайшлі, але лодка была па ланцугу з вялізным, як у стадоле, замком.

Памацаў Ян гэты замок: неададраць, не збіць яго, трымаецца моцна, трэба шукаць гаспадара.

Гаспадаром аказаўся невялічкі сухі дзядок — жвавы, вёрткі, з вочкамі, як у пацука. І ўвесь твар яго быў як пацучыны. Выцягнуты наперад нос, рэдкія вусікі дыбка. Абмацаў іх усіх вачыма, пакруціў галавою.

— Рэчка разлілася, ценжко бэндзе ўсіх разам. — Дзядок гаварыў, мяшаючы беларускія і польскія словы.

Гэта было яшчэ ў Заходняй Беларусі.

— А вы перавязіце па два, — угаворваў Ян.

— Два разы пшэплываць… Сілы брак…

— Я буду грэбсці, я памагу…

Дзядок нічога не адказваў, абмацваў Яна вачыма. Уставіўся ў яго боты. Зноў пачаў гаварыць, што і рэчка разлілася, і сілы ў

яго брак, а сам не спускаў вачэй з Янавых ботаў. І трэба ж было Яну абуць іх, амаль усю дарогу нёс за плячыма ў торбе, ішоў босы, а тут абуў.

Дзяўчаты ўмольна глядзелі на дзядка. Азіраліся на раку, за якою вілася тая прывабная сцежка.

Вада і праўда была шырокая, дні тры запар ішлі дажджы, рэчка набрыняла, выйшла з берагоў.

Нарэшце дзядок сказаў:

— Нех пан аддасць боты… За боты перавязу.

Ніна ведала, як шкадаваў Ян свае боты, нездарма ж ішоў амаль усю дарогу босы, дзе ты іх цяпер, вайною, справіш?

Але нічога не сказаў Ян перавозчыку, сеў на траву, упёрся наском левага бота ў пятку правага, даланёй памог, націснуў — сцягнуў адзін бот, другі, апошні раз глянуў на іх, як развітаўся.

Трэба было яшчэ пачакаць, пакуль занясе перавозчык Янавы боты дахаты ды возьме ключ.

Пераплываць рэчку ў дзедавым чоўне было і праўда страшна, вада кіпела ўпоравень з бартамі, здаецца — ледзь варухніся, і перакуліцца лодка, і пойдуць усе на дно. На сярэдзіне плынь была яшчэ мацнейшая, лодку гнала ўніз, дзед напінаўся з усяе сілы, гроб. Яну вёслаў спачатку не даў, а ў рэчцы мяняцца месцамі было нельга.

— Не бойцеся, — супакойваў іх Ян. — Не перакулімся, а калі што, то я вас усіх палаўлю… За лодку хапайцеся.

— «Калі што, калі што», — перакрывіла яго Вольга. — Калі што, дык ты Нінку будзеш ратаваць, а мы патопімся…

— Я ўсіх буду ратаваць, — адказаў Ян.

Жэня сядзела, схапіўшыся рукамі за барты, не гаварыла ні слова, але па ёй было відаць, што баялася, твар пабялеў, а вочы блішчалі, як у ліхаманцы.

Пераплылі, выбраліся на тую сцежку, пайшлі далей.

Другі раз зноў запыніла іх рака, зноў пачалі шукаць перавозчыка. Берагам ішоў чалавек з касою, ці стары, ці малады — сказаць цяжка, гады хавала вялікая чорная барада. Штаны падкасаныя вышэй каленяў, ступні ног вялізныя, разбітыя, парэпаныя рукі з чорнымі пазногцямі.

Спыталіся, як перабрацца цераз раку.

— А вы адкуль? — агледзеў іх барадаты. Прызналіся.

Патупаў чалавек на месцы, касу з аднаго пляча пераклаў на другое.

— Я-то не ведаю… Пляменнік ёсць у мяне, той знае. Хадзем у вёску, я знайду пляменніка.

Пайшлі за мужчынам у вёску. Той ідзе моўчкі, нічога не гаворыць, і яны за ім моўчкі, у кожнага трывога варухнулася. Надта ж страшная, чорная ў дзядзькі барада. Але адмовіцца ад паслугі, уцячы — не адважыліся. Калі ён надумаў іх выдаць, то цяпер ім усё роўна няма дзе дзецца, ракою адрэзаны ад таго берага, а тут нават лесу блізка не відаць.

Ішлі за мужчынам. Той махаў шырока, толькі пыл курэў з-пад яго вялізных чорных ног.

Прыйшлі ў вёску. Адразу запахла малаком, гноем, недзе кукарэкаў певень, недзе брахаў сабака, стукала вядро каля студні.

Дзядзька завёў іх у хату. Тут было душна і пахла паранай бульбаю, кіслым цестам для свіней, роем гудзелі мухі, на стале стаяла мухалоўка з сыроваткаю, і ў ёй было аж чорна ад мух, яшчэ жывыя мухі плавалі ў сыроватцы, варушыліся, поўзалі па шкле. У сенцах таўкла бульбу старая жанчына ў доўгай чорнай спадніцы, у чорнай хустцы на галаве. Яна скоса паглядзела на гасцей, нешта буркнула ў адказ на іхняе прывітанне.

Дзядзька сказаў ім пачакаць, сам пайшоў па пляменніка. Доўга чакалі яны гаспадара, а таго ўсё не было і не было. Яшчэ большая трывога, падазрэнне ахапілі іх. Сядзелі, як мышы, чакалі, што вось-вось прыйдзе гаспадар, а з ім немцы ці паліцэйскія.

Чаму яны не ўцяклі? Маглі ж уцячы, калі не паверылі гэтаму чалавеку, калі баяліся. Лепш уцякаць абы-куды, чым сядзець і чакаць. Як прывязала іх нешта, як зачаравала, калаціліся, але сядзелі.

Гаспадыня ўсё поркалася ў сенцах, у хату забягалі дзеці, зайшла жанчына, мусіць, суседка, загаварыла нечага да іх, але яны сядзелі, як глухія і нямыя. Пазглядалі на Яна, чакалі, што ён скажа, ён жа мужчына і старэйшы за іх. Але Ян маўчаў, сядзеў як аршын праглынуўшы.

Нарэшце бразнула клямка ў сенцах і ў расчыненых дзвярах паказаўся барадаты дзядзька, за ім ішоў малады хлапец, па гадах, можа, такі, як Ян, у акуратным крамным пінжачку, у чаравіках.

— Дык во мой пляменнік, ён вам усё раскажа, ён усё ведае.

Як жа яны ўзрадаваліся! Заварушыліся, пачалі ўсміхацца, аж слёзы заблішчалі на вачах ад радасці. А пляменнік выняў з кішэні карту, расклаў на стале. Яны ўсе схіліліся над картаю, пачалі шукаць, дзе паром, пераправа на рацэ. Знайшлі. Потым глядзелі на карце, якою дарогай ім лепей ісці да Міра, там, пад Мірам, быў Жэнін хутар, на яго і кіраваліся.

Калі абгаварылі ўсё — як ісці, кудою і барадаты дзядзька прынёс на стол бохан хлеба і гарлач малака, Жэня раптам сказала:

— А мы, дзядзька, думалі, што вы па немцаў пайшлі. Сядзелі і калаціліся.

Барадач глянуў на Жэню, нічога не сказаў, толькі неяк заморгаў вачыма, і Ніна ўбачыла, што вочы ў дзядзькі светлыя і як дзяціныя — шчырыя і бездапаможныя, чалавек з такімі вачыма, мусіць, нічога кепскага не зробіць.

У дзядзькі былі добрыя вочы і страшная чорная барада. Бараду яны ўбачылі, а вочы… Не кожны чалавек адразу тыя вочы паказвае, ды не кожны і ўмее чытаць па вачах.

Цяпер ім усім было крыху сорамна, што так падумалі пра чалавека. Жэня сядзела ўся чырвоная, а пасля аж папярхнулася малаком.

Жэня… Шкада, што і пра Жэню Ніна цяпер нічога не ведае, як пакінулі яе тады дома, на хутары пад Мірам, так больш і не бачыліся, і не чула пра яе нічога, засталося ў памяці чарнявенькае дзяўчо з дзвюма коскамі. Ці жывая і Жэня? Яны ўцяклі з Германіі ў сорак трэцім, яшчэ два гады вайны трэба было перажыць.

Яны з Вольгаю адразу, як прыйшлі дахаты, падаліся ў партызаны. Дома жыць было боязна, бяглянак маглі шукаць у іхняй вёсцы. Яны першыя дні, як вярнуліся, дома і не начавалі, спалі то ў суседзяў, то ў далёкіх сваякоў. Пасля пайшлі ў лес. Варылі партызанам есці, шаравалі бітоны, у якіх на кастры гатавалі суп, мылі партызанам кашулі, споднікі. Там, у партызанах, Ніна і са сваім Паўлам сустрэлася, ён быў камандзірам роты.

А Жэня? Як яна дажыла вайну?

Вольгу Ніна часта бачыць, як прыязджае ў вёску да бацькоў, так і бачыць. Вольга раздабрэла, стала тоўстая, у яе трое дзяцей, дзве дачкі і хлопчык. Старэйшая дачка равесніца яе Толю, а меншаму хлопчыку дзевяць год. Муж — брыгадзір у калгасе, але брыгадзірыць ён толькі на рабоце, дома камандуе Вольга.

З Вольгаю Ніна рэдка калі гавораць пра тую дарогу, калі і ўспамінаюць што, дык смешнае — як хаваліся ад нямецкага самалёта, укрываючы галовы спадніцамі, як Вольга заснула, чакаючы іх ноччу, перад тым як уцякаць. Пра Яна не гавораць, Ніна лічыць, што ва ўсім вінавата Вольга, Вольга пачала чапіцца да Яна. Чаму? Ці не зайздросціла часам Ніне, што Ян хіліўся да яе?..

Шмат чаго забылася, ой, шмат чаго ўжо і зусім не ўспомніш, толькі асобнае мільгае, як у кіно, часам нават не верыцца, што ўсё гэта было з табою. Як раскручвае хто перад табою стужку, а на ёй малюнкі, малюнкі, адзін ярчэйшы, другі цямнейшы, а шмат чаго і зусім не відаць.

Помніцца, як галасіла Жэніна матка, калі яны ўсе прыйшлі да іх на хутар.

— А дзіцятка ж маё-о! А такую ж дарогу прайшла-а! А дадому ж ірвалася-а! А галодная ж колькі набылася-а! А схуднела ж я-ак! А ў мяне ж і карміць чым добрым вас няма, усё немцы паадбіралі, каб ім жыцці паадбірала, каб ім!

Бегала да суседзяў, пазычала — у каго скрылёк сала, у каго дзясятак яек, карміла іх.

Усё абдымала, цалавала Жэню, кляла і кляла немцаў, жалілася:

— Кабанчык быў, дык забралі, курэй палавілі, добра, што хоць карова пакуль ё… Людзей вешаюць, вёскі паляць… Ой, што гэта будзе, што будзе, калі гэта на іх надыдзе звод!

На хутар прыходзілі сваякі, суседзі, глядзелі на іх, ківалі галовамі, радзілі, як лепей ісці далей.

— Мы вам, дзетачкі, сярпы дамо, калі якія немцы ці паліцэйскія прычэпяцца, то скажаце, што йдзяце жаць, — раіла пажылая Жэніна цётка.

— От каб з вамі мужчыны не было, — ківала галавою суседка, маленькая сухая кабетка.

— Яно-то канечне, — падтаквала Жэніна цётка. — Без мужчыны спакайней, ну дзеўкі і дзеўкі, жаць ідуць, а на мужчын цяпер большае падазрэнне.

За гэта і ўчапілася Вольга. Як толькі выйшлі з Жэнінага хутара, так яна і пачала:

— Ну чаго ён за намі цягнецца… Хоча ў партызаны, дык няхай тут застаецца, і тут партызаны ё… Можа ў сваю Літву ісці, і там ё партызаны… Цягнецца, цягнецца, — азіралася Вольга на Яна, які ішоў крыху ззаду.

Ніна маўчала, ёй Ян не замінаў, няхай бы ішоў з імі, а што ўдваіх было б спакайней, дык нічога, пакуль жа ўсё абыходзілася, мо абыдзецца і далей, горшае перабылі, цяпер на сваёй зямлі, дом, можна сказаць, пад бокам.

А Вольга бурчала:

— Цягнецца, цягнецца… Прывядзём яго дадому — смяяцца з нас будуць… Скажуць, во, кавалера з Германіі сабе прывялі. Наплятуць яшчэ чаго, на цябе ж і наплятуць, бо ён за табою цягнецца.

Яны перайшлі ўжо былую граніцу, якая аддзяляла Заходнюю Беларусь ад Усходняй. Чым бліжэй было да дому, тым больш траплялася пажарышчаў, спаленых вёсак, усё часцей даводзілася

хавацца, сядзець у кустах. То немцы перліся на машынах, на матацыклах па дарогах. то валачыліся цераз лес п’яныя паліцаі.

Хоць на плячах былі сярпы, хоць гатовы былі выдумкі — адкуль ідуць і куды, — усё ж лепей было немцам ды паліцэйскім не пападацца.

Аднойчы на лясной дарозе яны ўбачылі разбітую нямецкую машыну, а далей ад яе — абгарэлы матацыкл.

— Партызаны! — загарэліся ў Яна вочы.

— Ага, партызаны, — яхідна падхапіла Вольга. — Недзе тут, недалёка… Вось і заставайся, шукай іх, чаго за намі цягнешся?..

Вочы ў Яна патухлі.

— Канечне… На чорта цяпер вам Ян… Вы ўжо дома.

Ён так сказаў гэта «на чорта», што ў Ніны аж усярэдзіне ўсё перавярнулася. Захацелася накрычаць на Вольгу — чаму яна так. Але пасаромелася. Вольга будзе смяяцца з яе і дома ўсім нагаворыць, што, вось, кавалера з сабою цягнула ўсю дарогу. Нічога не сказала Ніна.

Ад успамінаў яе абудзіў гром. Ніна глянула ў акно. На дварэ пацямнела, неба зацягнула густая хмара, бліснула маланка, і зноў гром — густы, раскацісты — загрымеў, пакаціўся па небе.

Кіпела бульба, смажылася, смачна пахла мяса, Ніна ножыкам падняла адзін кавалачак, другі, перавярнула. Паклала нож на столік, зайшла ў большы пакой, стала каля акна.

Глядзела ў сад, чакала, калі пойдзе дождж. Яна не бачыла, як ён пачаўся, толькі пачула, як зашумеў ён па лісцях, застукаў па даху, пасля некалькі буйных кропель упала на шыбу. Дождж сыпануў — густы, спорны. Ніна адчыніла акно. Запахла пылам, вільгаццю, адразу стала лягчэй дыхаць.

Вада цякла з лісцяў на дрэвах, кацілася па яблыках, капала з груш. На градах прыбівала, мяла гурочнік, блішчалі абмытыя вадою памідоры. Дождж… Пайшоў… Як добра… Ён быў вельмі патрэбен, дождж…

Па тратуары спяшаўся чалавек, укрыўшы галаву газетаю, газета ўся змокла і не хавала чалавека ад дажджу. На вуліцу выбег суседскі хлопчык Віцька, скакаў пад дажджом, распырскваў нагамі лужыну, якая ўжо набегла, сабралася каля тратуара.

— Дожджык, дожджык, секані, бабу з поля прагані! — гарланіў Віцька.

«Няма, мусіць, дома маткі, дала б яна табе за гэтыя скокі», — падумала Ніна.

А самой чамусьці стала шкода гэтага Віцьку, шкода чалавека, які бег, укрыўшыся газетаю. Шкода свайго Толю, які сёлета восенню пойдзе ў армію, шкода мужа, які так многа працуе. Пасля аднекуль набегла, нахлынула радасць, радасць, што вось Віцька скача пад дажджом, што яе Толя ўжо такі вялікі, дарослы — сёлета ідзе ў армію, радасна, што ў яе такі харошы Павел. Яна любіць Паўла, любіць сваіх дзяцей, любіць свой дом, сваю кватэру. І як добра, што пайшоў дождж, усё возьмецца расці, і не трэба будзе Толю загадваць паліваць грады.

Што гэта сёння з ёю? То сум, то радасць, то радасць, то сум… Ага, ва ўсім вінаваты той хлопец, якога яна сёння ўбачыла, хлопец, падобны на Яна. Цікава, а каб сустрэла яна сапраўднага Яна, ці пазнала б? Калі ён ёсць на свеце, калі жывы…

Яны разышліся з Янам. Недзе пад Койданавам. Ніна з Вольгаю пакіраваліся ў бок Слуцкай шашы, а Ян збочыў на лясную сцежку. Не можа забыць Ніна Янавых вачэй, як ён глядзеў на яе пры развітанні, колькі было ў яго вачах смутку і дакору.

— Нічога, знойдзе партызанаў, не прападзе… Ён жа мужчына, — гаварыла Вольга.

А Ніне было шкода, вельмі шкода Яна, толькі яна не паказвала гэтага перад Вольгаю. Каб Вольга не смяялася з яе, не дражніла, што Ніна закахалася ў Яна, у такога брыдкага, які і гаварыць не ўмее па-людску.

Ніна стаяла каля акна. Шумеў дождж, шамацеў па яблынях, па грушах, сыпаў на грады, цурчала, білася вада ў бляшаных трубах для вадасцёку.

Суседка, што жыве насупраць, вынесла пад дождж вазоны — фікус і пальму, дождж абмываў лісты, і яны блішчалі — тоўстыя, гладкія.

Дзе ты, Ян? Ці жывы?

Чаму яна тады за яго не заступілася? Не паспрачалася з Вольгаю? Відаць, мы часам баімся зрабіць што-небудзь добрае, каб не пасмяяліся з нас благія людзі…

Быў «Ян з Літвы». Гэтага хапала. Як жа не хапае ёй цяпер — ведаць, што Ян жывы, што ў Яна ўсё добра.

***1965***

## ЖОЎТЫ КУРАСЛЕП

Турысты збіраліся ў вестыбюлі гасцініцы — на дзевяць гадзін быў назначаны выезд у горад, і два сінія аўтобусы з вялікімі вокнамі, з белымі чахламі на крэслах ужо стаялі напагатове каля пад'езда. Было без дзесяці дзевяць, больш акуратныя падарожнікі ўжо сышлі ўніз з сваіх нумароў, другія яшчэ збіраліся, іх чакалі, і тыя, што былі ўжо гатовыя, стаялі групкамі, большымі і меншымі, размаўлялі.

Гатэль быў не з лепшых, вестыбюль цемнаваты, канапы і крэслы не самыя новыя, пад нагамі выцертыя да плешын дываны.

Каля акна, з якога ў вестыбюль лілося зеленаватае святло ад клёнаў, што раслі на вуліцы, стаяла трое турыстаў — двое мужчын і адна жанчына. Адзін мужчына быў паўнаваты, немалады, другі з вялікімі залысінамі і ў акулярах, жанчына — невысокая, з кароткаю стрыжкаю, у сукенцы з белымі рамонкамі па ўсёй тканіне, на руцэ, каля локця, яна трымала белую сумачку на жоўтым металічным ланцужку. Жанчына ажыўлена гаварыла да мужчын:

— Не, вы толькі падумайце, мы ў Парыжы, разумееце — у Парыжы! Скора ўбачым Елісейскія палі, Трыумфальную арку, Нотр-Дам!

— Та-ак, — падтакнуў ёй мужчына ў акулярах. — Пра гэта столькі чыталася!

— Каб мне хто гадоў дзесяць таму назад сказаў, што я буду ў Парыжы, — век не паверыла б, — узбуджана гаварыла жанчына.

Цяжка было сказаць, колькі ёй гадоў, магчыма, яна была з тых жанчын, якія выглядаюць маладзей свайго ўзросту, — зграбная фігура, энергічны голас, свежы твар, нядаўна пасля ранішняга туалету. Асаністы мужчына прыязна пазіраў на яе і слухаў, крыху схіліўшы ў яе бок галаву.

У цёмным кутку гатэля, на сінім плюшавым крэсле з выцертымі поручамі і спінкаю ў тым месцы, дзе чалавек звычайна кладзе галаву, сядзеў мужчына ў чорным берэце і цёмным касцюме. З-пад яго берэта былі відаць белаватыя скроні, на шчоках ляжалі глыбокія маршчыны. Твар у мужчыны быў чыста паголены, кашуля вельмі белая, рукі, што ляжалі сашчэпленыя на каленях і на якія падала святло, таксама, здаецца, старанна адмытыя. Чалавек выглядаў так, быццам прыбраўся спецыяльна для некага, быццам прыйшоў сюды на спатканне. Ён сядзеў у крэсле, падаўшыся крыху наперад, нібы ў гуле людскіх галасоў

хацеў пачуць нешта важнае і патрэбнае сабе. На яго не звярталі ўвагі, бо ён быў не свой, не з турыстаў, — нейкі француз сядзіць тут, ну і няхай сядзіць, няхай глядзіць на іх, калі яму гэта цікава.

Часцей за ўсё мужчына пaглядаў на жанчыну ў сукенцы з белымі рамонкамі, прыслухоўваўся да таго, што яна гаварыла.

— Дзе ж гэта Ліка? — нецярпліва сказала яна, азірнулася і адышла ад мужчын, бачком абыходзячы людзей, якіх унізе збіралася ўсё больш, пакіравалася да лесвіцы, спынілася перад ёю, пачала пазіраць уверх, некага там выглядаючы.

Мужчына, што сядзеў у крэсле, раптам падняўся і нерашуча пайшоў да яе. Калі ён устаў з крэсла, стала відаць, што мужчына невысокі, плечы крыху паднятыя ўверх, у хадзе ў яго было нешта як не зусім упэўненае, быццам ён быў не зусім перакананы, што тое, што збіраецца рабіць, — правільна.

Мужчына падышоў да жанчыны ў сукенцы з рамонкамі, якая ў гэты час павярнулася ад лесвіцы, каб ісці назад у вестыбюль. Жанчына адвяла ад яго вочы і хацела прайсці міма, тады ён зрабіў крок за ёю.

— Прабачце, — сказаў ён.

Жанчына азірнулася, спынілася, з цікавасцю пазіраючы на француза, які загаварыў не па-французску.

— Прабачце, калі ласка, — паўтарыў ён, — вы з Савецкага Саюза?

Ён мог не і пытацца пра гэта, бо чуў, што турысты гаварылі па-руску, ды і сам ён ведаў, што яны з Савецкага Саюза.

— Так, з Савецкага Саюза, — адказала жанчына.

— Ага, ага, — заківаў ён галавою і ўсміхнуўся, хаваючы за ўсмешкаю няёмкасць. — А з якога горада, скажыце, калі ласка?

— Ды ў нас тут людзі з многіх гарадоў, — адказала жанчына. — З Масквы, з Ленінграда, з Кіева, з Мінска.

— І з Мінска ёсць? — ажывіўся мужчына.

— Я сама з Мінска, — адказала яна, радуючыся, што так далёка ад дому нейкі чалавек зацікавіўся яе горадам. Усё тут, за мяжою, здавалася ёй незвычайным і цікавым, і яна быццам чакала яшчэ і яшчэ незвычайнага і цікавага, яе твар быў прыязны і дабрадушны.

— І я некалі жыў у Мінску, вучыўся ў Мінску да вайны, — растлумачыў мужчына, чаму яго цікавіць іменна Мінск.

— Праўда? — усё з тою ж цікавасцю глядзела на яго турыстка. — А цяпер што, тут жывяце, у Парыжы?

— Ага, у Парыжы, — кіўнуў мужчына.

— А… — хацела нешта спытаць ці сказаць жанчына, але раптам заікнулася, збянтэжылася, яе вочы, толькі што спагадлі-

выя, дабрадушныя, пахаладнелі, і ўся яна зрабілася як адчужаная. Мужчына зразумеў, чаму гэта, і таксама збянтэжыўся, але не адышоў ад жанчыны, загаварыў, быццам хочучы пабароць няёмкасць.

— Ну, дык які цяпер Мінск? Як ён цяпер выглядае? Раскажыце, калі ласка.

— А калі вы яго бачылі апошні раз? — спыталася жанчына ўжо даволі холадна.

— Апошні раз? — перапытаў мужчына. — Апошні раз у сорак першым…

— О, тады б вы Мінск ніколі не пазналі, — сказала жанчына. Яна, здаецца, зноў крыху ажывілася, яна цяпер быццам стрымлівала сябе, не хацела быць дабрадушнаю і шчыраю, але гэта як само вырывалася ў яе, мусіць, яна была спагадлівая па характару і не любіла жорсткасці, а можа, яшчэ не вырашыла для сябе канчаткова, ці мае яна права з пагардаю ставіцца да чалавека, які да вайны жыў у Мінску, а цяпер чамусьці апынуўся ў Парыжы. — У вайну Мінск быў увесь разбіты, можна сказаць, дарэшты знішчаны, — гаварыла яна. — Цяпер пабудаваны новы горад. Ды я магу вам паштоўкі паказаць, у мяне акурат ёсць з відамі Мінска.

І яна скоранька зняла з рукі белую сумачку на металічным ланцужку, адчыніла замок і выняла з сумачкі бліскучы размаляваны канверт, у які звычайна складваюць паштоўкі з відамі краін, гарадоў. Зачыніла сумачку, зноў павесіла на руку, разгарнула канверт, выняла паштоўкі і пачала паказваць іх мужчыне.

— Во, бачыце, гэта плошча Перамогі, тут абеліск і Вечны агонь…

Але не паспела яна паказаць і адну паштоўку, як да іх падбегла другая жанчына — высокая, са светлымі завітымі валасамі, у зялёнай сукенцы.

— А, Ліка, — павярнулася да яе мінчанка. — Я зараз.

Яна хацела паказаць мужчыне яшчэ адну паштоўку, але ў гэты час турыстаў гучна паклікалі:

— Таварышы, пара, нас чакае Парыж, — сказаў прыемны барытон, і жанчына, мусіць, з секунду павагаўшыся, забіраць паштоўкі ці не, сунула іх свайму субяседніку, падхапіла пад руку сяброўку, сказала, адыходзячы:

— Самі паглядзіце, там усё напісана, — і яны пайшлі на голас, у гушчу людзей, якія ўжо дружна выходзілі ў дзверы.

Мужчына застаўся стаяць, трымаючы ў руцэ паштоўкі.

Скора ў вестыбюлі зрабілася пуста і ціха, толькі здалёк даносілася французская гаворка ды ў рэстаране, які быў тут жа, побач з вестыбюлем, бразгалі талеркамі.

Мужчына падышоў да крэсла, зноў сеў, трымаючы перад сабою паштоўкі, пачаў разглядаць іх, падоўгу спыняючыся на кожнай, пераварочваючы паштоўкі на тыльны бок і чытаючы надпісы.

Ён доўга перабіраў, пераглядаў паштоўкі, і на твары ў яго адбіваліся то недаўменне, то цікавасць, здаецца, ён не верыў таму, што бачыў, бо зноў і зноў пераварочваў паштоўкі на тыльны бок, чытаў надпісы. Потым сабраў іх усе, склаў у канверт, паклаў канверт у кішэню. Пасядзеўшы яшчэ крышку, упіраючыся рукамі ў калені, устаў, пайшоў да выхада.

Аўтобусаў перад гатэлем ужо не было, па тратуары ішлі заклапочаныя парыжане, маладая жанчына з высокаю прычоскаю несла перад сабою, як бярэмя дроў, некалькі доўгіх тонкіх батонаў, пажылы сівы мужчына вёў на скураным павадку невялічкага сабачку, і ён скоранька бег паперадзе гаспадара, на рагу вуліцы каля круглага высокага слупа, на якім вывешваліся рэкламы, высокі негр у светлым гарнітуры абдымаў тоненькую маладую дзяўчыну з вельмі белым тварам і светлымі валасамі.

Мужчына толькі мелькам зірнуў на іх і пайшоў да цэнтра, да тых самых Елісейскіх палёў, паглядзець на якія прыехала сюды жанчына ў сукенцы з рамонкамі.

Чым бліжэй падыходзіў ён да цэнтра, тым больш ажыўленыя рабіліся вуліцы, абапал іх узвышаліся пацямнелыя ад гарадскога чаду будынкі, над чыста вымытымі вітрынамі віселі палатняныя каптуры з фальбонкамі, у вітрынах стаялі шыкоўна, па апошняй модзе апранутыя манекены, былі развешаны сукенкі, кашулі, сумачкі, па бруку плыў густы паток машын самых розных марак, паліцэйскі з белымі нарукаўнікамі, у белых пальчатках рэгуляваў рух, зграбна і грацыёзна, як артыст, паварочваючыся то спінаю, то бокам. Бясконцы паток людзей плыў па тратуары, кожны спяшаўся, не звяртаючы ўвагі ні на кога, чалавек у самым дзіўным убранстве не звярнуў бы тут на сябе ўвагі — Парыж прывык да ўсяго, яго нічым не здзівіш.

Ніхто не звяртаў увагі і на Васіля Колбута, не бачыў яго змрочнага твару, сівых скроняў, вачэй, на дне якіх звіла сабе вечнае гняздо туга. Ён успомніў, як перамяніўся твар у той жанчыны — толькі што дабрадушны, спагадлівы, зрабіўся такі халодны, адчужаны. Мусіць, падумала, што ён які здраднік, паліцай, уцёк за мяжу ад суда, ад расправы. У вачах стаяла яе

кароткая стрыжка і сукенка з белымі рамонкамі, як толькі ён убачыў тыя рамонкі, так перад вачыма і паплыло — жоўты ад кураслепу луг, што ляжаў за гумнамі ў іхняй вёсцы, спелае жыта, у якім на высокіх зялёных сцяблінах бялеюць рамонкі: любіць — не любіць…

— У нас і цяпер так варожаць?..

Яму раптам здалося, што незнаёмая жанчына-турыстка ідзе з ім побач, і гэта ён у яе спытаўся — ці варожаць у нас і цяпер так.

У яго так часам бывала — ідзе па вуліцы, пра нешта думае і быццам з некім у думках гаворыць — з жонкаю, з дачкою. Цяпер ён гаварыў з жанчынаю ў сукенцы з белымі рамонкамі.

— Вы кепска пра мяне падумалі? Што ж, гэта ваша права, тут, у Парыжы, усялякія ёсць, але каб вы ведалі… Не, я не хачу апраўдвацца і не збіраюся вас разжаліць, але каб вам расказаць…

Паўз яго ішлі, яго абміналі людзі, адчыняліся і зачыняліся дзверы крамаў, фірмаў, кантор, гулі машыны, вішчалі тармазы, але ён не бачыў, не чуў гэтага, ён гаварыў, расказваў жанчыне ў сукенцы з белымі рамонкамі:

— Вы ведаеце, што такое нямецкі лагер для ваеннапалонных? Чыталі, у кіно бачылі? Ну, тады павінны разумець. Адным словам, кожны дзень нас паміpала там сотні, а тыя, што жылі, можна сказаць, не жылі, а рыхтаваліся да смерці — ці ад кулі, ці ад голаду…

Як цяпер помню таго перакладчыка, — з парэзаным пры галенні падбародкам, чую, як пераказвае ён словы худога, з вострым кадыком, обер-лейтэнанта.

— Масква капут, а вам будзе воля, будзе яда і адзежа, толькі трэба паступіць у прапагандырэн шуле, будзеце прапагандаваць повы парадак у Еўропе…

Хочаце верце, хочаце не верце, але я сказаў перакладчыку:

— Не!

І зноў была сырая халодная зямля замест пасцелі, горкая баланда, ад якой зводзіла вантробы, горы тых, што ўжо адмучыліся…

Калі мяне прывялі ў той барак другі раз, я зноў сказаў:

— Не…

Жанчына, здаецца, слухала яго, ішла побач, трымаючы на руцэ каля локця белую сумачку на металічным ланцужку. Ён так жыва ўявіў яе побач, што яму нават захацелася ўзяць яе пад руку, весці так, каб яе не штурхалі,

— Дык вы мяне слухаеце?

— Ага, слухаю, — адказала жанчына.

— Там, у лагеры, я пасябраваў з адным хлопцам — Сцяпанам яго звалі, з-пад Смаленска ён быў. І пачаў мяне гэты Сцяпан угаворваць:

«Давай запішамся ў тую школу, служыць-то мы немцам не будзем, не, уцячом да партызанаў, а тут нам усё роўна канцы будуць, і нічога мы нікому не дакажам…»

Угаварыў мяне Сцяпан, а потым… Калі пачаць усё расказваць, дык і тыдня не хопіць, вы і на Парыж не паглядзіце, я і так вас ужо затрымаў, адарваў ад кампаніі.

— Нічога, нічога, — адказвае жанчына, — расказвайце, я на Парыж яшчэ пагляджу.

— Праўда? Дык дзякуй вам. Тады слухайце: у той школе прапагандыстаў нас агітавалі, паказвалі нам фільмы, фільмы і фільмы — як маршыруюць салдаты фюрара, як цягнецца рукамі да фюрара шчаслівы нямецкі народ, як гаворыць фюрар прамовы. Нам паказвалі Парыж і Трыумфальную арку, як праходзяць пад ёю салдаты фюрара, нам паказвалі Афрыку і Альпы ў цюльпанах, праз якія ідуць салдаты фюрара, нам паказвалі разбітыя Мінск, Смаленск, Адэсу, Кіеў, па якіх ідуць салдаты фюрара. Мы са Сцяпанам глядзелі тыя фільмы і калаціліся ад злосці, адно толькі і думалі — як знайсці дарогу да партызанаў.

Паверце, я вас бачу першы раз і хутчэй за ўсё апошні, мне няма чаго выстаўляцца перад вамі, паказваць сябе лепшым, чым я ёсць… Я расказваю вам толькі праўду…

Сцяпан скора пазнаёміўся з адным мясцовым хлопцам — яго Саша звалі, той Саша да нас у школу прыходзіў, часта разам з намі фільмы глядзеў — дакументы ў яго былі нейкія хітрыя, — а потым павёў нас у лес. І трэба ж нам было за горадам на нямецкі патруль напароцца…

— Хальт!..

Жанчына ў сукенцы з рамонкамі быццам знікла, растала, зніклі, расталі і вуліцы, і горад, цяпер Васіль Колбут бачыў нямецкія каскі, нямецкія аўтаматы, чуў, як крычалі:

— Хальт!

Чуў, як трашчала пад нагамі галлё, трашчалі кусты, праз якія яны беглі, уцякалі, як ласі ад зграі ваўкоў… Нашто яны, дурні, уцякалі, у іх жа ва ўсіх былі дакументы, маглі паказаць нямецкаму патрулю. Як адабрала розум. А хто бяжыць, уцякае, таго даганяюць, па тым страляюць. Яму як агнём апякло нагу, здаецца, аж цяпер забалела, запякло — і ад болю, і ад крыўды, ад зайздрасці — што тыя ўцяклі, і Сцяпан, і Саша, а яго злавілі — падстрэлілі, як варону, і злавілі.

Чаму яго не расстралялі? Проста дзіва. Кінулі ў турму, потым завезлі ў канцлагер. Нага доўга не зажывала, потым патрохі загаілася. У канцлагер прыязджалі па рабочую сілу — з заводаў, з фермаў, і ў сорак трэцім яго забраў баўэр, якому патрэбны былі парабкі. Што гэта? Фартуна? Лёс?

Ён выйшаў на Елісейскія палі, пакрочыў па тратуары. Жанчына ў сукенцы з рамонкамі зноў аказалася побач. Ён вырашыў быць галантным:

— Вось мы з вамі і на Елісейскіх палях, магу быць вашым гідам. Паглядзіце направа, гэта магазін, дзе прадаецца футра, тут ёсць манто, якія каштуюць тысячы франкаў… Вось рэстаран «Максім» — тут афіцыянты ў рускіх касаваротках, сам-то я не хадзіў да «Максіма», на гэта трэба вялікія грошы, але расказвалі… А вось ювелірны магазін — брыльянты, перлы, — у маёй жонкі іх няма, яшчэ магазін, яшчэ рэстаран, сінія, зялёныя, чырвоныя столікі пад парасонамі — гэта кавярні, а там, у канцы вуліцы, бачыце, як у тумане, — Трыумфальная арка. Некалі я думаў, што Елісейскія палі — гэта палі, звычайныя зялёныя палі, як у нас за вёскаю, і вельмі здзівіўся, калі даведаўся, што гэта вуліца. Цяпер я магу прыходзіць на гэту вуліцу калі захачу, у вольны ад работы час, вядома, магу сядзець за столікам кавярні, магу сесці нават цяпер, бо мне працаваць сёння ноччу, сяду хоць бы за гэты столік.

І Васіль сапраўды павярнуў да кавярні, падышоў да зялёнага століка, сеў, адкінуўся на спінку плеценага крэсла. Да яго вярнуўся Парыж, вярнулася вуліца з пешаходамі — старая дама з маленькім, як голым, сабачкам на руках — ён заўсёды дзівіўся, як шмат у Парыжы сабак, прабеглі дзеці ў школу, праплыла, уся ў чорным, з ружанцам у руках, манашка, па беражку тратуара хлопец вёў веласіпед, маладая маці каціла каляску з дзіцем, і побач з каляскаю зноў бег сабачка — белы і кругленькі, як мячык.

Над вуліцаю стаяў чад бензіну, з кавярні пахла свежаспечанымі булачкамі.

Да яго вельмі скора падышоў афіцыянт у белым гарнітуры з чорным гальштукам-матылькам, з белаю сурвэткаю, перакінутаю на руцэ каля локця.

Васіль заказаў гарэлку, і калі афіцыянт адышоў, пасядзеў, стукаючы пальцамі па століку, потым выняў з кішэні бліскучы канверт з паштоўкамі, разгарнуў канверт, выняў паштоўкі, пачаў разглядаць.

Жанчына ў сукенцы з рамонкамі цяпер сядзела з ім за столікам.

— Прабачце, я ж вам нічога не заказаў... Што вы будзеце піць? — спытаў ён у жанчыны.

— Дзякуй, мне нічога не трэба, давайце лепей разам паглядзім паштоўкі.

— Ага, ага... Дык гэта ў вас Прывакзальная плошча? Будынкі з вежамі, як вароты ў вялікі горад. Хіба цяпер у Мінску такая Прывакзальная плошча? Я памятаю — каля вакзала быў Віленскі базар... Быў невялічкі скверык, з пятачок... Драўляныя дамы...

— А гэта? — Ён узяў другую паштоўку. — «Ленінскі праспект. Універмаг», — прачытаў на тыльным баку. — Ці не былая гэта Савецкая вуліца, якая праходзіла ў самым цэнтры? Вуліца, дзе быў кінатэатр «Зорка», кандытарскі магазін, у якім я купляў дзяўчатам-студэнткам соевыя цукеркі? Тады ўсе чамусьці куплялі соевыя цукеркі, яны былі недарагія і смачныя, як шакаладныя... Па Савецкай вуліцы хадзілі трамваі... На праспекце рэек не відаць, на паштоўцы сфатаграфаваны тралейбус...

Яму прынеслі гарэлку ў высокай, чыста памытай шклянцы, але ён адсунуў шклянку з гарэлкаю ўбок, узяў у рукі трэцюю паштоўку. «Дом урада»... Я быў падумаў, што ўсе гэтыя паштоўкі — прапаганда, што не можа быць, каб гэта быў Мінск, я памятаю, як паказвалі немцы ў кінахроніцы Мінск — там не было каменя на камені, і раптам — такі горад. Але Дом урада... Я добра памятаю гэты будынак, яго пабудавалі незадоўга да вайны, вялізны, можа, на цэлы квартал... І яшчэ — тэатр імя Янкі Купалы... Мы ў школе вучылі вершы Янкі Купалы — «Ды як стрэліў пан Патоцкі ў левае вуха, так і стала Бандароўна і слепа, і глуха...» Бачыце, я памятаю, і яшчэ шмат чаго памятаю, і вершаў, і песень. У нас у вёсцы дзяўчаты спявалі:

О не кукуй, зязюленька, рана...

А цяпер спяваюць гэту песню? Маўчыцё, нічога мне не гаворыце, вочы халодныя... Ага, я ж вам не ўсё расказаў, не дагаварыў...

У таго баўэра з рускіх працаваў я адзін, і працавала яшчэ двое французаў — Клод і Антуан. Я ад іх крыху па-французску гаварыць навучыўся, і яны са мною пасябравалі. Пачалі ўгаворваць разам з імі ўцякаць у Францыю. Бачыце, як у мяне ў жыцці ўсё выходзіла — заўсёды нехта мяне ўгаворваў... Яны казалі, што ў Францыі мы ўцячом да іхніх партызанаў, да макі...

Ён адчуваў, што расказвае не так, расказвае неяк пуста, гола, ва ўсім гэтым не было самага галоўнага — пачуцця, самае

галоўнае, пачуццё — заставалася ў ім, і ў яго не хапала слоў, каб усё тое вывернуць…

— Мы ўцяклі ад баўэра, прыйшлі ў Францыю, толькі да макі я не трапіў, трапіў да Люсьены, Антуанавай сястры. Яна пашкадавала мяне — бруднага, абадранага, галоднага, кульгавага, — ад далёкай дарогі адкрылася рана на назе. Адмыла мяне, адкарміла, адхаяла, а потым… Сэ ля ві, як кажуць тут французы, — такое жыццё…

Ён трымаў цяпер паштоўкі ўсе разам, стукаў імі аб столік, каля яго, некранутая, стаяла шклянка з гарэлкаю.

— Зрэшты, можа, я і не самы няшчасны чалавек на свеце — у мяне ёсць работа, я шафёр таксі, ёсць Люсьена — яна працуе служанкаю ў тым гатэлі, дзе вы цяпер спыніліся, можа, і бачылі яе дзе на калідоры, ужо не маладая, але яшчэ нішто… Ёсць дзве дачкі, якія і з маткаю, і са мною гавораць па-французску… Але паверыце, я ваджу па вуліцах Парыжа пасажыраў і насвістваю: «О не кукуй, зязюленька, рана»… Я адчуваю сябе тут, як чалавек, які без запрашэння прыйшоў да некага ў госці, далікатны гаспадар не праганяе, але сам сабе думае: яшчэ цябе тут не хапала…

Жанчына ў сукенцы з белымі рамонкамі зноў знікла. Васіль як прачнуўся, павёў вачыма па століку, убачыў шклянку з гарэлкаю, узяў яе, выпіў нагбом. Ці заплаціў ён за гарэлку? Хоць забіце, не помніць. Азірнуўся — афіцыянт нёс на падносе шклянкі з півам да другога століка, там сядзелі дзве маладыя жанчыны ў кароткіх спадніцах, заклаўшы нагу за нагу, і ногі ў іх былі высока аголеныя, жанчыны курылі, пра нешта гаварылі між сабою.

Васіль паклікаў пальцам афіцыянта, і той, трымаючы паднос у апушчанай руцэ, падышоў да яго, схіліўся.

— Ці заплаціў я грошы? — спытаўся ў яго Васіль.

— Уі, месье, — адказаў афіцыянт.

Васіль устаў, адсунуў плеценае крэсла, пайшоў паміж столікаў на тратуар.

Па бруку ехалі ў некалькі радоў, наступаючы адна на адну, машыны, праплыў вялізны, падобны на акварыум, аўтобус, і Васіль успомніў турыстаў. Здаецца, ён толькі цяпер зразумеў, што жанчына ў сукенцы з белымі рамонкамі не хадзіла сёння з ім па Парыжы, не сядзела з ім за столікам у кавярні. Дзе яна цяпер? Можа, у Доме інвалідаў, глядзіць з круглага балкона ўніз, на труну Банапарта? Ці слухае арган у Нотр-Даме, ці з гары Манмартра аглядае горад? Парыж, сталіца свету, як некалі назваў яго той самы Банапарт. Добра сюды прыехаць, паглядзець на

ўсё гэта і вярнуцца дадому. Колькі яму засталося жыць? Цяпер яму пяцьдзясят, калі дажыве да сямідзесяці, то яшчэ дваццаць гадоў… Так, так… Гарэлка, якую ён сёння выпіў, — апошняя, ён больш не возьме ў губы ні гарэлкі, ні віна, ён будзе збіраць грошы, складаць капейку да капейкі, — як гэтыя турысты прыехалі сюды, так ён паедзе туды, каб яшчэ хоць раз, хоць перад смерцю ўбачыць той жоўты ад кураслепу луг, што ляжыць у іхняй вёсцы за гумнамі, каб яшчэ хоць раз паваражыць на тых рамонках: любіць — не любіць… Так, так, хоць на некалькі дзён, хоць турыстам, туды, дадому…

Шумеў машынамі Парыж, з акна кавярні «Георг Пяты» лілася музыка, з туману выплывала Трыумфальная арка.

*1968*

## БЕЛЫ ШПІЦ

Стаяла зіма сорак трэцяга года. Пасля невялікай адлігі ўдарыў мароз, і гарадскія руіны, друз укрыла калючая белая шэрань. У ясным сінім небе жоўтым кругам свяціла халоднае сонца, пазіраючы ў правалы вокнаў і дзвярэй, што зеўралі ў закураных ацалелых сценах.

Горад быў падобны на растрэсены мурашнік, у якім цудам засталося жыццё, і, як мурашкі, снавалі цяпер людзі па выбеленых снегам і шэранню вуліцах, кожны са сваім клопатам, кожны са сваёй бядою.

А клопат быў цяпер ва ўсіх найбольш адзін — дзе ўзяць кавалак хлеба, жменю круп альбо некалькі бульбін, каб пад’есці, каб накарміць дзяцей, у каго яны былі, каб пражыць хоць сённяшні дзень, бо пра заўтрашні вельмі не думалі, ці будзе ён, той, заўтрашні, ці дажывуць.

Ішла другая зіма вайны, і наогул было дзіўна, як, чым трымаліся яшчэ гараджане, звычайнае мірнае насельніцтва, што прывыкла жыць на грошы ад палучкі да палучкі, не маючы ніякіх запасаў, усю надзею ўскладаючы на крамы, як на той абрус-самабор, што ніколі не пусцее.

Але няма цяпер крамаў, і яны ляжаць гарамі друзу, няма цяпер і тых палучак, плоцяць іх немцы хіба тым здраднікам, што да іх ідуць служыць, але трэба мець свінячую душу, каб ісці да тых немцаў, а жывым у зямлю таксама не палезеш, і людзі выкручваюцца як хто ўмее.

Цэнтр горада, сэрца яго цяпер базар, сюды збіраюцца хто прадаваць, а хто купляць, хто зарабляць на чужым горы, а хто стаяць са сваім горам і гадзіну, і другую, калець на марозе, трымаючы ў руках кашулю таго, хто цяперака невядома дзе — можа, на фронце, а можа, у палоне, можа, дзе і галаву ўжо склаў, а можа, і вернецца, і як тады яму ў вочы глянуць — не зберагла, прадала апошнюю.

І з гэтаю кашуляю стаяць найболей доўга, пакуль не зойдзецца сэрца ад холаду, пакуль не вырве яе з рук адчай — усё роўна болей не дадуць, а дома дзеці…

— Сахарына, сахарына, саладзейшая за цукар, — бадзёрым прастуджаным голасам выкрыквае дзядзька ў зашмальцаванай ватоўцы, у суконнай шапцы з вушамі, завязанымі пад бараду.

— Мыла, мыла, купляйце мыла, — крычыць падлетак у кепачцы, з-пад якой тырчаць вялікія, чырвоныя ад холаду вушы.

А там ужо ідзе торг: мужык у кажусе з прыліплымі да яго саломінамі абмацвае халяву бота, стукае костачкамі пальцаў па падэшве.

— Можа, кардона? — пытаецца недаверліва ў кабеты з сінімі, як курыная скура, шчокамі.

— Сам ты кардона, — злосна вырывае кабета ў яго бот. — Чалавека майго боты, я табе іх і не прадам, куркуль няшчасны!

— Цьфу, згары ты, — плюе пад ногі мужык у кажусе, — не прадасі — не трэба, другія знайду, ботаў цяперака шмат, хлеба мала! Цьфу, — плюе ён яшчэ раз і адкідае нагою ў валёнку сабаку, што круціцца каля яго ног.

Сабака віскнуў і адскочыў, пабег у гушчу людзей, то апускаючы нос да самага снегу, нюхаючы яго, то тыцкаючы носам у халявы ботаў, у валёнкі, што тупалі тут і там, стаялі і хадзілі.

Гэты сабака, белы шпіц, бегаў тут з самай раніцы. На шыі ў яго быў скураны ашыйнік, значыцца, сабака меў гаспадара, але дзе ён цяпер, гаспадар, куды знік? Гэта, мусіць, і трывожыла сабаку, мусіць, яго і шукаў белы шпіц, ды не знаходзіў.

Ён бегаў між людзей, часам садзіўся, задзіраў галаву, нібы хочучы зазірнуць людзям у твары, часам ціхенька павіскваў, але ніхто не звяртаў на яго ўвагі. Тады сабака зноў пачынаў бегаць, зноў нюхаць снег і чужыя ногі.

Нарэшце стаміўся ці страціў веру ў свой занятак. Выбег з густога натоўпу, што без ладу хадзіў і штурхаўся, сеў на купку сена, выкінутую некім на снег каля доўгага драўлянага стала, паклаў перад сабою лапы. Дома прывык, мусіць, садзіцца на падасланае, вось і цяпер знайшоў сена, не лёг абы-дзе.

Белы шпіц часта дыхаў, высунуўшы ружовы вільготны язык, круглыя чорныя вочкі яго пазіралі з недаўменнем, быццам ён ніяк не мог зразумець, што з ім адбылося, як апынуўся ён тут, на базары, дзе дзелася яго хата, дзе дзеліся ўсе свае. Ён дробненька дрыжаў, яго белая поўсць каля носа змерзлася ў суслы і пакрылася шэранню, вачыма ён вадзіў за незнаёмымі людзьмі, што праходзілі каля яго недалёка, быццам спадзяваўся, што нехта з іх яму дапаможа.

У гэты час да стала, каля якога сядзеў сабака, падкацілася тачка, і тоўстая кабета, закручаная ў некалькі хустак, зняла з тачкі вялікую каструлю, як і кабеціна галава, закручаную хусткамі.

Пераступіўшы цераз лаўку нагою ў бурцы з ружоваю чуняю, яна бразнула на стол каструлю. Азірнулася на тачку, падсунула тачку бліжэй да сябе — пад самую лаўку, потым зняла з каструлі накрыўку і тут жа зноў яе закрыла. Але і за тое кароткае імгненне, што была каструля адчыненая, з яе шыбанула такім смачным пахам, што сабака ўскочыў на ногі і застыў, пазіраючы то на каструлю, то на кабету.

А тая выняла з кішэні паліто пагнуты відэлец і закрычала гучным голасам, бразгаючы відэльцам аб каструлю:

— Дранікі, дранікі, гарачыя дранікі!

Не толькі сабака пачуў казытлівы пах ежы і зазыўны голас жанчыны, з натоўпу вылузаўся хлопчык, той, што прадаваў мыла. Яшчэ на хаду пачаў ён поркацца ў кішэнях, выграбаючы дробязь, пералічыў тое, што знайшоў, дзьмухнуў у далонь, здуваючы смецце, што выграблася разам з манетамі, падышоў да кабеты.

Тая падставіла сваю чырвоную, бліскучую ад тлушчу далонь, і грошы, слаба дзінькнуўшы, перасыпаліся з рукі хлопчыка ў жменю жанчыны. Тройчы плюнуўшы па першую выручку — каб далей шанцавала, — кабета ссыпала дробязь у кішэню паліто, спрытна падхапіла накрыўку, зноў выпусціўшы на волю воблака пары і паху.

Сабака завіляў хвастом. Ён пазіраў хлопчыку ў рот, як адкусваў, жаваў той аладку, але хлопчык не бачыў сабакі, ён, здаецца, нічога не бачыў, увесь заняты аладкаю, яе пахам, яе смакам, жаваў, прыцмокваў, аладка меншала, знікала, і хутка хлопчык ужо толькі аблізваў пальцы.

Сабака расчаравана прысеў на сваю купку сена, ужо прымятую яго целам, але ў гэты час зноў бразнула каструля. Сабака зноў падняўся, навастрыўся. Ён бачыў, як відэлец напароў некалькі аладак, як пацягнулася да гэтых аладак рука, як заваку-

шыліся сківіцы, жуючы, як падымаўся ўгору і тут жа спускаўся кадык на шыі чалавека, калі той каўтаў смачны пахучы камяк.

У сабакі з языка закапала сліна. Ён сам не заўважыў, як падышоў да чалавека, як завіляў хвастом, як пачаў павіскваць, просячы пачастунку. Ён глядзеў чалавеку ў вочы, але чалавек адводзіў ад яго позірк, ніяк не хацеў сустрэцца вачыма з сабакам, ён еў, спяшаўся, і скора яго рукі апусцелі.

Тады сабака павярнуўся да кабеты, да гаспадыні дранікаў і, быццам нешта ўспомніўшы, стаў на заднія лапы, пачаў служыць.

Служыў ён доўга і старанна, сам, здаецца, задаволены, што ўмее так доўга стаяць у зусім нялоўкай для яго паставе, яго вочы пазіралі аддана і шчыра, з радасцю і надзеяй.

Але і кабета яго не бачыла, і яна адводзіла позірк, глядзела ўбок.

А сабака служыў і служыў, часам лапы яго нямелі, тады ён на міг апускаў іх, дакранаўся імі да снегу і тут жа зноў паднімаў, прыціскаў да грудзей, да белай поўсці, у якой прасвечваліся маленькія ружовыя саскі. Яго лапкі віселі, нібыта анучкі, і дрыжалі, дрыжаў ружовы язык, з якога капала сліна, сабака сіліўся трымацца, увесь выгляд яго нібыта казаў: глядзіце, як я для вас стараюся, як я хачу вам дагадзіць, няўжо я не зарабіў за гэта ўзнагароды?

— Пайшоў вон, — нарэшце не вытрывала, замахнулася на яго відэльцам кабета. — Тут людзям няма чаго есці…

Сабака, нібы прысаромлены, стаў на чатыры лапы, вільнуў хвастом і адышоў убок. Яшчэ з хвіліну пастаяў, вярнуўся на сваё месца, да купкі сена, лёг на яе, паклаўшы галаву на пярэднія лапы. Ён сіліўся не глядзець у той бок, адкуль плыў да яго пах ежы, адварочваў галаву, заплюшчваў вочы. Можа, нават задрамаў, бо ляжаў не варушачыся, толькі часам торгалася на спіне яго поўсць ды слаба варушыўся хвост з сухою травінкаю, што заблыталася ў ім.

І раптам сабака нібы прачнуўся. Завурчаў, натапырыўся, яго лагодныя дагэтуль вочы загарэліся злосцю, ашчэрылася зяпа, паказаўшы вострыя калючыя белыя зубы.

Паўз яго, у шэра-зялёным шынялі і сінім шаліку, накручаным зверху на пілотку, засунуўшы рукі ў рукавы шыняля і згорбіўшыся, прасунуўся немец. Ці пах немца раздражніў сабаку, напомніўшы нешта прыкрае, ці не спадабаўся яму шалік на немцавай галаве, але шпіц ускочыў на ногі і моцна забрахаў.

Немец скасіў на яго рудое вока ў белых вейках і толькі шморгнуў доўгім сінім носам, відаць, не спалохаў яго белы маленькі сабачка, не ўбачыў сабе немец у ім небяспекі.

А шпіц нібыта азвярэў, кідаўся да немца, адчайна брахаў, яго вочы наліліся крывёю і шчэрыліся, шчэрыліся маленькія белыя іклы.

— Вэк, раўз, — гартанна прабурчэў немец і нахіліўся, выняў руку з рукава шыняля, быццам паказваючы, што хоча падняць камень.

Шпіц крыху адскочыў, але тут жа з новаю сілаю кінуўся на немцавы боты, гатовы ўпіцца ў іх зубамі, гатовы разадраць, знішчыць гэтага чужога, які выклікаў такую злосць і агіду.

Немец выйшаў за вароты базару, знік, а сабака яшчэ доўга стаяў і брахаў яму ўслед, брахаў з усёй сабачай злосцю, да хрыпаты, да адчаю. А калі крыху супакоіўся, пачуў за сабою незнаёмы голас:

— Цюцька, цюцька, на…

І пляснуўся на снег перад ім кавалак цёплай пахучай аладкі.

І той жа голас яшчэ сказаў:

— Каб ты здох, які разумны сабака…

*1975*

## ПАЛАСА ДАЖДЖУ

### 1

Мінаў першы тыдзень шчасця. Ён праляцеў, як адзін дзень, а можа, як адна гадзіна, як адзін гарачы міг.

Канечне, шчасцем было і тое, ранейшае, калі вочы ў вочы, рукі ў рукі заставаліся яны толькі ўдваіх у вялікім, бязмежным свеце, калі больш нікога і нідзе не існавала, калі толькі яны ды пошум ветру ў белай бярозе, ціхі звон у паднябессі ды моцнае, як гром, тахканне сэрца.

Але цяпер яна жонка Валодзі, хутка тыдзень, як яна жонка, і шчасце не месціцца ў берагі, бурліць, не ведае, куды лінуцца. Хаця — чаму не ведае? Перш за ўсё яно ліецца на таго, хто прычына гэтай шырокай, як свет, радасці, — на самага прыгожага, на самага разумнага, на самага харошага — Валодзю.

Чакаючы, калі ён прыйдзе з работы, Ніна шкрабе, мые ў нядаўна яшчэ халастой Валодзевай кватэры — часу пакуль хапае, у яе цяпер канікулы, — перабірае яго небагаты скарб: ці няма дзе якой дзірачкі, ці ўсе гузікі на месцы, можа, трэба што прышыць альбо зацыраваць. А потым з трывогаю каштуе суп — ці ўдаўся ён. Бо, як ні сумна прызнацца, майстрыха на абеды з яе

не вельмі вялікая, не было на чым ды ад каго вучыцца гатаваць розныя прысмакі. Вядома, якая ў вёсцы яда — зацірка, крупнік, бульба, скварка на патэльні.

Калі наважылася Ніна ехаць у горад вучыцца, маці ўзрадавалася:

— Едзь, дачушка, цяпер усе вучацца. Хіба ты дурнейшая за Васюкову Гэльку? А і тая ў горад паехала, некуды паступаць. Я навыварат вывернуся, але табе памагу, едзь, вучыся.

І Ніна паехала, але на маці вельмі не насядала, старалася больш стыпендыяй абыходзіцца, не хацела, каб маці і праўда навыварат выварочвалася: памятала Ніна, што ў хаце яшчэ трое дзяцей засталося ды дзед.

О, гэты дзед… Гэты дзед — Нініна гора, Нініна пакута, Нінін сорам. Асабліва сорамна перад Валодзем, што ў яе такі родзіч. І нічога тут не пераменіш, не дасі ніякай рады.

Згубіла дзеда, як казала Німіна бабка, а потым Німіна маці, «агаізма». Ні пра кога не думаў, ні пра кога не дбаў чалавек, толькі сябе шанаваў.

Некалі, як малады быў, падаўся ў горад на рабфак вучыцца, але нешта з тым рабфакам не склеілася, вярнуўся ў вёску. Ажаніўся з Нінінай бабкай, прыгожай дзяўчынай, харошай работніцай — звабілі тую заліхвацкая чупрына ды томныя, з павалокаю вочы; здавалася, праз гэтыя вочы далікатная душа свеціцца.

Але жыццё пайшло ў іх зусім не ў лад. Пасля горада, хоць і вельмі коратка пагасцяваў там муж, вясковая работа здалася яму зусім не ўсмак. Усе людзі ў калгас ідуць — хто на поле, хто на ферму, а ён спіць да абеду.

Німіна бабка якое яечка ці скварачку, што дзецям берагла, ад мужа хавала, бо той, бывала, не спытае, ці дзеці пад'еўшыя, — усё сам падбярэ.

Любіў дзед гарэлку, а як напіваўся, то і лаяўся, і кулакі ў ход пускаў, усё на бабку наракаў, крычаў, што завязала яна яму свет, каб не яна, каб не яна…

А перад самаю вайною з'ехаў невядома куды, пакінуўшы бабку з чатырма дзецьмі, — лёгкага хлеба, лёгкага шчасця пайшоў шукаць.

Вольга, Німіна маці, была самая старэйшая з дзяцей, і на яе долю выпала найбольш пакут. Разам з маткаю меншых дзяцей гадавала, з пятнаццаці гадоў пачала ў калгас хадзіць. Маладосць, самая дзявочая пара прайшла, праляцела так, што Німіна маці яе і не ўбачыла. Ні сукенкі людскай не знасіла, ні на танцы не пахадзіла, ні на прызбе не пасядзела. Азірнулася — а яна і

старая дзеўка ўжо. Братоў і сястру памагла мацеры выгадаваць, а сваіх дзяцей мець не будзе? Хто ж паквапіцца на бедную ды на старую?

Але паквапіўся. Таксама не багаты і не малады, калека нават — пад Смаленскам руку пакінуў (гэта калі ўжо нашы Смаленск назад у немцаў бралі) — Нінін бацька, Павел Кацянок.

Зажылі яны дружна і ладна. Ніна першая ў іх на свет нарадзілася, а потым прыйшлі Косцік, Тоня, Грыша.

Бабка тым часам памерла. Пра дзеда толькі чуткі розныя даходзілі. Казалі, што ён недзе за Уралам ажаніўся з татаркаю. Потым казалі, што і тую татарку кінуў.

Ніну гэтыя размовы мала абыходзілі, бо яна таго дзеда і ў вочы ніколі не бачыла, а калі ўяўляла яго, то як злога духа з казкі.

І раптам дзед аб'явіўся. Сівы і брудны. Левая рука ў яго была закручана назад, твар тузаўся, быццам дзед увесь час некаму падморгваў.

Прыйшоў на радзіму… Шукаць сваіх… Каб пры іх дажываць веку.

І Нініна маці прыняла — як-ніяк бацька. Адмыла. Накарміла. Сяннік напхала свежым сенам — зрабіла пасцель.

Дзед вельмі скора пакруглеў, бруд з маршчын на яго твары вымыўся, але рука не выпрасталася і падморгваць не перастаў. Маці ад дзеда так толкам і не дабілася, што знявечыла яго — ці хвароба, ці ліхі выпадак. Адзін раз ён расказваў так, другі раз гэтак.

Цяпер дзед болей сядзеў дома, аднак не-не ды валачыўся ў саўгас да крамы, вярсты за паўтары ад іхняй вёскі. Як потым агледзеліся маці з Нінаю, валачыўся дзед акурат у тыя дні, калі ў саўгасе плацілі грошы і некаторыя мужчыны, затуліўшыся за сцяну крамы, дзе стаялі пустыя бочкі, драўляныя скрынкі, драцяныя кошыкі, у якіх вазілі бутэлькі з малаком, раскладалі на бочках кілбасу, хлеб, агуркі, ставілі бутэлькі і пачыналі выпіваць.

Дзед станавіўся каля мужчын і глядзеў на іх такімі сквапнымі вачыма, што тыя не вытрымлівалі, налівалі ў шклянку гарэлкі, падносілі дзеду.

А тады дзед і зусім дурнеў — на некага сварыўся, крычаў, што да самага высокага начальства дойдзе, але дакажа сваю праўду; твар у дзеда яшчэ больш тузаўся, і не было на яго ні супакою, ні ўгамону, пакуль не засынаў дзе-небудзь п'яны пад плотам.

Тады Нініна маці, часта з Нінаю, ішла па яго, вяла ў хату.

А цверазеў дзед — і каяўся, кляў сам сябе:

— Каб ты ўжо смалы напіўся, каб цябе не ў хату завалаклі, а ў дамавіну, каб ты зайшоўся там пад плотам! Не чалавек жа ты, а трыбуха сабачая, сваіх дзетак некалі пакінуў, а цяпер прыехаў унукаў аб'ядаць. На сорам усім вам прыехаў! Калі яшчэ раз пагляджу на гэтую гару, калі хоць раз вазьму ў губу…

І ён плакаў, выціраючы вочы крывым тоўстым пальцам.

Каяўся дзед, а праходзіў тыдзень, другі — і зноў валокся ён да крамы, зноў сквапнымі вачыма глядзеў на тых, што выпівалі, і тыя налівалі яму, падносілі.

І вось такога дзеда Ніна мусіць паказаць цяпер сваймy Валодзю, пасадзіць яго разам з Валодзем за стол, з Валодзем, які вырас у такой прыстойнай сям'і — маці была доктарка, бацька — настаўнік.

Вось яна, тая хмара, што наплывала на ясны, сонечны небасхіл Ніннага шчасця. Бо трэба ж з Валодзем з'ездзіць у вёску, да мацеры, паказаць ёй зяця. Інакш маці пакрыўдзіцца, скажа: во, гарадская стала дачка, вучоная, дык і сваіх ужо цураецца.

Не, Ніна не такая, да мацеры з'ездзіць трэба.

## 2

Маленькая стрэлка гадзінніка перапаўзла за шэсць гадзін, і Валодзя мог прыйсці ўжо кожную хвіліну.

Ніна падышла да люстэрка, перачасала валасы, якія і так прыгожа ляжалі на яе круглай галоўцы, крышку падпудрылася, крышку падфарбавала губы. Агледзела сябе і сама сабе спадабалася. Не, яна ўсё-такі нішто — вялікія цёмныя вочы, чысты тварык, роўны носік. Абцягнула, паправіла на сабе халацік — і ў меру яна тоненькая… Не, нічога.

Валодзю пазнала, калі ён яшчэ і дзверы ў хату не адчыніў, — па няўлоўна знаёмым шораху на лесвіцы, па дыханні, якое, здаецца, пачула праз сцены.

А вось і ён — высокі, светлавалосы, з усмешкаю, якая робіць яго твар такім мілым. Увайшоў, прынёсшы з сабою знаёмы і такі ўжо родны пах — крыху тытуню, крыху адэкалону, крыху жалеза — інжынер ён на заводзе, увесь час каля станкоў.

Спыніўся пры дзвярах.

— Тут такая чысціня, так блішчыць усё, што я і ступіць баюся, — сказаў са сваёю мілай усмешкаю.

— А ты не бойся, Валодзечка! — махнула Ніна рукою. — Ідзі, ступай, смяці! Я зноў усё прыбяру, памыю!

— Ох, дзіцёнак ты мой, — засмяяўся Валодзя. — Навошта ж я буду смяціць? Я буду акуратненька.

А потым, калі памыўся і выціраўся ўжо ручніком, гаварыў Ніне:

— У нас такія чысціня і парадак былі толькі тады, калі мама была жывая. А потым, як мы з бацькам засталіся, дык вельмі не глядзелі, ён смяціў сабе, я сабе. Часам, раз на паўгода, аўрал аб’яўлялі, калі ўжо за смеццем адзін аднаго не бачылі. Ну, а калі я зусім адзін застаўся, дык таксама не вельмі глядзеў…

— Дык не дзіва ж, усякая кватэра без жаночай рукі…

— Ах ты, мая жаночая рука, — абдымаў Ніну Валодзя, і ад яго пахла цяпер сунічным мылам, чыстым ручніком і ўсё роўна тым, мужчынскім пахам, што ніколі і нічым не змываецца.

Потым яны абедалі, і Валодзя хваліў яе суп, яе катлеты. А потым сказаў, што яму трэба крышку папрацаваць. Ім на завод новы станок прыслалі, замежны, але рабочыя не вельмі гэты станок хваляць, дык ён хоча тое-сёе прыкінуць, можа, удасца паправіць.

І хоць Ніне хацелася схадзіць з Валодзем у кіно альбо так пагуляць па вуліцы, яна ведала, што работа для Валодзі, можа, самае важнае ў свеце; таму, узяўшы ў рукі кніжку, Ніна ціхенька прымасцілася на канапцы. Яна то чытала, то ўзнімала галаву і глядзела на Валодзю, як ён, схіліўшыся над сталом, пісаў, лічыў, крэсліў; часам ён хмурыў бровы, моршчыў лоб, варушыў губамі, адкладаў убок адну паперку, браў другую. Ніна зноў пачынала чытаць, і хоць кніга адводзіла яе далёка ад дому, у іншы свет, у іншы век, яна ўсё роўна нейкім зрокам бачыла Валодзю, і ў душу яе прыходзіла не знаная дагэтуль сцішанасць. Як добра, што Валодзя тут… У адной з ёю кватэры… Пад адным з ёю дахам… І так будзе вечна… Усё жыццё…

А калі Валодзя скончыў нарэшце сваю работу, да Ніны зноў падступіла тое, падобнае на трывогу, — дзед…

Але трэба было з гэтым канчаць, тым болей што ад сустрэчы з дзедам усё роўна нікуды не дзенешся. Ды, зрэшты, даўся ёй гэты дзед! Яна ж расказвала Валодзю пра сваіх, сказала і пра дзеда, што ёсць… непуцёвы. Валодзя тады толькі пасмяяўся, сказаў:

— Затое ты ў мяне пуцёвая.

І Ніна спытала ў Валодзі, нібы раней пра гэта не думала, толькі цяпер успомніла:

— Валодзечка, дык калі ж мы да маіх з’ездзім?.. Трэба ж да маёй мамы, разумееш?

— Канечне, трэба, — адразу згадзіўся Валодзя. — Калі скажаш, тады і паедзем.

— Дык давай у нядзелю… Не ў гэту, а ў тую…

Ніна нездарма намеціла паездку на тую нядзелю. Перад гэтым збіралася напісаць мацеры пісьмо, папярэдзіць, у які дзень прыедзе, тады дома ў хаце прыбяруць, бо прыедзь знянацку, дык яшчэ над печкаю транты якія будуць вісець — які сорам!

— Добра, давай у тую нядзелю, — зноў згадзіўся Валодзя. — А ты ведаеш, здаецца, у мяне выходзіць, — паказаў ён на спісаныя лічбамі лісткі.

— Каб у цябе ды не выйшла, — сур'ёзна сказала Ніна. — Твае ж хлопцы казалі, што ты самы таленавіты інжынер на заводзе.

— Ды яны жартавалі! — засмяяўся Валодзя, абняў Ніну, ды так моцна, што ў яе аж кніжка звалілася на падлогу. — Самы таленавіты! Але, ведаеш, нам, мужчынам, вельмі дапамагае, калі нехта ў нас так шчыра верыць…

3

Сцежка ішла цераз поплаў, перабягала масток і кіравалася да лесу. А за лесам і Німіна вёска — усёй дарогі кіламетра паўтара. Ніна ведала гэты кірунак на памяць — колькі разоў шнуравала яна між суседнім саўгасам, куды з горада прыязджаў аўтобус, і сваёю вёскаю, колькі сходжана туды і назад яшчэ з маленства, калі маці пасылала ў краму, у тую самую, да якой панадзіўся хадзіць цяпер дзед. Потым, як падрасла, сама бегала ў саўгасны клуб то ў кіно, то на танцы. А падчас вучобы ў горадзе без гэтай дарогі і ніяк нельга было абысціся — самы блізкі аўтобус адыходзіў у горад з саўгаса.

Але цяпер Ніна бачыла ўсё наваколле нібыта ўпершыню, глядзела на ўсё так, як мог убачыць гэта Валодзя, ягонымі вачыма азірала поплаў з чорнымі тарфянымі купінамі, з высокімі цурбукамі конскага шчаўя і жоўтым кураслепам, які цвіў тут цэлае лета. Нібыта першы раз бачыла яна і палоску ракі, па берагах зарослую вербамі, і свой лес, у цень якога яны ўжо ступілі і які шапацеў ім насустрач, нібы першы хацеў расказаць нейкую вясковую навіну.

Валодзя нёс сумку з гасцінцамі — як жа да цешчы прыехаць першы раз ды з пустымі рукамі? Ніна з лёгкім рыдыкюльчыкам ішла наперадзе, нібы пракладаючы Валодзю шлях, ведучы яго ў свае пенаты.

І поплаў, і лес здаліся Ніне зусім прыстойнымі, іх не павінен зганіць і Валодзя, патомны гараджанін, а далей… Што ж, далей як будзе, так будзе; даруй, Валодзечка, калі што не так… Не самі людзі выбіраюць сабе сваякоў ды родзічаў, не самі выбіраюць

сабе месца, дзе нарадзіцца, гэта ўжо як каму пашанцуе. Наогул, чалавек не па сваёй волі трапляе на свет і менш за ўсё вінаваты, нарадзіўся ён брыдкі альбо прыгожы…

Ніну пацягнула на развважанні, на міг яна нібы растала, паплыла між высокіх елак і хвой, над зялёным кустоўем, што падступала да самай дарогі.

Вярнуў да жыцця гучны голас зязюлі:

— Ку-ку… Ку-ку…

Ніна як прачнулася.

— Зязюля-зязюля, палічы, колькі дзяцей у мяне будзе! — закрычала яна.

— Ку-ку… Ку-ку… — вяла зязюля, а Ніна лічыла, загінаючы пальцы.

— Сама ты яшчэ дзіцёнак, — засмяяўся Валодзя. — І гэта яна праз год будзе настаўніца! Як ты дзяцей вучыць будзеш, галавы не прыкладу.

— І я таксама, — з робленай трывогаю ўздыхнула Ніна. — Ды нічога, як-небудзь патрапім.

«Міша, ты чаго падняў руку, што табе трэба?» — павяла яна жартаўлівы дыялог.

«Ніна Паўлаўна, а Валодзька мне пстрычку даў…»

«Ах, Валодзечка, хіба можна на ўроку даваць пстрычкі? Ты ўжо як-небудзь на вуліцы ці хоць бы ў час перапынку», — і Ніна залілася звонкім смехам.

Іх хата стаяла на другім канцы вуліцы, і цераз вёску яны ішлі, не раўнуючы, як той салдат праз строй. На іх пазіралі з акон, спыняліся і глядзелі ім услед. Валожынавых Юзік нават спыніў свой матаролер, і Ніне аж у спіну запякло ад яго цікаўнага позірку.

Ніна віталася з усімі, каго сустракала, за цікаўнасць не крыўдзілася, ведала, што інакш не можа быць — яна ж тут усіх ведае і яе ўсе знаюць, помняць яшчэ дзіцём. Ці даўно і яна сама бегала ў другі канец вёскі, каб паглядзець на Верку з маладым мужам, якія таксама прыязджалі з горада да бацькоў?

Яна ведала, што недзе ўжо, як на сарочыным хвасце, прыляцела і ў іхнюю хату вестка, што Ніна ідзе, што яны ідуць… Але меншая сястра і брат не беглі насустрач. І іх разумела Ніна — саромеліся незнаёмага Валодзі, Нінінага мужа.

Ніхто не выбег з хаты і тады, калі Ніна ўзялася за брамку, увайшла ў двор, адразу ўбачыла — спарадкаваны, падмецены. Нізкая густая травіца была як прычасаная, не валялася на ёй ні саломінкі, ні курынага пяра, на пяску былі відаць свежыя сляды дзеркача.

Ступіла на ганак, але ў хаце яшчэ было ціха, і Ніна аж затрывожылася — ці не здарылася якой бяды, ці здаровыя ўсе дома.

Але ў гэты ж міг пачуліся таропкія крокі, адчыніліся дзверы, і Ніна ўбачыла маці — у белай хустачцы, завязанай пад бараду, у вышыванай блузцы і цёмнай спадніцы з белым фартухом. З-за яе спіны, як мышы, выбеглі і шуснулі ў кут Тоня і Грыша.

— Добры дзень вам усім, — бадзёра сказала Ніна, пераступаючы парог.

За ёю ступіў у хату і Валодзя.

Ніна ведала, колькі пільных вачэй стрэліла цяпер у яе мужа. Ведала, што інакш, таксама новымі вачыма, глянулі сёння свае і на яе, і раптам засаромелася, пачула, як паплыла на шчокі чырвань. Перамагаючы сорам, беручы ўладу над сабою, сказала мацеры, паказваючы на Валодзю:

— Вось… Пазнаёмцеся…

Маці ступіла да Валодзі, абняла, пацалавала. Потым Валодзя абдымаўся, цалаваўся з яе братамі, з сястрою. Распакавалі сумку. Вынялі гасцінцы, падарункі.

Яшчэ з першай хвіліны, як толькі ўвайшлі ў хату, Ніна ўбачыла, што дзеда няма дома. У запечку, на шырокай лаве, ляжала яго пасцель, акуратна засланая посцілкаю, з вялікаю падушкаю ў квяцістай наўлечцы. Але самога дзеда не было, і напружанне, з якім чакала Ніна гэтай сустрэчы, крышку адышло. «Ну і добра, што хоць першую хвіліну ды яго няма», — падумала Ніна.

Потым селі за стол. Маці паставіла пляшку гарэлкі, бутэльку віна, прыгатаваныя, вядома ж, да гэтага дня, падсмажыла яечню на сале і іншай яды на стол паставіла — і кілбаска тут была, і кумпячок, і шпроты, і зялёная цыбулька, і сыр, і смятанка.

Пакуль Ніне ўсё падабалася. Не, не мог Валодзя зганіць яе радню, яе маці. Вунь якая яна — чыстая, прыбраная і нават не старая. Ніне раней здавалася, што яе маці куды старэйшая. І дзеці ў чыстым, у хаце парадак — падлога вышараваная, як жаўток, печ пабеленая, вокны аж блішчаць ад чысціні. На падаконніку транзістар паціхеньку іграе — гэта ўжо, няйнакш, Косця, старэйшы брат, купіў, надта ж хацеў увесь час мець транзістар. І гаворка за сталом вяжацца, не сядзяць, як маўчуны.

— Еш, сынок, кладзі, бяры, — падстаўляе маці да Валодзі талерку з кружочкамі кілбасы. — Можа, яшчэ чарачку наліць? Не хочаш поўную, дык так, трошачкі. Вось маладзец. Мне Ніна пісала, што маткі, бацькі ў цябе няма. Малайчына ж ты, што і без іх у людзі выйшаў, вывучыўся.

— Мой бацька памёр два гады таму назад, я інстытут яшчэ пры ім скончыў, — адказваў Валодзя. — Мама, праўда, памерла, як мне было яшчэ пятнаццаць.

— Беднае дзіцятка, беднае дзіцятка, — ківала маці галавою. — І чаго ж яна памерла такая маладая? Ніна мне пісала, што яна была доктарка. Што ж, сама сябе не ўратавала?

— Што ж рабіць, і дактары хварэюць, і дактары паміраюць, — гаварыў Валодзя.

— А бацька ж чаго памёр? — дапытвалася маці.

— Бацька ад старых ран… Ваяваў ён… Усю вайну прайшоў.

— От і наш жа гэтак… Руку пад Смаленскам пакінуў… Толькі палягчэла жыць, хлеба ўволю есці пачалі, а ён і… Пяць гадкоў ужо зямельку парыць.

— Ой, мама, нешта вы пра сумнае пачалі, — схамянулася Ніна.

— А і праўда, — выцерла маці вока ражком хусткі, — хопіць, мы сваё адгаравалі… Скажу я табе, сынок, — паклала яна руку на рукаў Валодзевага пінжака, — маці мая надта цяжка жыла… Мне таксама гора хапіла… Затое вам цяпер, маладым, толькі і жыць. І навука вам, і гарадскія кватэры, і хлеба ўволю, і да хлеба…

Ніна слухала размову за сталом і каторы раз думала — дзе ж усё-такі дзед? Няўжо і сёння пацёгся ў саўгас, пад краму?.. «Ну і дзед! — ужо з крыўдаю на яго думала Ніна. — Унучка з маладым мужам прыехала, ужо не пашкадавалі б, налілі б і яму чарку, дык пацёгся…» І не ведала Ніна, чаго больш у яе грудзях — радасці, што няма ў хаце дзеда, ці крыўды на яго за такую няўвагу. Сама не ведае, як выскачыла ў яе пытанне:

— А дзе ж гэта дзед?

Маці ўздыхнула.

— Не ведаю, дачушка. З раніцы пайшоў некуды, сказаў — пагуляць, ды во і нямашака дагэтуль.

— Ведаем мы, як ён гуляе, — уставіў сваё слова дзесяцігадовы Грыша. — Ужо, мусіць, недзе нагуляўся.

— А ты заўсёды больш за ўсіх ведаеш, — асекла яго маці.

І Ніна пашкадавала, што спыталася пра дзеда.

Тым часам за вокнамі пацямнела — неба пачалі завалокваць хмары. Недзе недалёка забурчаў, загрымеў гром.

— Няўжо дождж збярэцца? — узрадавалася маці. — Вельмі ж трэба дождж — на бульбу, на агарод. Цэлае лета сушыць.

— Можа, дажджу ў сажалку налье, дык купацца будзем, — зноў азваўся Грыша. Ён зразумеў ужо, што даў прамашку ў гаворцы, і, мусіць, хацеў, каб на гэта скарэй забыліся.

— Каму што, — усміхнулася маці. — Каму агарод, а каму сажалка.

— А што, калі дажджу ў сажалку налье, дык там і рыба завесціся можа, — паказаў Грыша, што ўмее разважаць і практычна.

— Нічога ў тваёй сажалцы, акрамя жаб, не завядзецца, — засмяялася Тоня.

І зноў плыла, вілася за сталом гаворка. Косця, які хадзіў у калгас на працу, расказваў Валодзю пра новы трактар «Беларусь», які нядаўна прыслалі ў іхнюю брыгаду, потым пачалі абгаворваць, якія маркі матацыклаў лепшыя.

А дождж і праўда пайшоў. Спачатку невялікі — толькі вузкія рысачкі спісалі шыбы, а далей большы, большы. Усё часцей і бліжэй вурчаў гром, бліскала маланка.

— Як жа да аўтобуса дойдзем? — сказала Ніна. — Змокнем.

— А вам канечне сёння вяртацца? — спыталася маці. Было відаць, што ёй вельмі не хочацца, каб дачка так скора ад'язджала.

— Трэба, мамачка. Валодзю ж заўтра на завод, нельга ж не прыйсці на работу, прагул запішуць, — сказала Ніна.

— Ну, як нельга, то нельга, — з сумам пагадзілася маці.

— Нічога, пакуль нам на аўтобус, дык дождж пройдзе, — супакоіў усіх Валодзя.

Але дождж не сціхаў, неба як прарвалася, і з яго лілося і лілося. Са страхі звонка падаў капеж, цурчала вада, набіраючыся ў балею, звісалі набрынялыя ад дажджу кусты вяргіні за акном, у лужыне, што сабралася пасярод двара, скакалі і лопаліся бурбалкі.

Час было збірацца да аўтобуса.

— А як жа вы дойдзеце, — турбавалася маці. — Гэта ж змокнеце, яшчэ прастудзіцеся. Хаця, пачакайце, недзе ў мяне плашч быў, не адзенеце, дык хоць укрыецеся зверху, — і яна выбегла ў сенцы шукаць таго плашча, які павінен быў іх ратаваць.

Скора і вярнулася, несучы не вельмі чысты, пакамечаны, зроблены з плашч-палаткі балахон. Ніна адразу пазнала яго — бацькаў, некалі той надзяваў яго, як хадзіў пасвіць карову.

— Укрыецеся зверху, усё ж не так будзе заліваць, — гаварыла маці, растрасаючы і разгладжваючы плашч-палатку.

— О, дык мы пад ім будзем, як пад дахам, — сказаў Валодзя, беручы ў мацеры плашч. — Дзякуй вам. То будзем збірацца, — павярнуўся ён да Ніны. — Пара.

Маці затурбавалася, забегала, пачала збіраць у Ніліну сумку сыр, масла, яйкі.

— Мамачка, не трэба, у нас у горадзе ўсё ёсць, — узялася Ніна за сумку, не даючы мацеры класці ў яе прадукты.

— Ат, што там у вас ёсць. У горадзе ўсё куплёнае, за ўсё трэба грошы плаціць, а гэта сваё.

Яна такі ўвапхнула ў сумку і слоік з маслам, і сырок у анучцы, і з дзясятак яечак. А потым і сама пачала збірацца — праводзіць маладых.

— Ды куды вы, мамачка, не трэба, такі дождж ліе. Мы з Валодзем шпарка пойдзем. Ці ж вы за намі ўгоніцеся? — спыняла яе Ніна.

— Нічога, і я шпарка ўмею хадзіць, — не здавалася маці.

Але Ніна з Валодзем наадрэз адмовіліся, каб яна іх праводзіла.

Не і не. Няма чаго ёй пад дажджом мокнуць. Не апошні раз яны прыехалі, яшчэ і насустракаюцца, і направодзяцца.

І ўгаварылі. Маці выйшла іх праводзіць толькі да дзвярэй. Развіталіся. Зноў пацалаваліся. І Валодзя пацалаваўся — з мацерай, з братамі, з сястрой. Усе наперабой запрашалі іх прыязджаць часцей.

Дождж усё сыпаў, і Валодзя распасцёр над галавою плашч-палатку, сказаў Ніне падступіцца бліжэй да яго. Яны пайшлі пад дождж, і ён забарабаніў у іх над галовамі, па плашч-палатцы, забарабаніў блізка, але змачыць не мог, шчыльная тканіна затуляла іх надзейна. Толькі на голыя Ніціны ногі траплялі кроплі вады, але нішто, да гэтага скора прывыкнеш і нават не будзеш чуць.

Ужо каля самых варот Ніна азірнулася, каб памахаць рукою сваім, што засталіся ў дзвярах і глядзелі ім услед. Азірнулася, махнула ім рукою і застыла, як скамянелая.

Каля пунькі, пад страхою, за капяжом, не бачны адтуль мацеры, стаяў дзед. Стаяў і таксама глядзеў услед Ніне. Твар у яго быў непрывычна сумны, задуменны. Дзед уцягнуў галаву ў плечы, нібыта баяўся, каб не трапіла яму за каўнер халодная кропля. Было падобна, што стаяў ён там даўно і доўга. І па ўсім відаць — цвярозы.

Ніціна сэрца, Ніціны грудзі нешта як звяло — ад страху… Ад жалю… Яна ніколі не любіла, не шкадавала дзеда, але гэта… Не, маці не магла яго выправіць, выгнаць з хаты, ведала Ніна сваю маці.

Значыцца, сам… Сам сышоў… Каб не сарамаціць Ніну перад мужам… Каб не замінаць ім за сталом…

— Ну, ты што, чаго спынілася? — узяў Валодзя Ніну за руку. — Пабеглі!

Затулены плашч-палаткаю, ён не бачыў дзеда пад пунькаю, не бачыў, як змяніўся Нінін твар.

Як не сваімі нагамі ступіла Ніна за Валодзем. Перастаўляла іх, не выбіраючы сухога, чыстага месца, а ў галаве шумела, звінела. Яна адчула сябе раптам надта вінаватаю. Перад усім светам — перад дзедам, перад мацерай, перад братамі і сястрой і нават перад Валодзем.

За што вінаватая? Чаму? Яна не магла б сказаць, але было адчуванне, што зрабіла нешта нядобрае.

Валодзя цягнуў яе за руку, укрываў плашч-палаткаю, нешта гаварыў ёй, нечага смяяўся, але Ніна не чула яго: у вачах стаяў дзед — як туліўся ён да сцяны пад пунькаю, як хаваўся ад дажджу і не ішоў у хату.

Сыпаў дождж; як цвікі, убіваліся ў зямлю буйныя кроплі. Па мокрай зямлі, па мокрай траве слізгалі ногі.

*1976*

## ВУЗЛЫ

Мне часта сняцца сны. Адны і тыя ж. Ад гэтых сноў я прачынаюся і потым доўга не магу заснуць. Я ляжу, пазіраю ў цемнату, слухаю глухую цішыню ночы і думаю. Успамінаю. Ці так было тады, як мне цяпер сніцца? Я ляжу і ўспамінаю. А потым ужо не ведаю, што мне саснілася, а што я сам успомніў. Мне хочацца звязаць свае сны, звязаць ніткаю таго, што было паміж імі, што было пасля іх, але як ні стараюся я ўтрымаць канец гэтай ніткі, каб потым стачыць з другім канцом, нітка выплывае з маіх рук, абрываецца. Быццам паміж адным і другім сном не было нічога… Быццам і мяне не было. А можа, такая ўжо чалавечая памяць — яна рвецца, як тая нітка, пакідаючы ў руках то карацейшыя, то даўжэйшыя кавалкі, акурат такія, каб іх можна было пазавязваць у вузлы. Вузлы памяці… Вузлы сноў…

### Сон першы

Дзядзька Нічыпар вядзе нас за рукі — мяне і брата. У брата на галаве шэрая хустка, і ражкі яе, завязаныя ззаду, тырчаць, як зайцавы вушы. На хустку ў брата надзета кепачка з пакамечаным брылём. І сама кепачка пакамечаная.

У мяне на нагах чорныя разбітыя валёнкі, чые — не ведаю. Мне такіх ніколі не куплялі, і ні ў мамы, ні ў таты не было такіх. Мусіць, нехта адшкадаваў мне іх.

На вуліцы коўзка, і мы з братам доўга слізгаемся, пакуль узыходзім на заснежаны чыгуначны насып. А за насыпам чорная вуліца, і мы ідзём па чорным тратуары, паўз абгарэлыя дамы, паўз гурбы цэглы, прысыпаныя снегам.

Мы з братам сіроты, і дзядзька Нічыпар вядзе нас у прыют. Яшчэ не ў самы прыют, а дабівацца, каб нас туды ўзялі. Насустрач нам ідзе скурчаны дзядок з сівою бародкаю, з кійком у руцэ. Ідзе памалу, асцярожна, мацаючы кійком тратуар перад сабою. Мне гэты дзядок здаецца падобным на нашага суседа, старога Нупрэя. У таго таксама барада, і той таксама з кійком ходзіць. Дзядзька Нічыпар запыняе дзядка, паказвае яму на нас і гаворыць:

— Каб жа быў хлеб, каб жа хоць бульба была, дык няхай бы жылі, мне што… Гэта ж сабаку, і то на вуліцу не выганіш, а то ж дзеці. Але дзе я на іх набяруся. Сваіх пяцёра ды яшчэ гэтых двое. Гэта ж яны мяне абгрызуць да косці. Узяў іх, ну, узяў, матку забіла, хата згарэла, узяў па-суседску, пашкадаваў…

Дзядок ківае галавою, і барада ў яго трасецца, якраз як у старога Нупрэя, ён зноў ківае галавою, згаджаецца з дзядзькам Нічыпарам, а потым ідзе, мацаючы кійком тратуар перад сабою. Дзядзька Нічыпар азіраецца на дзядка і быццам шкадуе, што той пайшоў, не пастаяў з ім, не даў яму выгаварыцца. Бярэ нас за рукі, вядзе далей. Але тут аднекуль выходзіць цётка ў чорнай хустцы, завязанай па самыя вочы, і дзядзька Нічыпар запыняе цётку, пачынае гаварыць ёй:

— Каб жа быў хлеб, каб жа хоць бульба была, дык няхай бы жылі, мне што…

І цётка ківае галавою, згаджаецца з дзядзькам Нічыпарам, потым гаворыць яму:

— А што ж… прыйшлі, занялі ўладу, то няхай глядзяць і сірот… Кожная ўласць мусіць пра сірот клапаціцца… А яны самі гэтых дзяцей і парабілі сіротамі…

Я ўспамінаю, што так гаварыла цётка Наста, жонка дзядзькі Нічыпара. І дзядзька Нічыпар быццам рады, што пачуў такое і ад гэтай, што сустрэў, у чорнай хустцы. Ён развітваецца з цёткаю, ідзе з намі далей, а потым зноў затрымлівае чалавека — нейкага малога, худога, не то мужчыну, не то хлапчука, і таму гаворыць:

— А што ж… Занялі ўладу, то няхай глядзяць і сірот… Яны гэтых дзяцей і парабілі сіротамі…

## Сон другі

Дзядзька Нічыпар паказвае на мяне, на брата і гаворыць немцу, апранутаму ў зялёнае:

— Бацькі няма, маткі няма, сіроты, разумееш?

Немец глядзіць на дзядзьку, на нас, вытрашчыўшы вочы. Мусіць, ён не разумее.

— Карміць няма чым, — гаворыць дзядзька Нічыпар, — есці няма чаго, есці, — і паказвае пальцам на свой разяўлены рот.

Немец, мусіць, зноў не разумее, а мне робіцца дзіўна, як гэта можна не разумець па-нашаму. Па-нямецку можна не разумець, але як гэта не разумець, калі гавораць так проста.

Немец адмахваецца ад дзядзькі, хоча ісці, але дзядзька Нічыпар хапае яго за зялёнае крысо, не пускае.

— Кожная ўласць… сіроты… Вы іх сіротамі і парабілі, — кажа дзядзька.

— О-о! — крычыць немец і нешта доўга гаворыць дзядзьку Нічыпару па-нямецку, потым заве яго пальцам: ком… ком…

Немец ідзе па доўгім калідоры, і дзядзька, узяўшы нас за рукі, тупае за ім. Немец ідзе ўсё скарэй, і мы з дзядзькам скарэй, скарэй — за немцам. Брат ледзьве паспявае бегчы, кепачка спаўзла ў яго набок, брыль каля самага вуха, а дзядзька цягне, цягне яго за руку. Немец вядзе нас па адным калідоры, па другім, па трэцім. І раптам мы на вуліцы, на станцыі, каля цягніка. Цягнік доўгі-доўгі, недзе далёка наперадзе пыхкае паравоз, а мы стаім каля вагона з шырокімі, адкрытымі насцеж дзвярамі. З вагона патыхае холадам і яшчэ нечым — смуродным, душным. Адтуль блішчаць вочы. З цемнаты, з чарнаты блішчаць вочы. Хто гэта там? Яшчэ дзеці? Ага, яшчэ, здаецца, хлопчыкі…

Дзядзька Нічыпар падсаджвае спачатку брата, пасля мяне. Мы ўжо ў вагоне, а дзядзька Нічыпар унізе, стаіць на чорным ад вугалю снезе, глядзіць на нас.

Я думаю, што мы зараз паедзем у прыют, а дзядзька Нічыпар пойдзе дадому, і мне раптам вельмі не хочацца разлучацца з дзядзькам Нічыпарам, хочацца з ім дадому, дадому.

— Вэк, вэк, — піхае дзядзьку Нічыпара немец у чорным шынялі, гоніць дзядзьку ад вагона, але дзядзька толькі адступаецца ўбок, ад вагона не адыходзіць. І вусы ў дзядзькі Нічыпара торгаюцца, торгаюцца, і вочы макрэюць. А мне робіцца дзіўна — так жа хацеў дзядзька Нічыпар аддаць нас у прыют, так стараўся, а цяпер шкадуе, ці што.

Недзе нешта стукнула, нешта тарганулася, і вагон паплыў наперад, а дзядзька Нічыпар назад. Потым дзядзька як апомніўся, пайшоў, а далей пабег за вагонам.

— Сынкі… Глядзі ж, Косця… Ты большы… Глядзі Віцю, ён малы…

Вагон коціцца ўсё шпарчэй, і ўсё шпарчэй бяжыць за вагонам дзядзька, а вочы ў яго мокрыя.

— Глядзі ж, Косцік… Глядзі Віцю…

## Сон трэці

Высокая, як дастаць вокам, столь. Пад століцю вокны з зялёных, чырвоных, сініх шкельцаў. А паміж вокнамі і на столі — анёлы. Чысценькія кучаравыя хлопчыкі з крыльцамі за спінаю. У хлопчыкаў тоўстыя чырвоныя шчочкі, надзьмутыя губкі, рукі з далікатнымі пальчыкамі. А ўнізе — мы. Нас многа, пяцьдзясят ці сто — я не ведаю, але многа. Недзе наперадзе стаіць мой брат. Ён у меншай групе, я ў большай, і ходзім мы не разам. Я стаю ззаду і хачу ўбачыць, дзе там, наперадзе, мой брат, але ніяк не магу пазнаць яго ззаду. Усе дзеці стрыжаныя, ва ўсіх аднолькавыя тонкія шыі і вялізныя вушы. І ва ўсіх аднолькавыя чорныя кашулі. Дзе ж мой брат, каторы? Я шукаю брата толькі вачыма, паварушыць галавою, адысці трошкі ўбок няможна. Так нам загадалі. Загадалі стаяць і не варушыцца. Бо мы свінні, бальшавіцкія свінні, якія не ведаюць, што такое Бог. Нас і маліцца не паставіш, бо мы нехрышчоныя. Жылі дасюль, як скаціна. Трэба ж з гэтых свіней зрабіць чалавекаў, далучыць да Бога, ахрысціць…

Мы стаім, павыцягваўшы шыі, баючыся паварушыцца. Аднекуль плыве шэпт: «На калені…» — і ўсе мы, бязладна і не ўмеючы, апускаемся на калені. І адразу ўсе робімся яшчэ меншыя, а ў калені муляе, муляе.

— Госпаду Богу памолімся-а! — грыміць над нашымі галовамі.

Гэта поп. У бліскучай доўгай світцы, з доўгаю белаю барадою, прасцірае над намі рукі і спявае:

— Слава табе, Бо-ожа!

І рот у яго валасатай барадзе — як чорная ямка.

Нам нельга варушыцца, нельга круціць галовамі, але я і так бачу, што тут ёсць, у царкве. Па ўсіх сценах карціны, на якіх намаляваны цёткі са складзенымі перад сабою рукамі, дзядзькі з барадамі. І цёткі, і дзядзькі глядзяць угору, закаціўшы вочы, а над галовамі ў іх светлыя кругі. Гараць свечкі, а ў кутку — нейкі чалавек, прыбіты да крыжа. Твар у чалавека белы-белы і цела белае-белае, галава схілена на грудзі і ў баку невялікая чырвоная плямка — рана. У далоні ў чалавека пазабіваны цвікі. І ў ногі

таксама. За што яго так? I хто? Мусіць, немцы… А гэты чалавек, мусіць, партызан. Немцы ж як зловяць партызана, дык вешаюць, а гэтага, мусіць, да крыжа прыбілі. I мне робіцца вельмі шкада прыбітага да крыжа чалавека. А голас грыміць над намі, грыміць:

— Слава табе, Бо-ожа!

Цяпер, калі мы памром, зробімся анёламі, такімі, як на столі, бо мы ўжо хрышчоныя. Так нам сказала фрау Марта. Я стаю на каленях і думаю, як лепш: ці жыць такімі, як мы жывём, ці памерці, каб зрабіцца анёламі. А той чалавек, якога немцы да крыжа прыбілі, таксама зрабіўся анёлам? Мусіць, не, бо ён быў дарослы. Анёламі робяцца толькі дзеці.

— Госпаду Богу памолімся-а!

Ці доўга яшчэ стаяць на каленях, так жа муляе…

Жоўтым агнём гараць свечкі… Разяўляе поп ямачку-рот у валасатай барадзе… Пахне воскам і яшчэ нечым, ад чаго робіцца моташна.

## Сон чацвёрты

Ён сніўся мне і там, калі я ляжаў на мулкім ложку пад тонкаю коўдраю і курчыўся ад холаду. Ён сніўся даўняю забытаю радасцю, як сон у сне. Мамачка… мама…

Гараць дровы ў белай кафлянай грубцы, у хаце пахне малаком і свежым хлебам. Пасярэдзіне хаты, на зэдліку, стаяць ночвы, у ночвах цёплая вада, і ў вадзе, закручаны ў пялёнкі, Віця. Мама лье на Віцю прыгаршчамі ваду, а Віця то расплюшчыць вочы, то заплюшчыць, то скрывіцца, то ўсміхнецца. А мама ўвесь час усміхаецца і гаворыць, гаворыць:

— О, як добра Віцю… Як добра сыночку… Віця маладзец, не плача… А зараз мы Віцю галоўку памыем…

Мама намыльвае рукі, знімае з Віцевай галавы мокрую белую хустачку і мыліць, мыліць Віцю галаву. Потым раскручвае пялёнкі і мыліць Віцевы ручкі, ножкі. Віця махае рукамі, дрыгае нагамі, хапае маму за палец і смяецца бяззубым ротам.

Бацька грэе каля грубкі пялёнку. Мама аблівае Віцю чыстаю вадою з конаўкі і трымае яго на руках — мокрага, бліскучага.

— Скарэй, скарэй…

Бацька скоранька нясе нагрэтую каля грубкі пялёнку, закручвае Віцю.

Потым Віця, спавіты, ляжыць каля маміных грудзей, смокча, а мама водзіць пальцам па Віцевым лобе, выцірае з яго дробныя расінкі і ўсміхаецца.

А ў хаце цёпла, светла, пахне малаком, свежым хлебам і пахучым мылам.

Потым у начоўкі садзяць мяне, і мяккія маміны рукі мыюць мне спіну, жывот. Мама пачынае шараваць мае ногі, шараваць падэшвы, і мне робіцца ласкотна, я смяюся, я рагачу, дрыгаю нагамі, пырскаю на маму вадой. І мама смяецца, мама не сварыцца, а шаруе, шаруе мне пяткі.

І мяне выціраюць — прасціною, нагрэтаю каля грубкі. Адзяваюць кашулю — доўгую, да пят, кладуць у мяккі цёплы ложак. Мама згінаецца нада мною, я бачу, як свецяцца ад лямпы яе залацістыя валасы. Мама цалуе мяне, укрывае да самай барады коўдраю.

— Спі, сынку…

Мамачка… мама…

Я чую, як спявае яна, калышучы Віцю.

Баю, баю, мой каток,
Пайшоў каток пад масток,
Памарозіў лапкі…
Памарозіў лапкі…

І праўда, чаго ж так холадна мне ў цёплай мамінай пасцелі, у кашулі да пят?.. Чаму зледзянелі ў мяне рукі, ногі?.. Я курчуся, укрываюся з галавою, хачу зноў у начоўкі з цёплаю вадою, хачу да цёплай кафлянай грубкі, да цёплых маміных рук. Я сплю і ведаю, што гэта мне толькі снілася, што гэта сон у сне. Я зноў хачу заснуць, каб зноў вярнуцца ў той сон, але ў той сон вярнуцца ўжо немагчыма, трэба сніць другі. І я сню другі сон.

Чорная ноч… халодны ложак… Пад падлогаю шкрабуцца пацукі, а за акном гудзе-вые. Ці гэта вецер, ці ваўкі?

— Гу-у… Гу-у…

Мусіць, ваўкі, тут жа кругом лес. Ваўкі падступаюць, выюць ужо пад самым акном, выюць, быццам цягнуць жылы. Закрычаць… Ах, як хочацца закрычаць, тады ваўкі спужаюцца, уцякуць, але прыбяжыць фрау Марта. Будзе круціць, ірваць вушы, а потым паставіць да раніцы ў кут на калені. Не, не трэба крычаць… Няхай лепш ваўкі… Няхай лепш ваўкі выюць.

## Сон пяты

— Ві ест дойчэ зольдатэн, фарштэст? Я тоже ест дойчэ зольдат, я прыехаль у ваша дзікая страна, чтоб здзелаць із вас дойчэ зольдатэн, фарштэст? Давайце скажам усе разам: «Іх бін дойчэ зольдат!» — Ну, — айн, цвай, драй!

Мы стаім усе, са стрыжанымі галовамі, з вялікімі вушамі, з доўгімі шыямі, стаім усе за партамі навыцяжку, трымаючы рукі па швах. І ўсе, у адзін голас, гаворым:

— Іх бін дойчэ зольдат!

— Гут, — гаворыць фрау Марта.

Яна хоць і жанчына, але і праўда як салдат. Ходзіць у вайсковай форме, у ботах, у пілотцы і заўсёды ідзе як пад каманду — шах, шах. Яе хаду мы чуем і пазнаём здалёк. У руках у фрау Марты заўсёды бізун. І цяпер, калі яна камандуе намі і кажа айн, цвай, драй, то пры кожным разе стукае гэтым бізуном па стале.

— Скажам яшчэ раз! — гаворыць фрау Марта. — Айн, цвай, драй!

І мы гаворым яшчэ раз.

— Гут, нох айн маль, — патрабуе фрау Марта.

І мы трэці раз гаворым тое самае.

— А зараз мы ўсе разам заспяваем песню:

Унзэр гот, унзэр лянд,
Унзэр фюрар, гох, гох, гох!

— Айн, цвай, драй, — камандуе фрау Марта.

Унзэр гот, унзэр лянд, —

цягнем мы нястройна, няправільна вымаўляючы незнаёмыя, чужыя словы.

Фрау Марта крывіцца і стукае бізуном па стале.

— Плёха! Шлехт! Нох айн маль… Спачатку… Айн, цвай, драй!

Мы спяваем яшчэ горш.

Фрау Марта пачынае злавацца, на яе твары выступаюць чырвоныя плямы.

— Ві што?! — крычыць яна. — Не разумееце такія простыя, такія святыя словы? Не разумееце наш бог, наша страна, наш фюрар? Бальшавіцкія песні разумелі, а гэтыя не разумееце? Цяпер вы будзеце спяваць толькі нямецкія песні! Бальшавіцкія песні будзеце забываць! Ніхто не павінен спяваць бальшавіцкія песні! Толькі нямецкія! Фарштэст? Пачнём спачатку: айн, цвай, драй!

— Унзэр гот…

— Стоп!

Канапаты Сярожка, мусіць, надта стараючыся, зацягнуў вельмі высока, не ў лад. Фрау Марта, чотка стукаючы ботамі,

падыходзіць да парты, бярэ Сярожку за вуха і цягне да свайго стала. Мы ведаем, што цяпер будзе. Так вучылі нас гаварыць і тыя словы — іх бін дойчэ зольдат. І Сярожка ведае, што цяпер будзе. Ён збялеў, а рабацінне на яго твары пацямнела. Сярожка ўціскае галаву ў плечы, моргае вачыма, а фрау Марта ўжо замахваецца на яго бізуном. На твары ў Сярожкі жах, адчай.

— Не трэба, не трэба, — закрывае ён рукамі галаву, але рукі ў яго малыя і тонкія, а галава вялікая і голая, рукамі яе ніяк не закрыеш, яна вылазіць з-пад тонкіх Сярожкавых рук, круглая стрыжаная, як таўкач. — Не трэба! — галосіць Сярожка. — Я вам скажу… Я вам скажу… Колька ўчора спяваў савецкую… «Па далінам…»

— Што? — бізун у руцэ фрау Марты застывае над Сярожкавую галавою, потым апускаецца, але не на Сярожкавы плечы, а проста так, уніз. Мы ўсе стаім, як скамянелыя, а вочы фрау Марты бегаюць, бегаюць па нашых галовах. Спыняюцца, як упіваюцца ў адну. Мы ведаем, гэта Колева галава. Ён учора і праўда спяваў — «По долинам и по взгорьям шла дивизия вперед…» Сярожка, Сярожка, што ты нарабіў… Хацеў адвесці бізун ад свае галавы…

Фрау Марта цягне Колю да стала, а Сярожка, прыгнуўшыся, бяжыць на сваё месца. Фрау Марта б’е Колю бізуном па галаве, па руках, па плячах. Коля закрывае рукамі галаву, закрывае рукамі твар, заплюшчвае вочы, але не плача, не крычыць.

Сярожка, Сярожка, нашто ты так зрабіў… Каб білі цябе, мы б усе цябе шкадавалі… А так усе будуць шкадаваць Колю, а пры табе нічога не будуць гаварыць, цябе ўсе будуць ненавідзець, да цябе навек прыліпне мянушка — фіскал.

## Сон шосты

Я крадуся па цёмным калідоры, прыцiскаюся да сцяны, калачуся — зараз нехта выскачыць, схопіць мяне. Сюды хадзіць нельга, сюды хадзіць забаронена, а я крадуся. У руцэ ў мяне расплюшчаная ліпкая цукерка, загорнутая ў бліскучую паперку. Паперка салодкая, і далонь мая салодкая, я лізаў і далонь і паперку, яны смачныя, і паперка, і далонь. Мне самому хочацца з’есці цукерку, але я не з’ем яе, я аддам яе брату. Брат хворы, і цукерку я аддам брату. Я знайшоў яе, расплюшчаную, уціснутую ў снег, на дарожцы… Мы чысцілі дарожкі, і ў снезе я знайшоў цукерку. Мусіць, яе згубіла фрау Марта. Я нікому не сказаў, што знайшоў цукерку, я адразу падумаў, што аддам яе брату.

Але як яе аддаць? Брат хворы і замкнёны ў каморцы, якая называецца ізалятар. Я ўжо колькі разоў падбіраўся да гэтай каморкі, да гэтых дзвярэй, але яны замкнёныя.

Я зноў крадуся, затаіўшы дых, ловячы вушамі кожны шорах, кожны стук. Падлога ў калідоры гнілая, паламаная, у ёй вялікія дзіркі, шчыліны, і я баюся, каб не ўпусціць цукерку, каб не завалілася яна ў шчыліну, і мацней заціскаю яе ў далоні. Цукерка ад гэтага робіцца яшчэ больш ліпкая, яшчэ больш мяккая, і мне здаецца, што скора яна зусім растане, — колькі дзён я нашу яе з сабою, і сплю з цукеркаю, каб не згубіць, каб аддаць брату.

Брат даўно хворы, даўно ляжыць, замкнёны ў каморцы, якая называецца ізалятар, і хадзіць у гэты калідор, да гэтай каморкі, забаронена, каб не разнесці заразы.

Я падкрадаюся да дзвярэй каморкі, на якіх напісана — «Ізалятар», гляджу на іх і вачам сваім не веру. У дзвярах тырчыць ключ. Жалезны ключ з круглаю галоўкаю, да бляску абшараванаю рукамі. Я заміраю перад дзвярыма, я слухаю. Спачатку я нічога не чую, акрамя свайго сэрца, якое стукае ў мяне ва ўсім целе. Яно так бухае, што я баюся: калі ў каморцы нехта ёсць, — мяне пачуюць. Я слухаю яшчэ і яшчэ, стараюся суняць сэрца… Кругом ціха. Ціха, як уночы, і я адважваюся… Я памалу, ледзьледзь піхаю дзверы. Дзверы не адчыняюцца. Ці яны замкнёныя, ці я слаба піхнуў… Я піхаю яшчэ, трошкі мацней, і дзверы рыпяць. Мне здаецца, што рыпяць яны на ўвесь наш вялізны дом, што зараз усе пачуюць, як рыпяць дзверы, і кінуцца сюды. Але дзверы рыпнулі і сціхлі, і кругом зноў нікога. Я стаю пад дзвярыма, гляджу ў шчыліну, але не бачу нічога, акрамя кавалка акна з бруднаю шыбаю і гнілых дошак падлогі.

Тады я адчыняю дзверы і засоўваю ў каморку галаву.

Справа за дзвярыма стаіць жалезны ложак, а на ім нешта ляжыць, як невялікая шэрая гурбачка. Толькі потым я бачу круглую шэрую галаву і не столькі пазнаю, як здагадваюся: Віця… брат…

Я заходжу ў каморку, зачыняю за сабою дзверы і стаю пры дзвярах, гляджу на ложак. Чакаю, што зараз Віця паверне галаву і ўбачыць мяне, узрадуецца. Але Віця зусім не кратаецца, зусім не паварочвае галавы, і я думаю, што ён спіць. У каморцы цемнавата, і я здалёк не бачу, спіць брат ці не спіць, але, мусіць, спіць, бо зусім, зусім не варушыцца. І я памалу, каб не разбудзіць яго, каб не нарабіць груку, іду да ложка, на якім ляжыць мой брат. Сэрца маё моцна б’ецца, але ўжо не толькі ад страху, але і ад радасці — я ўбачыў брата, я дам яму цукерку, ён ачуняе.

Я падыходжу да ложка, схіляюся над ім і тут жа адхіляюся. Хто гэта… Чыя галава на падушцы… Вочы запалі, а сківіцы вы-

пнуліся, тырчаць пад скураю… Губы трошкі адкрытыя, і відаць зубы. Дробныя жаўтаватыя зубы. Стрыжаныя валасы крышку адраслі і стаяць дыбка… Няўжо гэта Віця… брат…

Я набіраюся сілы, зноў нахіляюся да ложка і ў гэтым незнаёмым твары пачынаю пазнаваць брата. Гэта яго лоб… яго зубы… Быццам вялізная рука бярэ ў кулак маё сэрца і пачынае ціснуць, ціснуць яго. Мне баліць, мне няма чым дыхаць, а вялізная рука цісне і ціснё маё сэрца. Вочы мае засцілаюць слёзы, і Віцеў твар расплываецца. Я выціраю слёзы кулаком, размазваю іх па твары і раптам бачу, што Віця слаба варушыць губамі. Радасць торгае маё сэрца, вырывае з тае рукі, з таго кулака. Значыцца, Віця жывы! Брат мой!

— Віця, Віця, — клічу я ціха.

Але Віця не адгукаецца, не расплюшчвае вачэй, не варушыць ні рукою, ні нагою. Можа, мне здалося, што ён паварушыў губамі.

Я набіраюся смеласці, дакранаюся рукою да Віцевай шчакі. Яна цёплая… Ледзь-ледзь, але цёплая. І я пачынаю клікаць мацней.

— Віця… Віця…

Я зусім забыўся пра цукерку, якую ўвесь час трымаў у руцэ, а цяпер успомніў.

— Віця, паглядзі, што я табе прынёс, паглядзі, Віця, — і я паказваю яму цукерку, кручу цукерку перад яго заплюшчанымі вачыма. І ён слаба, ледзь-ледзь адкрывае вочы. Ледзь-ледзь адкрыў іх і зноў заплюшчыў.

— Віця, Віця, — клічу я, але Віця больш не расплюшчвае вачэй. — На табе цукерку, Віця, — гавару я і хачу пакласці цукерку Віцю ў руку, адхінаю коўдру, шукаю Віцеву руку, каб пакласці ў яе цукерку.

На Віцю шэрая кашуля, але мне здаецца, што кашуля на ложку ляжыць пустая, што ў ёй нічога няма. Я не так бачу, як здагадваюся, што ў ёй Віцева цела. І рукаў быццам пусты, толькі з рукава тырчаць пальцы. Але што гэта… Чаму ў Віці такія пальцы… Быццам нехта абгрыз іх… Абгрызеныя пальцы, з аднаго відаць нават костачка.

Я баюся дакрануцца да такой Віцевай рукі, баюся зрабіць яму балюча і шукаю другую яго руку, хачу пакласці цукерку ў другую руку, але і другая рука такая самая. І на другой руцэ абгрызеныя пальцы…

Нешта калючае, шорсткае праходзіць па маім целе. Здаецца, і мае пальцы пачынаюць балець, нешта ломіць, круціць іх.

Я асцярожна ўкрываю Віцю і думаю, куды пакласці яму цукерку. Цяпер мне асабліва хочацца даць яму цукерку, асабліва хочацца, каб ён убачыў, што я прыйшоў да яго і прынёс яму цукерку. І я зноў клічу яго.

— Віця… Віця…

І Віця зноў трошкі-трошкі расплюшчвае вочы. Я кручу цукерку ў яго перад тварам, хачу, каб ён убачыў яе, каб парадаваўся, але вочы ў Віці зноў заплюшчаныя, Тады я кладу цукерку на шэрую наўлечку каля Віцевай галавы. Кладу цукерку і толькі цяпер бачу, што і вуха ў Віці абгрызенае. На ім запечаная кроў, і відаць, што яно абгрызена, абгрызена амаль напалавіну.

Я не паспяваю падумаць, чаму ў Віці такое вуха, бо чую крокі. Па калідоры нехта ідзе, крокі ўсё бліжэй, бліжэй да каморкі. Яны стукаюць ужо амаль у мяне над галавою, амаль у маёй галаве. Я разумею, што будзе мне, калі мяне знойдуць тут, у каморцы, каля брата. О, я вельмі добра гэта ведаю. 1 я лезу пад ложак, паўзу да сцяны, уціскаюся ў сцяну, у падлогу пад ложкам.

Крокі спыняюцца каля дзвярэй. Нехта адчыніў іх, і яны зарыпелі — смела і пагрозліва. Чуваць, што адчыніла іх гаспадарская рука. Потым дзверы зноў зачыняюцца, і я чую, як лязгае з таго боку ў дзвярах ключ.

Мне хочацца закрычаць: не замыкайце, я тут, не замыкайце! — але я ведаю, што будзе мне, калі мяне знойдуць у каморцы, і я не крычу. Я сяджу пад ложкам, уліпшы ў сцяну, у падлогу, і не крычу.

Крокі сціхлі, але я баюся вылазіць з-пад ложка. Я сяджу скурчыўшыся пад ложкам і думаю, што мне рабіць. Нада мною ляжыць і не стогне, не варушыцца мой брат. Ён нічога не чуе, нічога не бачыць, не бачыць нават цукеркі, якую я паклаў каля яга на падушцы. Мяне замкнулі з ім у каморцы, і цяпер я калі і захачу, то адсюль не выйду… Што мне рабіць?.. І хто гэта замкнуў мяне?.. Мусіць, нехта забыўся ключ у дзвярах, потым успомніў, што пакінуў дзверы адамкнёныя… Прыйшоў і замкнуў іх… Што цяпер будзе?..

Я сяджу пад ложкам і гляджу на кавалак жоўтай сцяны, які відаць мне адсюль, гляджу на тоўстую дошку падлогі, некалі чырвоную, цяпер аблупленую. Там, дзе адна дошка стыкаецца з другою, — вялікая шчыліна. Яшчэ мне відаць кут, дзе адна сцяна сыходзіцца з другою. Кут гэты насупраць маіх вачэй, я хачу ці не хачу, гляджу ў яго і бачу брудную пляму, якая расцяклася па абодвух баках сцяны. Быццам хто заліў той кут вадою. Пры самай падлозе ў сцяне адбітая атынкоўка, і там дзірка, у якую можна засунуць руку.

Нада мною — ложак. Жалезныя пруты трымаюць сяннік, і ён вылазіць, выпінаецца з-пад прутоў, як вымя ў сучкі-аўчаркі, якую завяла сабе нядаўна фрау Марта. З сенніка, мусіць, нешта сыпалася, бо на падлозе пад ложкам дробная, як пыл, пацяруха. На гэтым сенніку ляжыць мой брат. Я баюся вылезці з-пад ложка, баюся зноў убачыць яго аб'едзенае вуха, яго ўзнятыя дыбам валасы.

Сяджу, а вакол зусім ціха-ціха, як ноччу, калі нават не выюць пад акном ваўкі.

І раптам у гэтай цішыні я чую шоргат. Шоргат, потым шкрабанне. Шкрабецца ў кутку перад маімі вачыма, там, дзе пляма і дзірка. Нешта яшчэ там стукнула, нешта запішчала. Я прыціснуўся да сцяны яшчэ больш. Мне страшна, мне агідна ад гэтага шкрабання, ад гэтага піску, бо я ведаю, я здагадваюся, што гэта такое. Яны гойсаюць па ўсім нашым доме, яны забягаюць і ў наш пакой, дзе спім усе мы, хлопчыкі з нашай групы, і тады мы кідаем у іх чаравікі, шапкі. Гэта шкрабуцца яны, гэта яны пішчаць — пацукі.

І праўда, на сярэдзіну каморкі скора выбягае адзін — калматы, вялізны, глядзіць чорнымі злоснымі вачыма і водзіць мордаю, быццам прынюхваецца, слухае. «Туп-туп-туп», — ён бяжыць да ложка, валочачы за сабою свой доўгі хвост. «Туп-туп-туп», — ён бяжыць да ложка…

І толькі цяпер я здагадваюся, чаму ў брата такія пальцы, чаму ў брата такое вуха.

— Ш-ш-ш… ккыш-ш, — страшу я, ганю пацука.

Пацук спыняецца, глядзіць на мяне калючымі, злоснымі вачыма, але не ўцякае.

— Ш-ш-ш… акыш-ш, — ганю я яго мацней і ціха стукаю далоняй па падлозе.

Пацук неахвотна паварочваецца і, валочачы за сабою хвост, бяжыць назад, у сваю дзірку.

Пацукі… Тут, у брата, пацукі… А ён не можа паварушыцца, не можа прагнаць іх… Яны грызуць яго… І мяне будуць грызці… Скора прыйдзе іх многа-многа, і яны будуць грызці мяне і брата… І я адсюль не выберуся, бо замкнёны… А калі і выберуся, то як брат?..

Цямнее. У каморку паўзе змрок. Тут, пад ложкам, ужо зусім цёмна. Не відаць нават прутоў, на якіх ляжыць сяннік. Не відаць і самога сенніка, толькі цёмны дах нада мною, ад якога пахне кіслым, душным. Брат на ложку не варушыцца. У кутку зноў пачынаюць шкрабціся, пішчаць пацукі.

Мне хочацца ўцячы адсюль. Цяпер наша спальня, сталоўка, нават наш клас здаюцца мне раем. Мне вельмі хочацца падбегчы да дзвярэй, забарабаніць у іх, паклікаць людзей, каб мяне адамкнулі. Але я ведаю, што будзе мне за тое, што я сюды прыйшоў… Што будзе мне за тое, што я прыйшоў да брата… І я сяджу. Я маўчу.

У кутку зноў пішчаць пацукі, і я не ведаю, каго я больш баюся — фрау Марты, кары ці пацукоў. Каго я больш баюся… Каго… Зусім сцямнела… Брат не варушыцца… У кутку пішчаць пацукі…

Мне часта сняцца сны. Адны і тыя ж. Ад гэтых сноў я прачынаюся і потым доўга не магу заснуць. Я ляжу, пазіраю ў цемнату, слухаю глухую цішыню ночы і думаю. Успамінаю. Ці так было тады, як мне цяпер сніцца?

Так…

З каморкі я потым здагадаўся вылезці праз акно. Брата з таго часу я больш не бачыў.

## ПА ДАРОЗЕ Ў ЛЕГЕНДУ

Лес кончыўся, за ім ляжала поле густога высокага жыта, цераз жыта да вёскі, што стаяла ў лагчыне і віднелася адсюль стрэхамі хат і гумнаў, вяла сцежка, зарослая абапал падарожнікам. Вечаровае сонца залівала наваколле жоўтым святлом, яно клалася на жытняе поле, на стрэхі вёскі, на поплаў, які раскінуўся па той бок хат. І стаяла такая цішыня, вакол было такое бязлюддзе, што не верылася — недзе, зусім недалёка, зямля ператварылася ў пекла, там ірвуцца бомбы, снарады, льюць смяротны агонь аўтаматы.

Двое вайсковых спыніліся на ўскраі лесу. Адзін быў сярэдняга росту, хударлявы, з пятліцамі генерал-лейтэнанта на каўняры кіцеля, другі, высокі, меў чын палкоўніка.

Вайскоўцы ведалі, што вёска, якая ляжыць перад імі, называецца Нізок, яны і кіраваліся ў гэту вёску. Настаўнік з-пад Стоўбцаў, які ўчора перавёў іх цераз балота, параіў зайсці сюды, да дырэктара школы, сказаў, што дырэктар — свой чалавек, што ён верыць яму, як брату.

— Дзе ж там школа? — прыглядаўся да вёскі генерал. — Мусіць, гэта, — паказаў ён рукою ўлева, дзе на грудку ўзвышаўся даволі вялікі будынак са светлым бляшаным дахам.

Яны ступілі на сцежку ў жыце. Ішлі паволі, накульгваючы, відаць было, што кожны крок даваўся ім з пакутаю.

Падышоўшы бліжэй да будынка, яны ўбачылі пры яго сцяне, пастаўленыя адна на адну, дзве зламаныя парты і пераканаліся, што тут школа. Але ў будынак не пайшлі, паселі пад кустамі вішань, што раслі перад школьным дваром.

Генерал адхінуў рукаў кіцеля, глянуў на гадзіннік.

— Дзясятая гадзіна, а зусім светла, — сказаў ён. — Пачакаем цемнаты.

Сцежка, якая прывяла іх да кустоў, бегла далей, на школьны панадворак. І раптам адтуль, з боку школы, па гэтай сцежцы, выбег і спыніўся насупраць іх хлопчык гадоў пяці — нагала стрыжаны, у доўгіх чорных штоніках на шлейках, у кяцістай кашульцы. Ён без страху, з цікавасцю ўставіўся на незнаёмых вайсковых людзей круглымі чорнымі вачмі, і вайскоўцы глядзелі на хлопчыка, чакаючы, што той будзе рабіць далей.

Малы не ўцякаў, усё глядзеў на вайсковых, і тады генерал паклікаў яго пальцам да сябе.

Хлопчык падышоў.

— Як цябе зваць? — спытаўся генерал. Малы адказаў, цвёрда вымаўляючы літару «р»:

— Бора.

— Барыс, значыцца? — перапытаў генерал.

— Ігы, — кіўнуў галавою хлопчык і спытаў: — А чаму вы да нас не йдзяце?

Генерал здзівіўся.

— Ты пытаеш, чаму мы да вас не ідзём?

— Ігы, — зноў кіўнуў галавою Барыс.

— А чаму мы павінны ісці да вас?

— Бо вы чырвонаармейцы, а да нас усе чырвонаармейцы заходзілі, мамка іх малаком паіла, камяке давала, хлеба-то ў нас нямашака, а малако і бульба ёсцека, — звонка гаварыў Барыс.

— Ты цішэй, цішэй, — папрасіў яго генерал. — А хто ў вас дома?

— Мамка дома і Зойка, а тата на сяло пайшоў.

— А хто гэта Зойка? — спытаў палкоўнік.

— Сястра мая, ёй ужо сем год.

Генерал павярнуўся да палкоўніка.

— Па-мойму, мы атрымалі патрэбную нам інфармацыю… Што ж, пайшлі, — сказаў ён не то да свайго спадарожніка, не то да Барыса.

Хлопчык пабег наперадзе, вайсковыя пакіраваліся за ім.

Калі яны ўвайшлі ў кухню, гаспадыня, маладая жанчына з цёмнымі валасамі, гладка зачэсанымі ўгору, цадзіла малако ў

высокі паліваны гладыш. Каля печы на кукішках сядзела дзяўчынка і карміла са сподачка малаком кацяня. Убачыўшы гасцей, жанчына паставіла даёнку на лаўку, апусціла рукі. Дзяўчынка паднялася, села на нізенькі зэдлік, што стаяў каля печы.

— Здравствуйце, — павіталіся вайскоўцы.

— Добры вечар, — адказала гаспадыня.

— Няпрошаныя госці, — нібы просячы прабачэння за свой прыход, сказаў генерал.

— Ды нічога, нічога, — махнула рукою гаспадыня.

У кухню заплываў ужо змрок, госці стаялі каля дзвярэй, упрыцемку, гаспадыня не магла іх добра разгледзець, у вайсковых адзнаках яна таксама не вельмі разбіралася, бачыла толькі, што адзін вышэйшы ростам, другі ніжэйшы, што абодва няголеныя, зняможаныя, і ўсё ж па нечым адчула, што зайшлі да яе не простыя чырвонаармейцы, а высокія вайсковыя чыны. Барыс стаяў каля іх — маленькі, стрыжаны, з радасцю ва ўсёй сваёй істоце. Ніжэйшы вайсковы трымаў сваю руку ў яго на галаве.

— Сынок у вас харошы, — сказаў ён. — Толькі навучыце яго, каб не выдаваў вайсковую тайну. А то ён ужо нам… Што чырвонаармейцаў кармілі…

Барыс крутнуўся пад рукою вайсковага.

— А я — не… Немцам я не скажу!

Маці схапіла яго за руку, прыцягнула да сябе, сказала з прыкрасцю:

— Гора ты маё… А вы заходзьце, заходзьце, — гасцінна запрасіла яна вайскоўцаў. — Бачу, што здарожыліся, і галодныя, мусіць.

— Да, хазяюшка, галодныя, — згадзіўся ніжэйшы. — Такія галодныя, што і есці не хочам.

— Дык, можа, хоць малачка, хоць малачка, свежае, толькі падаіла, — узялася гаспадыня дзвюма рукамі за гладыш.

— Хіба што малачка…

Гаспадыня ўзяла з паліцы, якая вісела на сцяне, вялікі белы кубак, зняла са збанка анучку, цераз якую працэджвала малако, наліла поўны кубак, падала аднаму, потым узяла яшчэ такі самы кубак, наліла і другому.

Госці пілі патрошку, перадыхваючы. Апаражнілі кубкі, падзякавалі.

— Гаспадара, значыцца, няма дома, — сказаў ніжэйшы ростам.

— Ага, няма, — адказала гаспадыня, ставячы на стол парожнія кубкі. — Але ён скора вернецца, на сяло пайшоў.

Вайскоўцы крышку пастаялі моўчкі, потым вышэйшы сказаў:

— Нам, хазяюшка, пераначаваць у вас давядзецца… Вы ўжо выбачайце…

— А няо ж, дзіва, бачу, здарожыліся… Заходзьце ў пакой…

Яна падышла да дзвярэй, адчыніла іх.

— У пакой не трэба, — сказаў ніжэйшы. — Мала што… Зойдзе хто-небудзь…

Гаспадыня падумала:

— А во — класы ў нас пустыя, можна ў клас… Я вам туды падушкі прынясу, посцілкі.

Цяпер гаспадыня разгледзела, што ніжэйшы вайсковец быў гадамі старэйшы за высокага. І гэты, старэйшы, сказаў з гаркатою:

— У клас — гэта добра… У першы клас… А то мы акадэміі паканчалі, а немцаў вось затрымаць не змаглі… У першы клас ганіце, перавучвацца.

— Жартуеце, — усміхнуўся маладзейшы.

Змрок ужо добра згусцеў у кухні, і гаспадыня ўзяла з прыпечка лямпу, зняла шкло, пачала выціраць яго — хацела запаліць святло, але маладзейшы вайсковец папрасіў:

— Не паліце святла…

Тады гаспадыня ў змроку адамкнула клас, прынесла туды дзве падушкі, посцілкі, хацела яшчэ нешта даць, але старэйшы сказаў:

— Не трэба, мы салдаты, а салдаты не спяць на пухавіках.

Гаспадыня пакінула гасцей адных, і тыя праз сценку чулі, як прыцішана казала яна сыну:

— Ты ж глядзі, Борачка, нікому не кажы, што ў нас начуюць, бо як даведаюцца немцы — заб'юць і цябе, і Зою, і мяне, і тату.

— Не, я нікому не скажу, — адказаў Барыс.

— Глядзі ж, і дзецям нікому не кажы.

— Не, не скажу, — абяцаў хлопчык.

Клас абдаваў пустатою і цішынёю, якія бываюць асабліва непрывычныя там, дзе звычайна шмат гоману, тлуму. Быццам у класа вынялі душу, і ён цяпер стаяў, як пустая абалонка. Але для іх, зняможаных за некалькі дзён баёў, бяссонных начэй, адступлення, гэта была першая страха над галавой.

Яны перш-наперш, памагаючы адзін аднаму, пасцягвалі боты. У цемнаце не відаць было, што там, на нагах, але рукамі адчуваліся расцёртыя мазалі, садраная скура, пухліна. Павыпроствалі іх, падстаўляючы апечаныя болем месцы пад свежае паветра.

Больш не распраналіся, паляглі на падлозе, паклаўшы каля сябе напагатове пісталеты. Думалі, як толькі дакрануцца галовамі да падушак, так і пазасынаюць. Але не спалася.

Гаспадар усё яшчэ не вярнуўся з сяла.

Генерал ляжаў на баку, глядзеў на вялікае, з дзевяці шыбак, акно, за якім усё яшчэ вісела белаватая сінь — стаялі самыя доўгія летнія дні. Павярнуўся на спіну і ўбачыў чорны квадрат школьнай дошкі. І тады здалося, што яму трэба ўстаць, падысці да гэтай дошкі і рашыць задачу, складаную, заблытаную задачу — чаму, чаму ўсё так атрымалася, чаму яны адступаюць. І ён думаў, стараўся рашыць яе і не мог — задача была з многімі невядомымі. Потым у памяці пачалі ўсплываць падзеі апошніх месяцаў, тыдняў, дзён.

Красавік сорак першага года… Камандуючы войскамі Заходняй ваеннай асобай акругі просіць яго дапамогі стварыць вайсковыя ўмацаванні на новай дзяржаўнай граніцы… Ён дае згоду…

Май сорак першага… Аленка едзе ў Ленінград… З адчыненага акна вагона выглядае яе малады, шчаслівы тварык. Ён гаворыць дачцэ на развітанне:

— Хутка ты прыедзеш на канікулы, я вярнуся з камандзіроўкі і — разам у Сочы!.. У мяне пуцёўкі ўжо ў кішэні!

Так, пуцёўкі былі ў кішэні…

Сёмага чэрвеня сорак першага года… Беларускі вакзал… На платформе цягнік Масква — Брэст. Паравоз пахне парай, вось-вось гатовы даць гудок. Намеснік камандуючага войскамі Заходняй асобай акругі генерал Міхайлін запрашае да сябе ў купэ… Яны гавораць аб тых новых умацаваннях на граніцы…

А потым Гродна, Беласток, Ваўкавыск… І першыя бомбы, і першыя смерці, і баі, пераправа цераз раку Шчару, цераз стары, не пазначаны на карце мост, які па яго загаду быў за некалькі гадзін адрамантаваны і ператвораны ў шлях з заходняга берага ракі на ўсходні.

І зноў самалёты, самалёты з чорнымі крыжамі на фюзеляжах, і танкі, танкі, ён і цяпер, з заплюшчанымі вачмі, бачыць гэтыя чорныя крыжы, у вушах стаіць свіст бомбаў, снарадаў.

Чуў, што і палкоўнік не спіць. Спытаў паціху:

— Што, не спіцца?

— Не спіцца, таварыш генерал, — адказаў палкоўнік. — Я вось думаю — дарэмна вы не згадзіліся тады, дваццаць трэцяга чэрвеня, калі вам прапанавалі вярнуцца ў Маскву… Цяпер былі б у сваіх.

Генерал памаўчаў. Потым адказаў:

— Я, таварыш палкоўнік, салдат… А салдату нельга было ў такі час пакідаць фронту… Памятаеце сувораўскі афарызм? «Напужаны — пабіты»… Так што нам нельга палохацца… Зусім нельга…

Потым ляжаў і думаў: «Я, генерал, зрабіў усё, што мог зрабіць салдат… Хаця не… Я мог зрабіць яшчэ адно… У мяне ў кішэні застаўся пісталет з патронамі. Але лжэш, Гітлер, мая галава яшчэ спатрэбіцца, каб толькі дабрацца да сваіх, да сваіх…»

Раптам здалося, што ён дома, у Маскве, абдымае Аленку, падае ёй корпус ад снарада і гаворыць:

— Гэта, дачушка, табе падарунак… На твой стол, для алоўкаў.

Задрамаў, ці што… Ачуўся ад ціхіх галасоў за сцяною. Мужчынскі голас пытаўся:

— Двое, кажаш? Высокія чыны?

— Я не разбіраюся, але, па-мойму, высокія.

— Ты іх накарміла?

— Толькі малака папілі.

— Зайсці да іх?

— Можа, спяць ужо, не трэба, заўтра.

Генерал ведаў нямецкую мову, французскую, апошнія гады вывучаў англійскую. Тут гаварылі па-беларуску, мова славянская, шмат каранёў такіх, як і ў рускай, ён усё разумеў, а дзе не разумеў — здагадваўся. Падняўся, сеў. Паціху пастукаў у сцяну. Галасы сціхлі. Гаспадар, мусіць, здагадаўся, што яму падаюць знак — не спім, заходзьце.

Яны гаварылі ўпоцемку, не бачачы адзін аднаго, але генерал адчуваў: гаспадар — дужы малады мужчына. Па голасе адчуваў, па рухах, па абрысах постаці — невысокай, каржакаватай.

— Настаўнік з-пад Стоўбцаў параіў нам зайсці да вас, у Нізок, да дырэктара школы Лычкоўскага, Пятра Міхайлавіча, — гаварыў госць. — Казаў, што верыць вам, як брату.

— Гэта, мусіць, Каваленка… Мы з ім разам вучыліся, перапісваліся да вайны. Бялявы, невысокі? — спытаў гаспадар.

— Падобна… Мы кіруемся за лінію фронту, да сваіх, але вельмі пасцiралі ногі, нам трэба крыху адпачыць, каб ісці далей. Мы пераначуем у вас і заўтра пойдзем. Нікому пра нас не кажыце.

— Ну што вы, — адказаў гаспадар, — хіба я не разумею… Не бойцеся, спіце спакойна, немцаў у вёсцы няма… Я на сяло хадзіў, з людзьмі гаварыў. Ніхто ж нічога не ведае пра фронт, а ў мяне прыёмнік ёсць, на гары схаваны, дык я людзям расказваю тое-сёе.

— У вас прыёмнік ёсць? — узрадаваўся госць.

— Ага, і Масква добра чуваць… Заўтра паслухаем.

— А які тут настрой, як людзі, што кажуць? — спытаў другі вайсковы.

— Які ж можа быць настрой… Усе чакаюць, калі немца назад пагоняць, не вераць, што фашысты заваююць Расію.

— Пра партызан у вас нічога не чуваць?

— Пра партызан? Не, пакуль нічога… Ну, добра, спіце спакойна, заўтра пагаворым, — гаспадар паціху выйшаў за дзверы.

Гаспадыні ў вёсках устаюць рана, і хоць сям'я Лычкоўскіх была не сялянская, усё ж такі гаспадар — дырэктар школы, настаўнік — сялянскі побыт тут трымаўся моцна. Карову трэба было падаіць, выпаліць у печы, наварыць бульбы парсючку, сабе згатаваць есці.

І ў той дзень, першага ліпеня сорак першага года, гаспадыня Лідзія Аўгусцінаўна ўстала рана. Старалася ўходжвацца паціху, каб не грымець вёдрамі, чыгунамі, не пабудзіць людзей, што спалі ў класе. Думала, чым накарміць на снеданне, вырашыла напячы бульбяных аладак, іх можна есці без хлеба, а Барыс праўду сказаў вайскоўцам — хлеба ў Лычкоўскіх не было, да вайны куплялі ў краме, хоць гэтым адрозніваліся ад калгаснікаў, тыя пяклі свой хлеб.

Лідзія Аўгусцінаўна падаіла карову, падпаліла ў печы, намыла бульбы ў чыгун. Убачыла, што няма вады — узяла вёдры, пайшла да студні. Пры школе студні не было, ваду бралі каля суседняга двара, у Шымановічаў. Пакуль наліла ў вёдры, прынесла дадому, муж і госці прачнуліся, чуваць былі іх прыцішаныя галасы ў класе.

Лідзіі Аўгусцінаўне захацелася зайсці туды, да мужчын, паслухаць, што яны гавораць, ды пасаромелася, пачала шпарка ўходжвацца каля печы. Падумала раптам, што людзям няблага даць памыцца, і адставіла ўбок чыгун з бульбаю для парасяці, у другі, самы большы, наліла вады, падсунула бліжэй да агню.

Неўзабаве муж і госці самі выйшлі да яе ў кухню. Учора, упоцемку, яна не вельмі разгледзела мужчын, цяпер убачыла, што ніжэйшы, хударлявы, і праўда немалады, але трымаецца стройна, зграбна, па-вайсковаму, а на кіцелі ў яго, акрамя буйных зорак на пятліцах, і ордэн на грудзях. Ордэны да вайны былі вельмі рэдка ў каго, і Лідзія Аўгусцінаўна яшчэ раз пераканалася, што ў госці да іх завіталі не звычайныя вайскоўцы.

— Во, збіраюцца ісці, а ты паглядзі на іхнія ногі, — сказаў муж.

Лідзія Аўгусцінаўна глянула на босыя ногі мужчын і ахнула. Ногі былі сцёртыя да крыві, а ў старэйшага яшчэ і ацяклі, набрынялі, як вадою.

— Ды яны і боты на ногі не ўсцягнуць, трэба даць нагам загаіцца, — гаварыў муж.

— А няо ж, — падтрымала мужа Лідзія Аўгусцінаўна. — Як ісці такімі нагамі?

— Тут не толькі ногі, — павярнуўся гаспадар да вайсковых. — Калі вам ісці на ўсход, то трэба цераз шашу Мінск — Слуцк перабірацца, а па ёй цяпер, людзі кажуць, немцы носяцца, як шалёныя… Трэба вам перачакаць…

— Дзякуй вам вялікі, — сказаў той, у якім гаспадар па пятліцах ужо распазнаў генерала. — Але мы не столькі за сябе, як за вас баімся. Ведаеце, што немцы робяць з тымі, хто хавае камандзіраў Чырвонай Арміі?

— Ведаем, — з горыччу адказала Лідзія Аўгусцінаўна. — Але як жа людзям не памагчы… Трэба, каб ніхто пра вас не дазнаўся.

Госці яшчэ раз шчыра падзякавалі. Генерал правёў далоняй па падбародку, сказаў гаспадару:

— Пагаліцца б нам… А то абраслі… А яшчэ чырвоныя камандзіры.

Хутка яны памыліся, пагаліліся, пачысцілі сваю адзежу і набылі зусім іншы выгляд. Цяпер ясна выступіў твар генерала — прадаўгаваты, інтэлігентны, з высокім ілбом і разумнымі вачмі. А маладзейшы, высокі выглядаў цяпер зусім маладым і вельмі прыгожым мужчынам. Лідзія Аўгусцінаўна па-жаночы залюбавалася ім.

Вайскоўцы агледзелі адзін аднаго, і палкоўнік сказаў:

— Вам цяпер, таварыш генерал, хоць у акадэмію, на кафедру, лекцыю чытаць.

Генерал адказаў зусім сур'ёзна:

— І буду чытаць, таварыш палкоўнік. Прагонім немцаў, і зноў буду чытаць.

Генерал і палкоўнік засталіся ў Лычкоўскіх. Найбольш надзейным здалося ім месца на гары, адтуль далёка было відаць наваколле, вясковая вуліца. Гаспадар прынёс сюды, паклаў у кутку сена. Барыс усё рваўся да гасцей, але маці, бацька не пускалі, угаворвалі хлопчыка, каб нікому не казаў пра тое, што ў іх на гары вайсковыя. Барыс зусім сур'ёзна адказваў:

— Што я, дурны… Я нават Толіку Валюшнікавых не скажу.

Толік Валюшнікавых быў найлепшы Барысаў сябра.

Гаспадар два разы хадзіў на сяло, дазнацца, ці не накаціліся туды немцы, потым вяртаўся, залазіў да гасцей, разам слухалі

прыёмнік. Весткі перадаваліся нярадасныя — аб здадзеных гарадах, населеных пунктах, і генерал сціскаў зубы, пад скураю ў яго хадзілі жаўлакі.

Вечарам госці спусціліся ў кухню, гаспадыня паставіла на стол вячэру, з жаночай цікаўнасцю і спагадлівасцю пачала распытваць пра сем'і, якія засталіся дома. Генерал расказваў, што ў яго трое дзяцей, дзве дачкі і сын, старэйшая дачка, Аленка, вучыцца ў Ленінградзе, у ваенна-інжынернай акадэміі, на марскім факультэце, адна дзяўчына на ўсю акадэмію… Сюрпрыз бацькам падкінула, акурат перад вайною замуж выйшла… Перад тым як ехаць яму ў Беларусь, адправіў жонку да дачкі ў Ленінград… Меншыя дзеці перад вайною былі на дачы.

Лідзія Аўгусцінаўна спагадліва ўздыхнула.

Другога ліпеня маскоўскае радыё паведаміла, што заўтра, трэцяга ліпеня, са зваротам да савецкага народа, да байцоў Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту выступіць Сталін.

І Лычкоўскі, і ягоныя госці чакалі гэтага выступлення, як, мусіць, не чакалі ніколі нічога ў жыцці. Здавалася, ён, Сталін, адкажа на ўсе пытанні, пасля яго слоў усё стане ясна, зразумела.

І вось пачуўся знаёмы глухаваты голас:

«Таварышы! Грамадзяне! Браты і сёстры! Байцы нашай арміі і флоту! Да вас звяртаюся я, сябры мае!»

Ва ўсіх трох мароз прайшоў па скуры, шчыльней прыпалі да прыёмніка, застылі хто ў якой паставе, баяліся варухнуцца, прапусціць хоць адно слова.

Сталін гаварыў аб цяжкім выпрабаванні, якое выпала на долю савецкага народа, аб вялікіх намаганнях, якія трэба прыкласці, каб знішчыць ворага.

«Справа ідзе аб жыцці і смерці Савецкай дзяржавы, аб жыцці і смерці народаў СССР, аб тым — быць народам Савецкага Саюза вольнымі ці трапіць пад прыгнёт».

Рабілася ясна, што наперадзе шмат гора, пакут, але трэба ўсё адолець, бо нельга не перамагчы.

«Усе сілы народа — на разгром ворага! Наперад, за нашу перамогу!» — такімі словамі закончыў Сталін зварот.

У той жа вечар генерал аб'явіў гаспадару, што гэтай ноччу яны пакідаюць іх гасцінную хату. Гаспадар спрабаваў затрымаць яшчэ.

— Ногі ж вашы не загаіліся, ды і немцы на Слуцкай шашы…

— Нам болей нельга тут заставацца… Трэба хутчэй да сваіх, мы там патрэбны, — заявіў генерал.

Але калі паспрабаваў усцягнуць на ногі боты, убачыў, што патугі яго дарэмныя, ногі ў боты не лезлі, яшчэ не спала пухліна.

— Нічога, босыя пойдзем, — кінуў генерал бот на сена, якое служыла ім тут пасцеллю.

На гару паднялася Лідзія Аўгусцінаўна, прынесла збанок малака — толькі што падаіла карову.

— Во, — паказаў ёй муж на генерала. — Ісці сабраліся, а боты ўсцягнуць не могуць.

— Я сказаў — босыя пойдзем… Нам трэба хутчэй да сваіх, — цвёрда адказаў генерал.

— Вы паслухайце, не трэба босым, бруду ў раны налезе, панарываюць ногі… Трэба лапцікі пашыць, — мякка загаварыла Лідзія Аўгусцінаўна, а сама думала — з чаго ж гэта пашыць… — Ды во, з палавікоў пашыю, — паказала яна на скручаныя палавікі, якія стаялі на гары. — Яны ў мяне яшчэ моцныя, гэта я цяпер іх не засцілаю, бо не да палавікоў.

Генерал і палкоўнік глядзелі то на свае ногі, то на Лідзію Аўгусцінаўну, а тая казала:

— Я вам заўтра за адзін дзень пашыю, бо так… Як жа ісці…

І генерал з палкоўнікам засталіся яшчэ на суткі.

Назаўтра Лідзія Аўгусцінаўна цэлы дзень сшывала тоўстаю іголкаю, суравымі ніткамі лапці. Пад вечар абутак быў гатовы — кожнаму пашыла па дзве пары, разумела, што адна пара не вытрывае далёкай лясной дарогі.

— Ногі, як у раі, — задаволена сказаў генерал.

— Абутак, што трэба, — згадзіўся і палкоўнік.

— Толькі не пасуе гэтакі абутак да вашай вайсковай формы, — сказала Лідзія Аўгусцінаўна. — Трэба было б вам пераапрануцца, уздзець што сялянскае… Вось вы немалады мужчына, — павярнулася яна да генерала, — пра вас ніхто і не падумае, што вы вайсковы.

— Не-е, — пакруціў галавою генерал. — Формы мы не скінем… Скінуць форму — тое самае, што адрачыся ад самога сябе.

— Ну глядзіце, — ціха прамовіла гаспадыня. Гаспадар узяўся сабраць гасцям прадуктаў на дарогу.

Напакаваў добрую торбачку.

Генерал паклаў у адну кішэню галіфэ карту і компас, у другую — пісталет.

— А дзеці спяць? — спытаўся ён.

— Спяць, — адказала гаспадыня.

— З Барысам не развітаемся, — пашкадаваў генерал. — Харошы чалавек павінен вырасці. І дзякуй вам вялікі… Так прыемна было ў вас, у сапраўдных савецкіх людзей… Сустрэнемся пасля вайны.

Госці стаялі ўжо каля дзвярэй, гатовыя адчыніць іх. Палкоўнік закінуў ужо на плячо торбачку, да якой гаспадар прырабіў лямкі, як у рукзаку.

І раптам генерал вярнуўся, сказаў Лычкоўскаму:

— Маё прозвішча Карбышаў, Дзмітрый Міхайлавіч, я ваенны інжынер, генерал-лейтэнант інжынерных войск… Са мною вось, — азірнуўся ён на свайго спадарожніка, — палкоўнік інжынерных войск Сухарэвіч, Пятро Піліпавіч… Дайце, калі ласка, паперы і ручку, я пакіну вам свой маскоўскі адрас…

Прозвішчы нічога не сказалі Лычкоўскаму, ён быў цывільны чалавек і не чуў пра доктара вайсковых навук, прафесара Карбышава. Але ён разумеў, што, называючы сваё прозвішча, прапануючы свой адрас, генерал тым самым нібы яшчэ раз дзякаваў яму.

І Лычкоўскі знайшоў сшытак, выдраў з яго лісток, падаў Карбышаву ручку, чарніліцу-невылівайку. Той сеў да стала, напісаў адрас, сказаў, падаючы гаспадару:

— Прыедзеце ў Маскву — будзеце самым дарагім госцем.

Лычкоўскі згарнуў паперку, падышоў да этажэркі, паклаў адрас у кнігу. Вярнуўся да стала,узяў ручку.

— І я вам свой адрас напішу, каб не забыліся.

Карбышаў з хвіліну падумаў.

— Не, ваш адрас не пішыце… Мала што… У нас дарога далёкая… Я ваш адрас і так запомню, на ўсё жыццё… Уздзенскі раён, вёска Нізок, Лычкоўскі Пятро Міхайлавіч.

Лычкоўскі праводзіў Карбышава з Сухарэвічам. Калі пакідалі вёску, у вокнах не свяцілася ніводнага агню, неба ўсцілалі хмары, і было яно чорнае, непрагляднае. Ішлі той самай сцежкаю, цераз жыты.

Настаўнік давёў гасцей да гравійкі, якая кіравалася ў бок Слуцкай шашы.

— Ну, дзякуй, — спыніўся Карбышаў. — Далей мы самі. Вяртайцеся да сям’і.

Ён паціснуў Лычкоўскаму руку. І Сухарэвіч развітаўся з гаспадаром за руку.

Карбышаў пайшоў першы. У глыб лесу. У глыб ночы. Да сваіх. Пакіраваўся ў бяссмерце, у легенду.

## ЖЫЦЦЁ НЕ СПЫНЯЕЦЦА

Іван Каляда ішоў па вуліцы Фрунзэ ўніз, да плошчы Перамогі. У руках яго была торбачка, у якой ляжаў кашалёк. У кашальку — дзвесце тысяч, якія дала жонка, выпраўляючы па куплю.

— Пахадзі па праспекце, кажуць, там у супермаркетах прадукты дзешавейшыя. А можа, лепш схадзі на Камароўку, — падумаўшы, сказала яна. — Там выбар большы.

І вось Іван ішоў, размахваючы торбачкаю, па вуліцы Фрунзэ да праспекта.

Іван Каляда быў паэтам і, як казалі, таленавітым паэтам, крытыка хваліла, яго запрашалі на выступленні ў школы, у інстытуты і там слухалі і прымалі, здаецца, прыязна. Звычайна, калі ён ішоў вось так, без вялікага клопату, у галаве яго круціліся словы, радкі, часам прыходзіла цікавая рыфма, якую ён стараўся запомніць і, прыйшоўшы дадому, запісваў.

Цяпер у галаве было пуста.

Некалі па вуліцы Фрунзэ ён хадзіў даволі часта: на ёй стаяў Дом літаратараў, пабудаваны за кошт пісьменніцкіх ганарараў. І гэты дом быў быццам ягоным домам, тут можна было сустрэць калег, пагаварыць пра літаратуру, пасядзець у кавярні. Апошнім часам, калі даводзілася хадзіць паўз гэты будынак, у яго з'яўлялася адчуванне, быццам ён сустрэўся з жонкаю, з якой развёўся і якая жыве цяпер з іншым мужыком. Такое адчуванне падступала ўжо і цяпер, бо набліжаўся да таго дома, хацеў і ў той бок не глядзець, ды міжволі павярнуў галаву. Увагу прыцягнула шыльда, якой раней не бачыў. Спыніўся, прачытаў: «Кафе "Старый Тифлис". Работаем с 12 до 24».

Не паверыў сваім вачам. Гэта ў іх доме, доме беларускіх літаратараў, у іх сціплай кавярні — «Кафе "Старый Тифлис"»! Хто ж гэта пусціў сюды грузінаў, да якіх Іван увогуле ставіўся даволі прыхільна, не меў ніякіх прэтэнзій, але хто адкусіў ад будынка такі кавалак і кінуў чужым людзям?

Паглядзеў на гадзіннік, яшчэ не было дванаццаці, але быццам нейкая сіла штурхнула Івана, і ён адчыніў дзверы.

Перад уваходам у кавярню, за нейкім бар'ерчыкам сядзеў лысаваты мужчына ў гарнітуры, пры гальштуку, перабіраў нейкія паперы. Іван падумаў, што мужчына, можа, зараз яго затрымае, але той не затрымаў, і Іван адчыніў дзверы ў былую кавярню пісьменнікаў.

Там было цёмна і пуста, за столікамі яшчэ ніхто не сядзеў, але перад ім, як з-пад зямлі, вырасла дзяўчына, мусіць, падавачка.

— Здравствуйте, — сказала Івану ветліва. Наструнены, абражаны, Іван сказаў ёй не вельмі прыязна:

— А чаго гэта вы вітаецеся па-руску, а не па-грузінску?

— Я магу і па-грузінску, — весела сказала дзяўчына і сапраўды залапатала па-грузінску.

— Вот, изучаю язык, — хвалілася яна.

— А колькі ў вас каштуе шашлык? — сам не ведаў чаму, спытаўся Іван.

— От восьмидесяти тысяч, — адказала дзяўчына.

— І да калькі?

— Ну, до двухсот тысяч.

Жонка дала Івану дзвесце тысяч, каб ён купіў прадуктаў на цэлы тыдзень. А тут адзін шашлык — дзвесце… Ды, мусіць, адным шашлыком яны тут не абыходзяцца, да шашлыку трэба віно ды трава нейкая… Грузіны ж без травы нічога не ядуць…

— Бывайце здаровы, — не вельмі ветліва сказаў Іван і выйшаў з кавярні.

Пры выхадзе затрымаўся каля таго лысага, за бар’ерчыкам.

— А вы тут кім працуеце? — спытаў насцярожана. Чакаў, што чалавек адкажа, можа, якой грубасцю, падобна: а якая табе справа? Але мужчына адказаў міралюбіва:

— Я тут ахоўнік.

Іван хмыкнуў. Цікава, каго ён тут ахоўвае, ад каго ахоўвае? Спытаў таксама быццам міралюбіва:

— А хто ходзіць у гэтую кавярню?

— Найбольш грузіны, — адказаў той.

Іван выйшаў з будынка, несучы ў грудзях крыўду, абразу, злосць. Не адразу зразумеў, у які бок яму трэба ісці, пайшоў угору па завулку Румянцава. Ішоў і не пазнаваў завулка. Гмахі, гмахі, высачэзныя дамы. Цікава, хто зойме гэтыя будынкі? У грудзях у яго ўсё дрыжэла, забыўся пра жончына даручэнне. Ачомаўся, калі дайшоў да вуліцы Казлова. І тут яго зноў пацягнула не ў той бок, недзе ж тут, недалёка, была «Кнігарня пісьменніка», можа, і яе ўжо некаму аддалі? Ногі самі павялі.

Грымеў трамвай, грукаталі машыны, шчыльнаю плынню ішоў народ.

У кнігарні трапіў нібы ў ціхую завадзь. На паліцах акуратна і моўчкі стаялі кнігі. Ніхто тут нічым не грукаў, не грымеў. Пакупнікоў не было, толькі каля паліцы з дзіцячай літаратурай стаяў мужчына, які здаўся Івану нечым знаёмым.

Іван пахадзіў каля аддзела беларускіх кніг. Нічога цікавага для сябе не знайшоў, яшчэ раз азірнуўся на мужчыну, што пера-

біраў дзіцячыя кнігі, і ледзь не вылаяўся сам сабе. Дык гэта ж Міхась, каб ты згарэў, даўно не бачыў, а ён так змяніўся. Ссівеў увесь, ды яшчэ бараду адгадаваў.

Міхась быў таксама пісьменнікам, пісаў прозу, у яго былі даволі прыстойныя апавяданні, аповесці, напісаў нават раман.

Іван падышоў да Міхася, стукнуў па плячы. Той спачатку спалохаўся, потым азірнуўся, усміхнуўся.

— Здароў, Каляда! Я ледзьве пазнаў цябе: ссівеў, і яшчэ гэтая бародка… Ну сапраўдны дзед.

— А я і ёсць дзед, нават прадзед, вось, праўнучцы кніжку выбіраю.

— І на якой мове?

— На беларускай.

— Дык малайчына, а то ў мяне ёсць знаёмыя, іх дачцэ — тры гады, яшчэ і гаварыць не ўмее, а яны ўжо апроч рускай мовы вучаць яе ангельскай, пра беларускую і слухаць не хочуць. Хоць самі беларусы, можа, у дзясятым пакаленні.

Пакуль яны гаварылі, у краму не зайшоў ніводзін пакупнік. Потым зайшлі двое хлопцаў з рукзакамі за плячыма, на выгляд студэнты, але іх цікавілі не кнігі, а віншавальныя паштоўкі. Доўга перабіралі.

Міхась тым часам выбраў дзіцячую кніжку з малюнкамі, пайшоў у касу плаціць, потым вярнуўся да Івана.

— Ну, а сярод дарослых кніг нічога не знайшоў? — спытаў яго Іван.

— А што там шукаць… Учарашні дзень, — адказаў Міхась.

— Што праўда, то праўда, я таксама там пахадзіў. Зборы твораў Шамякіна, Танка, Навуменкі. Маёй і тваёй кнігі там не ўбачыш.

— Цяпер, брат, каб выдаць кнігу, трэба мець вялікія грошы, — пагадзіўся з ім Міхась. — Адкуль іх узяць? Мы з жонкаю жывём на пенсію.

— І мы з жонкаю на пенсію.

Па іх такі было відаць, што яны не багацеі. І на адным, і на другім былі далёка не новыя пінжачкі, купленыя, мусіць, яшчэ да перабудовы.

Выйшлі з крамы. На вуліцы было па-ранейшаму шумна, грукатна, ярка свяціла сонца, па тратуары бясконца ішлі людзей. І аднаму, і другому не хацелася разлучацца, так рэдка сустракаюцца, калі яшчэ сутыкнуцца.

— А ці не пасядзець нам з табою ў кавярні, выпіць па кубачку кавы, пагаварыць? — сказаў Іван.

— А што, давай, — ахвотна згадзіўся Міхась.

Спачатку яны хацелі зайсці ў кавярню на плошчы Перамогі. Міхась адчыніў дзверы, але там было цёмна і пуста, відаць, яшчэ не працавала, і яны зайшлі ў балаган, якіх апошнім часам панастаўлялі па ўсім праспекце. Рэкламавалі ў тых балаганах піва. У тым, куды яны зайшлі, піва «Аліварыя».

У балагане было занята няшмат столікаў: за адным два хлопцы смакавалі піва, далей сядзела нейкая кампанія — хлопцы, дзяўчаты. Іван і Міхась селі за вольны столік.

— Ты ведаеш, — хмура сказаў Іван, — я цяпер у такім настроі… У нашым былым Доме літаратараў, на месцы нашай сціплай кавярні, адчынілі кафэ «Стары Тыфліс». Ты бачыш, што робіцца, беларусаў зусім даканаць хочуць.

Міхась выслухаў гэта, здаецца, абыякава.

— Ведаю я пра гэту кавярню, чытаў у «Народнай волі». Але пасля таго, што зрабілі з нашым Саюзам пісьменнікаў, мяне ўжо нічым не здзівіш.

Да іх падышла падавачка, тоненькая зграбная дзяўчына на высачэзных абцасах, у белым фартушку.

— Что вам? — спытала ветліва.

— Два кубачкі кавы і… — пачаў Міхась.

— Чево-чево? — перапытала дзяўчына.

— Кавы, кавы! — гаркнуў на яе Міхась. — Роднай мовы не разумееш, у Кітаі жывеш?

Дзяўчына ад таго тону нібы спалохалася, залыпала вачыма, пачырванела.

— Кофе, что ли? — перапытала.

— Кавы, кавы, — не збавіў тону Міхась. — І два бублікі.

— У нас бубликов нет, — быццам ужо вінавата адказала дзяўчына.

— А што ў вас ёсць?

— Расстегайчики…

— Цягні расцягайчыкі…

Дзяўчына пайшла, цокаючы сваімі высачэзнымі абцасамі. Іван усміхнуўся.

— Ну і злосны ты…

Міхась адказаў хмура:

— Я, браток, маўчу, трываю, але скора загукаю…

— Толку некаму ад твайго гукання. У мяне знаёмая ёсць, дык яна кажа: «Мы людзі незалежныя, ад нас нічога не залежыць».

Падавачка прынесла каву і дзве булачкі, якія ў іх чамусьці называліся расцягаі. Ад кавы ішла пара, але не чулася паху, якім звычайна струменіць сапраўдная кава.

Іван сербануў і зморшчыўся.

— Гарачая, халера, і смаку ніякага, адна гарката.

— Гарачая — гэта помста нам, каб мы языкі паапякалі, — сказаў Міхась. Яны пачакалі, пакуль крыху астыне кава.

— Пішаш што-небудзь? — спытаў Іван у Міхася. Той паскроб сваю нядаўна адгадаваную бародку.

— Талстой пад старасць некалі сказаў: «Столькі тоўстых кніжак напісаў, а ні жыццё, ні чалавек не палепшалі». Дык калі пасля Талстога, пасля Дастаеўскага, пасля Быкава нічога не змянілася, навошта мне псаваць паперу.

— Але ў Расіі пасля Талстога, пасля Дастаеўскага з'явіліся новыя харошыя пісьменнікі — Бунін, Купрын, Горкі… А паэты — Блок, Ясенін…

— То ў рускіх пісьменнікаў, у іх мова ёсць, — сумна запярэчыў Міхась. — А ў нас, бачыш, — беларуская дзеўка, па ўсім відаць — беларуская, не ведае, што такое кава.

— Выдатна яна ведае, прыдурваецца, — з горыччу сказаў Іван.

Ён сядзеў змрочны, пакаштаваў каву, але яна яшчэ была гарачая.

— Ведаеш, — хмура сказаў Іван, — па-мойму, цяпер не пісаць — тое самае, што ў вайну без бою здавацца ў палон. Трэба адстрэльвацца да апошняй кулі.

— Апошнюю пакінуць сабе? — не без скепсісу сказаў Міхась.

— Можа, і так…

— Кінь, — махнуў рукою Міхась. — Начыталіся мы і напісаліся пра самаахвярнасць, гераізм. І ў цябе такога хапала.

— Хапала, — прызнаўся Іван. — Быў час, быў век, была эпоха, як пісалася ў «Лысай гары».

Цяпер Міхась прыгубіў каву, яна ўсё яшчэ была гарачая.

— Паэма харошая, кепска толькі, што хлопцы пасварыліся.

— Славу не падзялілі…

— А што ты думаеш, слава не кілбаса, на кавалачкі не парэжаш.

— І ўсё-ткі трэба пісаць, — гнуў сваё Іван.

— А дзе друкавацца? Я ўсё жыццё друкаваўся ў «Полымі», нейкі час нават працаваў там, а цяпер мне адтуль далі, як гэта кажуць, ад варот паварот. Рэдактар сказаў — «Хто сябруе з "Народнаю воляй", у "Полымя" твораў не носіць».

— То пішы ў стол, — не здаваўся Іван.

— Напішаш у стол, а яно трапіць пад стол, у кошык для смецця.

— А можа, нехта некалі выцягне адтуль ды надрукуе?

— Ты вялікі аптыміст, Іван, а сам хоць пішаш?

Іван адпіў глыток кавы.

— Не так даўно ў адной крыху ліберальнай газеце надрукаваў пяць вершаў. Днямі прыслалі ганарар — сто тысяч. Дасюль нашу ў кішэні, каб адчуваць сябе багатым.

— Некалі ў Расіі казалі, — вяртаўся да свайго Міхась, — што ў іх два цары — Мікалай Другі і Леў Талстой. І Мікалай Другі не можа перамагчы Талстога. Вось як высока ставілі ў Расіі пісьменніка, параўноўвалі з царом. А ў нас? Твораць здзек з нашага брата. Хутка жабраваць пачнём. Вуліцы Быкава дасюль у Мінску няма, а вуліца Іллі Гурскага ёсць. А хіба Гурскі быў пісьменнік? Калі яму трэба было напісаць у сваёй аповесці пра якую-небудзь птушку, то ён адгортваў энцыклапедыю і спісваў адтуль, што пра тую птушку гаварылася — дзе селіцца, колькі яек адкладае.

Кава ўжо крыху астыла, і яны пілі па глыточку, прыкусваючы тым расцягаем.

— Можа, дасць Бог, нешта пераменіцца, — дапіўшы сваю каву, сказаў Міхась.

— Дасць Бог… Ты, можа, і ў Бога ўжо паверыў, цяпер жа такі рэлігійны бум?

— Так, браток Іван, брыдка глядзець, як учарашнія ваяўнічыя атэісты сёння абразы цалуюць, хрысцяцца і абдымаюцца з папамі. Я не веру ні ў Бога, ні ў чорта, ні ўраду, ні сябрам.

— Сябрам трэба верыць, — запярэчыў Іван.

— Сябры могуць такой подласці нарабіць, ніякі вораг не дадумаецца.

— Што праўда, то праўда, — пагадзіўся Іван, ён выпіў ужо сваю каву, з'еў расцягай.

Сядзелі моўчкі.

Яны былі, вядома, аднадумцы, хоць тут крыху і паспрачаліся. Абодва былі нібы выключаны з жыцця, у цяперашняй сітуацыі не хацелася пісаць, адбілі ахвоту, а крывіць душою, пісаць не пра тое, што думаеш, — не хацелася.

Пара было разыходзіцца, але разыходзіцца зноў не хацелася: калі яшчэ сустрэнуцца, шчыра пагавораць, бо цяпер, як агледзішся, то шчыра і пагаварыць няма з кім.

На каленях у Івана ляжала торбачка, напамінала пра жончына даручэнне. Мусіць, ужо злуецца там, што доўга яго няма, а ён жа яшчэ і да Камароўкі не дабраўся. Трэба было разыходзіцца.

Іван паклікаў дзяўчыну, палез у кішэню, дастаў кашалёк. Міхась таксама дастаў грошы.

— Кінь, — спыніў яго Іван. — Я заплачу, я ж атрымаў ганарар. Цэлых сто тысяч. Можа, хопіць заплаціць за каву.

— А можа і не хопіць, — засумняваўся Міхась.

— Ну, калі не хопіць, то дадасі.

Але грошай хапіла, нават засталося тысяч дзесяць. Яны разлічыліся, выйшлі на вуліцу, і тут шумную, з грукатам машын.

— Табе ў які бок? — спытаў Міхась.

— Мне да аўтобуса.

— А я пяшэчкам, мне тут недалёка.

— Ну, то бывай, калі яшчэ пабачымся. А бараду згалі, зусім дзедам выглядаеш.

— А, што там барада, — махнуў рукою Міхась. Яны разышліся, пайшлі кожны ў свой бок.

Прыпынак аўтобуса быў недалёка, і Іван скора дайшоў да яго, спыніўся ў купцы людзей, што чакалі свайго маршрута.

Аўтобус падышоў даволі хутка, і Іван улез у шчыльна набіты салон. Увайшоў і здзівіўся, бо адразу пачуў даволі малады голас, які чытаў верш на беларускай мове.

Над белым воблакам,
Пад сінім небам
Душа мая лунае
І ў таго воблака, у таго неба,
Як жыць мне на зямлі, пытае…

Аўтобус крануўся, загрукацеў, Іван далей не чуў верша, ён глянуў туды, адкуль гучаў голас.

Пасярод натоўпу, што ехаў у аўтобусе, стаяла дзяўчына, у берэціку на светлых валасах, у белай вышыванай блузцы, з сумкаю цераз плячо, і чытала вершы — адзін за адным. Іван не чуў, што яна чытала, даляталі толькі некаторыя словы, радкі.

Дзяўчына скончыла чытаць і загаварыла да пасажыраў:

— Гэта мае вершы, яны надрукаваныя вось у гэтай кніжачцы, — яна падняла ўгору зборнічак у шэрай папяровай вокладцы, маленькі, падобны на брашурку. — Можа, хто захоча купіць?

— А колькі каштуе? — пачуўся голас з задняй пляцоўкі.

— П-пяць тысяч, — заікнулася дзяўчына.

— Ого! — сказаў той самы голас.

Іван убачыў, што ніхто з пасажыраў не палез у кішэню, не выняў кашалёк і не купіў той зборнічак.

Дзяўчына схавала сваю кніжачку ў сумку і пачала прабірацца да выхаду. Людзей у аўтобусе было шмат, і неяк так атрымалася, што дзяўчына затрымалася побач з Іванам.

Ён адчуваў да яе і спагаду, і спачуванне, і нават нейкую павагу. Трэба ж, не пасаромелася чытаць вершы перад людзьмі, якія да паэзіі былі, мабыць, больш чым раўнадушныя.

Іван спытаў у яе:

— Дзе выдалі вы свой зборнічак?

Дзяўчына глянула на яго з апаскаю — можа, хоча пасмяяцца з яе? Але перад ёю стаяў пажылы чалавек і, здаецца, не збіраўся насміхацца. І яна адказала даверліва:

— У выдавецтве «Мастацкая літаратура», мне выплацілі ганарар маімі кніжкамі, далі пятнаццаць экзэмпляраў, сказалі, каб сама прадавала.

У Івана запякло ў грудзях. Дзе, калі такое было, каб так прыніжалі аўтара.

— Я куплю ў вас кніжачку, — сказаў Іван.

Дзяўчына зноў недаверліва глянула на яго, але па ўсім было відаць, што чалавек гаворыць сур'ёзна. І ўсё ж перапытала:

— Праўда?

— Праўда, праўда, — заківаў галавою Іван. Вочы дзяўчыны засвяціліся сарамлівай радасцю.

— Але ведаеце, мне зараз трэба выходзіць, давайце выйдзем разам.

Яны праціснуліся да выхаду, выскачылі з аўтобуса, і той паехаў далей.

Іван палез у кішэню, дастаў пяць тысяч, падаў дзяўчыне. Тая выняла з сумачкі сваю кніжку. Калі яна вымала, Іван убачыў, што ў той сумачцы, шчыльна адзін да аднаго, ляжала яшчэ шмат экзэмпляраў.

— Дзякуй вам, — сказала яна.

— Гэта вам дзякуй, што пішаце вершы і не саромеецеся прадаваць. Трэба пісаць, нягледзячы ні на што, ратаваць, ратаваць…

Ён не сказаў, каго і што ратаваць, як ратаваць, бо сам не ведаў. Можа, гэта дзяўчына здагадаецца, што і як трэба ратаваць, каб не знікла нашая краіна і нашае самабытнае мастацтва.

Але жыццё не спынялася, і трэба было есці, жыць. Камароўка была ўжо побач, і Іван, паціснуўшы на развітанне руку дзяўчыне, пайшоў у шумлівы бок рынка.

Дзяўчына засталася на прыпынку — чакала наступнага аўтобуса ці тралейбуса, каб і там пачытаць вершы і, можа, прадаць яшчэ адну кніжачку.

# БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ
*Маленькія трагедыі*

## У Ялце

Не ведаю, што там цяпер, ужо за мяжою, але пры Савецкім Саюзе там быў Дом творчасці пісьменнікаў. Ён размяшчаўся ў вялікім мураваным доме, які некалі, відаць, належаў мясцоваму багацею. Рэвалюцыя канфіскавала тую прыватную ўласнасць, і ў будынку стварылі Дом творчасці. Ён стаяў у парку, на адным з крутых ялцінскіх пагоркаў, з горада да яго вяла асфальтаваная дарога-серпанцін, і пажылыя пісьменнікі, якім цяжкавата было ўздымацца на тую гару, часам бралі ў горадзе таксі і пад'язджалі да свайго дома на машыне.

У парку, які акаляў Дом творчасці,раслі экзатычныя дрэвы і кусты, усцяж дарожак стаялі лавачкі, на якіх можна было пасядзець-адпачыць у цені тых экзатычных дрэў і кустоў.

А калі падняцца па сцежцы ўгору, за Дом творчасці, і паглядзець з вышыні ўніз — адкрываўся незвычайны краявід. Там, унізе, разлягалася мора, яно прасціралася да гарызонту, сонца фарбавала ў золата яго дробныя хвалі, парк нібыта бег, спускаўся да мора і спыняўся перад берагам, быццам баючыся ступіць у яго тугую глыбокую ваду.

Пуцёўкі ў той дом давалі ўсім членам Саюза пісьменнікаў, з усіх рэспублік, і з'язджаўся туды розны народ, але найбольш там збіралася масквічоў. Яны трымаліся сваёй асобнаю кампаніяй, даволі пагардліва ставіліся да пісьменнікаў з саюзных рэспублік, толькі з некаторымі віталіся, паблажліва ківаючы галовамі, не прымалі ў сваю кампанію.

Так атрымалася, што з Беларусі нікога не было, акрамя нас з мужам. Ды нам і непатрэбна была ніякая кампанія, нам і ўдваіх было добра.

Ды вось прыехаў новы госць — рускі пісьменнік з сям'ёю — жонкаю і дачкою. Пасялілі іх побач з нашым пакоем, і, як суседзі, мы пачалі вітацца, а часам і перакідвацца словамі.

Хоць ён быў і рускі пісьменнік, але не масквіч, і масквічы яго ў сваю кампанію не ўзялі, палічылі, відаць, правінцыялам, ды не вядомым шырокаму чытачу. А трэба сказаць, што і тыя масквічы не былі вядомыя шырокаму чытачу, але…

Ды, мусіць, і нашаму суседу тая кампанія не вельмі была патрэбная. Хутка ў яго сям'і склаўся свой распарадак дня. Дачка іх, дзяўчынка гадоў сямнаццаці, з кароткаю стрыжкаю рудаватых

валасоў, быццам падсвечаных сонцам, з задуменным позіркам шэрых вачэй, яшчэ да снядання выбягала ў парк і рабіла там гімнастыку. Гнуткі стан дзяўчыны, прыгожыя паставы рабілі тую гімнастыку больш падобнаю на харэаграфічныя практыкаванні.

Сама дзяўчына была вельмі прыветная, заўсёды віталася, адорваючы нас з мужам шчыраю ўсмешкаю. І ўсё ж было ў ёй нешта адмысловае — нейкі вельмі дарослы для яе ўзросту позірк вачэй, нешта прыхаванае ў ветлівай усмешцы.

Пасля снядання гаспадар зачыняўся ў пакоі — працаваў. А жонка з дачкою ішлі ў горад, гулялі ўсцяж мора па набярэжнай альбо, знайшоўшы ў парку зацішны куточак з лавачкаю, — чыталі.

Нашы адносіны з гэтай сям'ёю рабіліся ўсё больш прыветныя, мы ўсё часцей пачыналі размаўляць, і я аднойчы сказала суседу:

— Якая ў вас мілая, харошая дачка.

— Ага, — згадзіўся сусед. — Яна з пахвальнаю граматаю скончыла дзевяць класаў… Мы яе вельмі любім.

— Было б дзіва, каб бацькі не любілі сваё дзіця, — сказала я.

— Каб жа бацькі, — уздыхнуў сусед.

— А як жа? — не зразумела я.

І сусед адкрыўся.

Яны знайшлі гэтую дзяўчынку пад кустом у парку. У брудных пялюшках, сплаканую. Дзіцяці было месяцаў пяць. Яны забралі малое дадому, пакупалі, накармілі, жонка падрала прасціну на чыстыя пялюшкі. І дзяўчынка, якая ўвесь час плакала, раптам супакоілася і ўсміхнулася ім. І яны яе нікому не аддалі.

Мяне расчулілі — і даверлівае апавяданне суседа, і ўся гэта гісторыя.

Прыёмныя бацькі не хавалі ад дзяўчынкі яе сумнага мінулага. Аднойчы і яна сказала мне з горкай шчырасцю:

— Мяне некалі выкінулі, як непатрэбшчыну…

Яна сказала па-руску: «Меня выбросили за ненадобностью».

Але, як той казаў, не было б шчасця, ды няшчасце памагло.

Каб засталася гэта дзяўчынка ў родных бацькоў, якія былі здатныя на такое — пакінуць дзіця пад кустом у парку, — ці зведала б яна прыстойнага жыцця, ці бавіла б свае канікулы ў Доме творчасці пісьменнікаў? Яе сапраўдныя бацькі, напэўна, і не ведалі, што такія дамы ёсць на свеце.

І ўсё-такі, усё-такі… Недзе, напэўна, шкрабецца ў сэрцы дзяўчыны крыўда на тых, што выкінулі яе як непатрэбшчыну. І дзякуе лёсу, што знайшлі яе добрыя, прыстойныя людзі.

Плешчацца мора каля ялцінскіх берагоў… Шумяць кронамі экзатычныя дрэвы ў парку…

## Страх

Яны прыехалі з вёскі ў Мінск і нанялі пакойчык у раёне чыгуначнай станцыі. Ён спрабаваў пісаць апавяданні і ўладкаваўся на працу ў газету «Беларуская вёска», яна нідзе не працавала, бо чакала дзіця. Яны жылі як муж і жонка, хоць не былі распісаныя. Тады не было моды распісвацца, тым больш вянчацца. Вянчацца — лічылася буржуазным забабонам, а распісвацца — таксама не факт, што распіска ўтрымае іх разам. Усё будавалася на даверы. Яны жылі так — і былі вельмі шчаслівыя, бо былі маладыя і кахалі адно аднаго, і чакалі дзіцятка, не разумеючы некалі, што здатныя на такое дзіва — даць свету новае жыццё.

Нарадзіўся хлопчык. Пра тое, каб ахрысціць, не было і гаворкі, хрысціць дзіця лічылася цемрашальствам, новы свет, новае жыццё не прымалі гэтага. Каб даведаліся ў яго на рабоце, што ён ахрысціў дзіця, то, можа, звольнілі б з працы.

Зарплата ў яго была маленькая, на яе не пражылі б, дапамагалі то яе, то яго бацькі, прывозілі з вёскі то мех бульбы, то кавалак сала. Спадзяваліся на будучыню — вось некалі ён стане сапраўдным пісьменнікам, выдасць кнігу, хлопчык падрасце. А пакуль з радасцю пазіралі, як дзіця ім усміхаецца, як з’явіўся ў малога першы зубок у роце, як малы стаў на ножкі.

Нічога не прадракала бяды.

Але аднойчы ноччу перад домам, у якім яны здымалі пакойчык, спыніўся чорны варанок. У іх пакой увайшлі двое ў вайсковай форме і загадалі гаспадару збірацца. Яго забралі з сабою і павезлі. А потым у газеце яна прачытала, што яе муж арыштаваны як вораг народа, беларускі нацыяналіст.

Яна вельмі спалохалася, не ведала, як жыць далей. Потым уладзіла хлопчыка ў яслі, а сама нанялася на работу прыбіральшчыцаю ў жыллёвую кантору. Нікому не сказала, што яе муж арыштаваны, разышліся, і ўсё.

Праз нейкі час сустрэла чалавека і выйшла за яго замуж, з гэтым распісаліся і жылі па закону. Сыну сказала, што гэта яго бацька, і той зваў яго татам.

Але шыла ў мяшку не схаваеш, нейкі дабрадзей сказаў хлопчыку, які ўжо падрос, што гэта ягоны не бацька, а айчым, а бацька… Бацька…

Тады хлопчык спытаў у мацеры:

— А дзе мой сапраўдны бацька?

Яна зноў спалохалася і шэптам пачала тлумачыць сыну:

— Я табе не казала… Але твой бацька арыштаваны. Ён вораг народа. Калі пра гэта дазнаюцца ў школе, то цябе могуць выключыць… А калі і не выключаць, то ты не зможаш паступіць у інстытут… І не той бацька, што нарадзіў, а той, што выгадаваў… А твой айчым цябе выгадаваў, даў табе сваё прозвішча… Забудзь таго бацьку, любі гэтага.

І хлопчык пастараўся не ўспамінаць пра роднага бацьку, у яго ўяўленні родны бацька маляваўся злым чалавекам, ворагам народа, ворагам і яму, і мацеры.

Прайшло дваццаць гадоў, якія родны бацька хлопчыка адбываў у турме, у ссылцы, на пасяленнях. Але вось час перамяніўся, і ён вярнуўся на радзіму, і прыйшоў да былой жонкі — худы, абношаны, і ўбачыў свайго сына — ужо дарослага чалавека.

— Я твой бацька, сынок, — памкнуўся ён да сына.

Але той адвярнуўся ад яго і пайшоў за дзверы. І былая жонка не ўзрадавалася беламу мужу, а зноў спалохалася, спалохалася, што былы муж парушыць яе спакойнае існаванне, затлуміць сыну галаву, разладзіць яе жыццё з новым мужам.

Ён зразумеў усё гэта і пайшоў. Уладзіўся на работу, пачаў пісаць свае апавяданні.

І чытачы, і крытыка прынялі яго творы. Ён пачаў друкавацца і на іншых мовах. Яму далі добрую кватэру, але ён жыў адзін. Не жаніўся.

Зноў ішлі гады. Ён стаў прызнаным пісьменнікам, разбагацеў, але не ведаў, з кім дзяліць сваё багацце.

І аднойчы ён паклікаў сына.

Той прыйшоў — ужо дарослы, сталы чалавек, у яго былі ўжо свае дзеці. Бацька пачаў размову:

— Як бы там ні было, але ты мой сын… Я твой бацька… Я цяпер багаты чалавек і магу памагчы табе… Магу даць грошай на машыну… І яшчэ, калі што трэба… Толькі скажы…

Сын доўга маўчаў. Потым загаварыў.

— Ведаеце што… Наогул дзякуй вам…

Бацька перапыніў сына.

— Ты гаворыш мне «вы», як чужому чалавеку…

— Прабачце… Прабач… Разумееш… — сын зноў замоўк. — Я некалі адцураўся ад цябе… І гэта стрэмкаю сядзіць ува мне… То як жа я магу — тады адцураўся, а цяпер браць у вас… у цябе грошы…

— Але, узяўшы ў мяне грошы, ты прызнаеш мяне за бацьку… Рэабілітуеш сябе, так сказаць.

— Такім спосабам я не магу сябе рэабілітаваць… І наогул, я цяпер сам забяспечаны чалавек. Машыны, праўда, не маю, але я і не адчуваю патрэбы… Навошта яна мне, я чалавек не тэхнічны.

Сын не прыняў бацькавай дапамогі, гэтым яшчэ раз моцна яго пакрыўдзіўшы. Як ніколі адчуў ён сябе адзінокім.

Калі ён памёр, яго хавалі калегі па пяру. Завезлі труну на радзіму. Ні былой жонкі, ні сына на пахаванні не было.

І як жа так бывае ў жыцці — калі чужыя людзі робяцца самымі блізкімі, роднымі, а родныя, крэўныя — чужымі.

## Паскрэбак

— Мамачка, можа, хоць кісялю вып'еш, ты ж сёння нічога не ела, — пыталася дачка ў хворай маткі.

Матка хварэла даўно, яна разумела, што ўжо не ачуняе, што скора памрэ, і хацела б прыспешыць гэту гадзіну, каб не быць цяжарам для дачкі, у якой і так хапае клопатаў — работа, свае дзеці, муж, за якім таксама трэба глядзець, як за дзіцем, нерастаропны нейкі, побыт для яго, што цёмны лес, за ўсё сваё жыццё ні разу бульбы не наабіраў, хоць увогуле чалавек не кепскі, не п'е, не курыць. Але апроч сваёй работы нічога не ўмее і не ведае.

Часам на маці навальваліся моцныя болі, такія моцныя, хоць крыкам крычы. Дачка выклікала «хуткую дапамогу», хворай рабілі ўкол, і болі адступалі. Тады яна пачынала ўспамінаць усё сваё жыццё.

Папярэджвалі ж людзі, каб не выходзіла замуж за Антося, што п'е, але ёй падбіралася пад трыццаць, акрамя таго, мела дзяўчынку ад першага мужа, які рана памёр, пакінуўшы яе з малым дзіцем, і Антось здаваўся апошнім шанцам займець сям'ю. Ды і спадзявалася — а можа, кіне піць, можа, будзе бацькам яе асірацелай дачушцы.

Не кінуў піць. І бацькам яе дачушцы не стаў.

Да вайны яшчэ так-сяк перабіваліся. Антось быў просты рабочы, рабіў на заводзе і зарабляў мала. Праўда, кожны месяц гаварыў:

— Ну, гэтым разам я прынясу табе добрую палучку.

А прыходзіў дзень палучкі, і праз акно было відаць — ідзе і хістаецца, а то і ляжыць недзе пад плотам. А палучка — зноў капейкі. Затое дзетак рабіць быў майстра, пасыпаліся адно за адным, не паспявала аднаго адвучыць ад цыцкі, як зноў жывот на нос лезе. Не агледзелася, як чацвярых нарадзіла, а з тою, старэйшаю, значыць, пяцёра.

Але да вайны так-сяк ліпелі. Яна і сама старалася зарабляць. Наймалася надомніцаю ў вышывальную арцель, уладжвалася

кандуктаркаю ў трамваі, умела шыць — мела швейную машынку «Зінгер». Суседкі заказы прыносілі — пашыць то спадніцу, то блузку. А як да разліку даходзіла, не ведала, колькі прасіць. Суседка пытаецца:

— То колькі з мяне?

— Ат, не ведаю, — адказвала. — Колькі дасце.

Але тут вайна… Цяпер і мізэрнай палучкі муж не прыносіў. І суседкі заказаў не давалі.

Пачалі прыязджаць на падводах сяляне з Заходняй Беларусі, прывозілі бульбу, муку, але за гэта прасілі адзежу ці так які тавар. Увесь небагаты скарб, што нажылі да вайны, пайшоў на тыя бульбу ды муку. Паехала ў Заходнюю Беларусь і машынка «Зінгер». А далей не было чаго мяняць, трэба было рабіць нейкі абарот і самой хадзіць у Заходнюю.

Купляла на базары фарбу, запалкі, ніткі і насіла ў вёскі — мяняць на крупы.

Успамінае хворая кабета, пакуль боль адпусціў, як цяжка было ёй хадзіць пехатою па вёсках, мяняць свой тавар на прадукты, як накідваліся ў тых вёсках сабакі, як часам і гаспадары, як тыя сабакі, брахалі на яе:

— Давялі вас вашы камуністы з калгасамі, чаго ж у свае вёскі не ходзіце, а ўсё да нас, да заходнікаў?

У нечым мелі рацыю, мяняць з гарадоў кіраваліся ў Заходнюю Беларусь, вёскі Усходняй Беларусі самі галадалі.

Хадзіла з торбачкаю за плячыма, часам брала старэйшую дачку — не ведала дзяўчынка маленства. Муж заставаўся дома, баяўся хадзіць па вясковых дарогах, казаў:

— Немцы яшчэ падумаюць, што партызан, і застрэляць.

Так што ёй прыходзілася карміць не толькі дзяцей, а і мужа.

У адным з паходаў зразумела — яна зноў цяжарная. Гэта было жахліва. І так пяцёра дзяцей, ды вайна… Навошта яшчэ адно дзіця!

Яна ўзвальвала на сябе непасільную ношу, падымала цяжар, піла нейкія зёлкі. Яна хацела забіць, атруціць гэта дзіця ў самым зародку. Але дзіця жыло, хутка яно заварушылася, застукала ножкамі ў жывот. Не хацела паміраць.

Усё цяжэй было хадзіць ёй па дарогах, але яна сілілася, спадзявалася, што дзіця не вытрывае, загіне.

Дзяўчынка не загінула, нарадзілася здаровенькая, прыгожая.

Як выкачалася гэта дзіця ў вайну — невядома, але выжыла, вырасла і вось цяпер — пры мацеры. Старэйшыя разбегліся, разбрыліся хто куды, а гэта, паскрэбак, тут.

— Мамачка, дык, можа, табе кісяльку даць, ты ж сёння нічога не ела…

— Не, дачушка, дзякуй, мне ўжо нічога не трэба, хутчэй бы ўжо…

— Што хутчэй?

— Ну, развязаць табе рукі…

— Не трэба так гаварыць… Пакуль маці жывая, я маладая, — адказвала дачка.

— Што б я без цябе рабіла, — уздыхала матка, а сама ўспамінала, як хацела забіць гэта дзіця.

Зноў падбіраліся болі, зноў трэба было выклікаць «хуткую дапамогу». Маці памірала. Апошнія яе словы былі:

— Даруй мне, дачушка.

Дачка ніяк не магла зразумець — за што маці просіць у яе прабачэння.

## Валя-Рахіля

Яе муж быў вялікі начальнік, і калі пачалася вайна і да горада падступілі немцы, яго канторы далі машыну для эвакуацыі. І ён разам са сваімі супрацоўнікамі сеў у тую машыну і пакінуў ужо разбураны, ахоплены агнём горад. А жонка засталася дома, трапіла пад акупацыю.

Ён вельмі перажываў, што не змог узяць з сабою жонку, але думаў, што ўсё гэта часова, скора нашы прагоняць немцаў і ён вернецца дадому. Але немцы ўсё мацней асядалі на заваяванай зямлі, дзверы дадому зачыніліся.

А жонка вельмі разгубілася, прывыкла жыць за мужавай спінаю, а тут засталася адна.

Яна пайшла на працу ў кантору, якую адкрылі немцы — нібыта для беларусаў, абяцалі пасля вайны даць беларусам самастойнасць. Яна не верыла немцам, служыла ў той канторы, бо трэба было неяк жыць. Ды і сама спадзявалася, што гэта не надоўга, што нашы хутка вернуцца. Вялікага граху — што служыць у нямецкай канторы — за сабою не чула: яна ж не робіць шкоды сваім.

Аднойчы да яе прыйшла былая сяброўка і прывяла з сабою дзяўчынку гадоў чатырох — худзенькую, з густою стрэшкаю кучаравых валасоў, са спалоханым позіркам сініх вачэй. У сяброўкі на грудзях і спіне была прышыта круглая жоўтая латка — так немцы абазначалі яўрэяў.

— Паслухай, — сказала былая сяброўка, — хоць ты і служыш у нямецкай канторы, я не веру, што ты прадалася немцам.

Ратуй яе, — яна паказала на дзяўчынку. — Мы ў гета галадаем, а ходзяць чуткі, што хутка немцы знішчаць гета. У другіх гарадах ужо пазнішчалі. Ну, нам, дарослым, не ўратавацца, а дзіця… За што ёй гінуць? Толькі за тое, што нарадзілася яўрэйкаю? Але, бачыш, яна і не вельмі падобная на яўрэйку — сінявокая.

Жанчына нядоўга думала, сказала былой сяброўцы — пакідай…

І былая сяброўка дзяўчынку пакінула. А хутка немцы сапраўды знішчылі гета. Усіх яўрэяў вывезлі за горад і расстралялі.

Дзяўчынка засталася з жанчынаю.

У яе было яўрэйскае імя — Рахіля. Жанчына назвала яе Валяю. Суседзям сказала, што гэта дачка яе сястры, якая нядаўна памерла, і што цяпер дзяўчынка — яе дачка.

Суседзі асабліва не прыглядаліся і не прыслухоўваліся, у кожнага было сваё гора. Ды і ставіліся да жанчыны не вельмі прыветна — працуе ў нямецкай канторы, немцам прадалася. І ў галаву суседзям не магло прыйсці, што кабета гадуе яўрэйскае дзіця.

Але вось скончылася вайна, і вярнуўся з эвакуацыі муж — вялікі начальнік. За тое, што служыла ў нямецкай канторы, жанчыне пагражала суровае пакаранне. Але муж, вялікі начальнік, неяк уратаваў. Хоць і пад ім крэсла моцна хісталася, але неяк утрымаўся ў высокім крэсле. Лягло на вагі і тое, што жонка ўсю вайну гадавала яўрэйскае дзіця — сама ж рызыкавала жыццём.

Муж прыняў жонку, прыняў і дзяўчынку — сваіх дзяцей не мелі. Муж і цяпер меў добрую зарплату, акрамя таго, меў доступ да закрытых магазінаў, і калі пасля вайны ўвесь народ галадаў, яны мелі ўволю і хлеба, і да хлеба.

Неяк, збіраючы дзяўчынку ў школу, жанчына сказала, быццам сама сабе:

— Некалі я цябе ўратавала, а потым ты мяне…

Дзяўчынка не зразумела гэтых матчыных слоў, ды і навошта ёй было іх разумець.

Жыццё пакацілася — спакойнае, харошае, яны ўсе любілі адно аднаго, пра вайну ўспаміналі, як пра ліхі сон.

Але аднойчы ў іх кватэру пастукаліся і ўвайшоў мужчына — невысокага росту, чарнявы, кепска паголены, у паношаным шынялі і разбітых ботах. Ён папрасіў, каб паклікалі дзяўчынку, а калі тая ўвайшла ў залу, куды маці запрасіла мужчыну, той кінуўся да малой, абняў, пачаў цалаваць і сказаў, што ён яе бацька і прыйшоў забраць яе.

Дзяўчынка спалохалася незнаёмага мужчыны і схавалася за матчыну спіну, а калі чалавек пачаў яе ўгаворваць пайсці з ім, закрычала:

— Нікуды я з вамі не пайду, тут мае тата і мама!

Мужчына заплакаў. Але пераканаць дзяўчынку, што ён яе сапраўдны бацька, угаварыць пайсці з ім — не змог.

Ён прыходзіў і другі, і трэці раз, казаў:

— Ты ніякая не Валя, ты Рахіля, мая дачка, твая маці загінула, гэтыя людзі прытулілі цябе і выдаюць за сваю дачку… Я гэтым людзям вельмі ўдзячны. Я ўсю вайну быў на фронце, а як скончылася вайна — шукаў тваю маці, шукаў цябе, добрыя людзі падказалі, што ты тут…

Дзяўчынцы не падабаўся мужчына ў паношаным шынялі, не падабалася імя Рахіля, яна Валя, яна тут жыве і нікуды адсюль не пойдзе.

Прыёмная маці таксама не вельмі ахвотна адчыняла дзверы нечаканаму госцю. І ён хадзіў у школу, каб там убачыць дачку, пагаварыць з ёю. Але і ў школе дзяўчынка ўцякала ад яго, хавалася пад парты.

Аднойчы, калі малой не было дома, ізноў завітаў нечаканы госць, жанчына запрасіла яго за стол, падала гарбату і пачала гаворку:

— Што вы можаце даць вашай дачцэ — адзінокі, беспрытульны чалавек? А тут у яе ёсць усё, што трэба дзіцяці… Яна да нас прывыкла, і мы да яе… Яна нам як дачка.

— Але гэта мая кроў, — адказваў мужчына, — і акрамя яе ў мяне нікога няма на свеце.

— Я вас разумею… Але вы яшчэ малады, можаце ажаніцца і ў вас будуць яшчэ дзеці. Калі вы любіце сваю дачку і жадаеце ёй шчасця, то пакіньце яе ў спакоі, з’едзьце куды-небудзь, знікніце…

І ён знік. І больш у гэтым доме не паяўляўся.

Прайшлі гады. Дзяўчынка вырасла, скончыла інстытут, выйшла замуж, у яе з’явіліся свае дзеці. І раз-пораз пачаў усплываць у памяці чарнявы, кепска паголены мужчына ў паношаным шынялі, які казаў:

— Ты ніякая не Валя, ты Рахіля, я твой бацька, я цябе шукаў…

І яна, употай ад сваіх прыёмных бацькоў, пачала шукаць свайго роднага бацьку.

Але не знайшла.

## Бездань

Яна была вельмі шчаслівая. Муж, якога некалі, дзяўчынаю, моцна палюбіла, і аказалася, што ён яе таксама палюбіў. Яны пажаніліся, і цяпер у іх двое дзетак, хлопчыкаў, якіх яны з мужам таксама вельмі любяць. Ды муж не толькі прыгожы, добры чалавек, ён яшчэ і знакаміты паэт, яго ведае ўся рэспубліка, яго запрашаюць на заводы, у школы, і ён чытае там свае вершы — пра любоў да Радзімы, пра вялікага Сталіна, пра самую справядлівую краіну на зямлі, пра будучае ўсяго чалавецтва — камунізм, які запануе на ўсім свеце. Такія вершы ён чытае на заводах, у школах, а дома, ёй, чытае вершы пра каханне, шмат вершаў ён прысвяціў ёй, але нікому не гаворыць, што піша вершы пра каханне і прысвячае іх жонцы.

Яны мелі добрую кватэру, хапала ў іх і хлеба, і да хлеба, шчасце было поўнае.

Але аднойчы перад домам, у якім яны жылі, спыніўся «чорны варанок», з яго выйшлі трое ў вайсковай форме, падняліся да іх у кватэру. Паказалі мужу нейкія паперкі і пачалі вобыск. Яны скідалі з паліц кнігі, вытрасалі бялізну з шуфлядак. А потым загадалі мужу апранацца і павялі з сабою, увапхнулі ў той чорны варанок.

Праз колькі дзён прыйшлі вайскоўцы і па яе — арыштавалі як жонку ворага народа. Калі яе забіралі, дзеці моцна плакалі. Яна казала тым вайскоўцам:

— А як жа дзеці, як дзеці без мяне?

— Не хвалюйцеся, — адказвалі ёй. — Пра дзяцей дзяржава паклапоціцца.

Ёй не далі нават развітацца з дзецьмі, пацалаваць на развітанне.

Яна адседзела ў лагеры дзесяць гадоў. Пра мужа нічога не ведала. Не ведала, што яго ўжо няма жывога, вельмі скора пасля арышту яго расстралялі. Потым людзі, якія сядзелі разам з ім у камеры, але вярнуліся да жыцця, расказвалі ёй, што ён біўся ў камеры галавой аб сцяну і крычаў:

— За што?! За што?!

Ёй дапамагла выжыць надзея — вось вернецца, знойдзе сваіх дзяцей. Гэта ж столькі часу прайшло, яны падраслі, ужо вялікія.

Яна вярнулася ў горад, з якога забралі. Горад змяніўся, будаваліся новыя дамы, казалі, што ў вайну ён быў увесь разбураны. Але дом, у якім некалі жылі, застаўся такі самы.

Яна пастукала ў дзверы іх былой кватэры. Як ачмурэнне, прыйшла думка, што дзверы адчыняцца і выйдзе муж. Але

выйшла незнаёмая поўная жанчына ў брудным на жываце халаце.

Яна спытала ў незнаёмай жанчыны, ці не ведае яна, дзе дзеці, якія некалі тут жылі.

Жанчына недаўменна паціснула плячыма. Яна нічога не ведала.

Дзе шукаць дзяцей?

Яна пачала хадзіць па прытулках.

У адным прытулку казалі, што ў час вайны некаторыя прытулкі эвакуіравалі ў Расію, дзе цяпер тыя дзеці — хто ведае.

У другім прытулку казалі, што некаторых дзяцей з прытулкаў немцы пагналі ў Нямеччыну, можа, каб мець дарэмную рабочую сілу, а можа, каб выгадаваць з іх салдатаў фюрара.

У трэцім прытулку наогул нічога не ведалі пра тое, што рабілася тут да вайны і ў вайну, прытулак толькі што арганізавалі, вайна напладзіла сірот.

Доўгімі бяссоннымі начамі яна думала: «Дзе ж мае дзеці?» Яна чула ад людзей, што дзецям ворагаў народа мянялі імёны, прозвішчы. «Калі мае дзеткі жывыя, — думала яна, — то не будуць ведаць, якога яны роду-племені, хто іхнія бацькі».

Яна шукала іх шмат гадоў, а потым падумала: «Калі яны засталіся жывыя, то ўжо дарослыя… І матка ім ужо непатрэбная… Я ім была патрэбная маленькім… Але мяне ў іх адабралі… І іх адабралі ў мяне».

Дзеці згінулі, як у бяздані…

## «Чакай мяне»

Перадача, якую глядзіць увесь свет. Бо па ўсім свеце раскідаў лёс людзей, адарваў ад вельмі дарагіх, і яны цяпер блукаюць у пошуках. І часам знаходзяць, на другім канцы свету, праз пяцьдзясят, праз шэсцьдзесят гадоў. І як вытрымліваюць іхнія сэрцы, калі ўся студыя часам плача — ад спачування, ад радасці за чужых людзей.

Вядучыя перадачы — Ігар Кваша і Маша Шукшына — так упісаліся ў яе, што без іх перадача немагчымая. Аднойчы іх замянілі на іншых вядучых, і перадача раскідалася, страціла цікавасць. На тэлебачанне пасыпаліся лісты ад гледачоў, ад тых, хто спадзяваўся на перадачу як на цуд. У лістах было адно патрабаванне — вярніце Ігара Квашу, вярніце Машу Шукшыну.

І іх вярнулі. І перадача зноў займела свой вялікі аўтарытэт.

Перадача расказвае пра гісторыі, якіх не прыдумаеш, жыццё стварае такія сюжэты, якіх не пад сілу стварыць самаму тале-

навітаму пісьменніку. І яшчэ — передача здольная тварыць цуд. Сюды прыязджаюць людзі, якія ўжылі ўсе спосабы, каб знайсці роднага чалавека, і не знайшлі яго. Прыязджаюць з усяго свету, спадзеючыся на той цуд. Яны сядзяць усе ў той студыі і спадзяюцца.

Маша Шукшына з мікрафонам у руцэ падыходзіць да аднаго, да другога.

— Каго вы шукаеце?

Шукаюць сына, мужа, сястру, сяброўку.

Але вось Маша Шукшына спыняецца каля юнака, якому гадоў дзевятнаццаць. Звычайны, нічым не прыкметны хлопец.

— Каго вы шукаеце? — пытаецца ў яго Маша.

Хлопец хвалюецца, не адразу знаходзіць словы, каб растлумачыць сваю просьбу. Потым гаворыць:

— Я выгадаваўся ў дзіцячым доме… Бацькоў сваіх ніколі не бачыў. Але нядаўна ў архівах прытулку знайшоў іх прозвішчы. (Ён назваў тое прозвішча, але я не запомніла, а выдумляць не хачу.) Я знайшоў тое прозвішча… — Хлопец адкашляўся, каб прагнаць хрыпату. — І хацеў бы знайсці сваіх бацькоў. Я ім дарую… Ці мала што магло іх прымусіць здаць мяне… Я ім дарую… Няхай яны адзавуцца…

«Божа мой, — падумала я, — як жа патрэбна чалавеку блізкая душа, каб ён не адчуваў сябе адзінокім у вялікім свеце, дзе так шмат людзей, і ўсе — чужыя…»

Бацькі юнака! Адгукніцеся! Ён вам усё дараваў! Вы нарадзілі, а чужыя людзі выгадавалі такога харошага хлопца!

# ПОШУКІ ІСЦІНЫ
*Абразкі*

## Душа народа

Памерла Астрыд Ліндгрэн — шведская пісьменніца, аўтарка сусветна вядомых твораў для дзяцей. І шведскі ўрад аб’явіў жалобу, бо імя пісьменніцы было абліччам краіны.

Так ставяцца ў цывілізаваным свеце да духоўных каштоўнасцяў, носьбіты якіх — пісьменнікі, бо дзякуючы ім краіна набывае вядомасць ва ўсім свеце. Бо што была б Расія без Пушкіна, без Талстога, без Дастаеўскага? І што была б Беларусь без Купалы, Коласа, Быкава?

А ў нас пісьменнікаў трымаюць у чорным целе.

## Шчасце і гора

Падзьмуў вецярок, і заяснела неба, і прыплыў непаўторны водар — як было і сорак гадоў таму назад, калі была я маладая і шчаслівая і ўсё жыццё здавалася наперадзе — бясхмарнае і ў радасці.

Але вось такі самы падзьмуў вецярок, таксама заяснела неба, і зноў той самы непаўторны водар, але жыццё ўжо ззаду, усё ўжо ў мінулым, і як жа скора праляцелі радасць і гора жыцця.

## Слова

У Кактэбельскім доме творчасці адпачывала немаладая пара, але было відаць, якія яны закаханыя. Хадзілі, узяўшыся за рукі, у моры плёскаліся, як дзеці, нідзе адно без аднаго не бывалі. Я сказала сваёй сяброўцы, жонцы аднаго нашага пісьменніка:

— Якая прыемная пара, і як яны закаханыя адно ў аднаго.

Тая грэбліва скрывілася:

— Іхняе каханне трымаецца на адным, — з грубым намёкам сказала яна. І быццам мазанула тых людзей чорнаю фарбаю, быццам абліла іх брудам.

Я разумела цану тым несправядлівым словам, але нейкі асадак ад іх у мяне застаўся. І колькі потым ні сустракала я тую пару, у іншых дамах творчасці — не магла ўжо глядзець на іх з былым замілаваннем. Вось што значыць слова, сказанае пад руку.

## Слава

Слава — як тое мора: каго падніме на невялікую хвальку, другога ўскіне на вал штармавы, а трэці так і пражыве ўсё жыццё ў штылі.

## Чырвоная кніга

Чалавецтва вельмі непакоіцца, калі з зямлі пачынаюць знікаць якая травінка ці мурашка, якая птушачка. Тую травінку ці мурашку, тую птушачку заносяць у Чырвоную кнігу і пад пагрозаю суровай кары забараняюць іх знішчаць.

Гінуць, знікаюць беларуская мова, культура, а з імі і дзяржава. То чаму б не занесці мову беларускую ў Чырвоную кнігу і пад пагрозаю суровай кары забараніць з яе здзекавацца, забараніць яе знішчаць?

## Розум

Кожны арганізм сам сябе забівае. Усё жывое праходзіць гэты непазбежны цыкл — ад нараджэння да смерці. То, можа, і чалавецтва, як пэўны арганізм, само сябе знішчыць, і без усялякіх катаклізмаў? Няўжо іменна для гэтага прырода дала чалавеку розум? Бо што б ні вынаходзілі вучоныя, заўсёды атрымліваецца, як той казаў, пісталет.

## Нянька

Удавец з добрым наборам хвароб, маючы за семдзесят, але багаты і славуты, вырашыў зноў ажаніцца. Доўга шукаў жанчыну, каб была добрая, жаласлівая і каб яго шкадавала. Ведаў, што яму не так патрэбна жонка, як нянька.

Добрых, жаласлівых жанчын у нас хапае, і ён знайшоў такую, і нават маладую, прывабную.

Яна тры разы на дзень мерала яму ціск, гатавала дыетычныя стравы, раніцою і вечарам выводзіла на прагулку. І дагледзела яго да апошняга ўздыху. А потым прыйшлі ягоныя дзеці і забралі ўсё яго багацце, і нават бацькаву кватэру сабе адваявалі.

## Кожны чацвёрты

У час Вялікай Айчыннай вайны загінуў кожны чацвёрты беларус. Сёння кожны чацвёрты беларус гіне ад гарэлкі.

## Чужое

З’ехалі беларусы ў Канаду — шукаць лепшай долі — муж, жонка і дачка гадоў дванаццаці. Аддалі там дзяўчынку вучыцца ў нейкі каледж. І ўсё ёй там чужое — і мовы, і звычаі. Звоніць бабцы ў Мінск па тэлефоне:

— Бабка, я так хачу ў сваю школу…

А ў бабкі сэрца разрываецца.

## «Радуга»

Першы савецкі кінафільм, які ўбачыла я пасля вызвалення ад фашыстаў горада Шчучына, у якім жыла ў час вайны, быў кінафільм «Радуга». Я цяпер не памятаю зместу таго фільма, але памятаю, што я ўвесь гэты фільм, ад пачатку да канца, праплакала.

## Здрада

Муж здрадзіў жонцы, пайшоў да другой. А потым вяртаецца, просіцца назад.

— Не, — сказала былая жонка. — Быццам бы маю сукенку чужая баба насіла, насіла, а потым аддала мне, зношаную. Не магу я яе зноў надзець. Так што і не прасіся.

## Гной

Гной — сімвал бруднага, цяжкага сялянскага жыцця.

— Я ўвесь свой век корпаўся ў гнаі, не хачу, каб і мае дзеці не ведалі нічога, апрача гною, — казаў некалі селянін.

А сёння дачнікі шукаюць, купляюць той гной і плацяць за яго вялікія грошы.

## Гармонія

Прырода творыць толькі прыгажосць, толькі гармонію. Паглядзіце на венчык любой кветкі, на кляновы лісток, паглядзіце на птушку, на яе пёркі, на звера з яго прыгожаю поўсцю. Паглядзіце на камара, гэтага маленькага крывасмока, як гарманічна, практычна створаны ён. У яго, такога маленькага, ёсць матор для палёту, джала, якім прабівае скуру чалавека, і нават органы размнажэння.

Прырода не стварае нічога брыдкага, і толькі чалавек разбурае гармонію, разбурае прыгажосць — п’янствам, распустаю,

подласцю, зладзействам. Ён закідвае зямлю смеццем, ядам насычае паветра.

І толькі музыка, мастацтва часам ствараюць гармонію.

## Навука гісторыя

Агрэсіўныя, зацятыя мужчыны вялі войны, а жанчыны берaглі дом і чакалі іх, тых, хто не склаў галавы.

Жанчыны падтрымлівалі агонь у сваім ачагу, варылі есці, нараджалі дзяцей. Яны нараджалі хлопчыкаў, якія вырасталі ў мужчын і зноў кідаліся ў бойкі. Гэтых мужчын чакалі ўжо іншыя жанчыны і зноў нараджалі дзяцей — дзяўчынак, каб берaглі ачаг, варылі есці, і новых хлопчыкаў, каб тыя зноў вырасталі ў мужчын і зноў ваявалі.

## Думка

Як птушка ў гібкіх трасніках,
Стралою думка мільганула,
І тут жа знікла, патанула,
Як птушка ў гібкіх трасніках…

Як жа дакладна напісаў пра гэта Максім Багдановіч! І праўда — прыйдзе думка, і калі яе не ўхопіш адразу за хвост, не занатуеш — знікне і, можа, ніколі ўжо да цябе не вернецца.

## Партызан

У час вайны бабка прывяла ў царкву ўнука, які дасюль не быў у царкве ні разу. І ўбачыў хлопчык на вялікім крыжы, у чалавечы рост, распятага Хрыста.

Унук спытаўся ў бабкі:

— Гэта партызан? Гэта немцы яго так?

## Малпа

Чалавек не паходзіць ад малпы, ён сам малпа, толькі гэтай малпе дадзены розум.

Але чалавек са сваім розумам абыходзіцца, як звычайная малпа, — не разумее, што творыць. Розумам сваім чалавек-малпа робіць усё, каб сябе знішчыць.

## Марское дно

Ці бачылі вы дно марское? Не па тэлевізары, не ў праграме «Усе падарожжы каманды Кусто», а сваімі вачыма? А я бачыла — у кактэбельскай Сердалікавай бухце, калі плавала там з маскаю і ластамі.

Такога хараства не можа перадаць ніякі тэлевізар, бо абмяжоўвае карцінку рамкамі экрана. А тут бачыш усё, што можа ахапіць вока. Узгоркі марскога дна пакрыты, быццам горы лесам, зялёнымі водарасцямі, яны гайдаюцца ад плыні марской вады, як дрэвы на ветры. Сонца праз тоўшчу вады асвятляе гэта хараство, перабягае туды-сюды сонечнымі зайчыкамі. І мільгаюць між тых зялёных, чырвоных, жоўтых сонечных узгоркаў бліскучыя рыбкі, спаважна плаваюць празрыстыя блакітныя медузы. І яшчэ — страшна робіцца ад той глыбіні, што пад табою. Калі плывеш па хвалях, глыбіні той не бачыш, не адчуваеш, а зірнеш праз тоўшчу вады на марское дно — і ўбачыш, якая пад табою прорва.

## Паслы

Вядомы анекдот: у адной канібальскай краіне з’елі пасла еўрапейскай дзяржавы. Еўрапейская дзяржава выказала пратэст з таго поваду. Краіна канібальская папрасіла ў еўрапейскай прабачэння, а ў знак кампенсацыі дазволіла з’есці свайго пасла.

Нешта падобнае адбываецца і паміж еўрапейскімі дзяржавамі. Адна дзяржава выставіць ні з таго ні з сяго пасла са сваёй краіны, а другая ў адказ, таксама ні з таго ні з сяго, выставіць пасла той дзяржавы. Добра яшчэ, што тых паслоў не з’ядаюць.

## Мова

Мацерную мову ў Мінску ўжываюць куды часцей, чым родную, беларускую. Беларускай мовы на вуліцах не пачуеш, а ад мацернай — у вушах звініць.

## Адлучэнне

Некалі Льва Талстога адлучылі ад царквы за тое, што крытыкаваў царкву, сумняваўся ў некаторых рэлігійных догмах.

Вельмі падобна гэта на тое, як выключалі камуністаў з партыі — за тое, што крытыкавалі партыю і сумняваліся, ці можна пабудаваць камунізм.

## Бабулькі

Ссохлыя, з выцвілымі тварамі, з кіёчкамі ў руках — ходзяць-поўзаюць па вуліцах. І не хочуць паміраць, хочуць выпіць свой келіх жыцця да дна.

## Вусцішна

Робіцца вусцішна за чалавека і чалавецтва, калі бачыш: забойцу чачэнскай дзяўчыны, які выходзіць з будынка суда, сустракаюць з кветкамі, як вялікага героя.

## Крыжык

На сцяне, над маім пісьмовым сталом, вісіць чорны драўляны крыжык з распяццем. Яго падаравала мне родная сястра Цёткі Караліна Пашкевіч, з якою я сустракалася ў Польшчы, у вёсачцы Франін каля Лодзі ў 1977 годзе. Пані Караліна сказала мне, што гэты крыжык вісеў над ложкам яе маці ў Старым Двары, значыцца, над ложкам маці Алаізы Пашкевіч.

Лёс чалавека, лёс рэчы… Ці магла некалі нават уявіць сабе маці Алаізы Пашкевіч, Ганна з роду Вызгаў, што крыжык, які вісіць над яе ложкам, будзе некалі вісець над сталом жанчыны, якая ў той час яшчэ і не нарадзілася. І гэты крыжык той жанчыне будзе вельмі дарагі.

## Гісторыя кахання

Яна — чарнабровая, з тоўстаю чорнай касою, белатварая. Ён — цыбаты, белабрысы, сінявокі… Яны кахалі адно аднаго, але ён стараўся тое каханне хаваць ад людзей. Таемна сустракаліся, таемна любіліся. І вось яна зацяжарала. І трэба было прымаць рашэнне. І ён адмовіўся ад яе, пакінуў. Бо марыў пра кар’еру, а яна была дачкою папа, а такая жонка дарогу да кар’еры перакрыла б. Хаця таго папа і пападдзі даўно не было на свеце. У час вайны іх забілі бандыты. Забілі б і дачку, каб не было сведкі, ды дачка ў тыя дні гасцявала ў цёткі.

Але сацыяльнае паходжанне дзяўчыны заставалася, а ішлі пяцідзясятыя гады. І яна зразумела свайго каханка, і даравала яму здраду.

Нарадзіла дачку. Тая вырасла — прыгожая, хоць і падобная на бацьку. Але і яе ніхто не браў замуж. Можа, таму, што як-ніяк — папова ўнучка?

## Культ асобы

Памятаю сход у Саюзе пісьменнікаў, дзе зачытвалася пастанова дваццатага з’езда партыі, у якой развенчваўся культ асобы. Была вялікая актыўнасць членаў Саюза, і яшчэ прыйшлі работнікі рэдакцый, выдавецтваў. Зала была паўнюткая. Але перад пачаткам сходу партыйнае кіраўніцтва Саюза загадала ўсім не членам Саюза пакінуць залу. Работнікаў рэдакцый і выдавецтваў не вельмі далікатна з залы выставілі. Хаця пра змест той пастановы гаварылі ўжо на кожным скрыжаванні ў горадзе. Але захоўвалася таямнічасць — не ўсім дазволена ведаць тое, што дазволена ведаць некаторым.

## Бацькі і дзеці

Часта дзеці адказваюць за грахі сваіх бацькоў. І яшчэ часта дзеці выносяць на свет Божы тое, што старанна хавалі ад людзей бацькі.

## Фатаграфія

Знаёмая падарыла мне фатаграфію — яна з мужам, маладым сімпатычным мужчынам. Было відаць, што пара закаханая. На фатаграфіі — галоўка да галоўкі. Я-то ведала, а каб паглядзеў на фатаграфію хто староннi, то яму і ў галаву не прыйшло б, што малады сімпатычны мужчына — без абедзвюх ног. Пакінуў іх у Германіі, недзе блізка ўжо каля Берліна.

## Вайна

Кожная вайна рана ці позна канчаецца мірам. Але не ўваскрэснуць мільёны юнакоў і мужчын, якіх уабрала ў сябе зямля і якія маглі б, магчыма, нарадзіць геніяў.

## Замежная мова

У час майго школьнага навучання ўрокі замежнай мовы па статусе былі такія, як урокі фізкультуры ці малявання, адным словам, несур’ёзныя, і мы канчалі школы, інстытуты, так і не ведаючы ніводнай замежнай мовы. Ды лічылася, што нам тая замежная мова і не вельмі патрэбна, няхай тыя капіталісты вывучаюць рускую — скора ж на ўсім свеце будзе камунізм і на ўсім свеце запануе мова руская.

Міналі гады, мяняўся час — і вось сёння інтэлігентны чалавек не ўяўляе ўжо сябе без мовы англійскай, яна яму сёння надта патрэбная. І вывучаюць, штудзіруюць.

## Зоркі

Геніяльныя людзі — як далёкія зоркі. Зорка тая даўно патухла, а святло ад яе струменіць і струменіць.

## Бессмяротная

На могілках, паміж магіл, бегала дзяўчынка гадоў пяці — бяляўвенькая, у чырвонай куртачцы — і крычала:

— Мама, здесь так красиво, памятники стоят, цветочки растут!

Шчаслівае дзіця, пакуль бессмяротнае.

## Працэс

Калі ішоў вядомы судовы працэс супроць паэта Іосіфа Бродскага, шмат якія вядомыя дзеячы культуры, літаратуры выступілі ў абарону паэта. Звярнуліся і да Аляксандра Салжаніцына, каб і ён падаў голас у абарону. Але Салжаніцын сказаў, што не будзе ўмешвацца ў судовы працэс, бо, наколькі яму вядома, ніводнаму рускаму пісьменніку перасьледаванні не пашкодзілі.

## Роля паэта

Знакаміты англійскі паэт Уінстан Х'ю Одэн занатаваў:

«Нічога з таго, што я пісаў пра Гітлера, не выратавала ад пагібелі ніводнага яўрэя.

І нішто з таго, што я пісаў пра вайну, не наблізіла канца вайны ні на адну хвіліну».

Вялікая скруха паэта.

## Свет перакуліўся

Колькі разоў на маім вяку перакуляўся свет?

Першы раз — калі пачалася вайна, і разбурылі горад, і прыйшлі немцы. А мы ж спявалі песні пра нашу непераможнасць…

Другі раз свет перакуліўся, калі паказалі сапраўднае аблічча Сталіна. Калі ён — самы мудры, самы справядлівы, самы разумны — аказаўся такім вурдалакам, то чаго чакаць ад звычайнага чалавека?

Трэці раз перакуліўся свет, калі разваліўся Савецкі Саюз. Значыцца, няма на свеце нічога трывалага — гэткі гігант, маналіт рассыпаўся, варта было пхнуць яго адным пальцам.

## Работа

У Грозным не было рабочых месцаў, па вуліцах бадзяліся беспрацоўныя.

Дашчэнту разбурылі горад, цяпер яго адбудоўваюць — знайшліся рабочыя месцы.

## Разумныя

Прыемна пагаварыць з разумным чалавекам, але… З адным разумным пагаворыш — і сам, здаецца, паразумнееш. А другі так прыгняце сваім розумам, што адчуваеш сябе перад ім поўнаю дурніцаю.

## Надзьмуты пузыр

Як караля робіць світа, так пісьменніка робіць крытыка. Часам так надзьмуць пусты пузыр, што ён высока ўзляціць у паднябессе.

## Выгада

Некаторым нашым пісьменнікам трэба не толькі ўмець пісаць, але і ўмець уладкавацца ў жыцці. Выгадна было належаць да камуністаў — належалі да камуністаў. Зрабілася выгадна славіць Госпада — славяць Госпада.

## Чаму так…

Памірае чалавек, і знікае назаўсёды. Хоць бы зрэдку, калі-нікалі, на хвілiначку завітаў да сваіх — паглядзець, як ім тут, без яго, жывецца, расказаў бы, як яму там…

Дык — не, знікае бясследна…

## Строі

Калі ідзеш на якую імпрэзу і думаеш, што апрануць, кіруешся больш на ўвагу жанчын, бо мужчынам неяк усё роўна, у што ты апранута, а жанчыны так і свідруюць крытычным вокам адна адну.

## З’езд

Трынаццаты з’езд пісьменнікаў. Поўная зала раўнадушных людзей, хаця стан беларускай літаратуры крытычны. Губляецца роля пісьменніка ў грамадстве, трацім чытачоў. Зала раўнадушна слухала посныя выступленні чыноўнікаў, а сама маўчала. Можа, таму, што пісьменнікі ва ўсім зняверыліся? Зразумелі, што нічога іх выступленні не зменяць, не пераменяць?

## Дзеткі

Настаўніца прывезла з вёскі ў Мінск на экскурсію сваіх дзетак — хлопчыкаў і дзяўчынак сёмых, восьмых класаў. Не з далёкай вёскі, не з глухамані — з Мінскай вобласці. Некаторыя з гэтых дзетак ні разу не былі ў сталіцы і баяліся ездзіць на эскалатары ў метро, адна дзяўчынка баялася пераходзіць вуліцу па падземным пераходзе. Як адрозніваюцца гэтыя вясковыя дзеткі ад гарадскіх, якія ўсё ведаюць і нічога не баяцца!

Але затое гэтыя вясковыя дзеткі ведаюць усю сялянскую работу, змалку памагаюць бацькам у полі, у агародзе. І на іх, на гэтых дзетках, некалі будзе трымацца свет, жыццё.

## Грахі

Усе мы грэшныя, усе маем грахі, але не кожнага Бог за грахі карае…

## Матка

У калідоры лечкамісіі мые падлогу, чысціць дываны старая згорбленая бабулька. Я кажу ёй:

— Вам жа цяжка рабіць гэту работу, пара, можа, адпачыць…

— Ага, адпачыць, — гаворыць бабулька. — А дзеці, унукі? Сын мала зарабляе і ўсё кажа — мама, дай, дай…

Божа мой, падумала я. У такія гады дзеці павінны клапаціцца пра матку, у нас жа неяк павялося, што матка да глыбокай старасці гадуе спачатку дзяцей, потым — унукаў.

## Кіты

У акіяне, на вялізнай глыбіні плывуць побач, кранаюцца адзін аднаго два аграмадныя кіты — самец і самка. У іх — каханне. Што вабіць іх адно да аднаго? Якія пачуцці яны перажываюць? — таямніца для чалавека. Але кіруе імі, мусібыць, тое, што і людзьмі, — жаданне пакінуць пасля сябе патомства.

## Перад экзаменамі

У паштовым аддзяленні, каля акенца, дзе працуе ксеракс, — вялікі гурт дзяўчат і хлопцаў. На ксераксе множаць шпаргалкі.

— У наш час такога сэрвісу не было, — жартую я.

— У ваш час шмат чаго не было, нават сексу, — дзёрзка адказвае высокая бялявая студэнтка.

Стаяць студэнты каля акна амаль гадзіну, бо друкуюць шмат шпаргалак. За імі выстраілася доўгая чарга.

— Бачыце, колькі людзей сабралі, — нецярпліва гаворыць пажылы мужчына.

Высокая, бялявая азіраецца, бачыць доўгі хвост чаргі.

— Ну і што, — бесклапотна адказвае яна.

Ім цяпер усім — ну і што!

## Певень

Восень. Усе студэнты, інтэлігенцыя краіны ў калгасах — бульбу выбіраюць. Кожная ўстанова мае сваю разнарадку — колькі штук рабочай сілы ад яе палагаецца.

Я тады вучылася ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры Акадэміі навук. І сюды прыйшла разнарадка. А кім ахвяраваць, адарваць ад сапраўднай навукі — не дактарамі ж ды кандыдатамі. Найлепшыя кандыдаты на бульбяную навуку — аспіранты. Вось мяне і паслалі.

З раніцы да вечара ў халоднай, мокрай зямлі. Часам і пад дажджом. Выбіралі тую дробненькую бульбу, скідалі ў кашы, кашы цягалі да гурбаў, якіх насыпана ўжо і тут і там. Цэлы дзень спіны не разгінаем, толькі цемнатою вяртаемся ў хату, дзе на пастой нас прызначана некалькі жанчын.

Што мы тады елі — не памятаю, але памятаю, як мы клаліся спаць — усе ўпокат на падлозе — і цяжка засыналі. Але праз якія паўгадзіны нас будзіла адчайнае:

— Ку-ка-рэ-ку!

У гаспадыні ў падпеччы жылі куры з пеўнем, і гэты акаянны курыны кавалер праз кожныя паўгадзіны выдаваў сваю арыю.

Я не памятаю, каб я каго так ненавідзела ў той час, як гэтага пеўня.

## О’кэй!

Калі ў амерыканца спытаюць: «Як тваё жыццё?», ён заўсёды адкажа: «О’кэй, усё выдатна». Па-першае, каб не перакладаць

свае праблемы на плечы іншага. А па-другое — у Амерыцы не любяць людзей, якія не маюць поспеху.

Калі ў беларуса спытаюць — як тваё жыццё, ён уздыхне і пачне жаліцца. І, можа, зусім не таму, што яму ўжо вельмі кепска жывецца, а каб не сурочыць. Скажа, што ў яго ўсё добра, — і сурочыць.

## Цюцькі

Раным-раненька вакол нашага дома дзяды і бабулі выгульваюць сваіх бобікаў ды рэксаў. Не сабе заводзілі тых цюцькаў, куплялі ўнукам — надта ж тыя прасілі. А нагуляўшыся з жывымі цацкамі, пакідалі пра іх клапаціцца, і клопат той узялі на сябе старыя. Вось і водзяць на шворках тых сабачак — не выкідаць жа на вуліцу, шкада. Толькі невядома, хто каго выгульвае па тры разы на дзень: дзяды і бабулі тых сабачак ці сабачкі — бабулек і дзядоў.

## Ля кніжнага кіёска

— А ці ёсць у вас які-небудзь твор Янкі Купалы?

— А хто такі Янка Купала? Што ён піша? Дэтэктывы?

Знарок не прыдумаеш…

## Бабульчына мова

Беларуская мова цяпер ужо не матчына мова, а бабчына, можа, нават і прабабчына, бо нашы маткі таксама ўжо паадракаліся ад яе.

## Мараль

У метро маладое дзяўчо прымасцілася на каленях у хлопца і пяшчотна таго абдымае.

На лаўцы насупраць у хустцы, завязанай накругла, з вядром і кошыкам пры сабе сядзіць пажылая кабета. Яна доўга няўхвальна глядзіць на дзяўчыну, потым злосна плюе.

— Злазь! — загадвае яна дзяўчыне. — Як не брыдка, цьфу!

Дзяўчына здзіўлена глядзіць на кабету з вядром і кошыкам, усміхаецца.

— Злазь, табе кажу! Як не сорамна!

Дзяўчыне не было сорамна. І маладыя хлопцы, дзяўчаты, што ехалі ў метро, за яе заступіліся.

— Кінь, бабка!

— Ты ўжо старая!

Тут падышла наступная станцыя, дзверы ў вагоне расчыніліся, пажылая кабета падхапіла свае вядро і кошык, выскачыла за дзверы.

Моладзь праводзіла яе дружным смехам.

Канфлікт пакаленняў…

## Лепш па бабах…

Жанчына жалілася, што муж — п'яніца. Не прасыхае. У яе спыталіся:

— А што лепш, калі муж п'яніца ці калі па бабах ходзіць?

Жанчына падумала, уздыхнула і сказала:

— Лепш ужо па бабах…

Мусібыць, п'яны муж быў ёй такі агідны, што яна гатова была дзяліць яго з іншымі жанчынамі, абы ён быў падобны на чалавека.

## Завушніца на пупку

Усяго пабачыла на сваім вяку, але такое — упершыню. У дзяўчыны на пупку вісела завушніца. Пайшла мода — не толькі выстаўляць аголены пупок, але і чапляць на яго аздобу.

Чым яшчэ падзіваць нас дзяўчаты дваццаць першага стагоддзя?

## Матылёк

Прыгожы матылёк заляцеў у домік, кінуўся да акна, а там сетка. Б'ецца беднае стварэнне, поўзае, лопае крыльцамі, шукае выйсця. А зусім блізка расчыненыя дзверы. Ды матылёк не можа зразумець сваім матылінымі розумам, што выйсце — побач.

Можа, так і чалавек: трапляе быццам у безвыходнае становішча і не можа зразумець, што выйсце знайсці так проста.

## Яшчэ абдурвае

Прыехала сваячка з Салігорска, пытаюся ў яе:

— Як там твая мама, колькі ёй ужо гадоў?

— Дзевяноста сем, — адказвае сваячка. — Усё сама робіць, затопіць лазеньку і сама памыецца. Гуляе ў карты і яшчэ абдурвае…

## Спрэчка

Спрачаюцца муж з жонкаю:

— Я акадэмік, а ты, можна сказаць, непісьменная кабета, і яшчэ тут мне камандуеш!

— Ты акадэмік, а я жонка акадэміка і магу камандаваць!

## Сляды бруду

Калі захочуць загубіць чалавека, альбо, як цяпер, палітыка, то прыдумаюць на яго сотні небыліц, выкачаюць у брудзе, абгадзяць паклёпамі, і ўсё жыццё ён будзе абчышчацца, адмывацца, даказваць, што ён не вярблюд, але людзі чамусьці створаны так, што больш вераць благому, чым добраму, і сляды таго бруду прыклеяцца да яго назаўсёды.

## Пытанне

У разумнага чалавека падчас інтэрв'ю спыталі:

— А што вы думаеце пра сусвет, пра яго стварэнне, існаванне?

— Адкажу вам на гэта пытанне, калі памру, — сказаў разумны чалавек.

## На святой зямлі

На месцы нараджэння Хрыста, на месцы яго катавання, дзе ён аддаў жыццё за выратаванне роду чалавечага, счапіліся ў крывавай бойцы палесцінцы з ізраільцянамі, і на святы пясок, на святыя камяні ліецца кроў, і раўнадушна пазірае на іх зверху Богачалавек, разумеючы, што калі жыццём сваім не акупіў іхнія грахі, то што значыць для іх слова Боскае…

## Прыгажуня

Кракадзілу яго кракадзіліха, мусібыць, здаецца прыгажуняй…

## Стадыёны

Не так даўно, на маёй памяці, паэзія збірала стадыёны. Паэты чыталі вершы, і вялізны натоўп іх з захапленнем слухаў.

Цяпер стадыёны апанавала эстрада з аголенымі спявачкамі, з песнямі без складу і ладу.

Паэзія больш не патрэбна, патрэбны грошы.

## Рэўнасць

Муж пераканаўся, што сабачку жонка любіць больш, чым яго. Сабачку лепшыя кавалкі са стала, сабачку жонка лашчыць, абдымае. Больш таго, мужа адправіла спаць у іншы пакой, на канапу, а сабачка спіць з ёю ў ложку.

Муж раўнуе жонку да сабачкі.

## Ракета

Усё больш дзіўлюся з цудаў свету. Муха — невялічкае надакучлівае стварэнне. Заляціць у хату і носіцца — туды-сюды, туды-сюды, ды на якой хуткасці! Паспрабуй злаві яе!

Гэта ж які павінен быць матор у такога малюпасенькага стварэння, каб развіваць такую хуткасць! Няйнакш, як у ракеты!

## Даглядаў бы

Сын даглядаў старых, хворых маці і бацьку. Абодва былі ўжо ляжачыя, і нялёгка было спраўляцца сыну з абавязкамі і сястры міласэрнай, і нянькі.

Але вось бацькі памерлі. Здаецца, палёгка чалавеку. Але сын сказаў:

— Я яшчэ гадоў трыццаць іх даглядаў бы, абы яны былі жывыя.

## Далікатнасць

У Францыі жанчына з маладосці да старасці — мадам.

У Польшчы — пані.

У іншых краінах таксама знаходзяць слова, як звярнуцца да жанчыны. Толькі ў нас:

— Дзевушка! — хоць той пад сорак.

— Жэншчына!

А далей:

— Бабуля!

Адразу вызначаюць узрост кабеты. А гэта недалікатна.

## Класіка

Раптам яскрава адчула, што чалавек, калі памірае, то знікае назаўсёды, ён больш ніколі не вернецца да тых, хто яго любіў. І нават зробленае ім як творцам не вельмі доўга будзе свяціць нашчадкам, будзе гарэць нейкі час, як тая свечка, а потым згас-

не, патухне, бо загарыцца шмат новых агнёў і зацьмяць старое полымя.

А бывае і так, што агонь той свечкі гарыць вельмі доўга і не згасае, гэта калі ўсе новыя агні аказаліся слабейшыя за старыя. І тады старыя агні з’яўляюцца класікай.

### Геній

Сабраліся людзі на тэлебачанні ў праграме Малахава і абураюцца, і спрачаюцца: чаму гэта Перальман адмовіўся ад прэміі — цэлы мільён долараў!

### Тэлеграма

Атрымала віншавальную тэлеграму з аднаго з нашых раённых цэнтраў. Тэлеграма пісалася па-беларуску, але ніводнае слова ў ёй не было напісана граматна.

У апараце, які друкаваў тэкст, адсутнічалі беларускія «і» і «ў», што надавала тэксту яшчэ больш экзотыкі.

Вось так мы, незалежныя беларусы, шануем наш неацэнны скарб — родную мову.

### Аргумент

— Каб зямля круцілася, то вада з калодзежаў павылівалася б, — так некалі аспрэчвалі людзі вялікае адкрыццё вучонага.

Так і мы часам аспрэчваем адкрыцці, у якіх нічога не разумеем.

### Мудрыя

Стаяць высокія клёны, стаяць высокія дубы. Яны старыя ўжо і шмат пабачылі на сваім вяку. За сваё доўгае жыццё яны набраліся мудрасці і моўчкі пазіраюць на тое, што робіцца ўнізе, на зямлі. Яны разумеюць, што нічым не зменіш, не паправіш таго жыцця, яны стаяць і маўчаць, толькі часам шапочуць лісцем.

### Блізка фініш

Засталося мала часу, блізка фініш, а я так і не зразумела — хто мы, адкуль мы і куды сыдзем з гэтай зямлі? Хто кіруе лёсам адной асобы? І ўсяго чалавецтва? Ці роўна на зямлі дабра і зла? І якая з гэтых сіл перамагае? Засталося мала часу, і я хачу за гэты кароткі міг зразумець тое, чаго не зразумела за доўгае жыццё,

каб сысці ў іншы свет з нейкім веданнем. І разумею, што гэта немагчыма.

## Пашкадуй…

Калі ён быў маленькі хлопчык і старэйшыя дзеці ў двары яго крыўдзілі, ён бег да мамы і прасіў:

— Мама, пашкадуй…

І маці яго абдымала, шкадавала, і праходзілі крыўда і боль.

Ён падрос, але яго зноў крыўдзілі, ужо не дзеці, а дарослыя дзядзькі і цёткі. І ён зноў ішоў да мамы, скардзіўся на крыўдзіцеляў, і маці зноў яго шкадавала, вучыла цярпець.

Ішлі гады, і вось ён сталы ўжо мужчына, але зноў яго пакрыўдзіла, параніла жыццё.

Як некалі, пайшоў бы ён да мамы, па яе суцяшэнне, але мамы ўжо няма і няма каму пашкадаваць.

## Зубы

Паштарка даверліва мне сказала:

— Буду працаваць, пакуль не зараблю на зубы, каб уставіць.

Прайшло гады два, і ў нас з’явілася новая паштарка. Мусібыць, тая на зубы ўжо зарабіла.

## Бессмяротныя

Мы прывыклі ведаць, што жыла на свеце такая дзяўчына — Наташа Растова, што жыла такая жанчына — Ганна Карэніна. Мы фізічна іх адчуваем, разумеем, спачуваем ім, верым у іх цялеснае існаванне. І раптам аднойчы разумеем, што ніякая Наташа Растова, ніякая Ганна Карэніна не жылі на свеце, яны бесцялесныя, прыдуманыя і, хоць ніколі не краналіся нагою цвердзі зямлі, жывуць на ёй ужо стагоддзе і будуць жыць вечна, бо яны бессмяротныя.

## Палітыка

У свой час у Саюза пісьменнікаў адбыўся партыйны сход, разглядалася асабістая справа адной пісьменніцы. Аказалася, што ёй на тры гады больш, чым пісала яна ў сваіх дакументах.

Са звычайнай жаночай слабасці — якая кабета не хоча выглядаць маладзей — зрабілі палітыку.

## Усяляк бывае

Мужчыне для таго, каб ажаніцца, трэба закахацца ў жанчыну. А жанчыне — не абавязкова. Часам ёю кіруюць іншыя пачуцці: пара выходзіць замуж… Ніхто іншы не заве… І гэты, здаецца, чалавек неблагі…

А пасля вяселля ўсяляк бывае. Жонка закахаецца ў свайго мужа. А муж расчаруецца ў выбранніцы. І сямейны воз скрыпіць, скрыпіць. Ці так і будзе ехаць са скрыпам, ці перакуліцца.

## Расказвалі

Некалі, яшчэ да вайны, Пятро Глебка, аказаўшыся на Лідчыне, вырашыў знайсці магілу Цёткі. Ён зайшоў у райкам партыі, да сакратара, і спытаў:

— Ці ведаеце вы, дзе тут пахавана Цётка? Я хачу знайсці яе магілу.

Сакратар райкама націснуў кнопку, выклікаў свайго намесніка і загадаў таму:

— Дапамажыце таварышу Пятру Глебку знайсці магілу яго цёткі.

## Сустрэча

Я сустрэлася з роднаю сястрою Цёткі Каралінаю Пашкевіч. Ёй было тады ўжо дзевяноста чатыры гады. І ўжо больш чым паўвека была яна адарваная ад радзімы. Калі я пачала няўмела гаварыць з ёю па-польску, яна ўзяла мяне за руку і папрасіла:

— Гавары па-беларуску…

А калі я падарыла ёй сваю кнігу пра Цётку, яна сказала:

— Сястрыца мілая, іду да цябе з кніжкаю пра цябе.

Яна частавала мяне клубніцамі з малаком і прыгаворвала:

— Вось ты і на сапраўднай вёсачцы пабыла, свежага малачка папіла… З кубачка ды ў губачку…

Відаць, і ў Караліны Пашкевіч была паэтычная душа.

## Талерантнасць

Хто гэта пусціў пагалоску, што беларусы — народ добразычлівы, талерантны? Паездзіце ў тралейбусах, пахадзіце па магазінах — і вы ўбачыце, якія нашы людзі нецярпімыя, сварлівыя, як яны ўмеюць абражаць адзін аднаго. Ды не толькі ў магазінах і тралейбусах, а нават сярод тых, хто лічыць сябе адукаваным, інтэлігентным, ёсць страшэнныя пачвары.

## Гады

Яны былі маладыя, прыгожыя і шчаслівыя. Ён быў знакаміты артыст і загінуў вельмі малады. Яна дажыла да глыбокай старасці. І, можа, добра, што ён не ўбачыў яе цяперашнюю — старую, тоўстую і брыдкую.

## Адзінокая

Яна была сірата і ўсё жыццё пражыла адзінокая. Калі памерла, яе хавалі чужыя людзі. Завезлі на далёкія могілкі і закапалі сярод чужых нябожчыкаў. Жыла адзінокая і пасля смерці засталася адзінокая.

## Страх

Некалі трымаў народ у страху Сталін. Моцная рука, па якой сёй-той сумуе і сёння. Сталін памёр, і страх нібыта адступіў. Але як трымаць гэту стыхію — мора народнае — без дзясніцы караючай? І вярнуліся да страху, што вякамі трымаў народ у паслухмянасці і веры. Вярнуліся да рэлігіі, да страху Божага. Саграшыш — і Бог цябе пакарае.

Бо як жа без страху?..

## Касмічны розум

Адмаўляючы Бога, чалавек прызнае, што ўсё-такі ёсць у прыродзе нейкая сіла, якая кіруе светам. І прыдумалі назву той сіле — касмічны розум.

Але які ж гэта розум, калі на зямлі творыцца так шмат неразумнага?..

## Забарона

Гадоў праз пяцьдзясят мы даведаемся пра наш час, нашу эпоху шмат цікавага. Як мы цяпер даведваемся пра эпохі Леніна, Сталіна, Брэжнева. А сёння ведаць пра наша быццё, пра нашых кіраўнікоў нам забаронена.

## Пачастунак

Гаспадыня варыла ў чыгуне бульбу свінням. І ведала, што яе кватарантка-студэнтка сядзіць у закутку і вучыць свае лекцыі галодная. Часам гаспадыня дабрэла і вымала з чыгуна дзве бульбіны, прыносіла кватарантцы…

Тая дзякавала і з’ядала.

## Абразкі

Думаеце, так лёгка пішуцца гэтыя карацелькі? Па-першае, трэба, каб з'явіўся зародак, як у кожнай істоты, што пачынае жыццё. Потым той зародак павінен выспець, яго трэба вынасіць. А пакуль выношваеш, паварочваеш сказ то так, то гэтак.

Зародак спее, і калі адчуваеш, што пара яго нарадзіць, — кладзеш на паперу.

А бывае, што думка мільгане і, калі не паспееш яе запісаць, знікае назаўсёды. Як у Максіма Багдановіча — «Стралою думка мільганула, і тут жа знікла, патанула…».

Добра ж, калі хоць некалі выплыве, а можа патануць назаўсёды…

## Бойцеся

Не бойцеся галодных сабак, што круцяцца каля памыйніц. Бойцеся чалавека, які мае ўсё і нават пісталет. Ён можа выбегчы на вуліцу з тым пісталетам і страляць у каго трапіць.

Чалавек можа ўзброіцца бітаю ці якім прутом і таксама лупіць кожнага, хто падвернецца пад руку.

Чалавек можа ўкусіць мацней, чым шалёны сабака.

## Хлеб

Цяпер у крамах надта шмат гатункаў чорнага хлеба — нарачанскі, радзівілаўскі, барадзінскі, суражскі, стольны, траецкі, юбілейны, віленскі, водар — і яшчэ не ўсе пералічаны.

У час маёй маладосці быў адзін гатунак. І ён называўся — хлеб. Яго давалі нам па картках, і нам яго заўсёды не хапала.

У 1947 годзе карткі адмянілі, і нам не верылася, што мы можам зайсці ў краму і купіць колькі хочаш хлеба.

## Для шчасця

Пісьменніку для шчасця мала таго, каб рэцэнзенты хвалілі яго творы. Пісьменніку для шчасця трэба яшчэ, каб моцна крытыкавалі творы яго саперніка.

## Аўтограф

На выступленні ў вайсковай часці бібліятэкарка, якая вяла сустрэчу, у заключэнне сказала:

— А цяпер, хто захоча, можа ўзяць у пісьменніцы аўтограф.

Сабралася невялічкая чарга, я падпісвала буклецікі, якія падрыхтавала бібліятэкарка. Калі скончыла падпісваць, адзін салдацік спытаў:

— А дзе ж аўтографы?

Ён, мусібыць, думаў, што аўтограф — гэта нешта матэрыяльнае і я тое матэрыяльнае буду раздаваць. Прыйшлося яго расчараваць, сказаўшы, што мой подпіс і ёсць аўтограф.

### Шкадаванне

Вельмі шкадую, што не сказала некалі людзям, паважаным мною і як творцам, і як людзям, добрых слоў. Можа, тыя мае добрыя словы былі ім і не вельмі патрэбныя, але яны сёння патрэбныя маёй душы. Спяшайцеся гаварыць добрым людзям добрыя словы.

### Аказваецца

Калі дзядзька едзе на возе і пугаю паганяе, сцябае каня, то конь пачынае бегчы, каб уцячы ад пугі…

### Ратуйце!

Ратуйце ад мракабесся, што запанавала вакол нас і ліецца з радыё, тэлебачання, ад страціўшых сумленне журналістаў. Яны даводзяць, што ў час вайны Маскву выратавалі не салдацікі сваімі жыццямі і крывёю, а абраз Боскай Маці, з якім, па загаду Сталіна, абляцелі Маскву.

Зусім сур'ёзна па тэлебачанні расказваюць пра прароцтвы Матроны і Вангі, выцягнулі на экран Кашпіроўскага, расказваюць, як хворых выратавалі не дактары, а тыя ж пракокі ды экстрасэнсы, паставілі на ногі бязногіх. Мусібыць, начальству ўсё гэта выгадна — каб народ прасіў дабрабыту не ў яго, а ў Бога.

### Празрыстая кроў

Кроў салёная, і слёзы салёныя. Кроў цячэ з раны цялеснай, слёзы цякуць з раны душэўнай. То ці не тая ж кроў у слязах, бо рана душэўная бывае больш балючая, чым цялесная.

## Выхаванне

Калі хлопчык Саша Пушкін гаварыў па-руску, маці яго біла — прымушала гаварыць па-французску.

Няйначай, нашых дзяцей таксама білі (і цяпер б'юць) за тое, што гавораць па-беларуску.

## У дарозе

«Прыйдзе новы, а мудры гісторык», — пісаў некалі Янка Купала ў сваім вершы. Ён спадзяваўся на яго прыход, чакаў таго мудрага гісторыка, але недзе затрымаўся той у дарозе і дасюль не прыйшоў.

## Абвестка

«Найбуйнейшая ў Беларусі лядовая арэна адкрыта ў Бабруйску», — хваліліся газеты. І ў гэты ж час па ўсёй рэспубліцы дактарам забаранілі выпісваць рэцэпты на імпартныя лекі, выпісваць можна рэцэпты толькі на танныя лекі мясцовай вытворчасці (якія не столькі дапамагаюць, як шкодзяць хворым).

Ці не за грошы, зэканомленыя на лекі для інвалідаў, адкрыта ў Бабруйску найбуйнейшая лядовая арэна?

## Вяселле

— Цётка Валя, запрашаю вас на вяселле. Я выходжу замуж…

— О, мілая, віншую цябе, даўно пара, — адказала цётка Валя. — А дзе будзе вяселле, куды прыходзіць?

— У бібліятэку, у нашу новую Нацыянальную бібліятэку.

— Як?! — ледзь не анямела цётка Валя. — Хіба ў бібліятэцы вяселлі спраўляюць?

— У нашай, Нацыянальнай, спраўляюць. А што, там нават дыскатэкі наладжваюць, ёсць рэстаран.

Цётка Валя памаўчала, а потым сказала:

— Даруй, пляменніца, але на тваё вяселле я не прыйду. Я ў бібліятэку хаджу кніжкі чытаць, а не гарэлку піць ды танчыць.

## Зубы

Мая знаёмая пісьменніца даўно ходзіць без зубоў. На маё пытанне, чаму яна не ўставіць зубы, адказвае:

— Разумееш, перада мною стаяла дылема — ці зубы ўставіць, ці кніжку выдаць, на тое і другое не хапіла б грошай. Дык вось, выдаю кніжку.

## Доўга чакаць

Бацька сказаў дарослай дачцэ:

— Вось памру, мая кватэра тваёю будзе.

— Доўга чакаць, — са скрухаю ўздыхнула дачка.

## Цуд

Які цуд — нашы мазгі! Мы спім, мы нічога не чуем і не бачым. І раптам мозг пасылае нам карцінку — нам сніцца сон. На той карцінцы ці вельмі блізкі нам чалавек, ці такі, якога мы ніколі не ведалі і не бачылі. На той карцінцы невядомыя нам гарады, невядомыя вуліцы, дарогі, дзіўныя сітуацыі, нехта нешта нам гаворыць. А мы моцна спім.

Дык чым жа мы бачым тую карцінку — сон, нашы ж вочы заплюшчаны, на што яна праецыруецца? На які экран?

Часам сон нас вельмі хвалюе, мы прачынаемся ад страху ад таго, што ўбачылі, часам радуемся тым карцінкам. Часам на тыя карцінкі выплывае тое, што было з намі шмат гадоў таму. Дзе яно хавалася?

А бываюць сны прарочыя. Адкуль наш мозг ведае, што з намі будзе? Дзіва дзіўнае.

Мы спім.

## Пытанне

Адна харошая наша пісьменніца, пажылая ўжо, хворая жанчына, у размове са мной сказала:

— Ведаеце, мяне больш за ўсё раздражняе, калі ў мяне пытаюцца: «А над чым вы цяпер працуеце, што пішаце?»

Божа мой, якая праца, якое пісанне, канец свету… Не да жыру, як той казаў, быць бы жыву.

## Дай, Божа

Ёй дзевяноста гадоў, але кожную раніцу і кожны вечар яна моліцца, просіць Бога, каб даў яшчэ два гады жыцця. Бо ўнуку яшчэ два гады вучыцца, а вучоба платная, а ў яе добрая пенсія — удзельніца вайны. Без яе пенсіі ўнук не давучыцца, то дай, Божа, дай, Божа, яшчэ два гады…

## Прымаўка

Сярод усходніх народаў ходзіць прымаўка: «Колькі ні кажы — халва, халва, соладка ў роце не будзе».

Так і ў нас: колькі ні кажы Беларусь, Беларусь — дзяржавы не будзе, калі нішчыцца беларускае слова, культура, калі, хто гаворыць па-беларуску, лічыцца апазіцыянерам.

## Каб яшчэ сахарку…

У закінутай вёсачцы сустрэў карэспандэнт бабулек — у палапленых ватоўках, у разбітых бахілах, у старых хустках. Затрымаў бабулек, пачаў пытацца:

— Ну, як вы тут жывяце?

— А нічога, добра, — адказваюць бабулькі. — Бульбачка свая, хлеб аўталаўка прывозіць раз на тыдзень, каб нам яшчэ сахарку…

— А так усё добра?

— Добра, сынок, добра…

Яны не жаліліся на тое, што ваду ім трэба насіць, можа, за кіламетр ад хаты, што бульбачку пасадзіць ды выбраць ім ой як нялёгка, што, каб нарыхтаваць на зіму дроў, трэба аддаць палову пенсіі.

Гэтыя бабулькі зведалі на сваім вяку і голад і холад, а ў вайну і страх смерці, то на цяперашняе жыццё, лічаць, грэх наракаць, ды лепшага жыцця яны і не ведалі, можа, не ведаюць нават, што яно ёсць. Ім бы толькі каб яшчэ сахарку.

## Як доўга

Галілея царква рэабілітавала амаль праз чатырыста гадоў пасля яго смерці. Як доўга, бывае, трэба чакаць праўды, прызнаць, што Галілей меў рацыю, калі казаў пра Зямлю: «А ўсё-такі яна круціцца».

## Нахапаецца

Не знайшоўшы месца ў дзіцячым садку, вырашылі трохгадовага Міцьку адправіць у вёску, да дзеда з бабкаю.

Адправілі.

А праз нейкі час дзед звоніць у горад:

— Прыязджайце, забірайце Міцьку.

— Чаму? — здзівіліся бацькі.

— Ат, нахапаецца тут беларускіх слоў, потым з яго дзеці ў горадзе смяяцца будуць.

Прыехалі. Забралі.

## Воля

Яго выпусцілі з турмы на волю. Ён пабадзяўся па горадзе дзень, два, тыдзень. А потым зайшоў у краму, украў дарагі апарат, батон кілбасы, бохан хлеба. Яго затрымалі, зноў арыштавалі.

— А я гэтага і хацеў, — сказаў ён на судзе. — У турме ў мяне ёсць страха над галавою, нары, баланда ў місцы. На волі ўсяго гэтага ў мяне няма.

Канечне, на волі ўсё гэта трэба зарабіць, а ён адвык нешта рабіць. У турме ўсё гэта даюць бясплатна. Вось і мяняе чалавек волю на баланду.

## Сатырыкі і сабакі

Сатырыкі б’юць кіямі дохлага сабаку, ад жывога ўцякаюць, баяцца, каб не ўкусіў. А калі так — то чаго вы б’яце нежывога, ён ужо і так здох, без вашай дапамогі.

## Жыццё

Калі я чую, як плануюць людзі тое, што павінна адбыцца праз месяц, праз два, я думаю: а ці надыдзе той дзень — праз месяц, праз два, а можа, усё знікне, як некалі з’явілася — невядома адкуль і калі?

Альбо кладуся спаць і думаю — а ці надыдзе заўтра, можа, прачнуся, а вакол мяне нічога і нікога, і мяне таксама.

Але прачынаюся зацемна і бачу, як пачынае світаць, і ўсё засталося на сваім месцы і нічога не змянілася, надыходзіць новы дзень, і зноў трэба жыць. Няўжо нішто ніколі не скончыцца?

Мусібыць, на мой век хопіць…

## «Песняры»

Некалі «Песняры» на чале з Мулявіным заваявалі сусветную славу, бо спявалі па-беларуску нацыянальныя песні.

Сусветнае прызнанне заўсёды набываюць творы — літаратуры, мастацтва, выгадаваныя на нацыянальнай глебе, калі паказваюць сваё, нацыянальнае, адметнае, уласцівае толькі свайму народу. Таму з пагардаю ставіцца свет да так званай «папсы», бо яна нічыя, безаблічная.

## Яму добра

Часам мы шкадуем чалавека, на выгляд неадэкватнага альбо бамжа, думаем — бедны чалавек, які ён няшчасны. І дарэмна! Сам чалавек не адчувае сваёй ушчэрбнасці, яму добра. Ён свабодны, вольны, нікому не падначалены, ён, можа, шчаслівейшы за якога мільянера. Бо шчасце не звонку чалавека, а ўсярэдзіне, у душы.

## Плата

Бывае, што чалавек, які пражыў у маладосці, ды і ў сталыя гады, у вялікім шчасці і пашане, пад старасць раптам застаецца ўсімі забыты, пакінуты і памірае ў адзіноце.

Мне здаецца, што гэта плата за шчаслівыя гады, невядомыя нам злыя сілы не могуць дапусціць, каб чалавек усё жыццё пражыў у радасці, трэба ўсяго паспытаць.

## Лізнуць

Калі Пуціну падарылі сабаку пароды лабрадор, той падбег да Пуціна і лізнуў яму руку.

«З той пары, — піша афіцыйная газета, — кар'ера сабакі пайшла імклівa ўгору».

Дык вось як трэба рабіць кар'еру — у час лізнуць руку свайго гаспадара.

## Бездапаможнасць

Я ніколі не ўмела сябе абараніць, чалавечая подласць прыводзіць мяне ў шок, і я стаю перад ёю бездапаможная, хаця потым разумею, што маю шмат аргументаў, каб выкрыць гэтую нечалавечнасць.

Нездарма кажуць, што лепей з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці. А я чамусьці часта знаходзіла нешта з дурнем. Застаецца спадзявацца на справядлівыя сілы, якія павінны недзе існаваць, што, можа, тыя сілы паставяць усё на месца. А ці ёсць яны, тыя сілы?

## З падслуханага

Семдзесят гадоў людзей адвучвалі працаваць. Цяпер трэба семдзесят гадоў, каб працаваць навучылі.

## А навошта яны маме?

Дачка з мужам часта прыязджаюць да мацеры ў вёску. А маці любіць дачушку, рада хоць нешта зрабіць ёй добрае, і калі маладыя ад'язджаюць, совае дачушцы ў сумачку грошы.

Муж сварыцца на жонку:

— Навошта ты ў мацеры грошы бярэш?

— А навошта яны маме? — бесклапотна адказвае жонка.

## Чарка

Бацька любіў выпіць. І калі ехаў да сына ў горад у госці, браў з сабою паўлітра. Без бутэлькі ніякага свята, ніякай прыемнай сустрэчы не ўяўляў. А сын да той гары ставіўся раўнадушна.

І вось, сядуць абедаць, бацька нальe і сабе, і сыну. Сын прыгубіць і адставіць чарку. І больш піць не хоча. Ну, а бацьку аднаму таксама піць няёмка.

А так жа хочацца…

## Бедны парсючок

Адна мая чытачка прыслала мне ліст, у якім пісала, што маю кніжку «Белае поле» яна чытала з такім захапленнем, што забывалася карміць парсючка.

Бедны парсючок, прыхільнасць гаспадыні да беларускага пісьменства прымушала яго галадаць.

## Шабаш

Шабаш ведзьмаў — такое ўзнікае ў мяне адчуванне, калі бачу паўголых эстрадных спявачак, як яны выкручваюцца на сцэне, дрыгаюць нагамі, выстаўляюць свае голыя пупкі — навыперадкі адна перад адною. І хочацца мне спытаць — а ці мастацтва ўсё гэта?

## Ганарар

Некалі выдавецтва «Беларусь» у пэўныя дні месяца выдавала аўтарам ганарар. І вось, прыходзілі пісьменнікі, станавіліся ў доўгую чаргу і атрымлівалі колькі каму належала.

Аднойчы прыйшлі пісьменнікі, сталі ў чаргу, а ў касе — пуста. Усе грошы забраў Цанава — у той час старшыня дзяржаўнага камітэта бяспекі — за кніжку пра партызанскі рух на Беларусі, хаця ўсе моцна сумняваліся, што Цанава сам гэту кніжку напісаў.

## Святло ў канцы тунэля

Часам чалавек, які зведаў на сваім вяку шмат гора і пакут, хвароб, выпрабаванняў, дажывае тым не менш да глыбокай старасці. Быццам нейкія справядлівыя сілы хочуць, каб гэты пакутнік хоць на схіле гадоў убачыў святло ў канцы тунэля, каб хоць нешта, у глыбокай старасці бліснула для яго святлом і аблегчыла ўвесь яго доўгі і пакутны шлях.

## Чырвоныя агні

Ноччу, здалёк, чырвонымі агнямі свеціцца купал Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Каго павінны вабіць тыя агні? Чытачоў?

Але ноччу на чырвоныя агні злятаюцца толькі начныя матылі.

Навошта і такая архітэктура, і такія агні для бібліятэкі, куды ходзяць чытачы набірацца розуму?

## Спазнілася

Я чытала ўспаміны аднаго аўтара і думала — пазваніць яму ці не пазваніць? Хацелася сказаць яму, што ён напісаў харошую кніжку. Але ў мяне да гэтага аўтара былі свае прэтэнзіі, і тыя прэтэнзіі стрымлівалі мяне ад званка.

І не ведала я, калі чытала гэту кнігу і думала — званіць ці не званіць, — аўтар у гэты час ляжаў ужо ў труне, і яму было ўжо ўсё роўна. Я спазнілася.

Можа, не трэба вельмі разважаць — казаць людзям добрае ці не казаць, каб не спазніцца.

## Заўважаю

Выдаюць хлопцы кнігі ўспамінаў, быццам падсумоўваюць сваё жыццё. Выдаюць кнігі і скора паміраюць.

## Амаладжэнне

Калі маёй сяброўцы пераваліла за пяцьдзясят, яна глянула на сябе ў люстэрка і вельмі сама сабе не спадабалася. Яна прывыкла бачыць сябе маладою і прыгожаю, а тут…

Мая сяброўка не была артысткаю альбо вядучаю на тэлебачанні, яна была звычайная доктарка, але… Але вырашыла змагацца за маладосць.

Тады толькі ўваходзіла мода на пластычныя аперацыі, але мая сяброўка была модніца.

Яна паехала ў Маскву, лягла ў клініку пад нож. Потым расказвала:

— Каб я ведала, што ўсё будзе так балюча, так пакутліва, то ліха з ёю, з маладосцю.

Гады два сяброўка хадзіла сапраўды быццам памаладзелая. А потым зноў усё абвісла, зморшчыны занялі сваё месца.

З прыродаю не паспрачаешся.

## Выгада

Мая тоненькая кніжка «Белае поле» (190 с.), выдадзеная ў выдавецтве «Кнігазбор», у кнігарні каштуе пятнаццаць тысяч. Мужык прыкінуў: за гэтыя грошы я магу купіць дзве пляшкі гарэлкі і яшчэ кавалак варанай кілбасы на закусь. І, вядома ж, аддаў перавагу другому варыянту.

Дзяржаве, мусібыць, выгадней, каб людзі пілі гарэлку, чым чыталі кнігі.

## Злачынства

23 лютага аб'яўлена Днём абаронцаў Айчыны. З гэтай нагоды тэлеканал «ЛАД» у праграме «Слова пісьменніка» сабраў у студыі пісьменнікаў-франтавікоў, невядомых ні рускаму, ні беларускаму чытачу рускамоўных аўтараў. Усе яны расказвалі пра гераізм воінаў у час афганскай вайны, якая нават на афіцыйным узроўні прызнаная заганнай.

Удзельнікаў Айчыннай вайны, беларускіх пісьменнікаў, ні Брыля, ні Навуменку, ні Марціновіча, ні Прыходзьку, нават не ўспомнілі. Не ўспомнілі нават Васіля Быкава, і наогул ніводнага беларускага пісьменніка, якія змагаліся за вызваленне роднай зямлі ад акупанта, не прыгадалі.

Ва ўгоду каму ўсё гэта робіцца?

## Бацькаўшчына

Я жыву ў той самай кватэры, у тым самым доме, што і дваццаць гадоў таму назад. Вакол мяне тыя самыя вуліцы, тыя самыя будынкі, што былі і дваццаць гадоў таму. Але вуліцы маюць ужо іншыя назвы, хлопцы, што ходзяць па тых вуліцах, не такія, як тыя, што хадзілі некалі. Цяперашнія хлопцы напорыстыя, гарластыя, і вечныя іх спадарожнікі — бутэлька піва ў руцэ і мабільнік каля вуха. У мяне стаіць той самы тэлевізар, што і дваццаць гадоў таму. Але гаворыць ён зусім не тое, што

гаварыў некалі. І роднага слова я з яго не пачую. А твары, што мільгаюць на экране, — чужыя, незнаёмыя.

Я жыву ў чужой, незнаёмай краіне, якую вымушана прызнаваць бацькаўшчынай.

## Вар’яцтва

Народ кінуўся ў рэлігію, паверыў у Бога, а калі верыш у Бога, то трэба паверыць і ў д’ябла, у Сатану. Хто, калі не яна, нячыстая сіла, ставіць табе падножку, напускае «порчу», перашкаджае жыць багата і шчасліва?

І вось, пабеглі бабы па ратунак да знахароў, да варажбітоў, да тых, хто можа тую нечысць перамагчы. А такіх умельцаў аб’явілася вой колькі, абы грошы! Шчасце, яно дорага каштуе, яго могуць купіць толькі багатыя, і паплылі да варажбітак тысячы. Нясуць багатыя няўдаліцы свае слабенькія мазгі да чараўніц, а тыя рады выбіць з іх новыя мільёны.

Самае страшнае, што ўсё гэта вар’яцтва прапагандуе тэлебачанне, і сядзяць перад экранамі маладзіцы са слабенькімі мазгамі, усмоктваюць у іх усю тую дзікасць. Нездарма ўжо сёння ў нас кожны другі жыхар патрабуе ўвагі псіхіятра.

## Сябры

Іх было чатыры, ужо не маладых мужыкоў. Яны часта збіраліся, бывала, і за бутэлькаю, гаварылі пра жыццё, пра літаратуру, пра палітыку, часам спрачаліся, хоць былі і аднадумцы.

Калі памёр адзін з іх, яны шчыра сумавалі і дамовіліся — кожны год у дзень смерці хадзіць да яго на магілу, памінаць.

І хадзілі год за годам, памяналі.

Потым памёр другі з іх кампаніі, трэці, а нядаўна і чацвёрты. Цяпер няма каму і да каго хадзіць. Распалася кампанія, бо і пахаваны кожны на іншых могілках.

## Цэрберы

Колькі памятаю сябе — не магу сказаць, не магу напісаць тое, што думаю, што адчуваю, не магу расказаць пра тое, што бачу. У часопісах, газетах, у выдавецтвах дасюль стаяць на варце слова цэнзары, як цэрберы, так і сочаць, каб не праскочыла «крамола», якая можа разбурыць свет, у якім так утульна адчуваюць сябе тыя, што, нібыта атланты, трымаюць свет на сваіх плячах.

Баяцца слова, як агню, як кулі, і гатовы лепш прыдушыць вальнадумнага аўтара, чым самому рызыкаваць мяккім месцам.

## Рака Лета

Яго не заўважалі як мастака, не пісалі водгукаў на яго творы, не ўшаноўвалі прэміямі, быццам ён ёсць і яго няма. Ён цешыў сябе тым, што калі памрэ… Ён бачыў неаднойчы, як пасля смерці творца нібыта ўваскрасаў, пра яго пачыналі гаварыць, пісаць.

Ён спадзяваўся на такое і пра сябе. Але ён памёр і не ўваскрэс. Патануў у Леце.

Добра, што ён пра гэта не дазнаўся.

## Сакрэты

Камуністы хавалі шмат якія дакументы пад грыфам «Сакрэтна». Царкоўнікі трымалі пад грыфам «Сакрэтна» «Евангелле ад Іуды». І тыя, і другія баяліся, каб народ не разупэўніўся ў іх пастулатах.

## Раддом

Маладая жанчына чакае першынца. Яе прывезлі ў раддом. Назаўтра маці прыйшла адведаць дачку. Тая са страхам ёй расказвае:

— Мама, тут жанчыны, якія раджаюць, так крычаць, так крычаць…

— А што ты думаеш, — адказвала маці. — Я цябе раджала, таксама крычала. Але ты не бойся, усе людзі так на свет прыходзяць.

## Аднагодкі

Спявачка змяншала, змяншала свае гады, і ўрэшце аказалася, што яна аднаго года са сваёй дачкой.

## Выміраем

Раней жанчыны не ўяўлялі свайго шчасця без сям’і, без мужа і дзяцей.

Сёння жанчыны знаходзяць шчасце ў кар’еры, у творчасці. І не вельмі імкнуцца зацугляць сябе сямейнымі ланцугамі. Страчваецца інстынкт мацярынства.

## Магія

Трэці раз перачытваю «Вайну і мір» Льва Талстога. Кожны сказ гэтага твора дзейнічае на мяне магічна, я атрымліваю найвялікшае эстэтычнае задавальненне. Я разумею, што гэта раман, мастацкі твор, але не магу не ўспрымаць яго як шырокае дакументальнае палатно. Уся эпоха напалеонаўскіх войнаў, батальныя сцэны напісаны са скрупулёзнасцю самага сур'ёзнага, дасведчанага гісторыка, а мастацкія вобразы ўпісваюцца ў тканіну твора з магічнай натуральнасцю і надзвычай арганічна. Уражвае філасофскі падыход да ўсіх з'яў жыцця.

«Вайна і мір» — шэдэўр сусветнай літаратуры, актуальны ў любую эпоху, твор, дасюль нікім не перасягнуты.

Вялікая Айчынная вайна 1941–1945 гадоў была нашмат страшнейшая за вайну 1912 года, але савецкія пісьменнікі не стварылі шырокага, эпахальнага палатна з глыбокім і праўдзівым аналізам падзей вайны, хаця тэме вайны прысвечана вельмі шмат твораў.

Льва Талстога ніхто не хапаў за рукі, не забараняў пісаць так, як ён думаў, як разумеў падзеі вайны. Ніхто не забараняў мець свой уласны погляд на гісторыю.

Погляд савецкіх пісьменнікаў быў абмежаваны ідэалагічнымі шорамі, ім не дазвалялася глядзець на вайну шырока і па-свойму, не дазвалялася мець уласнай думкі. Ад іх патрабавалі ўслаўлення народнага подзвігу (у Талстога гэта таксама ёсць) і ролі партыі ў перамозе. Цэнзары абмяжоўвалі, звужалі погляд пісьменніка на вайну, заціскалася думка, абмяжоўваўся погляд на з'явы жыцця.

Адкуль брацца шэдэўру…

## Дзве эпохі

У свой час мужыка, які меў дзве каровы ды яшчэ каня, аб'яўлялі кулаком і высылалі на Салаўкі, а дабро, нажытае цяжкаю працаю, уласным мазалём, канфіскоўвалі.

Цяпер багацей мае некалькі машын, некалькі кватэр, палацы за мяжой… Цяжка паверыць, што нажыў ён усё гэта ўласным мазалём. Але ніхто не бярэ яго за жабры, нікуды яго не высылаюць і дабро не канфіскуюць.

## Што рабіць?

ДНК паказала, што дзяўчынка — не яго дачка. Але ёй ужо пяць гадоў, і яна заве яго татам, і ён прывык да яе. Што рабіць? Ці выгнаць хлуслівую жонку, якая невядома з кім прыжыла дзіця, ці зрабіць выгляд, што ён нічога не ведае, і жыць далей?

## Казюркі

Некалі і палітыкі, і народ страшэнна баяліся Сталіна. Цяпер кожны, каму хочацца, б’е яго ботам. Не страшны мёртвы сабака. Цяпер дрыжаць перад жывымі дэспатамі, хоць тыя ў параўнанні са Сталінам — казюркі.

## Жабы

Гэта быў яе першы бізнес. Жылі яны насупраць медінстытута, а там прымалі жабак для вопытаў і нешта за іх плацілі. І вось яна вырашыла зарабіць. Пайшла на сажалку, назбірала жабак — добры мяшэчак. Прынесла дадому, бо несці ў інстытут было позна ўжо. Жабкі павыпаўзалі з мяшэчка, параспаўзаліся. А тут госці прыйшлі. Бацька раззлаваўся, павымятаў жабак венікам з хаты.

Так яна зарабіла, але не грошай, а плескачоў.

## Несправядлівая

Трапіла яна ў бальніцу, і даглядала яе сястрычка — такая маладзенькая і такая прыгожая. І яна падумала: «Божа мой, гэта ж праз колькі гадоў маладая, прыгожая сястрычка ператворыцца ў старую кабету, а далей — у прах».

Не, мудрая прырода, у нечым ты несправядлівая.

## Кошка

Звоніць маці дачцэ з бальніцы:

— Ну, як вы там?

— Нармальна.

— А як кошка?

— Нармальна.

— Яна есць?

— Я ж ёй купляю і мяса, і рыбу.

— А не дурэе?

— Дурэе, усе шторы мне кіпцюрамі падрапала. Ты мне заплаціш за новыя шторы.
— Заплачу.
— І за яду, што ёй купляю, заплаціш, у цябе пенсія большая, чым мая зарплата.
— Заплачу…

## Сяброўкі

Дом на дзевяць паверхаў. Чатыры пад’езды. Удзень з кожнага пад’езда, як мурашкі, выпаўзаюць бабулькі. Якая з кіёчкам, якая так скручаная ў тры пагібелі. Садзяцца на лавачку. Яны знаёмыя колькі гадоў па тым сядзенні на лавачцы. І пачынаюць гаварыць. Яны глухія, як цяцеры. Але гавораць.

## Першакласніца

Калі яе ўнучцы трэба было ісці ў першы клас, то дзяўчынку лавіў увесь двор, яна ўцякала, хавалася. Так баялася школы і не хацела вучыцца.

## Мільён

Удзельніца вайны і бізнесменка апынуліся ў адной палаце ў прэзідэнцкай бальніцы. Удзельніцы вайны выпаў ложак каля самага тэлевізара, які бізнесменка не выключала з раніцы да вечара. Калі старэнькая, хворая ўдзельніца вайны папрасіла бізнесменку выключыць тэлевізар, тая заявіла:
— Вы тут лечыцеся задарма, а я, каб легчы ў гэту бальніцу, заплаціла мільён і буду глядзець тэлевізар на ўвесь свой мільён.

## Лёс

Спрачаюцца людзі — ёсць лёс у чалавека ці няма? Ці ўсё вырашае выпадак — псеўданім лёсу?
— От паслухайце, — кажа адзін мужчына. — Узялі немцы партызанскі атрад у блакаду. Акружылі лес, прачэсваюць з аўтаматамі. Каго ў лесе сустракаюць — забіваюць, не разбіраючыся, хто ён. Адзін стары партызан мне і кажа: «Сынок, трэба нам залезці на высокае дрэва, можа, уратуемся». І залезлі мы на высокую елку. А тут немцы падышлі і пад нашымі елкамі прыселі адпачываць. І сабака пры іх вялізны. Мы сядзім на елцы і калоцімся. А немцы адпачылі і далей пайшлі, і сабака нас не ўнюхаў.
Дык што гэта? Лёс ці не лёс? Не ведаеце… Ага…

## Газета

Прынеслі мне ў бальнічную палату «Народную волю», якую выпісваю. Прачытала я, а потым узялі суседкі па палаце. І зачыталіся.

— Мы і не ведалі, што ёсць такая цікавая газета, — заявілі.

Потым нумар узяў палатны доктар, сказаўшы:

— У час дзяжурства пачытаю.

І прачытаў — ад радка да радка.

## Мужчына

Старэнькі дзядок з кіёчкам ходзіць па бальнічным калідоры, заглядае ў палаты. Сястрычка кажа яму:

— Мужчына, вы чаго ў жаночыя палаты падглядаеце?

— А там хіба жаночыя? — дзівіцца дзядок.

Ён кепска бачыць, кепска чуе, яго даўно не цікавяць жанчыны, ён даўно ўжо не мужчына, а ў палату падглядаў з простай чалавечай цікаўнасці.

## Споведзь

Трэба было ёй рабіць аперацыю, ды вельмі складаную, і вельмі яна той аперацыі баялася, магла трох дзетак асіраціць.

А вядома ж, як трывога, дык да Бога.

І пайшла яна ў царкву, перахрысцілася, а потым да бацюшкі на споведзь. Паслухаў яе бацюшка і кажа:

— Ты прыйшла ў царкву не для таго, каб уславіць Госпада, а каб вытаргаваць у яго сваё…

І не прыняў споведзі.

А з аперацыяй, дзякуй Богу, усё абышлося добра.

## Цішыня

Пасварыліся хворыя ў палаце, ды так сур’ёзна, што ніхто ні з кім не гаворыць. І ў палаце з раніцы да вечара ўсталявалася цішыня, якая спрыяла лячэнню і выздараўленню хворых.

## Жанчыны

Адна хворая ў нашай палаце пачынала раніцу з макіяжу — фарбавала вейкі, бровы, мазалася крэмамі.

Другая хворая перад тым, як легчы на аперацыйны стол, вышчыпала сабе бровы, а потым папрасіла нянечку, каб прынесла ёй самы прыгожы халат.

Вось такія мы, жанчыны, і ў труне хочам выглядаць прыгожа.

## Сорам

Недзе ў пятым класе я напісала для насценгазеты верш пра настаўніцу прыродазнаўства. Верш быў дурны і абразлівы для настаўніцы. Настаўніца выклікала мяне і пачала даволі мякка ўшчуваць — маўляў, дзеці пра дарослых так пісаць не павінны. Але словы ўшчування я прапусціла тады міма вушэй.

Сорамна за той верш мне зрабілася гадоў цераз дваццаць. І цяпер за яго сорамна.

## Перавага

Харошы яўрэйскі паэт Хаім Мальцінскі казаў: «Я пішу вершы толькі для сваёй цешчы, бо яна адна цяпер ведае яўрэйскую мову і можа мае вершы чытаць».

А я пішу для Ніны Мацвееўны, для Соф'і Парфір'еўны, для Валянціны Аркадзьеўны, для Лілі Радзівонаўны і яшчэ для некалькіх маіх прыхільніц, якія яшчэ ведаюць беларускую мову і любяць на ёй чытаць.

## Паэтка

Яна прыязджала да мяне на таксі з сабакам пад пахаю і прасіла пазычыць грошай. Я пазычала. Ці аддавала яна — не памятаю.

## Блазны

Мінулым часам каралі трымалі пры сабе блазнаў, і тыя не баяліся казаць каралям праўду ў вочы. Часам называлі каралёў нават дурнямі, і каралі іх за гэта не каралі.

Няхай бы і нашы каралі-прэзідэнты трымалі пры сабе блазнаў — якіх-небудзь журналістаў, каб і тыя не баяліся пісаць і гаварыць праўду.

## З веку ў век

Правіцелі, палітыкі нагадзяць у жыцці, загубяць мільёны жыццяў, а потым паміраюць, пакінуўшы разграбаць тое зло наступным пакаленням.

Правіцелі, палітыкі наступных пакаленняў спрабуюць тое зло расхлябаць і робяць новыя злачынствы, і таксама паміраюць, пакідаючы расхлёбваць зло нашчадкам.

І так з веку ў век.

## Герой вайны

Маршал Жукаў, які перамагаў у суровых бітвах, прымаў капітуляцыю Германіі і на белым кані Парад Перамогі, калі трапіў у апалу да Сталіна — прыніжаўся перад ім, каяўся.

## Сведка

Я была сведкай, як рушылі цэрквы, касцёлы, скідалі крыжы, палілі абразы. Каля Дома ўрада стаяла цэркаўка, як лялька, яе называлі Чыгуначнай, аднойчы ад яе застаўся адзін друз.

Сёння я сведка, як адбудоўваюць цэрквы, касцёлы, а самае высокае начальства цалуе абразы і абдымаецца са святарамі.

Дзе ж яна, праўда?

## Партрэты

Захапіўшы тэрыторыю Беларусі, немцы ў час вайны пачалі наводзіць тут свой парадак. З аднаго боку, на вуліцах і скверах панастаўлялі шыбеніц для тых, хто ім аказваў супраціўленне. З другога боку — паадчынялі беларускія школы, семінарыі — абяцалі беларусам пасля вайны незалежнасць.

Падручнікаў для школ і семінарый не выдавалі, і прыходзілася карыстацца савецкімі, толькі з тых кніг загадалі павыдзіраць партрэты Леніна, Сталіна.

Іншы час, іншая эпоха. Сёння тыя партрэты з падручнікаў не выдзіраюць. Небяспечныя партрэты проста не друкуюць.

## Палітыка

Пра што ж пісаць пісьменнікам? Пра кветачкі, пра матылькоў, пра птушачак? Сапраўдны пісьменнік найперш грамадзянін, і ён не можа стаяць убаку ад таго, што вакол. А вакол яго — палітыка, нават спорт цяпер палітыка. Чаму ж пісьменніку цяпер забараняюць кранаць палітыку? Не лезьце, маўляў, у палітыку, гэта не ваша справа. Як не наша? Назавіце хоць аднаго класіка сусветнай літаратуры, які не «лез» у палітыку. І нашы — Купала, Колас, Цётка, Гарэцкі… Іх слова важыла шмат.

Не затыкайце раты пісьменнікам!

## Нацыя, народ

У васямнаццатым стагоддзі руская мова ў Расіі была ў загоне. Увесь «вышэйшы свет», усё дваранства гаварылі па-французску. Руская мова лічылася прымітыўнай, мужыцкай. Дзяцей паны

змалку вучылі не па-руску, а па-французску, для чаго выпісваліся з-за мяжы гувернанткі.

Але вось у 1812 годзе руская армія перамагла Напалеона, разбіла яго славутае войска, і рускія адчулі сябе народам, нацыяй. Пачаўся ўздым патрыятызму, росквіт рускай літаратуры, мастацтва, музыкі, заняла пачэснае месца руская мова.

То каго павінна перамагчы беларускае войска, каб беларусы адчулі сябе народам, нацыяй і выцягнулі з цямніцы на свет божы сваю родную мову?

## Хлопчык

Нарадзіўся хлопчык — малюпасенькі, бездапаможны, з маленькімі ружовымі пальчыкамі, і заплакаў, як плачуць усе дзеці, што ўпершыню трапілі ў гэты свет.

І хто б мог прадрачы, што гэты малюпасенькі хлопчык — будучы вялікі Пушкін…

## Маё назіранне

Часта людзі, якія прайшлі вайну, лагеры, нямецкія альбо савецкія, дажываюць да глыбокай старасці і паміраюць у шаноўным узросце. Магчыма, вялікія жыццёвыя цяжкасці гартуюць арганізм, і ён больш актыўна змагаецца за жыццё. І як шкада тых, што, здаецца, ніякіх цяжкасцяў у жыцці не мелі, а пакідаюць гэты свет такімі маладымі.

## Значымасць

Часта творцы — пісьменнікі, мастакі, якія самі вялікай вагі не маюць, ліпнуць да тых, хто гэтую вагу ўжо набыў, круцяцца каля іх, стараюцца быць побач.

Можа, спадзяюцца, што якія кілаграмы з тых перападуць і на іх долю?

## Галя Шырокава

Мая сяброўка Галя Шырокава пачула, як доктарка сказала яе дачцэ, што маці пражыве не больш, чым месяц.

І Галя перастала есці, перастала піць, каб скараціць гэты тэрмін, каб хоць на дзень было менш клопату яе дачцэ. І скараціла гэты тэрмін на дванаццаць дзён. А ў труне ляжала такая прыгожая, якой ніколі не была пры жыцці.

## Ці ёсць?

Успамінаю сваіх сябровак — каторыя яшчэ жывыя, каторыя адышлі ў нябыт. І ні адна з іх не прайшла па жыцці светлаю сцежкаю. Не тое, дык другое атручвала існаванне. Скажыце, а ці ёсць на свеце наогул шчаслівыя людзі?

Можа, нейкі чалавек збоку і здаецца шчаслівы, але гэта толькі вяршыня айсберга яго жыцця, а ўсе беды, пакуты пад вадою. Так што не трэба нікому зайздросціць.

## Слодыч улады

Прэзідэнцтва — вельмі цяжкая праца. І што кампенсуе гэты цяжар, чаму так не хочуць ад яго адракацца?

Хіба слодыч улады?

## Амаральны экран

На экране тэлебачання спакуса — грошы, грошы, дзвесце мільёнаў, трыста мільёнаў, усё гэта ваша, ваша, толькі купіце білет латарэйны. І ачмурэлыя гледачы купляюць, купляюць, бо хочацца атрымаць на халяву тыя мільёны.

І яшчэ: не прыстойнасці вучыць экран, а бессаромнасці, бо агаляюць сваіх эстраднiц па самае годзе, а гумар — толькі ніжэй поясу.

Ніколі тэлебачанне не было такім амаральным, як цяпер.

## Таленты

Халоднай зімою сорак другога года з клуначкам за плячыма прыйшла я ў родную вёску Нізок, каб памяняць якія транты на кавалак хлеба. Цётка Маня закінула мяне на печ — адаграваецца. І я адагравалася, а яе дачушка, пяцігадовая Волечка, гуляла на падлозе з нейкімі трэсачкамі, анучкамі, гуляла і спявала.

Гэта пяцігадовая дзяўчынка ведала, мусібыць, усе песні, якія спявалі дарослыя дзяўчаты на вячорках. Яна мела выключны музычны слых і звонкі галасок.

Каб на сённяшні дзень, што б магло атрымацца з гэтай дзяўчынкі? Спявачка? Кампазітарка? А ў глухой вёсцы ды ў час вайны…

«Колькі талентаў звялося!» — як пісаў некалі Якуб Колас.

## Гісторыя

Ішла супрацьалкагольная кампанія. І ў кафэ, у рэстаранах забаранілі падаваць алкагольныя напоі. Тады іх пачалі ўліваць у чайнікі, піць са шклянак, устаўленых у падшклянкі.

І ўсе ведалі, што ў чайніку не чай, а каньяк, і ўсе рабілі выгляд, што не ведаюць.

А ва Уздзе адбылася сустрэча землякоў — пісьменнікаў і мастакоў з мясцовым начальствам. Пасля ўрачыстай часткі накрылі багаты стол. Але як жа за такім сталом без віна і без тостаў? І паналівалі ў бакалы мінеральнай вады, і чокаліся тымі бакаламі, і казалі тосты пад тую мінералку.

Чаго толькі не было ў нашай гісторыі.

## Дзіва

Якое дзіва, якая таямніца — нашы мазгі. Што тояць яны ў сваіх звілінах і што часам з іх выплывае?

Сёння мне, напрыклад, прысніўся Гітлер. Ён ехаў у трамваі і трымаўся рукою за перакладзіну, што ўверсе. Ён быў апрануты ў чорнае скураное паліто, з-пад нейкай вайсковай шапкі тырчалі рудаватыя валасы. У яго быў змрочны, вельмі злосны твар. Я выпадкова дакранулася нагою да яго нагі, і мне ў сне зрабілася страшна.

Дзе ён сядзеў у маіх мазгах, сто разоў пракляты Гітлер? І чаму раптам выплыў ноччу, у сне?

## Замалёўка з натуры

У гастраном увайшла жанчына гадоў пад сорак у скураным паліто з футравым каўняром, у белых бурках. Падышла да аддзела з булачкамі, выбрала самую лепшую і пачала есці.

Дырэктарка магазіна папрасіла жанчыну заплаціць за булачку, ад якой застаўся ўжо невялікі кавалачак.

— У мяне няма грошай, — адказала тая.

— То чаму вы выбралі самую дарагую булачку, папрасілі б мяне, я б вам адрэзала ад другой.

— Я прывыкла смачна есці, — адказала кабета.

Ушчуванні, папрокі людзей на яе не зрабілі ўражання, яна пайшла з магазіна, даядаючы тую булачку.

## Людзі-пачвары

Паглядзеўшы па тэлебачанні расейскую праграму «Чрезвычайные происшествия», я ўстаю і правяраю, ці замкнёныя ў мяне дзверы. У перадачы паказваюць такіх людзей-пачвар — забойцаў, зладзеяў, іх злачынствы, што робіцца страшна жыць і хочацца адгарадзіцца ад гэтага свету хаця б замкнёнымі дзвярыма.

## Д’ябал

Які д’ябал убіваецца ў чалавечыя мазгі, спраўляе там свой баль і з добрага, мяккага чалавека робіць дзікуна? Грызе д’ябал тыя мазгі, пакуль не з’есць іх дарэшты, і будзе цешыцца сваёй работаю над труною таго, хто мог бы ўпрыгожыць гэты свет, чый талент абяцаў так шмат. Няўжо талент і д’ябал сваякі?

На гэтыя развагі навёў мяне лёс Анатоля Сыса, якога я памятаю сціплым, прыгожым хлопцам.

## Па разліку

Падыходзіла да канца вучоба ў інстытуце. Наперадзе — размеркаванне. Яго маглі загнаць у глухую вёску. А ён, сам вясковец, ведаў, па чым ліха ў глухамані. І так хацеў застацца ў Мінску…

Ён пачаў прыглядацца да дзяўчат са свайго курса. Спыніў увагу на адной. Праўда, не прыгажуня, але з прыгожаю жонкаю лішні клопат. А тут — заможныя бацькі, трохпакаёвая кватэра, адна дачушка ў таты з мамаю.

Пачаў аказваць ёй увагу. Яна ўвагу прыняла. Разумела, што прынца на белым кані можа не дачакацца, а гэты — хоць і вясковы хлопец, але далікатны, умее і кветкі падарыць, і мацеры ручку пацалаваць.

Далей — болей, і на апошнім курсе ён павёў яе ў загс. Распісаліся.

Жылі дружна, не сварыліся. Гэта калі закаханыя, то часта адносіны высвятляюць — то рэўнасць, то якое ліха.

Нарадзілі дзяцей. Дачакаліся ўнукаў. А вы кажаце — шлюб па разліку нетрывалы. Гэта зноў-такі — калі закаханыя, страціўшы галаву, бягуць у загс, то потым могуць апомніцца і разбегчыся. А калі ўсё прадумана, спланавана, то стаіць на моцным фундаменце.

## Пах

Кожны чалавек мае свой пах. І кожная кватэра мае свой пах. І кожны горад пахне па-свойму.

Некалі я часта прыязджала ў Вільнюс, і як толькі выходзіла з цягніка, адчувала толькі яму, Вільнюсу, уласцівы пах.

Я даўно не была ў гэтым горадзе і не ведаю, як ён пахне цяпер.

## Серыялы

Не так даўно мы захапляліся бразільскімі, мексіканскімі серыяламі, і што дзіўна — якія б страсці ні бушавалі на экране, у руках герояў мы не бачылі цыгарэт, не бачылі хмельных застолляў і п’яных герояў. Адмысловая антырэклама?

Сёння расіяне лепяць серыялы, але героі тых серыялаў не выпускаюць з рота цыгарэт, не выпускаюць з рукі чарку. З экрана плыве перагар гарэлкі і плывуць клубы папяроснага дыму.

Праўда жыцця?

## Адным радком

Чалавечыя мазгі — такая ж таямніца, як і космас…

## Той свет

Мая сяброўка, атэістка, неяк сказала мне:

— Ты ведаеш, я б хацела, каб быў той свет і каб я там сустрэлася з Мікалаем.

Яе муж, якога яна любіла і які яе любіў, рана пайшоў з жыцця.

Я адказала сяброўцы:

— Мілая, мы ж ведаем, што застаецца ад чалавека пасля смерці, — чэрап ды косткі, шкілет. Калі і сустрэнецеся недзе ў прасторы, то і не пазнаеце адзін аднаго.

## Пошукі гармоніі

Кожны чалавек — гэта тварэнне, над якім прырода працавала вякі. Нашы продкі хаваюцца ў далёкай мінуўшчыне, прырода брала нешта ад кожнага з іх, склейвала, сточвала, сшывала, прыкідвала так і гэтак, шукаючы гармоніі, і, як правіла, не знаходзіла. Яна практыкуецца і далей, і будзе шукаць той гармоніі вечна.

## Яўрэй

Калі пра чалавека хочуць сказаць нейкую гадасць, ды не ведаюць, што сказаць, то кажуць пра яго, што ён яўрэй. Нават пра Ельцына казалі, што ён яўрэй і што прозвішча яго не Ельцын, а Елін. Быццам быць яўрэем — ужо ганьба. Апраўдваюць такое стаўленне да гэтай нацыі тым, што быццам яны Хрыста ўкрыжавалі. Але не ведаюць, альбо не хочуць ведаць, што сам Хрыстос быў яўрэй. У кожнай нацыі ёсць і геніі, і нягоднікі.

## Тэлефонныя размовы

Былі маладыя, сябравалі, часта перазвоньваліся. Гаварылі пра хлопцаў, пра кавалераў, хто з кім гуляе, хто за каго замуж збіраецца.

Прайшоў час, і пачалі гаварыць пра дзяцей, хто як вучыцца, якія схільнасці маюць.

Ішлі гады, і вось ужо размовы пра хваробы, хто чым лечыцца, хто чым ратуецца.

Новы віток жыцця, і сёння мы ўспамінаем тых, каго ўжо няма з намі.

## Прагрэс

Чалавецтва вынаходзіць новыя машыны, робіць вялікія навуковыя адкрыцці, і здаецца нам, што род чалавечы робіцца ўсё больш дасканалы, мы робімся разумнейшыя.

Але ці змяніўся сам чалавек? Як шмат гадоў таму, у ім жывуць зайздрасць, сквапнасць, агрэсіўнасць. І не спыняюцца канфлікты, войны.

## Што лепей?

У час так званага застою, калі прылаўкі ў магазінах шчэрыліся пустатою, энергія народа была скіраваная на тое, каб нешта «дастаць» — кілбасы, штаны, чаравікі.

Цяпер усе наеліся і апрануліся, а куды дзяваць энергію? І вось пачаліся — палітычныя і нацыянальныя разборкі, бойка футбольных фанатаў, прастытуцыя, пачынаючы ад малалетніх дзяўчынак да высокіх чыноўнікаў.

То, можа, лепей трымаць народ надгаладзь?

## Пошукі дабра

Спрадвеку чалавецтва шукае спосабу жыцця, каб усім было добра. Адсюль рэлігійныя казкі і міфы, адсюль рэвалюцыі і войны, жыццёвыя ўклады — дыктатура, камунізм, дэмакратыя, капіталізм. Але ўсё разбіваецца аб прыроду чалавечую з яе зайздрасцю, сквапнасцю, агрэсіўнасцю і канчаецца крывёю, і ўсім робіцца вельмі дрэнна.

## Помста

Зямная куля — жывая істота, і ёй не падабаецца, што чалавек выцягвае з яе вантробы — нафту, газ, вугаль, золата, і яна помсціць — землятрусамі і вывяржэннямі вулканаў, засухаю і патопамі ды рознымі цунамі і тарнада.

## Навука

Дзівімся — чаму моладзь такая агрэсіўная, чалавечага жыцця не цэніць, лёгка ідзе на забойствы і зусім не мае спачування да чалавечай бяды.

А чаго ж дзівіцца? Дае навукі тэлевізар, смакуе кожны дзень — як забіваюць, рэжуць, душаць.

Такія жорсткасць і забойствы для маладога чалавека — рамантыка. І так хочацца паспытаць — ці здольны сам на такое.

## Ніколі

Я пражыла доўгае жыццё, але за свой доўгі век ніколі не мела прыстойных правіцеляў у дзяржаве.

## Замужжа

Маладыя дзяўчаты хочуць замуж. Тэлебачанне, гламурныя часопісы размалёўваюць шыкоўнае жыццё за багатымі бізнесменамі. І дзяўчаты прагнуць такога гламурнага жыцця — з курортамі ў замежжы, з уласнымі яхтамі і палацамі.

Але багатых бізнесменаў хутка разбіраюць, ды іх не так і шмат, на ўсіх, каго яны так вабяць, яўна не хапае.

Застаюцца пітушчыя, нягеглыя, якія самі шукаюць багатых нявест. Прыходзіцца выходзіць за такіх.

## Праз гады

Ён быў закаханы ў тую дзяўчыну — прыгожую, студэнтку першага курса інстытута. Але ў яе была свая кампанія, вакол

яе вілося шмат кавалераў не роўня яму, яна была для яго недасяжная, ён мог толькі праз акно пазіраць ёй услед, калі яна, ганарыстая, праходзіла каля яго дома.

Ішлі гады. Ён чуў, што яна выйшла замуж. І ён ажаніўся з іншай, але сэрца не пакідаў вобраз той.

А гады ішлі далей, і вось ён удавец, і яна ўдава. Дзеці і ў яго, і ў яе дарослыя. Сустрэліся на вуліцы. Доўга гаварылі. Успаміналі маладосць. Яна, вядома, змянілася, пастарэла, але ён бачыў у ёй тую, як некалі. І ў яго, пажылога ўжо мужчыны, зноў заныла сэрца.

Жыццё патаўкло яе, і яна зрабілася мякчэйшая, не такая ганарыстая. І ён адважыўся. Паклікаў яе замуж. І яна згадзілася.

Збылася яго мара.

## Сплаканыя вочы

Яна сядзела ў крэсле і ўспамінала. Ёй больш нічога не заставалася рабіць, як сядзець у крэсле і ўспамінаць. Зусім сапсаваліся вочы, яна не магла чытаць і нават не магла глядзець тэлевізар. Але, як на тым экране тэлевізара, перад ёю ўсплывалі малюнкі яе жыцця.

Яна доўга не магла выйсці замуж, хоць была і не брыдкая, і адукаваная, але тут як каму пашанцуе. А потым знайшоўся чалавек, і яны пажаніліся. І нарадзіўся хлопчык. І прыйшло шчасце. Ды шчасце аказалася кароткім, чалавек пачаў піць, сям’і не глядзеў, і яна, можна сказаць, адна гадавала сына. А хутка гарэлка і зусім звяла мужа са свету. Засталася ўдавою з хлопчыкам. У ім была цяпер адзіная яе радасць.

Выгадавала сына. Скончыў інстытут, ажаніўся, падараваў ёй унучку. Нішто не прадракала бяды. І раптам прыходзіць сын да яе і аб’яўляе:

— Мы ўсёй сям’ёю з’язджаем у Канаду. Тут я сябе не магу рэалізаваць. Мы прадамо тваю двухпакаёвую кватэру, табе купім аднапакаёвую. У Канаду эмігрантаў без грошай не прымаюць.

Мажа, тады яна і выплакала свае вочы.

І цяпер у сваёй аднапакаёвай кватэры сядзіць з раніцы да вечара ў крэсле і ўспамінае, успамінае…

## Надакучыла

Успомніла, што ў адной сваячкі дзень нараджэння і што гадоў ёй шмат, недзе за дзевяноста.

Пазваніла, павіншавала і пытаюся:

— Дык колькі табе гадоў?
Задумалася, потым гаворыць:
— Не ведаю, не памятаю…
— То спытай унука, колькі табе гадоў, — кажу ёй.
Спыталася і адказвае:
— Дзевяноста чатыры.
— То давай да ста, — жадаю імянінніцы.
— Не хачу, надакучыла, — адказала і павесіла трубку.

## На базары

Мне часам здаецца, што жыву я на базары, дзе кожны хоча прадаць сябе як мага даражэй. І зайздросціць таму, у каго цана, яму здаецца, вышэйшая за ягоную. Прымае захады, каб збіць цану свайму канкурэнту — плёткамі, нагаворамі. Бывае, гэта яму ўдаецца.

## Капуста

Пяцігадовая Волечка пацікавілася:
— Мама, адкуль я ўзялася?
— Мы цябе ў капусце знайшлі, — адказала мама.
Праз нейкі час Волечка пайшла ў агарод, дзе расла капуста. Ходзіць там між градак, нешта выглядае.
— Што ты тут шукаеш? — пытаецца мама.
— А можа, тут яшчэ якая дзяўчынка ляжыць, — адказала Волечка.

## Натхненне

Маладой камсамолцы далі заданне — схадзіць да мясцовага паэта і папрасіць, каб той напісаў верш да чарговай урачыстай даты. Камсамолка пайшла. Паэт сядзеў хмурны. Тая выказала просьбу.
— Няма натхнення, — сказаў паэт.
Камсамолка вярнулася да свайго начальніка і сказала, што ў паэта няма натхнення.
— А ты ведаеш, што такое натхненне? — спытаў начальнік.
— Не, — адказала дзяўчына.
Начальнік пайшоў у краму, купіў дзве бутэлькі гарэлкі.
— Ідзі да паэта з гэтым натхненнем.
Дзяўчына пайшла, паставіла бутэлькі на стол.
— Прыходзь заўтра, — буркнуў паэт.

А праз колькі дзён у раённай газеце з'явіўся верш, прысвечаны ўрачыстай даце.

## Хлусня

На тэлебачанні з'явілася праграма «Планета жывёл», і я з задавальненнем гляджу сланоў, малпаў, якія паводзяць сябе натуральна, як наканавала ім прырода, і не люблю глядзець людзей, якія крыўляюцца і хлусяць.

## Помста

Прынёс пісьменнік нарыс у часопіс, сакратар часопіса той нарыс прачытаў і пачаў рабіць аўтару нарыса заўвагі. Той ускіпеў. А жыццё, як вядома, дражніцца з чалавека, часам і здзекуецца з яго. І вось: былога рэдактара звольнілі з работы, а прызначылі таго, што некалі нарыс прыносіў. Першым яго загадам было — звольніць з работы сакратара, які некалі рабіў яму заўвагі.

## Смеху варта

Дыктар на беларускім радыё гаворыць па-беларуску. Але вось дае ён слова чыноўніку, і той адразу ўключае рускую мову, гаворыць пры тым з моцным беларускім акцэнтам, няправільна вымаўляючы рускія словы, але на родную мову не пераходзіць, хоць, па ўсім відаць, добра яе ведае.

Гэта было б смешна, каб не было так сумна.

## Аўтабіяграфія

Мы жылі на Газетным завулку, на ўскраіне Мінска. За нашым домам быў роў з вадою, і цераз яго ляжала кладка з аднаго берага на другі. Мне было гадоў пяць, і захацелася мне па той кладцы перайсці на другі бераг. Пайшла. Паслізнулася і ўпала ў той роў.

Дзяўчынка, з якою я гуляла, спужалася і ўцякла.

І я сама караскалася, караскалася, паўзла — выпаўзла з таго рова.

Займела навуку на далейшае жыццё: калі з табою бяда — караскайся, выпаўзай сама. Ніхто не дапаможа.

І яшчэ. Ёсць байка: дзве жабкі трапілі ў збанок з малаком. Дык адна адразу пайшла на дно, а другая біла, біла лапкамі і збіла масла, і выскачыла са збанка.

Я — тая жабка, што хоча збіць масла і выскачыць са збанка. Усё жыццё б'ю лапкамі, а масла не збіваецца, але я ўпарта б'ю і б'ю.



# КАМЕНТАР

## АПОВЕСЦІ

*На другой зіме вайны (с. 17)*

Упершыню — час. «Полымя», 1966, № 6.

Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 1. Мінск, 1985.

*Халодны май (с. 55)*

Упершыню — час. «Полымя», 1990, № 5.

Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. Халодны май. Мінск, 1993.

*Горкія ягады (с. 186)*

Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. Горкія ягады. Мінск, 2011.

## СТАНУ ПЕСНЯЙ

*Дарогамі Алаізы Пашкевіч (Цёткі) (с. 245)*

Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. На полымі любві. Мінск, 2006.

## АПАВЯДАННІ, АБРАЗКІ

*Ян з Літвы (с. 471)*

Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 11.

Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 1.

*Жоўты кураслеп (с. 486)*

Упершыню — час. «Полымя», 1972, № 5.

Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 1.

*Белы шпіц (с. 495)*

Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 1.

*Паласа дажджу (с. 499)*

Упершыню — час. «Полымя», 1975, № 12.

Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 1.

*Вузлы (с. 510)*

Упершыню — час. «Полымя», 1969, № 1.
Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 1.

*Па дарозе ў легенду (с. 522)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1980, № 2, пад назвай «Дзень добры вам».
Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 1.

*Жыццё не спыняецца (с. 533)*

Друкуецца паводле час. «Дзеяслоў», 2013, № 1, дзе апублікавана ўпершыню.

*Бацькі і дзеці. Маленькія трагедыі (с. 541)*

Упершыню — час. «Полымя», 2009, № 12.
Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. Горкія ягады. Мінск, 2011.

*Пошукі ісціны. Абразкі (с. 553)*

Друкуецца паводле выд.: Арабей Л. Горкія ягады. Мінск, 2011.



## SUMMARY

Lidziya Arabei (the former Kachkouskaya), born on 27 June, 1925, belongs to that generation of writers whose youth was seared by the war. In 1942 she happened to be in the town of Shchuchyn where got married to Aleksey Arabei, later shot by the German Fascists occupants for the connections with gorillas. In the post-war period Lidziya Arabei moved to Minsk where she at once joined the writers' circles. She worked as a secretary for Mikhas Lynkou, the Chairman of the Union of Writers, then at the editorial board of the journal *Vozhyk*, which was headed by Kandrat Krapiva, her fellow countryman from Uzda Region, and where the famous Belarusian writers such as Maksim Tank, Pimen Panchanka, Maksim Luzhanin and Yanka Bryl worked. Influenced by them Lidziya Arabei tried her hand in literature. Her first short stories appeared in press in 1946 and even the earliest ones were at once highly estimated by critics for the truthfulness in depicting life and for the delicate psychologism in revealing the characters. She is the author of a range of stories, short stories, novels, essays that have been really appreciated by the readers.

The present one-volume edition of the selected works of Lidziya Arabei comprises the stories «Na druhoi zime vainy» (*The Second Winter of War*), «Khalodny mai» (*A Cold May*), «Gorkiya yahady» (*Bitter Berries*), the documentary literary work about Alaiza Pashkievich («Ciotka»), the Belarusian Poetess of the early XX$^{th}$ century, «Stanu piesniay» (*I'll Turn Into a Song*), short stories and sketches.

The introductory article is done by the Candidate of Philology Lidziya Savik.



# ЗМЕСТ

## Апавяданні, абразкі

**Арабей, Л.**

**А79** Выбраныя творы / Лідзія Арабей; прадм. Л. Савік. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 608 с. : [8] с. : іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-7057-77-1.

Кнігу выбраных твораў вядомай беларускай пісьменніцы Лідзіі Арабей (н. 1925) склалі найбольш значныя аповесці, апавяданні і абразкі. У том уключана і дакументальная аповесць пра выдатную беларускую паэтэсу пачатку XX стагоддзя Алаізу Пашкевіч (Цётку) «Стану песняй».

Сямідзясяты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4 Беи)**

---

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя I. Мастацкая літаратура

**Арабей Лідзія**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Наталля Кучмель*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 06.05.2013.
Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 31,92 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 30,51.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. .

Пры ўдзеле ТАА «Харвест». Ліцэнзія № 02330/0056935 ад 30.04.04.
Вул. Кульман, 1, корп. 3, пав. 4, п. 42, 220013, Мінск.
E-mail: harvest2004@mail.ru

ПУП «Кнігазбор». Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
e-mail: bkniha@tut.by

ISBN 978-985-7057-77-1




Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў РУП «Выдавецтва “Беларускі дом друку”».
Пр. Незалежнасці, 79, 220004, Мінск.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя І.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы
СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)
СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы
ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы
КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы
РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы
РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік
АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы

*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік
НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы
МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы
РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. Выбраныя творы
АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
КАЗІМІР СВАЯК. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ ЗУЁНАК. Выбраныя творы
УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ. Выбраныя творы
ВІНЦУК АДВАЖНЫ. Выбраныя творы
АЛЕСЬ БАРСКІ. Выбраныя творы
ЦІШКА ГАРТНЫ. Выбраныя творы
КАСТУСЬ ТАРАСАЎ. Выбраныя творы
КАСТУСЬ ЦВІРКА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ АДАМОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЛЕРЫЙ КАЗАКОЎ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ ВІТКА. Выбраныя творы
ВІКТАР КАРАМАЗАЎ. Выбраныя творы
МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ. Выбраныя творы
ІВАН ЧЫГРЫНАЎ. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае
ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае
АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае
АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае
МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбранае
АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы
ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***
МАСЕЙ СЯДНЁЎ. Выбраныя творы